АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ

У ДЗВЮХ КНІГАХ

кн. 1

МІНСК · ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» · 1976

Рэдакцыйная калегія:
**В. К. Бандарчык, М. Я. Грынблат, К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік, В. І. Ялатаў**

Складанне, сістэматызацыя тэкстаў, уступны артыкул і каментарыі
**М. Я. Грынблата**

Рэдактар тома
**А. С. Фядосік**

Рэцэнзенты:
**А. С. Аксамітаў, Л. І. Мінько**

**П68** **Прыказкі і прымаўкі ў дзвюх кнігах, кн. 1. Рэд. А. С. Фядосік. Мн., «Навука і тэхніка», 1976.**

560 с. (АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Беларус. нар. творчасць). У перапл.

Том з'яўляецца найбольш поўным навуковым сістэматызаваным зводам беларускіх прыказак і прымавак. Матэрыялы для тома ўзяты як са старых выданняў і архіваў, так і з новых запісаў, значная частка якіх дагэтуль не публікавалася. У першай кнізе змешчаны ўступны артыкул, тэксты (I—III раздзелы) і каментарыі да іх.— Бібліягр. у падрадк. заўвагах.

П $\frac{70700-079}{M316-76}$ 34—76 С(Бел)Ф

# ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ

Прыказкі і прымаўкі, або пагаворкі, належаць да найболыш кароткіх жанраў вуснай народнай творчасці. Яны ж з'яўляюцца і найбольш пашыранымі, масавымі фальклорнымі творамі, бо прыказкамі і прымаўкамі ў штодзённым жыцці карыстаюцца ў той або іншай меры амаль усе людзі для падмацавання сваіх думак і меркаванняў, для ажыўлення і ўпрыгожвання сваёй гаворкі, надаючы ёй большую яркасць і выразнасць. У народзе вядомы нават асобны дзеяслоў *прыказаць* — «падмацаваць прыказкаю, прымаўкаю, параўнаннем, добразычлівым ці зламоўным пажаданнем»[1] сваю мову.

Беларусы, як і іншыя народы, спрадвеку маюць вялікую схільнасць да дасціпнага і выразнага слова, густа перасыпаюць ім сваю жывую гаворку. У гэтым праяўляюцца ўласцівыя народу красамоўства і вобразнасць мовы.

Але ўпрыгожванне і ажыўленне мовы не адзіная і не асноўная функцыя прыказак і прымавак. Не меншае, калі не большае, прызначэнне гэтых сціслых славесных твораў заключаецца ў тым, што яны з'яўляюцца захавальнікамі і выразнікамі шматвяковага гаспадарчага і жыццёвага вопыту народа, яго назіранняў і ведаў аб прыродзе, яго філасофіі і маралі, педагагічных поглядаў і правіл паводзін, ацэнкі гістарычных падзей, зборам практычных парад і рэкамендацый. Гэта звод і найбольшая канцэнтрацыя народнай мудрасці, народных поглядаў на жыццё.

Згусткам думкі назваў гэтыя ўзоры вуснай славеснай творчасці выдатны мовавед і фалькларыст XIX ст. А. А. Патабня[2]. М. А. Шолахаў, тонкі знаўца глыбінь народнай мовы, у кароткай прадмове да савецкага перавыдання класічнага зборніка У. І. Даля так адазваўся аб прыказках: «Найвялікшае багацце народа — яго мова! Тысячагоддзямі назапашваюцца і вечна жывуць у слове незлічоныя скарбы чалавечай мыслі і вопыту. І, можа быць, у ніводнай з форм моўнай творчасці народа з такой сілай і так шматгранна не праяўляецца яго розум, так крышталічна не адклад-

---

[1] Ф. Янкоўскі. Дыялектны слоўнік, вып. III. Мінск, 1970, стар. 100.
[2] А. А. Потебня. Из лекции по теории словесности. Харьков, 1914, стар. 97.

ваецца яго нацыянальная гісторыя, грамадскі лад, быт, светапогляд, як у прыказках» [3].

Глыбокі сэнс, змястоўнасць і мастацкае слова, паэтычная форма ўтвараюць у прыказках і прымаўках арганічнае, неразрыўнае цэлае, своеасаблівы сінтэз, парушэнне якога немінуча ставіць славесны твор па-за межамі гэтага жанру. Савецкі парэміёлаг Р. Л. Пермякоў, аўтар рада важных даследаванняў у галіне афарыстычных жанраў фальклору, асабліва падкрэслівае характар народных прыказак і прымавак як складаных утварэнняў. «З аднаго боку,— адзначае ён,— гэта з'явы мовы, падобныя да звычайных фразеалагізмаў; з другога — нейкія лагічныя адзінкі (меркаванні або вывады); і з трэцяга — мастацкія мініяцюры, якія ў яркай, чаканнай форме адлюстроўваюць факты жывой рэчаіснасці. Іменна з гэтай прычыны прыказкавыя выразы прыцягваюць да сябе ўвагу і мовазнаўцаў і фалькларыстаў і філосафаў-логікаў» [4].

Аднак трэба зазначыць, што паняцце «мастацкая мініяцюра» не ва ўсіх выпадках можа служыць абавязковым крытэрыем пры аднясенні таго або іншага славеснага твора да прыказкі. Існуе немалая колькасць афарыстычных выразаў, якія на першы погляд не вызначаюцца асаблівай мастацкай формай, але залічаюцца да прыказак і змяшчаюцца разам з імі ў фальклорных зборніках. Гэта перш за ўсё розныя гаспадарчыя і прыродазнаўчыя назіранні, шматлікія прыказкі, якія датычацца народнага календара, прыказкі-прыкметы пра надвор'е і інш., адлітыя ў адпаведныя славесныя формулы, часам, здаецца, зусім «празаічнай» мовай (Зямля багацей ад усіх; Веснавы Мікола каня абкорміць; Жджы Пятра — пад'ясі сыру; Хто працуе, з голаду не ўмрэ; Вады бойся, як і агню [5]). Тут у ролі крытэрыю выступаюць устойлівасць, традыцыйнасць тэксту, якім зусім не пярэчыць каяўнасць варыянтаў, а, наадварот, пацвярджае іх.

Устойлівасць, трываласць тэксту, набыццё ім характару пэўнага славеснага стэрэатыпу, або клішэ, належаць ад адметных і вызначальных адзнак прыказак і прымавак. Прыгаданая катэгорыя прыказак, пазбаўленая выразнага вобразнага ўвасаблення, нясе, аднак, як, між іншым, і амаль усе прыказкі і прымаўкі, што адлюстроўваюць жыццё, працоўную дзейнасць, быт і светапогляд народа, багатую этнаграфічную інфармацыю. У дадзеным выпадку прыведзеныя прыказкі проста сцвярджаюць зусім рэальныя, жыццёвыя акалічнасці і з'явы і, здаецца, вельмі далёка знаходзяцца ад славеснага мастацтва. Але варта ім трапіць у пэўны кантэкст, як яны зайграюць зусім новай гранню, набудуць іншы, абагульнены або пераносны

---

[3] М. Шолохов. Сокровищница народной мудрости.— У кн.: В. Даль. Пословицы русского народа. М., 1957, стар. III.

[4] Г. Л. Пермяков. От поговорки до сказки. М., 1970, стар. 8.

[5] Тут і далей усе прыклады прыказак і прымавак узяты з тэкстаў, якія ўвайшлі ў том.

сэнс па ўласцівай чалавечай псіхіцы асацыяцыі, і перад намі паўстануць сапраўдныя «мастацкія мініяцюры».

Дык што ж такое прыказка і прымаўка, у чым сутнасць і характэрныя асаблівасці гэтага жанру?

Найважнейшую сутнасць прыказкі трапна заўважыў яшчэ М. В. Гогаль. «Прыказка, — адзначаў ён, — не ёсць якое-небудзь загадзя пададзенае меркаванне, але ўжо падведзены вынік справе, адсеў, адстой ужо перабрадзіўшых і скончаных падзей, канчатковае дастасаванне сілы справы з усіх бакоў яе, а не аднаго...» [6]

Існуючыя ў сучаснай фальклрыстычнай літаратуры азначэнні прыказкі і прымаўкі грунтуюцца пераважна на тых глыбокіх назіраннях, якія зрабіў у сярэдзіне XIX ст. У. І. Даль і сфармуляваў у капітальным зборніку рускіх прыказак. Прыказка, па Далю,— «кароценькая прытча... Гэта — меркаванне, прыгавор, павучанне, выказанае намёкам [обиняком] і пушчанае пад чаканам народнасці. Прыказка — намёк, з прыкладаннем да справы, зразуметы і прыняты ўсімі» [7].

У гэтым азначэнні вылучаны, як бачым, такія ўласцівыя прыказцы адметныя рысы: кароткасць, сцісласць выразу («прытчы») [8]; паўната, закончанасць меркавання («прыгавор») аб той або іншай з'яве; павучальны характар меркавання; уласцівы яму намёк, пераносны сэнс; масавасць, г. зн. папулярнасць; мастацкая, вобразна-рытмічная форма прыказкі («пушчанае пад чаканам народнасці»).

У азначэннях прыказкі, якія мы знаходзім у савецкай фальклрыстычнай літаратуры — даследаваннях і вучэбных дапаможніках,— у рознай фармуліроўцы фігуруюць амаль усе з пералічаных рыс або найважнейшыя з іх. Так, у адным з навейшых дапаможнікаў па рускаму фальклору для філалагічных факультэтаў В. П. Анікін вызначае прыказку як «кароткі, устойлівы ў гутарковым ужытку, рытмічна арганізаваны вобразны народны выраз, які валодае здольнасцю да шматзначнага ўжывання ў мове па прынцыпу аналогіі» [9].

Можна прывесці яшчэ азначэнне У. І. Чычарава, якое, на наш погляд, вельмі трапна і сцісла характарызуе прыказку як «кароткае вобразнае

---

[6] Н. В. Гоголь. Полн. собр. соч., т. IV. СПб, 1884, стар. 754.

[7] В. Даль. Пословицы русского народа. М., 1957, стар. 18.

[8] У У. Даля сярод тлумачэнняў слова прытча ёсць такое: «*Прытча*... просты выраз (изречение), выдатнае мудрае слова». А выводзіць яго ад *притекать, притечь, приточиться* (В. Даль. Толковый словарь, т. 3. М., 1956, стар. 452), г. зн. далучыцца да мовы, гаворкі.

[9] Русское народное поэтическое творчество. Под ред. Н. И. Кравцова. М., 1971, стар. 75. Гэта сваё азначэнне В. П. Анікін паўтарае пазней у «Слоўніку літаратуразнаўчых тэрмінаў» (Ред.-сост. Л. И. Тимофеев и С. В. Тураев. М., 1974, стар. 276).

меркаванне, што мае пераносны сэнс і дастасоўваецца да розных выпадкаў жыцця»[10].

Аднак гэтыя дэфініцыі прыказкі ўсё ж патрабуюць удакладнення і дапаўнення. У іх не падкрэслены, напрыклад, абагульнены характар выражанага ў прыказцы меркавання і яго завершанасць; не адзначана, што не ўсе прыказкі ўжываюцца ў пераносным сэнсе, не ўсе яны таксама рытмізаваны.

Улічыўшы тое, што дасягнута парэміялогіяй[11] у азначэнні разглядаемага фальклорнага жанру, а таксама маючы на ўвазе ўласныя назіранні ў працэсе складання і сістэматызацыі дадзенага тома, сутнасць прыказкі можна сфармуляваць такім чынам.

Прыказка — гэта шырока ўжываемы ў гутарковай мове ўстойлівы народны выраз-афарызм, які ў завершанай, сціслай, найчасцей вобразна-паэтычнай форме і пераважна ў пераносным сэнсе, абагульняючы шматвяковы жыццёвы вопыт народа, выказвае катэгарычнае меркаванне пра тыя або іншыя гаспадарчыя, сацыяльна-гістарычныя і бытавыя з'явы, характарызуе і ацэньвае іх, павучае і дае практычныя парады.

М. Горкі гаварыў, што «прыказкі і прымаўкі ўзорна фарміруюць увесь жыццёвы, сацыяльна-гістарычны вопыт працоўнага народа», і заклікаў пісьменнікаў вучыцца ў іх «сціскаць словы, як пальцы ў кулак»[12].

Здольнасць народа сцісла і дакладна выказаць свае думкі прыказкай падкрэсліў У. І. Ленін: «Бываюць такія крылатыя словы, якія са здзіўляючай трапнасцю выражаюць сутнасць даволі складаных з'яў»[13].

Ад прыказкі звычайна адрозніваецца прымаўка, але розніца між імі не вельмі значная, часам няўлоўная. У народзе часцей наогул не аддзяляюць адну ад другой: і прыказкай і прымаўкай можна аднолькава «прыказваць» у размове. Народная тэрміналогія ведае такія назвы, як прыказка, прымаўка, пагаворка, прыгаворка, рускае пасловіца, старажытнарускае прытча, але не вылучае асобныя разнавіднасці афарыстычнай творчасці. Аб гэтым сведчаць і самі беларускія прыказкі і прымаўкі: На ўсяку рэч ест прыказка; У прыказцы — праўда святая; Без прыказкі і з лаўкі не зваліцца; На прымаўку і суду няма; Рынуў прымаўкаю, як граззю ў вочы; Пустая гаворка — не пагаворка; Добрая пасловіца ў вочы колецца; Без прытчы трасца не бярэць.

У навуковай жа літаратуры прынята бачыць адметную рысу прыказкі ў тым, што яна выражае зусім завершаную думку, з'яўляецца «замкнутым» выразам, закончаным меркаваннем, якое змяшчае пэўнае абагульненне жыц-

---

[10] В. И. Чичеров. Русское народное творчество. М., 1959, стар. 310.

[11] Парэміялогія (ад грэч. paroimia — прыказка) — галіна фалькларыстыкі, якая вывучае прыказкі і прымаўкі.

[12] М. Горький. О том, как я учился писать.— У кн.: М. Горький. О литературе. М., 1953, стар. 329.

[13] В. И. Ленин. Полн. собр. соч., т. 25, стар. 138.

цёвага вопыту, у той час як прымаўка выказвае думку няпоўна, не служыць абагульненнем з'явы, а толькі вобразна характарызуе яе, падкрэслівае які-небудзь характэрны яе штрых.

Па азначэнню У. Даля, прымаўка — «абходны выраз, пераносная гаворка, просты іншасказ, намёк, спосаб выказвання, але без прытчы, без меркавання, заключэння, прымянення; гэта адна першая палавіна прыказкі» [14].

Прыблізна такое акрэсленне прымаўкі захоўваецца да гэтага часу ў нашай фалькларыстыцы. Асноўнае, што падкрэсліваецца пры размежаванні прыказкі і прымаўкі, гэта тое, што апошняя з'яўляецца не закончанай думкай, не закончаным, «не замкнутым» меркаваннем, а толькі часткай яго. Пры гэтым часта прыводзіцца прыклад, які зрабіўся ўжо класічным: «Чужымі рукамі жар заграбаць лёгка» — прыказка, бо яна пададзена як цэлае, самастойнае меркаванне і абагульненне; «Ён любіць чужымі рукамі жар заграбаць» — прымаўка, бо тут выраз — толькі частка меркавання пра канкрэтную асобу, пазбаўленая шырокага абагульняючага сэнсу [15].

К. Крапіва, размяжоўваючы прыказку і прымаўку, прыводзіць іншы аналагічны прыклад: «Заяц любіць узяць» і «Наш заяц любіць узяць» і так яго каменціруе: «У першым выпадку... мы маем, на мой погляд, прыказку, а ў другім — прымаўку... Прыказка выводзіць правіла, якое пашыраецца на ўсе аналагічныя з'явы, прымаўка абмяжоўваецца толькі гэтаю канкрэтнаю з'яваю» [16].

Ужо з гэтых прыведзеных азначэнняў вынікае, што няпоўнасць выразу не можа лічыцца асноўнай адметнай рысай прымаўкі. Беларускі матэрыял дае шмат прыкладаў «поўных» і «замкнутых» устойлівых выразаў, якія выражаюць зусім завершаныя думкі і ў той жа час з'яўляюцца не прыказкамі, а прымаўкамі. Вось некалькі іх узораў, узятых з шырокай сферы сямейных адносін: Шумеў бы і я, калі б жонкі не баяўся; На гэты гнеў не раблёны хлеў, няма дзе заганяць; Будзе ў мяне ногі мыць, да ваду піць; Гнісь, кум, не гнісь, да каля кішэні павярнісь.

У гэтых «мініяцюрах» відавочна не хапае таго, што дазволіла б лічыць іх прыказкамі,— перш за ўсё абагульнення пэўнай з'явы, вываду з жыццёвых назіранняў, павучання. У гэтым можна яшчэ больш пераканацца, калі супрацьпаставіць прыведзеным прымаўкам наступныя бясспрэчныя прыказкі з той жа тэматычнай групы пра сям'ю: Дзед а баба — адна рада; Мужык і жонка — найлепшая сполка.

---

[14] В. Даль. Пословицы русского народа, стар. 20.

[15] В. Аникин Поговорка.— У кн.: Словарь литературоведческих терминов, стар. 272.

[16] К. Крапіва. Беларускія прыказкі.— Зб. тв. у 4 т., т. 4. Мінск, 1963, стар. 226.

Розніца паміж тымі і другімі відаць сама сабой. Але з прыкладаў відаць таксама, што прымаўкамі могуць быць і зусім закончаныя, «поўныя» выразы. Справа тут не ва ўсечанасці выразу, а ў дапасаванасці яго да аднаго канкрэтнага выпадку без абагульнення і пашырэння на іншыя аналагічныя сітуацыі.

Такім чынам, прымаўкі — гэта тыя ж шырока ўжываемыя ўстойлівыя народныя выразы, якія вобразна і трапна характарызуюць тую або іншую падзею ці асобу, але толькі ў дадзеным канкрэтным выпадку без абагульненняў і вывадаў з іншых аналагічных сітуацый ці чалавечых паводзін. Да гэтага можна яшчэ дадаць, што прымаўцы ў большай меры, чым прыказцы, уласцівыя гумар, сатыра, і таму яна ў большасці сваёй жартаўлівая, дасціпная, асвечана мудрай усмешкай.

Увогуле ж размежаванне прыказак і прымавак не мае амаль ніякага практычнага значэння, яно мае больш тэарэтычную цікавасць. Народ, як ужо адзначалася, не вылучае асобна прыказку і прымаўку. Таму і ў томе мы не дыферэнцыруем іх, а падаем разам.

І прыказкі, і прымаўкі, таксама як і блізкія да іх народныя фразеалагізмы і выслоўі, узятыя ўсе разам, выяўляюць бліскучыя здольнасці народа да вобразнага мыслення, яго выключную назіральнасць, разважлівасць, высокія маральныя асновы, жыццёвы практыцызм і бязмежныя моўныя багацці.

Цікавасць да беларускіх прыказак і прымавак з'явілася вельмі даўно. Пра тое сведчаць помнікі старажытнай беларускай літаратуры, у якіх захавалася нямала ўзораў гэтага жанру славеснай творчасці. Так, у вядомым помніку беларускай пісьменнасці XVI ст. «Допісы» аршанскага старасты Філона Кміты-Чарнабыльскага 1573—1574 гг. часта сустракаюцца беларускія прыказкі і прымаўкі (Ожогшися на молоце, велено на воду дуть) [17]. Разам з паралелямі, што маюцца ў фальклорных зборніках, іх разглядае Я. Ф. Карскі [18].

Прыказкі і прымаўкі мы знаходзім таксама ў помніках беларускай палітычнай сатыры XVII ст.— «Прамове Івана Мялешкі, кашталяна смаленскага» і «Лісце да Абуховіча» (Век веком сказываеть: сивизна в бороде ■ чорт в лидвях (клубах.— *М. Г.*) за поесом; Надувся в сенате, як петух галагуски) [19].

Навуковыя публікацыі беларускіх прыказак і прымавак з'яўляюцца толькі ў пачатку 40-х гадоў XIX ст.

---

[17] Акты, относящиеся к истории Западной России, т. 3. СПб, 1848, стар. 164—173.

[18] Гл.: Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, ч. 1. М., 1916, стар. 394—395.

[19] Гл.: Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Склад. А. Ф. Коршунаў. Мінск, 1959, стар. 358—364.

Праўда, яшчэ ў 1618 г. у Беларусі, у мястэчку Любчы на Нёмане (зараз Навагрудскі р-н), быў надрукаваны зборнік пад назвай «Польскія прыказкі», які склаў ураджэнец Беларусі С. Рысінскі[20]. У зборніку змешчана, як указана на вокладцы, 18 «цэнтурый», г. зн. 1800 прыказак. Можна меркаваць, што ў зборнік польскіх прыказак С. Рысінскага трапіла і некаторая колькасць прыказак, сабраных ім на Беларусі, у тым ліку, магчыма, і ў наваколлі Любчы. Але гэта яшчэ не беларускі зборнік прыказак. Ён надрукаваны на лацінскай і польскай мовах, і вельмі цяжка вызначыць, якія з тэкстаў запісаны на Беларусі, якія вядомы абодвум народам і якія наогул выпадкова трапілі ў зборнік. Спроба перакладу на беларускую мову прыказак са зборніка Рысінскага паказала, што нямногія з іх знаходзяць аналогіі ў жывым беларускім матэрыяле[21]. Варта, аднак, адзначыць сам факт выдання на Беларусі ў пачатку XVII ст. зборніка прыказак, які, безумоўна, адыграў станоўчую ролю ў далейшым развіцці славянскай парэміяграфіі, у тым ліку і беларускай.

Фактычна першая публікацыя беларускіх прыказак у іх жывым гучанні належыць А. Рыпінскаму. У 1840 г., жывучы ў эміграцыі ў Францыі, ён надрукаваў у кнізе «Беларусь» 50 прыказак, якія захаваліся ў яго памяці[22].

У рускім друку беларускія прыказкі і прымаўкі ўпершыню з'явіліся ў 1844—1845 гг. Гэта публікацыя В. Васільева (75 тэкстаў) у пецярбургскім часопісе «Маяк» (т. XV, XXII, XXIII).

Да найбольш ранніх навуковых публікацый беларускіх прыказак і прымавак належыць падборка з 185 тэкстаў, якую змясціў у апошнім з шасці сваіх зборнікаў песень Я. Чачот[23]. Можна лічыць, што гэта было першае апублікаванне беларускіх прыказак у сапраўды дакладных запісах.

Ужо праз год значную калекцыю, каля 450 беларускіх прыказак, змясціў у грунтоўным і ўсебаковым «Апісанні Барысаўскага павету» Я. Тышкевіч[24]. Праўда, часткова яны былі запазычаны з папярэдняй публікацыі Чачота.

---

[20] Proverbiorum Polonicorum a Salomone Rysinio collectorum centuriae decem et octo. Lubecae ad Chronum. M. DC. XXIX.

[21] Гл.: Я. І. Парэцкі, Ю. І. Прэнская. Любчанскі зборнік прыказак і прымавак, сабраны і выдадзены С. Рысінскім у 1618 г.— «Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук», 1964, № 1. Пра С. Рысінскага і яго зборнік гл. таксама: J. Krzyżanowski. S. Rysiński, pierwszy paremiolog polski.— «Przegląd Humanistyczny», zesz. 6, 1964.

[22] Białorus. Kilka słów o poezii prostego ludu. Przez Alexandra Rypińskiego. Paryż, 1840.

[23] J. Czeczot. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, niektóre przysłowia i idiotyzmy. Wilno, 1846.

[24] E. Tyszkiewicz. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1847.

У зборах Рыпінскага, Чачота і Тышкевіча прыказкі надрукаваны лацініцай.

Цікавасць да прыказак, як і да паэтычнай творчасці беларускага народа наогул, пачынае праяўляць мясцовы друк Беларусі. Ужо ў 1850 г. у «Магілёўскіх губернскіх ведамасцях» (№ 40—42, 45) друкуюцца беларускія прыказкі, сабраныя К. Мальчэўскім (каля 120 тэкстаў).

У пачатку 50-х гадоў пачынае таксама друкаваць свае запісы прыказак, зробленыя ў час вандровак па Беларусі, П. М. Шпілеўскі [25]. У 1853 г. гэта калекцыя была апублікавана ў значна папоўненым выглядзе (больш 500 тэкстаў) [26]. Праз год каля 100 прыказак і прымавак, запісаных у Віцебскай губ., з'явілася ў этнаграфічнай працы, складзенай з апісанняў М. Анімеле і выдадзенай Рускім геаграфічным таварыствам [27]. Каля 150 прыказак змясціў у сваім этнаграфічным аглядзе Віленскай губерні А. Кіркор [28]. Але ў гэтых зборах значная частка тэкстаў паўтарае тое, што ўжо было апублікавана Чачотам і Тышкевічам.

Ужо некаторыя з першых збіральнікаў беларускіх прыказак (Рыпінскі, Чачот) адразу ўзялі правільны напрамак у самой методыцы запісу, дамагаючыся яго дакладнасці, нават захоўваючы асноўныя асаблівасці мясцовых гаворак. Недахопам першых і амаль усіх пазнейшых збіральнікаў-парэміёграфаў было запісванне прыказак па-за кантэкстам, што часта перашкаджала правільна зразумець сэнс твора.

На 60-я гады XIX ст. прыпадае параўнальна невялікая калекцыя прыказак (151 тэкст), якая змешчана ў фальклорным зборніку П. Гільтэбранта [29]. Запісаны яны пераважна навучэнцамі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі ў заходняй частцы Беларусі. Каля 70 прыказак з Пружанскага п. Гродзенскай губ. былі сабраны Ф. Варажбіцкім [30].

У адзін час са Шпілеўскім пачаў збіраць і публікаваць прыказкі І. І. Насовіч. Яго першая публікацыя з 999 запісаў [31] і ўсе наступ-

[25] П. М. Шпилевский. Народные пословицы с объяснением происхождения и значения их.— «Москвитянин», ч. 4, № 16. М., 1852, кн. 2.

[26] Белорусские пословицы. Сборник П. Шпилевского.— «Известия имп. Академии наук по отделению русского языка и словесности», 1853, т. 2 (Приложение).

[27] М. Анимелле. Быт белорусских крестьян.— У кн.: Этнографический сборник, вып. II. СПб, 1854.

[28] А. Киркор. Этнографический взгляд на Виленскую губернию.— У кн.: Этнографический сборник, вып. III. СПб, 1858.

[29] Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае, вып. I. Под ред. П. А. Гильтебрандта. Вильна, 1866.

[30] Народные поговорки и пословицы Пружанского уезда. Собрал Ф. Ворожбицкий.— «Гродненские губернские ведомости», 1868, № 21.

[31] И. И. Носович. Белорусские пословицы и поговорки.— «Известия имп. Академии наук по отделению русского языка и словесности», 1852, т. 1.

ныя [32] з'явіліся падрыхтоўчым этапам да стварэння буйнейшага ва ўсёй дарэвалюцыйнай літаратуры зборніка беларускіх прыказак і прымавак, адной з асноўных прац І. І. Насовіча [33].

Вартасць зборніка Насовіча 1874 г. цяжка перабольшыць. Тут змешчана 3715 запісаў, зробленых у розных кутках Беларусі, усюды, дзе яму на працягу многіх год даводзілася працаваць настаўнікам, інспектарам школ (Мсціслаў, Орша, Маладзечна, Свянцяны і інш.), але найбольш на Магілёўшчыне. Сын Насовіча ў сваіх успамінах пісаў: «Бацька мой не шкадаваў ніякіх сродкаў, ездзіў у розныя беларускія мясцовасці, якія цікавілі яго. З маленства жывучы сярод вясковага люду, добра ведаў як гаворку беларусаў, так і мноства іх песень, прыказак, прымавак і г. д. Ён ведаў і шанаваў іх звычаі... Заўсёды насіў пры сабе сшытак, куды зараз жа заносіў кожнае новае для яго слова, якое траплялася яму ў гутарцы з простым чалавекам, кожную цікавую песню, прыказку і г. д.» [34]

Апрача ўласных запісаў Насовіч змясціў у сваім зборніку частку запісаў папярэдніх збіральнікаў, апублікаваных раней.

Доўгі час зборнік Насовіча служыў найбольш багатай крыніцай для вывучэння прыказкавай творчасці беларусаў. Значэнне сваё ён не страціў і ў наш час, хаця зборнік мае і істотныя недахопы: у многіх выпадках збіральнік няўважліва ставіўся да перадачы мовы прыказкі, часам парушаў пры запісе яе будову, рытміку, рыфмаванне і г. д. Напрыклад, недакладна запісаная прымаўка «Ад дажджа не ў ваду» (стар. 121) страціла нават падабенства рыфмы, якое яна мела («Ад дажджу не ў ваду»). Насовіч зусім не адзначаў, дзе рабіліся запісы.

Заслугоўвае ўвагі і фундаментальны «Слоўнік беларускай мовы» І. І. Насовіча (СПб, 1870), над якім ён працаваў 16 год. Слоўнік мае вялікую цікавасць і для фалькларыстаў. У тлумачэннях слоў Насовіч прыводзіць у якасці прыкладаў многа прыказак і прымавак, раскрываючы такім чынам іх сэнс.

Зборнік і слоўнік Насовіча адыгралі важную ролю ў абуджэнні цікавасці да беларускіх прыказак, да трапнага народнага слова.

З публікацый 70-х гадоў варта яшчэ прыгадаць запісы І. Бермана і Ю. Ф. Крачкоўскага. І. Берман, сельскі свяшчэннік, аўтар рада этнаграфічных прац па народнай метэаралогіі і народнаму календару, апісваючы гадавы круг свят і сельскагаспадарчых работ, адначасна прыводзіць зва-

---

[32] И. И. Носович. Сборник белорусских пословиц. СПб, 1866; я г о ж: Белорусские пословицы.— «Записки РГО», 1867; я г о ж: Дополнение к «Сборнику белорусских пословиц».— «Записки РГО», 1869.

[33] Сборник белорусских пословиц, составленный И. И. Носовичем. СПб, 1874.

[34] Рукапісны аддзел Фундаментальнай бібліятэкі АН СССР, шыфр 26.5.107, л. 14—17. Цыт. па кн.: В. К. Б а н д а р ч ы к. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мінск, 1964, стар. 110.

заныя з імі прыказкі, пагаворкі і прыкметы[35]. З работы І. Бермана відаць, да якой каляндарнай даты, земляробчага сезона або свята дапасавана тая або іншая прыказка, як трэба разумець яе сэнс. Такога ж прыблізна характару і 90 запісаў прыказак, якія прыведзены ў кнізе Ю. Крачкоўскага «Быт заходнерускага селяніна» (М., 1874). Яны пераважна таксама звязаны з земляробчай працай і сялянскім календаром. Вартасць запісаў Крачкоўскага ў тым, што прыказкі прыводзяцца ім у кантэксце, і таму выразна раскрываецца іх сэнс. Адзначана таксама месца запісу.

У 80—90-я гады з'яўляецца рад новых публікацый беларускіх прыказак і прымавак, якія хоць і ўступаюць збору Насовіча па колькасці, але не менш каштоўныя па зместу і мастацкіх якасцях. Тут перш за ўсё варта прыгадаць запісы В. Дыбоўскага з Навагрудскага п. (больш 760 тэкстаў)[36], невялікую падборку З. Радчанка з Гомельшчыны (83 запісы, часткова запазычаныя ў Насовіча)[37] і асабліва зборнік прыказак, прымавак і загадак Я. А. Ляцкага з Барысаўскага п., значны па аб'ёму і навуковай вартасці[38].

Збіраннем беларускіх прыказак займалася і славутая польская пісьменніца Эліза Ажэшка, якая паходзіць з Гродзеншчыны, жыла там і добра ведала быт і фальклор беларускага селяніна. У яе краязнаўча-этнаграфічным нарысе Наднёмання знайшлі месца аж 160 мясцовых прыказак[39].

Усе гэтыя публікацыі каштоўныя тым, што характарызуюць рэпертуар прыказак пэўнага рэгіёну, дазваляюць вывучыць супольныя рысы і мясцовыя асаблівасці беларускіх прыказак.

Значны ўклад у беларускую параміялогію ўнеслі нашы буйнейшыя этнографы Е. Р. Раманаў, У. М. Дабравольскі і П. В. Шэйн.

У збіральніцкай дзейнасці Е. Р. Раманава запіс прыказак, прымавак, выслоўяў займаў прыкметнае месца. Ужо ў першых выпусках яго славутага «Беларускага зборніка» (Киев, 1886) у спецыяльнай падборцы «Прыказкі, прымаўкі, апісальныя выразы» змешчана 757 запісаў. Яшчэ многа запісаў прыказак і блізкіх да іх народных выслоўяў трапілі ў іншыя работы

---

[35] И. Берман. Календарь по народным преданиям в Воложинском приходе Виленской губернии, Ошмянского уезда. «Записки имп. Русского географического об-ва по отделению этнографии», т. 5. СПб, 1873, стар. 1—43.

[36] W. Dybowski. Przysłowia białoruskie z powiatu Nowogródzkiego.— Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, t. V, cz. 3. Kraków, 1881, стар. 3—23.

[37] Гомельские народные песни (белорусские и малорусские). Записаны в Дятловичской вол. Гомельского у. Могилевской губ. З. Радченко. СПб, 1888, стар. 246—249.

[38] Е. А. Ляцкий. Материалы для изучения творчества и быта белорусов. I. Пословицы, поговорки, загадки. М., 1898.

[39] E. Orzeszkowa. Ludzie i kwiaty nad Niemnem.— «Wisła», t. IV, 1890.

Раманава[40]. Усе яны вызначаюцца дакладнасцю запісу і ўмелым адборам. Сабраны яны пераважна на Магілёўшчыне.

Значна менш прыказак апублікаваў П. В. Шэйн. У велізарным фальклорным багацці, якое склала тры тамы яго «Матэрыялаў», мы знаходзім параўнаўча невялікую рубрыку «Прыказкі і прымаўкі», складзеную са 195 запісаў[41]. У зносцы да яе Шэйн зазначае, што ім было сабрана гэтых твораў у 2—3 разы больш, але адабраны толькі тыя, што не паўтараюцца ў папярэдніх зборніках Насовіча і Раманава. У той жа час ён уключыў у свой збор каля 40 запісаў з кнігі Я. Тышкевіча і каля 10 прыказак з «Этнаграфічнага зборніка» 1854 г. (вып. II), усе ж астатнія дакладна пашпартызаваны і пракаменціраваны Шэйнам. У тым жа томе (стар. 503—517) Шэйн падаў асобную падборку «Прывітанні, зычэнні, бажба, праклёны, лаянка» (109 запісаў з этнаграфічным каментарыем). Гэта славесныя формулы, якія ў пэўнай ступені з'яўляюцца выслоўямі, блізкімі да прымавак.

Народная афарыстычная творчасць Смаленшчыны шырока прадстаўлена ў манументальнай працы У. М. Дабравольскага «Смаленскі этнаграфічны зборнік», аб якой, па ўспамінах У. Бонч-Бруевіча, высока адазваўся У. І. Ленін[42]. Трэцяя частка зборніка Дабравольскага, асобная кніга, названая «Прыказкі» (СПб, 1894), цалкам прысвечана гэтаму жанру фальклору. У кнізе, матэрыял якой разбіты на тэматычныя рубрыкі, змешчана больш за 3000 прыказак, прымавак і блізкіх да іх устойлівых выразаў. Аднак Дабравольскі строга не трымаўся рамак жанру. Разам з прыказкамі і прымаўкамі ён змясціў многа кароткіх народных жартаў, дыялогаў, прыкмет, гукаперайманняў, нават асобныя легенды і апісанні звычаяў, якія маюць самастойнае этнаграфічнае значэнне. У зборніку Дабравольскага побач з прыказкамі рускага народа змешчана значная частка тэкстаў на беларускай мове.

Прыказкі пінскіх палешукоў сабраў у 70-х гадах Д. Г. Булгакоўскі і разам з песнямі і іншым фальклорным матэрыялам змясціў у сваім зборніку «Пінчукі» (СПб, 1890). У падборцы ўсяго 65 тэкстаў, але, як адзначае рэдактар выдання Ф. Істомін, «этнаграфічны матэрыял, які змяшчаецца ў гэтым зборніку, з'яўляецца цікавым таму ўжо, што характарызуе жы-

---

[40] Е. Р. Романов. Материалы для изучения говоров Могилевской губ. Село Высокое Оршанского уезда.— «Живая старина», кн. 3. СПб, 1903 (205 запісаў); Древние русские пословицы. Сообщение Е. Р. Романова.— «Записки Северо-Западного отдела РГО», кн. 1. Вильна, 1910; кн. 3. Вильна, 1912 (каля 1000 запісаў); я г о ж: Материалы по этнографии Гродненской губернии, вып. 1. Вильна, 1911, стар. 83—85.

[41] П. В. Ш е й н. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. II. СПб, 1893, стар. 472—484.

[42] Гл.: В. Д. Б о н ч-Б р у е в и ч. Ленин об устном народном творчестве.— «Советская этнография», 1954, № 4, стар. 117—131.

хароў мясцовасці заведама глухой, аддзеленай ад астатняга свету непраходнымі лясамі і балотамі»[43]. Аднак як свяшчэннік Булгакоўскі аддаў пэўную даніну рэлігійным прыказкам.

Асноўны фонд беларускіх прыказак і прымавак быў сабраны ў XIX ст., і першае месца сярод іншых калекцый займае зборнік Насовіча.

Першыя дзесяцігоддзі XX ст. аж да з'яўлення зборніка М. Федароўскага (1935) не далі значных збораў беларускіх прыказак. Можна назваць толькі некалькі публікацый, якія заслугоўваюць увагі. Гэта невялікі, але вельмі цікавы збор прымавак і выслоўяў пра паасобныя гарады і мясцовасці, што сабраў і выдаў польскі збіральнік М. Куч (71 запіс)[44], і своеасаблівая калекцыя беларускіх фразеалагізмаў і выслоўяў, якую сабраў этнограф і бытапісец Віцебшчыны М. Я. Нікіфароўскі. Гэта, як ён іх сам спрабуе акрэсліць, «крылатыя словы», «лятучыя словы», «махні-словы», «неперакладныя словы», «паўпрыказкавыя гаворкі», «прымоўкі», «змоўчаныя гаворкі». Запісы яго друкаваліся часткамі ў розны час і ў розных выданнях[45]. Магчыма, што не ўсе сабраныя Нікіфароўскім выслоўі пабачылі свет, і будуць знойдзены ў архіўных сховішчах яшчэ неапублікаваныя матэрыялы гэтага выдатнага збіральніка.

Не пашанцавала калекцыі прыказак А. К. Сержпутоўскага. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў ён актыўна запісваў народную фразеалогію і прыказкавы матэрыял і склаў з іх зборнік, які налічваў 6225 тэкстаў. Такім чынам, па колькасці запісаў зборнік Сержпутоўскага павінен быў перасягнуць буйнейшы да таго часу друкаваны зборнік Насовіча. Рускае геаграфічнае таварыства, куды ў 1908 г. Сержпутоўскі перадаў свой зборнік прыказак разам са слоўнікам, высока ацаніла работу збіральніка, прысудзіўшы яму малы залаты медаль[46]. Але па невядомых прычынах зборнік не быў надрукаваны. У 20-я гады яго меркаваў апублікаваць Інбелкульт, і зноў гэта не ажыццявілася. Відаць, з гэтай прычыны рукапіс зборніка (машынапісны экземпляр) трапіў у архіў Секцыі этнаграфіі і фальклору Інстытута гісторыі АН БССР. У час вайны рукапіс разам з

---

[43] Д. Г. Булгаковский. Пинчуки, стар. 1.

[44] M. Kucz. Przysłowia ludowe z okolic Witebska, Mohylowa, Smoleńska i Orła, dotyczące niektórych miejscowości w cesarstwie Rosyjskiem.—Materjały antropol.-archeologiczne i etnograficzne, t. IV, dz. 2. Kraków, 1900.

[45] Н. Я. Никифоровский. Полупословицы и полупоговорки, употребляемые в Витебской Белоруссии. — «Записки Северо-Западного отдела РГО», кн. 1. Вильна, 1910; кн. 2. Вильна, 1911; кн. 3. Вильна, 1912 (больш 600 тэкстаў); яго ж: Напаўпрыслаўкі, напаўпрыказкі. — «Крывіч», 1924, № 1); яго ж: Напаўпрыслаўкі, напаўпрыказкі.— Працы кафедры этнаграфіі, т. 1. Мінск, 1928 (каля 800 запісаў).

[46] Гл.: «Известия РГО», т. IV—VI. СПб, 1909, стар. 1—2. Больш падрабязна пра збіранне прыказак Сержпутоўскім і яго спадчыну гл.: В. Бондарчик, А. Федосик. А. Сержпутовский. Минск, 1966, стар. 107—115.

усім сховішчам беларускага фальклору быў захоплен нямецка-фашысцкімі акупантамі і лічыўся загінуўшым. Аднак, на шчасце, у 1946 г. у матэрыялах Радыёцэнтра, што былі разрабаваны фашыстамі і вернуты з Германіі, намі была адшукана выпадкова ўцалелая большая частка рукапісу Сержпутоўскага. Яна захоўваецца зараз у архіве Сектара фальклору Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР (ф. 9, воп. 2, спр. 21). Уцалелі машынапісныя старонкі 1—99 і 127—186, на якіх змешчана каля 5180 прыказак, прымавак і розных выслоўяў. Апрача таго ўцалелі прадмова «Ад збіральніка» на 10 старонках, напісаная рукой Сержпутоўскага, і яго ж кароткая прадмова да выдання, якое меркаваў ажыццявіць Інбелкульт.

Увесь матэрыял Сержпутоўскі згрупаваў па зместу рубрыкамі, якія ён размясціў у алфавітным парадку (Абавязак, Абмаўленне, Абяцанне і г. д.). Рукапіс абрываецца на рубрыцы «Карысць», працягваецца далей ад рубрыкі «Пакорлівасць» і зноў абрываецца на рубрыцы «Смеласць».

У кароткай прадмове, напісанай, відаць, у 20-х гадах, А. К. Сержпутоўскі тлумачыць: «Я замерыўся выпусціць у свет гэтую сваю працу ў том выглядзе, якою яна была зроблена дзесяць год таму назад».

Няма ніякага сумнення ў тым, што гэты рукапіс — большая частка таго самага зборніка (дакладней кажучы, машынапіснай копіі яго), які Сержпутоўскі перадаў у 1908 г. у Рускае геаграфічнае таварыства. Пра гэта сведчыць, па-першае, сама колькасць запісаў (каля 5180, не хапае толькі крыху больш 1000 запісаў, якія згубіліся разам з часткай старонак рукапісу); гэта вынікае, па-другое, з прадмовы збіральніка, у якой адзначана, што матэрыял сабраны ў канцы мінулага стагоддзя на Беларускім Палессі (паўднёвая палавіна Слуцкага і паўночная частка Мазырскага пп. Мінскай губ.); гэта пацвярджаецца, па-трэцяе, уцалелай верхняй вокладкай з сіняй паперы і белай наклейкай на ёй, на якой яшчэ старой рускай арфаграфіяй напісана: «А. К. Сержпутовскій. Сборникъ бѣлорусскихъ пословицъ и поговорокъ» і стаіць штамп: «Императорское Русское Географическое Общество. Архивъ».

Нават тое, што захавалася ад рукапіснага зборніка Сержпутоўскага, уяўляе вялікую каштоўнасць для беларускай парэміяграфіі. Значная частка запісаў Сержпутоўскага ўпершыню публікуецца ў дадзеным томе.

Трэба назваць яшчэ некалькі вартых увагі рукапісных збораў прыказак, якія запісаны аматарамі гэтага жанру і захоўваюцца ў архівах.

Гэта перш за ўсё два значныя і вельмі каштоўныя зборы Л. В. Дубяйкоўскага, энтузіяста-збіральніка, інжынера-будаўніка па прафесіі [47]. У яго

[47] Адзін рукапіс «Беларускія пагаворкі і пасловіцы» захоўваецца ў Рукапісным аддзеле Цэнтральнай бібліятэкі АН ЛітССР (VBF 127, F 21), другі «Народныя пагаворкі» — у Аддзеле рэдкай кнігі Фундаментальнай бібліятэкі АН БССР.

калекцыі звыш 1500 прыказак з Мсціслаўшчыны. У архіўным хаванні знаходзяцца запісы прыказак збіральніка беларускага фальклору ў Латвіі С. П. Сахарава[48], а таксама мастака і этнографа Я. Драздовіча[49]. Цікавыя запісы беларускіх прыказак маюцца ў паперах Я. Карловіча[50] і А. Гурыновіча[51]. У цэнтральным дзяржаўным архіве Літоўскай ССР у Вільнюсе знойдзена таксама невялікая рукапісная калекцыя прыказак (каля 150) з Віцебшчыны ў запісах В. Мяніцкага[52].

З друкаваных крыніц самы буйны зборнік беларускіх прыказак і прымавак пакінуў нам М. Федароўскі. Шматлікія запісы прыказак Федароўскага склалі асобны, чацвёрты, том яго фундаментальнай фальклорна-этнаграфічнай працы «Люд беларускі», выдадзены пасля смерці збіральніка[53]. Па колькасці і, бадай, па дакладнасці і дакументаванасці запісаў зборнік Федароўскага з'яўляецца неперасягнутым да самага апошняга часу. Адных прыказак і прымавак у ім змешчана каля 9900, а разам з блізкімі да іх выслоўямі, фразеалагізмамі, вітаннямі, праклёнамі, антрапанімічным матэрыялам, загадкамі зборнік Федароўскага змяшчае 13 231 запіс. І гэта далёка не ўсё, што назапасіў за гады сваёй этнаграфічнай дзейнасці нястомны збіральнік. Усяго ім было запісана 28 000 прыказак і фразеалагічных адзінак. Большасць запісаў была зроблена ў Гродзенскай губ. (асабліва ў Ваўкавыскім, Слонімскім, Сакольскім, Гродзенскім, Бельскім і Беластоцкім пп.) і часткова ў Мінскай і Віленскай губ. Зборнік Федароўскага — безумоўна прыкметная па гісторыка-культурнай вартасці праца, хаця сам адбор тэкстаў, зроблены Ч. Пяткевічам, які рыхтаваў том да друку (і, між іншым, сам апублікаваў калекцыю прыказак з Рэчыцкага Палесся[54]), не можа цалкам задаволіць. Каштоўны матэрыял у некаторай ступені засмечан тэкстамі клерыкальнага, антынароднага, а таксама нецэнзурнага характару.

Дэталёвы агляд і ацэнку парэміяграфічнай спадчыны М. Федароўскага зрабіў І. У. Саламевіч, які даследаваў рукапісны фонд збіральніка ў архівах Польшчы і прысвяціў жыццю і навуковай дзейнасці Федароўскага спецыяльную манаграфію[55].

---

[48] АІМЭФ, ф. 9, воп. 3, спр. 13.

[49] Народныя прыказкі Дзісеншчыны. Рукапіс (Аддзел рэдкай кнігі Фундаментальнай бібліятэкі АН БССР).

[50] Цэнтральны гістарычны архіў ЛітССР, ф. 1135, воп. 10, спр. 201, л. 279 (выяўлена А. С. Лісам).

[51] Рукапісны аддзел Бібліятэкі АН ЛітССР, VBF 175, F 21.

[52] Przysłowia białoruskie. ЦДА ЛітССР, ф. 599, воп. 1, спр. 3, л. 395—397 (выяўлена А. І. Мальдзісам).

[53] M. Federowski. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. Warszawa, 1935.

[54] Cz. Pietkiewicz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego. Warszawa, 1938.

[55] Я. Саламевіч. Міхал Федароўскі. Мінск, 1972.

У савецкі час, асабліва ў перадваенныя гады, у публікацыях беларускага фальклору новых запісаў прыказак прыбавілася параўнаўча небагата. Асобныя падборкі былі змешчаны ў тэматычных рознажанравых зборніках, якія выдавала Акадэмія навук БССР [56]. У гэтых зборніках і перыядычным друку 30-х гадоў (цэнтральных газетах «Звязда», «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», у раённым друку) упершыню з'яўляюцца сучасныя прыказкі, запісаныя ў час экспедыцый Акадэміі навук або дасланыя карэспандэнтамі-збіральнікамі з месц. Падборку новых, калгасных прыказак змясціў і часопіс «Полымя рэвалюцыі» (1937, № 11). У гэтым праявілася ўзмоцненая ўвага да сучаснай савецкай народнай творчасці, якой характарызавалася работа беларускіх фалькларыстаў у 30-я гады.

Акупацыя Мінска нямецка-фашысцкімі захопнікамі і разрабаванне імі ўсіх фальклорных фондаў, у тым ліку падрыхтаваных прац, часова спынілі публікацыю новых запісаў.

У пасляваенныя гады, асабліва пачынаючы з 50-х гадоў, разам з ажыўленнем усёй фалькларыстычнай работы ў рэспубліцы ўзмацняецца збіранне, публікацыя і даследаванне беларускіх прыказак.

Ужо ў 1947 г. Р. Шырма змяшчае ў сваім зборніку невялікую (60 тэкстаў), але каштоўную калекцыю прыказак, запісаных ім у в. Галынка на Гродзеншчыне [57]. У 1956 г. невялічкі зборнічак прыказак з Гомельшчыны выдае Гомельскі абласны краязнаўчы музей [58]. Значныя раздзелы або падборкі прыказак маюць тэматычныя зборнікі антырэлігійнага фальклору [59] і фальклору Вялікай Айчыннай вайны [60].

Новыя запісы прыказак і прымавак усё часцей з'яўляюцца на старонках перыядычнага друку. Асабліва трэба адзначыць яркія публікацыі прыказак пад рубрыкай «Сказаў, як звязаў», якія змяшчаў часопіс «Беларусь» (1963—1965), і розны фразеалагічны матэрыял, які час ад часу з'яўляецца ў нумарах «Полымя» пачынаючы з 1964 г.

Вельмі карысным у навуковых адносінах напрамкам у збіранні і публікацыі прыказак трэба прызнаць спалучэнне гэтай работы з вывучэннем дыялектнай лексікі, якое вядзецца беларускімі моваведамі, асабліва з кан-

---

[56] Дарэвалюцыйная і Савецкая Беларусь у народнай творчасці. Мінск, 1938; Беларускі народ супроць папоў і рэлігіі. Мінск, 1939; Жанчына ў беларускай народнай творчасці. Мінск, 1940.

[57] Р. Шырма. Беларускія народныя песні, загадкі, прыказкі. Мінск, 1947.

[58] Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі. Склад. П. Ахрыменка, М. Буцько. Гомель, 1956.

[59] Антырэлігійныя казкі, частушкі, прыказкі, выд. 2-е. Склад. А. Залескі, К. Кабашнікаў, А. Фядосік. Мінск, 1961.

[60] Фальклор Вялікай Айчыннай вайны. Склад. І. Гутараў, М. Грынблат, К. Кабашнікаў, І. Сцяпунін, І. Цішчанка. Мінск, 1961 (116 запісаў); Лясныя песні, выд. 2-е. Склад. Я. Зазека. Мінск, 1974 (63 запісы).

ца 50-х гадоў. Кожны новы дыялектны або краёвы слоўнік змяшчае багаты матэрыял па прыказках у прыкладах пры тлумачэнні слоў або ў асобна вылучаных раздзелах прыказак, прымавак і фразеалагічных спалучэнняў. Асабліва каштоўнымі ў гэтых адносінах з'яўляюцца дыялектныя слоўнікі Ф. Янкоўскага[61], М. Жыдовіч[62], у якіх прыказкі вылучаны ў асобныя раздзелы; краёвыя слоўнікі І. Бялькевіча[63], Т. Суяшковіч[64].

У адным рэчышчы з дыялектна-лексікалагічнымі даследаваннямі, якія прыносяць добры плён і для парэміяграфіі, знаходзяцца і розныя слоўнікі народнай фразеалогіі і ўстойлівых словазлучэнняў, якія па свайму характару блізкія да прымавак і часта дапамагаюць іх асэнсаванню і вытлумачэнню. Сярод работ па народнай фразеалогіі найбольш вылучаюцца слоўнікі Ф. Янкоўскага[65], Е. Мяцельскай і Я. Камароўскага[66] і грунтоўны звод устойлівых словазлучэнняў у гаворцы Мсціслаўшчыны Г. Юрчанкі[67].

У пасляваенныя гады з'явіліся і асобныя зборнікі беларускіх прыказак. Гэта выданні навукова-папулярнага характару, і скарыстаны ў іх пераважна матэрыялы ранейшых публікацый, але нямала змяшчаюць яны таксама новых, уласных запісаў саміх складальнікаў.

Лепшым з гэтых выданняў трэба лічыць зборнік прыказак, складзены Ф. М. Янкоўскім[68], вядомым беларускім парэміёлагам, вялікім энтузіястам гэтай справы. Для зборніка складальнік адабраў з друкаваных крыніц больш за 5500 тэкстаў, дадаўшы і частку сваіх запісаў. Другое выданне было значна пашырана і налічвала ўжо каля 7900 тэкстаў, сістэматызаваных па раздзелах-тэмах. Зборнік гэты з ухвалай быў успрыняты чытачамі і крытыкай. На жаль, у ім не дадзена дакументацыя запісаў, далёка не заўсёды вытрымана прынятая складальнікам сістэматызацыя тэкстаў, у радзе выпадкаў дапушчана праўка тэкстаў, іх «алітаратурванне», што ў пэўнай ступені зніжае навуковы ўзровень зборніка. Ф. Янкоўскі выдаў яшчэ

---

[61] Ф. Янкоўскі. Дыялектны слоўнік, вып. I. Мінск, 1959; вып. III. Мінск, 1970; Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы. Пад рэд. Ф. Янкоўскага. Мінск, 1960.

[62] Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. Пад рэд. М. А. Жыдовіч, вып. 1. Мінск, 1970; вып. 2, 1974.

[63] І. К. Бялькевіч. Краёвы слоўнік Усходняй Магілёўшчыны. Мінск, 1970.

[64] Т. Ф. Суяшковіч. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці. Мінск, 1972 (каля 1400 тэкстаў).

[65] Ф. Янкоўскі. Беларуская фразеалогія. Фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне. Мінск, 1968.

[66] Е. Мяцельская, Я. Камароўскі. Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі. Мінск, 1972.

[67] Г. Ф. Юрчанка. І коціцца і валіцца. Мінск, 1972; яго ж: І сячэ і паліць. Мінск, 1974.

[68] Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі. Склад. Ф. Янкоўскі. Мінск, 1957; Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы, выд. 2-е. Мінск 1962.

першы ў беларускай фалькларыстыцы невялічкі зборнік «Беларускія народныя параўнанні» (Мінск, 1973), якія шырока вядомы ў фальклоры і гутарковай мове як паэтычны сродак выражэння.

Зборнік беларускіх прыказак, уключыўшы ў яго і загадкі, склаў таксама Я. Рапановіч.[69] Але пры адборы матэрыялаў для зборніка складальніку нярэдка здраджваў густ.

Як адзін, так і другі складальнікі размяшчалі прыказкі, пададзеныя па тэматычных групах, унутры іх у алфавітным парадку, што нельга лічыць з навуковага боку апраўданым.

Невялікі зборнік прыказак «Мудрыя дарадцы», адрасаваны школьнікам, падрыхтавала А. Янголь (Мінск, 1973).

Кароткі агляд публікацый паказвае, што беларускіх прыказак і прымавак выдадзена даволі многа, некалькі дзесяткаў тысяч, хаця трэба мець на ўвазе, што многія прыказкі паўтараюцца, пераходзячы з адной публікацыі ў другую. Некаторыя збіральнікі (Тышкевіч, Шпілеўскі, Насовіч, Дыбоўскі, Шэйн і інш.), рыхтуючы да апублікавання свае запісы прыказак, адначасова запазычвалі тэксты з папярэдніх выданняў. Не ўсе запісы можна лічыць дакладнымі. Перад беларускай парэміяграфіяй таму стаіць задача далейшага збірання матэрыялаў.

У параўнанні са збіраннем і публікацыяй значна менш зроблена ў даследаванні малых форм вуснапаэтычнай народнай творчасці. Аднак і вывучэнне прыказак і прымавак мае пэўныя здабыткі.

Даследаванне прыказак пачынаецца ўжо там, дзе ёсць адпаведная спроба тлумачыць схаваны ў іх сэнс. Такія тлумачэнні многіх прыказак даюць у сваіх публікацыях Шпілеўскі, Насовіч, Дыбоўскі. Пазней кароткія тлумачэнні прыказак прыводзіць Федароўскі. Да пачатковых крокаў вывучэння беларускіх прыказак можа быць аднесена і невялікая прадмова І. Насовіча да свайго зборніка 1874 г. Яна мае ў пэўнай ступені тэарэтычны характар — раскрывае значэнне прыказак як «маральна-практычную філасофію» народа, як выражэнне яго этыкі, поглядаў на навакольны свет, гаспадарчага вопыту. У прадмове Насовіч падкрэслівае ролю прыказак у якасці крыніцы пазнання жыцця народа, асаблівасцей яго быту і гістарычнага шляху. Можна пагадзіцца з высновай І. Я. Лепешава, што прадмову І. І. Насовіча да зборніка 1874 г. «трэба лічыць пачаткам тэарэтычнага асэнсавання беларускай фразеалогіі» [70].

Ва ўсёй дарэвалюцыйнай навуковай літаратуры можна назваць толькі два спецыяльных даследаванні па беларускай парэміяграфіі. Яны належаць Я. А. Ляцкаму і Я. Ф. Карскаму.

---

[69] Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі, выд. 2-е. Склад. Я. Рапановіч. Мінск, 1974.

[70] І. Я. Лепешаў. Класічная праца айчыннай філалогіі.— «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», 1974, № 3, стар. 52.

Працу Ляцкага, якую аўтар сціпла назваў «Некалькі заўваг»[71], Карскі зусім абгрунтавана залічвае да «вучоных работ». Гэта сапраўды даследаванне беларускай прыказкі і прымаўкі. Добры знаўца гэтага жанру фальклору, дзейсны збіральнік прыказак, Ляцкі ў сваім даследаванні абагульняе нагляданні над іх эстэтычнай і пазнавальнай сутнасцю, дае навуковае азначэнне прыказкі і прымаўкі і ўдакладняе адрозненні паміж імі. Аўтара займаюць таксама пытанне паходжання прыказак, іх сувязь з іншымі відамі фальклору: ён прыводзіць прыклады, з якіх відаць, што вытокі асобных прыказак у народных жартоўных апавяданнях, у песнях. Ляцкі даволі падрабязна аналізуе паэтычныя сродкі прыказкавай творчасці, асабліва спыняецца на вобразнасці прыказкі.

Агульны навуковы агляд беларускіх прыказак і прымавак зрабіў Я. Ф. Карскі. Ён прысвяціў ім спецыяльны раздзел працы «Беларусы». Прыказкі ён лічыць «адным з даўнейшых відаў народнай славеснасці», падкрэслівае іх павучальны характар: «Прыказкамі старыя навучаюць моладзь добрай маральнасці, прыказкамі яны праследуюць заганы і слабасці, да іх звяртаюцца яны пры суцяшэнні ў няшчасці і смутку»[72].

Карскі дае сціслы, але даволі поўны гістарыяграфічны нарыс беларускай парэміяграфіі XIX ст., адзначыўшы ўсе важнейшыя публікацыі, на многіх прыкладах падкрэслівае даўняе паходжанне беларускіх прыказак. Разглядаючы іх змест, Карскі спыняецца на прыказках, якія адлюстроўваюць гістарычныя падзеі, старажытныя вераванні народа, яго сямейныя адносіны, маральныя якасці, матэрыяльны быт (дакладней кажучы, «нематрабавальнасць» беларуса да ежы, адзення і г. д.), жыццё за прыгонам, а таксама на прыказках «юрыдычнага характару» і прыказках пра прыроду. Пры гэтым даследчык не робіць ніякай спробы класіфікацыі матэрыялу. Коратка разглядае Карскі таксама «форму, славеснае выражэнне» беларускай прыказкі, спыніўшыся пераважна на ўзаемаадносінах яе частак, рыфме і рытміцы.

Можна яшчэ адзначыць невялікі артыкул У. М. Дабравольскага пра прыказку і загадку («Живая старина», 1898, № 1—4). Тут звяртае на сябе ўвагу дыферэнцыраваны падыход аўтара да твораў гэтага жанру. «Некаторыя прыказкі,— піша Дабравольскі,— належаць вядомаму ўзросту, полу, класу людзей і адпавядаюць іх занятках» (стар. 494).

Такім чынам, ад дарэвалюцыйных даследчыкаў беларуская савецкая фалькларыстыка атрымала небагатую спадчыну ў галіне парэміялогіі. Гэта былі толькі намёткі, пачатковыя крокі ў вывучэнні і агульнай ацэнцы вя-

---

[71] Е. А. Ляцкий. Несколько замечаний к вопросу о пословицах и поговорках.— «Известия Отделения рус. языка и словесности имп. Академии наук» ,т. II. СПб. 1897.

[72] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III. Очерки словесности белорусского племени. I. Народная поэзия. М., 1916, стар. 389.

лікага запасу беларускіх прыказак — аднаго з важнейшых пластоў народнай творчасці.

Першай па часе тэарэтычнай працай аб беларускіх прыказках у савецкай фалькларыстыцы быў разгорнуты артыкул К. К. Атраховіча (К. Крапівы) «Беларускія прыказкі», напісаны ім у 1926—1927 гг.[73] Аўтар артыкула быў яшчэ студэнтам Беларускага дзяржаўнага універсітэта, але работа яго ўжо ў той час вызначылася сталасцю думкі і добрым адчуваннем народнай мовы ў найтанчэйшых яе нюансах, а галоўнае — новым, класавым, матэрыялістычным падыходам да народнай творчасці.

К. Крапіва раскрывае паняцці прыказкі і прымаўкі, вельмі цікава паказвае розніцу між імі ў залежнасці ад таго, як сфармулявана думка, падкрэслівае значэнне прыказак у народным жыцці, наяўнасць многіх супольных прыказак у розных народаў і ў той жа час — нацыянальную своеасаблівасць прыказак кожнага народа.

Асноўнае месца ў працы займае грунтоўны агляд тэматыкі беларускіх прыказак на падставе шматлікіх умела падабраных прыкладаў са зборнікаў Насовіча, Раманава і ўласных запісаў. Агляд зроблен па такіх буйных тэматычных групах: прыказкі, у якіх выяўляюцца рэлігійна-філасофскія погляды народа, прыказкі маральна-этычнага характару, прымаўкі — характарыстыкі людзей, прыказкі, што падсумоўваюць жыццёвую практыку (класавага характару, у сямейным жыцці), і прыказкі з матывамі працы. Трэба прызнаць, што групы гэтыя вельмі шырокія, бо кожная з іх змяшчае шэраг зусім самастойных тэм.

Даволі падрабязна і дасканала разгледжана ў працы мастацкая форма прыказак. Аўтар асобна спыняецца на асаблівасцях іх слоўніка, на вобразнасці мовы, паэтычных сродках і тропах, прыёмах паэтычнага сінтаксісу, на будове прыказкі, на сугучнасці і рыфме. Заслугоўвае ўвагі спроба «намаляваць вобраз тварца і спажыўца разгледжаных прыказак». Праца змяшчае нямала слушных думак, палажэнняў, што не страцілі сваёй навуковай вартасці і сёння.

Пасля працы К. Крапівы грунтоўных даследаванняў пра беларускую прыказку ў цэлым пакуль што не з'явілася. Можна адзначыць толькі некалькі кароткіх нарысаў, прысвечаных беларускім прыказкам і прымаўкам. Гэта невялікая брашура П. П. Ахрыменкі «Беларускія загадкі, прыказкі, прымаўкі» (Мінск, 1961), у якой прыказкі разглядаюцца пераважна ў сувязі з іх паходжаннем, а таксама адпаведныя раздзелы ў агульных працах і дапаможніках па беларускаму фальклору[74]. У іх даецца азначэнне жанру,

[73] К. Крапіва. Зб. тв. у 4 т., т. 4. Мінск, 1963, стар. 223—269.

[74] Гл.: К. П. Кабашнікаў. Нарысы па беларускаму фальклору. Мінск, 1963, стар. 65—71; Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць. Гісторыка-тэарэтычнае даследаванне. Мінск, 1967, стар. 142—148 (аўтар М. Я. Грынблат).

аналіз зместу і формы прыказак, спроба іх класіфікацыі. Агульным нарысам у пэўнай ступені з'яўляецца і прадмова М. Р. Судніка да вядомага зборніка прыказак Ф. Янкоўскага. Сур'ёзным развažаннем, тэарэтычным артыкулам пра беларускую прыказку з'яўляецца рэцэнзія Р. Шкрабы на той жа зборнік Ф. Янкоўскага [75].

Бясспрэчныя дасягненні маюцца ў даследаванні асобных аспектаў беларускай парэміяграфіі. Тут перш за ўсё мы маем на ўвазе тэарэтычныя працы Ф. М. Янкоўскага па беларускай народнай фразеалогіі і яго спробы этымалагічнага аналізу асобных фразеалагізмаў [76]. У вывучэнне гэтай галіны народнай славеснай творчасці Ф. Янкоўскі ўнёс прыкметны ўклад.

Народнай фразеалогіі прысвечан таксама рад артыкулаў І. Я. Лепешава [77].

Удумліваму даследаванню падвергліся пытанні паэтыкі беларускай прыказкі ў працах М. А. Янкоўскага [78]. Аўтар гаворыць пра «прыказкавую паэзію», якую ён ставіць у адзін рад з «лепшымі мастацкімі здабыткамі чалавецтва» [79]. Манаграфія М. А. Янкоўскага — арыгінальнае даследаванне, у якім на шматлікіх і з густам падабраных прыкладах дадзены грунтоўны і вытанчаны аналіз усіх важнейшых элементаў паэтыкі прыказкі. Асаблівая ўвага аддадзена даследаванню асацыятыўнасці прыказкі, якая вынікае з самой прыроды і прызначэння гэтых афарыстычных твораў, мастацкаму вобразнаму мысленню. Глыбока аналізуюцца ў кнізе інтанацыйна-рытмічная аснова прыказкі і яе гукавыя, эўфанічныя сродкі. Гэта якраз тыя пытанні, якія былі яшчэ недастаткова вывучаны.

Сатыру і гумар як адметную ўласцівасць беларускіх прыказак даследаваў А. С. Фядосік [80]. Ідэйна-тэматычны змест беларускіх прыказак —

---

[75] Р. Шкраба. Сіла слова. Мінск, 1960, стар. 170—181.

[76] Ф. Янкоўскі. Беларуская фразеалогія. Фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне. Мінск, 1968; яго ж: Белорусская народная фразеология. Автореферат докт. дис. Минск, 1969; яго ж: Да этымалогіі беларускіх фразеалагізмаў.— «Полымя», 1969, № 6, яго ж: Четыре фразеологических этюда.— У кн.: Проблемы истории и диалектологии славянских языков. М., 1971.

[77] И. Я. Лепешев. Белорусская диалектная фразеология в словарях различных типов (Лексикографический обзор).— «Труды Самаркандского гос. ун-та. Новая серия», вып. 237, 1972; яго ж: Пра два самастойныя фразеалагізмы.— «Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук», 1971, № 5.

[78] М. А. Янкоўскі. Паэтыка беларускіх прыказак. Мінск, 1971; яго ж: Пра народную прыказку.— «Полымя», 1966, № 8; яго ж: Слова і вобраз ва ўсходнеславянскіх прыказках.— У кн.: Тыпалогія і гісторыя славянскіх моў і ўзаемасувязі славянскіх літаратур. Мінск, 1967.

[79] М. А. Янкоўскі. Паэтыка беларускіх прыказак, стар. 3.

[80] А. С. Фядосік. Сатыра і гумар у беларускіх народных прыказках, прымаўках і загадках.— «Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук», 1971, № 4.

тэма працы Н. У. Янголь. Яна разглядае таксама гісторыю збірання і робіць спробу класіфікацыі беларускіх прыказак[81].

Беларуская прыказка і прымаўка, іх моўнае багацце ўсё больш прыцягваюць пільную ўвагу моваведаў. Выразна акрэсліваецца пэўны мовазнаўчы напрамак у беларускай парэміялогіі. Пачатак яму паклала работа А. С. Аксамітава па вывучэнню лексікі беларускіх прыказак. У ёй дэталёва даследавана бытавая лексіка прыказак, якая датычыць жылля і хатняга начыння, адзення, ежы, сямейных адносін, абрадаў, а таксама лексіка сацыяльнага плана, аналізуецца метафарычная лексіка і працэс утварэння фразеалагізмаў. Народная фразеалогія знаходзіць адлюстраванне і ў іншых працах даследчыка[82].

Беларускія мовазнаўцы даследуюць розныя прыватныя пытанні прыказкавай мовы, месца народных прыказак, прымавак, фразеалагізмаў у творчасці паасобных беларускіх пісьменнікаў[83].

Мова беларускіх прыказак і прымавак — гэта сакавітая, заўсёды жывая, маляўнічая мова народа, і не дзіўна, што яна вабіць да сябе моваведаў, пісьменнікаў, паэтаў.

Пра беларускую прыказку, як бачым, напісаны ўжо рад цікавых прац. Але няма яшчэ манаграфічнага даследавання, у якім знайшла б усебаковае і поўнае асвятленне гэта важная частка мастацкай культуры народа, яго духоўны скарб, што з даўніх часоў прызначаны адстайваць жыццёвую праўду, справядлівасць і прыгажосць чалавека. Стварэнне такога даследавання да гэтага часу застаецца пачэсным абавязкам беларускіх фалькларыстаў.

Скарбніца беларускіх народных прыказак і прымавак невычарпальная. Паводле няпоўнага падліку вядомага рускага парэміёграфа І. І. Ілюстрава,

---

[81] А. В. Янголь. Белорусские пословицы и поговорки. Автореферат канд. дис. Минск, 1975.

[82] А. С. Аксамітаў. Лексіка беларускіх прыказак XIX ст. у сувязі з агульнай праблемай фразеалогіі. Мінск, 1958; гл. таксама: А. С. Аксамитов. Материалы для диалектного словаря белорусской фразеологии в говорах Западной Брянщины.— «Труды Самаркандского гос. ун-та. Новая серия», вып. 237, 1972.

[83] Н. Бурака. Некаторыя заўвагі пра сінтаксіс беларускіх прыказак.— Лінгвістычны зборнік. Мінск, 1968; яе ж: Сказ тоеснасці ў беларускіх прыказках.— Там жа; М. В. Петрыкевіч. Формы загаднага ладу ў беларускіх прыказках.— «Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук», 1973, № 4; Г. Параскевіч. Асабовыя ўласныя імёны ў беларускіх бытавых прыказках.— Там жа, 1974, № 5; А. Базыленка. Народныя фразеалагізмы ў мове твораў Якуба Коласа.— У кн.: Вялікі пясняр беларускага народа. Мінск, 1959; Т. Ф. Цяшковіч. З назіранняў над мовай К. Крапівы. Мінск, 1961; И. Я. Лепешев. Фразеология в произведениях К. Крапивы. Автореф. канд. дис. Минск, 1972.

толькі да 1915 г. было апублікавана 12 059 запісаў[84]. З таго часу, як мы бачылі з агляду гісторыі збірання, колькасць апублікаваных беларускіх прыказак намнога павялічылася. Толькі дзякуючы аднаму зборніку М. Федароўскага, які змяшчае запісы амаль з адных заходніх раёнаў Беларусі, яна падвоілася. Тысячы новых запісаў былі зроблены савецкімі фалькларыстамі. І гэта яшчэ далёка не ўсё, што бытавала і сёння жыве ў народзе.

Між тым мы не маем да апошняга часу такой класіфікацыі прыказак, якая адпавядала б навуковым патрабаванням і дазваляла б лёгка арыентавацца ў велізарным матэрыяле. Большасць збіральнікаў беларускіх народных прыказак і прымавак XIX — пачатку XX ст. цалкам пазбягала спроб якой-небудзь сістэматызацыі запісаў і пры публікацыі падавала іх у алфавітным парадку. Так рабілі складальнікі важнейшых зборнікаў прыказак І. Насовіч і Е. Ляцкі; тое ж мы бачым у публікацыях прыказак, якія змяшчаліся ў фальклорна-этнаграфічных зборніках Е. Раманава, П. Шэйна, а таксама ў запісах П. Шпілеўскага, В. Дыбоўскага, М. Нікіфароўскага. Д. Булгакоўскі змясціў у сваім зборніку запісы прыказак, не прытрымліваючыся нават простага алфавітнага парадку, без усякай сістэмы.

Многія збіральнікі і даследчыкі народнай творчасці хутка адчулі недасканаласць, недарэчнасць і заганнасць алфавітнага размяшчэння прыказак і не пайшлі па гэтаму шляху. Ужо Я. Тышкевіч у яго публікацыі 1847 г. паспрабаваў ужыць тэматычны прынцып размяшчэння прыказак, разбіўшы іх на рад груп: гістарычныя прыказкі, пра бога, пра розныя прымхі, пра адносіны сялян з панамі, павучальна-маральныя, пра гасціннасць і інш. Да гэтых груп ён адносіў тыя або іншыя прыказкі па іх прамому сэнсу. Па-свойму размясціў прыказкі П. Гільтэбрант, узяўшы за аснову геаграфічны прынцып (па паветах).

У. Даль, складальнік буйнейшага зборніка рускіх прыказак, пайшоў па іншаму шляху, ужыўшы прадметна-тэматычны прынцып размяшчэння матэрыялу. Прыказкі ён сістэматызаваў па паняццях, «па сэнсу іх, па значэнню ўнутранаму, пераноснаму, як прытч»[85]. Па тэматычна-сэнсавых адзнаках размяшчалі прыказкі таксама І. Ілюстраў, П. Чубінскі, У. Дабравольскі.

Пэўнай разнавіднасцю тэматычнага размяшчэння прыказкавага матэрыялу з'явіўся спосаб М. Федароўскага. Ён сістэматызаваў матэрыял па асноўнаму, галоўнаму слову прыказкі, а гэтыя словы-рубрыкі размясціў ужо ў алфавітным парадку. Тут Федароўскі не быў арыгінальным, а следаваў

---

[84] И. И. Иллюстров. Жизнь русского народа в его пословицах и поговорках. М., 1915, стар. 60. Дарэчы, у гэтай кнізе змешчана 318 беларускіх прыказак, сабраных генералам А. Адамовічам у Магілёўскай губ.
[85] В. Даль. Пословицы русского народа, стар. 28.

за вядомым польскім парэміёграфам С. Адальбергам [86]. Такая схема размяшчэння прыказак, вядомая ў фалькларыстыцы пад назвай слоўнікава-энцыклапедычнай, стала агульнапрызнанай у радзе краін пры выданні грунтоўных зводаў прыказак і прымавак [87].

Аднак прадметна-тэматычная класіфікацыя прыказак, з'яўляючыся значным крокам уперад у параўнанні з алфавітным размяшчэннем іх, усё ж выявіла істотныя недахопы. Асноўнай заганай гэтай сістэмы з'яўляецца адсутнасць гістарычнага падыходу да класіфікацыі прыказак, суб'ектыўнае вылучэнне шматлікіх тэматычных груп, мала звязаных між сабой і існуючых як бы па-за часам і прасторай.

У параўнанні з класіфікацыяй Адальберга — Федароўскага некалькі ўдасканаленым уяўляецца нам прынцып размяшчэння прыказак па асноўных паняццях-тэмах, як гэта зрабіў у сваім рукапісным зборніку Сержпутоўскі. Але і такая сістэматызацыя не можа задаволіць, паколькі размешчаныя па алфавіту рубрыкі Сержпутоўскага таксама з'яўляюцца выпадковым нагрувашчваннем асобных тэм, у якім страчана гістарычная паслядоўнасць развіцця прыказак і функцыянальныя прызначэнні асобных іх катэгорый.

Спосаб размяшчэння прыказак па апорнаму слову і зараз яшчэ сустракаецца ў практыцы парэміяграфічных выданняў. Так пабудавана, у прыватнасці, «Новая кніга польскіх прыказак», якая складзена на аснове ранейшых прац С. Адальберга [88].

Мы не спыняемся на іншых спробах класіфікацыі прыказак па розных адзнаках, якія вядомы ў сучаснай айчыннай і замежнай парэміялогіі, часта задужа складаных і непрыдатных для выданняў зборнікаў, нават і навуковых па сваёй накіраванасці. Навуковая класіфікацыя прыказак як жанру, быць можа, зручная і патрэбная для даследчыкаў, не супадае з задачамі, якія стаяць перад навуковымі зборнікамі прыказак. Тут неабходна ўлічваць перш за ўсё зручнасць карыстання прыказкамі, лёгкасць адшукання патрэбнага твора, не адмаўляючыся і ад навуковай сістэматызацыі.

Зыходзячы з такіх меркаванняў, мы сістэматызавалі матэрыял тома пераважна па асноўных сферах жыцця і быту народа, з якімі змест і сэнс прыказкі непасрэдна звязаны. Такое размяшчэнне, на наш погляд, і зручна для чытача і ў той жа час адпавядае навуковаму, гістарычнаму падыходу да твораў гэтага жанру.

---

[86] S. Adalberg. Ksiega przyśłow, przypowieści i wyrażeń przyslowiowych polskich. Warszawa, 1891—1894.

[87] Гл.: М. Шахнович. Краткая история собирания и изучения русских пословиц и поговорок.— «Советский фольклор», 4—5. Л., 1936.

[88] Nowa księga przysłów i wyrażeń przysłowiowych polskich, t. I. W oparciu o dzieło Samuela Adalberga opracował Zespoł Redakcyjny pod kier. J. Krzyżanowskiego. Warszawa, 1969.

Уся велізарная маса дарэвалюцыйных прыказак і прымавак згрупавана намі ў восем раздзелаў: Прырода, гаспадарчая дзейнасць і праца; Матэрыяльны быт; Грамадскае жыццё; Сям'я і сямейны быт; Духоўнае жыццё; Чалавек, яго якасці, мараль; Агульныя філасофскія разважанні; Розныя павучанні і жыццёвыя назіранні.

Прыказкі і прымаўкі, якія ўзніклі ў савецкі час, вылучаны ў асобны, дзевяты раздзел. Неабходнасць такога вылучэння зусім відавочная. Сучасныя прыказкі вызначаюцца іншым светапоглядам, гавораць пра новыя, невядомыя раней аб'екты і сацыяльныя з'явы, дапоўнены новымі паняццямі, новай лексікай, а многія з іх яшчэ цалкам не сфарміраваліся.

Унутры раздзелаў матэрыял па магчымасці дэталізаваны. Такое размяшчэнне спрыяе больш поўнаму раскрыццю ідэйнага зместу прыказак, выяўленню схаванага ў іх сэнсу, функцыянальнага прызначэння.

Зразумела, часта аднясенне той або іншай прыказкі да пэўнага раздзела звязана з немалымі цяжкасцямі з-за шматзначнасці многіх твораў. У такім выпадку даводзіцца часам змясціць прыказку па яе прамому сэнсу, г. зн. прыняўшы за адзнаку яе першапачатковую форму, калі яна яшчэ была толькі простым сцвярджэннем, меркаваннем пра пэўную з'яву і не набыла характар іншасказання, абагульнення. Пры размяшчэнні матэрыялу мы, следуючы народнай традыцыі, не дзелім яго таксама на прыказкі і прымаўкі. Трэба адзначыць, што прымавак наогул больш, чым прыказак.

У першым раздзеле размешчаны прыказкі і прымаўкі, якія характарызуюць грунтоўнае веданне народам прыроды, назіранні над яе стыхіямі выяўляюць яго шматбаковы гаспадарчы вопыт. Гэта свайго роду народныя веды, што набыты вытворчай практыкай многіх пакаленняў. І ўсе яны пераважна звязаны са спрадвечнай асновай асноў здабывання сродкаў да існавання — зямлёй і яе апрацоўкай, земляробствам або сельскай гаспадаркай у больш шырокім сэнсе. Таму ім прысвечана такая вялікая колькасць прыказак: Зямелька — матка: і корміць, і поіць, і адзявае; Дзяржыся за рагач, будзеш багач; Добра там дзее, дзе два аруць, а трэці сее.

З сялянскай працай так ці інакш звязаны і многія прыказкі пра сонца, пра розныя з'явы прыроды, ад якіх залежыць яе плён: Сонца ўстане, так і дзень настане; Дождж у пару — усё роўна што золата; Зарадзіла мяцеліца, хлебу паловіца.

Многім прыказкам аб прыродзе, яе аб'ектах, з'явах і стыхіях уласцівы і пераносны сэнс, асацыятыўнасць. Асабліва выразна гэта выступае ў прыказках пра жывёльны, а таксама раслінны свет. Людзі, з найдаўнейшых часоў блізка сутыкаючыся з прыродай, праявілі тонкую назіральнасць і добра вывучылі норавы розных звяроў, жывёл, птушак, насякомых. Набытыя веды, вопыт адліваліся ў сталыя славесныя формулы, што пераходзілі як практычная і духоўная спадчына да наступных пакаленняў. З цягам часу рысы, падгледжаныя ў жывёл, пачалі адыгрываць ролю вобраз-

ных асацыяцый, аналогій пры характарыстыцы чалавека, яго якасцей, заган. Так дайшлі да нас прыказкі: Воўка ногі кормяць; Няма гаду без яду; Грач грачу не дзярэ ачу; Малы жук, а вялікі гук; Смала к дубу не прыстанець; Э голага куста і ягада пуста.

Асаблівую цікавасць уяўляюць сабой прымаўкі і прыкметы каляндарнага года, якія складаюць своеасаблівую сістэму народнай аграноміі і надвор'язнаўства.

У старой вёсцы народны каляндар вёў лік часу звычайна па святах, па іх вызначаліся тэрміны палявых работ. Па з'явах прыроды, што нагляладалі ў той або іншы дзень, прадказвалі, якое будзе надвор'е ў бліжэйшым і больш далёкім будучым. Народны каляндар і народная метэаралогія былі шчыльна звязаны з працай селяніна і ўплывалі на яе. Існавала, праўда, нямала прыкмет, заснаваных на забабонах, і яны толькі зацямнялі свядомасць людзей. Аднак многія прыказкі і прыкметы народнага календара, якія грунтаваліся на назіраннях прыроды і яе заканамернасцях, заслугоўваюць увагі. Узяць хаця б такую «метэаралагічную» народную прыказку-прыкмету: Прышоў Пятрок — апаў лісток, прышоў Ілля — апалі два, а прышла прачыстая — усё пачысціла. Яна, як бачым, правільна занатавала тыя змены, якія адбываюцца на дрэвах у пераходны час ад лета да восені. А выражана гэта ў «прыказкавай», складнай форме.

Сіноптыкі так ставяцца да народных спосабаў прадказання надвор'я: «Большасць народных прыкмет звязана з мясцовымі адзнакамі надвор'я. Вельмі характэрныя з'явы папярэднічаюць, напрыклад, мясцовым ветрам... З пэўнымі атмасфернымі аб'ектамі звязана форма воблакаў. Людзі прыкмячалі ў прыродзе гэтыя заканамернасці. Мы з павагай ставімся да народных прыкмет і нярэдка імі карыстаемся»[89].

Такім чынам, многія народныя прыказкі метэаралагічнага характару заслугоўваюць увагі і павінны з'явіцца аб'ектам вывучэння спецыялістаў.

Тое ж можна сказаць і пра «аграномічныя» прыказкі. Нельга безуважна прайсці міма таго вялікага вопыту, які народ набыў на працягу стагоддзяў у земляробстве. Рацыянальнасць многіх даўніх назіранняў у гэтай галіне пацвярджаецца і сучаснай сельскагаспадарчай навукай. Напрыклад, патрабаванні аб максімальна ранніх тэрмінах сяўбы ярыны. Народныя прыказкі здаўна павучалі: Сей авёс у гразь, будзеш князь; Хто сее ў лёд, той п'е мёд; Калі суніца красна, не сей аўса напрасна.

Можна меркаваць, што прыказкі пра прыроду і гаспадарчую дзейнасць чалавека належаць да найбольш даўніх па паходжанню, а ўжыванне іх у пераносным сэнсе, відаць, з'ява больш позняя, таксама як і шліфаванне іх мастацкай формы. У. П. Анікін, называючы «дзелавымі» (у двукоссях)

---

[89] Гл.: А. Ивахнов. Меняется ли климат планеты.— «Известия», 12 сакавіка 1974 г.

прыказкамі «парады, бытавыя правілы, нагляданні за пагодай, дзелавое жыццё ва ўсіх яго праяўленнях», лічыць, што «мастацкія пераважна прыказкі ўзніклі пазней у сувязі з агульным вылучэннем мастацтва ў самастойны від грамадскай свядомасці» [90].

Нездарма, відаць, народны каляндар у прыказках і прымаўках або прыкметы-прагнозы і вылучаюцца тым, што амаль усе яны ўжываюцца без пераноснага, ускоснага сэнсу. Гэта проста найбольш кандэнсаваныя назіранні, народныя веды, выражаныя сцісла і дакладна славеснай формулай афарыстычнага характару.

Сельская гаспадарка была асноўным і галоўным заняткам беларускага селяніна. Але разам з тым вёска ведала і рад промыслаў і хатніх рамёстваў, якія служылі пэўнай падмогай селяніну. Найбольш пашыраных промыслаў і рамёстваў беларускіх сялян, якія знайшлі адлюстраванне ў прыказках і прымаўках, налічваецца каля пятнаццаці. Гэта рыбацтва, паляўніцтва, кавальства, цяслярства, бандарства, калясніцтва, ганчарства, прадзенне і ткацтва, кравецтва, шавецтва, млынарства, кажамяцтва, вясковыя музыкі.

На такія заняткі, як паляўніцтва і рыбацтва, селянін не глядзеў як на сур'ёзную справу, якая магла б забяспечыць яго сям'ю. Ён адводзіў ім вельмі малую ролю. Прыказкі рашуча сцвярджалі: «Хлеб казаў: кідай стральбу і вуду, то я ў цябе буду; У стральца дым густы, ды абед пусты.

Затое народ заўсёды высока ставіўся да кожнага рамяства, да ўмелых рук, падкрэсліваў іх патрэбнасць і важнасць для чалавека, грамадства: З рамяством дружыць — у жыцці не тужыць. З другога боку, едка высмейваліся няўмельства, дрэнная работа майстроў-партачоў, адмоўныя рысы рамеснікаў: Які майсцер — такая работа; Не сілай ухапі, а розумам. Усё гэта адлюстравана ў шматлікіх прыказках і прымаўках.

Пра народную павагу да майстра прыгадаў Л. І. Брэжнеў, звяртаючыся да моладзі ў прамове на XVII з'ездзе ВЛКСМ: «У нашай краіне здаўна самым ганаровым у народзе было званне майстра, умельца. Нам трэба яшчэ вышэй узняць павагу да гэтага звання, усямерна заахвочваць тых, хто дабіваецца высокай якасці ў рабоце» [91].

З вясковых умельстваў асабліва шанавалася кавальства, такое патрэбнае кожнай сялянскай гаспадарцы. Сярод хатніх вытворчасцей прыказкі вылучаюць прадзенне і ткацтва, гэты адвечны занятак жанчыны-сялянкі, дзякуючы якому сям'я забяспечвалася адзеннем, бялізнай, спальнымі пры-

---

[90] В. П. Аникин. Ответы на вопросы для научной анкеты к V Международному съезду славистов.— «Русский фольклор», VIII. М.— Л., 1963, стар. 393—394.

[91] Речь Л. И. Брежнева на XVII съезде ВЛКСМ.— «Правда», 24 красавіка 1974 г.

ладамі. Да гэтай працы з павагай ставіцца народная прыказка, адначасова прысаромліваючы тую гаспадыню, якая не ўправілася напрасці ў зімовыя вечары: Не напрала пад дымком, мусіш прасці пад тынком.

Наогул усякую працу народ у сваіх прыказках ставіць вышэй за ўсё, славіць яе ў шматлікіх творах, падкрэсліваючы яе найпершае значэнне ў сваім жыцці. Па працы мяркуюць пра чалавека, пра яго вартасць, высакароднасць, пра яго месца ў грамадстве. Творца прыказак — сам чалавек працы, і яму добра вядома, што іменна яна ёсць самае неабходнае, аснова існавання. Прыказкі праслаўляюць працу, працавітасць людзей і ганьбуюць бяздзейнасць, ляноту, няўмельства: Праца і сіла горы звернуць; Без працы няма чаго і хлеба шукаці; Хто спіць да сонца, таму хлеб у катомцы.

У гэтым адно з праяўленняў гуманістычнай сутнасці і вартасці народных прыказак. Ганьбаванне бяздзейнасці, гультайства — таксама пэўная форма праслаўлення працы ў прыказках.

Вельмі многа створана прыказак і прымавак, якія сваім зместам звязаны з матэрыяльным бытам жыхара вёскі. Яны склалі другі раздзел тома. У іх раскрыты тыя канкрэтныя эканамічныя ўмовы, у якіх даводзілася бедаваць беларускаму селяніну ў недалёкім мінулым, да рэвалюцыі. Перад намі паўстае той свет, у якім ён жыў, той ачаг, які саграваў яго ў смутку і рэдкіх радасцях.

Прыказкі характарызуюць сялянскую гаспадарку ў цэлым, сядзібу, вучаць гаспадарлівай дбайнасці: Гаспадарку весці — не лапці плесці; Гумно плача без гаспадара, а хата — без гаспадыні. Расказваючы пра сялянскую хату, абсталяванне жылля, гаспадарчыя будынкі і асабліва пра ежу, харчаванне і адзенне, прыказкі шырока і яскрава раскрываюць перад намі матэрыяльныя патрэбы і вечныя клопаты селяніна.

Прыказкі гэтага раздзела змяшчаюць у сабе найбагацейшую інфармацыю, каштоўныя этнаграфічныя звесткі аб матэрыяльнай культуры беларусаў, яе спецыфічных асаблівасцях. Гэта неацэнны матэрыял для пазнання даўніны народа, якое так важна для нашай моладзі і будучых пакаленняў.

Але нішто, бадай, так праўдзіва не характарызуе матэрыяльны быт беларускага селяніна, як яго трапныя прыказкі, прымаўкі і выслоўі пра ежу — гэту аснову асноў існавання ўсяго жывога. З іх мы даведваемся пра агульны характар харчавання селяніна ў мінулым, нярэдка галаданне (Голад — астрэй мяча), пра важнейшыя харчовыя прадукты і сурагаты, што ўжываліся ў ежу ў неўрадлівыя гады, пра асаблівасці нацыянальнай кухні беларуса, пра звычаі, звязаныя з ядой, і г. д.

Так, прыказка «Свіння ды карова на двары — харч на стале» падкрэслівае ролю гэтых свойскіх жывёл як карміцеляў сялянскай сям'і. Але існавала многа бескароўных двароў, а такія найбольш спажыўныя прадукты харчавання, як мяса і сала, традыцыйныя ў нацыянальнай кухні бе-

ларуса, таксама не былі такімі ўжо частымі гасцямі на стале бяднейшага ды і сярэдняга селяніна. Да гэтых прадуктаў ставіліся вельмі ашчадна.

Асновай жа харчавання быў хлеб: Хлеб — усяму галава; Хлеб і соль — то ўся праўда. Пра хлеб і больш за ўсё прыказак. Аб ім увесь клопат, увесь непакой.

Вялікага клопату патрабавала і жыллё селяніна, яго хата. Як вядома, жыллё разам з прыладамі вытворчасці, ежай, адзеннем належыць да асноўных матэрыяльных даброт, важнейшых патрэб чалавека. Таму і хата заняла адпаведнае месца ў тэматыцы прыказак, у якіх выявілася замілаванне да свайго жылля, страхі над галавой, прытулку: Няма лепшае справы ад свае хаткі; Бяда не мець свайго вугла.

Адзенне і абутак у параўнанні з ежай занялі больш сціплае месца ў беларускай прыказкавай творчасці. Але і тут нямала цікавага і павучальнага. Як і ў прыказках пра харчаванне, і тут адзін з вядучых матываў — нястача, галеча, недахват адзення і няспынны заклік да беражлівасці: Галодны мілю ўвойдзеш, а голы і за парог не выйдзеш; У чом у касцеле, у том у пасцелі; Шануй адзежыну раз, а яна цябе — дзесяць.

Не абышла прыказка і такую галіну матэрыяльнага быту, як шляхі зносін і транспартныя сродкі. Многія прыказкі непасрэдна павучаюць паводзінам у дарозе, характарызуюць дрэнны стан дарог у дарэвалюцыйнай Беларусі, у іх фігуруе асноўны сродак транспарту мінулага — сялянскі воз-драбіны: Не конь вязе, а дарога; Дарога на канцы языка; У дарозе і ацец таварыш; Ладзь калёсы зімой, а сані летам.

Прыказкі, што датычаць матэрыяльнага быту, пры многіх супольных рысах з творчасцю іншых народаў адзначаны і рысамі нацыянальнай своеасаблівасці культуры. Тады, калі прыказка разважае пра хату і яе ўнутраны выгляд, пра печ, пра адзенне і асабліва пра ежу, народныя стравы або што іншае, адчуваецца, што гаворка вядзецца пра будынкі, адзенне, ежу, да якіх прызвычаены іменна беларускі селянін. Возьмем хаця б такія прыказкі і прымаўкі: У вашэці пуста ў клеці; Голад не дзядзіна; Ад крупені дзеці паглупелі; Адзін блін і тэй на рэшаце.

Трэба таксама адзначыць, што многія прыказкі, у якіх гаворыцца пра прадметы або з'явы штодзённага быту, змяшчаюць схаваны сэнс: гэтыя прадметы або з'явы нібы супастаўляюцца з пэўнымі жыццёвымі абставінамі, што надае прыказкам афарыстычны характар. Напрыклад: З аднаго яйка яечні не будзе; На вяку давядзецца варыць і ў гляку.

Асобны вялікі раздзел складаюць прыказкі і прымаўкі, у якіх — увесь грамадскі быт дарэвалюцыйнага беларускага селяніна, яго сацыяльна-палітычны светапогляд, адлюстраванне класавага падзелу ў эксплуататарскім грамадстве, нянавісці народа да прыгнятальнікаў.

Вылучаюцца перш за ўсё прыказкі, якія выяўляюць замілаванне да сваёй радзімы, свайго краю, да хаты, у якой чалавек нарадзіўся і ўзрос,

што так добра выказаў Якуб Колас, пачынаючы сваю паэму «Новая зямля»:

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы.

А народ выразіў свае пачуцці да Радзімы таксама трапнымі словамі: У сваім краю, як у раю. Тугу па роднаму куту беларус выявіў у прыказках: Чужая старана тугою арана, слёзкамі засявана; З роднага краю і варона міла і інш. Яны ўзніклі пераважна сярод адыходнікаў, сялян, якіх цяжкія ўмовы жыцця вымушалі пакідаць свой дом і шукаць кавалак хлеба ў шахтах, гарадах, партах; іх стваралі таксама рэкруты, салдаты.

У прыказках пра польскага караля і рускага цара, пра паноў і шляхту, пра прыгон найбольш выразна агаліліся класавыя супярэчнасці. Амаль усе гэтыя творы з'явіліся ў эпоху феадалізму, у часы паншчыны.

Наяўнасць вялікай групы прыказак і прымавак пра паноў і шляхту належыць да спецыфікі беларускага прыказкавага рэпертуару. Яна абумоўлена характарам сацыяльна-гістарычнага развіцця Беларусі эпохі феадалізму. У фундаментальным зборніку рускіх прыказак Даля нават падобнай рубрыкі няма. У беларускіх прыказках народ не проста выяўляе сваю нянавісць да паноў, але і з'едліва высмейвае іх агідную сутнасць: Толькі й гора пану, што жывот баліць; Чым больш пан, тым шапка нялюдска.

У моцны антыпанскі струмень беларускіх прыказак уліваюцца і шматлікія творы пра «падпанкаў», розных панскіх паслугачоў — войтаў, цівуноў, аканомаў і іншых прыганятых. Яны былі народу не менш, а часам і больш ненавісныя, чым самі паны: Паны, як паны, ды падпанкі жыць не даюць.

Шырока прадстаўленая тэма паншчыны, прыгонных павіннасцей таксама належыць да адметных рыс беларускіх прыказак сацыяльнага характару. Частка іх пазней набыла і пераносны сэнс.

Прыказкі выкрываюць непрывабнае аблічча папоў, ксяндзоў і іншых царкоўнікаў. Такіх твораў сярод беларускіх прыказак было вельмі многа. Толькі невялікая колькасць, прытым найменш «вострых» антыпапоўскіх прыказак, пераадолеўшы заслон свецкай і духоўнай цэнзуры, змагла трапіць у дарэвалюцыйныя зборнікі. У вядомым зборніку Даля падобных прыказак амаль зусім няма, а ў яго «Тлумачальным слоўніку» — толькі паасобныя ўзоры.

Народ заўважыў і закляйміў найбольш агідныя рысы ў паводзінах «святароў»: Людзі ох да ой, а папу палатна свой; Радзіся, хрысціся, жаніся, памірай — за ўсё грошы дай.

Не маглі абысці прыказкі тых, на кім трымаўся лад эксплуатацыі і прыгнёту: царскіх чыноўнікаў, царскае «начальства», а яно ў свядомасці

народа неаддзельна ад хабарніцтва, невыносных падаткаў, якія плылі з парожняй кішэні селяніна ў ненаедную «казну».

З народных прыказак нібы паўстае ўся адміністрацыйная будова царскай Расіі, а часткова і грамадства больш ранняга часу — феадальнай Рэчы Паспалітай, Вялікага княства Літоўскага ці нават Старажытнай Русі (Хавай свае мёды для пана ваяводы) з усімі іх заганамі. Усё гэта народ трапна прыкмеціў і выказаў у сваіх кароткіх прыказках. У іх выкрываецца таксама класавая сутнасць панскага і царскага суда і законаў, што заўсёды абаранялі толькі багатых, а вінавацілі працоўнага чалавека, гарапашніка-мужыка: Вінават, што свінават; Чый паўштох паўней, таго і суд спраўней.

Прыказкі пра службу, наймы склаліся пераважна ў асяроддзі наймітаў, адыходнікаў, сезонных рабочых з сялян, батракоў. Па паходжанню многія з гэтых прыказак параўнаўча познія і маглі ўзнікнуць у XIX — пачатку XX ст., у капіталістычную эпоху. У некаторых прыказках службу трэба разумець як вайсковую.

Адной з найбольш прыкметных з'яў грамадскага жыцця беларускага селяніна былі элементы калектывізму і суседская ўзаемадапамога, без чаго існаванне асноўнай масы сялянства ва ўмовах старой вёскі было б яшчэ цяжэйшым. З'ява гэта мае глыбокае карэнне ў першабытнаабшчынным ладзе з яго калектывісцкімі ўяўленнямі. У беларускай вёсцы калектывізм і ўзаемадапамога здаўна бытавалі ў розных праяўленнях і перш за ўсё ў форме грамады і народнага звычаю талакі[92]. Падкрэсліваючы неадольную сілу калектыву, прыказка абвяшчае: Грамада — вялікі чалавек; Дзе дружна да хаўрусна, там не грузна.

З яўным асуджэннем прыказкі гавораць пра крайні індывідуалізм, пра імкненне адгарадзіцца ад грамадскіх спраў, хаванне ў сваёй шкарлупіне, пра дбанне толькі аб уласных інтарэсах, абыякавасць да патрэб іншых.

Праяўленнем тых жа рыс калектывізму і ўзаемадапамогі, што характарызуюць грамадскае жыццё беларускага селяніна ва ўсе часы яго гісторыі, з'яўляюцца сяброўства, добрасуседства, гасціннасць. Народ заўсёды высока ставіцца да гэтых якасцей: У няшчасці прыяцеля пазнаць; Не купі двор, а купі суседа; Госць у дом, бог у дом. Таму нядобразычлівасць, варожасць парадзілі нямала асуджальных прыказак і прымавак. У гэтым — сведчанне маральнай чысціні народа.

Наогул многія прыказкі прасякнуты пачуццём дружбы, таварыскасці, дабраты, чуласці да чужой бяды, што зберагалася ў народзе нават у самых складаных і цяжкіх абставінах яго існавання.

Беднасць, жабрацтва, галеча — гэта тыя болькі класавага антаганістычнага грамадства, якія неадступна спадарожнічалі працоўнаму люду і

---

[92] Гл.: М. Я. Грінблат. Риси громадського побуту білоруських селян другої половини XIX — початку XX ст.— «Народна творчість та етнографія», 1957, № 4.

таму не маглі не зрабіцца аб'ектамі шматлікіх прыказак, таксама як багацтва, сацыяльна-маёмасная няроўнасць.

«Бедната — дурата»,— абвяшчае прыказка, падкрэсліваючы тым самым, што абавязковым вынікам беднасці з'яўляліся цемра, непісьменнасць. «Чашыся конь з канём, вол з валом, а свіння аб вугал; Аднаму льецца, а другому нават не капае»,— так вобразна характарызуе прыказка сацыяльны падзел класавага грамадства.

Тут варта прыгадаць і з'яўленне шэрагу антынародных прыказак пра «мужыка», якія, безумоўна, узніклі ў чужым класавым асяроддзі. Яны пагардліва ставіліся да «хлопа», стараліся прынізіць яго годнасць, высмеяць (Колькі мужыка мёдам не маж, а ўсё дзёгцем смярдзіць). Частка такіх прыказак пранікла ў народны рэпертуар і ўжывалася як іранічнае насмяянне з уласнай бяды. Трапілі яны зусім беспадстаўна і ў фальклорныя зборнікі як «народныя» творы.

Нібы працягам групы твораў пра беднасць і жабрацтва служаць прыказкі пра бяду, гора, ліха, напасці, злыдні, якія неадступна крочылі праз усё жыццё за селянінам, прыгнечаным панам і нуждой: Ад бяды не скутаешся; Прыпадкі па людзях ходзяць, а не па лесе.

Але ў народзе жыла ўсё ж надзея на лепшае, аб чым сведчаць і прыказкі: Загляне сонца і ў наша аконца.

У грамадска-эканамічным жыцці беларускага сялянства, асабліва з развіццём таварна-грашовых адносін, узмацненнем сувязей з горадам і рынкам, усё большае месца пачынаюць займаць гандаль, грошы. Прыказак на падобныя тэмы, а таксама пра пазыкі і даўгі, пра карчму — вялікая колькасць (у гэтым томе іх каля 700 разам з варыянтамі). Зразумела, што значная частка іх параўнаўча позняга паходжання — эпохі капіталізму: Баш на баш — прыдачы нямаш; За грошы ўсюды шабас; Не зажыўшы нендзы, не мець пенендзы; Пазыкі ходзяць у лыкі.

Асобная група прыказак характарызуе рэкрутчыну, салдатчыну, найбольш вядомыя войны. Яны выражаюць адносіны народа да рэкруцкага набору, які быў сапраўднай яго бядой, да сістэмы муштры і палачнай дысцыпліны ў царскай арміі. У той жа час прыказкі ўслаўляюць смеласць і адвагу рускага салдата.

Прыказкі таксама даюць народную ацэнку гістарычным падзеям і асобным гістарычным дзеячам: Батура — сабачча натура; Настаў Панятоўскі, стаў хлеб не такоўскі.

У народнай творчасці — песнях, вусных апавяданнях, паданнях — захавалася, напрыклад, памяць пра Айчынную вайну 1812 года, пра баявую славу яе герояў. Вайна пакінула след і ў прыказках, якія выкрываюць захопніцкія імкненні Напалеона, высмейваюць яго няўдачлівых ваяк, рэшткі якіх паспешліва ўцякалі з Расіі: Наша Бяроза чужых і генералаў тапіць можа; Мусю, француз, ці не з'ясі гарбуз?

У беларускіх прыказках сцісла гаворыцца і пра многія іншыя важныя гістарычныя падзеі — наезды татар, гвалтоўнае насаджэнне уніі і каталіцызму, навалу шведаў і перамогу рускіх воінаў пры Пятры I, падзелы Рэчы Паспалітай, аграрную рэформу 1861 г. і інш.

Блізка да народных прыказкавых твораў з гістарычным зместам прымыкаюць прыслоўі пра жыхароў розных мясцовасцей. Гэта пераважна незласлівае, лагоднае пасмейванне з заўважанай той або іншай адметнай рысы жыхароў суседняй вёскі, павета, губерні (у адзенні, гаворцы, занятках і г. д.) або характарыстыка ў такой жа манеры суседніх народнасцей. Трэба сказаць, што ў гэтых жартах-характарыстыках не было ніякай міжнацыянальнай варожасці ці непрыязні.

У прыказках чацвёртага раздзела паўстае сямейны быт беларускага селяніна ва ўсёй яго шматграннасці і супярэчнасцях. У іх выражаны погляды народа на шлюб і сям'ю, дзяцей і іх выхаванне, адлюстраваны ўнутрысямейныя адносіны, сямейныя абрады і звычаі народа.

Шырока раскрыты дашлюбныя адносіны моладзі (Сілаю не быць мілаю; Без пары няма кахання), роля шлюбу ў жыцці чалавека, даўняя вера ў суджанага лёсам або богам, вясельныя звычаі і сам ход вяселля (Нарачонага не абойдзеш; І з каберца расходзяцца).

У прыказках асветлены шырокі круг пытанняў сям'і, становішча паасобных яе членаў і ўвесь дамашні быт: Хоць вох, да ўдвох; Сам бог рад, калі ў сям'і лад; Шэпты хату губяць.

Выразна выступае пачцівасць дзяцей да бацькоў, выхаваная з маленства, асаблівая цеплыня і пяшчотнасць у адносінах да маці: Пры сонейку цёпла, пры матачцы добра.

У той жа час існавала многа прыказак, у якіх паказана прыніжанае становішча жанчыны ў сям'і, адлюстраваны стары сацыяльны парадак, ганебны погляд на жанчыну, прывіты рэлігіяй і царквой: Ведама — баба, а не чалавек; У бабы розуму не пытай; Гаспадынька, твая рэч—глянь у печ.

Аднак пераважная большасць прыказак пра жанчыну мела жартоўны, кплівы характар. У сапраўднасці роля жанчыны ў сялянскай сям'і і гаспадарцы была значнай, адчувальнай і дастаткова самастойнай.

Значнае месца ў прыказках сямейна-бытавога зместу займаюць дзеці і іх выхаванне. Нараджэнне дзіцяці і сямейная ўрачыстасць хрэсьбін парадзілі нямала прыказак і прымавак, сярод якіх ёсць і парады, і прыкметы, а часам і добразычлівыя падсмейванні з галоўных удзельнікаў хрэсьбін — бацькоў, бабкі, кумоў, рад застольных прыгаворак і зычэнняў: Не саладка ляжаць у полазе; На вяселле ідуць з вачамі, а на ксціны з жыватамі.

У многіх прыказках выяўлена матчына любоў і пяшчотнасць да дзяцей, у той жа час паказана, у якіх цяжкіх матэрыяльных умовах даводзілася іх гадаваць, якім горкім было расставанне з немаўляткамі: Аднаго да долу, другога да дому.

Прыказкі раскрываюць таксама асновы працоўнага і маральнага выхавання дзяцей, здаровыя прынцыпы народнай педагогікі і яе нацыянальныя асаблівасці, усё, што складае прадмет этнапедагогікі [93]. Вывучэнне такіх прыказак можа мець немалое практычнае значэнне, паколькі яны змяшчаюць значны педагагічны вопыт народа. Прыказкі павучаюць і засцерагаюць: «Апека вочы выпека; З пестуна нічога не будзе; Чым больш кошку гладзіш, тым больш горб падымае.

У прыказкавых творах знаходзім мы таксама пагляды народа на роднасць і сваяцтва. Радня выступае ў іх пад рознымі найменнямі — радзіна, род, радня, свае; амаль не заўважаецца розніца паміж кроўнай раднёй і някроўнай — сваяўствам. Роднасныя сувязі ў старым сялянскім быце былі моцныя. І наадварот, пра чалавека чужога, не сваяка, маглі сказаць: А йдзе крыві ні ложкі, там праўды ні крошкі.

У прыказках адзначаны таксама некаторыя рысы пахавальнага рытуалу, завяршаючага абраду на жыццёвым шляху чалавека: Свадзьба слаўна песнямі, хаўтуры — вытніцамі.

Духоўнае жыццё народа, яго духоўная культура ў параўнанні з гаспадарчай дзейнасцю, матэрыяльным і грамадскім бытам у значна меншай ступені з'явіліся аб'ектам беларускіх прыказак і прымавак. Галоўнымі тэмамі тут паслужылі рэлігія як пануючы светапогляд у класавым грамадстве, атэізм, у меншай ступені асвета, паколькі аж да самай рэвалюцыі яна была пашырана слаба, і некаторыя галіны мастацкай народнай творчасці.

У прыказках адлюстраваны народныя ўяўленні аб богу. У многіх прыказках набожнага характару вельмі адчувальны ўплыў афіцыйнай рэлігійнай ідэалогіі, царкоўнай казані: Без бога не да парога; Бачыць бог з неба, што каму трэба; Ад бога нідзе не ўцячэш.

Пэўная частка прыказак, узнікшых пад уздзеяннем царкоўнай прапаганды, асела ў народзе, хаця і ўжывалася ім рэдка, да таго ж часам не без іроніі. Асобныя ж буржуазныя фалькларысты-клерыкалы (свяшчэннікі Д. Булгакоўскі, І. Берман, а таксама А. Ельскі і інш.), каб дагадзіць свецкай і духоўнай уладзе, усяляк прапагандавалі праз свае зборнікі «набожныя» прыказкі, выдаючы іх за сапраўдную народную творчасць, а Ельскі, які сам пісаў павучальныя вершы ў духу хрысціянскай маралі, выдаў зборнічак спецыяльна падабраных рэлігійных прыказак для распаўсюджання іх у народзе [94].

Вывучэнне сапраўднай народнай творчасці паказвае, што большасць прыказак пра бога ўспрымае яго крытычна, пазбаўлена пачцівасці, мае адценні сумненняў, недаверу, хістанняў, насмешкі і прамога адмаўлення ўсе-

---

[93] Гл.: Г. Н. Волков. Этнопедагогика. Чебоксары, 1974.
[94] A. Jelski. 100 pzykazak, prydumak i gawendau dla Biełaruskaha (Krywickaha) naredu. Wilno, 1908.

магутнасці бога, яго справядлівасці і дабраты. Прыказкі выяўляюць паступовы рост атэістычных перакананняў у народзе: Не роўна бог дзеліць; У бога надзея, як хлеб у торбе; Абяцаў бог даць, але казаў пачакаць; На табе, божа, што мне нягожа.

Пазбаўлены асаблівай пачцівасці прыказкі пра святых, прарокаў. Наадварот, ім прыпісваюць усе чалавечыя заганы: Пакуль да бога, то святыя дух выймуць; Калі не пад'ясі, святых прадасі; Кожны святы да сябе горне.

З выразным налётам гумару прыказкі гавораць пра набожнасць, малітвы, афяры на царкву, некаторыя царкоўныя абрады, пасты і г. д.: Бачылі чудатворцы, якія мы багамольцы; Пацеры не картопля, не акіснуць.

Яшчэ В. Р. Бялінскі і А. І. Герцэн даводзілі, што рускі народ не з'яўляецца рэлігійным, спасылаючыся пры гэтым на яго прыказкі. Герцэн, напрыклад, пісаў: «Мноства прыказак сведчыць пра абыякавасць рускіх да рэлігіі: «Гром не грымне — мужык не перахрысціцца», «На бога спадзявайся, ды сам не хіб» [95]. Тое ж можна сказаць і пра беларусаў.

Супярэчлівае і нават адмоўнае стаўленне беларускага селяніна да веры ў бога трапна падгледзеў М. Федароўскі. У яго рукапіснай спадчыне І. У. Саламевіч выявіў такое цікавае нагляданне: бог у беларусаў «ёсць богам, але не тым, як яго сабе ўяўляе кожны хрысціянін. Гэта бог строгі і помслівы, які не мае ўсемагутнай улады. Яго часам нават можна ашукаць. Адным словам, гэта бог паганскі, акружаны анёламі і хрысціянскімі святымі. Пра бога яны не гавораць з поўнай пашанай і павагаю — у гутарковай мове ён часта выступае ў жартах, прыказках, казках і клятцьбе таксама... Народ тутэйшы глыбокай веры ў бога, пашаны да яго не мае» [96].

Прыказкі пра бога, святых, царкоўныя культы і духавенства, змешчаныя ў гэтым томе, з'яўляюцца пераканаўчым пацвярджэннем высноў Федароўскага. Гэтыя народныя творы могуць паслужыць добрым сродкам для цяперашняй атэістычнай работы ў масах. Савецкі народ будуе грамадства, у якім канчаткова адамрэ рэлігійны светапогляд. Але ён адамрэ не сам па сабе: патрэбна сістэматычная, настойлівая і паслядоўная работа па пераадоленню рэлігійных перажыткаў.

Закранаюцца ў прыказцы таксама пытанні асветы, адукацыі, школы, гаворыцца пра пісьменнасць і кнігу. Народ здаўна ўсведамляў значэнне навукі і ведаў, хоць яны і былі маладасягальныя для яго да рэвалюцыі. Прыказкі заклікалі настойліва вучыцца: Хочаш многа знаць, трэба мала спаць; Часам вучоны будзе лепей, як злачоны.

В. Р. Бялінскі адзначыў, што імкненне да асветы, да ведаў складае адну з лепшых якасцей рускага народа, і гэта знайшло адлюстраванне ў

---

[95] А. И. Герцен. Собр. соч. в 30 т., т. 6. М., 1955, стар. 211.
[96] Цыт. па кн.: Я. Саламевіч. Міхал Федароўскі. Мінск, 1972, стар. 163—164.

прыказках[97]. Тое ж мы бачым і ў беларускіх прыказках: Вучэнню і дабру не будзе канца.

Не абмінулі прыказкі і мастацтва, асабліва песню і яе значэнне ў жыцці, а таксама музыку, танцы, што служылі акрасай самотнага быцця старой беларускай вёскі: З добраю песняй жыць весялей; Не да солі, калі граюць на басолі; Танец — не работа, але хто не ўмее — сарамота.

Чалавек знаходзіцца ў цэнтры народных прыказак і прымавак, усіх разважанняў сродкамі афарыстычных твораў. Не застаецца па-за ўвагай ніводная вартасць людзей. Прычым выдатныя якасці іх, прыгожыя і высакародныя, выклікаюць, натуральна, усялякае ўхваленне і паказаны як прыклад, які павінен быць нормай. Адмоўныя ж, заганныя рысы характару чалавека, наадварот, асуджаюцца і зноў-такі служаць падставай для размовы на тэмы маралі, нормы якой у свядомасці народа ўзняты вельмі высока.

Прыказкі пра чалавека — найбольш вялікі раздзел беларускай парэміяграфіі, як і сярод прыказак іншых народаў. У гэтым томе ён складае каля трох тысяч тэкстаў разам з варыянтамі.

Не засталося па-за ўвагай фізічнае аблічча чалавека. З замілаваннем гаворыць прыказка пра фізічную прыгажосць, прывабны знешні выгляд. Асабліва высока ацэньваецца здароўе, якое перш за ўсё супастаўляецца з працаздольнасцю. На жаль, цалкам здаровы чалавек у сацыяльных і матэрыяльных умовах старой вёскі быў з'явай не такой ужо частай. Прыказкі сцвярджалі: Няма чалавека без вады; У нашым двары ўсе хварцы. Адсюль мноства прыказак пра розныя чалавечыя немачы, хваробы, фізічныя заганы — калецтва, слепату, глухату, сухоты, змарнеласць, худзізну, гарбатасць, розныя захворванні: Хвароба прылікі шукае; Хрыпае ў грудзях, не будзеш у людзях; Кароста — хвароба не проста.

Але больш за ўсё прыказак пра маральныя якасці чалавека. У гэтых творах праявіліся асновы маралі народа, яго здаровая этычная філасофія, правілы прыстойных паводзін і ўзаемаадносін, якія народ глыбока шануе.

Са станоўчых якасцей чалавека прыказкі з асаблівай павагай гавораць пра розум, кемлівасць, дабрату і прыязнасць, смеласць, руплівасць, цярпенне, праўдзівасць, памяркоўнасць, ашчаднасць, асцярожнасць, сціпласць і ў той жа час адчуванне чалавечай годнасці, ахайнасць. Але лепшымі якасцямі чалавека прыказка лічыць працавітасць і ўмельства. З глыбокай павагай у народзе заўсёды гаварылі пра чалавека толькі тады, калі ён умеў добра працаваць. Толькі праца можа ўпрыгожваць чалавека, стварыць яму славу. У гэтым непахіснае пераканане народа, непарушны яго закон.

Таму лянота, гультайства, няўмельства і дармаедства ва ўяўленнях народа-працаўніка — найбольш агідныя недахопы ў чалавеку. На гэтыя за-

---

[97] Гл.: В. Г. Белинский. Полн. собр. соч., т. 10. М., 1956, стар. 70.

ганы нацэлены найбольш гнеўныя і кплівыя прыказкі, насмешлівыя і хітраватыя прымаўкі: Базіканнем работы не зробіш; Рында жыта йшла жаць, забылася сярпок узяць.

Сурова асуджаюць беларускія прыказкі і ўсе іншыя заганы характару і паводзін людзей. Сярод іх прыказкі асабліва выкрываюць і высмейваюць дурасць, злосць, зайздрасць, няўдзячнасць, баязлівасць, хлуслівасць, хітрасць, сквапнасць, самахвальства, неахайнасць, а таксама п'янства, зладзейства, балбатлівасць, пляткарства і сварлівасць. Вось толькі некалькі ўзораў прыказак і прымавак — ганьбаванняў і насмешак з людскіх заганаў і недахопаў: Галава бы кацёл, а розуму ні збла; Сабачы глос не йдзець да нябёс; На губах медзь, а на сэрцы ледзь; Скупы і раскідны нароўні стае.

Прыказкі пра чалавека — гэта народная мудрасць, праверaная векавым вопытам народа і пададзеная ў гранічна адточанай форме.

Вылучаюцца ў асобны раздзел прыказкі, якія разважаюць аб сутнасці і сэнсе жыцця чалавека, выражаюць яго погляды на лёс, долю і шчасце, яго разуменне дабра і зла, праўды і няпраўды, яго адносіны да чужога і ўласнага, да ўсяго таго, што складае змест яго жыццёвай філасофіі і адвечнага роздуму.

Адцягненыя, абстрактныя паняцці не дужа ўласцівыя прыказкам, таму разглядаемая група афарыстычных твораў параўнаўча невялікая, ды і то большасць з іх мае схільнасць да матэрыялізацыі, надання разважанням больш прадметнага характару.

Прыказкі пра жыццё і век чалавека прасякнуты жыццялюбствам і ўсведамленнем таго, што жыццё, дадзенае чалавеку, вельмі складанае, яго нялёгка пражыць і яно не павінна прайсці марна: Каждаму жыццё мілае; Жыць — не мех шыць; Як пажывеш, так і праслывеш.

У поглядах на смерць народ у сваіх прыказках з уласцівым ім матэрыялістычным падыходам да натуральных з'яў падкрэслівае яе немінучасць, разуменне таго, што ўсё на свеце мае свой пачатак і свой канец: Нішто не вечна; Век і камень не вытрымае; Хто жыве, уміраць мусіць. Сустракаецца ў гэтых разважаннях і сацыяльны момант: Смерць усіх зраўняе.

Трэба заўважыць, што прыказкі пра жыццё і смерць надзвычай рэалістычныя, амаль не нясуць на сабе слядоў містыкі, старадаўніх народных вераванняў. Гэтага нельга сказаць пра разуменне лёсу, долі, шчасця, аб чым таксама складзены прыказкі. Са старадаўніх часоў трывала жыло перакананне, што лёс, доля прадвызначаны чалавеку нейкай звышпрыроднай сілай, богам ужо пры яго нараджэнні: Як суджана, то не міне; Як суджана, то не разгуджана. Не адразу прыйшло падказанае жыццём перакананне, што «Кожны сваёй долі каваль; Шчасце само ў рукі не ідзе». Сацыяльная няроўнасць таксама ўносіць «папраўкі» ў разуменне долі, шчасця: Аднаму шчасце ракою плыве, а другі ў няшчасці цэлы век жыве.

Адвечныя разважанні пра дабро і зло, праўду і крыўду, якія парадзілі адпаведныя прыказкі, сведчаць пра невычарпальны аптымізм народа, пра яго непахісную веру ў перамогу светлага пачатку над усім цёмным і варожым: Не дадзержыць ліха напроці дабра; На праўдзе свет стаіць.

Больш познімі з'яўляюцца прыказкі, якія разважаюць пра ўласнасць— чужую і сваю. Яны не маглі нарадзіцца з першабытных калектывісцкіх уяўленняў, а з'явіліся ўжо ў развітым класавым грамадстве, у якім на варце прыватнай уласнасці паноў і багатыроў стаяць закон і ўлада. Адсюль і прыказкі: Не руш нічога, не бойся нікога; Чужым багаццвам сыт не будзеш; Чужы кусок дзяра раток.

А пра сваё, пра несамавітую ўласнасць селяніна амаль і не складзена прыказак, а ўсё больш прыказкі-засцераганні наконт недатыкальнага чужога. Тут праявілася сутнасць прыватнаўласніцкага грамадства.

У восьмым раздзеле, які завяршае звод старых прыказак, сабраны розныя па зместу творы, якія нібы працягваюць народныя філасофскія разважанні на жыццёвыя тэмы, толькі ў больш канкрэтнай павучальнай форме. Гэта пераважна павучанні-парады гаспадарча-бытавога і маральнага характару, а таксама прыказкі, якія ўяўляюць самыя розныя жыццёвыя назіранні .Частку гэтых прыказак з-за іх асацыятыўнай шматзначнасці цяжка было змясціць у якой-небудзь пэўнай тэматычнай групе, і ячы трапілі ў «розныя», г. зн. у творы, якія выходзяць за межы прынятай намі сістэматызацыі.

Павучанні гаспадарча-бытавога характару закранаюць розныя практычныя пытанні, з якімі чалавек сустракаецца штодзённа ў сваёй працоўнай дзейнасці, у зносінах з людзьмі і ў дамашнім быце. Прыказкі, напрыклад, з філасофскай разважлівасцю мудраца, які ўзбагачаны вялікім жыццёвым вопытам, павучаюць, як жыць і гаспадарыць: Трэба жыць, як набяжыць; Не злавіўшы, не скубі; Не палажыўшы, не возьмеш. Як паводзіць сябе з людзьмі: Людзей слухай, свой розум май.

Найбольш парад маральнага характару. Яны адстойваюць высакародныя душэўныя якасці чалавека, вучаць добрым учынкам, прыстойным паводзінам, чалавечай этыцы: Шануй людзей, то і цябе пашануюць; Паможы каму ў худабе, то дасць бог і табе; І над сабакам трэба літасць мець. Яны засцерагаюць: Не вер воўчаму сэрцу.

Шматлікія нагляданні, адлітыя ў форму прыказкі, датычаць самых розных акалічнасцей навакольнага свету, жыццёвых сітуацый, чалавечых узаемаадносін, працы і быту. Тут і агульная філасофская выснова: Што было, таго не вернеш, і фіксацыя практычнага вопыту: Лепш зарана, ніж запозна, і мноства іншых сцвярджэнняў, вынікаючых з жыццёвай практыкі: Абы-як прыйшло, лёгка і з рук сыйшло; Збоку лепей відно.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ва ўмовах савецкай рэчаіснасці пачалі ўзнікаць новыя прыказкі і прымаўкі. У іх ад-

люстравалася жыццё савецкага народа, насычанае рэвалюцыйным духам і стваральнай энергіяй, усё тое, што прынесла народу эпоха сацыялізма, новыя адносіны да працы, сацыялістычная мараль. Нарадзіліся творы пра рэвалюцыю і грамадзянскую вайну, пра У. І. Леніна, Камуністычную партыю і сацыялістычную Радзіму. Прыказкі адклікаюцца на ўсе падзеі, якія хвалююць савецкіх людзей.

Сучасныя запісы паказваюць, што стварэнне прыказак не спыняецца і ў наш час, хаця характар іх узнікнення некалькі змяніўся. Пэўная частка новых прыказак літаратурнага паходжання, што цалкам стасуецца з тымі новымі працэсамі, якія адбываюцца ў народнай творчасці нашых дзён з ростам агульнай культуры і адукаванасці шырокіх працоўных мас, іх сацыяльнай актыўнасці. Асобныя прыказкі трапілі ў вусны рэпертуар з газетных палос, партыйных лозунгаў. Але большасць твораў нарадзілася па традыцыйных законах развіцця фальклору — вусна.

Новыя прыказкі, якія непарыўна звязаны з гісторыяй савецкага народа, групуюцца адпаведна з важнейшымі перыядамі развіцця сацыялістычнага грамадства і найбольш важнымі з'явамі савецкай рэчаіснасці.

Асабліва вылучаюцца прыказкі, у якіх выяўляецца любоў савецкіх людзей да сацыялістычнай Радзімы, Камуністычнай партыі і яе заснавальніка У. І. Леніна.

Ленін у беларускіх прыказках, як і ў творчасці іншых народаў СССР, параўноўваецца з сонцам, ён — мудры правадыр, арганізатар і кіраўнік рэвалюцыі, што прынесла народу вызваленне і светлае жыццё. Многа прыказак прысвечана запаветам Леніна, яго бессмяротнаму вучэнню, якое асвятляе савецкаму народу шлях да камунізма: Ленінская праўда святлей за сонца; Мы мацнеем і расцём, бо за партыяй ідзём.

Найбольш раннімі былі прыказкі пра Кастрычніцкую рэвалюцыю і грамадзянскую вайну. Большасць прыказак савецкага часу прысвечана сацыялістычнаму будаўніцтву, а важнейшымі тэмамі з'явіліся калектывізацыя, калгасны лад новай вёскі. Прыказкі ўваскрашаюць слаўную гісторыю сацыялістычнага пераўтварэння вёскі. Асобнае месца займаюць у прыказках сельскагаспадарчая тэхніка, што з'явілася ў калгаснай вёсцы (асабліва трактар — увасабленне сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі), барацьба за ўдарную працу, за ўраджай, за важкі працадзень, новыя спецыяльнасці — механізатар, аграном, заатэхнік, інжынер і інш.

З умацаваннем калгаснага ладу з'явілася многа прыказак і прымавак пра ўзрослы дабрабыт калгаснікаў, пра дастатак калгаснай сям'і.

Тэма абароны Радзімы была высока ўзнята ў беларускім савецкім фальклоры яшчэ ў перадваенныя гады [98]. Знайшла яна сваё месца і ў пры-

---

[98] Гл. зб: Чырвоная Армія і абарона Радзімы ў беларускай народнай творчасці. Пад рэд. Я. Коласа. Мінск, 1938.

казках таго часу, але асабліва шырока раскрылася ў гады вайны. Тое важнае месца, якое займае гэта тэма ў беларускай народнай творчасці, таксама як і ў беларускай літаратуры, зусім зразумела. Вайна з самага пачатку прайшла праз кожны беларускі горад, кожную вёску, кожны дом. Гэтым тлумачыцца і з'яўленне мноства прыказак, народжаных вайной. Яны ўзніклі ў розным асяроддзі — на франтах, у партызанскіх атрадах, у варожым тыле сярод насельніцтва, якое ўпарта супраціўлялася фашысцкаму акупацыйнаму рэжыму. Прыказкі і па свайму характару розныя — заклікі на барацьбу за вызваленне Радзімы, на разгром ворага, грозныя перасцярогі ў яго адрас, знішчальная сатыра: Кожнаму воўку ў горла па асколку; Гітлер хваліцца, а фрыцы валяцца; Смела ідзі ў бой — Радзіма за табой.

Прыказкі ахопліваюць таксама цэлае кола тэм, звязаных з уздымам культуры, станаўленнем новага быту і зменамі ў светапоглядзе працоўных. Гэта рост пісьменнасці, адукацыі, пашырэнне школ, кніг, газет, радыё, тэлебачання. Гэта новыя ўстановы культуры на вёсцы: клубы, бібліятэкі, кінатэатры. Многа прыказак пра адыход савецкіх людзей ад рэлігіі, пра рост атэізму.

У пасляваенныя гады важнейшым зместам прыказак з'яўляюцца самаадданая праца савецкіх людзей — будаўнікоў камунізма і барацьба за мір.

Жыве і асноўны фонд старых прыказак — мастацкая спадчына мінулага, якую народ беражліва захоўвае. Зразумела, не ўсе прыказкі, а тыя, якія задавальняюць запатрабаванні сённяшняга дня. Так, забытымі, натуральна, аказаліся творы, якія неслі ў сабе рэлігійныя, забабонныя погляды, многія прымаўкі з даўняй народнай аграноміі, якія вызначалі тэрміны сельскагаспадарчых работ па святцах (яны засталіся ў памяці хіба толькі старых людзей), прыказкі пра прыгон, пра паноў, старую царскую адміністрацыю, прыказкі, што зневажалі годнасць жанчыны, і інш. Затое надзённа ўспрымаюцца даўнія прыказкі, што праслаўляюць працавітасць, умельства, высакародныя ўчынкі, станоўчыя якасці людзей, асуджаюць усё адмоўнае ў іх паводзінах. Такія прыказкі натуральна і арганічна ўвайшлі ў жыццё савецкіх людзей, у новую рэчаіснасць як вечна жывая і мудрая творчасць народа.

Жыццё непазнавальна змянілася, а сэнс многіх прыказак не страціў сваёй надзённасці. Прыказка і зараз застаецца неад'емным, жыццяздольным і актыўным жанрам сучаснай народнай творчасці. Мы павінны беражліва захоўваць яе як неацэнны нацыянальны скарб.

На XXV з'ездзе КПСС падкрэслівался значэнне літаратуры і мастацтва ў ідэйна-выхаваўчай рабоце партыі, у фарміраванні светапогляду савецкага чалавека. Прынятая з'ездам Праграма сацыяльнага развіцця і павышэння ўзроўню жыцця народа, выкладзеная ў «Асноўных напрамках развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1976—1980 гады», прадугледжвае:

«Забяспечыць далейшае павышэнне ролі **сацыялістычнай культуры і мастацтва** ў ідэйна-палітычным, маральным і эстэтычным выхаванні савецкіх людзей, фарміраванні іх духоўных запатрабаванняў» [99].

Бясспрэчна, свой уклад у ідэйнае і эстэтычнае выхаванне працоўных можа ўнесці і фальклор у яго лепшых узорах, у тым ліку і мудрыя народныя прыказкі. Іх пазнавальная вартасць неацэнна. Прыказкі, можа, больш нагляднa, чым падручнік гісторыі, раскажуць, як жыў і пакутаваў народ у мінулым. А пра гэта трэба ведаць нашай моладзі, каб лепш усвядоміць веліч савецкага ладу жыцця.

Добра сказаў народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка:

Трэба ведаць — сэрца просіць,
Як дзядам, бацькам жылося...
Як сахой даўней аралі,
Як смыком зямлю барлялі,
Як з сявалкі збожжа зерні
Рассявалі чорнай жменяй...
Трэба ведаць... Што зазналі,
Як на пана працавалі...
Трэба ведаць... І пра тое,
Апраналі што? Якое?..[100]

Прывабнасць прыказак не толькі ў тым, пра што яны гавораць, але і ў тым, як пра гэта сказана. Глыбокаму сэнсу і жыццёвай мудрасці народных прыказак адпавядае іх мастацкая форма, дасканаласць выяўленчых сродкаў, моўнага ўбрання. Многія прыказкі ўяўляюць сабой узоры сапраўднага славеснага мастацтва. І небеспадстаўна існуе паняцце «прыказкавая паэзія», якой адводзіцца месца «ў адным радзе з лепшымі мастацкімі здабыткамі чалавецтва» [101].

Больш падрабязна паэтыка беларускіх прыказак даследавана К. Крапівой і М. А. Янкоўскім, а з дарэвалюцыйных прац — Я. А. Ляцкім. Мы ж абмяжуемся тут толькі некаторымі, як нам здаецца, найбольш істотнымі заўвагамі і нагляданнямі.

Асноўнае ў паэтыцы прыказкі, самая адметная яе адзнака — гэта гранічная эканомія слова, выяўленчых сродкаў, гэта здольнасць прыказкі сказаць сцісла, некалькімі словамі, часта адной рыскай пра многае, уменне ахарактарызаваць пэўную з'яву, паводзіны чалавека.

Вось некалькі прыкладаў з наўздагад узятай групы прыказак пра сямейныя адносіны: Зяць — толькі ўзяць; Сірата — дурата.

Тут, згодна таксама з народнай прымаўкай, што называецца, «сказаў, як адрэзаў». У першым выпадку, маючы на ўвазе сялянскую сям'ю

---

[99] Матэрыялы XXV з'езда КПСС. Мінск, 1976, стар. 221.
[100] П. Броўка. Трэба ведаць.— «Звязда», 8 чэрвеня 1973 г.
[101] М. А. Янкоўскі. Паэтыка беларускіх прыказак, стар. 3.

ва ўмовах старой вёскі, літаральна трыма словамі чаканна і выразна дадзена характарыстыка зяцю: з гаспадаркі бацькоў жонкі ён толькі ўзяў (дачку-работніцу, маёмасць — пасаг), нічога ёй не даўшы. У другім выпадку двума словамі «адрэзана»: гаротны лёс сіраты, пакрыўджана яна без роднай маці, пры мачысе.

Гэту дзівосную якасць прыказкі, што «выдатна вучыць эканоміі слова, гутарковай сцісласці і яркай вобразнасці» [102], асабліва высока цаніў А. М. Горкі.

Найвялікшае багацце прыказкі — яе думка, разумная і мудрая, як сам народ, але не менш вартасці ў яе мове, што іграе ўсімі колерамі вясёлкі. Народ мае выключную чуласць, найтанчэйшы слых на слова, і нідзе гэта так ярка не праяўляецца, як у прыказцы.

Мова прыказак надзвычай багатая, сакавітая, трапная, па-сапраўднаму народная. Яна тоіць у сабе невычэрпныя скарбы, што сабраліся ў ёй ад усіх эпох развіцця.

У многіх выпадках прыказкі хаваюць у сабе старажытныя пласты мовы, асабліва лексікі. Архаізмы, якія даўно зніклі з актыўнага вуснага ўжытку і з літаратуры, часта працягваюць жыць у прыказках, надаючы іх мове своеасаблівае гучанне. У той жа час архаізмы з'яўляюцца нібы жывымі сведкамі пэўнага гістарычнага перыяду, які іх нарадзіў. Вось толькі некалькі прыкладаў слоў, зніктых з гутарковай мовы, але захаваных у прыказках: войт, аканом, станавы, пруднікі (млынарскі), кушачка (кусцік), копша (злы дух), вытніца (тая, што галасіла па нябожчыку), стрый (дзядзька), адсюль стрыечны брат (сын дзядзькі), хрышчэннік (хроснік), чаравы і падчараўкі (дзеці і ўнукі) і шмат інш.

Мова прыказак страхаціць таксама лексікай, што трапіла ў іх у працэсе ўзаемаўзбагачаючых зносін з іншымі народамі, асабліва блізкімі суседзямі. Адсюль русізмы, украінізмы, паланізмы (асабліва ў запісах Федароўскага з заходніх ускраін Беларусі), а таксама асобныя цюркізмы (ад татар або праз рускую мову), літуанізмы, германізмы (пераважна праз палякаў і яўрэяў), ідышызмы. Усе яны ў патрэбных выпадках тлумачацца ў заўвагах да прыказак. Аднак моўныя запазычанні звычайна не кідаюцца рэзка ў вочы, яны амаль заўсёды да месца, а часта ім свядома прызначана эмацыянальная нагрузка сярод іншых выяўленчых сродкаў.

Паэзія прыказкі залежыць ад таго, якое моўнае выражэнне набывае закладзеная ў прыказцы думка, наколькі ўмела адабрана і да месца ўстаўлена слова, якой сваёй гранню яно зайграе. Паэтыка прыказкі — у мове, у слове, у характары слаўеснага выражэння.

У мове прыказкі часта заўважаецца імправізацыя — ужыванне неалагізмаў, словатворчасць у працэсе складання самой прыказкі. Яна праяў-

[102] М. Горький. О литературе, стар. 328.

ляецца ў стварэнні «на хаду» зусім новых слоў: Дзіцёнак — мой будзёнік (той, хто будзіць, не дае спаць); Няма роду без выроду; Тады будзеш плакаць, як станyць пакаць (адпяваць, маюцца на ўвазе словы малітвы «Паки, паки, господу-богу памолимся»[103]), у наданні некаторым словам іншага, новага сэнсу: Брат не рад брату, як рад яго шмату (багаццю, багатаму аддзенню), у прэфіксальным і асабліва суфіксальным словаўтварэнні: найбалючайша (суфіксацыя наогул належыць да асаблівасцей паэтыкі прыказак), у адвольным змяненні націску і г. д.

Адной з важнейшых уласцівасцей прыказкі з'яўляецца схаваны ў ёй пераносны сэнс, намёк па нешта іншае, чым тое, пра што гаворыцца, здольнасць прыказкі выклікаць у свядомасці асацыяцыю. М. А. Янкоўскі называе асацыяцыі «душою» прыказкі, «яе нервамі. Праз іх яна зносіцца з жыццём, з пэўнымі характарамі і тыпамі людзей»[104]. Тут асабліва выразна выступае закон узаемаадносін мовы, вобраза з мысленнем, пераходу разумовага ўспрыняцця канкрэтнага да абстрактнага.

Аднак пры гэтым не трэба перабольшваць значэнне асацыятыўнасці ў прыказках і пашыраць гэту з'яву на ўсе прыказкавыя творы. Вывучэнне матэрыялу паказвае, што многія прыказкі, не трацячы мастацкай завершанасці і яркай вобразнасці, не выклікаюць пабочнай асацыяцыі, а жывуць у сваім прамым, простым, лагічным сэнсе.

Асацыятыўнасць узнікае часцей з самога зместу прыказкі, яе сцвярджэння, нярэдка без дапамогі вобразаў ці якога-небудзь асаблівага фразеалагічнага афармлення. Просты прыклад: Ваўка ногі кормяць. Гэта прыказка можа жыць і ў простым сэнсе, характарызуючы натуру воўка: каб здабыць ежу, яму даводзіцца пераадольваць немалыя адлегласці; яна ж выклікае і асацыяцыю, змяшчае намёк, пераносны сэнс: каб жыць, патрэбны намаганні, праца, дзейнасць. Вось яшчэ асацыятыўныя прыказкі: Які палец не ўкусі, роўна балячо; Ці мора пагана, што ў ім сабака паласкаўся? У першым выпадку гаворка пра тое, што маці роўна шкадуе кожнае сваё дзіця; у другім — пра тое, што сапраўды чыстае, добрае не зменіць сваёй існасці ад сутыкнення з благім. Могуць яны выклікаць і іншыя падобныя асацыяцыі.

Але шмат ужываецца таксама паэтычных сродкаў і вобразных элементаў, якія спрыяюць стварэнню асацыяцыі і, наогул, надаюць прыказкам мастацкую форму. Адзначым тут толькі некаторыя.

Мова прыказкі ў большасці выпадкаў па-мастацку выразная, размераная, складная, нібы вершаваная, яна часта вызначаецца рытмічнай сіметрыяй і ўнутранай рыфмай. Рыфма ў прыказках сустракаецца розная — і

---

[103] Ёсць у К. Крапівы «Адплакалі і адпакалі», але ён тлумачыць гэта слова: аддубасілі (К. Крапіва. Зб. тв. у 4 т., т. 4, стар. 253).
[104] М. А. Янкоўскі. Паэтыка беларускай прыказкі, стар. 35.

мужчынская, і жаночая, і дактылічная, а часам і даволі складаная. Вось толькі некалькі адпаведных узораў: Любіць — не сена касіць; Першыя сваты не робяць сухаты; Няма вяселля без пахмелля; Якая мая мама, такая я й сáма; Байбусам вырас, да вума не вынес; Жыццё ўдавінае — савінае.

Нярэдкія ў прыказках дзве і больш розных рыфм: У маго татка даўно спяць, а ў свякратка сядзяць. Часам падабенства рыфмы ўтвараюць паўторы адных і тых жа слоў: Бог даў дзеткі, дась і на дзеткі; Не тая радзіна, што мяне радзіла, а тая радзіна, што жонку радзіла.

Карыстаецца прыказка аддаленай, часам даволі вынаходлівай сугучнасцю, асанансам, шырока вядомым народнай песні: Дзеці — раса: былі і няма; Не спадзейся на куму, шый сарочку і пеляну; Снег бел, ды не сыр, зяць міл, ды не сын; З панам у дружбу не ўхадзі, жонцы праўды не кажы і дакольніка не бяры.

Пэўныя стылявыя функцыі ў прыказках выконвае ўжыванне эўфаністычных сродкаў, найчасцей паўтораў пэўных зычных гукаў (алітэрацыі) і паасобных слоў: Божа, памажы, але і ты, нябожа, не ляжы; Не прыгожае прыгожа, а каханая прыгожа.

Па кампазіцыі прыказкі, як можна было заўважыць з ужо прыведзеных узораў, найчасцей складаюцца з дзвюх частак, якія або тлумачаць адна другую, або супастаўляюцца ці супрацьстаяць адна адной па прынцыпу антытэзы, або параўноўваюцца. Такая двухчленнасць прыказкі належыць да яе структурных асаблівасцей: Пры сонейку цёпла, пры матачцы добра; Без сонейка свету не быць, без мілага нельга жыць; Без гаспадыні хата, што дзень без сонца; Мякка сцеле, ды мулка спаць.

Есць, аднак, прыказкі і больш складаныя, напрыклад з чатырох частак, чатырохчленныя: Пакуль жаніцца — загаіцца, пакуль шлюб браць — нічога не знаць; Тут і я, тут і жонка мая, тут мае дзеці, люба паглядзеці; Ішоў дарогаю, да й у ямку ўпаў, любіў прыгожую, да й плюгаўку ўзяў. Рэдка сустракаюцца такія доўгія прыказкі з невыразным чляненнем: Як не навучыў дзіцяці, калі месцілася ўпапярок лавы, то ўдоўж і пачынаць нечага.

У той жа час ёсць такія двухчасткавыя прыказкі, вострыя, нібы стрэлы: Вянец — крапец, і процілеглае па сэнсу: Вянец — не крапец.

Усе паэтычныя сродкі, далёка не поўна разгледжаныя тут, прызначаны больш ярка, вобразна раскрыць змест і глыбокі сэнс прыказкі. Але існуе многа прыказак вонкава «простых», паэтычна не аформленых, «бязвобразных», як іх назваў яшчэ К. Крапіва. Тым не менш эмацыянальнае ўздзеянне іх таксама вялікае. Яно ўзнікае часта і там, дзе думка выказана зусім звыклай, без аздоб мовай. Досыць выразна эрокавы малюнак можа ўзнікнуць, калі пачуеш і такую «простую» прыказку: Жонку да мужыка вязуць, а назад пяшком ідзе.

Прыказкі і прымаўкі незалежна ад іх вобразнага ўзбраення — гэта паэзія думкі, паэзія жыццёвай праўды, прыгажосць народнай мудрасці. Гэта — дыяменты народнай паэзіі. Яны прыйшлі з глыбінь стагоддзяў і, як сам народ, яны бессмяротныя.

* * *

Прыказкі і прымаўкі для дадзенага тома ўзяты з друкаваных і архіўных крыніц. Значная частка твораў, асабліва запісы апошніх год, друкуюцца ўпершыню. Для тома адабраны на магчымасці лепшыя ўзоры прыказак, у той жа час ставілася задача найбольш поўна прадставіць гэты важны жанр народнай творчасці.

Прыказкі, згодна з арыгіналам запісу, захоўваюць усе лексічныя і марфалагічныя асаблівасці, але ў адпаведнасці з сучаснымі нормамі правапісу.

У збіранні матэрыялаў для тома прымалі ўдзел С. Т. Бахмет, М. М. Казлоўская, І. Р. Суяпунін, Н. У. Янголь.

*М. Грынблат*

## ПРЫРОДА, ЯЕ СТЫХІІ І З'ЯВЫ. ЖЫВЁЛЬНЫ І РАСЛІННЫ СВЕТ

1. Зямля — маці, а праца — бацька. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11 **.

2. Зямелька — матка наша: і корміць, і поіць, і адзяваець нас. *Нос., 49.*

3. Зямля — нас усіх маці: яна нас корміць, яна нас прыгорне. *Fed., 355.*

   а) Зямелька нас корміць, а сама есці просіць. *Нос., Слов., 208.*

4. Зямля багацей ад усіх. *Сержп., 17.*

5. Зямля не згарыць, не ўтоне. *Fed., 355.*

   а) Зямля не тонець, не гарыць. *Нос., 49. Вар.: Ром., Бел., I, 296.*

6. На добрай зямлі добра надзея. *Fed., 355.*

7. Такая зямля добрая: пасадзі аглоблю — калёсы вырастуць. *В. Іваноўская, 1962, Светл. 8.1.74.*

8. На добрай зямлі дзіця пасадзі, і тое вырасце. *Сержп., 85. Вар.: Сержп., 32.*

9. Якая зямля, такі і хлеб. *Сержп., 85.*

---

* Такія пашпарты даюцца да запісаў, якія захоўваюцца ў АІМЭФ. Яны азначаюць адпаведна прозвішча збіральніка, год і месца запісу, фонд, вопіс і справу.

10. На белай зямлі сабакі касцяць, на чорнай пшанічку расцяць. *Нос., Слов., 231; Дуб., 38.*

11. Да першага грому зямля не ачышчаецца. *Fed., 116.*

12. Пакуль гром не загрыміць, зямля не адтае. *Шкляр, 104.*

13. І зямля кажа. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

14. Зямля святая ўсё прымае. *Pietk., 400.*

15. Трасіны, балоты — чортава кархавенне. *Добр., Слов., 988.*

16. Як балота курыць, то балацюк цямрыць, а як балота плюшчыць, балацюк пяшчыць. *Ром., Мат., 83.*

17. Сонца ўстане, так і дзень настане. *Сах.*

18. Як слонка выгрэе, то аж сэрцу мілее. *Fed., 285.*

19. Слонца грэе — душа млее. *Fed., 89.*

а) Хоць сонца грэе, але душа млее. *Гильт., 292, Віл. п.*

20. Колас добра не спее, калі сонца не грэе. *Ахрым., 36.*

21. Чым сонца яснее, тым месяц смутнее. *Сержп., 11.*

22. Сонца з-за хмары, а месяц у шпары. *Сержп., 78.*

23. Сонца праўдзіва, усім праўдзіва дзелаець. *Добр., Смол., 112.*

24. Усякаму чалавеку слонка свеціць. *Fed., 64.*

а) Усякаму чалавеку адно тое самае слонка свеціць. *Fed., 64.*

25. І да мышкі сонца загляне. *Сцяшк., 593, Слон.*

26. Сонца па небу ходзіць і не ўсім угодзіць. *В. Скідан, 1969, Пін. 8.2.21.*

27. Не тыкай на сонца, бо рука адсохне. *Сержп., 72.*

28. Маладзік малады, рог залаты. *Нос., 79; Дуб., 35; Сержп., 65.*

29. Маладзік рогі задраў — на пагоду. *Сержп., 72.*

30. Калі месяц свеціць, звёзды ніпачом. *Нос., 64.*

31. Маладзік умываецца, то будзе негадзь. *Сержп., 72.*

32. Дармо ў бога хлеб ясі: свеціш, да не грэеш. *Fed., 307.*

33. Усе тучкі сабраліся да аднае кучкі. *Fed., 315.*

34. Хмары не будзе — гром не ўдарыць. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

35. Не ўсякая хмара дажджу дае. *В. Бондар, 1967, Мін. 13.10.24.*

36. З вялікае хмары малы дождж. *Сержп., 136; Fed., 54; Pietk., 314; Л. Тур, 1965, Руж. 13.10.1; Т. Гуляй, 1965, Свісл. 13.10.5. Вар.: Ю. Ботвін, 1967, Вайк. 13.10.28; Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5.*

а) З вялікай хмары малы дождж будзе. *Булг., 177.*

б) З вялікага грому [ды часам] малы дождж. *Ром., Бел., I, 297; Ляцкий, 13; Дуб., 21; Мін.-Мал., 1974, 187, Пух.; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15; Л. Стаўровіч, 1957, Рэч. 13.3.29.*

37. З малай пучыны бываець часам вялік дождж. *Дуб., 24.*

38. Адкуль хмары, адтуль дождж. *Сержп., 78. Вар.: Нос., 121, Дуб., 3.*

39. Ластаўкі нізка лятаюць — дождж будзе. *Янк. М., 56.*

40. Куры церабяцца і купаюцца — дождж будзе. *Fed., 158.*

41. Пярун — божая стрэлка. *Ляцкий, 36.*

42. Калі загрымела на гола, то будзе халодна вясна. *Fed., 347.*

43. На лёд загрымела, будзе холад. *Fed., 119.*

44. Калі на лёд грыміць, то будзе вясна зімна. *Dybow., 182. Вар.: Fed., 119.*

45. Будзе дождж ісці — будзе хлеб расці. *Янк. М., 130.*

46. Дождж у пору — усё роўна што золата. *Fed., 81.*

47. Без дажджу і трава не расце. *М. Бандарэнка, 1960, Маз. 13.3.29.*

48. Летні дождж — на сена гной, а на карову лой. *1961, Брасл. 13.9.5.*

49. Будзе дождж — будуць і грыбы. *1961, Кап. 13.9.5.*

50. Як сена косяць, дык дажджу не просяць. *В. Мінкелевіч, 1949, Кір. 8.1.24.*

а) Як косяць, дажджу не просяць, ён сам ідзе. *Г. Барташэвіч, 1964, Сен. 8.1.90.*

51. Як будзем касіць, дажджу не будзем прасіць. *Сцяшк., 616, Вор.*

52. Дождж не тады ідзе, як просяць, але тады, як косяць. *Fed., 81. Вар.: М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

а) Дождж не там ідзець, дзе просяць, а дзе сена косяць. *Ром., Бел., I, 295.*

б) Дождж дурны: не йдзе туды, дзе просяць, а дзе сена косяць. *Ляцкий, 10.*

в) Дождж ідзе не тады, калі просяць, а калі жнуць і косяць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

г) Не тады дождж, як ждуць, а тады, як жнуць. *М. Грынблат, 1973, Асіп.*

53. То дождж, то непагода, а ўсё невыгода. *1961, Брасл. 13.9.5.*

54. Прасілі дажджу — град пайшоў. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

55. Які ні дажджышка, а людзям аддышка. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

56. Дождж не дубіна, і я не гліна. *1961, Брасл. 13.9.5.*

57. Дождж намачыў, а сонейка высушыць. *Рапан., 218.*

58. Суша не высушыць, а моча вымачыць. *Fed., 294.*

59. Многа (багата) снегу — многа (багата) хлеба. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2; М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29; Сцяшк., 580, Іў.*

а) Шмат снегу — шмат хлеба. *Сержп., 71; М. Бекіш, 1965, Шчуч. 13.10.1.*

60. Мала снегу — не будзе хлеба. *Мін.-Мал., 1970, 162, Пух.*

61. Снегу навее — хлеба прыбудзе, вада разальецца — сена набярэцца. *Fed., 306; Сцяшк., 609, Гродз.*

62. Дзе снег, там і след. *Сцяшк., 588, Іў.*

63. Каб не было снегу, то і не было б следу. *Fed., 306.*

64. Снег бел, ды не ўкусіш. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

65. Зарадзіла мяцеліца, хлебу паловіца. *Крэмнеў.*

66. Не хвалі вецер, не павеяўшы жыта. *Сержп., 136.*

67. На дурны вецер мякіны не нагатовіш. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

68. Куда вецер, туда і дождж. *Добр., Смол., 123.*

а) Куды вецер, туды і дым. *1961, Кап. 13.9.5.*

69. Кажын гад цяплу рад. *Добр., Смол., 122.*

70. Не пі, не еш і з печы не лезь. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

а) Не пі, не еш і з хаты не лезь. *Pietk., 385. Вар.: Мін-Мал., 1974, 188, Уздз.; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

б) Тры дні не пі, не еш, а з хаты не лезь. *Нос., 164. Вар.: Ром., Бел., I, 311.*

71. От пагода: дзень каза, дзень казёл. *М. Грынблат, 1966, Петр.*

72. У паганую пагоду добры хазяін і сабаку з двара не гоніць. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

73. Кот на печку — сцюжа на двор. *Сцяшк., 596, Іў.*

а) Як кот на пячы — халодна на двары. *Янк. М., 56.*

74. Марозік крэпне — лёд таўсцее. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

75. Мароз стучыць — калядкі галосяць. *Нос., 79.*

а) Марозы — калядкі галосяць. *Нос., Слов., 117.*

76. У холад кожны молад. *Сержп., 80; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

77. Як мароз ды холад, дык і стар молад. *Суяшк., 617, Кар.*

78. Мароз вялік, стаяць не вяліць. *Нос., 79; Fed., 179.*

79. Мароз невялік, ды стаяць не вяліць. *Ахрым., 39.*

80. У мароз заснуць лёгка, а прачнуцца цяжка. *Ахрым., 255.*

81. Беражы нос у вялікі мароз. *Сах.; М. Гайлік, 1966, Свісл. 13.10.26.*

82. На дварэ мароз, а пад носам адлега. *Мін.-Мал., 1974, 187, Пух.*

83. Мароз, не цісні за нос. *Ляцкий, 20.*

84. Мароз, сто пудоў на воз. *Крэмнеў.*

85. Мароз сем баб павёз. *Нос., 79; Сержп., 139.*

86. Налічы сорак лысых і мароз усцішыш. *Ляцкий, 23.*

87. Вада і мельніцу ламае. *1961, Кап. 13.9.5.*

88. Вада млыны і грэблю рве. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

89. Вада камень прабівае. *Сержп., 27.*

90. Прыткая рака берагі падрываець. *Нос., 141.*

91. Ціхія воды глыбокі. *Дразд.*

92. Глыбокую ваду не замуціш. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

93. Што ў воду ўпала, то пішы прапала. *Fed., 325.*

94. Вада дала, вада ўзяла. *Fed., 325.*

95. З вады прышло, у ваду пашло. *Сержп., 133.*

96. Вада не бяда: пастаяла ды й пайшла. *Зах., 251.*

97. Вада толькі не ўпоіць. *Fed., 325.*

98. Пралубка не лубка — вады не вычарпаеш. *Нос., 140.*

99. Да чыстае крыніцы сцежка ўтоптана. *Fed., 155.*

100. Дзе вада, там і вярба. *Ахрым., 28.*

101. Не смейся, вада, з балота. *Ляцкий, 30.*

102. Не мора топіць — лужа. *Ром., Зап., III, 225.*

103. Процiў вады не сплывешся. *Дуб., 45; Нос., 141.*
   а) Процi вады не папрэшся. *Fed., 325.*
   б) Процi ветру не дыхнеш, процi вады не папрэшся. *Fed., 330.*

104. Паводкі і цар не ўйме. *А. Ліс, 1957, Шарк.*

105. На тое вір: калі й умелага ўкруціць, а калі й няўмелага на бераг вынесе. *Мат., 183, Барыс.*

106. Дзе вада, там і бяда. *Сержп., 21; Г. Барташэвіч, 1961, Мядз. 8.1.67.*

107. Хто па мору не плаваў, то той бяды не відаў. *Fed., 189.*

108. Вады бойся, як і агню. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

109. Вада вуглы пакідае, агонь нічога. *М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29.*

110. Агонь з вадою не дружыць. *Мін.-Мал., 1970, 157, Уздз.*

111. Вада агню не таварыш. *Булг., 177.*

112. Вада і агонь — усяму сіла. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

113. Не бойся ваўка, а бойся агня. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

114. Не гуляй з агнём. *Дуб., 39.*

115. З агнём жартаў няма. *Fed., 7.*

116. З агнём ліхія жарты. *Сержп., 6.*

117. З агнём не жартуй і вадзе не вер. *Ахрым., 31; І. Хайратовіч, 1951. Кругл. 13.8.4; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

118. Хто іграе з агнём, дайграецца да попелу. *Махнач, 24.*

119. Агонь — найстрашнейшы злодзей. *Fed., 7.*

120. Агонь горш за злодзея: злодзей хоць вуглы пакіне, а агонь нічога. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Злодзей хоць вуглы пакіне, а агонь і тое забярэ. *Fed., 357. Вар.: Pietk., 354.*

б) Ад злодзея вуглы застануцца, а ад агню нічога. *Сержп., 6.*

121. Агонь начыста прыбярэ. *Сержп., 6.*

122. Агонь адмсціцца, як яго ўкведіш. *Fed., 7.*

123. Пагана іскрына поле ўпальвае, а сама гіне. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

124. З малой іскры бывае часам вялікі пажар. *Нос., 157.*

а) З малой іскры вялікі агонь бывае. *Fed., 123.*

б) Ад малой іскры сыр-бор загараецца. *Ром., Зап., III, 228; Ахрым., 19.*

125. Ад іскры і вада можа загарэцца. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

126. Хто агонь хапае, той пальцы абсмале. *Сах.*

127. Хто ў агонь ідзець, той згарае. *Сах.*

128. Агонь агня не гасіць. *Fed., 7.*

а) Агня агнём не загасіш. *Fed., 7.*

129. Не падкладай агню ў салому. *Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

130. Агню ў шапцы не носяць. *Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

131. Хто ў вагонь дуець, той вочы не засыпіць. *Сах.*

132. Пажар чарнілам не зальеш. *Ахрым., 46.*

133. Ад гарачыні і камень трэскаецца. *М. Дуброўскі, 1956, Лельч. 13.3.29.*

134. Не вер, бо то звер, калі не ўкусіць, то спужае. *Pietk., 390.*

135. Воўка ногі кормяць. *Czeczot, 115; Нос., 14; Ром. Зап., I, 216; Дуб., 8; Fed., 341; Pietk., 351; Сержп., 9; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15; 1961, Кап. 13.9.9; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2; В. Брычакоў, 1960, Карм, 13.3.29.*

а) Воўка ногі жывяць (гадуюць). *Fed., 341; Янк., 180; Сцяшк., 583, Навагр.*

136. Ваўка зубы кормяць. *Шейн, II, 474; Fed., 341.*

137. Лаві бягучага ваўка след. *Ляцкий, 18.*

а) Бягучага ваўка добра і след злавіць. *Ляцкий, 5.*

138. Бягучага воўка добра хоць за хвост схапіць. *Tyszk., 417. Вар.: Нос., 11; Fed., 339.*

139. Воўчая доля расцець скора. *Нос., 15; Дуб., 8; Сержп., 53.*

а) Воўчая доля хутка расце. *Fed., 340.*

140. Воўкам не нагарэш. *Fed., 341.*

141. Воўк кожны год ліняе, але нораву не мяняе. *Мін.-Мал., 1974, 185, Узда.*

142. Воўчая натура — у лес цягнець. *Ryp., 216. Вар.: Fed., 340; Pietk., 351; І. Вайганіца, 1965, Іў. 13.10.1.*

а) Воўчае насенне да лесу цягне. *Суяшк., 584, Свісл.*

б) Воўча лыка да лесу цягне. *Fed., 340.*

в) Воўча натура ў лес глядзіць. *Дразд.*

143. Воўка б'юць, а ён у лес бяжыць. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

144. Няма лесу без воўка. *Рапан., 226; Суяшк., 603, Кар.*

145. Гэта воўку не першая зіма. *Fed., 339.*

а) Не першы раз ваўку ў лесе зімаваць. *Сержп., 77.*

б) Не першы раз ваўку ў лесе начаваць. *Дуб., 37а.*

146. Не выводзь воўка з лесу. *Fed., 340.*

147. Вывеў воўка з лесу. *Крэмнеў.*

148. Не кліч воўка з лесу, бо ліха не спіць. *Pietk., 351.*

149. Воўк не еўшы, як мужык пагарэўшы: што ўвідзе, тое трэба. *Ляцкий, 6.*

150. Воўк праз пасланцы не сыты. *Fed., 341.*

а) Пасланцамі воўк не сыты. *Fed., 223.*

б) Праз пасланцы воўк не сыты і не пажырэе. *А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3.*

151. Панадзіўся воўк у авечкі. *Сержп., 10.*

152. Не спіцца ваўку пад сялом, калі авечкі бляюць. *Ляцкий,* 30.

153. Ваўкоў пужаюць, дзеля таго яны авец цягаюць. *Сержп., 184.*

154. Воўк не выбіраючы бярэць авец. *Нос., 15.*

а) Воўк авечак бярэ не выбіраючы. *Сцяшк., 584, Дзятл.*

б) Воўк гавечак не перабірае, да спрытна́ ловіць. *Fed., 341.*

155. Воўк і мечаную авечку хапае. *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

156. Пастух гавечкі штодзень лічыць, а такі воўк бярэ. *Fed., 106.*

157. Воўк і лічанае бярэць. *Дуб., 9; Сержп., 22; Дразд. Вар.: Сцяшк., 584, Бераст.; Парэцкі, 129; Нос., 14; Dybow., 19.*

а) Воўк і шчытанае крадзе. *Ром., Зап., I, 216.*

б) Воўк і з шчоту крадзе. *Ром., Бел., I, 215.*

158. Воўк і нясмаленае есць. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

159. Абслюненая ваўком аўца ў лес бяжыць. *Нос., 117.*

а) Воўк калі наслюніць аўцу, то яна і бяжыць у лес. *Нос., 14.*

160. Цялё яшчэ ў жываце, а воўк доўбню ўжо рыхтуе. *І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

161. Кабыла лыса, жарабя рабое — паеў воўк абое. *Fed., 132; Pietk., 373.*

162. Воўк не пастух, а свіння не агароднік. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

а) Воўк не жыве пастухом, а казёл агароднікам. *Ром., Зап., I, 216.*

163. Воўк не пастух, а казёл не агароднік: воўк — злодзей, казёл — шкоднік. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

164. Воўк казе не таварыш. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

165. Каза плача, а воўк скача. *Мін.-Мал., 1974, 187, Пух.*

166. Воўк сабаку не радня. *Сцяшк., 584, Гродз.*

167. Каб воўку крыллі падчапіў, ён бы і птушак падавіў. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

168. Воўка з меха выпусціўшы, трудно яго злавіць. *Fed., 341.*

169. На воўка толькі памоўка. *Гильт., 289, Пруж. п.*

170. На воўка ўсягды памоўка. *Нос., 83.*

171. А воўку памоўка, а воўк тут. *Czeczot, 106; Киркор, 234; Fed., 340.*

а) За воўка памоўка, а воўк у хату. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

172. Міла ваўку цяля, ды дзе ж яго ўзяць. *Янк. М., 28.*

173. На воўка стрэльбу гатуй, а не пугу. *Ляцкий, 22; А. Няверa, 1965, Воран. 13.10.3.*

174. Воўк яму дарогу перабег. *Fed., 413.*

175. Воўка сустрэў. *Дуб., 8.*

176. Стары воўк знаець толк. *Добр., Смол., 33; Pietk., 351.*

177. Адрыгнуцца воўку кароўі слёзы. *Гильт., 297.*

а) Пабілі воўка гавечыя слёзы. *Fed., 340.*

178. Ад воўка ўцякаеш, а на мядзведзя наскочыш. *Сах.*

179. Як на мядзведзя ўпадзе шышка, то ён раве, а як цэла галіна, то ён маўчыць. *Fed., 182.*

180. Мядзведзь на лес сердзіцца, а лес аб гэтым не ведае. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

181. У лясу і мядзведзь архімандрыц. *Ром., Зап., I, 215.*

182. Ліса і ў сне курэй бачыць. *Ахрым., 38.*

а) Ліса спіць і курэй лічыць. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

183. Ліса семярых ваўкоў ашукае. *Сцяшк., 597, Свісл.*

184. Далёка куцаму да зайца. *Дуб., 13.*

185. Няма гаду без яду. *Fed., 98.*

186. Кажан гад мае свой яд. *Fed., 98.*

187. Усякі гад на свой лад. *Нос., 18. Вар.: Сержп., 39, 96.*

188. У гадзюкі свой нораў. *Сержп., 137.*

189. У гадзюкі свой розум. *Ляцкий, 47.*

190. У гадзюкі няма іншай навукі, як кусаць. *Сержп., 137.*

191. Змяя свінню не кусаець. *Добр., Смол., 125.*

192. Хто ўб'е змяю, таму сто грахоў скінецца. *Ром., Бел., I, 313.*

193. I жаба ў вадзе сядзіць, а не рыба. *Fed., 362.*

194. Вада з гор — і рыба з нор. *1961, Кап. 13.9.5.*

195. Рыба вады не баіцца. *Махнач, 24.*

196. Рыба на нераст, а карова на верас. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29. Вар.: Янк. М., 56. Сцяшк., 595, Іў.*

197. I рыба б запела, калі б голас мела. *Ігнат.*

198. У рака не дужа бальшы прысмакі. *Сап., 262.*

199. Рак не рыба, кажан не птушка. *Ахрым., 49.*

200. I не рыба рак, але рыбай ваніць. *Сап., 262.*

201. Усялякая птушка сваім носам корміцца. *Сержп., 51.*

202. Па пер'і птушку ўзнаюць. *Fed., 251.*

203. Не ўсе птушкі лятаюць. *Нос., 94.*

а) Усе птушкі кryллі маюць, да не ўсе лятаюць. *Нос., 169.*

204. Якая пташка, такі і галасок. *Ахрым., 62; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

205. Якая птушка, такая і песня. *Дразд.*

206. Сустрэў грака—вясну сустракай. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

207. Жаўранак прылятае на праталіну, шпак на прагаліну, жораў з цяплом, ластаўка з лістом. *Янк. М., 56. Вар.: Ахрым., 31; В. Зубарау, 1956, Гом. 13.3.29; І. Януля, 1965, Ваўк.*

*13.10.3; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15; А. Ліс, 1957, Міёр.*

а) Жораў — з цяплом, ластаўка — з лістом. *Дуб., 20; І. Хайратовіч, 1951, Кругл. 13.8.4.*

208. Жураўлі паляцелі і палудзень забралі з сабою. *Fed., 366.*

209. Жураўлі прыляцелі, дзеўкі ашалелі. *Нос., 43; Сержп., 55.*

210. Станець жураўля за вераб'я. *Нос., 155.*

211. Дзе бусел вядзецца — там шчаслівае месца. *Г. Цітовіч, 1948, Дзвін. 8.1.22.*

212. Бацян глядзіць на ваду, а ўглядаецца пад ваду. *Ляцкий, 3.*

213. Дзяцел дзяўбе ў сцяну, дык мяцеліца будзе. *Ляцкий, 10.*

214. Варона на балоце — будзе гаспадар на рабоце. *Fed., 327.*

215. Вароны крукаюць, падла чуюць. *Дуб., 9.*

216. Абы падла, вароны назлятаюцца. *Fed., 209.*

217. Куды вароне не ляцець, а падаль клявацЬ. *1961, Кап. 13.9.5. Вар.: Нос., 16.*

218. Варона скажа, што сыр, да й з'есць. *Fed., 327.*

219. Варона малая, а рот шырокі мае. *Абаб.*

220. Варона колькі не мыецца, усё роўна чорная, а гусь акунулася — і ўжо белая. *1961, Кап. 13.9.5.*

221. Вароне ў вырай напрамкі, ды ніколі там не бывае. *А. Якіменка, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

222. Куды варона ляціць, туды яна і глядзіць. *Ром., Зап., III, 222. Вар.: С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

223. Адна варона з кола, другая на кол. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

224. Сарока шчакечыць — гасцей кажыць. *Нос., 154; Дуб., 56.*

а) Сарока шчабеча — госця жджэ. *Fed., 272.*

б) Сарока шчабеча — госць будзе. *Ляцкий, 39.*

225. Недарам сарока шчабятала, гасцей казала. *Нос., 96. Вар.: Нос., Слов., 108.*

226. Калі зязюля закуе на голае дзерава, то будзе голад. *Fed., 355.*

227. Кукавала зязюлька на голы лес: не возьмець дзеўкі ані бес. *Крэмней.*

228. Кукуля кукуе, што свайго гнязда не мае. *Мін.-Мал., 1970, 162, Пух.*

229. Ластаўка дзень пачынае, а салавей канчае. *Махнач, 24; Сцяшк., 597, Іў.*

230. Як ячмень высыпаў — салавей удавіўся. *К. Кабашнікаў, 1973, Быx. 8.73.73.*

231. Салавей пяе, да хлеба не дае. *Сержп., 46.*

232. Не вялік кулік, ды ўсё ж такі птушка. *Ахрым., 42.*

233. Знаець кулік сваё балота. *Нос., 50.*

234. Цалаваў каршун курачку да апошняга пёрушка. *І. Хайратовіч, 1951. Кругл. 13.8.4.*

235. Значан сокал па крыллях. *Ляцкий, 13.*

236. Вяліка сава ў пер'і. *Дразд.*

237. Сава — вялікая галава. *«Звязда», 12 кастрычніка 1971 г.*

238. Сава і ў начы бачыць. *Fed., 273.*

239. Сава спіць, ды курэй бачыць. *Ром., Бел., I, 309. Вар.: Нос., 155.*

240. Сава і ноччу курэй відзіць. *Нос., 153. Вар.: Ляцкий, 39.*

241. Што дразду па чужому гнязду. *Fed., 82.*

242. Дзе сава і сыч, там носа не тыч. *Fed., 273.*

243. Сыч з месца — сава на месца. *Дуб., Нар., 2.*

244. У плісіцы тры паясы. *Дуб., 65.*

245. У плісіцы тры тысячы. *Нос., Слов., 418.*

а) У плісіцы тры тысячы, у вераб'я тры рубля, а ў верабейкі тры капейкі. *Нос., 168.*

246. Лёгкае пер'е, ды на страху не закінеш. *Сцяшк., 597, Гродз.; В. Бондар, 1967, Мін. 13.10.24. Вар.: Ахрым., 34.*

а) Лёгкае пяро, а высока не кінеш. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

б) І лёгка пяро, ды на ўсіх не закінеш. *В. Зубараў, 1956. Гом. 13.3.29.*

247. На Белай Русі пчолы, як гусі. *Fed., 30.*

а) На Белай Русі (у Беларусі) пчолы, як гусі, рэзгінямі мёд носяць. *Fed., 30; М. Грынблат, 1969, Лаг.*

248. Пчала на любы ляціць цвет. *Нос., 142. Вар.: Сержп., 28.*

249. Пчала на любую кветку ляціць, але не на кожную сядзе. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

250. Камар не кабан, яго і без доўбні ўб'еш. *Fed., 134.*

251. Моля молю есць, а молі чорт не бярэць. *Нос., 79; Дуб., 35.*

а) Моль моля есць, а моля прах не бярэць. *Добр., Смол., 16.*

252. Кляшча крапчэй конскага пляча. *Бяльк., 334, Мсцісл.*

253. Не было нас — быў ляс, і не будзе нас — будзе ляс. *Fed., 162.*

254. Слухай, дуброва, што лес гаворыць. *Ром., Зап., III, 232.*

255. Што ў лесе родзіцца, ва дварэ згодзіцца. *Нос., 188. Вар.: Сержп., 55.*

а) Што ў лесе родзіцца, то ў хаце згодзіцца. *Fed., 162. Вар.: Ахрым., 60; Сцяшк., 616, Навагр.*

б) Што ў лесе родзіцца, у хаце знадобіцца. *Tyszk., 437; Шейн, II, 483.*

256. Жыўшы ў лесе, дроў не купляць. *Fed., 162.*

257. У лес дроў не возяць. *Ром., Зап., I, 216; Fed., 162; Ахрым., 54; Т. Багдзевіч, 1963, Воран. 13.10.6.*

258. У калодзезь вады не льюць, а ў лес дроў не вязуць. *Fed., 134.*

259. Лес па сякеры не плача. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

260. Лес па пажару не плача. *Ахрым., 38.*

261. Калі ідзеш лясом, дзяржы тапор за паясом, як выйдзеш у сенажаць, не забудзь дубец зламаць. *Ляцкий, 16.*

262. Лес і вада — родныя брат і сястра. *«Працоўная слава» (Валожын), 26 красавіка 1961 г.*

263. Плюнь на лес, каб язык аблез. *Fed., 238.*

264. Лес — бес. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

265. Лесавое ў лес глядзіць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

266. Як у лесе гукнеш, так адазвецца. *Fed., 162.*

267. Граза ў лес не йдзець. *Tyszk., 414; Шпил., Бел., 178.*

268. Высокае дрэва здалёку відаць. *А. Махнач, 1952, Узд. 13.10.15.*

269. Увесь лес роўны, адзін гук доўгі. *Дуб., 64.*

270. Зімой і летам адным цветам. *А. Махнач, 1952, Узд. 13.10.15; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

271. Калі на папушкі холад, то на цвет дрыжацьме стары і молад. *Fed., 54.*

272. Калі на дзераве, як траяк, то альбо сей, альбо няхай будзе так. *Fed., 166.*

273. Калі бяроза перад вольхай ліст распусціць, то лета будзе сухое; калі вольха наперад — мокрае. *«Працоўная слава» (Валожын), 21 красавіка 1968 г.*

274. Калі ўрадзіла ляшчына, то ўродзіць і ярына. *Fed., 161.*

275. Вярба таўстая, ды ў сярэдзіне пустая. *Ігнат.*

276. Без пары і грыб не расце. *Сержп., 132.*

277. Грыбок на бок — баравік едзе. *Нос., 29; Дуб., 10.*

278. Баравік усім грыбам палкавік. *«Звязда», 13 кастрычніка 1962 г., Сен.*

279. Дзе мухаморы, там і баравікі. *Рапан., 217.*

280. Сядзі, грыбе, пакуль цябе хто надыбе. *Fed., 119.*

281. Дзе дубы, там грыбы. *Рапан., 217.*

282. Харош урадзіўся, ды не прыгадзіўся. *Вас., т. 22.*

283. Арэх любіць крэпкія зубы. *І. Суконкін, 1960, Церак. 13.3.29.*

284. Ягад без кветак не бывае. *Махнач, 24.*

285. Ягадка да ягадкі — і поўны збан. *Рапан., 115.*

286. Дзе ягаднік, там і ягады. *Сцяшк., 588, Іў.*

287. З голага куста і ягада пуста. *Fed., 159; Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

# ПОРЫ ГОДУ. ЧАС.
# НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

288. Жураўлі ляцяць высока — зіма яшчэ далёка. *Янк. М., 56; Т. Новак, 1973, Ельск. 13.10.71.*

289. Жураўлі ляцяць нізка — зіма ўжо блізка. *Янк. М., 56.*

290. Зіма дзіравая не бывае. *М. Грынблат, 1974, Пух.*

291. Як зіма без марозу, так вясна без шкоды не абайдуцца. *Fed., 355.*

292. Калі не будзе зімою бела, то не будзе ўлетку зелена. *Мін.-Мал., II, 1974, 187, Пух.*

293. Зімою абрыдзіць нос абціраючы, а ўлетку абрыдзіць вароты адчыняючы. *Fed., 355.*

294. Зімовы дзянёк, што камароў насок. *Р. Цыбульская, 1967. Валож. 13.10.24; Шкляр, 57.*

295. Зімою сонца свеціць, ды не грэе. *М. Бандарэнка, 1966. Маз. 13.3.29.*

296. Зіма цёплая — сіроцкая. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

297. Зіма — ліха, а без зімы яшчэ горш. *Сержп., 140.*

298. Зімовая дарога — запамога. *Сержп., 138.*

299. На адным палазку зіма едзе. *Ляцкий, 22.*

300. Зіма, як казна, сваё возьме. *А. Гурскі, 1970, Мін.*

301. Зіма на лета робіць, а лета на зіму. *Fed., 355. Вар.: Крачковский, 83; Шейн, II, 476, Свянц. п.*

302. Усё зімою згадзіцца, што ўлетку ўрадзіцца. *Fed., 355.*
   а) Зімой згодзіцца, што па лету родзіцца. *Сержп., 85.*

303. Зімой ідзе дзела не к яйцу, а к каўбасе. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

304. Зіма — свякруха, лета — матачка. *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

305. Зіма вялікае горла мае. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*
   а) Зіма з вялікім горлам — усё паесць. *Fed., 355.*
   б) У зімы рот вялікі. *Рапан., 229.*

306. Зімой конь каня з'есць. *Ром., Бел., I, 297.*

307. Я зімою з'ем хлеб і з свіннёю. *Fed., 355.*
   а) Зімою хлеб можна з'есці і з свіннёю. *Pietk., 400.*

308. Якая зіма, такое лета. *Fed., 355.*

309. Зіма снежная — лета дажджлівае. *Янк. М., 56.*

310. Як зіма марозна, а вясна цяпленька, то й азіміна і ярына харашэнька. *Kolb., 472, Пін. п.*

311. Зіма ўцякае цёмнымі начамі. *Шкляр, 67.*

312. Колькі лет, столькі зім. *Дуб., 29.*

313. Студзень — году пачатак, а зіме — палавіна. *Ахрым., 53.*

314. Студзень зямлю студзіць. *1961, Брасл. 13.9.5.*

315. Студзень хаты студзіць — рана гаспадароў будзіць. *«ШМ», № 1.*

316. Январ — як вар. *1961, Брасл. 13.9.5.*

317. Студзень мяце — ліпень залье. *Шкляр, 57; «ШМ», № 1.*

318. Студзень імглісты — мокры год, студзень халодны — позняя вясна і дажджлівае лета. *Шкляр, 57.*

319. Калі ў студзені дажджы — дабра не жджы. *Шкляр, 57; У. Януковіч, 1973, Докш.*

320. Калі ў лютым трываюць сталыя марозы — лета гарачае. *Шкляр, 67.*

321. Люты халодны і сухі — жнівень гарачы. *Шкляр, 67.*

322. Які дзень першага лютага — такія і астатнія. *Шкляр, 67.*

323. У лютым востры мароз — кароткая зіма. *Шкляр, 67.*

324. Пытаецца люты, ці добра абуты? *Нос., 142; Dybow., 17; Fed., 168; Сах ; Календ., 1925; А. Ліс, 1955, Смарг.*

а) Люты пытае, ці абуты? *Fed., 168; Т. Багдзевіч, 1965. Шчуч. 13.10.5; І. Цішчанка, 1970, Астр. 8.2.29.*

б) Люты — ці добра ногі абуты? *Ром., Бел., І, 300; Сержп., 139.*

в) Пытаецца люты, ці мае добрыя буты? *Антоп., 1960 13.8 3.*

г) Люты, ой люты, ці добра ногі абуты? *Ляцкий, 19.*

д) Прыйшоў люты — пытаецца, ці добра абуты; прыйшоў марац — прымарозіў палец. *Бяльк., 255, Міласл.*

325. Люты наробіць плюты. *Fed., 168.*

326. Люты раніцай таргуе, а вечарам гаруе. *Рапан., 223.*

327. Люты вады падпусціць, а сакавік падбярэ. *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

328. Віхры і мяцелі ў лютым наляцелі. *Сцяшк., 583, Гродз.; Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

329. Завірухі і мяцелі ў лютым адгудзелі. *Ахрым., 31.*

330. Прыляцеў кулік з замор'я, вывеў вясну з няволля. *А. Ліс, 1957, Шарк.*

331. Бусел прыляцеў, вясна будзе. *«Виленский вестник», 1895, № 68.*

332. Як у тры молата сініца содзіць — к вясне. *Добр., Смол., 92.*

333. Ранняя вясна — шмат вады. *«Маяк Прыдняпроўя» (Быхаў), 13 мая 1971 г.*

334. Бычкі бушуюць — вясну чуюць. *Fed., 46.*

335. Гром грыміць: вясна настаяшчая. *Добр., Смол., 93.*

336. Вясенні дзень год корміць. *А. Махнач, 24; Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29. Вар.: Ахрым., 28.*

337. Рыхтуйся да восені ранняй вясной. *Сцяшк., 607, Вайк.*

338. Страчанага дня вясною не купіш. *А. Мацкала, 1964, Іў. 13.10.3; Шкляр, 135.*

339. Прышла вясна — ужо часу няма; прышло лета — бярыся то за тое, то за гэта; надышла восень — яшчэ работ восем. *Fed., 332—333.*

340. Вясной прапусціць — летам не дагоніш. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.6.*

341. Увосень плача, хто на вясну скача. *Ляцкий, 47. Вар.: Г. Гумоўская, 1965, Пліс. 13.10.40; Ахрым., 54; Сцяшк., 614, Смарг.*

342. Вясна вочы крадзе. *Г. Карачун, 1967, Клецк. 13.10.14.*

343. Увесну не прыслухайся, што баліць. *Янк., Дыял., I, 221. Глуск.*

344. Не лічы кветачкі вясною, а палічы ягадкі восенню. *Махнач, 24.*

345. Вясна краснá, хоць галаднá. *Ляцкий, 6.*

а) Прыгожа вясна, ды галаднá. *Сах.*

346. Вясною вераб'і піва робяць. *Fed., 326.*

347. Хто мае корм, у таго вясна позняя, хто не мае — ранняя. *Берман, 36.*

348. Вясна не мясна, ■ восень не малачнá. *Нос., 13.*

349. Хоць вясна сухая, але восень мясная. *Ляцкий, 53.*

350. Увясну кораб вады, ды коўш гразі, а ўвосень коўш вады, ды кораб гразі. *Дуб., 64; Нос., 13.*

а) Вясною лыжка вады — капля гразі, а восенню капля вады — лыжка гразі. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

б) Вясною вядро вады, а лыжка балота, а ўвосені лыжка вады, а вядро балота. *Ляцкий, 6.*

в) Вясною вядро дажджу, а ложка гразі, а восенню ложка дажджу, а цэбар гразі. *Fed., 333.*

г) Вясною цэбар вады — ложка гразі, а восенню ложка вады, а вядро гразі. *Fed., 333.*

351. Вясной зверху пячэ, а знізу марозіць. *«Маяк Прыдняпроўя» (Быхаў), 13 мая 1971 г.*

352. Вясною і качка — прачка. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2. Вар.: Fed., 242.*

353. Вясною лес адзенецца, а восенню нявесь гдзе падзенецца. *Нос., 13.*

354. Вясною лісток, увосень сучок. *Ляцкий, 6.*

355. Як асінка затрасецца, тады волік напасецца (нап'ецца). *Dybow., 184; Fed., 10; Сцяшк., 616, Гродз.*

356. Вясна — маці, а лета — бацька. *Крачк., 88.*

357. Вясна-красна багата цвятамі, а лета — снапамі. *А. Гурскі, 1960, Кап. 8.1.51.*

358. Багата вясна кветкамі, а восень палеткамі. *Ахрым., 36. Вар.: Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

359. Вясна кветкамі багата, а восень з пірагамі ў хату. *Ахрым., 25.*

360. Вясна красна цвятамі, а восень пладамі. *І. Старасценка, 1960, Карм. 13.3.29.*

361. Вясной і ўдод запяе. *Рапан., 216.*

362. Які сакавік, такі красавік. *Tyszk., 437; Dybow., 192; Нос., 194.*

363. У марце зіма не гніе, у апрэлі трава не расце. *Берман, 36.*

а) У сакавіку зімы не гоне, а ў красавіку трава не расце. *А. Гурскі, 1961, Барыс. 8.1.63.*

364. Ні ў сакавіку вады, ні ў красавіку травы. *«Маяк Прыдняпроўя» (Быхаў), 13 мая 1971 г.*

365. Ноччу трашчыць, а ўдзень плюшчыць. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

366. Марац адмарозіць палец. *Шейн, II, 478, Ігум. п.; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29. Вар.: Сержп., 140; К. Кабашнікаў, 1963, Тур. 8.1.84.*

а) Марац укусіць за палец. *Бяльк., 129, Касц.*

б) Пытае марац, чы цёпла ў палец. *Ляцкий, 37; Дуб., 50.*

в) Марац шчыпле за палец. *Рапан, 223.*

367. У марцы яшчэ мерзнуць старцы. *Ляцкий, 49.*

а) У марцы памерзнуць старцы. *К. Кабашнікаў, 1963, Тур. 8.1.82.*

368. Настаў марац, зморшчыўся старац. *Нос., 88.*

369. Прыдзець марац, не адзін заплачаць старац. *Нос., 137.*

370. Цешыўся старац, што перажыў марац; ажно і ў маю нясуць яго да гаю. *Нос., 181.*

а) Радаваўся старац, што перажыў марац, а прыйшоў май — паняслі старца ў гай. *Г. Юрчанка, 1974, Мсціел.*

371. Сакавік дрэвам сок пускае. *Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24; Суяшк., 607, Свісл.*

372. Калі ў марце зямля ўбачыла неба, то не будзе хлеба. *І. Шынгель, 1967, Нясв. 13.10.23.*

а) Калі жыта ў марцы глядзіць на неба — не есці тагды хлеба. *Шейн, II, 477, Барыс. п.; Fed., 178.*

373. У марцы, як у гарцы. *У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4. Вар.: Fed., 178.*

а) У марцу бывае, як у гарцу. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

374. Сакавік мокры — хлеб будзе горкі. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

375. Сакавік часамі снегам сее, а часамі сонцам грэе. *Шкляр, 81.*

376. Якая другая палавіна сакавіка — такая першая палавіна красавіка. *Шкляр, 81.*

377. У сакавіку туман — у жніво дождж пан. *Шкляр, 81.*

378. Як ідзе дождж у сакаўцы, то хлеба будзе ў рукаўцы, а як ідзе дождж у маі, то хлеба будзе і на гультая. *Шырма, 207; Махнач, 24.*

379. Сухі марац, мокры май — будзе жыта, як гай. *А. Ліс, 1957, Шарк.; М. Пяткевіч, 1965, Ашм. 13.10.3; В. Іваноўская, 1963, Смарг. 8.1.83; Г. Румоўская, 1965, Пліс. 13.10.40.*

а) Цёплы апрэль, мокры май — будзе жыта так, як гай. *Fed., 9.*

380. Сухі март, цёплы апрэль, мокры май — жыту будзець ураджай. *Нос., 157.*

а) Сухі марац, мокры май — будзе добры ураджай. *Ю. Маркевіч, 1965, Шчуч. 13.10.3.*

б) Сухі марац, мокры май — будзе каша й каравай. *Цяшк., 609, Вайк.; Ахрым., 51; Шкляр, 135.*

381. Красавік з вадою — май з травою. *«Працоўная слава» (Валожын), 21 красавіка 1968 г.*

382. Красен красавік цяплом, а жнівень дабром. *Дуб., 26.*

383. Красавік ваду падбірае, красачкі пушчае. *Шкляр, 104.*

384. Красавік сушыць—нічога з зямлі не рушыць. *«ШМ», № 4.*

385. Калі ўдасца апрыль, будзе жыту прыбыль. *Ляцкий, 17.*

386. Апрэль — дарога прэй. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

387. Красавік чорны ў полі, а ў бары белы. *«ШМ», № 4.*

388. У травень будзь мужык управен. *А. Ліс, 1968, Мсцісл.*

389. Май: каню (валам) сена дай, а сам на печ уцякай. *Tyszk., 437; Шпил., Бел., 183; Нос., 76. Вар.: Киркор, 237; Fed., 75, 377; Дуб., 34.*

а) Вот май — валам дай, а сам на печку ўцякай. *Берман, 41.*

б) Май, май! Валам дай ды й на печ уцякай. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

в) Калі май, гані валы ў гай, а сам на печ уцякай. *У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4.*

г) У май каню сена дай і сам на печ удзірай. *Гильт., 287, Дзісен. п.*

д) Месяц май: сена каню дай, а сам на печ палязай. *Ром., Бел., I, 301.*

е) Бывае май, што коням сена дай, а сам на печ уцякай. *Крачк., 89.*

390. Май халодны — не будзеш галодны. *Сержп., 83.*

391. Калі май халодны, дык год хлебародны. *Сцяшк., 595, Шчуч.*

392. Мокры май — жыта, як гай. *Берман, 39; Сержп., 83. Вар.: Fed., 175; Pietk., 377.*

а) Мокры май — будзе жыта, нібы гай. *Шкляр, 135; М. Грынблат, 1974, Пух.*

б) Як дождж ідзе ў май, то будзе жыта, як гай. *М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2.*

393. Май дажджлівы — год урадлівы. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

394. У маі дождж — на ніве рож. *1961, Брасл. 13.9.5. Вар.: Н. Падафалава, 1953, Дуніл. 13.10.23.*

а) У маі дождж — будзе сена і рож. *В. Іваноўская, 1962. Светл. 8.1.74.*

395. Мокра ў маі — будуць пышныя каравai. *Гут., 142. Вар.: Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

396. Будзе дождж у маі — будзе ўраджай на двары. *Сцяшк., 582, Ваўк.*

397. Дождж у маі — будзе хлеба на гультаі. *Fed., 175.*

398. Палі, май, то будзе жыта, як гай. *Сержп., 72.*

399. Настаў май да й прыкмячай. *Сержп., 72.*

400. Як у маі суха, то падцягвай бруха. *Сцяшк., 618, Бераст.*

401. Ай, ай, месяц май, не халодны, дык галодны. *Сах.*

402. Майская трава галоднага корміць. *М. Малочка, 1960, Староб. 8.1.56.*

403. Майская травіца нібы маладая дзявіца. *М. Малочка, 1960, Староб. 8.1.56.*

404. У маю мароз — не будзе раёў. *«ШМ», № 5.*

405. Май зямлю грэе, а сіверам вее. *«ШМ», № 5.*

406. Па маі яшчэ на печы сядзі. *С. Бахмет, 1975, Мінск.*

407. Май — і пад кустом рай. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

а) У маі, як у раі. *1961, Брасл. 13.9.5.*

408. Сей смела, калі ў саду бела. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

409. Када на елкі шышкістануць красныя, а на сасне зялёныя — сей ячмень. *Добр., Смол., 136.*

410. Мокры год будзе, калі вольха раней распусцілася за бярозку. *Л. Салавей, 1972, Мядз.*

411. Як зязюля скажа «ку-ку», тады сей на цэлу руку. *М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2.*

412. Калі запяець удод, тады сей боб. *Дуб., 30.*

а) Калі вясною запяець удод, тады сей боб. *Tyszk., 436; Шпил., Бел., 182; Нос. 63; Dybow., 182.*

б) Удод — сей боб. *Ляцкий, 48.*

413. Ка́сцеры сталі лятаць — пара жыта сеяць. *Дуб., 28; Нос.. Слов., 249.*

414. Што летам народзіцца, тое зімой прыгодзіцца. *Махнач, 24.*

а) Што летам калосіцца, усё зімой згодзіцца. *А. Ліс, 1957, Міёр.*

415. Лета на зіму працуе. *Fed., 163.*

а) Лета на зіму, а зіма на лета працуюць (працуе). *Нос., 75; Калянд., 1921; А. Мацкала, 1965, Іў. 13.3.13. Вар.: Гут., 139; Ахрым., 38.*

416. Летні дзень зіму корміць. *І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3.*

417. Летні дзень за зімовы тыдзе́нь. *Махнач, 24. Вар.: Я. Кіслік, 1966, Іў. 13.10.26.*

а) Летні дзень —на зімнюю нядзелю. *М. Бекіш, 1965, Шчуч. 13.10.1.*

418. Летні дзень — рок. *Fed., 163.*

419. Не поле родзіць, а лета. *Сержп., 83.*

420. Летам нагою, а зімою рукою. *Fed., 163.*

а) Што ўлетку нагою, узімку рукою. *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24. Вар.: Сержп., 140; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

421. Што летам ножкай коп, то зімой ручкай хоп. *Tyszk., 432; Dybow., 192; Л. Салавей, 1971, Мядз.*

а) Што летам нагой коп, то зімой зубам хоп. *Dybow., 18.*

б) Цяпер ножкай коп, а зімой ручкай хоп. *Л. Малаш, 1971, Докш.*

в) Па лету нагою коп, а ўзімку ў рот хоп. *Сержп., 85.*

г) Што ўлетку ножкай коп, то зімой ручкай хоп. *Ляцкий, 14.*

д) Што ўлетку нагою падкінеш, то зімою рукою падымеш. *Fed., 355.*

422. Летам прызапасіш — зімой найдзеш. *В. Калюк, 1965, Навагр. 13.10.6.*

423. Лета прыгатуе, а зіма з'есць. *Fed., 163.*

424. Лета збірае, а зіма паядае. *Сержп., 85, 132. Вар.: Дуб., 33; Шырма, 205; П. Глытава, 1967, Карм. 13.10.19; Г. Румоўская, 1965, Пліс. 13.10.59; Р. Мазгавая, 1967, Лід. 10.13.28.*

а) Лета сабіраець, а зіма праядаець. *Ром., Бел., I, 300; Ляцкий, 19; Сах.*

б) Што лета назбірае, то зіма паз'ядае. *Fed., 163.*

в) Што ўлетку збярэш, тое ўзімку праеш. *Сержп., 85.*

425. Трэба ўлетку назбіраць, каб зімою было што жаваць. *Fed., 163.*

426. Лецічка не ўлежна, дак уежна. *Нос., 75; Дуб., 32.*

427. Летам гуляўшы, восенню не сабярэш. *Нос., Слов., 271; Дуб., 32; Э. Пякарская, 1965, Слон. 13.10.2. Вар.: Калянд., 1921.*

428. Хто ўлетку спіць, той узімку не есць. *В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

429. Хто халадку шукае, той узімку галадае. *Дуб., 68.*

а) Хто ўлеткі халадуе, той зімою галадуе. *Fed., 162.*

б) Хто ўлетку балюе, той узімку галадуе. *Янк. М., 64.*

в) Хто ўлетку цяньку шукае, той узімку галадае. *З. Пякарская, 1965, Слон. 13.10.2.*

430. Лета праляжыш, то ўзімку ў пазыкі пабяжыш. *Сержп. 46.*

431. Прасвістаў лета гарачае, прасвішчы і зіму халодную. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

432. Летам цэбар вады, лыжка балота, а ўвосені лыжка вады, а цэбар балота. *Fed., 163.*

433. Улетку вады мерка — гразі жменька; з асенняе жменькі вады — гразі мерка. *Pietk., 376.*

434. Калі год сухі, купляй пчолку, а калі мокры — кароўку. *Нос., 63.*

435. Калі ўлетку дождж рэдка бываець, тагды ў вуллі мёд прыбываець. *Ляцкий, 17.*

436. Людзі рады лету, а пчолы — квету. *Дуб., 33.*

437. Пастух рад лету, а пчала — цвету. *Сержп., 28.*

438. Благое лета, калі сонца нету. *Сах.*

439. Не прасі лета доўгага, а малі цёплага. *А. Ліс, 1957, Шарк.*

440. Якаво лета, такое і сена. *Ахрым., 61.*

441. Сухое лета не высушыць, а мокрае вымачыць. *Dybow., 18; Fed., 163.*

442. На жару і трава ідзе. *К. Кузняцова, 1963, Маладз. 8.1.80.*

443. Смірнае лета болей ураджайна. *Нос., 151.*

444. Кожны год цяплу рад. *Сержп., 140.*

445. Тымчасам лета не будзець позна. *Нос., Слов., 646.*

446. Летам і качка — прачка. *Dybow., 183; Fed., 243.*

447. Калі камарна, то і хлебна. *Dybow., 182; Fed., 134.*

448. Як яр цвіцець — холадна. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

449. Жыта красуе — быдла гізуе. *Сцяшк., 590, Іў.*

450. Калі боб цвіцець — хлеб есца. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

451. Хавай хлеб на бабовы цвет. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

452. Боб цвіціць і сабака лінаець, дык і пан хлеба не маець. *Л. Салавей, 1971, Мядз. Вар.: В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13. 9. 26.*

453. Вясну хваляць за дажджы, а лета — за снапы. *Сцяшк., 584, Гродз.*

454. Ліпень косіць і жне, доўга спаць не дае. *«ШМ», № 7—8.*

455. Ліпень пякучы, але даручы. *«ШМ», № 7—8.*

456. Хто ў ліпні на полі пацее, таго ўзімку і печка пагрэе. *«ШМ», № 7—8.*

457. У жніўні і верабей піва варыць. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

458. Мінулася тое лета, што лупілася рэпа. *Нос., 78.*

459. Мужыку лета, што святому рай. *Шейн, II, 478, Маг. п.; Fed., 192.*

460. Улетку кожны кусцік начавац пусціць. *Ахрым., 54; Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

461. Не помніць карова зімы, дачакаўшы лета. *Нос., 102; Дуб., 40.*

462. Бабіна лета кароткае. *Мін.-Мал., 1970, 158, Пух.*

463. Спусця лета па маліну не ходзяць. *Сах.*

464. Як багата рабіны — вады па аглаблiны. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

465. Ядроныя верабіны — восенню гразі па аглаблiны. *І. Ламека, 1965, Вайк. 13.10.2.*

466. Як нурцы стадамі на азёры прылятаюць, старыя людзі пагоды не памнятаюць. *Kolb., 472, Пін. п.*

467. Восень — на дзень пагод восем. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

468. Змяна змяне пагоду падае. *Fed., 374.*

469. Увосені ложка вады, вядро гразі. *Fed., 338.*

470. Увосень дажджу з неба капка, а з зямлі дзве. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

471. Асенняе сонца, як удаўцова сэрца. *М. Шлык, 1969, Зельв.*

472. Восень на рабом каню ездзіць. *Fed., 338; Т. Глытай, 1967, Карм. 13.10.23.*

а) Восень на шэрым кані ездзіць. *А. Русіновіч, 1960, Светл. 13.3.29.*

б) Восень і марац на рабом каню ездзяць. *Fed., 338.*

473. Брусніца белабока, і парабак прыспаў сабе вока. *Fed., 438.*

а) Калі брусніка краснавока, тады паспіць вока. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

474. Восень — работ восем. *І. Суконкін, 1960, Церах.; А. Куцакова, 1956, Рат. 13.3.29.*

475. Калі не дагледзіш увосень пашаю, то будзеш зімою акідаць кашаю. *Fed., 338.*

476. Восенню нагою, зімою рукою. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

477. Восенню касі ды на печы сушы. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

478. Восень кажа: «Я ўраджу», вясна кажа: «А я пагляджу». *Athen. Вар.: Fed., 338; І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3; І. Пазняк, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

а) Восень кажа: «Я ўраджу», вясна адказвае: «Пачакай, як дагаджу». *А. Ліс, 1957, Міёр.*

б) Восень кажыць: «Ражу», а вясна кажыць: «Яшчэ я пагляджу». *Аним., 261; Шейн, II, 474.*

479. Увосень за стол просім. *Ляцкий, 47; Сержп., 68.*

480. Увосень і курчаты курамі стануць. *Рапан., 229.*

481. Восень — то матка: кісель ды бліны, а вясною гладка: сядзі ды глядзі. *Я. Шмыгіна, 1965, Навагр. 13.10.2.*

482. Увосень і верабей багат. *Шейн, II, 482; Дуб., 64; А. Лучанок, 1960, Мінск 13.10.19. Вар.: Махнач, 24.*

а) Па восені і верабей багат. *Сержп., 132.*

б) Увосень і верабей сыты. *«Звязда», 21 кастрычніка 1962 г., Лях.*

в) Увосень і верабей піва варыць. *1961, Брасл. 13.9.5.*

г) Увосень і ў верабʼя піва. *Я. Шмыгіна, 1965, Навагр. 13.10.2.*

483. Па восені і ў кошкі ляпёшкі. *Дуб., 47.*

а) Па восені і ў кошкі ляпёшкі і ў верабʼя піва. *Нос., 128: 1961, Кап. 13.9.5.*

484. Увосень і грач — багач. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

485. Красна восень снапкамі, а зіма ўмалотам. *Рапан., 222.*

486. Увосень давай карове, што есць, а ўвесну, што ёсць. *Янк., Дыял., І, 221, Глуск.*

а) Увосень карове давай, што есць, а зімой, што ёсць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

487. Кастрычнік зямлю балоціць, а лес дык залоціць. *«ШМ», № 11.*

488. У кастрычніку і хата з дравамі, і мужык з лапцямі. *«ШМ», № 11.*

489. Не цяпер па грыбы хадзіць, да ўвосені, як будуць радзіць. *Fed., 118.*

490. Калі грыбна, дак і хлебна. *Шпіл., 182; Нос., 63; Dybow., 12; Дуб., 26.*

491. Калі грыбна, то не хлебна. *Fed., 119.*

492. Калі родзяць грыбы, то і жыта зародзіцца. *Fed., 118.*

493. Час не чакае. *Сержп., 132.*

494. На ўсё трэба час. *Fed., 64.*

495. Час на час не ўдаецца. *Сержп., 134. Вар.: Нос., 17.*

496. Пара́ пары́ шукае. *Fed., 220.*

497. Без пары́ не будзе пары́. *Берман, 36.*

498. Год — вялік чалавек. *Нос., 25.*

499. Год не пальцам пераківаць. *Нос., 25.*

500. На адзін год многа прыгод. *Fed., 248.*

а) Год мае багата прыгод. *Янк., Дыял., I, 206, Глуск.*

б) На год сем прыгод. *Сержп., 23.*

в) На год сем прыгод, а на вяку — без ліку́. *Ляцкий, 22; Сержп., 22.*

501. Гадзіна гадзіне, год году — розь. *Нос., 25; Ляцкий, 7.*

502. Год на год не прыходзіцца. *Ляцкий, 8; М. Юдо, 1965, Віл. 13.10.1; Сцяшк., 585, Гродз.*

503. Рок не век. *Fed., 262.*

504. Рок — нявечны срок. *Нос., 145.*

505. Ракавое не векавое. *Дуб., 53.*

а) Не векавое, да ракавое. *Fed., 257.*

506. Дзень — бацька, а ноч — маці. *Ляцкий, 10. Вар.: Нос., 116.*

507. Дзень дню розь: адзін — матка, а другі — мачаха. *Нос., 33.*

508. Дзень выганяе з хаты, а ноч прыганяе. *Fed., 94.*

509. Дзень падаўжаў, да нітка пакарочала. *Fed., 203.*

а) Дзень даўжэй — нітка карацей. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

510. Дзень наш (мой), век наш (мой). *Czeczot, 108; Шпил., Бел., 179; Ром., Бел., I, 294; Fed., 94; Pietk., 368.*

а) Наш дзень, наш і век. *Юрч., 1974, 150.*

511. Дзень хваліцца вечарам. *Янк. М., 20.*

512. Дзень — век, а гадзіна ў прыдатку. *Ляцкий, 10.*

а) Дзень наш — век, гадзіна — прыбаўка. *Нос., 33; Ляцкий, 10; Дуб., 13.*

513. Учарашняга дня не вернеш. *Ахрым., 57.*

а) Учарашняга дня не дагоніш. *Fed., 94.*

514. Учарашняга дня не шукаюць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

515. У адзін дзень сем перамен. *Нос., 20; Fed., 227.*

516. Хвіліна і дзень сцеражэ. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

517. У бога дні роўныя, да часы няроўныя. *Fed., 64.*

518. Гадзінка на гадзінку не выпадае. *Ляцкий, 7.*

519. Што гадзіна, то навіна. *Ляцкий, 60; Fed., 98, 199.*

520. Утра вечара разумней. *Ляцкий, 52.*

521. Вечар смутны — вутра радаснае. *Добр., Смол., 11.*

522. Дзень прайшоў, да нас дайшоў. *Нос., 33.*

523. Абы дзень прайшоў да вечар прыйшоў. *Сержп., 45.*

524. Ноч — маці. *Fed., 204.*

а) Ноч — матка, усё гладка. *Ром., Зап., III, 225; Сержп., 87.*

525. Ноч — маці, дзень — мачаха, вечар — залоўка, раніца — ятроўка. *Л. Малаш, 1972, Докш.*

526. Ноч—добрая дарадчыца. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

527. Першыя пеўні — поўнач, другія пеўні — пара ўставаць, трэція пеўні — пярэдсвет. *Fed., 234.*

528. Не заўсёды світае, як певень спявае. *Суяшк., 601, Гродз.*

529. Яшчэ чэрці на кула́чкі не біліся. *М. Грынблат, 1930, Мінск.*

а) Яшчэ чэрці на ўкала́чках не білісь. *Раст., 144.*

530. Зімняя ночка — бацьку сарочка. *Нос., 49. Вар.: Сержп., 132.*

а) Зімняя ночка — дзеткам сарочка. *Жанч., 272.*

531. Ноч — сваё дзела. *Сержп., 65, 133.*

532. Аб восень ноч маці — выспімася. *Сержп., 132.*

533. Ноч пераспаць — не век векаваць. *М. Грынблат, 1967, Мсціс. 8.1.106.*

534. Ноч — як дзікай казе пераскочыць. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

535. Чым ноч цямней, тым агні відней. *М. Шавель, 1960, Івац. 13.9.24.*

536. Мая матка не адкладала да пя́тка (да ля́тка). *Нос., 80; Дуб., 34.*

537. Хто ў пятніцу спявае, той у нядзелю плача. *Fed., 229.*

а) Хто ў пятніцу вельмі вясёлы, той у нядзелю адплача. *Pietk., 385.*

538. Даўнейшая субота ад нядзелі. *Fed., 293.*

539. Калісь то было, да сплыло. *Ляцкий, 17.*

540. Тагды то й было, як па вадзе плыло. *Нос., 163.*

541. Што было, даўно на мора сплыло. *Fed., 77.*

542. Калісь то было, да быллем зарасло. *Нос., 65.*

543. Многа вады ўпа́дзе, пакуль тое будзе. *Fed., 45.*

а) Многа ў моры вады ўпадзе, пакуль мы таго прыжджэм. *Fed., 251.*

544. Ногі задзярэш, пакуль прыжджэш. *Fed., 251.*

545. Будзе на цэлы век і на вяку на тры дні. *Fed., 44.*

546. Патуль буду помніць, пакуль пароша вочы не заплюець. *Дуб., 52.*

547. Як рак свісне. *Fed., 257.*

а) Гэта будзе, калі рак свісне. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

б) Заўтра ў тую пару, калі рак паляціць з вады ўгару. *Pietk., 339.*

548. Тады тое будзе, як на далоніваласы парастуць. *Fed., 46.*

549. Як воўк будзе шчэням і хвастом брахаць будзе. *Fed., 339.*

550. Без прыкмет ходу нет. *Сержп., 83.*

551. Без прыкмет не будзе хлеба на абед. *Сержп., 83.*

552. Піліпаўскі дзед кажа: хоць трашчу, але не пушчу. *Янк., Мат., 184, Глуск.*

553. Пуста места запусты, пусці, божа, куцейку. *Шейн, II, 480, Віл. п.*

554. У пiлiпаўку дзень да палудня. *Fed., 234.*

555. На святога Сцяпан кажан парабак сабе пан. *Нос., 88; Ілюстров, 235. Вар.: Fed., 302.*

а) На святы Сцяпан усякi сабе пан. *Киркор, 234; Дмитр., 238; Fed., 302.*

б) Дзiсяй Шчыпан, то ўжэ парабак — пан. *Fed., 302.*

556. На святога Сцяпана парабак лепшы за пана. *Fed., 302.*

557. На святога Сцяпана найду другога пана. *Нос., 88.*

558. Каляды, то ён цяпер пан. *Шпил., 183.*

559. Чаля́дзi па калядзi. *Ляцкий, 58.*

560. Ужо тыдзень да каляд — пан з сваёй чэлядзi не рад. *Янк., 64.*

а) Прыждалi святых каляд, пан з сваёй чэлядзi не рад. *Fed., 147.*

561. Па калядах уночы трашчыць, а ўдзень плюшчыць. *Fed., 147.*

562. Сабачкi брэшуць, калядкi будуць; мароз стучыць, вароты адчыняць вялiць. *Ляцкий, 39.*

563. Калi польскiя каляды трашчаць, дык нашы плюшчаць, калi ж польскiя плюшчаць, то нашы трашчаць. *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

564. Наўрад, штоб стала хлеба да каляд. *Дуб., 41; Нос., 83.*

565. Ад каляд не iдзець у лад. *Tyszk., 417.*

566. Як прыдуць каляды — мужыкi мякiне рады, а як прыдуць зажынкi — няма хлеба нi асьмiнкi. *І. Новiкаў, 1961, Жытк.*

567. Прышлі калядкі — бліны ды аладкі. *Нос., 139; Дуб., 48; 1961, Брасл. 13.9.5; М. Грынблат, 1974, Пух.*

а) Калядкі — добрыя святкі: бліны ды аладкі. *«ШМ», № 13.*

568. Калядкі — добрыя святкі: пад'еў ды на палаткі. *Мін.-Мал., 1970, 161, Уздз.; К. Цвірка, 1974, Валож. 8.74.80.*

а) Калядкі — добрыя святкі: наеўся, напіўся да й на палаткі. *Fed., 147.*

569. Калядкі — добрыя святкі, але мароз праклятьі. *Я. Шмыгіна, 1965, Навагр. 13.10.2.*

570. Каляды — крысціяне рады. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

571. Святое раство — людзям прыгаство. *Бяльк., 349, Краснап.*

572. На каляды — кілбаса, на вялікадня — сыр, а ўсё чалавек сыт. *Ляцкий, 51.*

573. Пакінь сваё «дам» к калядам. *Янук.*

574. Стань у раду, дастанеш каляду. *Fed., 184.*

575. Прападай ты, пане, з калядою, аддай мой мех. *Fed., 134. Вар.: Нос., 140; Дуб., 45.*

576. Калядкі — гаспадарскія парадкі. *Нос., 66; Дуб., 28.*

а) Насталі калядкі, гаспадарам парадкі. *Нос., 88.*

577. Калі калядкі, рабі сам і парадкі. *Ляцкий, 16.*

578. Ад каляд тры разы пяць, пастушкі ў поле ляцяць. *Tyszk., 437; Нос., Слов., 209.*

а) Выхавай после каляд тры пяць, то людзі ў поле ляцяць. *Берман, 36.*

579. На Новы год хавай скот. *С. Бахмет, 1969, Астр.*

580. На Новы год ясна, будзе ў гумне цясна. *Сах.; Н. Падафалава, 1951, Дуніл. 13.10.40.*

581. Святое Васілля — людзям красілля. *Бяльк., 434, Краснап.*

582. На Новы рок прыбудзе дня на зайчын скок. *«ШМ», № 1. Вар.: А. Рахунак, 1967, Зельв. 13.10.24.*

583. Трэшчы не трэшчы, ужо мінулі вадахрэшчы. *Fed., 325.*

а) Трэшчы не трэшчы, прашлі вадахрэшчы — не к ражству, а к Пятру. *Раст., 59.*

584. На вадохрышча чарцей з вады выганяюць. *Сержп., 71.*

585. На святога Ігната зіма багата, а Ігнат грамніцам рад. *«ШМ», № 2.*

586. Грамніца — зімы палавіца. *Czeczot, 116; Tyszk., 437; Нос., 29; Dybow., 9.*

а) Грамніцы — палавіна зіміцы. *Крапіва, 248; К. Кабашнікаў, 1960, Кап. 8.1.57; А. Ліс, 1965, Смарг.; Р. Мазгавая, 1967, Лід. 13.10.28.*

587. Грамніцы — скідай рукавіцы. *М. Грынблат, 1973, Круп.*

588. Грамніца — хлеба палавіца, зімы трэцяя часць. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

589. На грамніцы трэба, каб было хлеба палавіца, а пошару — траціна. *Мат., 175.*

590. На грамніцы нап'еццa пятух вадзіцы. *І. Курбека, 1961. Докш. 13.9.7.*

591. На грамніцы можна пеўню напіцца. *Сах.*

592. Як на грамніцы нап'ецца певень вадзіцы, то на Юр'я наесца вол травіцы. *Суяшк., 617, Зельв.; М. Смурага, 1967, Свісл. 13.10.28.*

593. Калі на грамніцы певень не нап'ецца вадзіцы, то на Юр'я вол не наесца травіцы. *Athen.*

594. Як на грамніцы адліга — з ураджаю будзе хвіга. *«ШМ», № 2.*

595. Стрэчанне — палавіна зімы. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

596. Стрэчанне святое лета сустракаець. *Нос., 156.*

597. Стрэчанне — зіма з летам страчаецца. *М. Грынблат, 1927, Тур.*

598. Масленіца — палізуха: сыр і масла палізала. *Добр., Смол., 45.*

599. Масленка з блінамі, а пост з грыбамі. *Бяльк., 139, Краснап.*

600. Будзе масленка, будзе ля пупа красненька. *К. Кабашнікаў, 1973, Бых. 8.73.73.*

601. Масленіца-пакатуха, працянісь-ка ты да духа. *Добр., Смол., 45.*

а) Масленка, палізуха, працягніся, масленка, хоць да духа. *Раст., 276. Вар.: Раст., 191.*

602. Масленка, бела вутка, казала вясна: буду, да не хутка. *Раст., 157.*

603. Прышоў месяц-лізун. *Tyszk., 423; Нос., 139; Pietk., 376; Янк., Дыял., I, 219, Глуск.*

604. Пост падняў хвост, а мне масленіца. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

605. Пост не мост: аб'ехаць можна. *І. Цішчанка, 1970, Астр. 8.2.29.*

606. Уласаў дзень — каровінае свята. *«ШМ», № 2.*

607. Каля Уласа сем марозаў: тры да Уласа, адзін на Уласа і тры пасля Уласа. *«ШМ», № 2.*

608. На Казіміра зіма памірае. *Л. Войшэль, 1961, Гродз. 13.10.13.*

а) На Казімера зіма ўмéра. *Fed., 143; Суяшк., 599, Воран.*

609. На Мацея зіма (дарога, зямля) пацее. *Czeczot, 116; Tyszk., 437; Шпил., Бел., 184; Нос., 88; Dybow., 13; Берман, 37; Дуб., 42а; Fed., 174.*

610. На Мацея зіма слабее. *Dybow., 184.*

611. На Мацея дарога пацее, на сaракі дрэвы адпушчаюцца, на Аляксея рыба хвастом лёд ламае, і на благавешчанне прылятаець бусел. *Берман, 37.*

612. Няхай Касьян прыплюшчыць свае вочы і не глядзіць ні навошта. *Добр., Смол., 45.*

613. На Яўдокі голы бокі. *Радч., 247.*

614. На Яўдокі намнуць бокі. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

615. На Рыгора зіма ідзе ў мора. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

616. На сaракі пайшла зіма да ракі. *М. Грынблат, 1972, Лаг.*

617. На сaракі ў адзін дзень сорак марозаў. *Сержп., 72.*

618. Калі на сорак мучанікаў мароз, то яшчэ сорак марозаў будзе. *Fed., 286.*

619. На саракі вылятае сорак выраёў. *М. Грынблат, 1973, Бярэз.*

620. На святога Прыска праб'ецъ лёд і пліска. *Нос., 88.*

621. Святы Вайцеху выпусціў жаўранка з меху. *Сах.*

622. На Ляксея шчука хвастом ледзь прабіваецъ. *Нос., 85.*

623. Аляксей прайшоў — лядок пакалоў. *І. Хаўратовіч, 1951, Кругл., 13.8.4.*

624. На Ляксея пакідай сані, рыхтуй калёсы. *«ШМ», № 13.*

625. Якое благавешчанне, такі вялікдзень будзе. *Fed., 32.*

626. Да благавешчання зіму не лай і сані трымай. *Г. Цітовіч, 1974, Лельч.*

627. На благавешчанне ў звон, а із морквы дух вон. *Нос., 82.*

628. На благавешчанне і птушка гнязда не кладзець. *Нос., 82.*

а) На благавешчанне дажа птушка гнязда не ўе. *М. Грынблат, 1973, Бабр.*

629. На благавешчанне дзеўка косу не пляце, птушка гнязда не ўе. *Сержп., 71.*

630. З благавешчанскага цяляці каровы не ждаці. *Ляцкий, 39.*

631. На Мікіту няма ні зімы, ні лета. *Дуб., 41.*

632. Святы Андрэю, канапелькі сею. *Сержп., 71.*

633. Два Юр'я ды абодва дурні: адзін галодны, а другі халодны. *Дуб., 17; Крапіва, 233; М. Грынблат, 1946, Староб.*

*9.1.8; М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; Сах.; 1962, Шарк. 8.2.43а. Вар.: Сержп., 72; Fed., 131.*

а) Два на гаду Юр'і ды абодва дурні: увосень халодны, а ўвясну галодны. *Д. Вайтушка, 1965, Лід. 13.10.1.*

б) Былі два Юр'і, два дурні: адзін галодны, другі халодны. *Р. Мазгавая, 1967, Лід. 13.10.28.*

634. Святы Юрай халодненькі, святы Пятрок галодненькі, а святое Ілья харошае й багатае. *Г. Барташэвіч, 1965, Слуцк. 8.1.99а.*

635. Да Юр'я кармі дурня, а после Юр'я сам пракорміцца. *Нос., 37.*

636. Юр'ева раса, не трэба канем аўса. *Czeczot, 116; Киркор, 237; Нос., 192; Fed., 131.*

637. Юры з расой, а Мікола з сяўбой. *Ром., Бел., I, 315.*

638. Юры з цяплом, а Мікола з кармом. *Нос., 191.*

639. Юры нап'ецца, і Мікола не астаецца, да й Іван бы піў, каб хто купіў. *Нос., 191.*

640. Як на Юр'я пагода, то на грэчку няўрода. *Fed., 131.*

641. Калі на Юр'я мароз, дык сей на балоце авёс. *Н. Падафалава, 1953, Дуніл. 13.10.40.*

642. На Юр'я мароз — будзе добры авёс. *«ШМ», № 4.*

643. Як дождж на Юр'я, то будзе хлеб і ў дурня. *Fed., 36.*

644. Калі прыдзе Юры, не ўгледзіш у жыце куры. *«ШМ», № 4.*

645. Сказаў святы Юр'я: «Я жыты ўраджу», а святы Мікола: «Як я пагляджу». *Ляцкий, 41.*

а) Юры сказаў: «Жыты ўраджу»; Мікалай адказаў: «Пажджы, пагляджу». *Tyszk., 437; Dybow., 192; Нос., 191.*

646. Дождж на Марка, дык зямля, як скварка. *«ШМ», № 4.*

647. Свята вербніца сошкі правіць. *М. Грынблат, 1973, Круп.*

648. Як на чысты чацвер добрая пагода, то і на ўшэсце. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

649. З вялікдзеня птушкі пачынаюць пець. *Сержп., 71.*

650. На вялікдзень першы раз зяўзюля кукуе. *Сержп., 71.*

651. Кукушка кукуе ад вялікадня да Пятра, а пасля Пятра — ні дня. *К. Кабашнікаў, 1973, Бых. 8.73.73.*

652. Прышоў Алісей — авёс пасей. *«ШМ», № 4.*

653. Правады на веташку, насенне ў гаршку. *Дуб., 50.*

654. На раданіцу да абеда пашуць, па абедзе плачуць, а ўвечару скачуць. *Нос., 87; Дуб., 42.*

655. Барыс і Глеб сеюць хлеб. *«ШМ», № 5.*

656. З перапалаўной серады можна купацца да Ільі. *«ШМ», № 5.*

657. Сей лён на Станіслава, вырасце, як лава. *«ШМ», № 5.*

658. Да Міколы няма дабра ніколі. *Шпил., Бел., 179; Дуб., 17.*

659. Дзяржы сена да Міколы, не пабаішся зімы ніколі. *Fed., 186.*

а) Мей сена да Міколы, не бойся зімы ніколі. *Tyszk., 437; Шпил., Бел., 184; Нос., 137.*

б) Хавай сена да Міколы, не будзеш зімы баяцца ніколі. *Ляцкий, 51.*

в) Беражы сена ад Міколы да Міколы і не бойся зімы ніколі. *Ром., Бел., I, 291.*

660. Веснавы Мікола каня абкорміць. *«ШМ», № 5.*

661. Калі сееш авёс па Міколі, то будзе карміна для коні. *Fed., 186.*

662. Па Міколі не сей аўса ніколі. *Fed., 186.*

663. Як няма [у полі] у Міколі, то няма ніколі. *Fed., 186.*

664. Прышоў Мікола — высыпаў мошак з пола. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

665. Прышла Мікола — сей, не пытай ні ў кога. *Шейн, II, 480, Ашм. п.*

666. Да Міколы не сей грэчкі ніколі. *I. Хаўратовіч, 1951, Талач. 13.8.4.*

667. На Міколу нету ні зімы харошай, ні лета. *Нос., 86.*

668. Да Міколы няма харошай дарогі ніколі. *Нос., 37.*

669. Мікалай зімой з марозам, а вясною з цяплом і з кармом. *Нос., 77.*

670. Колькі адзін Мікола дасць снегу, столькі другі дасць травы. *Fed., 186.*

671. Мікола сказаў: «Святкуй мяне і бацьку майго». *Ром., Бел., I, 300.*

672. Прышлі Сідары, прышлі і сіверы. *«ШМ», № 5.*

673. Пахом павее цяплом. *«ШМ», № 5.*

674. Ад Васіліска і салавей блізка. *«ШМ», № 5.*

675. Калі выйдзець рой перад Янам, будзець зямец панам. *Tyszk., 436. Вар.: Нос., 65; «ШМ», № 5.*

676. Даглядай мяне да Яна, то я це выведу на пана. *Fed., 125.*

677. Не паліняла карова да Яна, то няхай ідзе да другога пана. *Шырма, 20.*

678. Калі не выліняў конь да святога Яна, няхай ідзець да другога пана. *Tyszk., 436; Дуб., 271.*

679. Сей лён на Галену, а будзе кашуля па калена. *«ШМ», № 5.*

680. Да святога духа не скідай кажуха. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29. Вар.: А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

681. Да святога духа не скідай кажуха, а па святом духу — у тым самым кажуху. *Гильт., 292, Віл. п.; Берман, 41; Ляцкий, 9.*

а) Да духа не здзявай кажуха, а па дусе — у тым жа кажусе. *Нос., 36; Дуб., 16. Вар.: В. Ківель, 1967, Нясв. 13.10.21.*

682. На духа будзець цёпла і суха. *М. Грынблат, 1967, Мсціс л. 8.1.106; Г. Барташэвіч, 1965, Арш. 8.1.99.*

683. На зелянец вясны канец. *Fed., 354.*

684. Юстын цягне ўверх каноплі, Харытон — лён. *«ШМ», № 6.*

685. На Тодара раса — канапель паласа. *«ШМ», № 6.*

686. Хто на Нупрэя пасее грэч, той будзе бліны печ. *«ШМ», № 6.*

687. Прарок Амос цягне ўгору авёс. *«ШМ», № 6.*

688. Дзевятнік — жыта раўнуе. *«ШМ», № 6.*

689. Дзесятнік — жыта красуе. *«ШМ», № 6.*

690. На Івана ноч адарвана. *Шейн, II, 478, Ігум. п.*

691. Яны́ правяць ільны. *Шырма, 207.*

692. На Яна баба п'яна, а на Пятро — у жыце ядро. *Сах.*

693. На Янах нажала, на Пятра напякла. *Шейн, II, 478, Ашм. п.*

694. На Яна нажала, на Пятра напякла, на Барыса елі, хоць расперажыся. *Антоп. 13.8.3.*

695. Да Яна — для пана, а па Пятры — на вяпры. *Fed., 125.*

696. На Купалу, што зрабіў — усё прапала. *К. Кабашнікаў, 1960, Нясв. 8.1.57; А. Гурскі, 1960, Слуцк. 8.1.51.*

а) На Купала, што здзелаў — то прапала. *І. Хайратовіч, 1951, Талач. 13.8.4.*

б) На Купала ўсё, хто што зробіць, прапала. *1959, Баг., 8.9.42.*

697. На Купала чэрці ў вадзе купаюцца. *Сержп., 71.*

698. Пятроўка — галадоўка. *М. Грынблат, 1971, Глыб. 8.2.43.*

699. Пятроўка — галадоўка, спасаўка — ласаўка. *Мат., 184, Мін. Вар.: Нос., 154; Дуб., 58.*

700. Чакай Пятра — з'ясі сыр. *А. Фядосік, 1959, Леп. 9.3.11.*

а) Жджы Пятра — пад'ясі сыру. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

701. Да Пятра — з макатра́, па Пятры — у макатры́. *Шейн, II, 476, Ігум. п.*

702. К Пятру хлеба толькі ў вядру, а на Ільюю хоць на печ налію, а як прышоў Спас, будзець хлеба з нас, а ўжо як прышла гаспажа — у нас хлеба поўна дзяжа. *Шейн, II, 478, Ігум. п.*

703. На Пятра баба хлеба напякла. *Суяшк., 599, Воран.*

704. Пачынай касіць не з Пятра, а калі вырасце трава. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29; Суяшк., 605, Шчуч.*

705. Хто ў пятроўку сена не косіць, той зімою ў сабак просіць. *Pietk., 391.*

706. Святы Пётра ў косы звоніць, а святы Паўла граблі робіць. *«ШМ», № 6.*

707. Калі на Пятра пойдзець дождж, будзець жыта, як хвошч. *Tyszk., 437; Нос., 64. Вар.: А. Рахунак, 1967, Зельв. 13.10.24.*

708. Прышоў Пятро — забраў машок у вядро. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

709. Кукушка да Пятра кукуе. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

710. Павел у Пятра кароўку ўкраў. *Нос., 124.*

711. Павел-Пятро такі, што як яму ні гадзі, а ён усё глухі. *Хрэстам., 219.*

712. Прышоў Пятрок — адарваў лісток. *М. Канцавая, 1967, Чач. 13.3.29.*

713. Прышоў Пятрок — адпаў лісток, прышла Ілля — адпала два. *Tyszk., 438; Нос., 139. Вар.: Ром., Бел., I, 306.*

а) Прышоў Пятрок — адарваў лісток, прышоў Ілля — нарабіў гнілля. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

714. Прышоў Пятрок — апаў лісток, прышоў Ілля — апалі два, прышоў Барыс — асыпаўся ўвесь ліст. *М. Грынблат, 1973, Асіп.*

715. Прышоў Пятрок — апаў лісток, прышоў Ілля — апала два, прышоў Барыс — усё пагрыз, прышоў Міхал — усіх з поля паспіхаў. *І. Саламевіч, 1975, Слон.*

а) Прышоў Пятрок — апаў лісток, прышоў Ілля — апала два, прышла прачыста — стала чыста. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

б) Прышоў Пятрок — адпаў лісток, прышоў Ілля — адпалі два, прышла прачыстая — увесь лес чысты (пачысціла). *Ляцкий, 36; М. Грынблат, 1974, Пух.*

в) Прыйшоў Пятрок — адпаў лісток, а прыйшла Ільья—адпала два, прыйшла прачыстая — замяла ды паціснула. *Klich, 49.*

г) Прышоў Пятрок — апаў лісток, прышоў Ілья — адпала два, а прышла прачыстая — саўсім ачысціла. *Калянд., 1921.*

д) Прышоў Пятрок — апаў лісток, прышла прачыста — апалі ўсе чыста. *В. Півень, 1967, Нясв. 13.10.25.*

е) Прышоў Пятрок — апаў лісток, прышло Лья — упала два, прышло ўспленне — усё абляцела. *М. Смурага, 1967, Свісл. 13.10.28.*

ж) Прышоў Пятрок — апаў лісток, прышоў Ілья — апала два, прышлі святкі — апалі ўсе лісткі. *Дуб., 50.*

716. Прышоў Пятрок — адпаў лісток, прыдзе Ілья — адпадуць два, а па ўсіх святых — не будзе іх. *«ШМ», № 6.*

717. Прыйшоў Пятрок — апаў лісток, прыйшла Ілья — апала два, а восень кажа: «Тут і я». *А. Ліс, 1954, Смарг.*

718. Прышоў Пятрок—час дня ўвалок, прышоў Ілья-прарок— два часа ўвалок. *М. Грынблат, 1969, Хоц.*

719. Калі Пётра з Паўлам плачуць, дык людзі праз тыдзень сонца не ўбачаць. *«ШМ», № 6.*

720. На Кузьму і Дзямяна касіць не рана. *«ШМ», № 7—8.*

721. Кузьма і Дзямян прышлі — на сенакос пашлі. *«ШМ», № 7—8.*

722. Святы Пятро жыта спеліць, святы Кузьма сякеры робіць, а святы Дзямян сена грабіць. *«ШМ», № 7—8.*

723. Пракоп бок прыпёк. *Нос., 140.*

724. Ільля дасць гнільля. *М. Грынблат, 1964, Пол. 8.1.87.*

а) Прыйшоў Ільля — даў гнілля. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

б) Ільля наробіць гнілля. *Tyszk., 438; Шпил., Бел., 181; Dybow., 10; Fed., 123.*

в) Прыдзець Ільля — наробіць гнільля. *М. Грынблат, 1971, Глыб. 8.2.43.*

г) Святы Ілля нарабіў гнілля. *Бяльк., 434, Мсцісл. Вар.: В. Мінкелевіч, 1949, Кір. 8.1.24.*

725. Пасля Ілы вада з зямлі. *Янк., Дыял., I, 218, Глуск.*

726. Прышоў Ільля, накідаў у рэчку галля. *В. Бондар, 1967, Мін. 13.10.24.*

727. Да Іллі просяць аб дождж, а па Іллі і баба хвартухом нагоніць. *Tyszk., 438; Шпил., 178.*

а) Да Іллі поп просіць у бога дажджу, а после Іллі і баба хвартухóм нагоніць. *Калянд., 1921.*

728. На Іллю да абеда лета, а после абеда восень. *Нос., 86; «ШМ», № 7—8.*

729. Калі на Лью пагода, то восень будзе сухая. *М. Смурага, 1967, Свісл. 13.10.28.*

730. Калі на Іллю няма дажджу, то пажары будуць. *Нос., 64.*

731. Ілля чарцей палюе. *Сержп., 71.*

732. Ілля ваюе з чартамі, іх б'е перунамі. *«ШМ», № 7—8.*

733. Ілля па небу тарахціць. *Сержп., 71.*

734. Святы Ілля — слаўная жняя. *Нос., 148; Калянд., 1921; «ШМ», № 7—8.*

735. Ілля жніво пачынае, а лета канчае. *«ШМ», № 7—8.*

736. Ілля на полі копы лічыць. *«ШМ», № 7—8.*

737. Ілля блізка: гніся, баба, нізка, уставай раненька, ды жні дапазненька. *Ляцкий, 14.*

738. Да Іллі на сене пуд мёду, а па Іллі — пуд гною. *«ШМ», № 7—8.*

739. Да Іллі хоць адным зубам падзяры. *Tyszk., 438.*

а) Да Ллі хоць адным зубам зямлю парні. *Нос., 136.*

740. Лля пытае, ці гатова ралля, а ўспленне, ці гатова насенне. *М. Смурага, 1967, Свісл. 13.10.28.*

741. На Іллю хлеба малю, а на Барыса — еш, хоць распрыся. *Л. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.61.*

742. На Іллю поўну печ хлеба налію. *Киркор, 238; Шпил., 184; Dybow., 184. Вар.: Ром., Мат., 84; І. Ламека, 1965, Вайк. 13.10.2.*

а) На святога Іллю я ў печ увалью. *Г. Барташэвіч, 1965, Слуцк. 8.1.99.*

б) На Іллю перапечку налію. *Tyszk., 438; Ляцкий, 23; Дуб., 41.*

в) На Іллю наллю перапеч поўну печ. *Сержп., 33.*

г) На Іллю поўну печ перапеч наллю. *Нос., 86.*

743. На святога Гальяша з новых круп каша. *«ШМ», № 7—8.*

744. Ільля ў ляшкі налье. *«Ніва», 1973, № 35, Гайн. п.*

745. На Ільлю на лісток налью, на аспажу — цэлую дзяжу, а на аспожку — хлеба крошку. *Сцяшк., 599, Смарг.*

746. Магдалена — вады па калена. *Сах.*

747. Барыс і Глеб: паспеў хлеб. *Ляцкий, 3.*

748. На Глеба і Барыса хлеба напарыся і за раллю бярыся. *«Ніва», 1973, № 35, Гайн. п.*

749. Святы Барыс снапы зносіць, а святыя Ганны дамой звозяць. *Дуб., 54; «ШМ», № 7—8.*

750. На Барыса новага хлеба нажарыся. *Fed., 23.*

751. Барыс — за саху бярысь. *Ляцкий, 3.*

752. Барыс — сам бараніcь. *Ляцкий, 3.*

а) Барысе, Барысе — сам бараніся. *Шпил., 175; Fed., 23. Вар.: Dybow, 18.*

б) На Барыса сам бараніся. *«ШМ», № 7—8.*

753. Святая Ганна спаць кладзе. *«ШМ», № 7—8.*

754. На Якуба хлеба поўна губа. *Сцяшк., 600, Смарг.*

755. На Якуба грэе люба. *«ШМ», № 4.*

756. Які Якуб да поўдня, такая да снежня зіма. *«ШМ», № 7—8.*

757. Хто на Сілу жыта пасее, у таго на хлеб надзея. *«ШМ», № 7—8.*

758. Святы Базыль авечкам воўну дае. *«ШМ», № 7—8.*

759. Пасля Мацея мужык на полі не пацее. *Рапан., 226.*

760. Добра яблычка к іспасу. *Сержп., 132.*

761. Прышоў спас у самы час. *Калянд., 1921.*

762. Спас — усяму час. *Tyszk., 438; Крачк., 153.*

а) Прышоў спас — усяму час. *Нос., 139.*

763. Прышоў іспас — пашло лета ад нас. *Мін.-Мал., 1970, 165, Клец.*

а) Прышоў спас — і лета ад нас. *«ШМ», № 7—8.*

764. Прышоў спас — не стала нас. *К. Кабашнікаў, 1973, Бых. 8.73.73.*

765. Прышоў спас — памілуй нас, а прыдзе прачыстая — возьме нас сіла нячыстая. *Калянд., 1921.*

766. Спас, спасі нас. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

767. Прышла прачыстая — стала поле чыстае. *Дуб., 50; Сержп., 132.*

768. Прачыстая прынясе хлеба чыстага. *«ШМ», № 7—8.*

769. Прышла прачыстая — перапечка чыстая. *Шейн, II, 480, Ігум. п.*

770. Спажа — хлеба дзяжа. *А. Ліс, 1955, Смарг.*

а) Аспажа — хлеба поўная дзяжа. *М. Грынблат, 1971, Глыб. 8.2.43.*

771. Аспожка — хлеба нямножка. *А. Ліс, 1955, Смарг.*

772. Прышоў трэці спас — бяры рукавіцы ў запас. *Калянд., 1921.*

773. Ад спаса дай рукавіцы паса. *Athen.*

774. Святы Баўтрамей душыць аваднёў і траціць мухі. *«ШМ», № 7—8.*

775. Прышоў Баўтрамей (Бартламей) — жыта на зіму сей. *Fed., 22; Дуб., 50; Нос., 139.*

776. На Баўтрамея то кажды жыта сее. *Fed., 22.*

777. На Івана прасіце, дзеткі, у бога дажджу, а пасля Івана я і адзін упрашу. *Крэмнеў.*

778. У стагначá хопіць хлеба да багача. *Сцяшк., 612, Слон.*

779. Багач — бярыся за рагач, ідзі пад авёс гараць. *Fed., 18.*

780. Багач — заткнуў у страху рагач. *Б. Пятроўскі, 1969, Нясв.*

781. Прышоў багач — кідай рагач, бяры сявеньку, сей памаленьку. *Сержп., 33. Вар.: Fed., 18; А. Хомка, 1965, Вайк. 13.10.3; В.Ківель, 1967, Нясв. 13.10.21.*

782. На Барыса за рагач бярыся, а прыдзе багач — кідай рагач, бяры сявеньку і сей памаленьку. *Ром., Мат., 84.*

783. Прышоў багач — рыкнуў рагач; прышла пакрова — рыкнула карова. *Fed., 18.*

784. Да багача баба рабачá, па багачы — хоць за плот валачы. *В.Ківель, 1967, Нясв. 13.10.21.*

785. Іван Багуслаў дружкі разаслаў, а аб пакрове дзеўка гатова. *Калянд., 1921.*

786. Калі да пакроў не было снегу, не будзе яго яшчэ дзве нядзелі. *М. Грынблат, 1974, Пух.*

787. Святыя пакровы пакрываюць траву лістам, зямлю снегам, ваду мёдам, а дзяўчат шлюбным чэпкам. *«ШМ», № 11.*

788. Прыйшла пакрова, пытае, ці ты да зімы гатова. *М. Смурага, 1967, Свісл. 13.10.28.*

789. Прышла пакрова — усохла дуброва. *Радч., 248.*

790. Пакровы — зарыкалі каровы. *М. Грынблат, 1972, Слон.*

а) Пакрова — зарыкала ў хляве карова. *М. Шлык, 1969, Зельв.*

791. Ад пакровы дай карове. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6.*

а) На пакровы дай сена карове. *Антоп. 13.8.3.*

792. Хто сее па пакрові, не будзе меў чаго даць карові. *Fed., 213.*

793. На пакроў мароз — сей пад кустом авёс. *Мат., 175.*

794. Пакроў, пакрый ваду лёдам, а пчалу мёдам. *М. Грынблат, 1971, Глыб. 8.2.43.*

795. Пакрова ўсюська пахова. *Athen.*

796. Не пакрылі пакровы — не пакрыюць і каляды. *«ШМ», № 11.*

797. Пакроў пытаецца ў латроў: «Айдзе вы леталі і йдзе зімаваць будзеце?» *Нос., 148.*

798. Пакроў пытаецца ў латроў: «Айдзе вашы рукавіцы і шубы?» *Нос., 148; Нос., Слов., 272.*

799. Праходзіць пакрова — раве дзеўка, бы карова. *Сержп., 64.*

800. На Пранцішка шукае зярнят у полі мышка. *«ШМ», № 11.*

801. З Сяргея пачынаецца зіма. *«ШМ», № 11.*

802. Марцін святы — губіцель гагаты. *Ляцкий, 20.*

803. Хто на казанскую жаніхаецца, той не пакаецца. *«ШМ», № 11.*

804. Да Змітра дзеўка хітра. *Tyszk., 419; Шпил., Бел., 178; Нос., 36; Дуб., 15; Сержп., 54.*

805. На Змітра баба хітра, а па Змітру хоць анучай вытры. *«ШМ», № 11.*

806. Зміцер зямлю выцер, на груды пабіў, каб ніхто не хадзіў. *«ШМ», № 11.*

807. Да Змітра пасуць, а па Змітру пільнуюць. *«ШМ», № 11.*

808. Кузьма да Дамян — два ліцвіны, прынеслі гаршочак бацвінні. *Дуб., 32; Нос., Слов. 31.*

809. Па ўсіх святых холад уйме ўсіх. *«ШМ», № 12.*

810. Пракоп па снегу ступае, дарогу капае. *«ШМ», № 12.*

811. Да Юр'я корму і ў дурня. *Tyszk., 437; Шпіл., Бел., 185; Dybow., 184; Нос., 37; Сержп., 78. Вар.: Fed., 131.*

а) Да Юр'я хлеба і ў дурня. *Калянд., 1925.*

б) Да Юр'я будзе і ў дурня. *Fed., 131.*

в) Да Юр'я есць хлеб і ў дурня. *Fed., 131.*

г) Да Юр'я стане хлеба і ў дурня. *Fed., 131.*

д) На Юр'я павінна быць сена і ў дурня. *Шейн, II, 478, Ашм. п. Вар.: Fed., 131.*

812. Калі цёпла на Юр'я, то павінна сена быць і да другога Юр'я і ў дурня. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

813. Юры масціць, а Мікола гваздзіць. *Нос., Слов., 111; Fed., 131.*

а) Юры замосціць, Мікола загруздзіць. *Ром., Бел., I, 315.*

814. Вясною Георгі, летам Нікалай з кормам, увосень з мостам, зімою з гвоздзем. *Ром., Зап, I, 217.*

815. Святы Андрэю, канапелькі сею, дай мне ўзнаць, з кім буду спаць? *«ШМ», № 12.*

816. Навум розуму вучыць. *«ШМ», № 13.*

817. Варвара ночы ўрвала. *Kolb., 475, Пін. п.; Dybow., 5.*

а) Варвара ноч уварaвала. *Ром., Бел., I, 292; А. Фядосік, 1959, Капатк. 9.3.11.*

б) Прышлі Варвары, ноч уварвалі. *Л. Малаш, 1969, Докш. 8.2.22.*

в) Варвары ночы ўрвалі (уварвалі). *Нос., 12; Дуб., 9; Fed., 328. Вар.: А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

г) Варвары кусок ночы адарвалі. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.61.*

д) Святая Варвара ночы ўварвала. *Tyszk., 437; Dybow., 189; Fed., 22.*

818. Варвары ночы ўварвалі, а дзень падтачылі. *Калянд., 1921.*

819. Варвары ноч уварвалі, і дзень прыбавіўся на казіны скок. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

820. Варвара заварыць, Мікола загвоздзіць. *Athen.*

а) Варвара варыць, Мікола гвоздзіць. *Берман, 37.*

б) Варвара прыварыла, Мікола прыгваздзіла. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.67.*

в) Варвара масціць, а Мікола гваздзіць. *Ляцкий, 6.*

821. Сава мосце, а Мікола гвоздзе. *Раст., 78.*

822. Да Міколы няма зімы ніколі. *Dybow., 8; Fed., 186.*

823. Ніводнаму Міколе не вер ніколі. *Янк., Дыял., III, 163.*

824. На Міколы нета ні зімы, ні лета. *Tyszk., 438; Нос., Слов., 284.*

825. Мікола — правая зіма і правае лета. *Шпил., 184; Нос., 77; Dybow., 184.*

826. На Ганкі сядайце на санкі. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6.*

827. Марка да Варка, няхай будзець парка. *Дуб., 36.*

828. Святочнаму дню святочная работа. *Fed., 307.*

а) Святому дню святая й работа. *Нос., 148.*

б) Святы дзень — святая й работа. *Ляцкий, 40. Вар.: Сержп., 134.*

829. Святы дзень — святая й работа, узяўшы тапор да ў балота. *Нос., 148.*

830. Пабыла Хімка ў лядах, пабачыла працы. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

831. Пазналі б мяне ў лядзе, а не ў нарадзе. *Нос., 130; Дуб., 51.*

832. Пакланіся кусту, дак ён дасць хлеба лусту. *Tyszk., 435; Нос., 131; Шейн, II, 48; Дуб., 50; Сержп., 85; Ляцкий, 32; Сах.; Fed., 159.*

833. Лядцы́ як родныя атцы. *Добр., Смол., 40.*

834. У лясу жывём, пню кланяемся. *Добр., Смол., 98.*

835. Каб корч ды стаў сторч, то лягчэй бы выцягваць яго было. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

836. Не араць, а цаліну драць. *Сержп., 34.*

837. У каго чорна глыба, у таго й хлеба скіба. *Ляцкий, 49; Дуб., 64; Сержп., 34.*

838. На чорным полі бела пшаніца родзіць. *Fed., 239.*

а) На чорнай зямлі пшаніца родзіць. *Fed., 355.*

839. Па чорнай зямельцы жыта сеюць, а па белай сабакі бегаюць. *Дуб., Нар., 1.*

840. Праца чорная — белы хлеб. *Сах.*

841. Калі хоч хлеб меці, то трэба зямліцы глядзеці. *Ром., Мат., 83.*

842. Дзе пасееш густа, там не будзе пуста. *Сцяшк., 588, Шчуч.*

843. Асот ды лебяда — для палетку бяда. *М. Малочка, 1960, Стаўб. 8.1.56.*

844. Не бяда, калі ёсць лебяда. *Сержп., 21.*

845. То не бяда, што ў жыце лебяда, — няма гарэй бяды, як ні жыта, ні лебяды. *Сержп., 21.*

846. Калі расце лебяда, дык гэта не бяда, а калі расце званец, дык хлебу канец. *Сах.*

847. Мятліца — хлеба палавіца. *Tyszk., 436; Шейн, II, 478.*

а) Зарадзіла мятліца — хлебу палавіца. *Нос., 46.*

848. Мятліца — хлеба дружыца. *Сержп., 87.*

849. Калі ў жыце каткі, то будзе дабра поўны куткі. *Fed., 372.*

850. Як на полі каткі, то хлеба поўныя куткі, а як на полі мятліца, то хлеб ляжыць на паліцы. *Fed., 140.*

851. Дзе мятліца, яна хлеба памашніца, дзе званец, там і хлебу канец. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

852. Дзванец — хлебу канец. *Tyszk., 436; Шпил., Бел., 179. Вар:. Сержп., 87.*

а) Зарадзіў званец — хлебу канец. *Дуб., 21; Нос., 46.*

б) Явіўся званец — хлебу канец. *Н. Рында, 1967, Зельв. 13.10.23.*

853. Добру траву людзі сеюць, а дрэнна сама расце. *Сцяшк., 589, Гродз.*

854. Не першыня сіўцу вайна. *Дуб., 37.*

855. Урадзіўся сівец — жыту канец. *Дуб., 65.*

856. Дзе валошка, там хлеба крошка. *Сержп., 87.*

857. Зарадзіў драсён — не будзе красён. *Крапіва, 248.*

858. Ліхая трава з поля — вон. *Сержп., 99.*

859. Як якая трава: іншая трава — той жа хлеб. *Сержп., 26.*

860. Ці ёсць, ці няма калі, а лён палі. *Хрэстам., 316.*

861. Калі трава ўшыўка, і лён будзець паршыўка. *Добр., Смол., 54.*

862. Канюшына родзіць — ільну годзіць. *М. Грынблат, 1958, Гарадз.*

863. Не церці, не мяць — не будзе калач. *Ром., Зап., III, 225.*

864. Без паліва і капуста не расце. *М. Дуброўскі, 1956, Лельч. 13.3.29.*

865. Зямля курыць, бульба шуміць. *Сцяшк., 593, Астр.*

866. Не глядзі мяжы ды сад садзі. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

867. Вішня — зямля лішня. *Мат., 173.*

868. Бедная зямелька лепей за багатага мужыка: багаты дасць і квоту возьме, а бедная зямелька што ні зародзіць — усё наша: нашы вярхушкі, нашы і камлюшкі. *А. Ліс, 1957, Шарк.*

869. Слабая ніўка дасць больш, чым багаты гаспадар. *М. Шлык, 1969, Зельв.*

870. Што дасць плахая ніва, тое не дасць і добры дзядзька. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

871. Малая пашня, ды ўрод дала. *Ляцкий, 20.*

872. Дзе лучшы хлеб — там твая ніва. *М. Грынблат, 1964, Невельскі р-н Пскоўскай вобл. 8.1.87.*

873. Дзе далінка, там і хлеба скарынка. *Сцяшк., 588, Гродз.*

874. Дзе далок, там панок. *М. Жылінскі, 1963, Свісл. 13.10.6а.*

875. У полі дзве волі. *Нос., 20.*

а) У полі свая воля. *Ром., Бел., І, 292.*

876. У полі дзве волі: хто каго нагнець, тэй таго наб'ецъ. *Добр., Смол., 6.*

877. Шырокае поле: ідзі, куды воля. *Нос., 186.*

878. Ліха не знаць — на сваім полі араць. *Сержп., 85.*

879. Калі б меў ніву, нашоў бы і сіву. *Ляцкий, 16.*

880. Не можна й брату верыць, калі зямлю мерыць. *Ляцкий, 30; Сержп., 47.*

881. Мала сала, мала хлеба, мала зямлі — болей трэба. *Шейн, II, 478, Ігум. п.*

882. Саха і барана самі не багатыя, а ўвесь мір кормяць. *В. Скідан, 1970, Швянчонскі р-н ЛітССР 8.2.32.*

883. Без сахі і бараны сам цар хлеба не есць. *Pietk., 391.*

884. У сошкі залатыя рожкі. *Сержп., 85.*

885. Дзяржыся за рагач, будзеш багач. *Сержп., 85.*

886. Няма большага багача, хто пільнуе рагача. *В. Скідан, 1970, Астр. 8.2.32.*

887. За сошку трымайся і ліха не лякайся. *Сержп., 85.*

888. Той галодзен не ходзіць, хто арэ і скародзіць. *А. Ліс, 1957, Шарк.*

889. Не мужык арэ, а саха. *Сержп., 84.*

890. Як наладзіш, так і ўзарэш. *Сержп., 84.*

891. Не маеш слуг, сам бярысь за плуг. *Fed., 283.*
а) Не маючы слуг, сам цягні плуг. *Fed., 283.*

892. Калі пыль на баране, дак і блін на рашацé. *Нос., 65; Ляцкий, 24.*

893. Калі з баразны ідзе пылок, будзе на патэльні грэцкі блінок. *«Звязда», 30 красавіка 1960 г., Церах.*

894. Без дагляду зямля круглая сірата. *Сержп., 83.*

895. Дзе гаспадар ходзіць, там жыта (зямля) родзіць. *Сержп., 83.*

896. Дзе гаспадар не ходзіць, там нічога не родзіць. *Сержп., 83.*

897. На полі родзіць, калі сам хадзяін па полі ходзіць. *Pietk., 360.*

898. Гаспадарка — клапатарка. *Fed., 105.*

899. Гаспадарка свет корміць. *Fed., 105.*

900. Не раса родзіць, а пот. *Сержп., 84.*

901. Пільнуй гаспадаркі — будуць у гаршку скваркі. *Ляцкий, 34; 1961, Брасл. 13.9.5; Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.21; Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

а) Пільнуй гаспадаркі — будзе хлеб, будуць і прыкваркі. *Сержп., 33.*

902. Добры гаспадар з вясны б'е ток. *Сержп., 34.*

903. Гаспадарка маўчыць, але шыйку танчыць. *Fed., 105; Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

904. Гультая зямля не любіць. *А. Хомка, 1965, Вайк. 13.10.3.*

905. Дзе гультай ходзіць, там зямля не родзіць. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29. Вар.: І. Сагарава, 1951, Мір. 8.1.36.*

906. Хто спіць да слонца, таго хлеб у машонцы. *Шейн, II, 483, Маг. п.*

907. Хто доўга спіць, той хлеб толькі сніць. *Рапан., 112.*

908. Распёрла яго, як вала, а работы няма. *Сержп., 45.*

909. Злятайцеся, вароны, на гультаёвыя загоны. *М. Шлык, 1969, Зельв.*

910. Поле араць — не рукамі махаць. *Сержп., 84.*

911. Хто не горбіцца, таму цяжка араць. *Сах.*

912. Дзе араты плачыць, там жняя скачыць. *Tyszk., 435; Шпил., Бел., 177; Шейн, II, 474; Крачк., 83; Сержп., 84; Fed., 103; Суяшк., 587, Шчуч.*

а) Дзе гартай плача, там жняя скача. *Калянд., 1925.*

913. Зямлі кланяйся ніжэй — будзеш да хлеба бліжэй. *Н. Парукаў, 1961, Карм. 13.3.23.*

914. Малая пашэнька, ды ўбяры харашэнька. *Г. Прытычанка, 1960, Докш. 13.3.29.*

915. Яго доля ў канцы поля. *Крэмнеў.*

916. Не поле радзіць, а ніва. *Добр., Смол., 40.*

917. Пільнуй таго, з чаго хлеб ясі. *Ром., Бел., I, 306; Ляцкий, 34; Сержп., 33; Fed., 234.*

а) Глядзі, з чаго хлеб ясі. *Fed., 109; Калянд., 1925.*

б) Глядзі за тым, з чаго ясі хлеб. *Pietk., 361.*

918. Трэба рана ўставаці, калі хлеба дажыдаці. *Ляцкий, 46.*

919. Не марнуй часу дарэмна: вясна пройдзе — не вернеш. *«Бел.», 1956.*

920. Выходзь на поле з расой, дык будзеш з ядой. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

921. Поле роўна ляжыць ды гуляць не вяліць. *Сержп., 83.*

922. Гарод любіць гарбатую бабу. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

923. Кладзі гной густа — не будзе ў свірне пуста. *Ахрым., 35.*

а) Кладзі навоз густа — будзе і ў свірне густа. *М. Дуброўскі, 1956, Лельч. 13.3.29.*

924. Палажы гнайку, да будзе на таку. *Сержп., 85.*

а) Палажы гнайку, і будзець пшаніца хараша на таку. *Нос., 132; Дуб., 48.*

925. Угноім зямліцу — знімем пшаніцу. *М. Малочка, 1959, Чаш. 8.1.46.*

926. Вазі навоз, не лянісь, хоць богу не малісь. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.13.*

927. Дай зямлі, яна табе дасць. *Tyszk., 435; Шпил., Бел., 179; Нос., 32; Крачк., 85.*

а) Дай раллі, то і яна табе дасць. *Fed., 257.*

928. Хто зямлі дае, таму і зямля дае. *А. Гурскі, 1967, Бял. 8.1.112.*

929. Дай полю гною — дасць хлеба ўволю. *Н. Парукаў, 1960. Добр. 13.3.23.*

930. Зямлю не ўгноіш, хлеба не намалоціш. *А. Мацкала, 1964, Іў. 13.10.3.*

931. Аддай зямлі тое, што яна родзіць. *Pietk., 400.*

932. Хто аддае ніўцы, што яна родзіць, той да суседа за хлебам не ходзіць. *Fed., 204.*

933. Зямля — талерка: што пакладзеш, тое і вазьмеш. *Сах.; Янк. Н., 12.*

934. Дасі пашне́, будзеш мець у машне. *Нос., 33.*

935. Гдзе гноем смярдзіць, там і радзіць. *Шейн, II, 474, Ашм. п.; Я. Касач, 1966, Дзятл. 13.10.26.*

а) Дзе гной смярдзіць, там збожжа радзіць. *Сержп., 85.*

б) Дзе зямля гноем смуродзіць, там заўсёды добра родзіць. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

936. Калі гаспадар у гнаі ходзе, тады ў яго хлеб родзе. *Ляцкий, 16; В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

937. Хоць мужык у гнаі капаўся, але дабра дачакаўся. *Махнач, 24.*

938. Не ўгноіш поля — не прывязеш з поля. *Янк., Дыял., I, 216, Глуск.*

939. Хто полю годзіць, у таго жыта родзіць. *Ляцкий, 54.*

940. Хто поле гноіць, той хлеб кроіць. *«Зорка».*

941. На полі гнаінка — на стале скарынка. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

942. Не шкадуй гною, то мецьмеш жыта, як гаю. *Fed., 111.*

943. Гной адвязеш — хлеба прывязеш. *Гут., 141; Сцяшк., 585, Гродз.*

944. Дзе гной, там лой. *Fed., 111.*

а) Калі ёсць гной, то й будзе лой. *Dybow., 182. Вар.: Fed., 49, 111.*

б) Дзе гнаёк, там і лаёк. *Сержп., 85.*

945. На нівачку гнаёк, а на мяне — лаёк. *Бяльк., 245, Мсцісл.*

946. Бог за гной, а я за лой. *Fed., 34.*

947. Гной мацней за бога. *М. Грынблат, 1926, Тур.*

948. Кладзі гной на гарод кожны год — будзеш хадзіць кожды дзень на гарод. *Ляцкий, 18.*

949. Гнаёк ды лубінок — хлеба і на другі гадок. *Янк., Дыял., I, 206, Глус.*

950. Зайцы яму поле гнояць. *Fed., 239.*

951. Поле не кляні, а віламі кальні. *А. Бельская, 1965, Рог. 13.10.19.*

952. Белая зямля не народзе пшана. *Ляцкий, 4.*

953. На пустом полі й трава не расце. *Мін.-Мал., 1970, 163, Узда.*

954. У гліне зярнятка не гіне. *Сержп., 86.*

955. У гліне капейка не гіне. *Нос., 19.*

956. Як гары, так гары, абы чорным дагары. *Fed., 103.*

957. Хто арэ, той пяе. *Сержп., 85.*

958. Калі добра ўзарэш, то і ўраджай збярэш. *Т. Глытаў, 1967, Карм. 13.10.83.*

959. Дзе гультай арэ ды скародзіць, там пустазелле добра родзіць. *Н. Парукаў, 1961, Докш. 13.3.23.*

960. Хто поле троіць, той хлеб кроіць. *Шейн, II, 483, Слуцк. п.; Дуб., 70; Сержп., 83; Fed., 239.*

961. Хто тры разы арэ, той тры снапы больш бярэ. *Шейн, II, 483, Слуцк. п.; Fed., 257.*

а) Хто тройчы арэ, той па тры снапы бярэ. *Сержп., 84.*

962. Добра ўзарэш — болей збярэш. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

963. Глыбей араць — больш хлеба збіраць. *Махнач, 24. Вар.: Сцяшк., 585, Шчуч.*

964. Хто добра арэ, жне і косіць, той есці не просіць. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

965. На ранняй ралліцы родзіць жыта ды пшаніца. *Ахрым., 40.*

966. На ранняй ралліцы родзіць жыта ды пшаніца, а на позняй ралліцы родзіць кукаль ды мятліца. *І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21. Вар.: Шырма, 206; Махнач, 24.*

967. Ранні пар родзіць пшанічку, а позні — мятлічку. *І. Хайратовіч, 1951, Кругл. 13.8.4.*

968. Ранні пар да позняга ў пазыкі не ходзіць. *І. Хайратовіч, 1951, Кругл. 13.8.4.*

969. Як казалі «чалом», было хлеба і на стале, і пад сталом, а як сталі гаварыць «добры дзень», сталі бегаць з торбачкаю абыдзень. *Крэмнеў.*

970. Агрэх не гарэх. *Мат., 179, Валож.*

971. У ворыве агрэхі — у кішэні прарэхі. *«Бел.», 1956.*

972. Добра там дзее, дзе два аруць, а трэці сее. *Сержп., 16.*

973. Паміраць збірайся, а жыта сей. *Дуб., 5а; А. Ліс, 1969, Смарг.; Юрч., 1974, 150. Вар.: Ляцкий, 50.*

а) Паміраць збірайся, а хлеб пашы. *В. Шаўчэнка, 1961, Ельск. 13.3.29.*

974. У прочкі збірайся, а жыта сей. *Дуб., 64; В. Іваноўская, 1962, Лельч. 8.1.74.*

а) Проч сабірайся, а жыта сей. *Нос., 141.*

б) Проч маніся, а жыта сей. *Dybow., 16.*

в) Проч убірайся, хлеба старайся. *Гильт., 291, Віл. п.*

г) У дарогу сабірайся, а жыта сей. *Pietk., 353.*

975. Не ўважай на ўраджай, а жыта сей. *Tyszk., 435; Гильт., 290, Віл. п.; Нос., 105; Fed., 321, 372; Сержп., 85; Pietk., 349; Дразд. Вар.: Ром., Мат., 85.*

а) Не глядзі на ўраджай: жыта сей. *В. Казлюк, 1965, Дзятл. 13.10.6.*

б) Не ўважай на ўраджай: сей жыта — хлеб будзе. *Гильт., 288, Брэсц. п.*

976. Надзейся, нябожа, а сам сей збожжа. *Хрэстам., 218.*

977. Ранне не родзіць, але з насення не зводзіць. *Fed., 258.*

а) Ранняя сяўба хоць і не ўзродзіць, то прынамсі з насення не зводзіць. *Pietk., 391.*

б) Хоць не ўродзіць, да насенне не зводзіць. *Fed., 198.*

978. Хто сее рана, той насенне не губляе. *Сцяшк., 614, Іў.; «Бел.», 1956.*

979. Хто сее ў лёд, той п'е мёд. *Крачк., 91.*

980. Днём раней пасееш — тыднем раней сажнеш. *А. Бельская, 1967, Раг. 13.10.19; Т. Новак, 1973, Ельск. 13.10.71.*

а) На дзень раней пасееш — на тыдзень раней збярэш. *З. Пякарская, 1965, Слон. 13.10.2.*

981. Пасей хоць у залу́, толькі лішь у пару́. *Вас., 22.*

982. Сей у пару — будзе добра гаспадару. *Сцяшк., 608, Воран.*

983. Сей у добрую пару́ — збярэш хлеба гару́. *«Бел.», 1956; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

984. Пасееш за пагоду — больш прыплоду. *Сержп., 85.*

985. Асьмак для сабак, а семачок на абрачок. *Tyszk., 437; Нос., 120; Дуб., 44; «ШМ», № 6.*

986. Пасеяўшы на сходу, не ажыдай харошага плоду. *Нос., 135; Дуб., 48.*

987. Веташок сяўбе не шкодзіць. *Нос., Слов., 49.*

988. Хто глядзіць (пазірае) на месяц, той у дзяжы не месіць. *Tyszk., 436; Нос., 176. Вар.: Сержп., 83.*

989. Хто з ксёнжкі сее, той мала збірае. *Fed., 276.*

990. Хто з календара сеець, той мала веець. *Tyszk., 436.*

а) Хто па календару сее, той рэдка вее. *Сержп., 83.*

991. Пасее троха, ды ўродзе плоха. *Ляцкий, 34.*

992. Сей авёс у гразь — будзеш князь. *А. Ліс, 1954, Смарг; Сцяшк., 608, Вайк.; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

а) Кінь мяне ў гразь, то я буду (будзеш) князь. *Dybow., 12; Я. Шмыгіна, 1965, Навагр. 13.10.2.*

993. Калі суніца красна, не сей аўса напрасна. *Нос., 65; Ляцкий, 29; Бяльк., 278, Мсцісл.; С. Клачко, 1960, Б.-Каш. 13.3.29; Добр., Смол., 67.*

994. Не сей пшаніцы, калі дзеці ідуць у суніцы. *Сцяшк., 602, Іў.*

а) Калі дзеўкі ідуць у суніцу, не сей напрасна пшаніцу. *Ляцкий, 16.*

995. Калі суніца чырванее, не сей проса — не паспее. *Сержп., 87.*

996. Хто сее па пакрові, таму няма чаго даць карові, а хто варожыць, той галавой наложыць. *Т. Пуйта, 1966, Дзятл. 13.10.27.*

997. Лён сей позні, на шэсць дзеў. *Добр., Смол., 54.*

998. Сей ячмень, як каліна ў кругу. *Добр., Смол., 136.*

999. Сей ячмень, як загудзіць сляпень. *Добр., Смол., 136.*

1000. Вальха́ када́ зацвіцець, сей грачыху. *Добр., Смол., 22.*

1001. Хто картошкі пасадзіць прад Міколай, будзіць з картошкай. *Добр., Смол., 47.*

1002. Трэба гарох сеяць пад саху. *Сержп., 86.*

1003. Як гарох сеяны з сявенькі, дык і вырасце маленькі. *Махнач, 24.*

1004. Рэпу ды гарох не сей каля дарог. *Сержп., 83.*

а) Не сей гарох каля дарог. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 12.3.29.*

1005. Ідзе гарох — сем дарог. *Добр., Смол., 20.*

1006. Гарох сеецца на прыхадзяшчага і на прыбягашчага і на тыя дзеці, што праз плот глядзеці. *Fed., 105.*

1007. Сей гарох, каб баран лёг. *Сцяшк., 608, Зельв.*

1008. Жыта сеюць у свіны голас. *Нос., 43.*

1009. Хлеб на хлеб (па хлебу) сеяць — ні малаціць, ні веяць. *Сержп., 85; А. Махнач, 1952, Ўздз. 13.10.15.*

а) Калі будзеш жыта па жыту сеяць, тады не будзеш ні малаціць, ні веяць. *Я. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

1010. На льнянішчы нічога не вырасце. *Сержп., 84.*

1011. Жыта сей на канаплішчы, дык не пашкадуеш. *Сержп., 84.*

1012. Што пасееш, тое і вырасце. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29; У. Іваноў, 1958, Мінск.*

1013. Што пасееш, тое і пажнеш (сажнеш). *Сержп., 84; А. Махнач, 24; М. Юдо, 1965, Віл. 13.10.1.*

а) Як пасееш, так і пажнеш. *Бяльк., 508, Касц.*

1014. Якім зярном хто сее, такім збірае. *Fed., 355.*

1015. Якое семя, такое і емя. *Бяльк., 508, Касц.*

1016. Пасееш буйным зярном, будзеш з хлебам і віном. *Ахрым., 97; Махнач, 24.*

1017. Хто сее, той надзее. *Fed., 276.*

1018. Хто сее, той збірае. *Fed., 276.*

1019. Хто сее, той будзе жаць. *Fed., 276.*

1020. Хто сее ды вее, той не збяднее. *Сержп., 85.*

1021. На вясну пасееш — увосень сабярэш. *Ляцкий, 22.*

1022. Пасеяўшы — хоць капа, а не сеяўшы — ні снапа. *Ром., Мат., 84. Вар.: Сцяшк., 605, Дзятл.*

1023. Хто арэ ды сее, той малоціць і вее. *Рапан., 112.*

1024. Хто не сее, той не вее, а хто сее, той вее. *Fed., 276.*

1025. Хто не сее, у таго не расце. *Fed., 275; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1026. Хто не сее, той жаць не мае чаго. *Fed., 275.*

1027. Як не пасееш, то й збіраць не будзе чаго. *Fed., 222.*

1028. Насенне ў свіран само не прыходзіць. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1029. Хто сее грэчку, той кашу есць. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1030. Як сеецца, так і веецца. *Сержп., 83.*

1031. Рэдка сеяць — лёгка веяць. *Сержп., 83.*

1032. Густа пасееш — многа намалоціш. *Мін.-Мал., 1970, 159, Пух.*

1033. Каб не было пуста, трэба сеяць густа. *Зах., 250.*

1034. Не ўсё то ўсходзіць, што сееш. *Fed., 322.*

1035. Прыдзе пара, вырасце трава. *Сержп., 132.*

а) Будзе пара, парасце трава. *Дуб., 5; Нос., 9; Fed., 220.*

б) Будзець пара, будзець і трава. *Tyszk., 436; Шпил., Бел., 176; Шейн, II, 473; Fed., 334. Вар.: Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

1036. У пору сена косяць. *Fed., 276.*

а) Парою сена косяць. *Нос., 134.*

1037. На вострую касу — багаты сенакос. *Янк. М., 121.*

1038. І ці ваюе каса, а ў нас раса. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1039. З касой пагоды не ждаць. *Tyszk., 436. Вар.: Нос., 157; Рапан., 102.*

1040. Касі ў дождж, то ў пагоду збярэш. *Сцяшк., 595, Іў.*

а) Хто ў дождж косіць, той за пагоду паграбе. *Сержп., 33.*

б) Хто косіць у нягоду, той у пагоду зграбе. *Pietk,. 374.*

1041. Хто дажджом косіць, то пагодаю сушыць. *Fed., 139.*

1042. Хто косіць пагодаю, то грабіць дажджом. *Fed., 139.*

1043. Як дождж — дык на сена гной, а на карову лой. *1961, Калінк. 13.9.5.*

1044. Калі старанна косяць, то сена зімою не просяць. *Янк. М., 142.*

1045. Перасуха ў недасухі сена пазычае. *Янк. М., 101.*

1046. Покуль хмарка бяжыць, трэба стог вяршыць. *Сержп., 34.*

1047. Не думай, што заўтра мароз, а ідзі на сенакос. *Янк. М., 145.*

1048. Каса любіць сала. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Каса любіць брусок і сала кусок. *М. Грынблат, 1970. Ашм. 8.2.26.*

1049. Каса любіць парася, а калі хлеб да ваду,— ляжы, каса, у халаду. *Добр., Смол., 77.*

1050. Еш сала, каб каса не мяшала. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1051. Добры касец, калі сала лавец. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1052. Не любіць каса ні світкі, ні паясá, і кажа брусок: дай сала кусок. *З. Валюшка, 1965, Ваўк. 13.10.5.*

1053. Не даў баця сала, дык сенажаць устала. *1961, Кап. 13.9.5.*

1054. Калі дало касіць, то дасць і карміць. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

1055. Не косіць Федзька, бо ў торбе рэдзька. *Янк. М., 26.*

1056. Хто добра косіць, есці не просіць. *Хрэстам., 258.*

1057. Сена семярых з'ела. *А. Малочка, 1960, Стаўб. 8.1.56.*

1058. Каса любіць сытага, а цэп — галоднага. *Дуб., Нар., 2.*

а) Цэп любіць галоднага, а каса пасілёнага (сытага). *Нос., Слов., 478.*

1059. У адзенні не плавец, а ў кажуху не касец. *Л. Корсак, 1961. Асіп. 13.9.11.*

1060. І баран бы касіў, каб хто косу насіў. *Fed., 22; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Ён бы і што, накасіў, каб не сам касу насіў. *Ляцкий, 11.*

б) Ён бы і нішто накасіў, каб хто касу насіў. *Сержп., 46.*

в) Касіць бы касіў, да калі б чорт касу насіў. *Нос., 68.*

1061. Не столькі накасіў, колькі лапатняў набіў. *Сержп.*, *85.*

1062. Прышла каза да ваза́, стала сена прасіць, а я казе па назе: няхай ідзе касіць. *Ляцкий, 36.*

1063. Пайшоў сабака сена касіць, накасіў стог ды сам здох. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

1064. Цэлы дзень касіў сена, а за вечар каза з'ела. *Dybow., 5.*

1065. Па лету косіць, а зімою просіць. *Сержп., 83.*

1066. Не ўмеў сена касіць касою, касі сена дугою. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

1067. Сена ў капіцы, з богам па палавіцы. *Fed., 276.*

1068. Калі выкасіш завонькі, то і выпрачаш застаронкі. *Берман, 38.*

1069. Не хваліся травой, хваліся сенам. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1070. Перастаялася трава — ні сена, ні труха. *Сержп., 63.*

1071. Парой і сена косяць, а парой галосяць. *Сержп., 133.*

1072. Тагды сена касі, як косіцца. *Fed., 276.*

1073. Як паспеў званец, дык і сенакосу канец. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1074. Быў бы пракос, ды прыйшоў мароз. *Янк. Н., 19.*

1075. Гладка касіць — дык часта касу лапаціць. *1959, Беш. 8.1.42.*

1076. Вышэй касіць — лепш касу лапаціць. *1959, Беш. 8.1.42.*

1077. Касі каса, пакуль раса. *Сержп., 133.*

а) Касі каса, пакуль раса, раса далоў, касец дамоў. *М. Грынблат, 1964, Сен. 8.1.87; 1961, Кап. 13.9.5.*

1078. Як пакосіш берага, то сена па рагá, як пакосіш балота і рэкі, пакорміш і стрэхі. *Ром., Мат., 83.*

1079. Зрабіць на пацяробах сенажаць, што жыта нажаць. *Сержп., 34.*

1080. Сена клок — саломы воз. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1081. Сахару кус, а саломы воз. *Нос., 146.*

а) Луччы сахару кус, чым саломы воз. *Добр., Смол., 121.*

1082. Саломы жменька — капейка, а сена клачок — пятачок. *Бяльк., 227, Мсціcл.*

1083. Блізкая саломка лепш за далёкае сенца. *М. Малочка, 1960, Староб. 8.1.56.*

1084. Мурожнае сена толькі коням. *Сержп., 33.*

1085. У добрага гаспадара сенца, бы іскарка. *Сержп., 34.*

1086. Сену з агнём не ўляжацца. *Махнач, 24.*

1087. Палотняе сена не едкае. *Сержп., 233.*

1088. Па адной травіцы — стог. *Махнач, 24.*

1089. Па капельцы — мора, па травінцы — стог. *М. Малочка, 1960, Стаўб. 8.1.56.*

1090. Сена клок і вілы ў бок. *Ляцкий, 41.*

а) Ліба сена клок, ліба вілы ў бок. *Ром., Зап., III, 223; Дуб., 1. Вар.: Нос., 73; Fed., 276.*

б) Хоць сена клок, хоць вілы ў бок. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

в) Альбо сена воз, альбо віламі ў нос. *Fed., 276.*

1091. Накладалі сянца, ды зноў з канца. *Радч., 247.*

1092. Атаўка — сену дабаўка, да не накасіў Саўка. *Сержп., 45.*

а) Атаўка — прыбаўка, да не ўмеў скасіць Саўка. *Шпил., Бел., 174. Вар.: Нос., 3; Я. Васілеўская, 1949, Кліч. 8.1.28.*

1093. Адна ралля — адзін серп, дзве раллі — два сярпы. *Fed., 257.*

1094. Як капусту садзіць, трэба серп зубіць. *Сержп., 34.*

1095. Спелы колас не жджэць. *М. Грынблат, 1974, Лаг.*

1096. Узышло сонейка — уставай жнейка. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

1097. Жнуць парой, а жуюць зімой. *Сержп., 85.*

1098. На пастáці нечага стаяці. *Нос., 87; Fed., 241.*

а) На пастаці калі не стаяці. *Fed., 241.*

1099. Паджынайся, нябожа, — заставацца нягожа. *«Ніва», 1973, № 35, Гайн. п.*

1100. Добры жнец не бядуе, што шырокі заганец. *Fed., 364.*

1101. Наперадзе піва п'юць, а пазадзе кіем б'юць. *«Ніва», 1973, № 35, Гайн. п.*

1102. Хто ў жніво халадку шукае, той галадае. *Сержп., 45.*

1103. Сама сябе жнейка б'ець, калі нячыста жнець. *Ляцкий, 39.*

а) Сама сябе раба б'ець, калі нячыста жнець. *Нос., 146; Дуб., 59; Ром., Зап., III, 231.*

1104. Закончыш жніво ў пору — будзе што вазіць у камору. *І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3.*

1105. Змялі поле мяцёлкамі, ідзём дамоў вясёлкамі. *Дуб., 21.*

1106. Ніўка, ніўка, аддай маю сілку. *Нос., 110; Дуб., 37; Fed., 204.*

1107. Да гудзець поле, гудзець — талака з поля ідзець. *Дуб., 14.*

1108. Недаспеўшы колас не жнуць. *А. Махнач, 1952, Увдз. 13.10.15.*

1109. Калі не нажнём, тоназбіраем. *Tyszk., 436; Нос., 64; Дуб., 31.*

1110. Не той хлеб, што на полі, а той, што ў гумне. *Суяшк., 602, Гродз.*

1111. Жыта і пшаніца — то богава пашніца. *Fed., 373.*

1112. Асот, крапіва — то чортава ярына, а жыта і пшаніца — то богава пашніца. *Fed., 10.*

1113. Збожжа (жыта), хоць пакаціся па версе. *Fed., 352, 372.*

1114. Дарагі тавар на зямлі расце. *Сержп., 85.*

1115. Адно зярнятка пуд прыносіць. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

а) Зерне пуды прыносіць. *Махнач, 24.*

б) Адно зерне пуды прыносіць. *«Бел.», 1956; Суяшк., 579, Шчуч.*

1116. Зерне да зерня — меру набярэш. *Ахрым., 32.*

а) Зерне да зерня, будзе поўная мерня. *Сцяшк., 592, Маст.*

1117. Колас да коласа — сноп збярэцца. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

1118. Снапочак к снапочку, дык цэлая копка. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1119. Каласок да каласка — і снапоў сціртá. *Н. Парукаў, 1960, Докш. 13.3.29.*

1120. Мыш капы не баіцца. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

1121. Зрадзіла жыта, хоць барану прыставў. *Сержп., 84.*

1122. Руні ў аруд не мераюць. *Tyszk., 436; Дуб., 52а.*

1123. Якое то жніво, калі колас коласа паганяе. *Fed., 147.*

1124. Пад рок збожжа родзіць. *Fed., 352.*

1125. Бувала, буяла, а зараз і расці не хоча. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6.*

1126. Колас ад коласа не чуе голаса. *Pietk., 375.*

а) Колас ад коласа, што не чуваць чалавечага голаса. *І. Цішчанка, 1971, Брасл. 8.2.49. Вар.: Fed., 147.*

1127. Калі не намалоцім, то накалоцім. *Нос., 64.*

1128. Не тольна не малочана, але і на ток не валочана. *Fed., 176.*

1129. Мы не малочаны, а яны і на ток не валочаны. *Нос., Слов., 65. Вар.: Fed., 176.*

1130. Як не будзе галава без воласа, так сцярня без коласа. *Fed.. 302.*

а) Як галава не будзе без воласа, так ржышча без коласа. *Fed., 100.*

1131. Усё лета спарыня на ніўцы была, а сёння спарыня дамоў пайшла. *Рапан., 230.*

1132. Красна поле снапамі, а гумно — умалотам. *Ахрым., 37.*

1133. Калі ўрод, дак і ўмалот. *Нос., 66.*

а) Дзе ўрод, там і ўмалот. *Dybow., 9; Fed., 321.*

1134. Калі няўрод, дак і неўмалот. *Нос., 65; Дуб., 32.*

а) Калі няўродна, то і неўмалотна. *Fed., 321.*

1135. Намалацілі — ні на семя, ні на емя. *Бяльк., 293, Мсцісл.*

1136. Калі ўмалотна, дак і завозна. *Нос., 65; Сержп., 17; Дуб., 32.*

1137. Няма зерня без мякіны. *Pietk., 352.*

1138. Не пакланюся багачу, як свой намалачу. *Сержп., 78.*

а) Не кланяюсь багачу — свайго хлеба намалачу. *Добр., Смол., 4. Вар.: Нос., 87.*

б) Напляваць багачу, калі свой сноп малачу. *Ляцкий, 23.*

1139. Пакуль цэп, патуль (датуль) хлеб. *Dybow., 187; Сержп., 85; Fed., 47.*

а) Пакуль на гумне цэп, патуль (датуль) на стале хлеб. *Дуб., 52; Нос., 132; Сержп., 33; Я. Ясюлевіч, 1967, Іў. 13.10.27. Вар.: Сцяшк., 595, Лід.*

б) Пакуль цэп у руках, датуль хлеб у зубах. *Сержп., 85.*

1140. Што родзіцца, усё годзіцца. *Ляцкий, 60. Вар.: Сержп., 99.*

1141. У добрага гаспадара і саломінка не прападзе. *М. Бандарэнка, 1966, Мав. 13.3.29.*

1142. Добры гаспадар і повалач збярэ, заграбе. *Сержп., 34.*

1143. Мне на лета работнік патрэбен, а зімою з'ем хлеб і з свін-нёю. *Fed., 255.*

1144. Як жыта палавее, у гультая сэрца млее. *А. Гурскі, 1960, Слуцк. 8.1.51.*

1145. Бульба — хлебу падмога. *Ахрым., 23.*

1146. Націна пасохла — пара капаць картоплю. *Сержп., 86.*

1147. Картафлянішча і свінні вырыюць. *Сержп., 84.*

1148. Лён крэпкі, ды многа свірэпкі. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1149. Не хваліся лён рвучы, а хваліся мнучы. *В. Іваноўская, 1963, Смарг. 8.1.83.*

1150. За то кума сябе трапала, што нядобра лён памяла. *Ляцкий, 12.*

1151. Прыждаў і баўдзіла, што грэчка ўрадзіла. *Ляцкий, 35; Сержп., 24.*

1152. У каго родзе капуста, у таго й кілбаса тлуста. *Ляцкий, 48.*

1153. Часнок — цыбульчын браток. *Янк., Дыял., III, 169, Глуск.*

1154. Як будзеш дбаці а худобу, дык будзеш маці і карову. *Kolb., 472, Пін. п.*

1155. Табун альбо стада — гаспадару нагарада. *Ляцкий, 43.*

1156. За добрым таварам і дурань будзе панам. *Мін.-Мал., 1970, 160, Увдз.*

1157. Скаціна не дзівіцца на бога, а дзівіцца на стога. *Булг., 176.*

1158. Не карміўшы буракамі, не пасылаць за быкамі. *Tyszk., 418; Шпил., 185; Нос., 99; Dybow., 184; Fed., 44; Дуб., 37.*

1159. Каровы маладыя, цяляты веснавыя. *Сцяшк., 595, Ваўк.*

1160. Карова, што многа раве, мала малака дае. *Fed., 138.*

а) Тая карова, што галасна раве, мала малака дае. *Pietk., 324.*

б) Крыклівая карова не малошна. *Дуб., Нар., 1.*

1161. Не заўсёды карова тым бокам чэшацца, дзе яе камар кусае. *М. Дуброўскі, 1956, Лельч. 13.3.29.*

1162. Без валоў і мужык не ўзарэ. *Сержп., 84.*

1163. Саламяным валом не араць, сянным канём не ваяваць. *Tyszk., 436; Нос., 153. Вар.: Dybow., 17; Fed., 149.*

а) Саламяным валом не араці, сеняным канём не ездзіці. *Гильт., 287, Кобр. п.*

1164. Вала завуць у госці не мёду піць — вады вазіць. *Ром., Зап., I, 215.*

1165. Родам і бык рагаты, а патом і яго паганяем. *Ляцкий, 38.*

1166. Як быка не кармі, то ўсё малака не дасць. *Fed., 46.*

а) З быка не надоіш малака. *Ляцкий, 13; Сержп., 56.*

1167. Конь у гаспадарцы — бацька. *Махнач, 24.*

1168. Без каня — чужое поле. *Добр., Смол., 51; Сержп., 85.*

1169. Адным канём усё поле не аб'едзеш. *Ахрым., 20.*

1170. Чый конь, таго і грошы. *Нос., 183.*

1171. Гаспадар ведае, што кабыле рабіць. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

1172. Кабыла з дзелам, жарабя без дзела. *Dybow., 11. Вар.: Ляцкий, 15; Fed., 132; Pietk., 373.*

1173. Жарабя злажы, то й галоўку звяжы. *Fed., 364.*

1174. Каня не дагледзіш — далёка не заедзеш. *Ахрым., 35; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; М. Юдо, 1965, Віл. 13.10.1.*

1175. Каб конь добра вёз — падавай яму авёс. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1176. Як каня лапа́юць, гаўсом вітаюць. *Суяшк., 617, Вайк.*

1177. Хадзі каля канягі з мяшком — не пойдзеш пяшком. *Сержп., 69.*

1178. Саломенным канём далёка не паедзеш. *Сержп., 33.*

1179. Нашы — саломенныя коні, затым і не цягнуць, а ў паноў — аўсяныя, от яны і падбрыкваюць. *Сержп., 33.*

1180. Калі конь бяжыць, дак і бог мнажыць. *Добр., Смол., 51.*

1181. Не гані каня дубцом, а гані аўсом. *Дуб., 43; Махнач, 24.*
   а) Не гані каня калом, а гані аўсом. *1961, Брасл. 13.9.5.*
   б) Не гані каня бізуном, а гані аўсом. *Ахрым., 42.*
   в) Не гані кабылу пугай, а гані аўсом. *Дуб., 39.*

1182. Кармі каня не пугай, а сенам з луга. *М. Жылінскі, 1965, Свісл. 13.10.6.*

1183. Не кармі каня кіём, а кармі аўсом. *З. Валюшка, 1965, Вайк. 13.10.5.*

1184. Паганяй каняку мяшком. *Сержп., 69; Добр., Смол., 50.*

1185. Калі будзеш хадзіць кала каня з мяшком, не будзеш хадзіць пяшком. *Добр., Смол., 50.*

1186. Ездзіць любіш — кабылу кармі. *Ляцкий, 11.*

1187. Не даўшы аброку, не бій кіем па боку. *Fed., 3.*

а) Не даў аброку, не давай кіем па боку. *Fed., 3.*

1188. Даўшы аброку, дасі кіем па боку. *Dybow., 8; Дуб., 17.*

а) Дай аброку, а тагды бі па боку. *Pietk., 354.*

1189. Давай каню аброку — прыедзеш ■ сроку. *Нос., 30; Дуб., 16.*

1190. Дагледзь каня дома, то ён цябе ў дарозе. *Сержп., 29.*

а) Шануй каня ўдому, а ён цябе ў дарозе. *Ляцкий, 59; Гильт., 287—288.*

1191. Не спяшы яздою, а кармі каня ў дарозе. *Нос., 103.*

1192. На галодным кані доўга не наездзіш. *Дразд.*

1193. Не папа́сціўшы, далёка не ўедзеш. *Ляцкий, 27.*

1194. Каню раса́ лепш, як аўса. *Dybow., 12; Fed., 148.*

1195. Прыстаўшы, давай каню есці. *Ляцкий, 36.*

1196. Конь ад добрага вока сыцейшы бывае. *Рапан., 104.*

1197. Конь галаву адкусіць. *Нос., 67.*

а) Кабыла галаву адкусіць. *Нос., 61.*

1198. Што конь, то не свіння. *Fed., 149.*

1199. Каб конь ведаў аб сваёй сіле, то б ніхто яго ў рукі не ўзяў. *Fed., 148. Вар.: Пар., 131.*

1200. Пакуль конь вязе, яго паганяюць. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

1201. Каторы конь цягне, таго і паганяюць. *Fed., 148.*

1202. Калі добры конь, то яго больш яшчэ паганяюць. *Pietk., 326.*

1203. Валі на бурага — буры павязе. *Pietk., 313.*

а) Валі на бурага — буры ўсё звязець. *Добр., Смол., 12.*

1204. Бяжы, коніку, дастанеш аброку, а не, — то кіем па боку. *Fed., 147.*

1205. Цераз сілу і конь не скачаць. *Tyszk., 433.*

а) Цераз сілу і конь не цягне. *Шпіл., 172; Dybow., 188; Ром., Бел., I, 314; Ляцкий, 59; Fed., 277; Дуб., 50.*

б) Цераз сілу і конь не бярэ. *Сержп., 80.*

в) І конь праз сілу не возьме. *Fed., 148.*

г) Чэраз сілу і конь не ступіць (не дзёрнець, не зможа). *Нос., 182; Добр., Смол., 51; Pietk., 326.*

1206. Па змазе́ конь вязе. *Раст., 189.*

1207. Конь скапрыжаны на дыбы становіцца. *Дуб., 29.*

1208. Зацінліваму каню пуга не паможа. *Fed., 149.*

1209. На лечаным каню не наездзіш. *Шырма, 205.*

а) На лечаным кані мала наездзіш. *Fed., 149.*

б) На лечанай кабыле не наездзішся. *Ром., Зап., III, 225.*

в) На лечанай кабыле не многа паездзіш. *Fed., 132.*

г) На лечаным кані доўга не наездзіш. *Дразд.; Шырма, 205. Вар.: Махнач, 24.*

д) На лечаным каню не многа ўедзеш. *Нос., 86. Вар.: Mien., 395; Pietk., 326.*

е) На калечаным каню не шмат паездзіш. *Дуб., 38а.*

ж) На кульгавым кані далёка не заедзеш. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

1210. Лянівы конь і дубіны не баіцца. *Сцяшк., 598, Свісл.*

1211. Конь здыхае, а есць. *Fed., 149.*

а) Кабыла здыхае, а за траву хапае. *Czeczot, 109.*

б) Кабыла здыхаець, а траву хапаець. *Нос., 61. Вар.: Dybow., 11; Л. Малаш, 1969, Докш. 8.2.22.*

в) Кабыла здыхае, а за траву хватае. *Киркор, 235.*

г) Канаець, а зелле хапаець. *Нос., 67; Сержп., 62.*

1212. Добры быў той конік, што падох, — тысячу пудоў вазіў. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

1213. Вялікая кабыла, да малая сіла. *Нос., 13.*

1214. Вялікая кабыла, да худая. *Fed., 132.*

1215. У кабылы галава бальшая, а большы хвост. *Ляцкий, 48.*

1216. Была б кабылка сіва, каб не белагрыва. *Ляцкий, 5.*

1217. Часам і кляча далёка заскача. *Янк., 185.*

1218. Да добрыя клячы не трэба прыдачы. *Г. Карачун, 1967, Клецк. 13.10.14.*

1219. Кабыла цяляці не прывядзе. *Сержп., 78.*

1220. Кабыла дванаццаць жарабцоў прывяла і ў хамуце́ здохла. *Fed., 132.*

1221. Кабыляя матка ніколі не здыхаець. *Нос., 61.*

1222. То не конь, што ў балота ўцягне, а то конь, што выцягне. *Fed., 149.*

1223. Цяпер не ратуй чалавека, а ратуй каня, бо чалавек патопіць, а каняга вывезе. *Сержп., 124.*

1224. Конь пырхае — будуць рады. *Fed., 148.*

1225. Які пастух, то такé й стада. *З нар. сл., 180, В. Шур, Лельч.*

1226. Хто добры пастух, той гаспадар добры. *Fed., 223; У. Іваноў, 1958, Мінск.*

1227. Ліхі той пастух, які воўку друг. *Янк. М., 140.*

1228. Гаспадыня па градах відаць, а пастух па голасе чуваць. *Янк., Дыял., I, 206, Глуск.; Ю. Звярко, 1965, Іў. 13.10.5.*

1229. У пастушкі няма служкі. *Сержп., 136.*

а) Няма служкі для пастушкі. *Дуб., 37а.*

1230. Карова ў лубіне, а пастух у гаросе. *Сцяшк., 595, Шчуч.*

1231. Каровы з поля — і пастуху воля. *Сержп., 28.*

1232. Снег напаў — пастух прапаў. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.4; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1233. Дзе цвет, там і мед. *Шейн, II, 477, Ігум. п.*

а) Дзе кветкі, там і мёд. *І. Вайганіца, 1963, Іў. 13.10.1.*

1234. Пчала — дармавы батрак. *Рапан., 228.*

1235. Пчаляр ды доктар і ў лесе не памрэ. *Янк., Дыял., I, 219, Глуск.*

1236. Не налавіўшы пчол, не есці мёду. *І. Хаўратовіч, 1951, Кругл. 13.8.4.*

1237. Рой роем, а ты і сам не спі. *Ляцкий, 38.*

1238. Дрэнь пчолы — дрэнь і мёд. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

1239. Не столькі таго мёду, колькі смуроду. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

1240. На капейку мёду, а на рубель смуроду. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

1241. Мёд і грэчка — брат і сястра. *«Звязда», 30 красавіка 1961 г., Церах.*

1242. Прысядзем, штоб пчолкі садзіліся. *Нос., 138; Сержп., 70.*

1243. Каторы год мёдна, той год не вельмі хлебна. *Крачк., 101.*

10. Зак. 363

## ПРОМЫСЛЫ І РАМЕСТВЫ

1244. З рамяством дружыць — у жыцці не тужыць. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

1245. Рамясло піць-есці не просіць, а само корміць. *Л. Марчанка, 1960, Церах. 13.3.29.*

1246. Масцярства за плячмі не носяць, а з ім добра. *Ром., Зап., III, 223.*

а) Рамясло за плячыма не насіць. *І. Саламевіч, 1975, Слон.*

1247. Умеенкі за плячыма ніхто не носіць, да ў галаве. *Fed., 319.*

а) Умéенкі ніхто за плячыма не носіць. *Янк., 120. Вар.: Нос., 178.*

1248. Усё што ўмееш, то добра. *Fed., 319.*

1249. Які раменік — такая работа. *Fed., 258.*

а) Які майсцер — такая работа. *Нос., 194. Вар.: Fed., 175; А. Мацкала, 1965, Іў. 13.3.13; С. Палікоўская, 1960, Воран. 13.1.3; М. Канцавая, 1967, Чач. 13.3.20.*

1250. Было рамясло, ды хмелем парасло. *Pietk., 339. Вар.: М. Малочка, 1959, Чаш. 8.1.46.*

1251. Па рабоце майстра знаць. *Fed., 175.*

1252. Папала тайстра на свайго майстра. *Нос., 133.*

1253. Майстар, зрабі кляйстар. *Fed., 175.*

1254. Дзела майстра баіцца. *Ахрым., 29. Вар.: В. Брычакоў, 1960, Кар. 13.3.29.*

1255. Усякае дзела майсцера баіцца, а інога дзела і майсцер бегае. *Ром., Зап., I, 216.*

1256. Дзельніка дзела баіцца. *Нос., 34; Дуб., 15.*

1257. Не то-то дорага, што золата; то-то дорага, што дарагога масцера. *Ром., Зап., III, 227.*

1258. І ў мяне ёсць рукі. *Fed., 265.*

1259. Вочы страшацца, а рукі зробяць. *Fed., 336; Л. Тур, 1965, Руж. 13.10.1.*

а) Вочы страшаць, а рукі робяць. *Сах.*

б) Вочы бачаць, а рукі робяць. *А. Русіновіч, 1954, Светл.*

1260. Свая рука — уладыка: як зробіць, так і добра. *А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29.*

1261. Як умею, так і клею. *Сах.*

1262. У яго і шыла голіць. *Нос., 167; Дуб., 62.*

1263. У яго і шыла брые, а наша і брытва не бярэ. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

1264. За што ён ні возьмецца, усё яму ймецца. *Дуб., 24.*

1265. Хто ўмее ўсяк, а хто — ніяк. *Янк., Дыял., III, 169, Акцябр.*

1266. Замка без ключа не робяць. *Янк., Дыял., III, 159, Глус.*

1267. Не сілаю, то розумам. *Fed., 277.*

1268. Дзе не можна сілай, там бяры здогадам. *А. Ліс, 1967, Міёр.*

1269. Каму ў галаву за́йдзе, дык той і на печы зна́йдзе. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

а) Каму ў галаву зайдзе, той за печкай знайдзе. *М. Бандарэнка, 1966, Мал. 13.3.29.*

1270. Чаго не можна ўзяць рукамі, хапай галавой. *А. Ліс, 1967, Міёр.*

1271. Ліха жыць без спосабу. *Сержп., 58.*

1272. На ўсё спосаб знайдзецца. *Fed., 287.*

1273. Не так, дык спосабам. *Янк. Н., 13.*

1274. Добра даць спосаб за жывою галавою. *Сержп., 133.*

1275. Той сам штук, да на другі спосаб. *Fed., 300.*

1276. Дзе сілаю не зробіш, то спосабам. *Fed., 277; Сцяшк., 588, Бераст.*

1277. Не сілаю, то спосабам чалавек усяму на свеце зара́дзіць. *Fed., 63.*

1278. Не сілай ухапі, а розумам. *Ляцкий, 27.*

1279. Трэба розумам надтачыць, дзе сіла не возьме. *Ляцкий, 46.*

1280. Сілай капа́ць — вады не піць. *І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35.*

1281. Да ўсяго трэба прахтыкі. *Fed., 242.*

1282. Не багаты варыць піва — тарава́ты. *Ром., Зап., III, 225.*

1283. К усякаму дзелу заўчэсне гатоўсь. *Бяльк., 134, Мсцісл.*

1284. Хоць раз, да гразд. *Нос., Слов., 121.*

1285. Не скора, да здорава. *Ром., Зап., III, 226.*

1286. Чыста і гладка: камар носа не падточыць. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

1287. Многа ды дурнога. *Крапіва, 247.*

1288. З голымі рукамі нічога не зробіш. *Сержп., 99.*

а) Аднымі рукамі нямнога зробіш. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

1289. Пальцам не пераківаеш. *Fed., 213.*

1290. Без начыння і лапця не спляцеш. *Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

а) Без інструмента і лапця не спляцеш. *Ахрым., 21.*

1291. Без сякеры не плотнік, без лапаты не агароднік. *Махнач, 24.*

1292. Без прыбору і вошы не заб'еш. *Нос., 5; Дуб., 76; Fed., 248.*

а) Без струманту і вошы не заб'еш. *Крапіва, 247.*

б) Без прылады і вошы не заб'еш і блахі не паймаеш. *Бяльк., 351, Мсцісл.*

1293. Дрэнная снасць адпачыць не дасць. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

1294. Ключ сільней замка. *Ром., Зап., III, 222.*

1295. Адзін друк за дзесяць рук. *Fed., 82; Pietk., 365; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Адзін прут болей, як дзесяць рук. *Dybow., 4; Fed., 247.*

1296. Калі б не друк, быў бы чалавек нача без рук. *Pietk., 365.*

1297. Аб камень і ступіш, аб камень і павострыш. *Янк., Дыял., III, 153, Глуск.*

1298. Без паджогі дравам не гарэць. *Tyszk., 432; Шпил., Бел., 175.*

а) Без паджогі дровы не гараць. *Нос., 5; Dybow., 6; Добр., Смол., 13; Fed., 82; А. Фядосік, 1968, Капатк. 8.1.76.*

б) Без лучыны дровы не гараць. *Дуб., Нар., 1.*

в) Без падпалкі дровы не гараць. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

1299. Без нажа, як без рук. *Г. Лось, 1949, Бабр. 9.5.4.*

1300. Ні нож, ні сякера. *Сержп., 121.*

1301. У сумцы вешчы — зубіла ды клешчы. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1302. Ці гэблем, ці скоблею — усё раўно. *Нос., 179.*

1303. Стралой камень не праб'еш. *Сцяшк., 609, Гродз.*

1304. Прыгадзіцца тыльца к більцу. *Дуб., 50.*

1305. Чыя рака, таго і рыба. *Рапан., 272.*

а) Чый бераг, таго і рыба. *Fed., 31.*

1306. Хто вудзіць, той нудзіць. *К. Кабашнікаў, 1960, Кап. 8.1.57.*

1307. З ву́ды абед ху́ды. *А. Гурскі, 1971, Паст. 8.2.46.*

1308. У рыбака заўсёды голыя бака. *К. Кабашнікаў, 1960, Стаўб. 8.1.57.*

1309. У рыбалова хоць мокрыя бакі, але юшка наварыстая. *Паддубны.*

1310. У рыбака голыя бака, але абед панскі. *Fed., 268; БіСМ, 197, А. Крывіцкі, Палессе.*

а) Рыбакі — голыя бакі, а абед панскі. *Янк., Дыял., I, 220, Глус.*

1311. У рыбака голы бака, але панскі абед, а ў стральца дым густы, але абед пусты. *М. Грынблат, 1946, Староб. 8.1.8.*

1312. Хто рыбу вудзіць, гаспадаром не будзець. *Дуб., Нар., 1.*

1313. Хто рыбу вудзіць, у таго хлеба не будзець. *Сап., 261.*

1314. Рыбы многа, хлеба мала. *Fed., 267.*

1315. Кагда рыбна, то галодна. *Берман, 38.*

1316. Рыба — хіба. *Янк. М., 104.*

1317. Лавіў, лавіў, а ад кошкі нечым адбараніцца. *Сап., 261.*

1318. Рыбачыў, рыбачыў, а рыбы й не ўбачыў. *Мін.-Мал., 1974, 189, Узд.*

1319. Рыбаку хуць не рыбна, дак юшна. *Добр., Смол., 39.*

а) Хоць не рыбна, дак юшна. *Нос., 174; Сап., 262.*

б) Хоць не рыбіна, да юшка. *Дуб., 68.*

1320. Калі рыбна, дак і юшна. *Нос., 65; Дуб., 29.*

1321. Кала рыбы хадзіў — рыбы нанюхаўся. *Сап., 261.*

1322. Рыбу еш, да рабака не з'еш. *Дуб., 52а.*

1323. Стралец лапці пляцець, рыбак рыбку пячэць. *Міеп., 397.*

а) Рыбак рыбку пячэ, а мыслівы (стралец) лапці пляце. *Fed., 268; Сах.*

б) Рыбак рыбку пякець, стралец лапаткі пляцець. *Сап., 261. Вар.: Добр., Смол., 39.*

в) Рыбак рыбку нясе, а ахотнік лапці пляце. *Н. Купцоў, 1967, Ветк. 13.3.29.*

1324. Рыбак рыбака бачыць здаляка. *Fed., 268; Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.8.2.*

1325. Рыбак рыбку відзіць здалёка. *Tyszk., 421.*

1326. Рыбак дажджу не баіцца. *Fed., 268.*

1327. Хочаш, каб рыбу лавіў і не памачыўся. *Ворожб.*

1328. Лыткі загаліў, а шчупака не злавіў. *Ляцкий, 19; Сержп., 66.*

1329. Пайду на раздабыткі, падняўшы лыткі. *Вас., 144.*

а) Пашоў у здабыткі, падвязаўшы лыткі. *Fed., 352.*

1330. І рыбы не хачу, і хваста не мачу. *Шейн, II, 476, Ігум. п.*

1331. Не замуціш вады — не паймаеш рыбы. *Сап., 261.*

1332. Рыбка ў рацэ, ды не ў руцэ. *Ахрым., 50.*

а) Рыба не ў руцэ, а ў рацэ. *Fed., 267.*

б) Рыбы ў рэчцы, да не ў ручцы. *Булг., 176.*

в) Не рыба, што ў рацэ, а рыба, што ў руцэ. *Янк., Дыял., I, 216, Глус.*

г) Што ў рацэ — яшчэ не ў руцэ. *1961, Кап. 13.9.5.*

1333. Рыбка ў рацэ, шчасце — у руцэ. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1334. Не той шчупак, што з вады сарваўся, а той, што ў вядры застаўся. *Паддубны.*

1335. Вудаю добра толькі рыбу лавіць. *Мін.-Мал., 1970, 159, Уздз.*

1336. Рыба клюе ў таго, хто чакае. *Сцяшк., 607, Дзятл.*

1337. Худой сеткаю рыбы не наловіш. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

1338. Тады рыбу лаві, як бярэцца за вуду. *Fed., 267.*

1339. Тую рыбіну не еш, што ў воды, — падавішся. *Сап., 261.*

1340. Тую рыбіну не зловіш, што з вады зірыць. *Сап., 261.*

1341. Не бяры бабуры, лепей шчупака за бака. *Сержп., 65.*

1342. Калі прыйдзе судак, то не пойдзе так. *Янк. М., 104.*

1343. Перад невадам рыбы не лаві. *Dybow., 112; Шпил., 188; Czeczot, 188; Fed., 267.*

а) Уперад невада рыбы не ловяць. *Нос., 17.*

б) Перад невадам рыбу ловіць. *Вас., 58; Fed., 267.*

в) Проціў невада рыбу не ловяць. *Pietk., 340.*

1344. Злавіў акуня з каня, а плотку з лодку. *Г. Барташэвіч, 1963, Глыб. 8.1.82.*

1345. У тры секачы сякуць, аднаго рака пякуць. *Tyszk., 424; Шейн, II, 482; Дуб., 65; Fed., 276.*

1346. Хлеб сказаў: «Астаў (пакінь) стрэльбу і вуду, тагды я ў цябе буду». *Шейн, II, 483, Ігум. п.; Дуб., 57; Fed., 52. Вар.: Махнач, 24.*

а) Хлеб кажа: «Кінь стрэльбу і вуду — я ў цябе на стале буду». *І. Цішчанка, 1970, Астр. 8.2.29.*

б) Пакінь стрэльбу і вуду, то і я ў цябе буду. *Tyszk., 435; Нос., 131; Kolb., 473; Ляцкий, 18; Fed., 292.*

1347. Аддай вуду, больш не буду. *Суяшк., 578, Шчуч.*

1348. Хто палюе і рыбачыць, то хлеб рэдка бачыць. *Fed., 214.*

1349. Рыба і зайцы завядуць у старцы. *Янк. М., 107.*

1350. У стральца дым густы, ды абед пусты. *Сержп., 128; Pietk., 393. Вар.: Г. Цітовіч, 1948, Дзівін. 8.1.22.*

1351. Харошы стралец — дурны хазяін. *Нос., 173.*

1352. Без ахоты хватаець работы. *Добр., Смол., 38.*

1353. На лаўца і звер бяжыць. *Нос., 85; Ром., Зап., III, 224.*

а) На паляўнічага і звер бяжыць. *Махнач, 24.*

б) Наскочыў звер на лаўца. *Ляцкий, 23.*

1354. Калі ідзеш на мядзведзя — сцялі пасцель, а калі на дзікага кабана — пасылай за папом. *Pietk., 378.*

1355. Той папаў, ля каго звер упаў. *Pietk., 384.*

1356. Хто ў нас на зайца не лас? *Рапан., 270.*

1357. Вала з'ядуць, зайца заб'юць. *Czeczot, 115; Шпил., 180; Киркор, 234.*

а) Вала з'ядуць, пакуль зайца заб'юць. *Нос., 15; Fed., 348.*

б) Вала з'елі ды зайца адалелі. *Сержп., 128.*

в) Вала заб'юць, а зайцам закусяць. *Нос., 15.*

г) Хоць каня палажылі, ды зайца ўхадзілі. *Сержп., 128.*

1358. Цэліў, не цэліў, а воўка ўзяў. *Fed., 47.*

1359. Папалася ліса ў пастку ды кажа: «Хоць і рана яшчэ, ды прыдзецца начаваць». *Махнач, 26.*

1360. Па слядах зайца можна і мядзведзя знайсці. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1361. На шырокім полі зайца не зловіш. *Fed., 347; В. Бондар, 1967, Мін. 13.10.24.*

1362. Доўга сядзеў і нічога не выседзеў. *Fed., 274.*

1363. У паляўнічага часта і заяц пудовым бывае. *Паддубны.*

1364. Не хваліся, колькі разоў стрэліў, а хваліся, што застрэліў. *Паддубны.*

1365. Стралец — пук, дзесяць грошай з рук. *Сержп., 128.*

1366. Ружжо адзін раз у год само страляе. *А. Махнач, 1952, Уздз. 12.10.15; Л. Царанкоў, 1960, Брэсц. 13.9.2.*

1367. Пастарайся ўпярод клеткі, потым лаві птушку. *Fed., 146.*

1368. І на птушку ёсць укарота — сілкі ды цянёта. *Сержп., 128.*

1369. Страляй сароку, варону — даб'ешся да сокала. *Дуб., 57.*

а) Бі сароку і варону — даб'ешся белага лебедзя. *Tyszk., 416; Нос., 5; Дуб., Нар., 1.*

1370. Два ваўка зара́з не зловіш. *Ю. Ботвін, 1967, Ваўк. 13.10.28.*

1371. Воўк яшчэ бегае, а шкуру ўжо дзеляць. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

1372. Ёсць на воўку кажух, ды прышыты. *І. Хайратовіч, 1951, Талач. 13.8.4; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1373. Лісе яе ж вораг шкура. *В. Зубарай, 1956, Гом. 13.3.29.*

1374. Калі забіў, то валачы. *Fed., 346.*

1375. Кеды забіў, то й пахавай. *Fed., 346.*

1376. Не тагды сабак кормяць, калі на ўловы ехаць. *Нос., 104.*

а) Тады сабак карміць, як у ловы іціць. *Бяльк., 251, Мсціcл.*

б) Сабак не тады кормяць, як на ўлоў едуць. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

в) Не тагды харты (сабакі) карміць, як на паляванне ісці. *Fed., 50, 269. Вар.: Mien., 396; Махнач, 24; Ламека, 1965, Вайк. 13.9.2; Д. Зальцэвіч, 1965, Радашк. 13.10.6.*

г) Не тады хартоў кормяць, як у ловы едуць. *Бяльк., 475, Краснап.*

д) Нечага хартоў карміць, када на ахоту ехаць. *Добр., Смол., 107.*

е) Як на паляванне ехаць, то тады сабак не карміць. *Fed., 214.*

1377. Якава псу кормля, такава ад яго лоўля. *Ром., Зап., III, 222.*

1378. Не бойсь, калі сабака гончы, то знае, дзе заёчы след. *Fed., 269.*

1379. У каваля рукі ў золаце. *Сержп., 51.*

1380. Багаты зажабруе, а каваль запануе. *Янк. М., 39.*

1381. Калі на дварэ лёд, то кавалю мёд. *Dybow., 182; Шейн, II, 483, Слон. п.*

а) Як на дарозе лёд, то кавалю мёд. *Fed., 140.*

1382. Як снег завее, то каваль хварэе. *Fed., 140.*

1383. У каваля, што стук, то грыўня. *Ром., Бел., I, 311; Ляцкий, 48.*

1384. Каваль куе, каваліха пяе. *«Полымя», 1969, № 10.*

1385. Каваль кує, а жалеза пяе. *А. Акунькова, 1971, Паст. 8.2.47.*

1386. Не ўмееш шыць золатам, так куй молатам. *Сержп., 51.*

1387. Каваль робіць людзьмі, а сталяр грудзьмі. *Fed., 140.*

1388. Каваль без молата, як без рук. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

1389. Каваль на то клешчы куець, штоб рук не папеч. *Нос., 61.*

а) На то каваль абцугі куець, каб рукі не папеч. *Дуб., 42.*

б) На тое каваль клешчы мае, каб рук не папёк. *Fed., 140. Вар.: Pietk., 325.*

в) На то каваль шчыпцы маець, каб рук не папёк. *Ляцкий, 24.*

г) Каваль клешчы трымае, каб рук не папёк. *Dybow., 12; Fed., 140.*

1390. Каваль — без сякеры, шавец — босы. *Fed., 140.*

1391. Каваль без сякеры і без нажа сядзіць. *Fed., 140.*

1392. Пугаю кавадла не рассячэш. *Мат., 184.*

1393. З іголкі долата не зробіш. *Ахрым., 32.*

1394. Каб не клін і мох, то плотнік даўно б здох. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29. Вар.: А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; С. Цярохін, 1974, Саліг.; Добр., Смол., 38.*

а) Каб не клін ды не мох, даўно б майстра здох. *Шейн, II, 478, Барыс. п. Вар.: Fed., 175.*

б) Каб не клін і не мох, цесля бы здох. *Fed., 58, 146.*

в) Штоб не клін да не мох, то б майсцер (плотнік) з галаду здох. *Pietk., 374; А. Фядосік, 1960, Капатк. 8.1.73.*

1395. На крутое дзерава трэба крутога кліна. *Fed., 95.*

1396. Бондар і каляснік — не рамяснік. *Ляцкий, 5.*

1397. Які бондар, такая і дайніца. *Абаб.*

1398. Бёрнік сітніку не раўня. *Мін.-Мал., 1970, 158, Уздз.*
а) Сітнік берднiку не таварыш. *Pietk., 342.*

1399. Сітнік карабельніку не таварыш. *Fed., 278.*

1400. Тагды лыкі дзяруць, калі дзяруцца. *Mien., 395.*
а) Тагды лыка дзяры, калі дзярэцца. *Fed., 172.*
б) Дзяры лыкі, пакуль дзяруцца. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1401. Нуце, паедзем у луцце. *Дуб., 41.*

1402. Ганчар у чарапку есці варыць. *Fed., 103; Янк. М., 19.*
а) Ганчар гаршкі лепіць, а ў чарапку есці варыць. *К. Кабашнікаў, 1963, Дзятл. 8.1.84.*

1403. Ганчар у чарапках есці варыць, а шавец у атопках ходзіць. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

1404. Не святыя гаршкі лепяць. *Сержп., 186; Fed., 105; 307; Pietk., 376.*

1405. Дзе капачы капалі, там і грошы прапалі. *Tyszk., 434; Шпил., 178; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.39.*
а) Дзе грабары капалі, там грошы прапалі. *Fed., 114; Сержп., 51; Добр., Смол., 38.*

1406. Змяла — не змяла, абы ў мяліцы пабывала. *Янук., 30.*

1407. Дзе трапачы трапалі, там і грошы прапалі. *«Зорка». Вар.: Нос., 9.*

1408. Тады баба доўгу нітку прадзе, калі шчупак лёд хвастом разаб'е. *Ляцкий, 44.*

1409. Якая кудзеля, такая прадзеля. *Fed., 156.*

а) Якая прадзельніца, такая і нітка. *Fed., 243.*

1410. Якая пража, такое і палатно ляжа. *М. Малочка, 1960, Стаўб. 8.1.56.*

1411. Не папрала пад дымком, мусіш прасці пад тынком. *Fed., 245. Вар.: Добр., Смол., 54.*

1412. Не забуляйся верацяном, бо з каня па́дацьмеш. *Fed., 329.*

1413. Ільну набяры сарасенку, ды прыладзь харашэнька — дык і кросны. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1414. Стаў на стану́: ні к лаўцы, ні к сталу. *Нос., 155; Дуб., 57.*

1415. Дзе кросны, там бабам млосна. *Жанч., 272; Сцяшк., 588.*

1416. Красе́нца-сухаце́нца, дакуль вам стаяць, датуль мне стагнаць. *Янк. М., 86.*

1417. Лішняя нітка палатну завада. *Нос., 74; Сержп., 56.*

1418. Аснова кепска, але майстар добры: як патрэцца, будзе добра. *Fed., 10.*

1419. На тонку сарочку трэба доўга пасядзець, а на белу — трэба доўга пастаяць. *Fed., 272.*

1420. Было не міколіць, не марколіць, ды было сарочку партоліць. *Fed., 186.*

1421. Не шапавал душу ўлажыў. *Дуб., 43.*

1422. І з голкі кравец жыве. *Fed., 111.*

1423. Ці шавец, ці кравец — не стралец, а майстар. *Янк. М., 134.*

1424. Кравец за іголку, баба за калатоўку. *Pietk., 322. Вар.: Добр., Смол., 38.*

1425. Якая работа, такая й капота. *1961, Брасл. 13.9.5. Вар.: І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

1426. Не завязаўшы вузла, першы штых прапаў. *Ляцкий, 25.*

1427. На воўну авец знойдзецца і кравец. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1428. Намётка ў прачкі, а сарочка ў швачкі. *Бяльк., 342, Краснап.*

1429. Усякі кравец сваім кроем крое. *Ляцкий, 51.*

1430. Усякі партны мерае па свайму крою. *Ром., Зап., III, 292.*

1431. Кажны кравец сваім кроем, кажан кеп сваім строем. *Fed., 152.*

1432. Ты краўца не вучы: без цябе скрое. *Ляцкий, 46.*

1433. Так кравец крае́, як сукна стае́. *Fed., 152.*

1434. Як скроіў, так і шый. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

а) Як пакроіў, так пашыў. *1961, Кап. 13.9.5.*

б) Як скроіш, так і пашыеш. *1961, Брасл. 13.9.2.*

1435. Як рукі зробяць, так плечы зносяць. *1961, Кап. 13.9.5.*

а) Як рука зробіць, так цела зносіць. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

б) Як рукі зробяць, так спіна зносіць. *А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29.*

в) Як пашыеш, так і зносіш. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29; 1961, Брасл. 13.9.5.*

1436. Пашыў: на сабаку мала, а на ката вяліка. *Ігнат.*

1437. Клей на бумажку, а іглу на рубашку. *Ром., Зап., III, 222.*

1438. Шый, шый, пашывай, ды другому падавай. *Ром., Бел., I, 314.*

1439. Кажна прачка ў чорнай сарочцы ходзіць. *Fed., 243.*

1440. Шавец робіць плячыма, а бондар грудзьмі. *Pietk., 389.*

1441. Шавец шыіць — жонка выіць. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1442. Хоць шылам пакручу, але нікому не плачу. *Шырма, 206.*

1443. Кажан шавец без ботаў (босы) ходзіць, а ў каваля сакеры няма. *Fed., 237.*

1444. Шавец у падзёртых (дзіравых) ботах ходзіць. *Ляцкий, 59; Сцяшк., 616, Ашм. Вар.: Ром., Зап., I, 215.*

1445. У бахільшчыка ніколі няма бахіл. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1446. Шэўчыкі, краўчыкі — добрыя людзі: не ўкраўшы нітачкі, шыці не будзе. *Fed., 297.*

а) Шэўчыкі, краўчыкі — добрыя людзі: не ўкраўшы шма́тачкі (латачкі), жыці не будзе. *Fed., 297.*

1447. Каму што, а мельніку вецер. *Сцяшк., 595, Іў.; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29; М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

1448. Кажан млін на сваё калясо ваду цягне. *Fed., 188. Вар.: Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

1449. Добрыя жорна ўсё перамелюць (змелюць). *Fed., 366; Ахрым., 30.*

1450. Хоць позна, да завозна. *Нос., 174.*

1451. Калі засыпаў, то няхай меле. *Fed., 177.*

1452. Нясі здароў, калі змалоў. *Fed., 203.*

1453. Гэта табе толька пачынка, а будзе й цэлая аўчынка. *Ляцкий, 8; Сержп., 137.*

1454. Шкура вырабу не варта. *Dybow., 18.*

а) Аўчынка вырабу не варта. *Ахрым., 20; У. Іваноў, 1958, Мінск. Вар.: Юрч., 1972, 54.*

б) Аўчынка вычынкі не варта. *Янк., Дыял., III, 26, Глуск.*

в) Не варта скура вырабу. *Fed., 281; А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3.*

г) Скурка не варта вычынкі. *Pietk., 345.*

1455. Вычынка даражэйшая за аўчынку. *Янк., Дыял., III, 155, Глуск.*

1456. Музыка ды дудар — невялікі гаспадар. *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24.*

а) Музыка-дудар — невялікі гаспадар. *Ляцкий, 21.*

1457. З музыкі да з млінара не будзе гаспадара. *Fed., 190.*

1458. З музыкі да з муляра нігды няма гаспадáра. *Fed., 190.*

1459. Дудар — не гаспадар, стралец — не жылец, рыбак — і той па вушы абгніецць. *Шейн, II, 476, Барыс. п.; Fed., 84.*

1460. Калі араць, дык у дуду не іграць. *Сержп., 84.*

1461. З музыкі хлеб невялікі. *А. Ліс, 1952, Смарг.*

а) У стральца і музыкі хлеб невялікі. *Янк., Дыял., I, 223, Глуск.; I. Цішчанка, 1970, Астр. 8.2.29.*

1462. Музыкант іграець — жонка хлеба не маець. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1463. Дудар дудару дарма іграець. *Tyszk., 421; Нос., 38; Сержп., 123.*

1464. Дудар і дудару дармо граць не будзе. *Fed., 84.*

1465. Грай на веру, а пішы на сцену. *Шейн, II, 475, Ігум. п.*

1466. Калі не музыка, не бяры скрыпкі ў рукі. *Fed., 190.*

1467. Мядзведзь што скочыць, то цыган грошы валочыць. *Шпил., 187.*

а) Мядзведзь скача — цыган грошы бярэ. *Шпил., 184.*

1468. Мядзведзь танцуець — цыгану на сала шанцуець. *Шпил., 187.*

1469. Мядзведзь пот ліе, цыгану даход дае. *Рапан., 255.*

1470. Скамарох папу не таварыш. *Нос., 150; Дуб., Нар., 42. Вар.: Мат., 175.*

## ПРАЦА

1471. Шчырая праца — мазалёвая. *Нос., 190.*

1472. Паносіш мазалёў — пад'ясі хлеба. *Fed., 367.*

1473. Працы і світкі не саромейся. *Янк., Дыял., I, 219.*

1474. Што цяжка здабыта, то будзе доўга жыта. *I. Сувалаў, 1958, Чач. 13.3.29.*

1475. Чым цяжэй, тым даражэй. *1961, Кап. 13.9.5.*

1476. Чалавек жыве век, а добрае дзела — два. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

1477. Работай ад зары да зары — не будзеш жыць за долю, а будзеш жыць за мазалі. *1959, Беш. 8.1.42.*

1478. Праца да рукі — моцныя парукі. *Сах.*

а) Праца і рукі — моцныя зарукі. *Янк. М., 143.*

1479. Праца і сіла горы звернуць. *Мін.-Мал., 1970, 165, Пух.*

1480. Усё жывое трудзіцца. *Дуб., 64.*

1481. Людзі без дзялоў не бываюць. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

1482. Дзетачка, спі, а дзельца помні. *Нос., Слов., 132.*

1483. Справа не забава. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

1484. Хто любіць трудзіцца, таму без працы не сядзіцца. *І. Старасценка, 1960, Карм. 13.3.29.*

1485. Работа міла, да дзень малы. *М. Грынблат, 1973, Асіп.*

1486. Гора і труд усёператруць. *Н. Свёкла, 1965, Іў. 13.10.2.*

1487. Работа і корміць і поіць. *Нос., 143; Я. Няверны, 1965, Воран. 13.10.3.*

1488. Без працы нечага (няма чаго) й хлеба шукаці. *Ляцкий, 5; А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3; Сцяшк., 581, Шчуч.*

1489. Без мазаля на руках не будзеш мець хлеба ў зубах. *І. Вайганіца, 1963, Іў. 13.10.1.*

1490. Хто працуе, той мае. *Fed., 242; Шырма, 206; А. Ліс, 1958, Смарг.; Н. Канцавая, 1967, Чач. 13.3.29.*

а) Хто гаруе, той і мае. *В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

1491. Вось на свеце як бывае: хто працуе, той і мае. *Сах.*

1492. Хто працуе, з голаду не ўмрэ. *Fed., 242.*

1493. Хто не лянуецца туптаць, той мае што хруптаць. *Fed., 315.*

1494. Як патрудзішся, так пажывішся. *Янк., Дыял., III, 171, Глуск.*

а) Патрудзіцца — тагды і пажывіцца. *Янк., Дыял., III, 171, Глуск.*

1495. Не папрацуеш — не пад'ясі. *І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3.*

1496. Хто хлеба хоча, той мусе быць у поце. *Ляцкий, 56.*

1497. Без працы не есці пірагоў. *Дуб., 5.*

а) Без працы не есць калачы. *Tyszk., 415. Вар.: Дуб., Нар., 1; Fed., 242; Pietk., 387.*

б) Без працы не будзеш есці кала́чы. *Нос., 5.*

в) Без працы не будзеш есці каля́цы. *Крапіва, 236.*

г) Без працы не з'ясі акуля́цы. *В. Калюк, 1965, Нясв. 13.10.6.*

1498. Хочаш есці калачы, так не сядзі на пячы. *Булг., 177.*

1499. Як папрацуеш, то ў кожнай страве мёд пачуеш. *А. Ліс, 1961, Міёр.*

1500. Пашоў бы, то й хлеб знашоў бы. *Fed., 54.*

1501. Калі дало рабіць, то дасць і з'есць. *Tyszk., 437.*

1502. Без працы з неба кашка не будзе сыпацца. *В. Калюк, 1965, Навагр. 13.10.6.*

1503. Паносіш мазалёў — паядаеш і хлеба. *А. Ліс, 1957, Шарк.*

1504. Нікому з неба само не спадае. *Fed., 202.*

1505. Сама пташка ў рукі не ўскочыць. *Сержп., 51.*

1506. Рот павінен рукам дзякаваць. *Ляцкий, 38.*

а) Рот няхай рукам дзякуе. *Цуяшк., 607, Ашм.*

1507. Што спіна зробіць, то рот схопіць (ухопіць). *Сах.; Янк. М., 64.*

1508. Прагаладаешся — хлеба дастаць здагадаешся. *Ахрым., 48.*

а) Як прагаладаешся, то яду дастаць дагадаешся. *Сержп., 21.*

1509. Возьме голад — паявіцца голас. *Ром., Зап., I, 217.*

а) Пройме голад — праявіцца голас. *Ром., Зап., III, 229.*

1510. Мацей, успацей, калі хлеба захацей. *Ляцкий, 20.*

1511. Каб смашна пад'есці і хораша хадзіць, трэба многа рабіць. *1961, Кап. 13.9.5.*

1512. Ляжачага хлеба нідзе няма. *Сержп., 51.*

1513. Не стараўшыся, нічога ў рукі не ўлезе. *Fed., 290.*

1514. Нічога само не зробіцца. *Fed., 359.*

1515. Само нішто не прыходзіць у рукі. *Нос., 146.*

1516. Ногі носяць, а рукі кормяць. *Сержп., 51.*

1517. На ўжыткі трэба калаціць лыткі. *Янк. М., 146.*

1518. Па дарозе ідучы, грыбоў не набярэш. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1519. Не пакланяўшыся, і казляка не мецьмеш. *Fed., 212.*

1520. Арэх не раскусіш — зерня не з'ясі. *Ахрым., 20; Сцяшк., 585, Вайк.*

а) Не раскусіўшы арэх, зерне не з'ясі. *І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1.*

1521. Трэба нахіліцца, каб з ручая напіцца. *Ахрым., 54; У. Іваноў, 1958, Мінск; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1522. Не капаўшы студні, вады не піці. *Мін.-Мал., 1970, 163, Уздз.*

1523. Хто лес тралюе, той у добрай хаце начуе. *Мін.-Мал., 1970, 169, Пух.*

1524. Сякушчы пасячэ, а бягушчы пабяжыць. *Fed., 57.*

1525. Не палажыўшы, не найдзеш. *Міеп.*, *396*.

1526. Бог труды любіць. *Добр., Смол., 124*.

1527. Пячоныя галубы не ўляцяць самі да губы. *Fed., 111. Вар.: Пар. 131*.

а) Пячоныя галубкі не будуць ляцець да губкі. *Ворожб.*

1528. Мыш есці не просе, сама сабе наносе. *Ляцкий, 22*.

1529. Не глядзі ні месца, ні круга — не будзеш прасіць хлеба ў друга. *Ляцкий, 25*.

1530. Горка часам праца, ды хлеб ад яе салодкі. *Ахрым., 26*.

1531. Праца з балота робіць залота. *Дуб., 50*.

1532. Хто працуе, таму і шанцуе. *Дуб., 70*.

1533. Хто працуе, той не сумуе. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15*.

1534. Хто працуе, той святкуе. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15*.

1535. Пакуль вочы — патуль свет, пакуль рукі — патуль хлеб. *М. Гваздзёў, 1964, Гом. 8.1.88*.

а) Пакуль вочкі — дык свет, пакуль ручкі — дык хлеб. *Л. Задаля, 1967, Клецк. 13.10.14*.

1536. Каму работа служыць, той ні аб чым не тужыць. *Ахрым., 35*.

1537. Сушыць не работа, а турбота. *І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21*.

1538. Работа не ўстыд. *Fed., 255*.

1539. Праца нікога не крыўдзіць. *Fed., 242*.

1540. Ад навукі галава не баліць, ад работы рукі не сохнуць. *Мін.-Мал., 1970, 157, Пух.*

1541. Работа чалавека не га́ніць. *Ляцкий, 37.*

1542. Праца не паганіць, а корміць. *У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4.*

а) Праца не паганіць чалавека, а корміць, поіць і вучыць. *П. Мушчук, 1965, Ваўк. 13.10.5.*

1543. Работа не бясчэсціць чалавека, а крэпіць і цешыць. *Нос., 143.*

1544. Дзела дзелу вучыць. *Ахрым., 28.*

1545. Той не памыляецца, хто ад працы хіляецца. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

а) Той не памыляецца, хто нічога не робіць. *А. Махнач, 1952, Удз. 13.10.15.*

1546. Умеў памылі́цца, умей і паправі́цца. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

1547. Працуеш і смаку не чуеш. *Мін.-Мал., 1970, 165, Ўдз.*

1548. Працуй і смак чуй. *В. Бондар, 1967, Мінск 13.10.24.*

1549. Прымусовая работа самая цяжкая. *Нос., Слов., 505.*

1550. Рукі да работы, ногі да ахвоты, галава да ўсяго. *Ляцкий, 38.*

1551. Работа ад зубоў балення. *Fed., 255.*

1552. Не вялік муравей, ды горы варочае. *Ахрым., 42.*

а) Мурашка невялікая, а горы капае. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

1553. Работа так не грозна, як забота. *Добр., Смол., 125.*

1554. Кожнаму свая работа, кожнаму свая забота. *М. Грынблат, 1962, Дзятл. 8.1.74.*

1555. Работа не турбота. *Г. Лось, 1949, Бабр. 9.5.4.*

1556. Работа — не забота: забота, калі нет работы. *Ляцкий, 37.*

1557. Ахота горы няволі. *Міеп., 396. Вар.: Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.8.5.*

а) Ахота хужы няволі. *Нос., 123.*

1558. Дзе быць, там трэба рабіць. *Fed., 254.*

1559. Хоць рыгні, а мусіш рабіць. *Fed., 253.*

1560. Ён і ўміраць часу не найдзе. *Fed., 64.*

1561. Калі ўміраць, дык дзень цяраць. *Ром., Бел., I, 299.*

1562. Праца ліха на ўзгорачку: шукай да трымай. *Ляцкий, 35.*

1563. Была б ахвота, дык будзе і работа. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

1564. Была б ахвота, а дзела зробім. *Сержп., 51.*

1565. Абы здароўе, работа будзе. *Ляцкий, 1.*

1566. Што чалавек замоладу запрацуе, то на старасць як знайдзе. *Fed., 64.*

1567. Хто ззамáладу працуе, той на старасць пануе. *Сержп., 51.*

1568. Конь па лецях, а чалавек па рабоце. *Fed., 148.*

1569. І малое дзела лепш вялікага бяздзелля. *Сержп., 51. Вар.: А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

1570. Не той харош, хто прыгож, а той харош, хто для дзела гож. *1961, Брасл. 13.9.5.*

а) Не той харош, хто тварам прыгож, а той харош, хто на справу гож. *П. Мушчук, 1965, Вайк. 13.10.5.*

1571. Не спадзяваўшыся на букі, да вазьмі тапор у рукі. *Нос., 103.*

1572. Работай, нябожа, то і бог паможа. *Шейн, II, 481, Слон. п.; Pietk., 381. Вар.: Дуб., 50; К. Кабашнікаў, 1963, Дзятл. 8.1.84.*

1573. Добры гаспадар ніколі работы не занехіваецъ. *Дуб., 15.*

1574. Як свой струп засвярбіць, тагды ўсё будзе рабіць. *Fed., 254.*

1575. Тады аддыхнеш, як рукі зложыш. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11. Вар.: І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

1576. Хоць рукі чорны, ды работа бела. *Шейн, II, 483, Ігум. п. Вар.: Fed., 265; Сцяшк., 613, Лід.*

1577. Усякае дзела да й мучае. *Ром., Бел., I, 215.*

1578. Хоць памалу, абы добра. *Fed., 215.*

1579. Луччу мала, ды харашо. *Бяльк., 258, Міласл.*

1580. Добра рабі, добра і будзе. *Fed., 254.*

1581. Бобра не бобра, абы зрабіў добра. *Дразд.*

1582. Добра зрабіць — не ў далоні пляскаць. *Мін.-Мал., 1970, 160, Узда.*

1583. Добра ўсё ўмець, але не ўсё рабіць. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

а) Дай, божа, усё ўмець, да не ўсё рабіць. *Tyszk., 416; В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

б) Дай, божа, усё ўмець, да не ўсё рабіць: гэта на руках не ляжыць. *Шпил., 179.*

1584. Хто не ляніцца, той справай сваёй ганарыцца. *Н. Рында, 1967, Зельв. 13.10.23.*

1585. Добра працуеш — павагу маеш. *Янк., 33.*

1586. Добрае дзела само сябе хваліць. *Сержп., 136.*

а) Што харашо, то само сябе хваліць. *Нос., 190.*

1587. Якая справа, такая й слава. *Янк., 35; Абаб.; Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6; Сцяшк., 618, Смарг.*

1588. Дзе справа, там і слава. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1589. Добрая слава далёка чуваць. *А. Фядосік, 1959, Капатк.*

1590. Якая забота, такая і работа. *Ахрым., 61.*

1591. Кожную справу трэба разжаваць. *Сержп., 5.*

1592. Рабі так, каб сабак не дражніць і людзей не смяшыць. *Рапан., 108.*

1593. Як зробім, так і будзе. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

а) Як зробіш, то і будзе так. *Гильт., 287, Кобр. п.*

1594. Як робіш, так маеш. *Fed., 254.*

1595. Кажна работа сваю пару́ мае. *Fed., 255.*

1596. Назаўтра не адкладай. *Fed., 351.*

1597. Не адкладвай назаўтра, што зробіш сёння. *А. Капітанчык, 1965, Слон. 13.10.1.*

а) Не адкладвай назаўтра, што паспееш зрабіць сёння. *П. Мушчук, 1965, Вайк. 13.10.5.*

б) Не адкладвай назаўтра, што можна зрабіць сягоння. *І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1; І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3.*

1598. Адклад не йдзецъ у лад. *Нос., 121; Dybow., 4; Дуб., 1; Pietk., 308; Ахрым., 19; А. Фядосік, 1961, Капатк. 8.8.76; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.3.20; С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29; А. Якіменка, 1966, Б.-Каш. 13.3.20; Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

а) Адкла́ды не ідуць на ла́ды. *І. Хаўратовіч, 1951, Кругл. 13.8.4.*

б) З адкладу няма ладу. *Сцяшк., 590, Астр.; А. Рахунак, 1967, Зельв. 13.10.24.*

1599. Адкладвай бяздзелле, ды не адкладвай работы. *Г. Румоўская, 1965, Пліс. 13.10.40.*

1600. Сягоння зрабі — заўтра як знайдзеш. *І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.4; Г. Шымко, 1965, Дзятл. 13.10.1.*

а) Сянні зробіш — заўтра як найдзеш. *Нос., 160; Ляцкий, 43.*

б) Што сённі зробіш, то заўтра як найдзеш. *Fed., 254.*

1601. Што зробіш сёння, не трэба будзе рабіць заўтра. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

а) Што сянні зробіш, заўтра таго не будзеш дзелаць. *Нос., 189.*

1602. Сон назаўтра адлажы, а работу сягоння зрабі. *Fed., 255.*

1603. Яду назаўтра адлажы, а работу сёння зрабі. *Fed., 128.*

а) Што зрабіць, то сёння, а яду назаўтра адлажэм. *Fed., 254.*

1604. Адзін дзень варты трох для таго, хто робіць усё ў пару́. *«Бел.» 1956.*

1605. Адзін дзень гайда́ — а год бяда. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1606. Хто зявае, той ваду сярбае. *Ром., Бел., I, 313.*

а) Хто зявае, той юшку хлябае. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; А. Фядосік, 1959, Лен. 8.1.76.*

б) Зазяваешся, дык вады нахлябаешся. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29; С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

в) Зяваць — ваду хлябаць. *Цяшк., 593, Гродз.*

1607. Хто рана ўстае, у таго хлеба стае. *Fed., 322.*

1608. Рана ўстанеш — многа зробіш. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

а) Хто рана ўстане, той многа зробіць. *А. Капітанчык, 1965, Слон. 13.10.1.*

б) Раней устанеш — болей зробіш. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1609. Хто рана ўстае, таму бог дае. *Булг., 177; Fed., 258, 322; Pietk., 397; Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29; А. Якіменка, 1966, Б.-Каш. 13.3.29; А. Куцакова, 1956, Рагач. 13.3.29. Вар.: В. Калюк, 1965, Навагр. 13.10.6; Добр., Смол., 56.*

а) Хто да сонца ўстае, таму бог дае. *Сержп., 51.*

б) Як рана ўстаў, то й бог прыстаў. *Fed., 322.*

1610. Рана ўстаў, да бога не прыстаў. *Крэмнеў.*

1611. Рана ўстала, да мала напрала. *Ром., Зап., III, 230.*

1612. Хто любіць працаваць, той не будзе доўга спаць. *З. Валюшка, 1965, Вайк. 13.10.5; Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

1613. Хто рана ўстае, таму бог дае, а хто доўга спіць, таму няма ніц. *Fed., 322.*

а) Хто рана ўстае, таму бог дае, а хто спіць да сонца, таму хлеб у машонцы. *Fed., 322.*

1614. Хто спіць да сонца, таму хлеб у катомцы. *Янк. М., 23.*

1615. Не кайся рана ўстаць, а кайся позна спаць. *Зах., 250.*

а) Не жалей, рана ўстаўшы і позна палажыўшыся. *Міеп., 396.*

б) Не кайся, позна лёгшы, рана ўстаўшы. *В. Калюк, 1965. Навагр. 13.10.6.*

1616. Каму прырупіць, вочы пралупіць. *І. Курбека, 1961. Докш. 13.9.7.*

а) Як рупіць, дык і вочкі лупіць. *Нос., 67.*

1617. Таму рана, каму не дана. *Fed., 258.*

1618. Як слонка на неба, то мы на ногі. *Fed., 295.*

1619. Устане чуць свет — сонца пад абед. *Янк., 387.*

1620. Часы для красы, а час па сонцу. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1621. Думай з вечара, а рабі з рання. *Сах.*

1622. З ранка праца, у вечар плаца. *Fed., 242.*

1623. Хто рана плачыць, той увечар смяецца. *Міеп., 395.*

1624. Хто ўпярод заедзе, той упярод меле. *Fed., 177.*

а) Хто ўпярод заедзе, той меле. *Fed., 321.*

1625. Хочаш грыбоў набраць — трэба рана ўстаць. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1626. Ранняя птушка зерне клюе, а позняя вочкі трэ. *Ахрым., 50.*

1627. Ранняя птушка зубкі цярэбіць, позняя вочкі (уціраe). *Tyszk., 416; Mien., 395; Дуб., 53. Вар.: Fed., 252.*

а) Ранняя птушка зубкі цярэбе, а позняя трэць вочкі. *Ляцкий, 37.*

б) Ранняя птушка зубкі прачышчае, а позняя вочкі праціpae. *А. Ліс, 1968, Смаpг.*

в) Ранняя птушачка дзюбачку калупае, а позняя вочы прадзірае. *А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29. Вар.: В. Калюк, 1965, Навагр. 13.10.6; А. Якіменка, 1966; Б.-Каш. 13.3.29.*

г) Ранняя птушачка носік церабіць, а позняя вочкі праціраець. *Нос., 144.*

д) Ранні зайчык зубкі церабіць, а позні вочкі прадзірае. *Fed., 347.*

1628. Кладзецца з курамі, а ўстае з свіннямі. *Fed., 146.*

1629. Праснуўся ў свіныя галасы. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

1630. Позна ходзіш — сабе шкодзіш. *Fed., 49.*

а) Хто позна ходзіць, [той] сам сабе шкодзіць. *Нос., 177; Fed., 48; Pietk., 313; Ахрым., 59; Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2; А. Хомка, 1965, Ваўк. 13.10.3; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; А. Ліс, 1952, Смарг.*

б) Хто позна прыходзе, той сам сабе шкодзе. *Ляцкий, 55; Сах.*

1631. Рабі пільня — і тут будзе Вільня. *І. Цішчанка, 1970, Астр. 8.2.29. Вар.: Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

а) Круці жорна пільна, то і тут будзе Вільня. *Fed., 333; І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1.*

1632. Галоўнае — пачын. *Сержп., 136.*

1633. Ад пачыну залежыць дзела. *Нос., 122.*

1634. Кажан пачатак цяжкі. *Fed., 208.*

1635. Найтрудней пачаць. *Fed., 208.*

1636. Найгоршы — пачатак. *Fed., 208.*

1637. Найтрудней, пакуль з месца. *Fed., 185.*

1638. Цяжка пачаць, да лёгка канчаць. *Сержп., 136.*

1639. Не глядзі пачатка, глядзі канец. *Сержп., 136.*

1640. Як ест пачатак, будзе і канчатак. *Fed., 208.*

1641. Пачаў харашо — здзелаў палавіну дзела. *Нос., 135.*
   а) Добры пачатак — палавіна справы. *Сержп., 136.*

1642. Добры запеў — усяму парадак. *Дуб., 16.*

1643. Пачатак — дзелу канец. *Сержп., 136.*

1644. Добра завінуцца, да й дзелу канец. *Сержп., 52.*

1645. Які пачатак, такі канчатак. *Fed., 208.*

1646. Дрэннаму пачатку — дрэнны канец. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1647. Ліхі пачатак, калі не відаць канца. *Сержп., 136.*

1648. Які зацінь, такі і зачын. *Нос., 193.*

1649. Без зачатку і канца не было. *Fed., 346.*
   а) Без гэтага пачатку і канца не было. *Fed., 208.*

1650. Не пачынаючы, канца не будзе. *Fed., 208.*
   а) Не пачаўшы, не кончыш. *Мат., 183, Глуск.*
   б) Калі без пачатку, дык і без канца. *Сержп., 136.*

1651. Не надзявай хамута з хваста, не пачынай справы з канца. *Суяшк., 601, Воран.*

1652. Рабі, што хочаш, а глядзі, які канец будзе. *Fed., 136.*

1653. За што бярэшся, канца даб'ешся. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

1654. Хто зрабіў пачатак, няхай зробіць канчатак. *Fed., 208.*

1655. Умеў пачынаць, умей і канчаць. *Сержп., 136.*

1656. Не таго слава, што пачынае, але таго, што кончыць. *Fed., 135.*

1657. З ніткі клубок вярціцца. *В. Скідан, 1970, Швянчон. р. ЛітССР 8.2.32.*

1658. Калі не маеш кончыць, то й не пачынай. *Fed., 135.*

1659. Асталося толькі пачаць і кончыць. *Л. Павецьева, 1967, Мсціcл. 8.1.107.*

1660. Канец — дзелу вянец. *Нос., 67; Fed., 136.*

1661. Пачынальніку ліба першая чарка, ліба першая палка. *Дуб., 45.*

1662. За дзела і гарэлку п'юць і ў шыю (карак) б'юць. *Нос., 45; Сержп., 11.*

1663. Узяцца-то ўзяліся, але як рабіць не спыталіся. *Ляцкий, 48.*

1664. Спроба не хвароба. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

1665. Першу работу за плот выкідаюць. *Fed., 255.*

1666. Хто ў дзеле, тэй і ў атвеце. *Нос., 176.*

1667. Сказаць лёгка, ды зрабіць цяжка. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

1668. Работы да самой суботы. *Fed., 255.*

1669. Па субоце воддых па рабоце. *Ляцкий, 34.*

а) Па субоце адпачынак па рабоце. *Сержп., 98.*

1670. Сонца нізка, шабас блізка. *Нос., 154; Pietk., 392.*

1671. Сонца нізка, вечар блізка. *Бяльк., 107, Мсцісл.*

1672. Кончыў дзела, гуляй смела. *Ляцкий, 18; Ахрым., 36; С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

1673. Спех — людзям смех. *Бяльк., 436, Расн.*

а) Паспех людзям (чорту) на смех. *Нос., 135; Fed., 223; Pietk., 384; Раст., 201; Дуб., 51; Л. Тур, 1965, Руж. 13.3.29.*

б) Скоры паспех людзям на смех. *Добр., Смол., 108; Дуб., 54. Вар.: Бяльк., 319, Мсцісл.; Драгд.; В. Бондар, 1967, Мінск 13.10.24; У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4; І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7; С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

1674. З вялікага паспеху наробіш смеху. *Fed., 224.*

а) Ад спеху нарабіў смеху. *М. Шавель, 1960, Іваң. 13.9.24.*

б) Ад спеху не нарабіць бы смеху. *Н. Парукаў, 1956, Добр. 13.10.19.*

1675. Спяшыць — людзей насмяшыць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Паспяшыць — людзей насмяшыць. *Ахрым., 47; І. Вайганіца, 1965, Іў. 13.10.1.*

1676. Не скора, да спора. *Сержп., 55.*

1677. Што скора, то і не спора. *Ром., Зап., III, 235.*

1678. Барджэй, ды не спяшайся дужа. *Сержп., 140.*

а) Барджэй, да не хапайся дужа. *Крэмнеў.*

1679. Шпаркасць хараша блох лавіць. *Нос., Слов., 716.*

1680. Хто ціха ходзіць, той густа месіць. *Czeczot, 107; Шпил., 191; Мальч., № 45; Дуб., 70.*

1681. Не спяша выскачыць душа. *Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

1682. Чухайся-чухайся, а што ты будзеш есці? *Сержп., 44.*

1683. Чым хутчэй, тым ляпей. *Fed., 55.*

1684. Рублена наспех і зроблена насмех. *Л. Ганчарук, 1967, Слон. 13.10.20.*

1685. Скора каты робяцца, ды сляпыя родзяцца. *Ром., Бел., I, 308. Вар.: Добр., Смол., 108.*

а) Сабака скора дзеці робіць, ды сляпыя родзяцца. *Pietk., 341.*

б) Сабакі хутка робяцца, да доўга сляпыя. *Fed., 270.*

1686. Скора гаворыцца, да не скора робіцца. *Ляцкий, 41.*

1687. Скора казка кажацца, ды не скора дзела дзелаецца. *Ром., Бел., I, 308.*

а) Не так скора дзела дзелаецца, як скора казка кажацца. *Нос., 103.*

1688. За аднім цягам дзерава не зрубаеш. *Fed., 56.*

а) Адным махам дрэва не зваліш. *А. Махнач, 1952, Удз. 13.10.15.*

1689. Быстрэй жабу надоіш, чым дзела зробіш. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1690. Не глядзі, каб скора, а глядзі, каб добра. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

1691. Дзелай дзела не спяша: была б слава хараша. *Добр., Смол., 108.*

1692. Хто ціха ходзіць, той сабе шкодзіць. *Fed., 48.*

1693. Работы ніколі не пераробіш. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

а) Усяго дзела не пераробіш. *Сержп., 51.*

б) Колькі не рабіць, а дзела не пераробіш. *Сержп., 51.*

в) Працуй цэлы век, а работы не кончыш. *Ляцкий, 35.*

1694. Вышай ілба не падскочыш. *Мін.-Мал., 1970, 159, Пух.*

а) Вышай пупа не падскочыш. *В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

1695. Беручы на пуп — падарвешся. *Мін.-Мал., 1970, 158, Уздз.*

1696. Колькі розуму, столькі работы. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1697. Дзве работы за раз не зробіш. *Fed., 255.*

1698. Як хто есць, так і робіць. *Pietk., 372.*

1699. Якая яда, такая хада. *Сержп., 133; Fed., 128; Г. Шымко, 1967, Навагр. 13.10.21.*

а) Якая хада, такая і яда. *Нос., 193; Сержп., 133.*

б) Якоў у ядзе, такоў і ў хадзе. *Нос., 194.*

1700. Па ядзе работніка пазнаюць. *Fed., 256.*

1701. Якая скібка, такая і сілка. *Fed., 280. Вар.: Нос., 193.*

1702. Хто бордза есць, той і бордза робіць. *Дуб., 68.*

1703. Хто мала есць, той кепска робіць. *А. Фядосік, 1959, Лен. 8.1.44.*

1704. Калі дало рабіць, то дасць і з'есці. *Шейн, II, 477. Вар.: Нос., 63.*

1705. Праца не праца, калі нямаш кала́ча. *Ляцкий, 35.*

1706. Калі на стале гусь і парася — вот работа хараша. *Шейн, II, 477, Віл. п.; Fed., 122.*

1707. Працуй да поту — з'ясі ў вахоту. *Бяльк., 341, Мсцісл.; Ахрым., 48; Я. Нявера, 1965, Воран. 13.10.3; Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29; А. Гурскі, 1971, Паст. 8.2.46.*

а) Работай (рабі, папрацуй) да поту — паясі ў ахвоту. *Ляцкий, 37. Вар.: Fed., 254; М. Жылінскі, 1965, Свісл. 13.10.6; Сержп., 61; Сах.; Н. Парукаў, 1961, Добр. 13.3.29.*

1708. Добра паработаеш — добра паспіш і пад'ясі. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1709. Гайда каля балота: якая яда, такая й работа. *М. Грынблат, 1969, Хоц.*

1710. Хто не есць, той і не робіць. *М. Грынблат, 1960, Мінск.*

1711. А хто есць, той і вязе. *К. Кабашнікаў, 1973, Бых. 8.73.73.*

1712. Хто робіць да поту, той робіць у ахвоту. *Fed., 254.*

1713. Грэе не шуба, а работа. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29; Н. Рында, 1967, Зельв. 13.10.23.*

1714. Мужыка не шуба грэе, а тапор. *Сах.*

1715. Без людзей нічога не робіцца. *В. Скідан, 1969, Пін. 8.2.21.*

1716. Калі здолееш узяцца за дзела — і снег загарыцца, а не здолееш — і масла не ўспыхне. *Ахрым., 34; М. Малочка, 1959, Чаш. 8.1.46.*

## ГАСПАДАРЛІВАСЦЬ. СЯЛЯНСКАЯ СЯДЗІБА

1. Твае хадзяйства — твая воля. *Ляцкий, 45.*

2. Сваё хазяйства мілей чужога царства. *Ляцкий, 40.*

3. Гаспадарку весці — не лапці плесці. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

   а) Дом вясці — не лапці плясці. *Сах.*

4. Гаспадарку весці — не кашу есці. *М. Жылінскі, 1965, Свісл. 13.10.6.*

5. Гаспадаркі весці — не барадой трэсці. *«Калгасная праўда», 9 кастрычніка 1962 г., Навагр.*

6. Гаспадарку вадзі́ць — не зажмурыўшы вочы хадзіць. *Ляцкий, 7.*

7. Паглянем, што ў вас робіцца ў двары, — скажам, якія вы гаспадары. *А. Хомка, 1965, Вайк. 13.10.3.*

8. Вучыся гаспадарыць, яшчэ тавар пасучы. *Янк. М., 22.*

9. Як дбаем, так і маем. *Fed., 77; М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58; Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

   а) Як хто дбае, так і мае. *Fed., 77. Вар.: Г. Шымко, 1967, Навагр. 13.10.21.*

   б) Хто дбае, той і мае. *Шейн, II, 483, Вайк. п.; Дуб., 70; Сержп., 51; Fed., 77; Дразд.; І. Суяпунін, 1968, Дзярж.; І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3.*

10. Мала дбаець, мала й маець. *Нос., 76.*

а) Хто мала маець, мала дбаець. *Tyszk., 422; Нос., 176; Dybow., 191; Fed., 183.*

11. Хто не дбае, той нічога не мае. *Fed., 77.*

а) Хто не хацае, той і не мае. *Kolb., 472, Пін. п.*

б) Хто не дбае, той трасцу мае. *Dybow., 192; Fed., 77.*

в) Хто не мае, той не дбае. *Fed., 183.*

12. Без амбара́су ані часу. *Нос., Слов., 5; Дуб., 5; Fed., 8: Бяльк., 52, Чэр.*

13. На чом хто сядзіць, няхай таго глядзіць. *Fed., 274.*

а) Хто на чым сядзіць, тэй таго і глядзіць. *Нос., 177; Fed., 109; Pietk., 391; У. Іваноў, 1958, Мінск.*

14. На ўсё трэба мець вока. *Fed., 335.*

15. Які дагляд, такі і лад. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

16. Не так работы, як заботы. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

17. Чаго вока не дабачыць, то мяшок заплаціць. *Fed., 335.*

а) Хто вокам не дагледзіць, той мяшком даплаціць. *Fed., 335.*

б) Гдзе сваё вока не дабачыць, там ворак даплаціць. *Нос., 23; Дуб., 16; Ляцкий, 2. Вар.: Fed., 335.*

в) Што вочы не відзяць, то мяшок плаціць. *Dybow., 19.*

18. Не дагледзіш вокам — заплаціш бокам. *«Бел.», 1956. Вар.: Нос., 96.*

19. Як не дагледзіш ачыма, то даплаціш грашыма. *Pietk., 332.*

20. Калі не дагледзіш ваком, то даложыш мяском. *«Зорка».*

21. Дзе недагляд, там з кішэні даклад. *Fed., 200.*

а) Гдзе недагляд, там усёгды наклад. *Нос., 23; Дуб., 15.*

22. Дзе кепска ляжыць, туды злодзей і глядзіць. *Сержп., 87.*

23. Дзе сваім вокам недабачыш, там удачы не пытай. *Дуб., 16.*

24. Недагляд — недаплат. *Нос., 96.*

25. Уміраць сабірайся, а загароду гарадзі. *Аним., 204.*

26. Біць таго, хто не пільнуець свайго. *Дуб., Нар., 41.*

а) Кіем таго, хто не пілнуе сваго. *Fed., 234, 295.*

б) Хто свайго дабра не сцеражэ, таму кіем па спіне. *Dybow., 192.*

27. Няхай таго чорт апануе, хто свайго не пілнуе (шкадуе). *Fed., 295; Г. Карачун, 1967, Клецк. 13.10.14.*

28. Дрэнны ўжо той чалавек, што гаспадаркі не глядзіць. *Ляцкий, 11.*

29. Што то за гаспадар, што свайго дабра не глядзіць. *Fed., 105.*

30. Думаець аб тым, чаго няма, а не відзіць таго, што ёсць. *Нос., 38.*

31. Дабра хто не даглядзе, сам без хлеба сядзе. *Ляцкий, 10.*

32. У добрага гаспадара ўсё ёсць. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 9.3.11.*

33. Крыха да крыхі — збярэцца горба. *Fed., 154.*

34. У добрай гаспадыні і певень нясецца. *І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

35. У каго дабро вядзецца, у таго і певень нясецца. *Fed., 328.*

36. Не гаспадыня, што апоўдні ў печы паліць. *Янк., Дыял., I, 216, Глуск.*

37. Не гаспадар, калі вецер у павеці гуляе. *Янк. М., 20.*

38. Не пытайся, які гаспадар, як вароты па́даюць. *Сцяшк., 601, Вайк.*

39. Калі гаспадар скачаць, пэўна, статак плачаць. *Tyszk., 416; Шпил., 182.*

40. Калі нагамі сыпле густа, дык у хляве пуста. *Янк. М., 38.*

41. Калі на назе бот рыпіць, то ў гаршку трасца кіпіць. *Янк. М., 24.*

42. Які гаспадар, такая й работа: узяў сучку за хвост, цягне за варота. *Ляцкий, 62.*

43. Які воз, такі і гаспадар. *Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5.*

44. Якія сані, такія і самі. *Сержп., 3; С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29; В. Дашкоўская, 1965, Вайк. 13.10.2.*

а) Якія мы самі, такія і нашы сані. *Гильт., 287, Дзісен. п.; Нос., 193; Fed., 271; Pietk., 341.*

45. Гультай — пустому двару хазяін. *Бяльк., 142, Мсцісл.*

46. Гаспадар ад хаты на шаг, хата ад яго на два. *Гильт., 294, Віл. п.*

47. У гаспадарцы ўсё знадобіцца. *Fed., 106.*

48. У гаспадарцы і аборка спатрэбіцца. *Мат., 185, Глуск.*

49. Усё добра на патрэбу. *Сержп., 135.*

50. Кожная рэч свайго дапежыцца. *Сержп., 75.*

51. І мыш у сваю нару цягне кару. *А. Капітанчык, 1965, Слон. 13.10.1; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) І мыш у сваю норку цягне корку. *Л. Павецьева, 1967, Шкл. 8.1.107.*

52. Курыца толькі ад сябе грабе. *1961, Кап. 13.9.5.*

53. Без запасу — ні часу. *Нос., 5; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

54. Запас бяды не чыніць. *Нос., 46; Fed., 349; Сержп., 75; І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1; А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3; Дразд.*

55. Запас есці не просіць. *Сержп., 75.*

а) Запас есці не просіць і бяды не чыніць. *Т. Глытава, 1967, Карм. 13.10.23.*

56. І запас часам бяду чыніць. *Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

57. Добра, у каго запас на ліхі час. *Сержп., 76.*

58. Без запасу чалавек гіне без часу. *Fed., 349.*

а) Хто жыве без запасу, той гіне без часу. *Dybow., 7; Ляцкий, 55; Сержп., 75; У. Іваноў, 1958, Мінск.*

59. Робім пра запас, да й будзе з нас. *Сержп., 75.*

60. Усяго і запасу, што між зубоў. *Янк. М., 19.*

61. Няхай валяецца, свайго дачакаецца. *Сержп., 75.*

62. Няхай ляжыць, хлеба не просіць. *Нос., 106; Сержп., 75.*

а) Няхай ляжыць, піць, есць не просіць. *Fed., 161.*

63. Запас месца не пралежыць. *Сержп., 76.*

а) Няхай ляжыць, месца не праляжыць. *Нос., 106.*

64. Хто ў лесе не злодзей, у доме не хазяін. *М. Грынблаг, 1969, Лаг.*

а) Мужык у лесе не злодзей — дома не хазяін. *Pietk., 379.*

б) Хто ў лесе не ўкраў, той дома не гаспадар. *Сержп., 88.*

65. Які ў лесе злодзей, такі дома гаспадар. *1961, Кап. 13.9.5.*

66. Адно бервяно на двары лепей, як дзесяць у лесе. *Мін.-Мал., 1970, 157, Старадар.*

67. Пакуль адну дзіру залатаеш, то другая зробіцца. *Fed., 96.*

68. Адну дзірку ладзь, а другая туды ж глядзь. *Нос., 119; Сержп., 135; Сах.*

69. Усіх дзюраў ніколі не залатаеш: адну залатаў, то дзве прадзярэцца. *Fed., 96.*

70. Як ест — разыйдзецца, як няма — абыйдзецца. *Fed., 45.*

71. Час плаціць, час траціць. *Дуб., Нар., 1.*

а) Рок плаціць, рок траціць. *Fed., 262.*

72. Адзін дзень аглобляй падважвай, а другі дзень — як з прывязі сарваўся. *Янк. М., 127.*

73. Шырокі двор, да невялікі збор. *Нос., 186.*

74. Тады хазяйка дужа, як кораб служа. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

75. Калі ў хлебе плодзіць і на ніве родзіць, так і дурак хату водзіць. *Шейн, II, 477, Барыс. п.*

76. Баба Хваўронння збіла з падвор'я, да воля гасподня не быць без падвор'я. *Ром., Зап., I, 215.*

77. На сваім падвор'і і сабака пан. *Л. Стаўровіч, 1957, Рэч. 13.3.29.*

а) На сваём падворку і сабака адважнейшы. *Fed., 195.*

78. І верабяк на сваім падворку спраўны. *Т. Багдзевіч, 1963, Воран. 13.10.6а.*

а) На сваім сметніку і гарабей гаспадар. *Е. Слізевіч, 1962, Гродз. 13.10.6а.*

79. У сваім гародзе роўны ваяводзе. *С. Цярохін, 1940, Іван.*

80. Сяджу на сваём пляцу, нікому не плачу. *Нос., 160.*

81. Свой дварочак, як вяночак. *Сержп., 58.*

82. Хоць бы мы морам плылі, абы б скарэй ва дварэ былі. *Нос., Слов., 1.*

83. Шырокія варота ўвайсці, да вузкія выйсці. *Fed., 327.*

84. Сем варот, усе на агарод. *Крэмнеў.*

85. Мінаў, мінаў, да не ў тыя вароты папаў. *Сержп., 66.*

86. Двор не каза — не збяжыць. *Нос., Слов., 128; Дуб., 15. Вар.: Нос., 33; Fed., 50.*

а) Дом не воўк — у лес не ўбяжыць. *М. Грынблат, 1971, Шарк. 8.2.43; А. Махнач, 1952, Увдз. 13.10.15.*

б) Хата не бес — не ўцячэ ў лес. *Сах.*

87. Хата не каўбаса — кошкі не з'ядуць. *Fed., 50.*

88. Не падпірай гнілога забора: ён усё роўна ўпадзе. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

89. Рубі стаўбы — забор сам паваліцца. *Н. Рында, 1967, Зельв. 13.10.23.*

90. Садок летам, што кажух зімою. *Рапан, 228.*

91. Быў бы сад, а салаўі прыляцяць. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

92. Без пладоў дрэва не калоцяць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

93. У вашэці пуста ў клеці. *Сержп., 131.*

94. Выбачай, вашэці: няма болі ў клеці. *Ляцкий, 6.*

95. Мае дзве клеці: у адной мякіна, а ў другой абмеці. *Сержп., 25.*

96. Шукаў на печы, а знайшоў у клеці. *Ляцкий, 61.*

97. Не куды йшло, не куды ідзець, а ўсё ў нашу клець. *Нос., 99.*

98. Не была клетка строена, то лазілі каты, а як пастроілі, то пачалі і сабакі лазіць. *Fed., 145.*

99. Загарадзі, дзедку, клетку, абы сабакі не лазілі. *Fed., 93.*

100. Ад дошкі да дошкі, а ў сярэдзіне ні крошкі. *Нос., 122; Дуб., 1.*

101. Разбурыў хлявец — повен двор дравец. *А. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

102. Даў бог цяля, ды няма хлява. *Гильт., 290, Пруж. п.; Ром., Мат., 83; Сержп., 135.*

а) Бог даў цяля, ды не даў хлява. *Dybow., 6; Fed., 36; Pietk., 312; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

б) Купіў цяля, ды няма хлява. *1961, Кап. 13.9.5.*

103. Даў бог це́ля, да няма хлеба. *Шейн, II, 475, Слуцк. п.*

104. Цяля ўмёрла, хлява прыбыло. *Ром., Зап., III, 233.*

105. Уперад збудуй клетку, тады шукай птушкі. *Fed., 252.*

106. Абы клетка, то птушка будзе. *Fed., 145.*

107. Мацi-адрына — то ўсё пакрыла. *Fed., 173.*

108. Не пабудаваў сабе гумна, не раскідаў людзям хлява. *Fed., 121.*

109. Не здохне мыш пад арудам. *Гильт., 29.*

110. Быў бы хлеб, а мышы будуць. *Ром., Зап., I, 215.*

111. У кожнай крышы ёсць свае мышы. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

112. Лазня ўсіх мые, а сама ў гразі стаіць. *Fed., 170.*

113. Лазня лазню гу́дзяць, а абедзве стаяць у брудзе. *Сах.*

114. Не дай бог галоднаму есці варыць, а паршываму лазню тапіць. *Ляцкий, 25.*

115. А што, к вам у баню ходзяць? — Ходзяць, толька ваду носяць. *Добр., Смол., 2.*

116. І ў студні вада выбіраецца. *Fed., 292.*

а) І вада ў студні вычэрпваецца. *Fed., 343.*

117. Статак робіць дастатак. *Сержп., 76.*

118. Без скаціны сам скаціна. *Сержп., 23; Добр., Смол., 108.*

119. І жывёла свайго гаспадара знае. *Сержп., 33.*

120. Хто мае статак, той мае і ўпадак. *Tyszk., 436; Шейн, II, 483, Барыс. п.; Dybow., 192; Fed., 291.*

а) Маеш статак — мусіш мець і ўпадак. *Нос., 76; Дуб., 35.*

б) Меўшы статак, будзеш мець і ўпадак. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

в) Маючы статак, будзе і прыпадак. *Сержп., 22.*

121. Хто не мае статку, той не мае ўпадку. *Fed., 291.*

122. У нас статак — на паглядак. *Янк., 41.*

123. Хто не мае худобы — не знае хваробы. *Сержп., 80.*

124. Абрачонная скаціна ў доме не жывацїна. *Добр., Смол., 108.*

125. Адна скаціна — руб, паўціна. *Добр., Смол., 108.*

126. Не глядзі на худобу, а шчупай пароду. *Ляцкий, 25.*

127. Хто а худобу не дбае, гаспадарка прападае. *Kolb., 472.*

128. Кармі статак мукой — пойдзе рукой. *Дуб., 26, 10. Вар.: Dybow., 12; Fed., 190.*

129. Нясытую (ліхую) скаціну век не ўкорміш. *Добр., Смол., 108; Сержп., 69.*

130. І скаціна знаець сваю часіну. *Дуб., 25.*

131. З-пад печы выгнаць нечага. *Сержп., 23.*

132. Толькі дух ды пятух. *Сержп., 23; Крэмнеў. Вар.: Ляцкий, 11.*

а) Нічога не асталося, застаўся дух ды пятух. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

б) Ёсць у яго дух ды пятух, ды трэці кукарэку. *Ром., Бел., I, 295.*

133. З аднае курыцы хазяйства не развядзеш. *Pietk., 376.*

134. Ні курчаці, ні парасяці. *Янк., 491.*

135. Куры да індыкаў не належаць. *Fed., 158.*

136. Добра курцы і зе́рнятка. *Fed., 158.*

137. Курка па зярнятку клюець, а сыта бываець. *Дуб., 31.*
а) Курачка па зе́рнятку збірае і то сыта бывае. *Fed., 158.*
б) Курачка па зёранку сабіраець і сыта бываець. *Нос., 71.*

138. Трапіцца і сляпой курцы зе́рнятка знайці. *Fed., 158.*
а) Давядзецца сляпой курцы зярнятка найці. *Pietk., 328.*

139. Каму што, а курыцы проса. *В. Зубараў, 1956, Гом. 13.3.29; Мін.-Мал., 1970, 161, Пух.*

140. Не кажна курка нясецца, што сакоча. *Fed., 158.*

141. Курыца яек сваіх не лічыць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

142. Увосень курчат лічуць. *Дуб., Нар., 1.*
а) Куранят увосень лічаць. *Ахрым., 37.*

143. Пакутніцкая курыца тры праслы плоту абломе. *Ляцкий, 33.*

144. Пакармі птушак зімою — яны адплацяць вясною. *Ахрым., 47; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

145. Каму што, а пеўню бойка. *І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

146. Курыца спявае, бяда чакае. *Суяшк., 596, Ашм.*

147. Не нарадзілася яшчэ тая курыца, якая да сябе грэбла б. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

148. Адну казу маю і тую штодзень падымаю. *Ляцкий, 2; І. Байко, 1967, Клецк. 13.10.23.*

а) Адну казу маю і тую за хвост падымаю. *Fed., 141.*

149. Козамі сена травіць. *Tyszk., 423.*

а) Нашто козамі сена травіць? *Нос., 91; Сержп., 55.*

б) Козамі сена не травяць. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

150. Не сена ідзе к казе, а каза к сену. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

151. Тады каза разжывецца, як куст разаўецца. *Fed., 141.*

152. З богам, козынька, калі людзі знайшліс. *Ром., Бел., І, 309.*

153. Упорная каза ваўку карысць. *Нос., 169.*

154. Не спяшы, каза, у лес: усе ваўкі твае будуць. *Ром., Бел., І, 303. Вар.: Ляцкий, 287; Сержп., 140.*

155. Напомніў казе смерць, дык яна і мекае. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

156. Як з казла: ні шэрсці, ні малака. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

157. У каго валоў няма — у таго і шчасця няма. *Янк. М., 22.*

158. Ні каня, ні вала — сядзі, як паня́. *Ляцкий, 26.*

159. Уладыка, уладыка, твая слава вяліка: на сем сёл адзін вол. *Fed., 319.*

160. Добрага быка і пад хлявом пазнаюць. *Янк. М., 121.*

161. З'ясі вала, то больш не зарыкае. *Янк., Дыял., III, 160. Глуск.*

162. У вала язык доўгі, да гаварыць не можаць. *Tyszk., 414; Шейн, II, 481; Ляцкий, 47; Fed., 337.*

а) У каровы язык доўгі, а гаварыць не можа. *Ляцкий, 49.*

б) У каровы язык даўгі, ды гаварыць заказана. *Ром., Бел., I, 311.*

в) Вол доўгі язык мае, да гаварыць не можа. *Fed., 337. Вар.: Fed., 350.*

163. Скаціна бязмоўна, не скажаць, што піць хочаць. *Нос., 150; Дуб., 54.*

164. Ёсць вяроўка, але ж няма кароўкі. *Дуб., 19.*

165. Абы кароўка, будзе і вяроўка. *Fed., 137. Вар.: А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Дзе кароўка, там і вяроўка. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

б) Было на кароўку, будзе і на вяроўку. *Fed., 44.*

в) Стала на кароўку, стане і на вяроўку. *Fed., 289.*

166. Стала на кароўку, будзе і на кварту малака. *Fed., 289.*

167. Была б кароўка, а даёнка знайдзецца. *М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29.*

168. Няма кароўкі — прападай і вяроўка. *Г. Барташэвіч, 1961, Віл. 8.1.67.*

а) Няма кароўкі, няхай не будзе і вяроўкі. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

б) Прапала кароўка, прападай і вяроўка. *Дразд.; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

в) Прапала кароўка — няхай прападзе і вяроўка. *Шейн, II, 480; Fed., 138; Сах.; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

г) Калі з'елі кароўку, то з'ешце і вяроўку. *Fed., 138.*

д) Узяў чорт (воўк) кароўку, няхай бярэ[ць] і вяроўку. *Tyszk., 433; Шейн, II, 480; Дуб., 65; Fed., 69, 139, 340; Pietk., 316. Вар.: Нос., 5.*

169. Узяў чорт вала, няхай бярэ і повад. *Fed., 69.*

170. Кароўка — другая маці. *А. Ліс, 1961, Смарг. Вар.: Добр., Смол., 52.*

171. Карова на дварэ — харч на стале. *Дуб., 30.*

а) Карова ў хляве — харч на стале. *Махнач, 24.*

172. Карову па ведаму купляй. *Fed., 138.*

173. Купляй кароўку блізка. *Дуб., 27.*

174. Выбіраць карову не каб пазорная, а каб малочная. *Янк., Дыял., I, 205, Глуск.*

175. Кароўка чорненькая, ды малачко беленькае. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

а) Вялікае дзіва, што карова чорна, а малако сіва. *Нос., 13; Дуб., 8; Fed., 96.*

176. І чорна карова белае малако дае. *Fed., 138.*

177. У ялаўкі малака не надоіш. *Ляцкий, 52.*

а) У ялавай каровы малака не выціснеш. *Fed., 138.*

178. Цяліся, карова ялова, абы бабе малако было. *Fed., 138.*

179. Калі ой, тады дой. *Fed., 206.*

180. Хоць ты дой быка, абы нам дала малака. *Fed., 176.*

181. Бывала, буяла, а цяпер і рыкаць не хоча. *Fed., 43.*

а) Бывала, буяла, а сягоння рыкаці не хоча. *Шейн, II, 473, Пруж.п.*

182. Божачка-бацечка, скінь з неба тапарок — даў бы гэтай белай карове ў бок. *Ром., Бел., I, 291.*

183. Бачыць карова, што ў страсе салома. *Fed., 138.*

а) Відзіць карова, што на павеці салома. *Нос., 13.*

б) Не слепа карова, што на павеці салома. *А. Ліс, 1961, Міёр.; Добр., Смол., 53.*

184. Не галодна карова, калі ў страсе салома. *Fed., 138; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

а) Не галодна карова, калі пад носам салома. *Булг., 177; Сержп., 79.*

185. Не пілнуй кароўку, але пілнуй сваю галоўку. *Г. А. Барташэвіч, 1965, Пух. 8.1.99а.*

186. На адным сене малака не надоіш. *«Звязда», 5 верасня 1962 г., Скід.*

187. Які корм, такі і надой. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

188. Як накорміш, так і надоіш. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

а) Як накорміш ды напоіш, так і надоіш. *В. Зубарай, 1956, Гом. 13.3.29.*

189. Дай кароўцы бурачка, дасць кароўка малачка. *Янк. М., 100.*

190. Малако і ў каровы трэба купіць: не накорміш ды не напоіш, дык і не надоіш. *Сем.*

191. Дай карове пад нос, то яна дасць малака. *Сержп., 32.*

192. Карову не накорміш — малака не надоіш. *Ахрым., 35; Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

193. Карову гладзь не рукой, а мукой. *В. Зубараў, 1956, Гом. 13.3.29.*

194. Як гаспадар каля жывіны мэнчыцца, то жывіна́ яму рэнчыцца. *Fed., 105.*

195. Не вымем карова малако дае, да языком. *Fed., 138; А. Гурскі, 1967, Бял. 8.1.112.*

196. У каровы малако на языку. *Ахрым., 54; І. Ламека, 1965, Вайк. 13.10.2; Т. Гуляй, 1965, Свісл. 13.10.5; А. Бізук, 1965, Шчуч. 13.10.1; І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3; Н. Лазарэвіч, 1967, Клецк. 13.10.23. Вар.: Добр., Смол., 53.*

197. Знаць карову па ўдою. *Fed., 138.*

а) Карову шчытаюць па ўдою. *Fed., 138.*

б) Не глядзі па лою, а глядзі па ўдою. *Fed., 318.*

198. Не цані каровы па ўдою. *Fed., 138.*

199. Кароўка па ўдою не лічыцца. *Tyszk., 434; Нос., 68; Шейн, II, 172; Шпил., 182; Dybow., 12; Дуб., 27.*

200. Як пашла карова па пракосе, то малако ўнялося, а як пойдзе на ржышча, то і малако назад зышча. *Fed., 138.*

201. Тая карова малочна была, што павалілася. *Нос., 161.*

202. Каторая карова ўмерла, тая к малаку дойна была. *Ром., Зап., III, 222.*

203. Якая хазяйка, такая і карова. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

204. Посціць і скацінка, калі ў гаспадара хібіць. *Сержп., 37.*

205. Пасціць і скацінка, калі гаспадара нямае. *Ляцкий, 34.*

206. За бабінымі цяляткамі не можна ў сад іці. *Fed., 14.*

207. Калі значыцца, скора целіцца. *Ром., Бел., I, 299.*

208. Карова целіцца, а ў быка зад чэшацца. *Нос., 68.*

209. Первястковага цялёнка не блюдуць на завод. *Дуб., 47.*

210. Першае цялятка — шчанятка. *Нос., 125; Дуб., 49.*

211. Першыя шчанята за плот. *Tyszk., 437; Dybow., 188; Шейн, II, 480. Вар.: Fed., 297.*

а) Первае шчанятка за плот кідаюць. *Нос., 125; Сержп., 52.*

212. Першыя кацяняты выкідаюць за плот. *Pietk., 327.*

213. Не гаспадар патрэбен каню, а конь гаспадару. *Дуб., 39.*

214. Конік маленькі, але дарагенькі. *Fed., 148.*

215. Конь каню не роўны. *Fed., 148.*

216. Конікі не кролікі, штомесяц не выводзяцца. *Нос., 67.*

217. Твае коні — ты й пільнуй. *Ляцкий, 45; Сержп., 3.*

218. Жолаб да каня не ходзіць. *Fed., 365; Pietk., 353.*

219. Сані наладзіў, а каня няма. *Ляцкий, 39.*

220. Нашто мне каня? Сам буду саху насіць. *Нос., 91.*

221. Абы пуга, а кабыла будзе. *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

222. Не хвалі каня трэцяга дня, а хвалі трэцяга году. *Зах., 251.*

223. Наша сіўка не вязець, дак іржэць. *Добр., Смол., 125.*

224. Мая мышастая мне нашастае. *Дуб., 36.*

225. Свіння ды карова на дварэ — харч на стале. *М. Дуброўскі, 1956, Лельч. 13.3.29.*

226. Былі б свінні, парасяткі будуць. *М. Грынблат, 1970, Лаг.*

227. Абы бог даў свінні, то карыта знайдзем. *Fed., 308.*

а) Былі б свінні, а карыта будзе. *А. Лучанок, 1961, Мінск 13.9.6.*

228. Абы карыта — свінні будуць. *Шейн, II, 472, Ігум. п.; Календ., 1925.*

229. У харошага мужыка і свіння дасужа. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

230. Кармі парсюка мукой, калі хочаш, каб пашоў рукой. *Tyszk., 437.*

а) Кармі парсюка мукою, пойдзець рукою. *Нос., 67; Ляцкий, 29.*

231. Далучы свінней да людзей. *Сержп., 4.*

а) Прылучы свінню к людзям. *Ляцкий, 35.*

232. Хто свінню мае, той нядзельку знае. *Dybow., 192.*

233. У каго свіння тлустая, у таго й каша ґустая. *Ляцкий, 48.*

234. Што мне адходзіць: свінку забіў, а кабанчык ходзіць. *А. Фядосік, 1961, Капатк. 8.1.73.*

235. Воўк — то божы пасланец, бо жэб не ён, то ніхто б свіней не зачыняў і коней не пільнаваў бы. *Fed., 341.*

236. Не мела баба клопату, купіла парася. *Rур., 214; Нос., 100; Dybow., 14; Радч., 248; Fed., 19; Pietk., 309; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Не было бабе клопатаў, дык купіла парася. *Ром., Бел., I, 302.*

б) Не мела баба клопату, купіла парася, парасё ў квік, а баба ў крык. *Ляцкий, 30.*

237. У свінні рыла, каб рыла. *Сцяшк., 611, Гродз.*

238. Сядзіць ды глядзіць, а свінні боб валочаць. *Ром., Бел., I. 308.*

а) Сядзіш да глядзіш, што свінні боб малоцяць. *Нос., 160.*

б) Стаяць і глядзяць, як свінні боб цягаюць. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26.*

в) Сяджу сабе, гляджу сабе, а свінні боб цягаюць. *Сах.*

239. Не вінна свінка, да вінна дзірка. *Fed., 96. Вар.: Сцяшк., 601, Лід.*

а) Не вінавата свінка, да вінавата дзірка. *Сержп., 28.*

240. Свіння мех дзярэ і крычыць. *А. Фядосік, 1959, Лен. 8.1.76.*

а) Свіння мех рве і сама пішчыць. *А. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

241. Дасталась свінні ў кучы капацца — усю кучу рассодзіць. *Добр., Смол., 14.*

242. Панадзілася свіння ў агарод. *Сержп., 77.*

243. Унадзілася свінка ў ніўку: ці ніўку сажні, ці свінку забі. *Ром., Бел., I, 312; Ляцкий, 50; Сержп., 76.*

244. Унадлівую скаціну б'юць. *Дуб., 63.*

245. Свіння за вушамі сонца не бачыць. *Сах.*

246. Свіння палудня не знаець. *Нос., 147; Дуб., 55.*

а) Свіння не знае поўдня. *Ляцкий, 40; Сержп., 97.*

б) Свіння паўдня не знае, а сабака пятніцы. *Fed., 309.*

247. Свіння, не пакачаўшы, не з'есць. *Ляцкий, 40; Fed., 309.*

248. Паршываму парасяці і ў Пятроўку халодна. *І. Цішчанка, 1973, Мінск.*

а) Паршывае парасё і ў Пятроўку мерзне. *Н. Парукаў, 1961, Добр. 13.3.23.*

249. Здаецца, што свіння смяецца, а яна плача. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

250. Авечка — ля ўсяго чалавечка. *Добр., Смол., 69.*

251. Як многа сабак, дык двор не аббрэханы. *1952, Брасл. 13.9.5. Вар.: Добр., Смол., 69, Дзісен. п.*

252. Харошага сабаку на прывязі трымаюць. *Нос., 173.*

253. Прывязлівага сабаку на чэп сажаюць. *Дуб., 45.*

254. Ліхі сабака з ланцуга сарвецца. *Fed., 269.*

255. Як сабаку кормяць, так ён і брэша. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

а) Як Лыску кормяць, так яна брэша. *Д. Зальцэвіч, 1965, Радун. 13.10.6.*

б) Як сярка́ кормяць, так сярко і брэшыць. *Нос., 196.*

256. Не ўсякая сабака кусаецца, а ўсякая брэша. *Ром., Бел., І, 302.*

257. Добры сабака на вей вецер не брэша. *Fed., 268.*

258. І сабака на пуста не забрэша. *Fed., 269.*

259. Сабака знае, каго кусае. *Fed., 270.*

260. Сабака ведае, на каго брэша. *Fed., 270.*

261. І сабака на таго не брэша, чый хлеб есць. *Fed., 269.*
a) І сабака таго знае, чый кус кусае. *Сержп., 125.*

262. Таго кусі, чый хлеб ясі. *Янк., 394; 1961, Калінк. 13.9.5.*

263. І сабака ведае, хто чаго варт. *Fed., 269.*

264. І сабака ласкавае слова знае. *Сержп., 126.*

265. І сабака за добрае адходзіць. *Fed., 269.*

266. І сабака памятае, хто яго помніць. *Сержп., 125.*

267. Сытага сабаку не падкупіш. *А. Махнач, 1952, Увдз. 13.10.15.*

268. Старога сабаку не бацькам зваць. *Ром., Зап., III, 232.*

269. У трох больш брох. *Добр., Смол., 106.*

270. Дварнэя сабакі сышліcь: адзін рыжы, другей чорны. *Добр., Смол., 116.*

271. Забіў сабаку — брашы сам. *1961, Кап. 13.9.5.*

272. Сабакі пабрэшуць, ды і назад пойдуць. *Дуб., 58.*

273. Малое шчаня, да галасно. *Fed., 297.*

274. Па шэрсці сабацы і мянушку даюць. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

а) Па шэрсці сабачку і клічка дана. *І. Хайратовіч, 1951, Талач. 13.8.4. Вар.: Ром., Зап., III, 229.*

275. З паршывага сабакі хоць шэрсці клок. *Л. Царанкоў, 1960, Брэсц. 13.9.2.*

276. Не кажна курыца чубата, не ка́жан сабака касматы. *Fed., 158.*

277. Не перакруціўшыся, сабака не ляжа. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

278. Сабака не з'есць, не пакачаўшы. *Fed., 270. Вар.: Ром., Бел., I, 309; Сержп., 97.*

279. Не́калі сабацы бліны пекць, ён усягды цестам есць. *Нос., 99.*

280. Заткні сабацы хлебам рот. *Дуб., 24.*

281. Добра сабацы й мука́. *Нос., 36; Fed., 268; Pietk., 330.*

282. Сабака, калі звыкнець па вокнах лазіць, пакуль здохнець, не перастанець. *Нос., 152.*

283. Унадзіўся сабака за возам хадзіць, дык і за саньмі пабяжыць. *Ігнат.*

284. Сабака наравіць, пакуль хвост баліць. *Добр., Смол., 15.*

285. Не вер сабацы ніколі. *Fed., 269.*

286. Не кладзі сабаку пальца ў рот, бо адкусіць. *Ляцкий, 26; Дуб., 37а.*

287. Хто хоча сабаку ўдарыць, то кій найдзе. *Ворожб. Вар.: Fed., 268.*

а) Як хочаш сабаку ўдарыць, то і кія знойдзеш. *Шырма, 207. Вар.: І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1; Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

288. Сабака сабаку і па лапках пазнае. *Мат., 176.*

289. Сабака сабаку (сабацы) брат. *Ляцкий, 39; Сержп., 97.*

290. Свае сабакі хоць пакусаюцца, то й паліжуцца. *Fed., 270.*

291. Свае сабакі грызуцца: няхай. *Ляцкий, 40.*

292. Чалавек сівее ад галавы, а сабака ад морды. *Fed., 62.*

293. Сабачая матка ніколі не звядзецца. *Сержп., 97.*

294. Не жартуй, кошка, з сабакаю. *Fed., 149.*

295. Жывець кошка, жывець і сабака. *Добр., Смол., 36. Вар.: С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

296. Жыве кот і сабака, ды жытка не аднака. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29. Вар.: Д. Шаўчэнка, 1957, Маз. 13.3.29.*

297. Жыве кот і сабака, ды толькі жытка не аднака: кот на пячы, сабака пад дзвярыма. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.78.*

298. Не кот друг чалавека, а сабака, але кот просіць, каб гаспадар што зарэзаў, а сабака просіць, каб што здохла. *Мат., 175.*

299. Кату ляжачы хлеб. *Fed., 150.*

300. Пякотка пячэ, котка сала валачэ. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

301. Для мышы і кот вялікі звер. *В. Зубараў, 1956, Гом. 13.3.29.*

302. Кошка з дому — мышка на стол. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

303. Катку забаўка, а мышцы смерць. *Fed., 150.*

а) Кошцы жартушкі, а мышцы смерць [на ўме]. *Дуб., 32. Вар.: Нос., 69; Fed., 364; Mien., 396.*

б) Кошцы смех, а мышцы смерць. *1961, Кап. 13.9.5.*

в) Кату жартýшкі, а мышы смяртýшкі. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

г) Кошцы смешкі, а мышцы слёзкі. *Ахрым., 36.*

304. Пагрыз грызь ды і з хаты брысь. *Сержп., 91.*

305. Пабілі каткá мышыныя слёзкі. *Fed., 151.*

306. Кошку лашчыць, а яна кіпцюры выпушчаець. *Нос., 68, Дуб., 27.*

307. Кошка вочкі шчура, а кіпцюры востра. *Ляцкий, 18.*

308. Збройнаму кату пазуры адцінаюць. *Fed., 151.*

309. Зброддівай кошцы хвост уцінаюць. *Нос., 48.*

310. Поначы ўсе каты серыя. *Pietk., 327.*

311. Поначы ўсе каты буйныя. *Fed., 151.*

312. Сабака здох, дык хай кот брэша. *Янк., 385.*

313. Як кот на печы — холадна на двары. *Рапан., 232.*

314. Кот мурлыча, дзяцей кліча. *Рапан., 253.*

## ХАТА. ХАТНЯЕ АБСТАЛЯВАННЕ І НАЧЫННЕ

315. Свая хатка як родная матка. *Tyszk., 418; Mien., 395; Нос., 147; Dybow., 189; Добр., Смол., 129; Pietk., 360; Fed., 50; Бяльк., 402, Чэрык.; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; М. Грынблат, 1973, Асіп.; М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

316. Як свой кут маю, дак нікога не дбаю. *Мяц., 240, Лаг.*

317. Няма лепшае справы ад свае хаткі. *Сержп., 58.*

318. Хоць ракам, абы ў сваю хату. *Fed., 50.*

319. Хоць альховы, абы новы. *Fed., 8.*

320. Свая стрэха — свая ўцеха. *Дуб., 54.*

321. Кожан у сваёй хаце пан. *Fed., 50.*

а) Кожны пан у сваёй хаце. *Pietk., 360.*

322. На сваём сметніку і певень гаспадар. *Г. Карачун, 1967, Клецк. 13.10.14.*

а) На сваём сметніку й певень смелы (смялейшы). *Сержп., 58; Fed., 305; В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

323. І курыца на сваём сметніку раскошна. *Fed., 158. Вар.: Fed., 305; Т. Гуляй, 1965, Свісл. 9.5.11; З. Валюшка, 1965, Ваўк. 13.10.5.*

324. Жывы не без хаты, а мрэц не без магілы. *Fed., 373.*

а) Жывому хата, а пакойнаму магіла. *Pietk., 403.*

325. Бяда не мець свайго вугла. *Сержп., 58.*

326. І халадно і галадно і хаты сваёй няма. *Fed., 49.*

327. Нашаму Харытону няма нідзе прытону. *Pietk., 338.*

328. Ні дому, ні лому. *Fed., 80.*

329. У яго стольві дамоў, колькі ў зайца ламоў. *Дуб., 63.*

330. Ні хаты, ні лапаты. *Янк., 492.*

331. Так яны і жылі: не было хаты, а вароты купілі. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

332. Чужая хата гаршэй (горы, хужы) ката. *Добр., Смол., 129; Нос., 184; Радч., 249; Fed., 50; М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

333. Не дай бог у чужой хаце жыць, у чужой печы паліць. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

334. Не дай божа часта жаніцца і часта сяліцца. *Pietk., 402; Добр., Смол., 129.*

335. Дурная тая птушка, якая свайго гнязда не мае. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

336. І заяц мае дамоўку, хоць пад кустом. *Сержп., 134.*

337. Шчурка найдзець сваю пячурку. *Нос., 190.*

338. Калі ёсць хлеб, то будуйся. *Dybow., 182; Fed., 43.*

339. Дамок не вялік, да садзіцца не вяліць. *Добр., Смол., 130.*

340. Слаўна хата не ўгламі. *Fed., 50.*

341. Слаўна хата не вугламі, але пірагамі. *Dybow., 17; Kolb., 47. Вар.: Pietk., 314.*

а) Не красна хата вугламі, а красна пірагамі. *Нос., 99. Вар.: Ром., Зап., III, 224.*

б) Не слаўна хата вугламі, да пірагамі *Tyszk., 416; Шпил., 186; Ляцкий, 27; Fed., 50; Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6.*

342. Дома й вуглы памагаюць. *Сержп., 58.*

а) У сваёй хаце і вуглы памагаюць. *Нос., 20; Pietk., 344; Дуб., 64; А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44; У. Іваноў, 1958, Мінск. Вар.: А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

б) У сваім доме і вуглы памагаюць. *Добр., Смол., 6.*

343. У сваёй хаце і качарга помач. *Fed., 50. Вар.: М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

344. У сваёй хаце і качарга маці. *Ю. Ботвін, 1967, Вайк. 13.10.28.*

345. У сваёй хаце ўсе дзіркі вядомы. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2; Рапан., 18.*

346. Трохсценка вялікая — да лесу цягнецца. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

347. І бог і парог — усё разам. *Сем.*

348. Цяснота не крывота. *Янк., 94.*

а) У цеснаце — не ў крываце. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

349. Наша горніца з богам не спорніца. *Дуб., 37.*

а) Наша горніца з богам не спорыцца: як на дварэ, так і ў ёй. *Fed., 113.*

350. Хата блінамі не крыта. *Сцяшк., 612, Воран.*

351. Дай, божа, адзежку шытаю, а хатку крытаю. *Mien., 397.*

352. Адна хата да і тая без сцен. *Сержп., 24.*

353. Якая Агатка, такая і хатка. *Янк., Дыял., III, 171, Глуск.*

354. У рабочай хаце густа, а ў лянівай пуста. *Сержп., 46.*

355. Хоць колічкам хату падапры. *Нос., 174.*

356. Падруб ды й наруб і сярэдзіну вон, то й сцяна будзе. *Дуб., Нар., 4.*

357. Харошы грунт лепі, як будынак. *Ляцкий, 53.*

358. Пахно, адчыні вакно. *Дуб., 47.*

359. У акне добра, за акном яшчэ лепей. *Fed., 8.*

360. Спераду пякецъ, ззаду душу валакецъ. *Добр., Смол., 114.*

а) З аднаго боку пячэ, з другога боку валачэ. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

361. Не бяда, што хата згарэла, але і клапоў ляснула. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

362. Абдумаўся Гаўрыла, як усё сяло згарэла. *В. Ківель, 1967. Нясв. 13.10.21.*

363. Усякай хаце па печы. *Радч., 249.*

364. Няма лепшай рэчы, як дома на печы. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7; А. Ліс, 1967, Смарг.*

365. Добрыя рэчы — ляжаць на печы. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) На печы добрыя рэчы. *Дуб., 43.*

366. За хадзячым лес, за ляжачым печ. *Радч., 247.*

367. Добраму чалавечку добра і ў запечку. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

368. Ці на малую, ці на вялікую перапечку, а ўсё палі печку. *Fed., 231.*

369. І ў старой печы агонь [добра] гарыць. *Нос., 54; Fed., 231.*

370. У старой печы чэрці паляць. *Дуб., Нар., 1; Fed., 231; Pietk., 335.*

371. Печ не кабыла, што кінуў, то не пакіне. *А. Карэнка, 1965, Дзятл. 13.10.26.*

372. Печчу абуха не перабіць. *Rур., 215.*

373. Топіцца жарка, а гаршкоў не відаць. *Ляцкий, 45.*

374. Не печ корміць, а рукі. *Янк. М., 107.*

375. Паджога згарэла, а дроў не затлела. *Ляцкий, 32.*

376. За панам агонь распальвалі жарам. *В. Скідан, 1970, Астр. 8.2.32.*

377. З аднаго дупла і холаду і цяпла. *Pietk., 318.*

378. Запаліўшы свечку, пайду па запечку. *Fed., 307.*

379. Пар[а] касцей не ломіць. *Tyszk., 431; Нос., 125; Ляцкий, 34; Fed., 220; Pietk., 334; Ром., Бел., I, 306; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

а) Цяпло касці не ломіць. *А. Ліс, 1954, Смарг.*

б) Пара касцей не ломіць, гушча дзяцей не разганяе. *М. Шлык, 1969, Зельв.*

380. Ад цяплосці не баляць косці. *Нос., 123; Дуб., 4; Сержп., 55.*

а) Ад цяплосці не гнуцца госці. *Fed., 58.*

б) Ад цяпла косці не баляць. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

381. Хоць у пеклі, абы ў цеплі. *Fed., 58.*

382. Яшчэ то не пекла, калі так цёпла. *Fed., 232.*

383. Па́раных не бачылі, а мерзлых часта. *Дуб., 51.*

а) Па́ранага не відзелі мертвяца, а мерзлага часта. *Крэмнеў.*

384. Ад цеплыні цела млее, ад холаду свяжэе. *Сержп., 80.*

385. Куравая хатка дыму не баіцца. *В. Калюк, 1965, Навагр. 13.9.6.*

386. Шмат дыму — мала пылу. *М. Дуброўскі, 1956, Лельч. 13.3.29.*

387. Зімна ў хаце, хоць ваўкі ганяй. *Fed., 356.*

388. Надвор'я нечага тапіць. *Нос., 84.*

389. Там у Саўкі печкі і лаўкі. *Сержп., 35.*

а) Ён там і днюе і начуе: там яго і печкі і лаўкі. *Ляцкий, 11.*

390. У Саўкі смаляныя лаўкі. *Сержп., 35.*

391. На сваёй лаве ніхто не скажа: адсунься. *Fed., 170.*

392. Хата рагата, на каждым рагу найдзеш работу. *Нос., Слов., 565; Дуб., 68.*

а) Хата рагата, дзела ў ёй шмат. *Сержп., 52. Вар.: Добр., Смол., 128.*

б) Хата рагата: усяго многа нада. *Ляцкий, 53.*

393. У бальшом даму чаго не хвацісь, то нет. *Ром., Зап., I, 215.*

394. Старое — то завала ў хаце, але без яго занадта многа прастору. *Fed., 290.*

395. Дома добрая пасцель і салома. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

396. Свая салома мякчэй чужой пярыны. *I. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

397. І на мулкам выспішся, калі спаць хочацца. *Нос., 56.*

398. Пусткаю хата смярдзіць. *Fed., 50.*

399. На сем двор адзін тапор. *Сах.; Добр., Смол., 9.*

400. На сем двор адзін тапор: адзін рубіць, а шэсцера ў кулак трубяць. *Нос., 88.*

401. Узяў тапор, вазьмі ж і тапарышча. *Ром., Зап., I, 215.*

402. Дома ашмёткам шчы хлябаець, а ложкі не маець. *Добр., Смол., 10.*

403. Чым гаршчок накіпіць, тым кажна страва смярдзіць. *Fed., 105.*

404. Чым гаршчок нацягне новы, то тым і да старасці смярдзіць. *Fed., 105.*

405. Пасуда чыстату любіць. *Добр., Смол., 24.*

406. Хоць мал гаршчок, да мяса варыць. *Ром., Зап., III, 235.*

407. Чым бочку налілі новую, то і згніе, а тым смярдзіць. *Fed., 32.*

408. У дзіравым вядры не носяць вады. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

409. Нож як вуда, да рэзаць ім худа. *Нос., 115.*

410. Нажу імя не было, няхай будзець кармачык. *Нос., 115.*

411. Не кладзі нажа ніколі дагары, бо хто родзіцца ў тэй час— мусіць зарэзацца. *Ляцкий, 26.*

412. Новае сітца на колічку навісіцца. *Дуб., 38; Нос., 115; Pietk., 342.*

а) Новае сітца пакуль павісіцца. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

413. Новае сітца на калку (на круку) навісіцца, а старое і пад лаўкай наваляецца. *Ром., Бел., I, 305; Ляцкий, 29. Вар.: І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29; Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

414. Старае сітца прымараецца і па падлавіччу валяецца. *Добр., Смол., 66.*

415. У каго ступа не стучыць, у таго ў кішках бурчыць. *Ляцкий, 49.*

416. Пярвей бог стварыў пальцы, як відэльцы. *Czeczot, 113. Вар.: Fed., 213.*

417. Бог уперад сатварыў відэльцы, чым нож. *Нос., Слов., 57.*

418. Праз шкло і гліну грошы гінуць. *Т. Сайкоўская, 1965, Ашм. 13.10.6.*

419. Перажыла руда, што была вада. *Л. Павецьева, 1967, Мсціcл. 8.1.107.*

420. Не сляпа руда, што была вада. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

421. Вашы́ная сіла перавяршыла. *Нос., 12.*

422. Мыла чорна, ды мыець бела. *Ром., Зап., III, 224.*

423. Заплаці йшчэ каму, каб вывез гной з даму. *Ляцкий, 12.*

424. Вымету разком, а вывезу вазком. *Нос., 21.*

425. Вымецем памазком, а вывезем вазком. *1961, Кап. 13.9.5.*

426. Ад парога падлогу не мятуць. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

427. Сваю гразь удома апалоквай. *Fed., 115.*

428. Гразь — не сала, пацёр — адстала. *Добр., Смол., 24.*

429. Ад чатырох гадоў, ад старых дзядоў не мецена хата. *Добр., Смол., 129.*

## ХАРЧАВАННЕ

430. Голад астрэй мечы. *А. Гурскі, 1960, Сір. 8.1.51.*

431. Голад не цётка. *Сержп., 37; Мяц., 56, Клец.; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; Дразд.*

432. Голад не цётка, з'есць, што папала. *Нос., 26; Дуб., 10; Fed., 111. Вар.: Pietk., 370.*

а) Голад не цётка, паглядзяць ды з'ядзяць. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

433. Голад не дзядзіна, з'ясі і крадзена. *Ром., Бел., I, 292.*

434. Голад не свой брат. *Ляцкий, 8.*

435. Голад і лжэць і крадзець. *Нос., 26. Вар.: Добр., Смол., 80.*

а) Голад і лгар і злодзей. *Fed., 111.*

436. Голад крадзе і мусіць. *Kolb., 472, Пін. п.*

437. Голад — найлепшы кухар. *1961, Брасл. 13.9.5.*

438. Няма лепшае навукі, як голад. *Сержп., 37.*

439. Голад у свет гоніць. *Сцяшк., 585, Гродз.*

440. Голад гоніць на холад. *Сержп., 37.*

441. Возьме голад — паявіцца голас. *Ром., Зап., I, 215.*

442. Лепшы доўгі голад, як кароткі. *Fed., 111.*

443. Чалавек галодны да нічога не згодны (не годны). *Dybow.*, *7; Fed., 61.*

444. Галодны як шалёны: то кладзе паклоны, то праклёны. *Сержп., 37.*

445. Няма страшней, як сыты сабака да галодны чалавек. *Сержп., 37.*

446. Галодны й кія не баіцца. *Сержп., 37.*

447. Галоднаму і ў галаву нішто не ідзе. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

448. Галоднаму хлеб на ўме. *Fed., 102; Pietk., 320.*

а) Галоднаму хлеб у галаве. *Л. Малаш, 1969, Докш. 8.2.22.*

449. Што каму на ўме, а галоднаму хлеб. *Fed., 102.*

а) Каму што, а галоднаму хлеб. *Дразд.*

450. Галоднай куме хлеб на ўме. *Tyszk., 432; Нос., 26; Fed., 156; Pietk., 327; Дразд.*

а) Дурной куме ўсё хлеб на ўме. *Добр., Смол., 16.*

б) Галоднай куме пірагі на вуме. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

в) Галоднай куме сала на ўме. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

451. Галоднаму на ўме хлеб, а п'янаму хмель. *Нос., 26.*

452. Такі галодны, што сабаку з'еў бы. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

453. Хоць воўна, абы кішка поўна. *Ром., Бел., I, 313; Pietk., 351; 1961, Рэч. 13.9.5.*

а) Не глядзі, кума, што воўна, абы кішка поўна. *Л. Стаўровіч, 1957, Рэч. 13.3.29.*

454. Сёрбай, не глядзі, абы бруха поўна. *Ляцкий, 41.*

а) Усё роўна, чым бруха поўна, абы поўна было. *Ляцкий, 51.*

455. Галоднай курцы зярнятка на думцы. *Дуб., 10.*

456. Сляпой курыцы ўсё пшаніца. *Ром., Зап., III, 232.*

457. Галоднаму ваўку і за́верта па нутру. *Нос., 26.*

458. Галоднаму ўсё смакуе. *Fed., 102.*

459. На галодны зуб усё смачна. *Fed., 102.*

460. На галодны зуб і гэта харашо. *Нос., 84.*

461. Галодны і гнілой бульбіне рад. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

462. Галодны з'еў бы каня з капытамі. *Fed., 102.*

463. Хоць сабачына, было б вока не бачыла. *Добр., Смол., 78. Вар.: І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

464. Галодны прысмакаў не пытае. *Fed., 102; Сцяшк., 585, Свісл.*

465. Будзе смачна, як духі падвядзе. *Сержп., 37.*

466. З'ясі і кісялёвых выжымак, як будзеш галодны. *Pietk., 372.*

467. Пячонай рэдзькі з'ясі, калі выгаладаешся. *Нос., 127.*

468. Сагнешся ў сук, з'ясі і саломы пук. *Сержп., 37.*

469. З гора, з бяды пад'еў лебяды. *Fed., 160.*

470. Галоднаму Фядоту і шчаўе ў ахвоту. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

471. Стрыманы з голаду не пухнець. *Дуб., 57.*

472. Хоць янотавай шубы не нажывём, дык жа з голаду не памром. *Дуб., Нар., 3.*

473. Каму салжэш, а кішцы ніколі. *Нос., 67.*

474. З голаду кішка ў кішку лезла. *Fed., 111.*

475. Усё забудзеш, калі хлеба не здабудзеш. *«Зорка», (Беласток), 1973, № 9.*

476. Не даясі і калёсы прадасі. *Dybow., 184; Шпил., 185.*

477. Як не пад'ясі, дык залатую карэту прадасі. *І. Цішчанка, 1975, Слаўг.*

478. Калі кішкі не напрэш, то і чужыя вароты адапрэш. *Ляцкий, 16; Сержп., 37.*

479. Галоднага вока і сон не бярэ. *Сержп., 37.*

480. Галоднаму пасцель мулка. *Нос., 26. Вар.: Сержп., 37.*

481. Галоднаму хлеб сніцца. *Сержп., 285.*

482. Хто галодны спаць лажыцца, таму будуць старцы сніцца. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

483. Галоднаму цыганы сняцца. *Fed., 60.*

484. Сонца на елі, а мы яшчэ не елі. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл.*

485. Ні мукі пылінкі, ні солі драбінкі. *Сержп., 25.*

а) Ні мукі пылінкі, ні солі драбінкі, ні гарэлкі расінкі. *Нос., 112.*

486. Худа жыць пры бязлесіцы, а яшчэ хужы пры бясхлебіцы. *Нос., Слов., 21.*

487. Няма ані цыбулькі, ані ўкрышыць ува што. *Fed., 59.*

488. Ані пык, ні ў зуб калапнуць. *Крэмнеў.*

489. Ні бобу каробу, ні гароху троху. *Дуб., 38.*

490. Хрэн ды рэдзька, ды й то было рэдка. *Цяшк., 613, Смарг.*

491. Ні скарынкі, ні сланінкі. *Fed., 279.*

492. Ні ў мяшку, ні ў гаршку. *Сержп., 24; Рапан., 51.*

493. Няма і на лякарства. *Fed., 161.*

494. Відзіць бядняк малако, ды рыла ў яго каратко. *«Кр.»*

495. Усё з'еў і зубоў не пагрэў. *Ляцкий, 51; Сержп., 37.*

496. Дагуляліся гулякі: няма хлеба і табакі. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

497. Салому сячэ, пірагі пячэ, сенам падмазвае. *Fed., 235.*

498. Прыйшлі важныя весці: няма чаго есці. *Рапан., 53.*

499. Аці, аці, да нечага даці. *Нос., 3; Сержп., 7.*

а) Аці, аці, няма ўжо чаго даці. *Fed., 72.*

б) Не за што сказаць аці, калі няма чаго ў рот узяці. *Нос., 98.*

500. Сем раз еў, але і разу за сталом не сядзеў. *Fed., 130.*

501. Ешце, дзеткі, крупеня тлусценькая: два яечкі варыліся. *Сем.*

502. У печы гарыць, як у пана, а варыцца, як у цыгана. *Янк. М., 28. Вар.: Добр., Смол., 78.*

503. Што па тэй чэсці, калі нечага есці. *Нос., 189; Сержп., 23.*

504. Благая чэсць, калі нечага есць. *Сержп., 37.*

505. Відзіць то бог, ад чаго жывот засох. *Ром., Зап., I, 216.*

506. Парожня ложка нікому не міла. *Fed., 172.*

507. У месце жыць весяло, толькі есці нечаго. *Fed., 185.*

508. Не ў россыць есць, як няма чаго. *Fed., 130.*

509. Ні з'есці, ні спіць, ні харашо схадзіць. *Fed., 130.*

510. Жар гарыць, вада кіпіць, толькі няма чаго варыць. *Ляцкий, 11; І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

а) Сонейка гарыць, кроў кіпіць, ды няма чаго варыць. *Сержп., 65.*

б) Сонца гарыць, у грудзях кіпіць, да нечага варыць. *Сержп., 65.*

511. У агародзе шмат, а варыць нечага, брат. *Сержп., 26.*

а) У гародзе многа, а варыць нічога. *Ляцкий, 47.*

512. Дажыліся нашы бра́ты: ні хлеба, ні хаты. *Я. Касач, 1966, Дзятл. 13.10.26.*

513. Хоць вазьмі ды зубы на паліцу палажы. *Pietk., 352.*

514. У агародзе мак, а ў гаршку так. *Сержп., 26.*

515. Ёсцека макацёр, да мак не спор. *Шпил., 180.*

516. Раскусіла ў гаросе лапаткі. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

517. З мяжы не замесіш дзяжы. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

518. Не замесіш густа, як у клеці пуста. *Сержп., 15.*

519. Служыў — тужыў, а стаў гаспадарыць — не варыць, не парыць. *Сержп., 136.*

520. З парожняга не насыпаць. *Fed., 222.*

521. З парожняга не нальеш. *Fed., 222.*

522. З пустога збана ніхто не нальe. *Fed., 352.*

523. Пакуль тая яда — доўгая нуда. *Ляцкий, 33.*

524. Як маем, так ужываем. *Fed., 184.*

525. Ёсць зубы, ды хлеба няма да губы. *Нос., 40; Fed., 360.*
   а) Ёсць зубы, ды няма хлеба. *Шпил., 180.*

526. Зубы есць, ды няма чаго есць. *Fed., 361.*

527. У кажнага зубы белы, а што за зубамі, то невядома. *Fed., 361.*

528. Ніхто не ведае, што ў каго за зубамі. *Fed., 331.*

529. Ніхто каму ў зубы не заглядае. *Fed., 360.*

530. Зубы спаласкаў, на язык не папаў. *Fed., 361.*

531. Не гастры зубоў, бо есці не будзеш. *Fed., 360.*

532. Сеўшы за стол, да й зубамі аб стол. *Крэмнеў.*

533. Каля рота мычыцца, да ў рот не пападаець. *Нос., 66.*

534. Ад крупені дзеці падурнелі, а не стала круп — і сам татка зрабіўся глуп. *Дуб., 3. Вар.: Нос., 122.*

535. Жытка наша — ні кулеш, ні каша. *Сержп., 70.*

536. Гора наша, што пуста каша. *Сержп., 25.*

537. Гора наша — аржаная каша; з'еў бы і такой, да няма ніякой. *Нос., 27; Р. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.61.*

538. Бабовая каша — не голад. *Ляцкий, 3.*

а) Не голад, дзеткі, бабовая каша. *Ляцкий, 30.*

539. Жменя круп — гэта не каша. *Мін.-Мал., 1970, 160, Уздз.*

540. Каша — пацеха наша. *Dybow., 12; Ляцкий, 17; Fed., 139.*

541. Смачна кашка, ды рабіць цяжка. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

542. Не па-нашаму — ядуць хлеб з кашаю. *Сержп., 78.*

543. Любая кашка з маслам смашна. *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

544. Каша — разганіха наша. *Дуб., 29; Нос., 60.*

545. После кашы прыварку няма. *Сержп., 36.*

546. Пасля кашы нету пашы. *А. Емяльянаў, 1971, Слон.*

а) Па кашы няма пашы. *Fed., 139.*

547. Пасля кашы б'юць у зашый. *Нос., 134; Дуб., 46.*

548. Гора было ваша, што перапрэўшы была каша, — цяпер бы з'елі і такой, да няма ніякой. *Ляцкий, 8.*

549. Шлёп у кашу, толькі бы не ў нашу. *Ляцкий, 60.*

550. У кашы і хлеб споран. *Нос., 19.*

551. У яго з кары каша. *Шейн, II, 482, Гор. п.*

552. Крупка крупку даганяець. *Нос., 69; Дуб., 26.*

553. Крупіна за крупінай ганяецца з дубінай. *Ляцкий, 18; Pietk., 375; Раст., 50.*

554. Крупа крупу гоніць, аж шыю ломіць. *Fed., 153.*

555. Не будзе з гэтых круп мукі. *Fed., 154.*

556. У пустую бочку сколькі не бі, дык масла не будзе. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

557. І кваску не зробіш з пяску. *Сержп., 121. Вар.: Добр., Смол., 79.*

558. Таўкач муку пакажаць. *Нос., 162.*

559. Шылам кашы не схваціць. *1961, Брасл. 13.9.5.*

560. Звастрыўся на шыла, а шылам патакі не хваціш. *Нос., 48.*

561. Пазірай да аблізвайся. *Сержп., 73.*

562. Нюхай, да не рухай. *Нос., 116; Дуб., 42; Fed., 203.*

563. Прыйшлі вестачкі, што хочацца естачкі. *Рапан., 53.*

564. Спадзяваўся дзед на мёд, ды не еўшы спаць лёг. *Шейн, II, 481. Вар.: Dybow., 18; Ляцкий, 42; Fed., 182.*

а) Надзеяўся дзед на мёд, ажно і без вады спаць лёг. *Ляцкий, 22.*

565. Спаць, не павячэраўшы — цыганы будуць сніцца. *Дуб., 56.*

566. На вячэру яглы, што так спаць ляглі. *Суяшк., 599, Смарг.*

567. Хто спіць, той есці не просіць. *Pietk., 393.*

568. Мала мелі, скора з'елі. *Нос., 76. Вар.: Ляцкий, 20; Сержп., 49; Fed., 184.*

569. Адзін рок з'еў дзесяць. *Fed., 262.*

570. Часам з квасам, а парою з вадою. *Ром., Зап., III, 236; Радч., 249; Ляцкий, 58; Pietk., 328; Нос., 181; Fed., 160; 1961, Кап. 13.9.5, Вар.: Ахрым., 47.*

а) Часам з квасам, а часіцай і з вадзіцай. *Ляцкий, 58.*

571. Гараваўшы, гараваўшы, умірай, не скаштаваўшы. *Tyszk., 416; Шпил., 177; Нос., 27; Дуб., 11.*

572. У хату хоць дрэнна лезці, абы было што есці. *Л. Тур, 1965, Руж. 13.10.1.*

573. Вары ваду — вада будзе. *Rур., 216.*

а) Вары ваду — вада вадою будзе. *Pietk., 349.*

б) Ваду гатуючы, усё вада будзець. *Tyszk., 416; Шпил., 176; Нос., 15.*

в) Вада вадой, colькі яе ні вары. *Ляцкий, 5.*

г) Як ваду ні вары, то ўсё вадою будзе. *Fed., 325.*

574. Ні вады, ні яды. *Fed., 325.*

575. З'еў паўбяды, напіўся вады. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

576. Бяда, што не п'ецца вада. *Нос., 12; Сержп., 21.*

а) Што за бяда, што не п'ецца вада. *Радч., 249.*

577. Што гэта за бяда, што гэтак п'ецца вада. *Fed., 28. Вар.: М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

а) То не бяда, што п'ецца вада. *Нос., 163; Сержп., 38.*

б) То не бяда, што п'ецца вада, а то бяда, што не п'ецца вада. *В. Шаўчэнка, 1961, Ельск. 13.3.29.*

578. Самая тая вадзічка, толькі ў другім стаканчыку. *Г. Барташэвіч, 1964, Сен. 8.1.90.*

579. Чай вадою запівай. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

580. Во нагатавала, так нагатавала: вада да лебяда. *Добр., Смол., 79.*

581. Раз пуста, другі раз густа. *Fed., 253.*

582. Рэдка, да едка. *Нос., 146.*

а) Хоць рэдка, да едка. *Fed., 261.*

583. З аднаго яйца яечні не будзе. *Fed., 124; Pietk., 372.*

584. Адно яйцо на два снеданні не раздзеліш. *Мат., 173.*

585. Калі ўжываць, то ўжываць: бій цэлае яйцо ў боршч. *Fed., 324.*

а) Калі ўжываць, то ўжываць: па цэламу яйцу ўбіваць. *Fed., 324.*

586. Бачыць вока, гдзе пячэцца кока. *Нос., 5; Дуб., 7; Сержп., 73; Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

587. Вочкі глядзяць, да трасцы з'ядзяць. *Fed., 335.*

588. Па пары ложак многа, ды есці няма чога. *В. Таранка, 1965, Скід. 13.10.1.*

589. Трое ў хаце, і не знаем, як пад'есць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

590. Па барадзе цячэ, у рот не пападзе. *Ляцкий, 32.*

а) Па барадзе цякло, а ў роце (губе) не было. *Fed., 22.*

б) Па губам цякло, да ў роце не было. *Нос., 129.*

591. Ліжучы, не пад'есці. *Pietk., 328.*

592. Калі не наеўся, то і не наліжашся. *Гильт., 287, Кобр. п.; Dybow., 182. Вар.: А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

а) Не наеўшыся, не наліжашся. *Ахрым., 43.*

б) Чаго не пад'ясі, таго не наліжашся. *Fed., 208, 196; Pietk., 323.*

в) Чаго не наліжашся, таго не наясіся. *Fed., 197.*

593. Не ліжы таўкача — лыс будзеш. *Нос., 100.*

594. Дзе кухароў шэсць, там нечага есць. *Fed., 155. Вар.: Шырма, 205.*

595. Повар спіць, а суп кіпіць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

596. Не зварылася, то ў жываце даварыцца. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

597. Варыла, не варыла, абы добра гаварыла. *Fed., 328; Радч., 246.*

598. Умела гатаваць, а не ўмела падаваць. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

599. Мука як мука, да паганая рука. *Нос., 80; Сержп., 33.*

600. Якія каравайшчыкі, такія калачыкі. *Fed., 137.*

601. З ліхое рукі ядзяць крукі. *Fed., 266.*

602. Кухар хоць не пад'есць, то панюхаецца. *Fed., 155.*

603. Каб зварыць страву, трэба пасячы старую лаву. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

604. Дома хоць не ўежна, але ўлежна. *Tyszk., 431; Шпил., 179. Вар.: Радч., 249; Fed., 318; Dybow., 192; З нар. сл., 129, А. Крывіцкі, Мсцісл.*

а) У дварэ хоць не ўежна, дак улежна. *Нос., 19.*

б) Жывем не ўежна, затое ўлежна. *Бяльк., 455.*

в) Хоць не ўежна, дык вылежна. *Дуб., 70.*

605. Якое ні путра, правадзілі вутра. *Добр., Смол., 77, 78.*

606. Жыць весела, да есць нечага. *Нос., 43; Fed., 367.*

607. Не піўшы, не еўшы, скачы ашалеўшы. *Fed., 279; Ром., Бел., I, 303; Ляцкий, 30.*

608. Песні — хоць трэсні, а кушаць нечага. *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

а) Спявай песні, хоць трэсні, а есць нечага. *Булг., 176.*

б) Пей песні, хоць трэсні, толькі есці не прасі. *Pietk., 336; Мін.-Мал., 1974, 189, Пух.; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2; А. Гурскі, 1962, Барыс. 8.1.63; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; М. Грынблат, 1969, Стол. 8.2.14.*

609. Пой песні, хоць трэсні, але есці не забывай. *«ЛіМ», 1969, № 34, П. Місько, Арш.*

610. І танцуе, і грае, толькі есці не мае. *Ляцкий, 14.*

611. Можна і песні пець, калі пад'ясі. *Рапан., 48.*

612. На спіне шоўк, а ў жываце шчоўк. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

а) На пузе шоўк, а ў пузе шчоўк. *Нос., 87.*

613. На назе чаравік скрыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць. *Нос., 36. Вар.: А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) У чабатку рыпіць, а чорт у гаршку кіпіць. *Булг., 178.*

614. Красіва, да жывату тасклівa. *Ром., Зап., III, 221.*

615. Хоць боса хаджу, але з перцам ем. *Fed., 41; Сцяшк., 613, Гродз.*

616. Мінуўся той час, што з мёдам (салам) варыў квас. *Ляцкий, 207; Сержп., 56.*

617. За даўнейшыя ча́сы елі і каўбасы. *Сержп., 49.*

618. Ужо даўно, як на кругло не пад'еў. *Fed., 209.*

619. Хлеб — усяму галава. *I. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

620. Хлеб над усім пануе. *Ляцкий, 53.*

621. Не той багаты, хто мае срэбра і злата, а той багаты, хто мае хлеб. *М. Грынблат, 1970, Ашм. 8.2.26.*

622. Хлеб будзе, дык і ўсё будзе. *Зах., 251.*

623. Дай хлеба ды й гуляй колькі трэба. *Ром., Бел., I, 224.*

624. Найсмачнейшы хлеб ад сваёй працы. *Ляцкий, 23.*

625. Пушны хлеб не голад. *Дуб., 46.*

626. Пушны хлеб не голад, а пасконная сарочка не нагата. *Крэмнеў.*

а) Пасканінка не нагата, а пушны хлеб не голад. *Дуб., 52.*

627. Паклонішся і пухнату́, калі трапіцца. *Дуб., 46.*

628. Галоднаму жывату і пушынка па нутру. *Сцяшк., 585, Вайк.*

а) Тошчаму жывату і пушынка па нутру. *Нос., 164.*

629. Галоднаму і пушынка (пушнінка) — малінка. *Нос., 26; Сержп., 37.*

630. Не спіцца, калі хлябок сніцца. *М. Грынблат, 1970, Лаг.*

631. Галоднаму асцюлькі (асцюкі) не колюцца. *Нос., 26; Дуб., 11; «Зорка»; Янк. М., 30.*

632. Галодныя зубы асцюкоў не чуюць. *Fed., 360.*

633. І ў хлебе ёсць мякіна. *Сержп., 53.*

634. З мякінай лёгка хадзіць, ды цяжка ногі валачыць. *Ляцкий, 13.*

635. Ух, ела баба пух, а дзед мякіну; еш, баба, еш, я цябе не пакіну. *Крэмнеў.*

636. Душка не птушка, мякінаю не адбудзеш. *Нос., 40.*

637. Мякіна пу́шыць, а чысты хлеб сушыць. *Нос., 82.*

638. Хоць чорная па́па, ды поўная лапа. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

639. Хлеб дае рогі, а голад ногі. *Дуб., Нар., 1.*

640. Хлеб і вада — няма галада́. *Fed., 52.*

а) Калі есць хлеб да вада, нету галада́. *Нос., 63; Fed., 53.*

б) Хлеб, соль і вада, то няма галада́. *Булг., 177.*

641. Калі есць хлеб і вада, то не бяда. *Czeczot, 110; Шпил., 182; Dybow., 10.*

а) Пакуль ёсць хлеб ды вада — гэта не бяда. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15; Сах. Вар.: Зах., 251.*

б) Не вялікая бяда, калі хлеб да вада. *Нос., 93.*

642. Хоць з вадою, было бы не з бядою. *Нос., 174. Вар.: Сержп., 55; Fed., 26.*

а) Хлеб з вадою, але не з бядою. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

б) Еш хлеб з вадою, абы не з бядою. *Fed., 53, 54.*

в) Лепш хлеб з вадою, як з бядою. *Fed., 53; С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

г) Лепш хлеб з вадою, чым пірог з бядою. *Сержп., 23. Вар.: Ром., Зап., III, 223.*

643. Часам з квасам, а парой з вадой, ці то з бядой. *Сцяшк., 615, Лід.*

644. Калі бядуеш, больша хлеба зжуеш. *Ляцкий, 16.*

645. Хлеб і соль — то ўся праўда. *Pietk., 361.*

646. Хлеб і соль — найлепшая закраса. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

647. Солі ды хлеба — больш нічога не трэба. *Сержп., 79; Ляцкий, 42.*

648. Ад хлеба, ад солі галова не заболі. *Ром., Мат., 83.*

649. Хлеб да вада — уся наша яда. *Ляцкий, 53.*

650. Хлеб і вада — мужыкова яда. *М. Жылінскі, 1965, Свісл. 13.10.6.*

651. Хлеб да вада — маладзецкая яда. *Нос., 172.*

а) Хлеб, соль і вада — маладзецкая яда. *Pietk., 372; А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29; Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

652. Хлеб, соль і вада — первая яда. *М. Грынблат, 1973, Асіп.*

653. Пасля хлеба і солі тры часы волі. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

654. Хлеб ды каша — то яда наша. *Fed., 52.*

655. Абы хлеба кусок, будзе пастушок. *Fed., 223.*

656. Работы да поту, а хлеба няма ў ахоту. *Нос., 143; Fed., 255.*

657. Хутчэй папросяць дзеці скарынкі, як сланінкі. *Fed., 91.*

658. Не папросяць дзеці сланінкі, але скарынкі. *Fed, 91.*

659. Галоднаму і лустка смашна. *Сах.*

660. Маліна то маліна, але каб хлеба скарына. *Янк. М., 28.*

661. Без солі не смачна, без хлеба не сытна. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

662. Падлі, бабка, баршчу, а я хлеба пайшчу. *Нос., 129; Дуб., 47.*

663. Колькі не думай, а лепш хлеба-солі не прыдумаеш. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

664. Еш хлеб куском, пі воду збанком. *Fed., 53.*

665. Не на тое пот пралівалі, каб з хлебам галадалі. *Сержп., 37.*

666. Тады нажыў хлеба, як зубоў няма. *Fed., 54.*

667. Не на тое я хлеб спёк, каб ён за парог уцёк. *Dybow., 15; Fed., 53. Вар.: Dybow., 192; Fed., 52.*

668. Хоць чоран хлеб, да свой. *Сержп., 13.*

669. Чужы хлеб смачнейшы. *Fed., 53.*

670. Адзін хлеб прыедліў. *Нос., 118; Сержп., 78.*

a) Адзін хлеб прыеўся. *Fed., 52.*

671. Адзін хлеб не прыедліў. *Сержп., 78.*

672. Не шкодзіць, што хлеб на хлеб находзіць. *Сержп., 76.*

673. Кій на кій шкодзіць, а хлеб на хлеб — не. *Fed., 144.*

a) Кій на кій ва́дзіць, а хлеб на хлеб не ва́дзіць. *Нос., Слов., 42.*

674. Не трэба праз хлеб хлеба шукаць. *Fed., 53.*

675. Хлеб не б'еццa. *Нос., 172.*

676. Хлеб за брухам не ходзіць. *А. Ліс, 1957, Міёр.*

677. Наш хлеб не жуюць — няхай жывуць. *Л. Царанкоў, 1960. Мінск 13.9.2.*

678. Хлеба не пражывеш, не пераясі і вады не перап'еш. *Pietk., 360.*

679. Хлеб не перамесіш, а кісель не пераварыш. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

680. Пакуль кеп, патуль хлеб. *Tyszk., 430.*

681. Пры хлебе й квас трывал. *Сержп., 75.*

682. Ёсць хлеб — соку няма; ёсць сок — хлеба няма. *Dybow., 9.*

a) Век пражыла, хлеба з сокам не ела; хлеб ёсць — соку няма, сок ёсць — хлеба няма. *Сцяшк., 583, Навагр.*

683. Ёсць хлеб — солі няма, соль ёсць — хлеба няма. *Fed., 53.*

684. Усякая пагудка к хлебу добра. *Ром., Зап., І, 215.*

685. Быў бы хлеб, а мышы будуць. *Ром., Зап., І, 215.*

686. Рыбка-хібка, але й хлеба была скібка. *1961, Калінк. 13.9.5.*

687. Сто коп жыта — на год хлеба, капа жыта — усё на год хлеба. *Tyszk., 418. Вар.: Нос., 156.*

688. Адзін сноп ці сто коп — хлеба на год. *Дуб., Нар., 1. Вар.: Сах.*

а) Хлеба хватае на год: сто коп і адзін сноп. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

689. Улетку цябе люблю, дзедку. *Сержп., 132.*

а) Улетку люблю цябе, дзедку, а зімой з'ем хлеб з свіннёй. *Дуб., 67.*

690. Ад сяўбы да жніў не кожны будзе жыў. *Дуб., Нар., 1.*

691. Малая пашня́, да ў пуць пашла. *Нос., 76.*

692. Стол хлеба не з'есць. *Дуб., Нар., 3. Вар.: Нос., 156; Лазовік, 1965, Скід. 13.10.4.*

693. Дзе многа за сталом сядзіць, там не доўга хлебу быць. *Ляцкий, 10.*

694. З адвароту і закалоту хлеба не есці. *Pietk., 354.*

695. Каменні — хоць забіся, вады — хоць утапіся, дроў — хоць спаліся, хлеба дакупіўшы, можна жыць. *Fed., 135.*

696. Куплены хлеб да пагляду, а не да паеду. *Fed., 53.*

697. Выскачыў на вулку ды і хап за булку. *Дуб., 8.*

698. Хто хлеба купіць, таму болей рупіць. *Нос., 178.*

699. Быў конь, ды з'езджаны, быў хлеб, ды з'едзены. *1961, Кап. 13.9.5.*

700. Рукі на мазалях, а ў торбе засохлы акрайчык. *Янк., 62.*

701. Ямо хлеб траякі: чорны, белы і ніякі. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч, 13.10.6.*

702. Ёсць хлеб — ядзімо, а няма — глядзімо. *Сержп., 15.*

703. Ёсць кавалак хлеба, то хвала богу. *Сержп., 78.*

704. Хоць гара не родзіць, але з хлеба не зводзіць. *Шырма, 206; Н. Андрэева, 1965, Навагр. 13.10.1.*

а) Хлеб гара не родзіць, але з хлеба не зводзіць. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

705. Хлеб не запара́ха — няхай будзе. *Fed., 52.*

706. Брухам хлеба не вынасіш. *Ром., Зап., I, 215.*

707. Ашчандза́ўся, ашчандзаўся: хлеб з'еў, а квас астаўся. *Fed., 10.*

708. Квас з'еў, а хлеб астаўся. *Fed., 10.*

709. Цеста і без касцей, а расце. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

710. Дзяжа, дзяжа, не бачыла ні хвашча́нкі, ні нажа. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

711. Падхадзі, мая дзежачка! Госць на парозе, хазяін у дарозе, а хазяйка есць хочаць. *Нос., 130.*

712. Без хлеба няма абеда. *Fed., 52.*

713. Без хлеба паўабеда. *Fed., 52.*

714. З сваім хлебам і паабедаеш. *Нос., Слов., 424.*

715. Слова да слова, а хлеб да абеда. *Л. Павецьева, 1967, Мсцісл. 8.1.107.*

716. Латвей абысціся без мяса, як без хлеба. *Fed., 53.*

717. Без кавалка хлеба — кепская бяседа. *Ляцкий, 5.*

718. Як не стала хлеба, дык і нож не трэба. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

719. Наеўся? — Дай кусок хлеба, дык скажу. *С. Маісеенка. 1965, Жлоб. 13.3.25.*

720. Пірагі пра пярод берагі, а хлеб еш. *Нос., 127.*

721. Еш пірагі, а хлеб упярод хавай. *Булг., 177.*

722. Пірага шукаеш, а хлеба не цурайся. *Янк., Дыял., III, 165, Глуск.*

723. Абы хлеб быў, нахлебнікі будуць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

724. Калі хлебна, так і ўедна. *Нос., 66; Дуб., 30.*

725. Калі станеш трэсца, то і хлеб больша есца. *Нос., 65.*

726. Калі гумно цячэ, то гаспадар з дому ўцячэ, а калі хлеб цячэ, то ён аладкі пячэ. *Fed., 121.*

727. Хлеб спорны, калі перапеч поўна печ. *Сержп., 75.*

728. Хлеб старанамі, а мёд астравамі. *Pietk., 361.*

729. Укрой — не ўдой. *А. Ліс, 1974, Смарг.; Дуб., 64.*

730. От хлеб удаўся: пад скарынку кот схаваўся. *Fed., 54.*

а) У гаспадыні хлеб не ўдаўся: пад скарынку кот схаваўся. *Абаб.*

б) Мой хлеб вельмі ўдаўся: пад скарынку кот схаваўся. *В. Таранка, 1965, Скід. 13.10.1.*

731. Хоць вяліка луста, ды ў сярэдзіне пуста. *Ляцкий, 53.*

732. Вялік пірог, да ў сярэдзіне плох. *Нос., 13; Сах.*

733. Шукаючы пірага, хлеб загубіў. *Pietk., 314.*

734. Хлеб не зяць — паглядзяць ды з'ядзяць. *Ахрым., 57; А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29; С. Маісеенка, 1960, Жлоб. 13.3.25; В. Курбацкі, 1960, Карм. 13.3.29.*

а) Хлеб не зяць: які е, такі і з'ядзяць. *Pietk., 361.*

б) Хлеб не зяць: які спякуць, такі з'ядуць. *В. Дашкоўская, 1965, Ваўк. 13.10.2.*

в) Хлеб не зяць — людзі з'ядзяць. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

г) Хлеб не зяць — быстра з'ядзяць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

735. Хлеб не нявеста: які спячэцца, такі з'есца. *І. Пазняк, 1965, Шчуч. 13.10.6; В. Дашкоўская, 1965, Ваўк. 13.10.2; К. Кабашнікаў, 1963, Шчуч. 8.1.84.*

а) Хлеб не нявеста: які ўдаецца, такі з'есца. *Шырма, 206; А. Хомка, 1965, Ваўк. 13.10.3. Вар.: Сцяшк., 613, Шчуч.; В. Таранка, 1965, Скід. 13.10.1.*

б) Хлеб не нявестка: які ўдаўся, такі з'есца. *Fed., 52.*

736. Хлеб не свякроўка: які ўдаўся, такі і лоўка. *В. Таранка, 1965, Скід. 13.10.1.*

а) Хлеб не свякроў, з'ядзім да пакроў. *Сцяшк., 613, Шчуч.; К. Кабашнікаў, 1963, Шчуч. 8.1.84.*

737. Хлеб не мацi, не будзе касцей аб'ядаці. *В. Дашкоўская, 1965, Ваўк. 13.10.2.*

738. Цяслявы хлеб не жонка. *Нос., 181.*

739. Ні адной печкі хлеб адзін. *Аним., 264.*

740. Жывём, хлеб жуём. *Fed., 368; Сержп., 68.*

741. Хлеб еш да й другому давай. *Fed., 52.*

а) Хлеб еш да й другому не шкадуй. *Fed., 52.*

742. Здзек над хлебам — грэх. *Дуб., 21.*

743. Хто носіць, той не просіць. *Dybow., 192.*

а) Хто хлеб з сабой носе, той есці не просе. *Ляцкий, 56. Вар.: Сержп., 75; Fed., 198.*

б) Хто з сабою носіць, тэй у другога не просіць. *Нос., 178.*

744. Хто ў торбе хлеба мае досыць, той яго не просіць. *Fed., 53.*

а) Хто торбу носіць, той есці не просіць. *А. Гурскі, 1971, Паст. 8.2.46.*

б) Хто хлеб у кайстры носіць, той есці не просіць. *Pietk., 361.*

745. Хто есць хлеб з пушком, то не ходзіць з мяшком, а хто з сабою хлеб носіць, той хлеба ў нікога не просіць. *Fed., 52.*

746. Кашу вары густую, у дарогу бяры торбу не пустую. *Суяшк., 596, Іў.*

747. Калі хлеб у возе, то няма бяды ў дарозе. *Fed., 53.*

748. Хлеб у дарозе не важыць. *Сержп., 75.*

749. Каб не балелі ногі, бяры хлеб з сабой. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

750. Ідзеш на часок — бяры хлеба кусок. *М. Бандарэнка, 1960, Мав. 13.3.29.*

751. Едзеш на дзень — бяры хлеба на тыдзе́нь. *Ахрым., 30; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15; М. Бандарэнка, 1966, Мав. 13.3.29.*

а) Едзеш на дзень, а харчоў бяры на тры дні. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

752. Свой хлеб — і на калодзе абед. *Нос., 147; Цуяшк., 608, Вайк.*

а) Са сваім хлебам і на калодзе абед. *М. Грынблат, 1967, Шумяцкі р-н Смаленскай вобл. 8.1.106.*

753. Са сваім хлебам папалуднуеш. *Дуб., 58.*

754. Абы было ў торбе, то з'ем і на горбе. *Fed., 313.*

755. Калі свой хлеба край, то і пад кустом рай. *Нос., 65. Вар.: Дуб., 27.*

а) Калі хлеба край, дык і пад елкай рай. *Сержп., 134.*

756. На сваем хлебе жывеш, калі захочаш, тагды жвеш. *Нос., 87.*

757. Не ў пору паядаеш, як свайго не маеш. *К. Кузняцова, 1963, Глыб. 8.1.80.*

758. Свайго не меўшы, сядзі не еўшы. *В. Валетка, 1965, Слуцк.*

а) Свайго не меўшы, лажыся спаць не еўшы. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; А. Куцакова, 1956, Рaг. 13.3.29; Сах.*

759. Гуляць бы гуляў, да хлеба з сабою не браў. *Нос., 30.*

760. Даў бог хлеба, да не ўжываў, як трэба. *Fed., 53.*

761. Дасць бог хлеба, дасць і да хлеба. *Fed., 53. Вар.: Pietk., 361.*

762. Гэта табе дзякаваны хлеб. *Нос., 24.*

763. Упіканы абед горкі. *Fed., 2.*

764. Блінная яда — да вечара хада. *Добр., Смол., 77.*

765. Адзін блін, і тэй на рэшаце. *Нос., 118; Fed., 31.*

766. Блін не клін, бруха не распора. *М. Дуброўскі, 1956, Лельч. 13.3.29.*

767. На мазаны блін і кот па-другому глядзіць. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

768. Як бліны ўплятаў, дык галавою матляў. *Янк., 187.*

769. Сядзі, баба, да вечара, табе бліноў напечана. *Нос., 159.*

770. Першы блін комам. *І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3.*

а) Першы блін заўсёды комам. *І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1.*

б) Первы блін, і тэй комам. *Нос., 125.*

771. Калі картофля ёсць, то мужыку не пост. *Ляцкий, 16.*

772. Хто бульбы не з'еў, то галодны чалавек. *М. Грынблат, 1970, Ашм. 8.2.26.*

773. Да бульбінкі хопіць і скарынкі. *«ЛіМ», 10 кастрычніка 1967 г.*

774. Бульба з булкай біліся: бульба булцы як дала — булка сплюшчылася. *Янк., 373.*

775. Бульбу вараць, бульбу жараць, а пад'есці не дадуць. *Рапан., 39.*

776. Хоць повен гаршчок картофлі, а без вады не зварыш. *Ляцкий, 54.*

777. Лепш штось, як ніц. *Fed., 300.*

778. Лепшы рыдз, як ніц. *Fed., 78.*

779. Сёе-тое на скаварадзе. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

780. У голад і нішчымнае смачна есці. *Сержп., 37.*

781. Што па тым, як боршч ні з чым? *Fed., 41.*

782. Залішне — па два грыбы ў капусту. *Дуб., Нар., 1.*

783. Як сам зварыш, дык усё смачней. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

784. Што стрэў, то з'еў. *Нос., 188; Ром., Бел., I, 292; Fed., 356.*

а) Што сустрэла, то з'ела. *Fed., 294.*

785. Як зварыш, так і з'ясі. *У. Івановў, 1958, Мінск.*

а) Як наварылі, так і паелі. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

б) Што наварыў, тое і з'еў. *Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5.*

786. Хоць на сабаку вылі, то будзе крычаць, бегучы. *Fed., 268. Вар.: Добр., Смол., 77.*

787. Ці пражаны, ці смажаны — усё роўна. *Сержп., 137.*

788. Хоць з карыта, абы дасыта. *Fed., 296.*

789. Хоця ясі крапіву ды салому, але пры дому. *Л. Павецьева, 1967, Мсцісл. 8.1.107; А. Гурскі, 1967, Бял. 8.1.112.*

790. Не вадою уха пахнець, а рыбаю. *Добр., Смол., 39.*

791. Не вялікая бяда, што без рыбы серада. *Нос., 93.*

792. Добра Мацку й плотка. *Нос., 35.*

793. Рыба ў яме, а боршч з касцямі. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

794. Калі няма рыб, добры і грыб. *Fed., 118.*

а) У недастатку рыб добры і грыб. *Fed., 268.*

795. На бязрыб'і і рак рыба. *Нос., 82; Сержп., 79; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15; Г. Румоўская, 1961, Пліс. 13.10.40.*

796. Ні рак, ні рыба. *Fed., 257.*

797. Ні рыба, ні мяса. *Czeczot, 112; Нос., 114; Сержп., 77; Fed., 267.*

798. Не праглынеш: з галавы кастляў, а з нізу кісляў. *Нос., 113.*

799. Хто не еў пячэні, той вантробе рад. *Fed., 231.*

800. Добра з макам, добра і так. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

801. Жывем — не гуляем, пустых баршчоў не хлябаем: хоць свярчок у гаршчок, а ўсё з наварам бываем. *М. Дуброўскі, 1956, Лельч. 13.3.29.*

802. Што пакрышыш, тое і выхлебаеш. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

803. Трава і людзям ідзе ў страву: як якая трава. *Ляцкий, 45.*

804. Харч харчу не ровен. *Ляцкий, 53.*

805. Збіліся да ручкі — чорны хлеб да пахлёбка з бручкі. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

806. Лахман не адзежа, зацірка не ежа. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

807. Зацірка яда — да парогу хада. *М. Гайлік, 1966, Свісл. 13.10.26.*

808. Лапці не адзежа, а гуляш не ежа. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

809. Без капусты жываты пусты. *Нос., 5; Сержп., 37.*

а) Без капусты трыбух пусты. *Fed., 136.*

810. Не зародзіць капуста — у жываце будзе пуста. *Сержп., 25.*

811. Калі ёсць гарох і капуста — у хаце не пуста. *А. Аксамітаў, 1972, Докш.*

812. Без хлеба няма абеда, без капусты жываты пусты. *«Звязда», 21 кастрычніка 1969 г., М. Панасюк, Іван.*

813. Без хлеба мужык сыты не будзе, без капусты боршч не жыве. *Зах., 251.*

814. Не гулялі, а нішчымную капусту сярбалі. *Янк., 59.*

815. Сем страў, ды ўсё капуста. *Цяшк., 608, Гродз.*

816. Каўбаса — слава, а капуста — страва. *Мат., 182, Слуцк.*

817. Кажух не вата, капуста не гарбата. *Л. Малаш, 1969, Докш. 8.2.22.*

а) Што кажух, то не вата, а капуста не гарбата. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

818. Душа наша Хацім'я хочыць і капусты і бацвіння. *Нос., 40.*

819. Луста да капуста — не будзець у жываце пуста. *Нос., 74; Калянд., 1921.*

820. Галава свабодна і капуста салодка. *Мат., 174.*

821. Часам і буракі бываюць не дуракі. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

822. Аб адном гурку добр не будзеш. *Мяц., 12, Слуцк.*

823. З'еў агурка — цяпер ад ветру не павалюся. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

824. Кісялёва яда — да парогу хада. *Нос., 61; Вас., т. 15; Fed., 144; Сержп., 37.*

825. Па малаку ног не павалаку. *Г. Барташэвіч, 1961, Віл. 8.1.67.*

а) Аб малаку і ног не павалаку. *А. Гурскі, 1960, Кап. 8.1.51. Вар.: А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

826. Аб адным малацэ косу не пацягнеш. *Мяц., 12, Сен.*

827. Малошная яда — да парогу хада. *Ром., Бел., І, 301.*

828. Як клёцкі ў малаку, то я па дзве валаку, а як у водзе, то раз, два і годзе! *Янк. М., 127.*

829. Як з якім малаком, дак лепей з вадою. *Мін.-Мал., 1970, 170, Узда.*

830. Не такое яшчэ дзіва, што малако сіва. *Нос., 103.*

831. Падой Лыску — ды ў міску. *А. Куцакова, 1956, Рag. 13.3.29.*

а) Падаіў Лыску, да й выліў у міску. *Fed., 208.*

832. Заварыўшы кашы, не жалей масла. *Нос., 44.*

833. Кашу маслам не сапсуеш (не папсуеш). *Нос., 60; Fed., 139; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

а) Маслам кашы не змарнуеш. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.8.6.*

834. Кашу памаслі, у горле не стане. *Ляцкий, 17.*

835. З маслечкам каша — то яда наша. *Fed., 139.*

836. Смачная кашка, ды масла малая чашка. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29; В. Мінкялевіч, 1949, Кір. 8.1.25.*

837. Патрава любіць затраву. *Дуб., 48.*

а) Патравы любяць прыправы. *Fed., 224.*

838. Што патраўка, то папраўка. *Нос., 189.*

839. Якая прыправа, такая і патрава. *Нос., 193.*

840. Якая затрава, дык лепш поснае. *І. Хайратовіч, 1951, Кругл. 13.8.4.*

а) Як абы-якая заправа, дык лепей нішчымнае. *А. Ліс, 1968, Мінск.*

841. Як з дурным квасам, дык лепш з вадою. *А. Куцакова, 1956, Рог. 13.3.29; 1961, Рэч. 13.9.5.*

842. Забелена, да есць не велена. *Нос., Слов., 126.*

843. Больш каштуюць прыправы, ніж патравы. *Fed., 250.*

844. На капейку патравы, а на руб (рубель) прыправы. *Нос., 85; В. Бондар, 1967, Мінск 13.10.24.*

а) На грош справы, на рубель прыправы. *Сцяшк., 599, Смарг.*

845. Няма мяса — і гэта не прыкраса. 1959, *Бяг. 8.1.42.*

а) Няма мяса — і жаба не прыкраса. *Мат., 175.*

846. Як швагер не фамілія, так антробы не мяса. *З нар. сл., 51, І. Лепешаў, Шчуч.*

847. Бацвінка любіць сланінку. *Fed., 18.*

а) Да бацвінкі палажы саланінкі. *Нос., 35; Дуб., 13.*

б) Да бацвінкі ўкінь кусок свінкі. *Fed., 18.*

в) Накрой сланінкі да бацвінкі, то і яна будзе смашна. *Fed., 18.*

848. Няма смачней рыбы, як лінінка, і мяса смачней, як свінінка. *Pietk., 392.*

а) Найсмачнейшае мяса — свінінка, найсмачнейшая рыба — лінінка. *М. Грынблат, 1973, Асіп.*

849. Любіць капуста, каб была тлуста. *Сем. Вар.: І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

850. Як капуста тлуста, то ў жываце не пуста. *Fed., 136.*

851. Калі ў жываце з салам капуста, тагды й на спіне ў мужыка тлуста. *Ляцкий, 17.*

852. Капуста нягуста, саланінкі пуста. *Mien., 397.*

853. Кашы салам не сапсуеш. *Pietk., 324. Вар.: М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.21.*

854. Як кусок сала, то і грыб патрава. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

855. Дзе скварка, там сіла. *Мін.-Мал., 1970, 160, Пух.*

856. Здор сала не патрабуе. *Ахрым., 32.*

857. Карова — мамка, а сала, як узяў, так і ямка. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

858. Не канешне кату сала, а каму папала. *Сержп., 7.*

а) Не канечне кату сала. *Ляцкий, 26.*

859. Якое ліха стала, ці ад круп, ці ад сала. *Вас., 29.*

860. Свініна — псіна, дрозд — саланіна, да калі б гэтаму дразду ды кусок сала, то-то бы была патрава. *Крэмнеў.*

861. Кошкі мяса ядуць, табе косці дадуць. *Сержп., 8.*

862. Голая костка і сабацы не міла. *Dybow., 9.*

а) Голая костка нікому не міла. *Fed., 150.*

б) На голу косць і сабака не брэша. *А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3.*

863. Касцей із новых валасцей. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

864. Папаеў замоладу мяса, няхай цяпер косці грызе. *Fed., 130.*

865. Хто з'еў мяса, няхай грызе і косці. *Fed., 182.*

866. Не для пса каўбаса. *Fed., 233.*

а) Не для пса келбаса, не для коткі сала. *Fed., 233.*

867. Не каўбаса, не знюхаеш. *Нос., 99; Дуб., 38а; Fed., 151.*

868. Больш дзён, як каўбас. *Fed., 94.*

869. Спіць і куры бачыць. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

870. Тлустую курыцу латво скубсці. *Сержп., 17.*

871. I з адзёжаю, і з ёжаю — з усім. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

872. Усяго даволі: і хлеба і солі. *Pietk., 361.*

873. Анно ёй птушынага малака нестае. *Fed., 288.*

а) Аднаго толькі птушаччага малака хіба няма. *Нос., 119.*

874. Год не ліхі: а чаго хлеб, а таго і пірагі. *Сержп., 135.*

875. Сягонні ў кошкі пірог. *Аним., 264.*

876. Калі есць — жывату чэсць. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

877. Хто мае на рыбку, той мае і на перац. *Fed., 267.*

а) Стала на рыбу, стане і на перац. *Fed., 289.*

878. Калі ёсць у мяшку, будзе і ў гаршку. *Ляцкий, 16; Сержп., 76.*

879. Як е скрыня, дык і свіння гаспадыня. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Калі мукі поўна скрыня, то і свіння гаспадыня. *Dybow., 182. Вар.: Fed., 106, 308.*

б) Усякая гаспадыня, калі мукі поўна скрыня. *Ляцкий, 51; Жанч., 228.*

в) Як мукі скрыня, так і мыш гаспадыня. *Сцяшк., 617, Зельв. Вар.: А. Ліс, 1968, Смарг.*

г) Як мукі скрыня, то і кошка гаспадыня. *Fed., 106, 149.*

д) Кеды мукі поўна скрыня, то і Каська гаспадыня. *Fed., 133.*

880. Як ёсць над чым, то і свіння гаспадыня. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

881. І свіння была б гаспадынька, калі б была ўжо рашчынка. *І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

882. Як у гаспадыні мукі скрыня, то не загіне. *І. Сцяпунін, 1968, Дзярж.*

883. Калі ў рэшата цячэ, дык і няўмека спячэ. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

а) І няўмека спячэ, як з засека цячэ. *Сцяшк., 593, Слон.*

б) Як мукі сцячэ, то й кошка напячэ. *Fed., 190.*

в) І кошка бліноў напячэ, калі сала сцячэ. *Fed., 149.*

г) І лісіца бліны пячэ, калі цеста на патэльню цячэ. *Рапан., 45.*

д) І дурань бы пірагі спёк, каб мукі сцёк. *Булг., 176.*

е) І дурань кашу зварыць, калі крупы ёсць. *Рапан., 102.*

ж) Спякуць і дзеці, калі ёсць у клеці. *Сержп., 78.*

з) Як ёсць кусок сала, то і дрозд наварыць удала. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

884. Абы лужа, то і качка прачка. *Fed., 242; Рапан., 98.*

885. Чаму не ўжываць, як ест адкуль браць. *Fed., 324.*

886. Ёй не робіць рука, але мука́. *Fed., 265.*

887. Калі ў дзяжы падход, дак і ў печы рост. *Нос., 63.*

888. Наеўся, напіўся і царам зрабіўся. *І. Курбека, 1961, Докш.*

889. Як наеўся ды напіўся, дык і добранькім зрабіўся. *Абаб.*

890. Сыты палец шмаруе. *Fed., 300.*

891. І рыбу з'есці, і ў пакой сесці. *Д. Зальцэвіч, 1963, Радун. 13.10.6а.*

892. Кішка не люстра, што з'еў — не ўбачыш. *В. Скідан, 1969, Пін. 8.2.21.*

893. Са скуры лупіцца і смаку не чуе. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

894. Лой шкуру дзярэ. *Pietk., 319.*

895. Хоць мяне воўкам называй, толькі штодзень барана дай. *Fed., 199.*

896. Пераеў сыць, захацелася піць. *Нос., 126; Дуб., 46.*

897. Пад'еў пуп круп — і піць захацеў. *І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

898. Па добрым кусе я й вады нап'юся. *Нос., 129. Вар.: Fed., 159.*

а) Па ласым кусе і вады нап'юся. *Шейн, II, 480, Пруж. п.*

б) Абы сласна пад'еў, то й вады нап'юся. *Дуб., Нар., 2.*

899. Пад'еўшы дабра, нап'ешся з вядра. *Fed., 72.*

900. Наладуеш добра брух, дык і жыццё — ух! *1961, Брасл. 13.9.5.*

901. Яна як кот: сколькі весіць, столькі з'есць. *Г. Барташэвіч, 1961, Мядз. 8.1.76.*

902. Лепш няхай адрыгаецца, чымся рагоча ў жываце. *Ляцкий, 19.*

903. Лепі адрыгаючыся, чымсі паплёўваючы. *Нос., 75.*

904. Дай кішцы волю, дык сам будзеш у няволі. *1961, Кап. 13.9.5.*

905. Дай кішцы волю — праясі і шчасце і долю. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

906. Гарла ўсё пажарла. *Fed., 97.*

907. Рукі залатыя, да гарло ўсё пажарло. *Fed., 266.*

908. Бруха не звярцядла — што з'еў, то прападла. *Ляцкий, 5.*

909. Блізка ляжыць, жывот баліць. *Нос., 6; Сержп., 66.*

910. Вялікі кусок горла дзярэ. *Гильт., 292, Віл. п.; Сержп., 73.*

а) Вялікі кусок дзярэць раток. *Ляцкий, 6.*

911. Шырокая ложка рот дзярэ. *Fed., 172.*

912. Не адкусвай болей таго, што можаш праглынуць. *«Бел.», 1956.*

913. Не патуль ядзім, пакуль сыты, а пакуль усё. *Добр., Смол., 81.*

914. Мужык есь не пакуль наесца, а пакуль усяго не з'есь, што ў місе. *Pietk., 379.*

915. Хоць жыватом пакачацца, абы дабру не валяцца. *Рапан., 157.*

916. У запас не пад'ясі і ў запас не выспішся. *А. Гурскі, 1975, Кап.*

917. Не еўшы — нудна, пад'еўшы — трудна. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; І. Хайратовіч, 1958, Кругл. 13.8.4; М. Грынблат, 1970, Ашм. 8.2.26.*

918. Кашай больш зробіш, чым сілай. *Сах.*

919. Наш Тадэуш — які ядэуш, такі рабатэуш. *Янк., 16.*

920. Рот невялік, а многа прымае. *Ляцкий, 38.*

921. На два замала, на адзін замнога. *Fed., 348.*

а) Два заслабка, тры не лезе. *І. Саламевіч, 1975, Слон.*

922. Хто паспеў, той два з'еў. *«Калг. праўда», 8 чэрвеня 1962 г., Тур.*

923. З вялікае яды няма наўды: не забагацееш, а апузацееш. *Fed., 128.*

а) Ад лішняй яды не будзеш багаты, а пузаты. *1961, Кап. 13.9.5.*

924. Еш — не хачу. *Ром., Бел., I, 315.*

925. Душа меру знае. *Pietk., 318; Дразд.*

926. Губа меру знае. *Fed., 120.*

927. Усё добра, што ў меру. *Fed., 185.*

928. Усё добра, што ў меру, а праз лад, то і свінні не ядзяць. *Fed., 185.*

929. Смак добры і мера добра. *Fed., 284.*

930. І добрага як замнога, то не добра. *Fed., 78.*

931. Праз меру і свінні не ядуць. *Г. Шымко, 1967, Навагр. 13.10.21.*

а) Што надта, то і свінні не ядуць. *Tyszk., 421; Нос., 189; Dybow., 192; Pietk., 323; Fed., 349.*

б) Лішняга то і свіння не есць. *Fed., 166; Суяшк., 597, Зельв.*

в) Лішняга і свінні не ядуць. *1961, Кап. 13.9.5. Вар.: Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

932. Лішняя кропля вады ў талерцы не пашкодзіць. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

933. Можна і адным кусочкам удавіцца. *Fed., 159.*

934. Хоць крышку, да смашнага. *Fed., 284.*

а) Хоць трошкі, але смачна. *Г. Барташэвіч, 1970, Астр. 8.2.33.*

935. Лепш крышачку, абы добрага. *Fed., 78, 154.*

936. Што чырвона — прыгожа, што салодка — смачна. *Міеп., 396.*

а) Што чырвана, то хараша, што салодка, тое смачна. *Ляцкий, 61.*

б) Што салодка, то і смачна, а што чырвона, то і ладна. *Dybow., 18.*

937. Сласная яда жывату бяда. *Нос., 150.*

938. Што саладзей, то смачней. *М. Грынблат, 1973, Асіп.*

939. Не мёд усё тое, што соладка. *Ляцкий, 30.*

940. Не ўсё то смачна, што ўзрачна. *Нос., 94.*

941. Чоран мак, да смашан, бела рэдзька, да горка. *Нос., 183.*

942. Лаза́нкі дзяцей каханкі. *Дуб., 33.*

943. Век у ласкі не пражывеш і сласна не параясі. *Радч., 246.*

944. Век смачна не параясі, хараша не праходзіш. *М. Грынблат, 1967, Мсціcл. 8.1.106.*

а) Жывучы, хараша не пераходзіш, соладка не параеш. *Ляцкий, 12.*

б) Веку смачна не параесці, ні хараша перахадзіць. *Fed., 332. Вар.: Fed., 227.*

в) Не заўсёды смачна есці, хараша хадзіць. *Fed., 130.*

945. Смачнае не параясі і чыстае не праходзіш. *М. Грынблат, 1964, Пол. 8.1.87.*

а) Смачна не піераясі, чыста не пераходзіш і ў ласцы не пражывеш. *Нос., 151.*

946. Наварыў піва, сам і пі яго. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

947. Якога піва наварылі, такое пеце. *Fed., 236.*

948. З гэтага квасу піва не будзе. *Fed., 160.*

а) З гэтага піва квасу не будзе. *Fed., 236.*

949. Без часу не будзе квасу. *Дуб., 5.*

950. Будзе час — будзе і квас, не ўсё за раз. *І. Байко, 1967, Навагр. 13.10.23.*

951. Не было нас, быў квас, і не будзе нас, будзе квас. *Fed., 160.*

952. Авёс бяжыць, гарэлка гаворыць. *Сцяшк., 578, Іў.*

953. Не пі гарбаты, бо згорбішся. *Fed., 104.*

954. Нашто нам тая гарбата, каб згорбіцца? *Fed., 104.*

955. Ад поліўкі ножкі тоненькі. *Добр., Смол., 78.*

956. Адзін раз густа, а другі раз пуста. *І. Жадзейка, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

957. Сягодня годы, а заўтра глоды. *Fed., 97.*

958. Што сянні з'еў — як прапала. *Ром., Бел., І, 315.*

959. Плоха жыць, калі рот дзіравы. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

960. Каб не дзірка ў роце, хадзіў бы ў злоце. *Fed., 433; Шпил., 181; Dybow., 10; Шейн, II, 478; Калянд., 1925; І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

а) Каб не тая дзірка, што ў роце, дык хадзіла б у злоце. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

б) Хадзіў бы ў злоце, да дзірка ў роце. *Нос., Слов., 131; Fed., 262.*

в) Каб не кішка ў роце, хадзілі б у злоце. *С. Цярохін, 1974, Саліг. Вар.: Fed., 145.*

961. Каб не гу́ба, то была бы шуба. *Dybow., 10.*

а) Каб не тая губа, то была б залатая шуба. *Fed., 120.*

962. Каб не ежка, не адзежка, то была б грошай дзежка. *Дуб., 26. Вар.: Сержп., 49; А. Рахунак, 1967, Зельв. 13.10.24; Я. Шмыгіна, 1965, Навагр. 13.10.2.*

963. Каб не трыбух, то чалавек хадзіў бы ў золаце. *Fed., 314.*

964. Каб не елі, не пілі, то б у золаце хадзілі. *Fed., 230.*

965. Каб не піў да не еў, то залатога б каня меў. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

966. Душа есці хоча. *Fed., 88.*

967. І мая душа не з клочча, таго самага хоча. *Fed., 88.*

968. Душа не камень, есці хоча. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

969. Хто косе, хто не косе, а есці ўсякі просе. *Ляцкий, 55.*

970. Рада не рада, а есці нада. *Ром., Бел., I, 308.*

971. За ложку яды сем вёрст хады. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

972. З-за адной ежкі сем міль пешкі. *В. Калюк, 1965, Навагр. 13.10.6а.*

а) За хунт ляпешкі — дзесяць вёрст пешкі. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

б) За шмат кішкі да сем міль пе́шкі. *Сержп., 48.*

973. Покуль броўна папаліш, то і парсюка асмаліш. *Г. Барташэвіч, 1965, Пух. 8.1.99а.*

974. Сваё ядзім, а як хто падыйдзе, у лоб дадзім. *В. Іваноўская, 1962, Светл. 8.1.74.*

975. Нечага таго гаварыць, што ў гаршку не варыць. *Ром., Зап., III, 225.*

976. Пасаліўшы (прысаліўшы), можна з'есць. *Fed., 222.*

а) Нічога сабе, пасаліўшы, можна есці. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

б) Прысмаліўшы, прыхваліўшы, можна і з'есці. *Сем.; І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

в) Пасаліўшы, ясі. *Tyszk., 431.*

977. Хоць не смачна, дык цёпла. *Ляцкий, 54.*

978. Горка і солана еш, на том свеце не згніеш. *Гильт., 297.*

а) Горка пі, солана еш — і па смерці не згніеш. *Шейн, II, 475, Віл. п.*

б) Пі горкае, а еш кіслае і солнае, і ўмрэш — не згніеш. *Нос., 127.*

979. Хоць кісла, назад не перавісла. *Добр., Смол., 76.*

980. Солі даволі, а табакі трэба. *Нос., 153.*

981. Што ўкусіць, тое з'есць. *Fed., 319.*

982. Рот — мора, усё з'есць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

983. Ён і сабаку з'еў бы, што й хваста не відно было, і то яму не зашкодзіць. *Fed., 356.*

984. Што кажуць — рабі, што даюць — еш. *Fed., 254.*

985. Пераборны заўсёды галодны. *Fed., 227.*

а) Перабірлівы ўсягды галодзен. *Нос., 126.*

986. Хто перабіраець, тэй пераміраець. *Нос., 177.*

987. У ядзе сораму няма. *Нос., 21; Fed., 128.*

а) У ядзенню сарома няма. *Дуб., 62.*

988. Не дорага ежка, дорага пацешка. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

989. Хоць без цукеркі, але ў сподачку. *Мат., 185, Глуск.*

990. Жывеш — гатуеш, памрэш — не пакаштуеш. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

991. Абед не заяц, не ўцячэ. *Fed., 2.*

992. Абед не ўцячэ, з'ясце. *Fed., 2.*

993. Абед не ў даед. *Нос., 117.*

994. Каня дзяржыць повад на дварэ, а хазяіна абед: без абеда нікуды яму праехаць. *Добр., Смол., 129.*

995. Кармі курыцу хоць сто лет, дык адзін абед. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

996. Не ведаем, што нават абедаем. *Сержп., 11.*

997. Хто ведае, як хто абедае. *Нос., 176.*

а) Ніхто не ведае, як хто (другі) абедае. *Tyszk., 429; Mien., 395; Дуб., 37а; Сержп., 25; Fed., 2.*

б) Ніхто не ведае, хто што абедае. *1961, Кап. 13.9.2.*

998. Усяк ведае, як хто абедае. *Ляцкий, 51.*

999. Бог ведае, як хто абедае. *Ляцкий, 4; Ром., Бел., I, 291.*

1000. І бог не ведаў, як хто абедаў. *Янк., 34; І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3.*

1001. Абедаў, да жывот не ведаў. *Нос., 117, Сержп., 37.*

а) Абедаў, а трыбух не ведаў. *Fed., 2.*

б) Снедаў, абедаў, а жывот не ведаў. *Fed., 305.*

1002. Усякі абедае, ды не кожны ваду п'е. *Радч., 246.*

1003. Сёння паабедаем, а як заўтра — не ведаем. *Сержп., 25.*

1004. Вужан не нужан, толькі б сыт быў. *Нос., 18.*

а) Вячэра не патрэбна, калі і толькі сытым быць. *Дуб., 8.*

б) Вужын не нужын, а дораг абед. *Добр., Смол., 77.*

1005. Як бог дасць разжыцца, будзем і не вячэраўшы спаць лажыцца. *Крэмнеў.*

1006. Міма рота лыжку не носяць. *Ахрым., 39.*

1007. У цемнаце еўшы, ложку за акарак не панясеш. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1008. Жывот з зэгарам не згажаецца. *Нос., 42; Дуб., 20.*

1009. За губу да ў губу. *Сержп., 19.*

1010. Адзін раз укусі, а тры сербані. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

1011. На адно кусайла па тры сярбайлы. *Нос., 86; Мат., 183.*

а) На адно кусала па тры сярбалы. *Ром., Бел., I, 301; Ляцкий, 22.*

б) На адно кусала сем сярбалаў. *Добр., Смол., 106.*

1012. Хто есць нажом, той з'есць ражон. *Ляцкий, 55; Pietk., 372.*

1013. Да абеду лыжка дорага. *Tyszk., 434. Вар.: А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

а) Дорага ложка к абеду. *Нос., 37.*

б) Дарага лыжка перад абедам. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1014. Не ў час ложка па абедзе. *Я. Бартко, 1965, Дзятл. 13.10.4.*

1015. Па абедзе ложкі не трэба. *Булг., 177.*

1016. Па абедзе лыжак многа. *Сцяшк., 604, Гродз.*

1017. Чорт бяры ложку, калі няма палудня. *Fed., 72.*

1018. Хоць які ядак, а як нет лыжкі — сядзі так. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1019. Есці захочаш — лыжку знойдзеш. *Ахрым., 30.*

1020. Кругом ямы з куцабамі. *Раст., 146.*

1021. Не спяшай рана вылазіць з-за стала, бо рой пчол не будзе садзіцца. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

1022. Сеўшы ды паеўшы, і аддыхнуць можна. *Ляцкий, 41. Вар.: Сержп., 46.*

1023. Як пад'еў, то ляж, штоб сала завязалася. *Fed, 209.*

а) Трэба паляжаць, каб сала завязалася. *Fed., 214.*

1024. Хто пад'еўшы кладзецца, таму сала завядзецца. *Fed., 209.*

1025. Я ксціцца — не спіцца; я варочацца — есці хочацца; як куснуў, дак і заснуў. *Нос., 194.*

1026. Хто, пад'еўшы, не аддыша, таго бог за свінню запіша. *Fed., 4. Вар.: Pietk., 354.*

1027. На то і кот гладак, што паеў і набак. *Л. Корсак, 1961. Асіп. 13.9.11.*

1028. Не еўшы — легчы, а пад'еўшы — лепшы. *Нос., 109.*

а) Не еўшы — лягчэй, а пад'еўшы — ляпей. *Дуб., 41.*

## АДЗЕННЕ, АБУТАК, УПРЫГОЖАННІ

1029. Не адзежа чалавека харашыць, а чалавек адзежу красіць. *Fed., 6.*

а) Не адзежа чалавека, а чалавек адзежу красіць. *Fed., 6.*

б) Не адзежа чалавека здобіць, а чалавек адзежу. *Fed., 6.*

1030. Адзежа не вэдлуг чалавека. *Fed., 5.*

1031. Усякі бача, што на мне, ды не ўсякі бача, што ў мне. *Радч., 246.*

а) Ніхто не бачыць, што ўва мне, да ўсе бачаць, што на мне. *Fed., 15.*

б) Усе бачаць, што на мне, а ніхто не знае, што ў вуме. *А. Фядосік, 1961, Капатк. 8.1.76.*

1032. Мяне і так пазнáюць — дзедаву дачку ў рваным андарачку. *А. Емельянаў, 1972, Гродз.*

1033. Урадзіў, не ўрадзіў, а шчэ голы не хадзіў. *Н. Задаля, 1967, Клецк. 13.10.11.*

1034. Як і на паноў рабілі, то голы не хадзілі. *Fed., 112.*

1035. Голы скача, босы плача. *Fed., 112.*

1036. Галодны мілю ўвойдзеш, а голы і за парог не выйдзеш. *Fed., 102.*

а) Галодны перабяжыць усё поле, а голы ані за парог. *Fed., 102.*

б) Галодны поле пярэйдзеш, а голы не. *Сержп., 7. Вар.: Добр., Смол., 79.*

1037. Якія з голага смешкі, калі няма адзежкі. *Сержп., 6.*

1038. На голага і сабакі брэшуць. *Pietk., 370.*

1039. Бог наш бог, а мы твае галапупачкі. *Ляцкий, 4.*

1040. Жытка: на двух адна світка. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

1041. Паны — па тры ў штаны. *Сержп., 131.*

а) Паны — на траіх носяць штаны. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

1042. Паны — па сем у адным каптаны. *Г. Барташэвіч, 1963, Смарг. 8.1.82.*

1043. Адна сарочка на мне, а другая ў кубле на дне. *Ром., Бел., I, 305.*

1044. Адна сарочка да й тая як сапуха. *Сержп., 13. Вар.: Добр., Смол., 69.*

1045. Адну рубашку пад пашку. *Добр., Смол., 70.*

1046. Наш Пятрок ходзіць без парток. *Сержп., 6.*

а) І наш Пятрок без парток. *Сержп., 23.*

1047. І не гавары, дружок, — сам без парток. *Сержп., 89.*

1048. Дзіцёнкі ў лапцёнках, а сам без штаноў. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1049. Убірайся ў світу, калі латы прышыты. *Ляцкий, 47.*

1050. Худа, ды й лапіць няма чым. *Дуб., Нар., 31.*

1051. Насмяяўсь голы з бяспоясага. *З нар. сл., 137, Ф. Клімчук, Драг.*

1052. Голаму сабраццa — толькі падпаясацца. *М. Гвоздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

1053. Усе мае зборы — лапці да аборы. *Нос., 18; Сержп., 26; Fed., 352.*

а) Усе мае прыборы — лапці да аборы. *Fed., 248; Добр., Смол., 69.*

б) Усе мае прыборы — пасталы да аборы. *Pietk., 384.*

1054. Сем пар лапцей на плечы — і ў дарогу. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1055. Мой бацька багат: сем коп лапцей. *Нос., 78.*

1056. Вапрос: пачаму бос? — атвет: сапагоў нет. *Нос., 16.*

1057. З лапця башмака не зробіш. *Вас., т. 23.*

1058. Буду хадзіць без забот: адзін лапаць, адзін бот. *Л. Павецьева, 1967, Мсціл. 8.1.107.*

1059. Хоць галыш, да не лыкам шыты. *Сержп., 24.*

1060. Лыкам чалавека не мер. *Нос., 74.*

1061. Сабака ніколі не абуваецца. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1062. I сабака босы. *Fed., 269.*

1063. Знайшліся два друга — пас ды папруга. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1064. Калі купіў рамень, дакупі й лыка. *Ляцкий, 16.*

1065. Латка латку дзяржыць, нітка гвалту крычыць. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26; Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

1066. Полы дзярэ, а плечы латае. *Fed., 237.*

1067. Дзе кажушная латка, то як родная матка. *Fed., 170.*

а) Кажушыная латка — родная матка. *М. Гваздзёў, 1963, Рэч. 8.1.58; З. Буднік, 1965, Гродз. 13.10.1.*

б) Дзе гавеча латка, то як родна матка. *Fed., 106.*

1068. Ніхто аўчынкі не кіне, што ўлетку, што ўзіме. *Ляцкий, 29.*

1069. Старое як ні закрапляй, а ўсе старыя дзіркі найдуцца. *Нос., 156.*

1070. Старое латай не латай, а дзіра на дзіры. *Fed., 290.*

1071. На табе і чэрці дзяруць. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

1072. Дзярэцца, а яшчэ на новае не бярэцца. *Fed., 95.*

а) Старое дзярэцца, а на новае не бярэцца. *Fed., 290; Pietk., 343.*

б) Няхай дзярэцца да на новае бярэцца. *Нос., 106.*

1073. Новае не порыцца, добрае не валочыцца. *Ляцкий, 29.*

1074. Штаны новыя, толькі дзіркі старыя. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

1075. Халявы дзіравы і падашоў не нашоў. *Fed., 49.*

1076. Лыкам сшыт, да пуцнёю падпяразан. *Добр., Смол., 70.*

1077. Боты новы, а пяты голы. *Fed., 41.*

1078. Якое лыка, такія і лапці. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

1079. Якія штаны, такія падвязкі. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

1080. У чом у касцелі, у том у пасцелі. *Fed., 140.*

1081. У чом у гасціну, у том і загіну. *Сержп., 25.*

1082. І ў цэркаў і ў кабак усё адзін андарак. *Нос., 54; Дуб., 25.*

1083. У яго гэта і ў свёнткі, і ў пёнткі. *Fed., 309.*

1084. З чым у люльку, з тым і ў трунку. *Нос., 159.*

а) З чым у калыбелку, з тым і ў магілку. *Ром., Зап., III, 232.*

1085. Працуеш, працуеш, а пахавацца няма ў чым. *Ляцкий, 35; Жанч., 272.*

1086. Па адзёжкі працягвай ножкі. *Нос., 133; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

1087. Лепша тоўстая сарочка, ніж годнае. *Fed., 272.*

1088. У тоненькай сарочачцы гуляй, гуляй да й хочацца; у зрэбнай, у прастой гуляй, гуляй, ды пастой. *Ляцкий, 51.*

1089. Чаравічкі з рагожы не баяцца марозу. *І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35.*

1090. Чабаткі з лабады не баяцца вады. *І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35.*

1091. Сапог не князь, абуй да ў гразь. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

1092. Не куй боты, бадай, не зносіш. *Ляцкий, 30.*

1093. На плячах просты баран, ды сам сабе пан. *Сержп., 28.*

а) На кажусе просты баран, да сам сабе пан. *Нос., 85; Дуб., 37а.*

1094. Без кажуха бярэ скруха. *Fed., 143.*

1095. Кажух і сярмяга — мужыцкая павага. *Дуб., 4.*

а) Кажух, сярмяга — цэлая мужыцкая павага. *Ляцкий, 16; Рапан., 46.*

б) Хлеб да сярмяга — мужыцкая павага. *Сержп., 17.*

1096. Сярмяга — не знявага, а жупан — не пан. *Сержп., 6.*

а) Белая сярмяга — не знявага, а сіні жупан — не вялікі пан. *Дуб., Нар., 12.*

1097. Як ба не балахон, душа вон. *Добр., Смол., 70.*

1098. Свая сярмяжка не цяжка. *Нос., 147; Pietk., 342; Мін.-Мал., 1974, 189, Пух.*

а) Свая сярмяжка нікому не цяжка. *Вар.: Czeczot, 114; Гильт., 289, Пруж. п.; 1961, Брасл. 13.9.5.*

б) Свая сярмяжка не важка. *Kolb., 473, Пін. п.; Сержп., 7.*

1099. У кажуху ў лазні не мыюцца. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

1100. Шуба грэння не любіць. *Нос., Слов., 123.*

1101. Прышпіліў квятушку да кажушку — зрабілася цёпла. *Ляцкий, 36.*

1102. Блізшая сарочка, як кабат. *Czeczot, 106; Mien., 396.*

а) Кашуля бліжэй, чымсь кабат. *Дуб., Нар., 26.*

б) Бліжэй сарочка к целу, чымсі кабат. *Нос., 6.*

1103. Бліжэй кашуля, чым андарак. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1104. Бліжэй к целу сарочка, як кахтан. *Pietk., 341. Вар.: Dybow., 6.*

а) Бліжша кашуля ад сярмягі. *Fed., 139.*

1105. Бліжша сарочка, як кажух. *Fed., 272.*

1106. Хоць папросту, але ў сваім. *Ляцкий, 54.*

1107. Хоць дзіравае, ды свае. *Н. Божка, 1967, Маладз. 13.10.21.*

1108. Няхай сабе латы, абы не хваты. *Fed., 170.*

а) Хоць латана, абы не хватана. *Fed., 170; І. Цішчанка, 1970, Астр. 8.2.29.*

б) Хоць у латаным, абы не ў хватаным. *Tyszk., 417; Нос., 173; Дуб., 69; Fed., 170; Dybow., 191.*

в) Хоць у лапленым, ды не ў хапленым. *Ром., Бел., І, 312.*

1109. Мае латы перабудуць чужыя шаты. *Fed., 170.*

1110. Мільша свая сарочка, як чужы кажух. *Fed., 272.*

1111. Бліжэй к целу свая сярмяжка, чым чужая рубашка. *1961, Кап. 13.9.5.*

1112. Свой насоў цяплей чужога кажуха. *Шейн, ІІ, 481, Барыс. п.*

1113. Бурнос сабе пад нос. *Нос., Слов., 39.*

1114. Усякае сваё нямыта бела. *Ром., Зап., І, 217.*

1115. Хоць і небагаты, а не адзяваецца ў латы. *Ляцкий, 54; Сержп., 17.*

1116. Даў бог стан — дасць і рукавы. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1117. Штонядзеля сарочка бела. *Fed., 200.*

1118. Яго лепш карміць, як адзяваць. *Сержп., 6.*

а) Лучшай вас адзяваць, чымся карміць (гадаваць). *Pietk., 354.*

б) Лепш цябе адзяваць, ніж карміць. *Fed., 5.*

1119. Пашануй адзежыну раз, дык яна цябе дваццаць раз. *Янк. М., 85. Вар.: М. Бандарэнка, 1966, Мав. 13.3.29.*

1120. Шануй адзежку дома, яна цябе ў гасцях. *Рур., 215; Гильт., 291, Вілен. п. Вар.: Ляцкий, 59; Fed., 6; Янк. М., 85; 1961, Кап. 13.9.5.*

а) Пашануй адзенне ў хаце, а яно цябе ў людзях. *В. Таранка, 1965, Скід. 13.10.9. Вар.: Fed., 5.*

б) Шануй адзяжонку ў двары, а яна цябе ў людзях. *Нос., 186.*

в) Шкадуй адзенне ўдома, то яно цябе пашкадуе ў людзях. *І. Пазняк, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

1121. Старая адзежка беражэ новую. *Сержп., 6.*

а) Старое адзенне беражэ новае. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

1122. Пасканінка зберагаець аллянінку. *Нос., 134.*

1123. Не ганьбуй старым ботам, покі новага не пашыў. *Fed., 41.*

1124. Хлеб есца, а адзежа носіцца. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1125. Добрая рэч акуратных людзей любіць. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

1126. Шый сак па сабе. *І. Сувалаў, 1958, Чач. 13.3.29.*

1127. Якая рука — такая рукавіца. *Сах.*

1128. Да добрай наметкі не трэба і кветкі. *Fed., 197.*

1129. Купіў бы платок па лету, да дзенег нету. *Добр., Смол., 26.*

1130. Падраўся андарак, абыйдуся і так. *Сержп., 25.*

1131. У гаспадарцы чыста не пераходзіш. *Сержп., 13.*

1132. Старой бабцы добра і ў шапцы. *Сержп., 16; Fed., 14.*

1133. Красную шапку надзеўшы, перапрашваць не трэба. *Нос., 69.*

а) Няма чырвонай шапкі перапрашаць. *Fed., 297.*

б) Няма чырвонай шапкі, не ў чом перапрасіць. *Fed., 227.*

в) Няма краснай шапкі, перапрашваць не ў чым. *Ром., Бел., I, 303.*

г) Нямашака шапкі перапрасіць: пайду да Мінска, куплю каптур чырвоны. *Ляцкий, 26.*

1134. Чаму ж бы не пан, калі новы кафтан. *Ляцкий, 57.*

1135. Хвастун ідзе, падпаясаны шаўком, а багаты часам і лычком. *Крэмнеў.*

1136. Адзеўся, як пан, а дурны, як баран. *Pietk., 354.*

1137. Адзеўся (адзенецца), як пава, але дурная слава. *Ляцкий, 1; Сержп., 3.*

1138. Прыбяры пень, і пень харошы (прыгожы). *Tyszk., 419; Ром., Бел., I, 307; Радч., 248; Pietk., 337; А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29; І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.8.1.*

а) Прыбяры пень, і пень будзець прыгож. *Нос., 136.*

б) Убяры пень, і пень харош. *Шпил., 190; Dybow., 190.*

в) Прыбяры пня, і пень пахарашэе. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

г) Убяры і пень, то будзе, як белы дзень. *Fed., 316.*

д) Прыбяры пень, то будзе, як мілы дзень. *З. Буднік, 1965, Гродз. 13.8.1.*

е) Убяры пень, то не пазнаеш удзень. *І. Ламека, 1965, Вайк. 13.10.2.*

ж) Прыбяры пянька, то будзе за панка. *Fed., 248, 316.*

1139. Прыбяры свінню хоць у золата, а яна ўсё роўна ў хлеў пойдзе. *Янк., 4.*

1140. От выстраілася, а тым часам ані воўк не гляне, ані сабака... *Fed., 345.*

1141. Сшыў каўнер панскі, да боты цыганскі. *Ляцкий, 43.*

1142. Апуха дарожы кажуха. *Нос., 120.*

1143. Не стоіць апуха кажуха. *Ром., Бел., I, 304.*

1144. Мае лапці вязовыя пераносюць боты казловыя. *Нос., 78.*

1145. Другі жупан не варт світкі. *Нос., 37.*

а) Іншы жупан не варт сярмягі. *Fed., 366.*

1146. Чырвоныя чаравікі, ды лыкам сшыты. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

1147. Не завязаўшы аборы, не бяжы да Тадоры. *Ляцкий, 25; Сержп., 75.*

1148. Бацінкі шаўровыя — спераду дзіркі, а ззаду новыя. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1149. Кажух новы, а пяты голы. *Fed., 143.*

1150. Каптан шык, а ў бруху пшык. *І. Байко, 1967, Клецк. 13.10.23.*

1151. Старая світа па-новаму пашыта. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

1152. Хто любіць выпіць, а хто — новыя боты. *А. Гурскі, 1967, Бых. 8.1.112.*

1153. Добрыя чабаты — не мазаць, не чухляваць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1154. У ваце трасецца, а ў кажусе смяецца. *Сцяшк., 611, Ашм.*

1155. Што кажух — то не вата. *М. Грынблат, 1970, Лаг.*

1156. Вата пытае хаты. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

1157. Пытаецца вата, ці далёка хата, а шуба — не. *1961, Брасл. 13.9.5.*

а) Вата пытае, ці далёка хата, а кажух мае свой дух. *Л. Салавей, 1973, Валож.*

1158. Чыста ходзіць, да не бела мыецца. *Нос., 183.*

1159. Чыста ходзіць, да не чыста жывець. *Ляцкий, 59.*

1160. Не памыўшыся, няма чаго прыбірацца. *Ляцкий, 27.*

1161. Выдумаў чорт моду, ды сам у воду, а вы, бабкі, ганіцеся. *Янк. М., 54.*

1162. Што не ў модзе, то не ў ходзе. *Сцяшк., 616, Ашм.*

1163. Часы для красы, як хазяін сеў, так часы сталі. *М. Грынблат, 1969, Лун. 8.2.14.*

1164. Пальчаткі на руках шаткі. *Янк., Дыял., III, 164, Глуск.*

1165. Астаўляй летам косы на галаве, бо зімой холадна будзе. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1166. Вусы — чэсць, а барада і ў казла есць. *Мат., 173.*

1167. Не стрыжана — голена. *Ryp., 214. Вар.: Czeczot, 112; Нос., 103; Fed., 292; Pietk., 344; Никиф., 1, 191, 202.*

в) Стрыжана, да не голена. *Fed., 292.*

г) Не голена — брыта. *Ром., Бел., I, 302.*

## ТРАНСПАРТНЫЯ СРОДКІ І ШЛЯХІ ЗНОСІН. У ДАРОЗЕ

1168. Ладзь калёсы зімою, а сані летам. *І. Сцяпунін, 1958, Дзярж.*

а) Рыхтуй летам (улетку) сані, а зімой калёсы. *Ахрым., 50; А. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.5; М. Юдо, 1965, Віл. 13.10.19; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1169. Хто ўвязваючы воз плача, той едучы скача. *Сержп., 87.*

1170. Меншы воз — менш і слёз. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1171. Аглядайся на заднія калёсы. *Fed., 134. Вар.: Парэцкі, 127.*

1172. Крывое калясо на сябе балота кідаець. *Ляцкий, 18.*

а) Крывое калясо на сабе гразь цягнець. *Дразд.*

1173. Худое кола мацней скрыпіць. *Сах.*

1174. Не мой конь — не мой воз. *Нос., 100. Вар.: Fed., 341.*

а) Не наш конь — не наш і воз. *Добр., Смол., 118.*

1175. Ні калёс, ні атос, воўк кабылку панёс. *Рапан., 51.*

1176. Залатыя калёсцы, да цяжка везці. *Ляцкий, 12.*

117. Сем седакоў — не воз, абы конь вёз. *Янк., Дыял., I, 220, Глуск.*

1178. Прадай лошадзь і санкі — купіш з паўфунта смятанкі. *«Кр.»*

1179. Не запрогшы, не паедзеш. *Fed., 350.*

1180. Не запрогшы, не кажы: но! *Дуб., 37а; Fed., 350. Вар.: Нос., 97; Pietk., 352.*

а) Не запрог, не паганяй. *Fed., 350.*

1181. Запрагай у дугу, а я па хамут пабягу. *Fed., 84.*

1182. Хвост да грыва — глядзець міла, а ў гразі хоць сам вязі. *Добр., Смол., 51.*

1183. Фурман добры, але коні не вязуць. *Ляцкий, 52.*

1184. Не ў том дзела, што кабыла бела, а ў том, што воза не вязець. *Ром., Бел., I, 302.*

а) То не дзіва, што кабыла сіва, а то дзіва, што воза не вязе. *Ром., Бел., I, 311.*

б) Не ў том сіла, што кабыла сіва, а ў том, што [воза] не цягне. *Гильт., 293, Віл. п. Вар.: Нос., 95; Ляцкий, 24.*

в) Не ў том сіла, што кабыла сіва, а ў том, што добра цягне. *Булг., 178.*

1185. Калі не ідзець, дак і не вязець. *Нос., 64.*

1186. Трэба толькі сцебануць, то пацягне. *Сержп., 19.*

1187. Добрая дарога — карацейшы шлях. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

1188. Не конь вязе, а дарога. *Л. Марчанка, 1960, Церах. 13.3.29.*

а) Не конь вязе, але дарога, не бог памагае, але пуга. *Шейн, II, 479, Барыс. п.; Fed., 149.*

1189. Па пройдзенай дарозе лёгка ісці. *Сах.*

1190. Натрасешся, пакуль данясешся. *Крэмнеў.*

1191. Беражыся, баба, будзе тут ухаба. *Ляцкий, 4.*

1192. Скокам, бокам, павалокам. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1193. Сем вёрст да нябёс, і ўсё лесам. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25; Г. Барташэвіч, 1969, Стол. 8.2.13.*

а) Будзе сем вёрст, шмат поля і кавалак лесу. *Рапан., 213.*

1194. Іголкай дарогу не мерыць. *Ахрым., 34; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1195. З гары і свіння — рыса́чка. *Сах.*

1196. Па крывой дарозе ўпярод не відаць. *Сах.*

1197. Крывая дарога каля прамой смяецца. *Суяшк., 596, Ваўк.*

1198. Красна дарога ездакамі. *Ром., Зап., III, 222.*

1199. Дарога не спіць. *Fed., 75.*

1200. Печка тучыць, а дарожка вучыць. *Нос., 127.*

1201. Дарога мучыць, але вучыць. *Сержп., 122.*

1202. Дарога дзяцей вучыць. *Сержп., 123.*

1203. Нізкі пералаз — усім дарога. *Ляцкий, 25.*

1204. Каму ў дарогу, таму пара. *Fed., 76.*

1205. Ведаем, калі з дому выбіраемся, да не ведаем, калі выберамся. *Fed., 342.*

1206. Кажан ведае, калі выбіраецца, а не ведае, калі вернецца. *Fed., 342.*

а) Знаем, калі выбіраемся з дому, а калі назад — бог ведае. *Pietk., 399.*

1207. Калі не ведаеш дарогі, не выязджай з дому. *Fed., 76.*

1208. Устань раней ды шагні далей. *Ахрым., 56; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

1209. Хто чхае, дарогу чуе. *Fed., 65.*

1210. У панядзелак работы не пачынай і ў дарогу не выязджай. *Fed., 219.*

1211. Як ля парога, такая і дарога. *Fed., 219.*

1212. Калі сена без меры на возе, дык будзе бяда ў дарозе. *Сержп., 87.*

1213. І на гладкай дарозе прыпадак можа быць (стацца). *Fed., 76.*

1214. У дарозе ўсяляк трапіцца. *Fed., 76.*

а) У дарозе ўсяк трапляецца. *Сержп., 122.*

б) У дарожкі ўсякае случаецца: калі маць, калі мачаха. *Добр., Смол., 31.*

1215. У дарозе і бацька таварыш. *Ром., Зап., I, 216.*

1216. У дарозе пазнаеш прыяцеля. *Сержп., 123.*

1217. У дарозе ўсё добра пра запас. *Сержп., 75.*

1218. Сякера і матузок заўсёды прыгадзіцца ў дарозе. *Pietk., 388.*

1219. У дарозе не даспіш, не даясі. *Сержп., 122.*

1220. Здарожышся, добра і адпачыць. *Сержп., 122.*

1221. Каб не еў ды не спаў, дак далёка б стаў. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1222. Хоць знябыліся, але здабыліся. *Fed., 352.*

1223. Апошні воз усягда первы варочаецца. *Вас., 22.*

1224. Ціха паедзеш — ліха нагоніш, хутка паедзеш — на ліха наскочыш. *Сержп., 140.*

1225. Паволі едзеш — далёка будзеш (станеш). *Czeczot, 113; Дуб., 49.*

а) Паволі едучы, далей будзеш. *Нос., 128.*

б) Цішы едзеш — далей будзеш (станеш). *Нос., 180; Радч., 248; Дразд.*

в) Памалу едзеш — далей заедзеш. *Pietk., 323.*

г) Памаленьку едзем, а далей станем. *Fed., 128, 125.*

1226. Прытка едзеш — галаву звернеш. *Нос., 141.*

1227. Павернешся крута — січас будзеш тута. *Добр., Смол., 107.*

1228. Далей паедзеш — скарэй у двары будзеш. *Нос., 32.*

1229. Пойдзеш нацянькі — згубіш дзянькі. *А. Махнач, 1952, Уздв. 13.10.15.*

а) Хто пойдзе нацянькі, той губляе дзянькі. *В. Валетка, 1965, Слуцк, 13.10.2.*

б) Хто паехаў нацянькі, той паедзе тры дзянькі. *Dybow., 192.*

в) Паедзеш нацянькі — будзеш ехаць тры дзянькі. *К. Кабашнікаў, 1960, Нясв. 8.1.57; В. Іваноўская, 1963, Маладз. 8.1.83; Ю. Зварко, 1967, Іў. 13.10.5.*

1230. Пайшоў нацянькі — хадзіў тры дзянькі, а пайшоў цераз брод, дык хадзіў цэлы год. *Мін.-Мал., 1970, 164, Уздз.*

1231. Хто ходзіць нацянькі, той набівае ногі і траціць дзянькі. *Радч., 176.*

а) Хто аб'ездкамі едзець або нацянькі, той блудзіць і траціць дзянькі. *Pietk., 372.*

1232. Паедзеш нацянькі — вазьмі хлеба на тры дні. *Дуб., 49.*

1233. Увакруг адзін круг, а нацянькі бываець тры дзянькі. *Дуб., 62.*

1234. Хто напрамкі лятае, той дома не бывае. *Сцяшк., 614, Зельв.*

1235. Хто прасцікуе, той дома не начуе. *Сержп., 186.*

а) Хто дарогу прастуе, той у дому не начуе. *Dybow., 192; Fed., 75; С. Палікоўская, 1965, Воран. 13.10.1. Вар.: К. Кабашнікаў, 1960, Нясв. 8.1.57.*

б) Хто дарогу кружыць, ніколі не тужыць, а хто прастуе, удома не начуе. *Fed., 75.*

1236. Хто круг накладае, той на сваёй падушцы голаў прыкладае. *Fed., 153.*

1237. Паедзеш напрасцень — прастаіш цэлы дзень. *Дуб., 51.*

а) Як паедзеш у аб'езд, прыедзеш пад абед; а як паедзеш напрасцень, прастаіш цэлы дзень. *Нос., 196.*

1238. Напрамую толькі варона лятае. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

а) Прама варона лятае, ды дома не начуе. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

б) Сарока напрамкі (напраcткі) лятае, ды дома ніколі не бывае. *Ахрым., 51; Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2; Сцяшк., 583, Вайк. Вар.: Добр., Смол., 29.*

1239. Па доўгай дарозе йшоў, пад абед не падышоў. *Крэмнеў.*

1240. Хадзі простаю сцежкаю, то не заблудзіш. *Fed., 48.*

1241. Шануй горы й мосты — будзець галава проста. *Ляцкий, 59.*

1242. Заедзем не за дзень, дык за тыдзе́нь. *М. Мельнічэнка,* 1950, *Гом. 13.3.29.*

1243. Блізка відаць (зіраць), ды далёка дыба́ць. *Czeczot, 106; Шпил., 176; Дуб., 5; Нос., 6; Сержп., 18; Бяльк., 108, Расн.; А. Фядосік, 1961, Капатк. 8.1.73.*

а) Хоць відаць, ды далёка дыбаць. *Dybow., 192; Fed., 330; Ляцкий, 53. Вар.: Pietk., 398; Сержп., 48.*

1244. Дарога на канцы языка. *Fed., 75.*

а) Няведама дарога на канцы языка. *Fed., 76; Сцяшк., 603, Маст.*

1245. На канцы языка Кіеў стаіць. *Сержп., 30.*

а) Язык да Кіева давядзе. *Ляцкий, 61; Сержп., 99; І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3; Т. Гуляй, 1965, Свісл. 13.10.5.*

б) Язык Кіева дапытаецца. *Czeczot, 109. Вар.: Мальч., № 45; Нос., 192, 144; Сержп., 27; Мяц., 306, Клецк.; Дразд.; М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2.*

1246. Язык і Варшавы дапытае. *Fed., 327.*

1247. Хто пытае, той не блудзіць. *Czeczot, 107; Нос., 177; Дуб., 70; Fed., 253; Pietk., 338; Мін.-Мал., 1974, 190, Пух.; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15; Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2; І. Шынгель, 1967, Нясв. 13.10.23; Дразд.; Е. Клізевіч, 1961, Гродз. 13.10.6.*

а) Хто дарогі пытае, той не блудзе. *Аним., 263; Шейн, II, 483; Fed., 75; Pietk., 317; 1961, Брасл. 13.9.5.*

б) Хто спытаець, той не заблудзіцца. *Ляцкий, 55.*

в) Хто пытае, той не блукае. *Сцяшк., 614, Бераст.*

1248. Пытаючыся, дапытаешся. *Нос., 142.*

1249. Дарогі пытаець, а сам большы таго знаець. *Добр., Смол., 31.*

1250. Рынуўшы ў балота, не конь вінен. *Ляцкий, 38.*

1251. Які ехаў, за тое і зачапіўся. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

1252. Які едзе, такі й паганяе. *1961, Брасл. 13.9.5.*

а) Які чорт ехаў, такі й паганяў. *Pietk., 323. Вар.: Fed., 123.*

1253. Як ехаў, так і спаткаў. *Булг., 177. Вар.: Сцяшк., 618, Шчуч.*

1254. Якія ехалі, такіх і падвезлі. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; У. Іваноў, 1958, Мінск.*

1255. Сяк-так, абы далей. *Fed., 75.*

1256. Той не фурман, хто без пугі. *Ляцкий, 45.*

1257. А тут, вядома, без пугі не абыйдзешся. *Янк. М., 22.*

1258. Паганая пуга, а і без той туга. *Янк. М., 89.*

1259. Благая пуга лычаная, а без няе горай. *Tyszk., 422; Шпил., 175; Шейн, II, 472; Fed., 252.*

а) Хўда лычна́я (лышня́я) пуга, а без яе яшчо хужы. *Нос., 178. Вар.: Дуб., 32; Л. Павецьева, 1967, Мсцісл. 8.1.107.*

1260. У каго пугі няма — у таго і шчасця няма. *Янк. М., 22.*

1261. Дзе сядзеш, там і злезеш. *Л. Стаўровіч, 1957, Рэч. 13.3.29.*

1262. З чужой кабылы трэба і ў балоце ссесці. *Czeczot, 113; Киркор, 237.*

а) З чужой кабылы і ў балоце злязай, хоць не хо́ці. *Нос., 159.*

1263. З чужога воза сярод балота злазь. *Fed., 341.*

1264. З чужога каня злазь у гразь. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

а) З чужога вазка і сярод гразі злазяць. *Pietk., 352, 324.*

б) З чужога коніка і ў гразі ссядаюць. *Нос., 159; Mien., 395.*

в) З чужога воза ў гразі ўставай. *Fed., 341.*

г) З чужога воза хоць сярод гразі — далоў. *А. Фядосік, 1959, Лен. 8.1.44. Вар.: М. Гваздзёў, 1964, Гом. 8.1.88; Дразд.*

д) На чужым кані ссяду і ў гразі. *1961, Кап. 13.9.5. Вар.: В. Калюк, 1965, Навагр. 13.10.6.*

1265. Гэта табе навука: у чужыя сані не садзіся без друка. *Рапан., 245.*

1266. Прасіў воўк анно лапу падвезці. *Fed., 339.*

1267. Мядзведзю дай толька лапу ўтачыць. *Нос., 77.*

а) Нядзведзю дай толькі лапу палажыць. *Шпил., 187.*

1268. Пазволь толька мядзведзю адну лапу палажыць на сані, а ён паложа чатыры. *Ляцкий, 32.*

а) Воўку дай толькі лапу палажыць на саначкі, то ён і сам уваліцца. *Fed., 339.*

б) Пусці анно воўчы хвост на сані, то ён і сам уваліцца, *Fed., 339.*

1269. Лісіца просіць, каб анно хвост падвезці. *Fed., 166; М. Грынблат, 1938, Пар.*

а) Хвосцік падвязі, дык і ўвесь сядзе. *Сержп., 125.*

1270. Баба з калёс — калёсам лягчэй. *Tyszk., 425.*

а) Баба з возу — возу легча. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

б) Баба з калёс, а каня як чорт панёс. *К. Кабашнікаў, 1963, Лід. 8.1.84.*

в) Баба з возу — каню свята. *Сцяшк., 580, Вайк.*

1271. Што з воза ўпала, то ўжэ прапала. *Czeczot, 114; Ром., Зап., III, 235; Радч., 249, 341; Л. Лазовік, 1965, Скід. 13.8.4. Вар.: Fed., 341.*

а) Што з воза ўпала, лічы прапала. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

б) Што з возу спала, пішы прапала. *Нос., 188. Вар.: Fed., 134, 341.*

в) Што з воза ўпала, даўно прапала. *Сержп., 50.*

г) Прапала, што з возу [у воду] упала. *Pietk., 397.*

1272. Пешкі няма замешкі. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1273. Не заедзем — дык пяшком. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1274. Туды пяшком, а адтуль рачком. *Ляцкий, 46.*

1275. Ні ішоў, ні ехаў. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1276. Луччай пагана ехаць, чым добра ісці. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1277. Як ідзём утрох, то адна вярста, а як ідзеш адна, то тры вярсты. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

1278. Не ступай надта шырока — лыткі задрыжаць. *Мат., 183, Мін.*

1279. Не разам на гару. *Добр., Смол., 108.*

1280. Пераходка не находка. *Сержп., 49.*

1281. Туды недаходкі, назад няма паўроткі. *Fed., 200.*

1282. За бегам і ход прапаў. *Fed., 30.*

1283. У дарозе і іголка цяжка. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

а) Іголка хунтам абярнецца. *Сах.*

б) У дарозе і іголка пуд важыць. М. *Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

1284. Свая ношка не цяжка. *Мiеп., 395; Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

1285. У е́леня рогі вялікія, да нікому не важкія, бо ён іх сам носіць. *Fed., 128.*

1286. Няхай той бядуе, хто віціну ладуе. *Fed., 28.*

## РАДЗІМА. ЧУЖЫНА

1. У родным краю, як у раю. *Дуб., 64.*

   а) У сваім краю, як у раю. *Нос., 20; Fed., 151; Калянд., 1925; Сах.; Г. Румоўская, 1964, Пліс. 13.10.40; А. Гурскі,* 1971, Паст. 8.2.46.

2. Дарагая (мілая) тая хатка, дзе радзіла мяне матка. *Fed., 50; У. Іваноў, 1958, Мінск.*

3. Родная зямелька як зморанаму пасцелька. *«Звязда», 4 красавіка 1959 г., Л. Прокша, Ганц.; «Ніва», 1974, № 22, с. 4.*

4. На роднай зямлі, як на камлі. *Янк. М., 10.*

5. Усякаму міла свая старана. *Ром., Зап., I, 215.*

6. Кожнаму свой куток мілы. *Fed., 160; У. Іваноў, 1958, Мінск; Т. Багдзевіч, 1963, Воран. 13.10.6; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

7. Дзе маці нарадзіла, там і радзіма. *Рапан., 13.*

8. Лепш нічога няма свайго роднага вугла. *І. Сувалаў, 1958, Чач. 13.3.29.*

9. Мілы той куток (дамок), айдзе рэзан пупок. *Нос., 77; Fed., 80.*

   а) Дораг той куток, дзе рэзалі пупок. *І. Байко, 1967, Клецк. 13.10.23.*

   б) Мілы той куток, дзе вязаны пупок. *В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

в) Дарагі той куток, дзе завязалі пупок. *Сцяшк., 587, Навагр.*

10. Калі б не быў пуп закапаны тут, то жыў бы ў другім месцы. *І. Лушчыцкая, 1960, Нясв. 8.1.52.*

11. Дзе радзіўся, там усё добрае. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

12. Мілей свая хатка, як чужая вёска. *Дуб., 34; Сах.*

13. Жынка як жынка, але лепш родна старынка. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6.*

14. Нідзе так, як удому. *Fed., 80.*

15. Ля сонца цёпла, ля дома добра. *А. Махнач, 1952, Увдз. 13.10.15.*

16. Усюды добра, а дома лепей. *Czeczot, 115; Dybow., 190; Fed., 80; Дуб., 62; І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3.*

а) Усюды добра, а дома лепш за ўсё. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

17. Нідзе не шукай лепшае спраткі ад свае хаткі. *Сержп., 58.*

18. Хоць еш крапіву ды салому, але пры дому. *А. Махнач, 1952, Увдз. 13.10.15.*

19. Лепей у сваіх людзях з голаду ўмерці, ніж у чужых людзях золата збіраць. *Fed., 320.*

20. Дома і салома ядома, а на чужыне і гарачы тук стыне. *Сцяшк., 589, Шчуч.*

21. Дамоўка не вораг: калі ні прыдзеш, заўсёды прыме. *М. Рымша, 1957, Мав. 13.3.29.*

22. Там мне добра, дзе я прывык. *Сержп., 77.*

23. На радзіме і паміраць лягчэй. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

а) У дамоўцы й паміраць смялей. *Сержп., 58.*

24. Прышоў паміраць на сваю лаўку, бо дома смялей. *Сержп., 58.*

25. На сваёй лаўцы і памерці добра. *Сах.*

а) На сваёй лаўцы і ўмерць харашо. *Нос., 87.*

26. Дай, бог, на сваёй лаўцы памерці. *Дуб., 14.*

27. Дай, божа, і смерць, абы не пад плотам. *Fed., 304.*

28. Для ўсякай птушкі сваё гняздо міла. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

29. Каждаму дразду [жаль] па свайму гнязду. *Dybow., 12; Дуб., 10; Fed., 82; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

30. Добрая птушка ў сваё гняздо не брудзіць. *Fed., 251.*

31. Ліхая тая птушка, што ў сваё гняздо паскудзіць. *Fed., 251; Дразд.*

а) Дурная птушка свае гнёзда шмаруець. *Нос., 39.*

32. Дурная птушка сваё гняздо не шануе. *І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

33. Жыве кулік, дзе прывык, і кожны роднае балота хваліць. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

34. Кулік, дзе ты прывык? — А ў балоце. — Там жа мокра.— А мне там добра. *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24.*

35. У сваёй нары і тхор добры. *Янк. М., 23.*

36. Дзе воўк радзіўся, там і куст міл. *А. Гурскі, 1960, Кап. 8.1.58; Г. Барташэвіч, 1965, Пух. 8.1.99а.*

37. Воўк блізка шкоды не робіць. *Tyszk., 432. Вар.: Нос., 15; Шпил., 177.*

а) Дзе воўк выведзецца, там шкоды не робіць. *Fed., 339. Вар.: Суяшк., 587, Воран.*

б) Воўк паблізу свайго кубла шкоды не робіць. *Fed., 399.*

в) Воўк ля свайго логава не шкодзіць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

38. Усякая сасна ў сваім бару шуміць. *Ром., Зап., I, 215.*

а) Усяка сасна ў сваім бару гудзе. *М. Дуброўскі, 1956, Лельч. 13.3.29.*

39. Дзе сасна ні стаіць, а ўсё свайму бору шуміць. *1968, Брасл. 13.9.5.*

а) Кожная сасна свайму бору песню пяе. *Махнач, 24.*

40. У родным лесе і куст родны. *Рапан., 18.*

41. Ідзі ў родны край, там і пад елкаю рай. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

42. Няма смачнейшае вадзіцы, як з роднай крыніцы. *В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

43. Чым за морам віно піць, лепш з Нёмана вадзіцу. *Суяшк., 616, Гродз.*

44. Добра на Дану, а лепш удаму. *Сержп., 48.*

а) Как ні харашо на Дану, да не так, як у сваім даму. *Добр., Смол., 129.*

45. Родная зямля — маці, чужая старонка — мачаха. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

46. Чужая старана тугою арана, слёзкамі засявана. *Нос., 184.*

47. У чужым баку вочы па кулаку. *Шейн, II, 482, Барыс. п.; Fed., 41.*

48. Баліць мая галава, што чужая старана. *Дуб., Нар., 19.*

49. Чужбіна не грэець. *Нос., Слов., 701.*

50. На чужыне́, што на ражне. *М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29.*

51. З'ехаў на чужыну, як зваліўся ў дамавіну. *Сцяшк., 592, Слон.*

52. Не дай, доля, у прымах жыць і на чужыне загінуць. *Янк., Дыял., I, 216, Глуск.*

53. У чужом краю, як на пагарэллі. *Fed., 151.*

54. Чужына па шэрсці не гладзіць. *Янк. М., 107.*

55. На чужбіне жыць — па-сабачы выць. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

56. Лепей гніць у магіле, чым жыць у чужыне. *Сцяшк., 597, Лід.*

57. Жыць на чужой старонцы, як на скале адзінокай сасонцы. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

58. Чужбіна не родная матка: хлеба не дасць. *Ляцкий, 58.*

59. На чужыне і камар загіне. *1961, Кап. 13.9.5.*

60. У чужым краі толькі вецер зжаліцца. *1961, Кап. 13.9.5.*

61. На чужой старане і вясна не красна́. *Сах.*

62. У чужой старонцы не так свеціць і сонца. *М. Грынблат, 1973, Круп.*

63. На чужыне́ паклонішся і баране. *Pietk., 364. Вар.: 1961, Брасл. 13.9.5; Добр., Смол., 30.*

64. Чужая старана — цёмны лес. *Добр., Смол., 31.*

65. На чужым месцы, што ў лесе. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

66. На чужым месцы, што ў полі. *В. Раманчук, 1960, Капатк. 13.9.22.*

67. Пры злой худабіне худа жыць на чужбіне. *Нос., 137.*

68. На чужой старане і на печы холадна. *Янк. М., 121.*

69. Чужая старана прыбавіць ума. *Сах.*

70. На чужыне і голубаваронаю назавуць. *Янк. М., 107.*

а) На чужой старане і сокала завуць варонай. *Сцяшк., 600, Шчуч.*

71. На чужой старонцы рад сваёй варонцы. *Янк. М., 10.*

72. З роднага краю і варона міла. *Сах.*

а) З роднага боку і варона мілая. *Я. Касач, 1966, Дзятл. 13.10.26.*

73. Хоць у Арле, была б у дабрэ. *Добр., Смол., 31.*

74. Места здабыў — пра ўсё забыў. *Абаб.*

75. Там добра, дзе нас няма. *Mien., 395; А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3.*

а) Усюду добра, дзе нас нет. *Tyszk., 417. Вар.: Нос., 19; Дуб., 13.*

б) Цікава там, дзе нас няма. *М. Жылінскі, 1965, Свісл. 13.10.6.*

76. Нідзе так, як там. *Нос., 112.*

77. Там добра, дзе нас няма, а дзе мы будзем, там забрудзім. *Сержп., 56.*

а) Там добра, дзе нас няма, а дзе мы будзем, усюдай папсуем. *Булг., 176.*

б) Там харашо, дзе нас няма, а дзе мы пабудзем, там напаскудзім. *І. Сувалаў, 1958, Чач. 13.3.29.*

78. Там табе вароты пірагамі затканы. *Tyszk., 428.*

79. На Падоллі пірагі на коллі, а мы прыйшлі і там іх не знайшлі. *Янк., 58. Вар.: Fed., 209.*

80. На чужэй старане і жук мяса. *Добр., Смол., 30. Вар.: А. Фядосік, 1959, Леп. 8.1.44; 1961, Кап. 13.9.5.*

а) У чужым краю і жук — мяса. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

81. На чужой старане і жук—мяса, і старую бабу маладзіцаю назавеш. *Нос., 90.*

а) У чужом баку жук — мяса, баба — божы дар. *Fed., 41, 290.*

б) На чужой старане і бабулька — божы дар. *А. Гурскі, 1960, Сір. 8.1.48. Вар.: 1961, Калінк. 13.9.5; Добр., Смол., 30.*

82. На чужой старане і рак рыба. *Fed., 290.*

83. Як тут не мёд, так там не піва. *Fed., 187.*

84. Як тут не смятана, так там не сыроватка. *Fed., 305.*

85. Што край, то абычáй. *Dybow., 18; Pietk., 308; Fed., 3; 1959, Глыб. 8.1.42.*

а) Што ні край, то свой звычáй. *1961, Кап. 13.9.5.*

б) Дзе край, так і абычай. *Г. Барташэвіч, 1960, Нясв. 8.1.50; Л. Ткачова, 1961, Мядз. 8.1.66; М. Грынблат, 1973, Асіп.*

в) Кажан край мае свой абычай. *Fed., 3.*

г) У кожнай старане свой звычай. *Бяльк., 188, Бял.*

86. У добрым краю набярэш скора звычаю. *Ляцкий, 48.*

87. Што край — то абычай, што старана — то навіна. *Ляцкий, 60.*

а) Што старана — то навіна. *І. Ламека, 1965, Вайк. 13.10.2; М. Грынблат, 1970, Ашм. 8.2.26.*

88. Іншы горад — іншы гонар. *Янк. М., 130.*

89. Што горад, то нораў, а што старана, то інша навіна. *Fed., 112.*

а) Што горад, то нораў, што дзярэўня, то абычай. *Ром., Зап., III, 235.*

90. Што сяло, то нораў, што край, то абычай. *Сержп., 77.*

91. Кожнае сяльцо мае сваё нараўцо. *1961, Рэч. 13.9.5.*

а) Дзе сялцэ, там і нараўцэ. *М. Грынблат, 1973, Асіп.*

92. Як дзярэўня, то павер'е. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

а) Што ні дзярэўня — вера, што ні дом — толк. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6.*

93. Што хутарок — то гаварок, што сяльцо — то слаўцо. *«Голас Радзімы», 1973, № 14, Р. Яўсееў, Бял.*

94. Што старана, то барана. *1961, Брасл. 13.9.5.*

95. Што ні хата, то свой комін. *Рапан., 273.*

96. Той добры край, дзе хлеба акрай. *1961, Брасл. 13.9.5; Суяшк., 610, Гродз.*

97. Там жыццё рай, дзе свабоды край. *Дуб., 60.*

98. Ідзе добры край, там і пад еллю рай. *Нос., 54.*

99. Свет вялікі — ідзі сабе, куды хочаш. *Fed., 123.*

100. Свет вялікі, да дзецца няма дзе. *Tyszk., 429; Dybow., 189.*
а) Свет шырокі, да падчас недзе дзецца. *Pietk., 395.*

101. Свет прайшла і назад вярнулася. *Fed., 308.*

## КАРОЛЬ, ЦАР. ПАНЫ, ПАДПАНКІ, ШЛЯХТА. ПРЫГОН, МУЖЫКІ

102. Бог высока, кроль далёка. *Fed., 34; Pietk., 312.*

а) Бог высока, цар далёка. *Fed., 34; Pietk., 312. Вар.: Ляцкий, 56.*

б) Да бога высока, да цара далёка. *Ляцкий, 9. Вар.: Fed., 47.*

103. Пакуль да бога, то чорт душу выме; пакуль да цара, то пан і скуру здыме. *Ром., Мат., 84.*

104. Бліз цара — бліз смерці. *Ром., Зап., I, 214.*

105. Цар як айцец: возьме карову, прышле на скапéц. *Янк., 65.*

106. Соладка ды смачна толькі цары ядуць. *Ляцкий, 42.*

а) Соладка да смачна толькі хіба цар есць. *Сержп., 25.*

107. Не каралеўскае (царскае) слова — можна адмяніць. *Нос., 99.*

108. Хоць каралём, толькі б не ў нашым царстве. *Нос. 174.*

109. Сволач — цару помач. *Янк., 70.*

110. Каго бог мілýе, таго й цар любýе. *Ляцкий, 16.*

111. Не харобруй, кошка, на прожку, круль ногу перашыбе. *Ром., Зап., III, 226.*

112. Поп, цар і кат — адзін аднаму родны брат. *А. Бельская, 1967, Раг. 13.10.19.*

113. Каралю смачна, а нам горка. *Янк., 69.*

114. Ведае, як круль абедае. *Fed., 331.*

115. Дзіва, што ў караля да жонка хараша. *Czeczot, 108; Tyszk., 432; Аним., 263; Fed., 136.*

а) Не дзіва, што ў караля жонка хараша. *Нос., 96.*

б) Што за дзіва, што ў караля жынка хараша. *Ляцкий, 60.*

в) Дзіва, што ў караля жонка пекна. *Fed., 137.*

г) Дзіва, што ў караля жонка прыгожая. *Fed., 324.*

116. І царыца варона, калі спадзе карона. *Янукоў, 1852, Глуск. (Архіў АН СССР, ф. 216, воп. 1, спр. 771).*

117. Хто больш, той і пан. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

118. Паноў столькі, што хоць імі гаць гаці. *Сержп., 130.*

119. Пан на пану едзе, панам паганяе. *Сержп., 130.*

120. Няма там парадку, дзе паноў многа. *Mien., 395.*

121. Пан ад брэгу да брэгу. *Fed., 217.*

122. Дзе далок, там панок. *М. Жылінскі, 1965, Свісл. 13.10.6.*

123. Пан за пана верне. *Сержп., 130.*

124. Пан панам будзець. *Tyszk., 414.*

125. Усё паны да паны, а свінней няма каму пасці. *Pietk., 384.*

126. Я ва́шаць, і ты вашаць, хто ж нам хлеба напашыць. *Нос., Слов., 45. Вар.: Добр., Смол., 74.*

127. Што пан, то сабака. *Нос., 189.*

128. Пану і сабаку ўсё вольна. *Хрэстам., 217.*

129. Наш пан, а ваш гаспадзін — чорт адзін. *Янк., 59.*

130. Паны і чэрці адной шэрсці. *М. Шавель, 1960, Івац. 13.9.34.*

131. Чорт пана ніколі не возьме. *Fed., 216.*

132. У пана вочы завідушчыя, рукі заграбушчыя. *М. Пяткевіч, 1965, Ашм. 13.10.3.*

133. Пан і поп з аднаго пекла чэрці. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

134. Пан і поп — аднаго поля ягады. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

135. У пана не згніець, не згарыць, сваё ўзышча — не прападзе. *Хрэстам., 137.*

136. Кланяйся, дурню, бо твой пан. *Нос., 61. Вар.: Сержп., 61.*

137. Нясі пану паклон з хахлом. *Нос., 103.*

138. Дзе панская сучка, там папова сабака не мяшайся. *Мiеп., 396.*

139. Не проста пані, а пані Стоцкая. *Янк., 59.*

140. Гаспадарства — панства. *Сержп., 131.*

141. Пан рэшты не прымае. *Сержп., 130.*

142. Усё паны да паны, а хлеба з торбаю не палажы, бо і хлеб з'ядуць і торбу ўкрадуць. *Fed., 219.*

143. Часам і панства ашуканства. *Сержп., 15.*

144. Нігдачкі пан не быў бы панам, каб не ўмеў махляваць. *Fed., 217.*

145. Як сам гаспадар злодзей, то і чэлядзі не верыць. *Fed., 105.*

146. Барын — лыч замаран. *Нос., 4.*

147. Паніч — свіны лыч. *Нос., 124; Сержп., 131.*

а) Свіны лыч, а не паніч. *Сержп., 92.*

б) Хоць ён і паніч, але ж у яго свіны лыч. *Ляцкий, 53; Сержп., 19.*

в) Быў бы паніч, каб не свіны лыч. *Ляцкий, 5.*

148. Гэта не нашага носа палоса, а, мабыць, пан. *Сержп., 130.*

149. Не твая палоса — не сунь носа. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

150. Ганарылася свіння, што аб панскі плот пачухалася. *А. Махнач, 1952, Увдв. 13.10.15.*

151. Бог высока, пан далёка. *Czeczot, 107; Tyszk., 414; Мальч., № 40; Dybow., 6; Fed., 34; Pietk.. 312.*

152. Пан саломаю напхан. *Сержп., 131; Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

153. Хоць ростам пан і не вялік, ды рука ў яго з пудавік. *Ляцкий, 54.*

154. Сабака брэшаць, а пан едзець. *Ром., Бел., I, 309; Радч., 248.*

а) Сабака брэша, а дваранін едзе. *Czeczot, 113; Мальч., № 42; Mien., 397; Нос., 113; Dybow., 17; Fed., 270.*

б) Сабака брэшыць, а дваранін едзіць сабе. *Дуб., 54. Вар.: Нос., Слов., 264.*

155. Між паноў пан, між мужыкоў мужык. *Fed., 217.*

156. Трудна стаць панам — усё пойдзець ладам. *Нос., 164.*

157. Сённі пан, а заўтра прапаў. *Fed., 218.*

158. Быў бы пан, каб не прапаў. *Ляцкий, 5.*

159. На белай гарэ пан гусей арэ. *Ляцкий, 22.*

160. Пан харошы, да не мае грошы. *Pietk., 383.*

161. Вялікі панок, ды малы дварок. *Ляцкий, 6; Сержп., 130.*

162. На Беларусі пчолы як гусі, а гусі як волы, а паны — як голы, так голы. *Дуб., Нар., 1.*

163. Панскія дулі пагнуліся ў дугі. *Ляцкий, 33.*

164. Сорам двараніна не корміць. *Янк., 63.*

165. Пан што багацее, то дурнее. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

166. Былі б дуракі, а паны знойдуцца. *Н. Рында, 1967, Зельв. 13.10.23.*

167. Паны гулялі, скакалі, а як прышлось ваяваць, давай за граніцу цякаць. *Fed., 218.*

168. Толька й гора пану, што жывот баліць. *Ляцкий, 45.*

169. Бліжы [redacted] цару — бліжы к смерці, бліжы к пану — бліжы к кію. *Добр., Смол., 62.*

170. Не дзіва, што ў пана жонка гладкая. *Сержп., 77.*

171. Наша пані — бяздонная бочка, ніколі яе не наталіш. *Сержп., 134.*

172. У куццю глядзеў, як паны ядуць. *Ляцкий, 49.*

173. У мужыка ґора, а ў пана горы ў каморы. *Зах., 250.*

174. У пана печаныя ракі самы прысмакі. *Сержп., 130.*

175. Халопскае дзела есць, а панскае піць. *Нос., 172.*

а) Халопскае права есць, а панскае піць. *Дуб., 68.*

176. Паны не свінні — усё з'ядзяць. *Fed., 218.*

177. Які пан, такі крам. *Dybow., 184; Дуб., 20; Fed., 216.*

178. Паненка без голкі не ўбярэцца, без нажа не разбярэцца. *Fed., 219.*

179. Знаць пана па халявах. *Ляцкий, 13; Fed., 219.*

а) Відаць пана па халяве. *В. Шаўчэнка, 1961, Ельск. 13.3.29; А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

б) Відна пан па халявах. *І. Цішчанка, 1971, Брасл. 8.2.49.*

в) Відна пан па халяўцы. *Сержп., 131.*

180. Пана і ў рагожы ўзнаюць. *Добр., Смол., 75.*

181. Смех з панскіх ботаў: адзін згарэў, другі сабака з'еў. *Нос., 152.*

182. Усё не той пан, хоць і штаны навыпуск. *Ляцкий, 51.*

183. Чым большы пан, тым шапка нялюдска. *Fed., 216.*

184. Што мужык кідае да долу, тое пан носіць у кішэні. *Pietk., 380.*

а) Што мужык на землю кіне, то пан тое ў кішэнь схавае. *Fed., 193.*

185. Усё нос уціраe, бо на той час хустку мае. *Ляцкий, 51.*

186. Сядзіць на рагожы, а кажа, што ў пана гожы. *І. Байко, 1967, Клецк. 13.10.23.*

187. Узяў у рукі біч да й думае, што паніч. *Ляцкий, 48.*

188. Які пан, такі і будан. *Янк., 186.*

189. Узяў калі пан жонку, бярыся, мужык, за хатомку. *Ляцкий, 48. Вар.: Янк., 67.*

190. Белыя рукі чужой працай жывуць. *Рапан., 21.*

191. Белыя ручкі чужую працу любяць. *М. Пяткевіч, 1965, Ашм. 13.10.3; П. Мушчук, 1965, Ваўк. 13.10.5.*

а) Белыя рукі любяць чужыя мукі. *Рапан., 21.*

192. Белыя рукі працы баяцца. *Ахрым., 13.*

193. Дзе адзін танцуе, там сто гаруе. *А. Ліс, 1958, Смарг.*

194. Як кроль кралюе, так пан пануе, а мужык бедны цёнгле гаруе. *Fed., 191.*

195. Калі пан смяецца — мужык плача. *Н. Рында, 1967, Зельв. 13.10.23.*

196. Калі пан пяець, то мужыка трасца трасець. *Ляцкий, 17.*

197. Калі паны лікуюць, тагды мужыкі без хлеба таскуюць. *Нос., 65.*

198. Паны балююць, а мужыкі гаруюць. *Ахрым., 10.*

а) Паны балююць, а наш брат бядуець. *Нос, 125; Г. Румоўская, 1964, Пліс. 13.10.40.*

б) Пан балюе, а наш брат знай будуе ды бядуе. *Янк., 61.*

в) Пан танцуе, а мужык гаруе. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

199. У пана горла — прорва: тысяча працуе, адзін прагарцуе. *Янк., 67.*

200. Калі паны танцуюць, то слугі гарцуюць. *Ляцкий, 17; Янк., 67.*

201. Пан у шынку скача, а мужык у полі плача. *Ахрым., 16.*

202. Гаспада спаць, а слугі араць. *Вас., 15.*

203. Панска душа ў мужыцкім целе. *Fed., 193.*

204. Папалася жучка ў панскую ручку. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

а) Папаўся наш жучку ў панскую ручку. *Dybow., 187; Сержп., 22; Fed., 366.*

б) Папаўся чорны жучку ў белую ручку. *Нос., 133.*

205. Служы пану верна, то ён табе галаву зверне. *Л. Царанкоў. 1960, Рэч. 13.9.2.*

а) Служы пану верна, а пан нос адверне. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

б) Служы пану верна — ён табе спіну адверне. *I Ламека, 1965, Вайк. 13.10.2.*

206. Пану дзевяць раз услужыў, а раз не ўслужыў — усё і прапала. *Добр., Смол., 75.*

207. Пан шалёны, як сабака, а ты яму служы, небарака. *Сержп., 131.*

208. Жыта спее, а паны пазіраюць угору. *Сержп., 86.*

209. Панскае вока каня гадуе. *Pietk., 333.*

а) Панскае вока каня ту́чыць. *Нос., Слов., 645; Дуб., 49.*

210. Пан што хоча, тое і робіць. *Сержп., 130.*

211. Свая рука ўладыка. *Нос., 147; Ляцкий, 40; Ром., Зап., III, 231.*

212. Што можна пану, то не Івану. *Fed., 123.*

213. Не хваліся розумам перад панам, лепі маўчанкай. *Ляцкий, 29.*

214. Сказаў бы я табе, каб не пан. *Ляцкий, 41.*

215. На табе пятак, кажы перад панам так. *Нос., 89.*

216. То не злодзей, што ў пана крадзе. *Сержп., 88.*

217. Есці з панамі, але спаць з свіннямі. *Fed., 130.*

а) Рэдзьку есць з панамі, але спаць з свіннямі. *Нос., 146; Fed., 261.*

б) Рэдзьку еш з панамі, а спі з свіннямі. *Dybow., 17; Fed., 261.*

218. З панамі знацца — бяды набрацца. *Сержп., 131.*

219. Калі мужык, не сябруйся з панамі. *Міеп., 396.*

220. У мужыка пан самы страшны. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

221. Як з пана пан, то аддасць валы́, а як з мужыка пан, то здзярэ пасталы́. *В. Скідан, 1969, Пін. 8.2.21.*

222. Не дай бог панскай злосці, а яшчэ горай не дай бог панскай ласкі. *М. Грынблат, 1968, Мінск.*

223. Не кланяйся пану, каб грошай даў, а кланяйся, каб апошняе не адабраў. *Зах., 250.*

224. Ласкаю панскаю далёка не заедзеш. *Fed., 217.*

225. Ласка панска толька да парога. *Tyszk., 414; Шпил., 117; Dybow., 183.*

а) Панска ласка да парога. *Вас., 23; Нос., 125; Дуб., 51; Fed., 218; Pietk., 383.*

б) Панская ласка па парог. *Сержп., 130.*

226. Панская ласка толькі на языку. *Янк., 62.*

227. Казаў пан: кажух дам, да й слова яго цёплае. *Шпил., 181.*

а) Абяцаў пан кажушка зрабіць, але яго і слова цёплае. *Fed., 216.*

б) Абяцаў пан купіць кажух, ды яго словы грэюць. *Pietk., 333.*

228. Панскае слова цёплае. *Сержп., 5.*

229. Хто пану верыць, той гора асмінай мерыць. *Хрэстам., 141.*

230. Панская ласка не каляска — не сядзеш і не паедзеш. *Добр., Смол., 75.*

231. Панска слова больш значыць, як мужыцкія грошы. *Fed., 218.*

232. Панская ласка на дохлым кані едзе. *Янк., 62. Вар.: Пар., 139.*

а) Панская ласка на быстрым кані едзе. *Ляцкий, 33.*

233. У нашага пана ўсім адна ласка. *Ляцкий, 50; Сержп., 131.*

234. З камня лык не дзяруць і з пана дзенег не бяруць. *Добр., Смол., 75.*

235. Сунуўся да пана ды і ашпарыўся. *Сержп., 130.*

236. Тым панам рукі паадсыхалі, што ад сябе гарнулі. *Янк., 63.*

237. Калі ў пана што гніе, табе аддае. *Сержп., 131.*

238. Панскіх груш не руш: як пагніюць, самі ападуць, табе ададуць. *Сержп., 130.*

а) Панскіх груш не руш: як пагніюць, паны самі аддадуць. *Янк., 62.*

239. Бач, які пан тараваты: сам ракі паеў, а юшку ўбогім аддаў. *Нос., 5.*

240. Пажартуе пан — будзеш мець жупан. *Сержп., 130.*

а) Папрабуй пажартаваць з панам, калі хочаш мець жупана. *Ляцкий, 34.*

241. Ні гневу, ні ласкі, мой пане Плаўскі. *Fed., 239.*

242. Панская міласць на бок збілась. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

243. Цяпер жыць панам і ваўкам. *Dybow., 7.*

244. Ад панскай дапамогі не зможаш цягаць ногі. *Т. Малашэвіч, 1966, Вор. 13.10.28.*

245. Лепшы Шы́мша, як пан Ры́мша. *Fed., 302.*

246. Што пан Бараноўскі, то не пан Казлоўскі. *Fed., 22.*

247. Старшы пан Казлоўскі, ніж пан Бараноўскі. *Fed., 143.*

248. Пан праклёну не баіцца. *Сержп., 131.*

249. Пана клянуць, а пан таўсцее. *Сержп., 131. Вар.: Pietk., 383.*

а) Пана кляні, а пан таўшчае. *І. Ламека, 1965, Вайк. 13.10.2.*

б) Кляні ты пана — пан таўсцее. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29; В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

в) Пана клянуць, а ў пана бруха расце. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

250. Ты яго клянеш, а ў парозе яго стаіш. *Fed., 145.*

251. Каб нашыя мазалі пану ў горла параселі. *Рапан., 24.*

252. У вушы ўлажыць, то пан зразумее. *Сержп., 130.*

253. Гэта трэба разжаваць ды пану ў вушы ўкласці. *Сержп., 133.*

254. Пана не кляні, а віламі кальні. *Янк., 61; М. Пяткевіч, 1964, Ашм. 13.10.3.*

255. Пану не з'есці мужыка, бо тонка кішка. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

256. Хіба я пану сваю голаў палажу. *Fed., 99.*

257. Пашкадуй пана, а ён табе адплаціць. *Т. Малашэвіч, 1966, Воран. 13.10.20.*

258. Кашляйце, паночку, вам можна! *Pietk., 374.*

259. Панска хвароба, а мужыцка здароўе. *Шейн, II, 480, Барыс. п.*

а) Панская хвароба — беднага здароўе. *Fed., 218. Вар.: Пар., 127.*

б) Панская хвароба — нашае здароўе. *Pietk., 383. Вар.: Сержп., 131.*

260. Засела рожа ў панску кожу. *Янк. М., 140.*

261. Хвалі сена ў стагу, а пана ў грабу. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29; І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.9.1; Г. Шымко, 1967, Навагр. 13.10.21.*

262. Хвалі хлеб у свірнé, а ліхадзея ў труне. *Янк., 64.*

263. Хвалі каняку пасля дарогі, а пана — як выцягне ногі. *Сержп., 131; Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.10.18.*

а) Каня хвалі пасля дарогі, а пана — як выцягнуць за ногі. *А. Ліс, 1961, Вайк.*

264. Няхай паны не радуюцца, прыдзе і на іх радуніца. *Хрэстам., 139.*

265. Хоць пан і стопасе́чны, а запяюць яму вечны. *Ляцкий, 54.*

266. Стары ўжо пан, стары і жупан. *Дуб., Нар., 1.*

267. Тэн самы пан, што пад лаўкай ляжыць. *Ляцкий, 46.*

268. Добры быў той пан, што здох. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

269. Каб шчо року пан новы, няхай будзе хоць асовы. *Kolb., 472.*

270. Тагды будзеш мець, як стары чорт умрэць. *Нос., 162.*

271. Нікому так не добра, як панам у пекле. *Fed., 217. Вар.: Fed., 192, 217.*

272. Шукай асіну на панскую спіну. *К. Кабашнікаў, 1963, Свісл. 8.1.84.*

273. Бярозавая каша — пану пагроза. *Янк. М., 121.*

274. Пана павесяць — тры дні перад ім шапку знімай, часам адарвецца. *Нос., 124.*

275. Пана вядуць вешаць — мужык шапку скідае, бо як адарвецца, то адрыгнецца. *Fed., 217.*

а) Пана на шыбеніцу вядуць, а мужык шапку здымай, бо як адарвецца, дык адрыгнецца. *Сержп., 130.*

276. Паноў многа такіх — не перавешаеш і да Масквы. *Нос., 124.*

277. Хто з паноў пан, таго дзеці паняты. *Dybow., 7.*

278. Пан як пан, да паняты, хоць уцякай з хаты. *Нос., 125; Дуб., 51; Сержп., 131; Янк., 30.*

279. Паны як папы, а паняты, як шчаняты, яшчэ горшыя. *Ляцкий, 33.*

280. Не так дакучна ад паноў, як ад панят (падпанкаў). *Tyszk., 414; Fed., 208.*

а) Не так дакучны паны, як падпанкі. *Fed., 209.*

б) Не так труднó ад саміх паноў, як ад панят. *Крэмнеў; Нос., 104.*

281. Паны як паны, да падпанкі жыць не даюць. *Pietk., 383.*

282. Не так паны, як падпанкі. *Ром., Бел., I, 304; Дразд.*

а) Не так тыя паны, як паняняты. *Ром., Бел., I, 304.*

283. Горшыя падпанкі, як паны. *Fed., 209.*

284. Елі, елі вошы, а цяпер будуць гніды. *Fed., 338.*

а) Елі, елі вошы, а цяпер і гнідам давялося кусаць. *Нос., 191.*

285. Не так брады́, як брадзяняты, не так паны, як паняты. *Сержп., 131.*

286. Лепш у вялікага пана за клямку дзяржацца, як з малым панком за сталом сядзець. *Pietk., 333.*

287. За панам пойдзеш — панскім слугой будзеш. *А. Ліс, 1963, Кар. 8.1.84.*

288. Які пан, такі слуга. *Fed., 216.*

289. Не такі пан, як слуга. *Ляцкий, 28.*

290. Дваровая служака, што вясковая сабака. *Ляцкий, 9.*

а) Вясковая сабака, а дваровая служака — усё роўна. *Ляцкий, 6.*

291. Сам сабе пан, сам сабе służка. *Г. Барташэвіч, 1961, Ваўк. 8.1.77.*

292. Ідзі за ахмістрыню з вялікім трыбухом. *Fed., 3.*

293. Сем сёл, адзін вол, а дзесяць прыганятых. *Pietk., 342.*

294. Дзе прыганятых многа, там работы мала. *Fed., 255.*

295. Як ні бяжы, а бізун аканома здагоніць. *Янк., 67.*

296. Радуйся, мужык, што аканом у госці едзе. *Ляцкий, 37.*

297. Аканом садомію робіць, курыцу ў масле жарыць. *Дуб., 2.*

298. Не будзь ні войтам, ні сватам — не будзеш чалавекам праклятым. *«Наш край», 1927, № 1; Янк., 69; Д. Залцэвіч, 1963, Радун. 13.10.6а.*

299. Уцякаў ад пана, папаў да войта. *Ляцкий, 52; Ахрым., 57.*

300. Вайтоўства не папоўства. *Сержп., 25.*

301. Што то я — войтава свіння. *Fed., 334.*

а) Я не я — войтава свіння. *Fed., 334.*

302. Не войтава дачка, да дарэчы гаворыць. *Нос., Слов., 141.*

303. Людзі баяцца не цівуна, а яго бізуна. *Fed., 61.*

а) Баяцца не цівуна, а яго бізуна. *Дуб., 5; Нос., 8; Сах.; Г. Румоўская, 1964, Пліс. 13.10.40.*

304. Ці ад пана, ці цівуна, а ўсё баліць ад бізуна. *Ляцкий, 56.*

305. Мужык з калком на вуліцы, а шляхціц у карчме. *Дразд.*

306. Ні пан, ні хам, а так сабе, чорт ведае што. *Сержп., 130.*

307. Палавіна шляхціц, палавіна мужык. *Fed., 299.*

308. Есць па-мужыцку, чхае па-панску. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

309. У свінушніку жыве, ды хоча кашляць па-панску. *Pietk., 346.*

а) У свінуху жыць, да па-панску кашляць. *Добр., Смол., 75. Вар.: Рапан., 156.*

310. Шляхціц, а вяроўкай рэжа хлеб. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

311. Шляхціц ты Кабылінскі: адна нага ў чобаце, а другая ў лапці. *Нос., 187.*

а) О, не зачапайце, ён шляхціц, бо адна нага ў боце, а другая ў лапці. *Fed., 195.*

312. Пан абуты, а след босы. *С. Цярохін, 1975, Віц. вобл.*

313. Ногі дзярэць, а боты на кійку нясець. *Шпил., Нар., 128.*

314. Шляхціца пазнаюць па халявах. *Мін.-Мал., 169, Пух.*

315. Шляхціч ашмянскі. *Dybow., 18; Дуб., 4.*

а) Шляхціц ашмянскі: адна калоша ў халяве, другая апушчана. *Fed., 11.*

б) Ходзіш, як ашмянскі шляхціц: адну калошу выпусціўшы, другую абуўшы. *Дуб., 69.*

в) Франт наш шляхціц: адну штаніну ў халяву ўлажыў, другую выпусціў да й любуецца. *Ляцкий, 52.*

316. Не відаўся крупеннікаў, дарам, што шляхта, усю крупеню пераелі. *Нос., Слов., 254.*

317. Каўнер шырокі, а голыя пяты. *Tyszk., 425; Нос., 240; Dybow., 12. Вар.: Шпил., 182; Сах.*

318. Сурдучковы пан. *Дуб., 57.*

319. У шляхты і лычка рамень. *Нос., 170.*

320. У галаве панскія мыслі йдуць, а за каўнерам вошы ядуць. *Ляцкий, 47.*

321. Усё наша, толькі мы не свае. *Ляцкий, 51.*

322. Пан наш, а мы панскія. *Tyszk., 414; Шейн, II, 480.*

323. Што пан кажа, слуга мусіць. *Хрэстам., 217.*
   а) Што пан скажа, тое слуга робіць. *Tyszk., 384.*

324. Пан вяліць — будзеш і ногаць галіць. *Сержп., 132.*

325. Калі пан паставіць кія, то і таго слухаць трэба. *Fed., 27.*

326. Скачы, уража, як пан кажа. *Mien., 395; Нос., 149; Дуб., 56; Dybow., 17; Ляцкий, 41; Fed., 321; Pietk., 333.*

327. Хочаш не хочаш, а пану гадзі. *Сержп., 131.*

328. Хоч не хоч, а мусіш ехаць, калі пан вяліць. *Сержп., 29.*

329. Хочаш, не хочаш, а зарагочаш. *В. Іваноўская, 1962, Светл. 8.1.74.*

330. Чаго прымус не зробіць. *Fed., 250.*

331. Чаго няволя не зробіць. *Fed., 202.*

332. Хто не хоча дабравольне, мусіць паняволі. *Fed., 71.*

333. У пана жыць пагана. *Янк., 69; Ахрым., 17; І. Старасценка, 1960, Карм. 13.3.29.*

334. Гора вучыць, а пан мучыць. *М. Жылінскі, 1965, Свісл. 13.10.6. Вар.: Ахрым., 16.*

335. Рак не рыба, кажан не птушка, а няволя не жыццё. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

336. Няма горшай долі, як жыць без волі. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

337. Панская воля — наша доля. *Сержп., 131.*

338. Войт, пан — не бог, а ўвяліцца — жыць не дась. *Добр., Смол, 53.*

339. Надзеў ярмо да і не скінеш. *Сержп., 38.*

340. Узяў кабалу на сваю галаву. *Дуб., 63; Fed., 132.*

341. На карк сеў, на шыі сядзіць. *Ляцкий, 23.*

342. Кось-кось ды й за грыву (у аглоблі). *І. Сурконкін, 1960, Церах. 13.3.29; М. Грынблат, 1970, Круп.*

343. Мужыцкая нядоля горш, як якая няволя. *Ляцкий, 21.*

344. Няволя і плача і скача. *Сержп., 28.*
   а) Няволя і пляшыць і плачыць. *Нос., 94.*

345. Не я скачу, няволя, — застаўляюць панове. *Нос., 110.*

346. І ў сваёй хаце не вольна. *Fed., 50.*

347. Па маёй галаве астанецца ўсё табе: і таўкач, і млён, і старожа, і прыгон. *Дуб., 50.*

348. Ідуць, як на паншчыну. *А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3.*

349. Не крычы дужа: панскі двор недалёка, у пастухі возьмуць. *Нос., 99.*

350. Не крычы, бо на лета за пастуха згодзім. *Fed., 154.*

351. А йдзе пекла? — А ў Альбрэставе. *Нос., 2.*

352. Паздароў, божа, паноў, што ў нас няма ні коней, ні кароў: цяпер нам добра пагуляць, бо нечага заганяць. *Сержп., 130. Вар.: Дуб., 51.*

353. Вот табе і паншчына: кашок зламаўся, панскае везучы, і на свае грошы купі. *Дуб., 9.*

354. Пан — бабская мука. *Ляцкий, 33; Сержп., 130.*

355. Панскія залёты — бабам сухота. *Сержп., 130.*

356. Калі пан жонку залудзе, то й мужык біты будзе. *Ляцкий, 17.*

357. Панскія ванчосы надзелалі нам на спінах начосы. *Нос., Слов., 43.*

358. Прымусная работа самая цяжкая. *Дуб., 45.*

359. Прымуса ў рабоце цяжчэй, чым у ядзе. *Ляцкий, 36.*

360. Дзе панская сіла, там мужыцкая спіна. *М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2.*

361. Прасіў пан на талаку, а не пойдзеш — за лоб павалаку. *Нос., 140. Вар.: Дуб., 46.*

362. Не да каляд, калі загад. *Ляцкий, 25; Сержп., 135.*

363. Чужая ніўка паядаець сілку. *Жанч., 272; А. Ліс, 1963, Міёр.*

364. Дзе п'юць да ядзяць, там Яська не глядяць, а дзе цяжка — ідзі туды, Яська! *Fed., 125.*

365. Пану патрэбна казна — мужыку трашчыць спіна. *Ляцкий, 33.*

366. Таргаваць лягчэй у краме, чым касіць у пана. *Ляцкий, 45.*

367. Паміраць сабірайся, а хлеб пану сей. *М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2.*

368. Хто цягне, таго паганяюць. *Fed., 57.*

369. Які конь цягне, на таго і кладуць. *У. Іваноў, Мінск, 1958.*

370. Валі на чорнага — ён усё звязе. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

371. Як сытыя коні, дык малыя вазы кладуць, а як худыя коні, дык вялікія вазы кладуць. *А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3.*

372. Панскай работы не пераробіш (перадзелаеш). *Fed., 218; С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

373. Панам сеюць, жнуць і косяць, а сабе хлеба просяць. *Янк., 61.*

374. Усё ну да ну, а тпрукнуць некаму. *Нос., 169.*

375. Янук і засеяў і зжаў, а панок сажраў. *Янк., 67.*

376. Мужык у полі надрываецца, а ў пана пуза ўздымаецца. *Янк. М., 107.*

377. Не тэй піва п'ець, хто варыць. *Нос., 104.*

а) Не адны тыя п'юць піва, што вараць. *Нос., 101.*

378. Няхай той тужыць, хто панам служыць. *Сержп., 132.*

379. Двум панам служыць не можна. *Fed., 216.*
   а) Двум панам не служы. *Fed., 289.*

380. Адзін двом панам не ўгодзіць. *Pietk., 383.*

381. Чорт душу вымае, а пан шкуру здымае. *Сержп., 131.*
   а) Чорт душу выме, а пан шкуру здыме. *Fed., 67; Шейн, II, 483, Слон. п.; Сах.*

382. Пан скуру здзірае, а поп душу вымае. *Г. Шымко, 1967, Навагр. 13.10.21; У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4.*

383. Пан рукой матне, а мужыку скуру трахне. *Ляцкий, 33.*

384. Пан іх паяднаў: аднаму і другому ў шкуру даў. *Дуб., 48.*

385. І грошы бярэ і шкуру дзярэ. *Fed., 117.*

386. Галасі не галасі, а панава аддасі. *Д. Ваўчок, 1966, Лід. 13.10.26.*

387. Не ўзяўшы на душу, не хадзіць у кунтушу. *Tyszk., 431.*

388. Цар — указом, а пан — бізуном. *Ахрым., 17.*

389. Поп грабіць слаўцом, а пан бізуном. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29*

390. Не славу пяюць, а мужыка дзяруць. *Ляцкий, 28.*

391. Добра мужык робіць, калі па спіне бізун ходзіць. *Ляцкий, 10.*

392. Не спяшы, мужык, к пану, калі не хочаш быць драны. *Ляцкий, 28.*

393. Дзе толькі мужык з слаўцом, там за ім пуга з вузлом. *Шпил., 108.*

394. Мужык гоп-гоп, а яго хлоп-хлоп. *Ляцкий, 21.*

395. Не рад мужык, што б'юць яго, а то яшчэ нагамі перабірае. *Гильт., 287, Кобр. п.*

а) Не рад мужык, што яго б'юць, — яшчэ й нагамі дрыгае. *Выпісы.*

396. Б'юць і плакаць не вяляць (даюць). *Ром., Зап., I, 215; Ляцкий, 5; Fed., 30; Pietk., 310; Фрав. сл., 33; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

а) І дзяруць і б'юць і плакаць не даюць. *Нос., 54.*

397. Як у Грыцкáх не абдзяруць, у Грыневічах не абкрадуць, а ў Грыцэвічах не заб'юць, то нідзе чэрці не вазьмуць. *Fed., 119.*

398. Чалавек не пень, не будуць біці ўвесь дзень. *Гильт., 290, Пруж. п.*

399. І торба перавернецца, калі дубец завернецца. *Нос., Слов., 637; Дуб., 25.*

400. За маё жыта мяне пабіта. *Киркор, 235. Вар.: Нос., 45; Fed., 194; Дразд.*

а) За наша жыта нам жа пабіта. *Добр., Смол., 15.*

б) За наша жыта ды нас біць. *Сержп., 133.*

в) За мае жыта ды мяне ж біта. *Сержп., 125. Вар.: Pietk., 353.*

г) За маё сіта ды мяне і біта. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

д) За маё дабро да мяне ў рабро. *Ляцкий, 12; Г. Шымко, 1967, Навагр. 13.1.21.*

401. Маім дабром да й мне ж чалом. *Нос., 78.*

402. Маім салам ды па маёй шкуры. *Шейн, II, 478, Гор. п.; Pietk., 341.*

а) Маім салам ды мяне і намазаў. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

403. Маёй пугай ды па маёй жа кабыле. *Шпил., 183; Dybow., 183.*

404. Чы Мікітай па палцы, чы палкай па Мікіце — усё ж Мікіце плоха. *Ляцкий, 59.*

405. У палкі два канцы — адзін канец па нам, а другі па панам. *ДіСБ, 38.*

406. Не бі бабра, не будзе дабра. *Fed., 14.*

а) Калі заб'еш бабра, не будзеш мець дабра. *Tyszk., 413; Нос., 63: Дуб., 32.*

б) Хто заб'е бабра, той не мае дабра. *Dybow., 7. Вар.: Сержп., 128.*

в) Хто ўб'е бабра, таму не будзе дабра. *Pietk., 355.*

г) Хто заб'е бабра, не мецьме дабра. *Fed., 14.*

407. Бабёр дабёр, толька каб сваёй скуры за яго не аддаў. *Ляцкий, 3. Вар.: Дуб., 6.*

408. І за шчэпку пан знойдзе прычэпку. *Ахрым., 115; М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2.*

а) І за шчэпку знойдзе прычэпку. *Сержп., 39.*

б) Прычэпку найдзеш і за шчэпку. *Нос., 139.*

409. Хоча знайсці прычыну, то знайдзе [прычапіцца] хоць за лучыну. *Fed., 248.*

а) За лучынку можна найсці прычынку. *Нос., 45. Вар.: Dybow., 25; Fed., 248.*

410. Што гадзінка, то новая прычынка. *Нос., 188.*

411. Абы прыгана — усё на Сцяпана. *Ляцкий, 1.*

412. За ўцечкі грэюць (чэшуць) плечкі. *Нос., 47. Вар.: Дуб. 24.*

413. Бегламу адна дарога, а пагоншчыкам многа. *Ром., Зап., I, 215.*

414. Паны дзяруцца, мужыком чупрыны трасуцца. *Tyszk., 415.*

а) Паны дзяруцца, а ў мужыкоў хахлы трасуцца. *Нос., 125; Дуб., 51. Вар.: Пар., 129.*

б) Паны дзяруцца, а ў мужыкоў чубы трашчаць. *Дразд.*

в) Як паны дзяруцца, то на мужыках кудры трасуцца. *Fed., 216.*

415. Пан з панам б'ецца, а ў мужыка лоб баліць. *М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29.*

а) Пан з панам б'ецца, а ў мужыка лоб трашчыць. *Шейн. II, 479, Гор. п. Вар.: Булг., 178; Pietk., 333.*

416. Тады перастануць гараваць, як не будзе каму панаваць. *Янк., 63.*

417. Цяпер нас катуеш, можа, калі і сам патанцуеш. *Ляцкий, 57.*

418. Панства іх з канапелькамі перабудзем. *Tyszk., 429; Нос., 124; Дуб., 51.*

419. Вот табе, бабушка, Юр'еў дзень. *Ром., Зап., I, 216.*

420. Гэта табе не падданьства — і я такі самы пан, яшчэ нават лепшы. *Ляцкий, 8.*

421. Пан над самім сабою і над сваёй душою. *Дуб., 51.*

а) Панок бяздушны: пан над самім сабою і над сваёй душою. *Нос., 124.*

422. Быў калісь дваранін, да чорт імя перамяніў. *Нос., 10; Сержп., 97. Вар.: Дуб., 27.*

423. Свет белы: што хочаш, то і дзелай. *Добр., Смол., 15.*

424. Быў пан мудры, драў межы і кудры, прыйшла і яго нядоля — пакінуў гатовае поле. *Рапан., 21.*

425. Гора, гора, гараваннійка, дзе дзелася маё панаваннійка! *Ляцкий, 8.*

426. Ад прыгону аслабанілі ды пад пана пасадзілі. *Ахрым., 13.*

427. Мінуліся тыя рокі, цо паролі бокі. *Fed., 262.*

428. Мінуліся тыя рокі, калі паны браліся ў бокі. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

а) Былі такія рокі, што паны браліся за бокі. *Fed., 216.*

429. Добра паны гандлявалі, слугі на сабакі мянялі. *Fed., 216.*

430. У бяспаншчыне ўсякі сабе пан. *Нос., 19.*

431. Усё не тое, што пры падданстве было. *Ляцкий, 51.*

432. Хоць галодны — абы жыццё свабодна. *1961, Брасл. 13.9.5.*

433. Быў Іван — жыў і пан. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

434. Не вялікі пан, услужыш сабе сам. *Fed., 217.*

435. Не вялікі пан, пералезеш сам. *Czeczot, 112; Мальч., № 42; Нос., 93; Dybow., 184.*

436. Не хваробу робіш, сам можаш зрабіць. *Ляцкий, 29.*

а) Не хваробу робіш, сам здзелай. *Ром., Бел., I, 304.*

437. Казаў пан слугам, а зрабіў сам. *Fed., 217.*

а) Казаў пан, зрабіў сам. *Fed., 141.*

438. Сялянскімі мазалямі і паны былі сыты. *Ахрым., 66.*

439. Паволі, паволі: цяпер не б'юць болі. *Ляцкий, 32.*

440. Свет на волю дадзен. *Добр., Смол., 15.*

441. Маеш волю непрымушану, як сабе хочаш. *Fed., 337.*

442. Хоць спіна гола, ды свая воля. *Шырма, 206.*

443. Хоць хвойку жую, ды на волі жыву. *Сах. Вар.: Добр., Смол., 15.*

444. Вольнаму воля, а шалёнаму поле. *Булг., 176; А. Ліс, 1952, Смарг.*

а) Вольнаму воля, дурному поле. *Л. Лазовік, 1965, Скід. 13.10.4.*

445. Благая зямелька лепей добрага пана. *Рапан., 21.*

446. Нам не прывыкаць гараваць, а прывыкаць панстваваць. *М. Грынблат, 1969, Стол. 8.2.14.*

447. Сялянскаму роду няма пераводу. *Янк., 63.*

448. У мужыка свая праўда. *Ляцкий, 50.*

449. Не так будзе, як пан кажа, а так будзе, як мужык зробіць. *Ахрым., 15; Н. Рында, 1967, Зельв. 13.10.23.*

450. Не будзе аратага, не будзе і багатага. *Сержп., 85.*

а) Не будзе па́хатнікаў, не будзе і ба́рхатнікаў. *Ром., Зап., III, 227.*

451. Без хама не было б пана. *Pietk., 383.*

452. Калі мужык спявае, то пана трасца падкідае. *М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2.*

453. Мужыка ніжэй не разжалуеш. *Янк., 69.*

454. Мужык думкамі багат. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

455. Мужык глядзіць у зямлю, а на сем сажон відзіць. *Нос., 80.*

456. На панскі розум ёсць мужыцка хітрасць. *Fed., 217.*

457. Каб на панскі розум а не нашая хітрасць, прапалі б. *Tyszk., 415; Dybow., 10; Шпил., 181.*

а) Каб не мужыцка наша хітрасць на панску мудрасць, то б мы даўно прапалі. *Fed., 191, 51.*

б) Каб на панскі розум чалавек хітрасці не меў, то б прапаў. *Dybow., 10.*

в) Каб на панску мудрасць не мужыцка хітрасць, то б чалавек прапаў. *Fed., 217.*

458. Каб да панскага розуму не хітрасць мужыцка, то мужык прапаў бы; але штоб да хітрасці мужыцкай розум панскі, то ўжэ заўсім добра б было мужыкові. *Kolb., 472, Пін. п.*

а) Каб на мужыцку хітрасць да панска мудрасць, то было б нештась. *Kolb., 191.*

459. Мужык глядзіць, як варона, а хіцёр, як чорт. *Ляцкий, 21. Вар.: Czeczot, 111; Дуб., 35; Fed., 192; Kolb., 472, Пін. п.*

460. Мужык і чорта перахітрыць. *Н. Божка, 1967, Маладз. 13.10.21; Сцяшк., 598, Гродз.*

461. Мужык і гора перахітрыць. *Г. Шымко, 1967, Навагр. 13.10.21.*

462. Мужыку розум прыходзе па шкодзе. *Ляцкий, 21.*

463. Хоць мы і дурні, а ўсё ж разумней часам васпана. *Ляцкий, 54.*

464. Што ўложыць хам, таго не выйме і пан. *Аним., 265; Шейн, II, 483; Dybow., 19; Сержп., 19, 60.*

а) Што ўкладзець хам, не выймець і пан. *Нос., 190.*

465. Мужык вачам не верыць. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

466. Мужык вачам не верыць, пакуль не памацае пальцам. *М. Грынблат, 1968, Смал.*

467. Мужык не мядзведзь, а мяса аб'есць. *І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35.*

468. Селянін толькі і чуе — дай: богу — на свечку, цару — на падаткі, ксяндзу — на аплаткі. *Хрэстам., 219.*

469. Праўду кажуць — сабачае жыццё мужыка: пан не дае, бог не дапамагае, а самому зарабіць няма дзе. *Хрэстам., 133.*

470. Мужык з бядою ў згодзе. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

471. Паноў радасць збірае, а мужыкоў — гора. *Янк., 62.*

472. Пан з панам пазнаецца, а мы ўсе такі ў бядзе. *Шпил., 172. Вар.: Янк., 70.*

473. На то й мужык, каб працаваў. *Fed., 192.*

474. Калі мужык здароў, дак у яго сем паноў. *Нос., 64.*

475. На цёмнага мужыка прэ злыдняў талака. *Рапан., 27.*

476. Мужык сер, да не чорт яго вум з'еў. *Добр., Смол., 61.*

477. Круль крулюе, пан пануе, а мужык бедны заўсёды гаруе. *Рапан., 25.*

478. Каб панам быў, у масле б плаваў, сырамі папіраўся. *Tyszk., 431.*

479. Каб панам быў, сала ложкаю еў бы, а ў саломе качаўся б, а булкі з-за пазухі ніколі б не выходзілі. *Fed., 217.*

480. Што мужык, а што пан. *Ляцкий, 60.*

481. Пан панам, а мужык мужыком на векі вяком. *Сержп., 131. Вар.: Ром., Бел., I, 301; Fed., 192; Pietk., 379.*

482. Што будзе, то будзе, мужык панам не будзе. *Fed., 193.*

483. Хто маець хлопаў, той маець і клопат. *Дуб., 68.*

484. Як з мужыка зробіцца пан, то колам галавы не дастаць. *Fed., 191.*

а) Як з шэсьдзённіка зробіцца пан, то й колам галавы не дастаць. *Fed., 299.*

485. Як выбіўся ў паны, то і дзверы стаў адчыняць нагою. *Рапан., 60.*

486. Сто коп не грошы, а мужык не пан. *Дуб., 58; Нос., 80.*

а) Рубель не грошы, мужык не пан. *М. Бохан, 1964, Маст. 13.10.3.*

487. Мужыку з панам не зраўняцца. *Fed., 192.*

488. Ратуй, пане, ад пана, а ад свайго брата і сам адратуюся. *Сержп., 137.*

а) Ратуй, пане, ад пана, а ад мужыка сам адратуюся. *Ляцкий, 38.*

489. Чаму ж бы не пан, а мужык, калі б не мужыцкі язык. *Ляцкий, 57.*

490. Каб ты быў пан, насіў бы жупан. *Ляцкий, 15.*

491. Поп — дзярун. *М. Грынблат, 1946, Староб. 8.1.3.*

492. Поп — клоп. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

493. Дзярэ каза лазу, а воўк казу, а мужык воўка, а поп мужыка. *Fed., 141.*

494. У папа вочы завідушчыя, а рукі заграбушчыя. *Сержп., 139; А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44. Вар.: Дуб., 9.*

495. Папоўскае вока бачыць далёка. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

496. Не так у папа валасы доўгі, як рукі. *Ляцкий, 28. Вар.: Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6; Т. Багдзевіч, 1963, Воран. 13.10.6а.*

497. У папа, кажуць, дзве рукі: адна, што ксціць, другая, што бярэць, а тэй, што даець, — тэй няма. *Шейн, II, 482, Гор. п.*

498. У папа шырокія рукава. *Fed., 241.*

499. З паповых рукавоў вышла б пяцера штаноў. *Бел. народ, 136.*

500. Папова вока, а воўча горла. *Fed., 240.*

а) Воўча горла, а папова вока — то нароўні. *Fed., 340.*

б) Паповае вока, воўчае горла ўсё бы зжорла. *Pietk., 332.*

501. Паповы вочы ніколі не поўны. *Шейн, II 375, Барыс. п.*

502. Божавольнага горла шырока. *Нос., Слов., 11.*

503. Папова пуза на сем аўчын шыта. *В. Курбацкі, 1960, Карм. 13.3.29.*

504. У папа мяшок без дна. *Бел. народ, 137.*

505. Поп з жывога і мёртвага дзярэ. *І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3; Добр., Смол., 85.*

а) Поп і за жывога і за мёртвага бярэць. *Нос., 134.*

506. Радзіся, хрысціся, жаніся, памірай — за ўсё грошы аддай. *Сержп., 139.*

а) Радзіся, жаніся і памірай, а ўсё папу грошы давай. *Хрэстам., 219; Н. Божка, 1967, Маладз. 13.10.21.*

507. Поп па кішэні малебен служыць. *Хрэстам., 219.*

508. Поп адно ўмее браць, а не знае, як даць. *Fed., 240.*

509. К папу з пустымі рукамі не ідзі. *В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

510. «Дай» — любіць поп усякі, а «на» — ніякі. *Хрэстам., 136.*

511. Конь любіць авёс, а поп — каб прынёс. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29; Н. Божка, 1967, Маладз. 13.10.21.*

512. Поп ласкавы ў той час, як дасі яму сала і кілбас. *Рапан., 71.*

513. Адной малітвай грахоў не адбудзеш: заграбі хлеба капу і цягні папу. *Бел. народ, 135.*

514. Карман сухі, дык і поп глухі. *«Чырв. змена», 15 жніўня 1954 г.*

515. Які боб, такі поп. *К. Цвірка 1971, Кап.*

516. Адзін свечку, другі свечку, а папу на авечку. *А. С. Фядосік, 1960, Нясв. 8.1.54; Янк. М., 10.*

а) Адзін свечку, другі свечку — папу яшчэ адна авечка. *Бел. народ, 136.*

517. Кукарэку — папу на тарэлку. *Нос., 70.*

518. Каму клапатно, а папу палатно. *Сержп., 11.*

а) Роду клапатно, а папу палатно. *Fed., 261.*

519. Людзі ох да ой, а папу палатна свой. *Сержп., 130.*

520. Вяселле, хрысціны — папу (ксяндзу) добрыя гадзіны. *Я. Касач, 1966, Дзятл. 13.10.6; Янк. М., 55; Сцяшк., 584, Воран.*

а) Вяселле, хрысціны і мярліны — то папу добрыя гадзіны. *Fed., 241.*

521. Адна радасць папу: што вяселле, што хаўтуры. *К. Кабашнікаў, 1963, Вайк. 8.1.84; М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.20.*

а) Папу адна радасць: ці памінкі, ці хрысціны — усё роўна даюць. *Янк. М., 55.*

522. Каму мяртвец, а папу тавараэц. *Бел. народ, 137.*

523. Галасі не галасі, а папова аддасі. *Сержп., 138; Добр., Смол., 85.*

524. Папы звоняць, бо іх на паншчыну не гоняць. *Рапан., 70.*

525. Поп і пятух, не з'еўшы, не пяюць. *«Чырв. змена», 15 жніўня 1954 г.*

526. За грошы поп і чорта пацалуе. *М. Шавель, 1960, Іван. 13.9.24.*

527. У папа рэшты не пытайся. *Сержп., 139.*

а) У папа здачы не бывае. *«Чырв. змена», 15 жніўня 1960 г.*

б) Поп здачы не дае. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

528. І поп бы піў, каб чорт гарэлкі купіў. *1961, Брасл. 13.9.5.*

529. Ад папа, як ад чорта, не адхрысцішся. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

530. Ад звера адаб'юся, ад злодзея адаб'юся, ад папа ж не адмалюся. *«Звязда», 21 кастрычніка 1969 г., М. Панасюк, Іван.*

531. Папы ходзяць з хаты, ідзе жывець худэй і багаты. *Добр., Смол., 85.*

532. Хто папа гадуе, той сам пашкадуе. *Бел. народ, 147.*

533. Не для Ісуса, а для хлеба куса. *Нос., 96; Сержп., 139.*

а) Не для Хрыстуса, да для хлеба куса. *Fed., 55.*

б) Не для Язуса, але для хлеба куса. *Fed., 131.*

в) Поп служыць не для Ісуса, а для хлеба куса. *Хрэстам., 218.*

534. Трэбнік — папоўскі хлебнік. *Дуб., 59; Нос., 164.*

535. Пісар жыве з пяра, а поп з аўтара́. *Fed., 235.*

536. Ідуць у папы дзяля смачнейшай яды. *Бел. народ, 138.*

537. Каб добра было служыць, то й поп пакінуў бы клябаню, а пашоў бы служыць. *Fed., 284.*

538. Нікому няма лучшай, як папу да кату. *Pietk., 386.*

539. Цяпер жыццё папом ды катом. *Сержп., 139.*

540. Папу, як кату, — лёгка жывецца. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

541. Цяпер жыць папам дэ й ваўкам. *Fed., 240.*

542. Поп (ксёндз) і дохтар і ў лесе з голаду не памрэ. *Fed., 240, 241; Dybow., 7.*

543. Гудзім папа, а поп, як ягада. *Fed., 240.*

544. Кот і поп, не паварчаўшы, не стануць есці. *Нос., 68.*

545. Каму што, а папу яечня. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

546. Ад таго поп і гладак, што наеўся ды й набак. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

547. Паповы коні на мужыковым лузе. *Ляцкий, 33.*

548. Для паповых цялят воўку ў лес не ісці. *Fed., 240.*

549. Дзеля паповых цялят ваўку ў вароты не можна глянуць. *Ляцкий, 10.*

550. Хто хоча гора зажыць, няхай ідзе да папа служыць. *Fed., 113.*

551. У папа пуза таўсцее, а ў батрака спіна млее. *Бел. народ, 136.*

552. Хто поп, тэй і бацька. *Нос., 177.*

а) Што поп, то і бацька. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

553. Кожны поп сваю веру адстойвае. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

554. Які поп, такі яго і прыход. *Нос., 194; Ляцкий, 62; Сержп., 139; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29; І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

а) Які поп, такая парахвія. *Fed., 240. Вар.: Fed., 221.*

555. Які поп (ксёндз), такое благаславенне. *Нос., Слов., 726; Fed., 18.*

556. Дванаццаць папоў, і кажды па-свойму моліцца. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

557. Новы поп — новыя парадкі. *1959, Круп. 8.1.42.*

а) Новы поп — новае маленне. *А. Хутко, 1966, Зельв.* 13.10.26.

б) Што новы поп, то новая пропаведзь. *В.Ківель, 1967, Нясв. 13.10.21.*

в) Што поп, то новыя й пацеры. *Ляцкий, 60.*

558. У чужой парахвіі нечага ўказываць. *Нос., 21; Калянд.,* 1921; *Дуб., 65.*

559. У чужой царкве не папраўляй свячэй. *Нос., 21.*

а) У чужой цэркві (чужым касцёле) свечак не папраўляй. *Pietk., 316; Tyszk., 421.*

560. У свежу парафію з сваім звычаем не прыходзь. *Fed., 362.*

561. Бацюшку і петуху — пей і пей. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

562. Поп запяе, а каваль закуе. *Сержп., 51.*

563. Загрызла папа грамата. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

564. Поп на дзве абедні не служыць. *Нос., 134; Сержп., 36.*

565. Мы ведаем без папа, што ў нядзелю свята. *Булг., 177; Fed., 200; А. Ліс, 1952, Смарг.; 1961, Кап. 13.9.5.*

а) Вядома і без папа, што ў нядзелю свята. *Ром., Мат., 85.*

566. Дурны той поп, што свята не знае. *Ляцкий, 11.*

567. Папа ведаюць усе, а поп нікога. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

568. Папа ўсе знаюць, а поп — багатых. *Бел. народ, 136. Вар.: I. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

569. З бальшым пузам на папоў двор. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25. Вар.: Добр., Смол., 85.*

а) З доўгімі рукамі на папоў двор. *Ром., Бел., I, 297.*

570. На покуці сядзіць ці поп, ці дурань. *Сержп., 61.*

571. Поп грахі ўзнаў да ў паліцыю перадаў. *А. Фядосік, 1960, Нясв. 8.1.54.*

572. Папу не веру, бо ён брэша без меры. *Хрэстам., 258.*

573. У цябе праўды, як у папа з ксяндзом. *В. Дашкоўская, 1965, Вайк. 13.10.2.*

574. У святых айцоў не знойдзеш канцоў. *М. Пяткевіч, 1964, Ашм. 13.10.3; П. Мушчук, 1965, Вайк. 13.10.5.*

575. Папу і сабаку ўсё вольна. *Ахрым., 16.*

576. Старасць не радасць, а поп не таварыш. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

577. З папом дружыць — дурнем быць. *Хрэстам., 219.*

578. Хто ідзе? — Чорт! — Добра, што хоць не поп. *Fed., 240.*

579. Чорт папу таварыш. *Fed., 67.*

580. Папы і чэрці адной шэрсці. *Бел. народ. 135.*

581. Не нам судзіць папа — на тое есцяка чорт. *Pietk., 386. Вар.: Добр., Смол., 85.*

582. За папом чорт ходзіць следам, нібы цень. *Хрэстам., 219.*

583. Хто на каго, а чорт на папа. *Д. Шаўчэнка, 1957, Маз. 13.3.29.*

584. Паміж чартом і папом такая ж розніца, як паміж казою і казлом. *Н. Васілюк, 1958, Антоп.*

585. І чорт без папа не абыйдзецца. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

586. Поп свае, чорт свае. *Czeczot, 113.*

а) Поп сваё, а чорт сваё: аддай маю малітву. *Нос., 134; Dybow., 16. Вар.: Радч., 249; Fed., 67; Pietk., 338; Мін.-Мал., 1970, 165, Узда.*

587. Поп кажа абразы́, а чорт кажа луб'е. *Pietk., 337.*

588. Бог стварыў два зла: папа і казла. *Н. Божка, 1967, Маладз. 13.10.21.*

589. Цару — карона, а папам — смалёная варона. *М. Грынблат, 1964, Сен. 8.1.87.*

590. Ад псалты́ра скочыў да алта́ра. *Нос., 122.*

591. Пачнем і без папа. *Fed., 203.*

592. На бязлюддзе і поп чалавек. *Нос., Слов., 21.*

а) У недастатку людзей, то і поп чалавек. *Fed., 241.*

б) У аднаселлі і поп чалавек. *Fed., 5.*

в) У чужой старане то й поп чалавек. *Fed., 290.*

593. Няўжо ж я дурней за папа? *Радч., 247.*

594. Папу таму хоць у мех лезь. *К. Кабашнікаў, 1962, Гом. 8.1.77.*

595. Пазнаюць папа і ў рагожцы. *Нос., 130.*

596. Папову сабаку не бацькай зваць. *І. Хаўратовіч, 1951, Кругл. 13.8.4.*

597. Поп — аб землю шлёп. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

598. Поп з гармошкай. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

599. Хто з кім, а поп (ксёндз) з Каськаю. *Fed., 133; Нос., 177.*
а) Хто дзеля каго, а поп каля Касі. *Ляцкий, 55.*

600. Поп людзей карае, а сам бабу валяе. *Dybow., 16.*
а) Поп бабы карае, а сам дзеўкі валяе. *Fed., 240.*

601. Поп людзей карае, а сам што вытварае. *Бел. народ, 139. Вар.: Зах., 251.*

602. Поп ігрышча бароніць, а сам на ніх ходзіць. *Fed., 240.*

603. Поп у гасцях, а чэрці на пагосце. *Дуб., Нар., 23.*

604. Пáкі-пáкі, дай, поп, табакі. *Нос., 124.*

605. І ў уладыкі не два языкі, а адзін. *Fed., 319.*

606. Сабака злая і на ўладыку лае. *Нос., 152.*
а) Вольна сабаку і на ўладыку лаяць. *Ром., Зап., I, 216.*

607. Датуль пападзя княгіня, пакуль поп не згіне. *Шейн, II, 476, Ігум. п.; Ляцкий, 9; М. Бабарыкіна, 1966, Чачэр. 13.3.29.*

а) Як поп не згіне, дык і пападдзя княгіня. *Ром., Бел., I, 316.*

608. Калі папу ўдаецца, то і пападдзя смяецца. *Ляцкий, 17; Сержп., 139.*

609. Поп у царкве пяець, а пападдзя бліны пячэць. *Ляцкий, 35.*

610. Яна не поп, бярэць і боб. *Ляцкий, 14.*

611. Дзякуй за ласку, пападдзя пасвенціць паску. *Дуб., 16.*

612. Не канечне папу яечня, з'есць і пападдзя. *Міеп., 395.*

613. Папова жана хужа ўсіх жон. *Ляцкий, 33.*

614. У нашай пападдзі і поп не заўсёды дастане. *Ляцкий, 50; Сержп., 67.*

615. У нашай пападдзі тры кутасы назадзі. *Нос., 168.*

616. Што папіха, то не дзячыха. *Fed., 219.*

617. Хто любіць папа, а хто пападдзю. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

618. Хто любіць папа, а хто пападдзю, а я, дурачок, люблю паповых дачок. *Нос., 176; Pietk., 329.*

619. Няма нікому так, як ксяндзу ды кату: абодва ляжаць і хлеб задарам ядзяць. *Янк. М., 45.*

620. На пацеры ксёндз дагадаецца, але працаваць не збіраецца. *Бел. народ, 139.*

621. Ксёндз кажа: «Падай, падай, божа, што высока, а што нізка, дык я сам вазьму». *«Чырв. змена», 15 жніўня 1954 г.*

622. Мужык толькі піва заварыў, а ксёндз ужо з вядром стаіць. *В. Курбацкі, 1960, Карм. 13.3.29.*

623. Ксяндзоўскі слуга сагнуўся, як дуга. *Дуб., 29; Янк. М., 97.*

624. Я ксяндзоўскі слуга, сагнуўся, як дуга; як жа мне не сагнуцца, калі нечым апрануцца. *Нос., 194.*

625. Дармо ксёндз казаў. *Ляцкий, 9.*

626. Ад Альвара проста да алтара. *Нос., Слов., 5.*

627. Ксёндз з панам-богам едзе, а сабака брэша. *Fed., 269.*

628. Каб я быў ксёндз [чы поп], то б знаў, калі свята. *Ляцкий, 157.*

629. Ксяндзоўская ахмістрыня, аканомская кабыла, а мельнікава свіння — то на адной меры. *Fed., 155.*

630. Ксёндз і поп знаюць, калі свята, бо нічога не робяць. *Рапан., 67.*

631. Будзеш мець плеш — не будзеш хадзіць. *Дуб., 6.*

632. Чорная рыза не спасець, а белая ў грэх не ўвядзець. *Нос., 183; Сержп., 11.*

633. Пусці чорта да касцёла, то ён і на алтар палезе. *Fed., 68.*

634. Дзякан, не ўвякай вельмі дужа. *Сержп., 72.*

635. Поп багатае, а дзяк казлячыць. *Сержп., 139.*

636. Не канечне папу яечня. *Сержп., 7; Fed., 240.*

637. Не канечне для папа яечня, можа і дзяк з'есці. *Ляцкий, 26.*

а) Не канечне папу яечня; з'есць і дзяк, а поп будзець і так. *Нос., 99.*

б) Канешне, папу яешня, а дзяк ба з'еў, ды далёка сеў. *Юрч., 1969, 103.*

638. Поп саграшыў, а дзяка вешаюць. *Нос., 134.*

639. Пашоў дзяк паповага парабка глядзець. *Fed., 90.*

640. Дзяк — аб зямлю гак. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

641. Дзякоўна папоўне не роўна. *Нос., 35.*

642. Адзваніў — і з званіцы далоў. *Никиф., 1, 201.*

643. Паланамар грошы абабраў. *Ляцкий, 33. Вар.: Антырэліг. казкі, 199.*

644. Панамар свечы паламаў. *Нос., 132; Дуб., 52.*

645. Алтарысты і арганісты не ўсе на рукі чысты. *Нос., Слов., 5.*

646. Я не арганіст — не перабіраю. *Нос., 197; Fed., 9.*

а) Я не арганісты, пальцамі не перабіраю. *Fed., 9.*

647. Калі б у манастыры дровы рубалі, туды б не ўцякалі. *Бел. народ, 139.*

648. Манах бяжыць ад работы, як чорт ад крыжа. *Бел. народ, 139.*

649. Чарней за манаха не знойдзеш. *Бел. народ, 139.*

650. Манах не кот, малака не п'е, а віна падавай. *«Чырв. змена», 15 жніўня 1954 г.*

651. Чарнец пацеркі раскрывае, але на маладзіц паглядае. *А. Фядосік, 1960, Нясв. 8.1.54.*

652. У чужы манастыр з сваім уставам не ходзяць. *Нос., 21.*

## ЧЫНОЎНІЦТВА. НАЧАЛЬСТВА. КАЗНА. ПАДАТКІ. ХАБАРНІЦТВА

653. Хавай свае мёды для пана ваяводы. *Fed., 187.*

654. Камісар не цар. *Сержп., 25.*

655. У сваім стане і прыстаў цар. *Янк., 71; Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

656. Дзе стан, там і сіла. *Dybow., 9; Fed., 289.*

657. Масла міравому, сала станавому, а конь за труды — паехаць хоць куды. *Ляцкий, 20.*

658. Што ў тым цітуле, калі нет у шкатуле. *Вас., 22.*

a) Чорт па тытуле, калі пусткі ў шкатуле. *Fed., 316.*

659. Сядзіць на двох столках. *Дуб., Нар., 1.*

660. Юрысты на рукі нячысты. *Янк., 71.*

661. Каза лазу дзярэ, казу дзярэ пастух, пастуха дзярэ пан, а пана дзярэ юрыст, а юрыста чартоў трыста. *Fed., 141.*

662. Мужык плачыць, да даець, сельскі моршчыцца, да п'ець. *Добр., Смол., 119.*

663. Што пісар зробіць, — сам чорт не пераробіць. *Шейн, II, 483, Слон. п.; Fed., 235.*

664. Прадаў каня Ісару, а дзела маю з пісарам. *Л. Лазовік, 1965, Скід. 13.10.4.*

665. Поп (ксёндз) жывець з алтáра, а пісар з каламáра. *Нос., 134; Дуб., 48; Fed., 155.*

а) Поп жыве з алтарá, а пісар з пярá. *Fed., 241.*

666. Быць таму так, як пісцы напісалі. *Ром., Зап., I, 215.*

667. Быць так, як памеціў дзяк. *Ром., Зап., I, 215.*

668. Пасланца не сякуць, не рубаюць. *Fed., 222; Pietk., 384.*

а) Пасланца не сцінаюць, не вешаюць. *Нос., Слов., 480; Дуб., 52.*

б) Пасланца не б'юць, не вешаюць. *1961, Брасл. 13.9.6.*

669. Начальніку — і воўчы рот і лісіны хвост. *Янк., 69.*

670. Не чын чалавека падвышае, але чалавек чын. *Fed., 70.*

671. Не чын уважаюць, а чалавека па яго праўдзе. *Нос., 109.*

672. Грыбок, — на бок, баравік ідзець. *Нос., Слов., 31.*

673. Калі паставілі кія, то й таго трэба слухаць. *Fed., 292.*

674. Клец паставяць — і тóга бойся. *Добр., Смол., 119.*

675. Старшы і ў пекле ёсць. *Ляцкий, 42.*

676. Варона малая, а горла вялікае. *М. Гайлік, 1966, Свісл. 13.10.26.*

677. Вялікага сабакі вялікі брэх. *Шпил., 176.*

678. Большаму каню — большы хамут. *Нос., 8; Дуб., 5.*

а) Вялікаму каню — вялікі хамут. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

679. З начальствам сварыцца, што супраць ветру ваду ліць,— заўсёды абальешся. *Д. Шаўчэнка, 1957, Маз. 13.3.29.*

680. Трудна процi ветру дыхаць. *Tyszk., 414; Шпіл., 190; Dybow., 190. Вар.: Нос., 164.*

681. Процiў ветру не спышашся. *Нос., 141.*

а) Супраць буры не падышаш. *В. Скідан, 1970. Швянчонскі р-н ЛітССР, 8.2.32.*

682. Гаварыў бы каток, да язык караток. *Шпіл., 177; Нос., 25; Fed., 150; Pietk., 320; Сах.*

683. Каждаму чорту не ўгодзіш. *Fed., 68.*

684. Загадай кату, дык кот хвасту. *Янк. М., 55.*

685. Калі галава не да суду, дык і с... не да крэсла. *Дуб., Нар., 34.*

686. Рыбіна першы з галавы ваніць, а пасля з хваста. *Сап., 262.*

а) Рыба пачынае смярдзець з галавы. *Fed., 346.*

687. Высока лятаеш, ды дзе ты сядзеш? *Сержп., 136.*

688. Высока лятаеш — нізка ўпадзеш. *І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35; Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

а) Высока паляціш, дык нізка сядзеш. *Ахрым., 24.*

б) Высока ўзляцеў, каб нізка не сеў. *Сержп., 31.*

в) Высока падляцеў, да нізка сеў. *Fed., 209.*

г) Высока стаў — нізка сядзеш. *М. Мельнічэнка, 1950. Гом. 13.3.29.*

689. Хто высока лятае, той нізка сядае. *Fed., 160.*

а) Хто высока заглядае, той нізка сядае. *Fed., 347.*

б) Хто высока сядзе, той мацней ўпа́дзе. *Г. Цітовіч, 1963, Кар.*

690. Зваліўшыся з высакосці, часам паламаеш свае косці. *Нос., 48; Дуб., 21.*

а) Зваліўся з высакосці — паламаў косці. *Fed., 361.*

691. Вышай паднімешся — мацней паб'ешся, як скінешся. *Мін.-Мал., 1970, 159, Пух.*

692. Каб на хмель не мароз, дык бы тын перарос. *Ляцкий, 15. Вар.: А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

693. Будзе і на крапіву мароз. *Fed., 152; Сцяшк., 582, Шчуч.*

694. Прышоў мароз на крапіву. *Fed., 178.*

695. Маланка ззяе, ззяе да і бліснe. *Дуб., 34.*

696. Лятаў бы высока, ды не сокал. *1961, Кап. 13.9.5.*

697. Быў піўнічым, а цяпер нічым. *Dybow., 5.*

а) Быў піўнічым, а астаўся нічым. *Fed., 236; 1961, Кап. 13.9.5.*

б) Быў ляснічым, а цяпер нічым. *Fed., 161.*

698. Не дзяржаўся за грыву, за хвост не ўдзержышся. *Ром., Зап., III, 227.*

699. Не ўсе старыя шчукі карасёў хватаюць. *Шпил., 186.*

700. На тое шчупак у моры, каб карасі не драмалі. *Fed., 298. Вар.: Нос., 89.*

701. Ведаў бог, што не даў свінні рог. *Tyszk., 429.*

а) Відзеў бог, што не даў свінні рог, а то бы ўвесь свет перавярнула б. *Гильт., 292, Віл. п.*

б) Бачыў бог, што не даў свінні рог, бо ўсей свет спарола б. *Fed., 308.*

в) Каб свіння мела рогі, то б цэлы свет пабарола. *Fed., 308.*

г) Каб свінні рогі, не саступіла б з дарогі. *Крапіва, 250. Вар.: Fed., 308.*

д) Дай свінні рогі, то не будзе дарогі. *В.Ківель, 1967, Нясв. 13.10.21.*

702. Давялося свінні на неба зірнуць. *Сержп., 132.*

703. Новы гаспадар — і новы парадак. *Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5.*

704. Новая мятла і па-новаму мяце. *Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5.*

а) Новая мятла па-свойму мяце. *А. Махнач, 1952, Уздз.*

705. Новая мятла чыста мяце. *Pietk., 330.*

а) Новы венік чыста мяце. *Ляцкий, 29.*

706. Святое месца не будзець пуста. *Нос., 148.*

а) Свята месца пуста не бывае. *Л. Царанкоў, 1961, Мінск 13.9.2.*

707. Апанавалі чэрці святое месца. *Нос., 120.*

708. Як бог у Адэсе, на цёплым месце. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

709. Балота без чорта не будзе. *Dybow., 5. Вар.: Сержп., 76; Добр., Смол., 132; І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3; Т. Сайкоўская, 1965, Ашм. 13.10.6.*

а) Балота без чорта, а чорт без балота не будзе. *Fed., 21, 66; Pietk., 310.*

б) Чорт без балота не будзець, а балота без чорта. *Tyszk., 414; Dybow., 191.*

в) Балота не бываець без чорта. *Нос., 7; Fed., 21.*

г) Балота без чарцей не жыве. *Fed., 21. Вар.: Дразд.*

710. На кожнае балота чорт знайдзецца. *Fed., 21.*

711. Была б балота — чарцей многа будзець. *Добр., Смол., 132.*

а) Абы балота, то чорт будзе. *Fed., 21. Вар.: Сержп., 77.*

б) Абы балота, чорт найдзецца. *Pietk., 310.*

в) Дзе балота, туды й чорт. *Шпил., 177.*

712. Быў бы куст, а варона знайдзецца. *Мін.-Мал., 1970, 158. Пух.*

713. Вялікага балота кулік. *Міcп., 396; Ляцкий, 13; Pietk., 375.*

а) Гэта кулік вялікага балота. *Tyszk., 425; Шейн, II, 475.*

714. Кожды кулік на сваём балоце вялік. *Dybow., 12; Дуб., 26.*

715. Кулік куліка відзіць здаляка. *Нос., 70.*

716. Грач грачу не дзярэ ачу. *Fed., 97.*

а) Драч драчу не дзярэ ачу. *Fed., 81.*

717. Воран ворану вока не клюець. *Нос., 16.*

а) Воран ворану глаза не выклюнець, а хаця і выклюнець, ды не выташчыць. *Ром., Зап., I, 215.*

718. Крук крука за чуб не бярэць. *Шпил., 183.*

719. Воўк воўка нідзе яшчэ не з'еў. *В Санько, 1969, Слуцк.*

720. Яго званіца вышэй — з яе далей відаць. *Л. Царанкоў, 1960, Брэсц. 13.9.2.*

721. Чым менш блыха, тым горш дапякае. *Fed., 32.*

а) Чым меней блыха, тым мацней кусае. *І. Ціщчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

722. Малы жук, а вялік гук. *Сержп., 56; Дуб., 34.*

723. Над пешым арлом і сарока з калом. *Нос., 84.*

724. Вышы лба глаза не лезуць. *Аним., 262.*

725. Лепей пакланіцца галаве, як нагам. *Fed., 100.*

726. Скарб багацей нас. *Дуб., 55.*

727. Казна на слёзы не глядзіць. *Fed., 143.*

728. Казённае і ў агню не прападзе. *Dybow., 12; Fed., 143.*

а) Казённае дабро і ў агні не гарыць, і ў вадзе не топіцца, і ў злодзея знайдзецца. *Ром., Мат., 84.*

729. Казённага чорт не возьме. *Fed., 143.*

730. Якія тут святкі, калі лупяць падаткі. *Хрэстам., 219.*

731. Ад налогу няма дапамогу. *Сержп., 77.*

732. Хоча драць з аднаго вала дзве скуры. *Fed., 337.*

а) З аднаго вала дзвёх шкур не дзяруць. *Tyszk., 422; Сержп., 99; А. Гурскі, 1960, Слуцк. 8.1.51. Вар.: Fed., 337.*

б) З аднаго вала сем скур не дзяруць. *Нос., 158. Вар.: Fed., 278, 337; Pietk., 350; 1961, Брасл. 13.9.5.*

в) З аднаго зайчыка сем шкурак не дзяруць. *І. Саламевіч, 1975, Слон.*

733. Хоць засіліся, а падай. *Сержп., 135.*

734. Бізун да падаткі — панскія парадкі. *І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3.*

735. Не плаціць багаты, але вінаваты. *Tyszk., 434; Czeczot, 112; Киркор, 236; Шпил., 186; Нос., 101; Ляцкий, 27; Fed., 333; Pietk., 397; І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3.*

а) Плаціць не багаты, а вінаваты. *Дуб., 48; Pietk., 386. Вар.: Сержп., 126.*

736. К яму не едзь з голымі рукамі. *Ром., Бел., I, 299; Ляцкий, 18.*

737. Ніхто не любіць з носам, а з прыносам. *Нос., 114.*

а) Не любяць з носам, а з прыносам. *Сцяшк., 601, Слон.*

б) Нікога не любяць з носам, да з прыносам. *Fed., 205.*

738. Хто ідзе з прыносам, а хто і так, з доўгім носам. *1961, Кап. 13.9.5.*

739. Не садзі носа, дзе не даў гроша. *Fed., 205.*

740. Ку́ку ў ру́ку. *Шпил., 183.*

а) Усюды трэба куку ў руку. *Fed., 156.*

741. Курачка сакочыць, яечка хочыць. *Нос., 71.*

742. Палажы на руку, пайдзець дзела ў руку. *Нос., 132.*

743. Рука руку мыець. *Нос., 145; Dybow., 17; Сержп., 138.*

744. Рука руку мые, нага нагу падпірае. *Янк. М., 39.*

а) Нага ногу падпірае, рука руку абмывае. *Fed., 195.*

б) Рука руку мыець, чорт чорта крыець. *Г. Юрчанка, 1975, Мсцісл.*

745. Рука руку моець, каб белы былі. *Mien., 395.*

а) Рука руку мые, каб абедзве белыя былі. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

746. Хто мажа, той едзе. *Ляцкий, 55; Pietk., 329.*

а) Хто шмаруе, той і едзе. *Dybow., 7; Fed., 300.*

б) Калі мажаш, то й едзеш. *Дуб., Нар., 2.*

747. Не падмажаш — не паедзеш. *Нос., 101; Бяльк., 305, Краснап.*

а) Не мазаўшы, не паедзеш. *Fed., 181.*

б) Не падмасліўшы, не паедзеш. *Дуб., 42.*

748. Як памажаш, так і паедзеш. *Шейн, II, 483, Ігум. п.*

а) Як пашмаруеш, так і паедзеш. *Fed., 323.*

749. Непамазаныя калёсы скрыпяць. *Ром., Зап., III, 225.*

а) Нямазаныя калёсы заўсёды пішчаць. *А. Махнач, 1952, Узд. 13.10.15.*

б) Нямазаныя калёсы далёка чутны. *Г. Юрчанка, 1975, Мсціс.*

750. Без падмазкі блін не адстанець. *Сах.*

751. Як падмáсціць ды падмáсліць, дык і дадуць. *Сержп., 125.*

752. Сухая ложка рот дзярэць. *Нос., 157; Ром., Зап., III, 231; В. Таранка, 1965, Скід. 13.10.1.*

753. Сухі гарох да сцяны не ліпне. *Сцяшк., 609, Воран.*

754. Падмазваць — і сябе замазваць. *Янк., 34.*

755. За акцыдэнцыю бываець ліска без хваста. *Нос., Слов., 4.*

756. Каля вады ходзячы, умочышся. *Tyszk., 422; Нос., 66; Dybow., 11; Дуб., 27; В. Калюк, 1965, Навагр. 13.10.6.*

а) Каля вады хадзіўшы, памочышся. *А. Махнач, 1952, Узд. 13.10.15.*

757. Каля вады памочышся, кала дабра пажывішся. *Fed., 325.*

а) Хадзіўшы ля вады, абмочышся, а ля дабра пажывішся. *Pietk., 349.*

758. Кала вады ўмочышся, а кала мукі абéлішся. *Fed., 325.*

а) Кала мукі ходзячы, апылішся, кала вады намочышся. *Fed., 190.*

б) Ходзячы каля мукі, запылішся. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

759. Хто кала чаго ходзіць, мусіць у то ўмарацца. *Нос., 176.*

а) Кала чаго ходзіш, у тое і абробішся. *Мін.-Мал., 1970, 161, Уздз.*

760. Адзін чорт да й тэй умазаўся. *Нос., Слов., 658.*

761. Як рука ў муку, то вырáчка за руку. *Т. Багдзевіч, 1965. Шчуч. 13.10.6.*

762. Хто аглядаў, той аблізаў. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

763. Хто часныку не есць, у таго з губы смярдзець не будзе. *Fed., 65.*

а) Хто не еў часныку, той смярдзець не будзе. *Fed., 65.*

б) Хто часнаку не еў, таго душа не ваняець. *Tyszk., 417.*

в) Чыя душа часнаку не ела, то й пахнуць не будзець. *Нос., 183.*

г) Як ба душа не ела часнаку, не пахла б. *Добр., Смол., 13.*

764. Гдзе пакатаецца скацінка, там астанецца шарсцінка. *Аним., 262; Шейн, II, 474.*

765. На пах і пчолы ляцяць. *Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5.*

## СУД. ЗАКОНЫ. ТУРМА

766. Лепш утапіцца, чым судзіцца. *Сержп., 185.*

767. Лепш сваім паступіцца, чым судзіцца. *Сержп., 185.*

768. Не давай, божа, лячыцца ды судзіцца. *Сержп., 185.*

769. З суда, як з пруда,— сухі не выйдзеш. *Ахрым., 14; Янк. М., 45.*

770. Як пачнецца цяганіна—не раз упрэе чупрына. *Сержп., 185.*

771. Стаў па судах цягацца — прыдзецца за торбу ўзяцца. *Сержп., 185.*

772. Хто судзіцца, той ну́дзіцца. *Сержп., 185.*

773. На суд не просяць, а суд завядзеш — не бросяць. *Добр., Смол., 118.*

774. Суды весці — не лапці плесці. *Сержп., 185.*

775. Па су́дзе то другое будзе. *Ляцкий, 34.*

776. За правінку чэшуць спінку. *Нос., 46.*

777. Які паступак, такая й пакута. *Нос., Слов., 460.*

778. Чыя віна, таго кара. *Fed., 333.*

779. Чый грэх, таго й атвет. *Крэмнеў.*

780. На грэх майстра нет. *Крэмнеў.*

781. Была б спіна, дык і віна знойдзецца. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

782. Абы віна, то шыя будзе. *Fed., 333.*

783. Ні за бацьку, ні за матку папалася. *Нос., 112.*

784. Няма з каго спаганяць, калі сам вінават. *Ахрым., 115.*

785. Хто з'еў дулі — таго й дулі. *Ляцкий, 55.*

786. Асудзіў — горшэй, як забіў. *Сержп., 4.*

787. У сваёй справе сам не суддзя. *Сержп., 185.*

788. Ніхто сам сабе не суддзя. *Сержп., 185.*

789. Калі павесяць, дык не ўтопяць. *Сержп., 99.*

а) Калі будуць тапіць, то не будуць вешаць, а калі павесяць, то не ўтопяць. *Fed., 310.*

790. Усё роўна — за адну нагу павесяць ці за дзве. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

а) Усё роўна, ці за адну нагу вісець, ці за дзве целяпацца. *1961, Брасл. 13.9.5.*

791. Што меў вісець за адну ногу, то лепш за абедзве. *Fed., 333.*

792. Не спяшы на шыбеніцу, яшчэ навісішся. *Дуб., 41.*

а) Не спяшы на шыбеніцу, паспееш яшчэ. *Нос., 103.*

б) Не спяшайся на шубяніцу, яшчэ паспееш (нацеляпаешся). *Fed., 300.*

793. Бог памілуе, што свіння не з'есць. *Tyszk., 429.*

794. Здраду прымаюць, а здрадніка вешаюць. *Дуб.*, *22*; *Fed.*, *360*; *«Зорка»*.

795. Праўды, як у судзе. *Янк.*, *70*.

796. На базары долі не купіш, а ў судзе праўды не знойдзеш. *А. Бельская, 1967, Рaг. 13.10.19.*

797. Яго віна не відна. *Сержп.*, *28*.

798. Вінават, што свінават. *1961, Кап. 13.9.5.*

799. На таго віна, каго дома няма. *Fed.*, *333*.

800. Каваль зграшыў, а слёсара павесілі. *Fed.*, *140*.

а) Каваль саграшыў, а слюсара вешаюць. *Гильт.*, *287*, *Кобр. п.*

801. Каго куюць, а хто лапу падстаўляе. *Дуб.*, *Нар.*, *2*.

802. Хто вінават, а з каго ўзыскуюць. *Ром.*, *Бел.*, *I*, *313*.

803. Вераб'і крупы з'елі, а сініца ў клетку папала. *Суяшк.*, *583*, *Бераст.*

а) Верабей проса папіў, а сінюга ў бяду ўпала. *Булг.*, *177*. *Вар.: Рапан.*, *243*.

804. На ком скрупіцца, на ком змелецца. *Czeczot*, *111*; *Мальч.*, *№ 41*; *Киркор*, *236*; *Нос.*, *85*; *Дуб.*, *41*; *Fed.*, *280*.

805. На кім скрупіцца, а на мне змелецца. *Tyszk.*, *430*; *Шпил.*, *184*.

806. Мне не мелецца, а ўсё крупіцца. *Дуб.*, *34*.

807. На ком скрупіцца, на тым змелецца. *Dybow.*, *184*.

808. Нявінны клопат на здарову галаву. *Fed.*, *146*.

809. За вінаватым і невінаваты абарве. *Fed., 333.*

810. За адным вінным дзесяць нявінных пакутуе. *Fed., 333.*

811. Нявінная кроў не ўтоіцца. *Fed., 333.*

812. Ці бедны, ці багаты — абы невінаваты. *І. Цішчанка, 1970. Астр. 8.2.29.*

813. Калі не верацъ, не бажыся, калі б'юць, не прасіся. *Tyszk., 415.*

814. Хто ручыцца, той мучыцца. *М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29.*

а) Хто за каго рэнчыць, таго бяда дрэнчыць. *Fed., 261.*

815. Суд судзіць злодзея не за тое, што ўкраў, а за тое, што кепска схаваў. *1961, Кап. 13.9.5.*

816. З ног да галавы асудзілі і ніткі падсцівай не аставілі. *Fed., 10.*

817. Дзе суд, туды нясуць. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6.*

818. Када карман сух, тада і суд глух. *Добр., Смол., 118.*

819. У каго карман паўней, таго і суд спраўней. *Добр., Смол., 118.*

а) Чэй паўштох паўней, таго і суд спраўней. *Добр., Смол., 119.*

820. Судзейскі карман [быў], што папоўскае бруха. Сцяшк., *609, Дзятл.*

821. Калі на табе кажух ліхі, то суддзя глухі. *Янк., 69.*

822. Тэй пастаянна праў, хто паабяшчаў ды й даў. *Добр., Смол., 119.*

823. За курыцу судзішся, а гуся пад пахаю нясі. *В. Брычакоў. 1960, Карм. 13.3.29.*

824. Суд за праўдаю не ідзе, а за падмазкаю. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6. Вар.: Fed., 293.*

825. Хоць правае дзела, а ў кішэні засвярбела. *Сержп., 185.*

826. Суддзя не чакае свечкі, а мяшка. *Янк., 70.*

827. У судзе і з беднага чакаюць. *Янк., 71.*

828. Б'юць да і дзякаваць кажуць. *Ляцкий, 5.*

829. Аднаму чорту не ўгадзі, то ўсе к чорту глядзяць. *Нос., 119.*

830. Больш заходу, як карысці. *Fed., 346.*

831. Міра — двару сціра. *Добр., Смол., 118.*

832. З моцным не біся, а з багатым не судзіся. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

а) З дужым лепш не бароцца, а з багатым не судзіцца. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

б) З дужым не барыся, а з багатым не судзіся. *1961, Брасл. 13.9.5.*

в) З сільным не барыся, з багатым не цяжыся, з мудрым не браніся. *Ром., Зап., III, 230.*

833. Дужы і багаты — не вінаваты. *Г. Шымко, 1967, Навагр. 13.10.21.*

834. Хто дужэй, тэй пружэй. *Нос., 176. Вар.: Нос., Слов., 148.*

а) Хто дужшы, той лепшы. *Fed., 89; А. Ліс, 1974, Смарг. Вар.: Л. Салавей, 1969, Мядз.*

835. У судзе багаты рэдка вінаваты. *І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3.*

836. Пан і тады праў, як сведак чорт маў. *Янк., 70.*

837. Што яму законы, калі суддзя знаёмы? *Янк., 71.*

а) Які тут закон, калі суддзя знаком? *Рапан., 36.*

838. Прычапіся к багатаму — адкупіцца. *Нос., 139; Дуб., 45.*

839. Багаты выкупіцца, а бедны выпрасіцца. *Fed., 19.*

840. Багачу красць, а беднаму бажыцца. *Добр., Смол., 5.*

841. Багачу красць, а худаку атвячаць. *Добр., Смол., 12.*

842. Не судзіся з багатым, а судзіся з справядлівым. *Гильт., 288, Дзісен. п.*

843. Добра з тым судзіцца, хто бога баіцца. *Fed., 293.*

844. Кабыла з ваўком цягалася — хвост ды грыўка асталася. *Ром., Бел., I, 299.*

а) Каза з ваўком цягалася — ножкі ды рожкі засталіся. *Ахрым., 15.*

845. Чыя сіла, таго і праўда. *Fed., 277.*

846. Умесце мёд-гарэлку піў, умесце і сведкай быў. *Ляцкий, 49.*

847. Сведцы вочы колюць (пякуць). *Fed., 307.*

848. На суд паставіў за сябе брахунца. *Сержп., 13.*

849. Сусед пазнаў, што злодзей украў. *Міеп., 396.*

850. Даказчыку першая чарка і першая палка. *Сержп., 185*

851. Бог любіць праведніка, а гаспадзін любіць ябедніка. *Ром., Зап, I, 215.*

852. Свой суд кароткі. *Сержп., 185.*

853. Самасуд — не суд. *Сержп., 185.*

854. Судзі мяне губернскі, а не баба дзеравенска. *Добр., Смол., 118.*

855. Насіў воўк, паняслі і воўка. *Tyszk., 425; Шпил., 185; Шейн, II, 439; Dybow., 13; Fed., 339; Pietk., 351.*

а) Валачыў воўк авец (гавечкі), павалаклі (павалакуць) і воўка. *Нос., 15. Вар.: Fed., 339.*

б) Лавіў воўк, злавілі і воўка. *Fed., 339.*

в) Браў воўк, узялі воўка. *Fed., 339.*

г) Пацягаў воўк, пацягнулі і воўка. *Янк. М., 68.*

д) Браў воўк за ногі, узяло воўка за рогі. *Fed., 339.*

е) Колькі б воўк ні валок, павалакуць і воўка. *М. Грынблат, 1969, Смал.*

856. На воўка памоўка, а мядзведзь ні пры чым. *Л. Царанкоў. 1960, Мінск 13.9.2.*

а) На воўка памоўка, а паела рыбу лісічка. *Ром., Бел., I, 301; Ляцкий, 22.*

б) На воўка памоўка, а мядзведзь цішком. *Ляцкий, 22. Вар.: Fed., 340, 182; Pietk., 351.*

в) На воўка памоўка, а мядзведзь з-пад налу́ску [бярэ]. *Аним., 263; Нос., 83.*

г) На воўка памоўка, а зайцы кабылу з'елі. *Fed., 340.*

857. Колькі вяровачкі не віцца, канец будзець. *Мяц., 98, Арш.*

858. Па нітачцы дойдзеш да клубочка. *Mien., 395.*

а) Па нітачцы клубочак знаходзяць. *«Звязда», 8 лютага 1963 г.*

859. Знайшоў нітку, знойдзеш і клубок. *І. Цішчанка, 1971, Брасл. 8.2.49.*

а) Знайшоў канец, то й клубок разматаеш. *Сцяшк., 592, Вор.*

860. Не ўтаіш шыла ў ворку. *Шпил., 186.*

а) Шыла ў мяшку не схаваеш. *А. Фядосік, 1959, Баранавічы.*

861. Лес чуе, а поле бачыць. *Ром., Мат., 83.*

862. Бяда свае законы піша. *Янк. М., 67.*

863. Нужда закон ламаець. *Нос., 116.*

864. Свет не гарожан, но закон палажан. *Мальч., № 42.*

865. Іншы сабака закон і ўстыд знае. *Fed., 269.*

866. Хлеб-соль жры, а закон свой дзяржы. *Ром., Бел., I, 312.*

867. Падвядзе ўказы на ўсе ра́зы. *Ляцкий, 32.*

868. Не праў мядзведзь, што карову з'еў, не права ж і карова, што ў лес хадзіла. *Ром., Зап., III, 227.*

869. Страляй у куст — вінаватага бог сышча. *Ром., Зап., III, 231.*

870. Закон як дышла: куды павярнуў, туды і вышла. *1961, Кап. 13.9.5.*

871. Каб не было забароны, то б і свет не стаяў. *Сержп., 72.*

872. Умова гарады дзержыць. *Калянд., 1921.*

873. Сумы́ і турмы ніколі не заракайся. *Pietk., 396.*

а) Ад турмы і ад торбы не адчурайся. *1961, Брасл. 13.9.5.*

б) Ад турмы і ад сумы ніколі не адказвайся. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

874. Што з сумою, што з турмою не спор: і локцем будзеш ксціцца — не адксцішся. *Добр., Смол., 124.*

875. Бей чалом у цюрме ды ў багадзельні. *Ром., Зап., 1, 215.*

876. У астрог шмат дарог. *Сержп., 14.*

877. У астрог дарога шырокая. *Сержп., 14.*

878. Да астрогу латво знойдзеш дарогу. *Сержп., 14.*

879. Ад астрогу няма перасцярогу. *Сержп., 14.*

880. Ад астрога, як да парога. *Сержп., 14.*

881. Астрожны хлеб горкі. *Сержп., 14.*

882. Успомніць брадзяга матку: не хлеб еўшы, дык у турму сеўшы. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

883. Харошы астрог, да чорт яму рад. *Сержп., 99.*

884. Вялікая цюрма, ды ніхто ў яе не хоча. *Рапан., 216.*

885. У астрозе розуму навучаць. *Сержп., 14.*

886. Каму астрог, а мне хата. *Fed., 10.*

а) Каму цюрма — астрог, а мне — атцоўскі дом. *Добр., Смол., 124.*

б) Каму цюрма — капцелка, а мне кварцерка. *Добр., Смол., 124.*

887. Каму астрог, а каму пірог. *Сержп., 14.*

888. Служба — ту́жба. *Нос., 151; Дуб., 57; Fed., 283.*

889. Служба — ну́жда. *М. Грынблат, 1926, Тур.*

890. У людзях хрыпіць у грудзях. *М. Грынблат, 1971, Лаг.*

891. Служыць — тужыць, а хто арэ, той пяе. *Сержп., 85.*

892. Пайшоў служыць — прыйдзецца ў горы жыць. *А. Бельская, 1960, Рал. 13.10.19.*

893. Хто хоча гора зажыць, няхай ідзе да двара служыць. *Fed., 90.*

894. Чым лепі служу, тым горы дасаду бачу. *Ляцкий, 59.*

895. Служба не свой брат. *Ляцкий, 42.*

896. Служба не дружба. *Fed., 283; Pietk., 392.*

897. Хто служыць, вольнасць траціць. *Нос., 177.*

а) Служба вольнасць траціць. *Fed., 283.*

898. Наняўся — запрадаўся. *ДіСБ, 71.*

а) Наняўся, як прадаўся. *Нос., 86; Бяльк., 294. Крыч.*

б) Калі наняўся, то як запрадаўся. *Fed., 197; Pietk., 380.*

899. Хараша ў наймé, ды не дай божа мне. *Ром., Бел., I, 312, I. Сувалаў, 1958, Чач. 13.3.29.*

а) Добра ў наймé, няхай людзям, а не мне. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

900. Добра ў найме, але не мне. *Л. Малаш, 1973, Докш.*

901. Дружба дружбаю, а служба службаю. *Нос., 37*; *Fed., 82; Сержп., 59; I. Вайганіца, 1965, Іў. 13.10.1.; М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

902. Службу саслужы, а аб дружбе не тужы. *Ляцкий, 42.*

903. То не слуга, што выбудзе там, дзе добра, але то, што выбудзе там, дзе кепска. *Fed., 283.*

904. Гнісь, не гнісь, а ў аглоблі станавісь. *Дуб., Нар., 1.*

905. Нашы слугі пагнуліся ў дугі. *Нос., 91.*

906. Чужая праца бокам вылазіць. *Fed., 242.*

907. Каб служба была добра, то пакуль бедны дашоў бы, то багаты даехаў бы. *Fed., 283.*

908. Службу справіў — і гуляй. *Ляцкий, 42.*

909. Служба службе не роўна. *Fed., 283.*

910. Слуга слузе не роўна. *Fed., 283.*

911. Служыў да вуса, паслужы ўжо і да сівой барады. *Нос., 151.*

912. Чый хлеб ем, таму песні спяваю. *Fed., 53.*

913. На чыім вазку еду, таму і песенку спяваю. *Шпил., 185; Dybow., 184. Вар.: Ром., Мат., 85*; *А. Ліс, 1968, Смарг.; Сцяшк., 600, Воран.*

914. Катораю ракою плыць, той і песеньку пець. *Ром., Зап., III, 222.*

915. На таго брашы, чый хлеб ясі. *Ляцкий, 24; Ром., Бел., I, 302; Fed., 42; Pietk., 359.*

916. Наняўся брахаць, то брашы. *Fed., 42.*

917. Міла-няміла, вязі, кабыла. *Ляцкий, 21.*

918. Чужы хлеб — гасцінец. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

919. Смачна кашка, ды зарабіць цяжка. *Сем.*

920. Ужо сербануў дворнай пахлёбкі. *Fed., 90.*

921. Лепей з ваўком у лесе стрэцца, як на панскай печы грэцца. *Рапан., 26.*

922. Разжывемся, як у пастухі наймемся. *Ром., Бел., I, 308.*

а) Разжывёмся, як у пастухі наймёмся; будзем багаты, усе нам будуць вінаваты. *Дуб., Нар., 1.*

923. Як разжывемся, то ў пастухі наймемся. *Сержп., 50; Fed., 260; Pietk., 339.*

924. Хата пастухова не крыта. *Махнач, 24.*

925. Абы рукі, то служба будзе. *Fed., 264; Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

926. Была б галава, а шолудзі будуць. *Нос., 10.*

927. Не месца галавы шукае, але галава месца. *Fed., 185.*

928. Сягоння тут, а заўтра ў сабачы кут. *Pietk., 347.*

929. За ногі грошы не плацяць. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

930. Дзякуй не з'ясі. *Сержп., 125.*

а) Дзякуй не накорміць, не нагрэе. *Сержп., 125.*

931. Дзякаю (падзякаю) сыт не будзеш. *Fed., 90, 210; В. Бондар, 1967, Мінск 13.10.24.*

932. Дзякаю (спасібам) не адбудзеш. *Fed., 90; Нос., 154.*

933. За спасіба шубы не пашыеш. *Нос., Слов., 603.*

934. Не так, а за грошы. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

935. Дармавога нічога на свеце няма. *Нос., 32; Fed., 75.*

936. Дарма і каза не скача. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Дарма і каза ваўку не скачаць. *1961, Брасл. 13.9.5.*

б) Каза ваўку дарма не скачаць. *Tyszk., 423; Шпил., 181; Нос., 62; Dybow., 11; Fed., 141.*

937. Дарэмна і каза не спела. *К. Кабашнікаў, 1960, Нясв. 8.1.57.*

938. Дарма пець — горла дзярэць. *«Зорка».*

939. Спяваць да́рма, боле га́рла. *В. Скідан, 1970, Астр. 8.2.32. Вар.: Fed., 306.*

940. Дарам хадзіць — ногі адбіць. *Сержп., 49.*

941. Дарэмна і скула не сядзе. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29. Вар.: І. Хайратовіч, 1951, Кругл. 13.8.4.*

а) Не пачасаўшы, і скулка не сядзець. *Добр., Смол., 13.*

942. Дармо сабака не сядзець, а пачасаўшы. *Нос., 32; Сержп., 82.*

943. Дарма і ў шыю не б'юць. *Сах.*

944. Дарма і кнутам не сякуць. *Аним., 263.*

945. Дзякуй, не дзякуй, а заплаціць мусіш. *Fed., 90.*

946. Дарма з дароў плаціць. *Fed., 236.*

947. Што зробіць, паночку: задарма з да́ру і трэба грошы класці. *Fed., 75.*

948. Слузе хоць з калена выламі, а заплаці. *Fed., 283.*

949. Круці, не круці, а што трэба заплаці. *В. Бондар, 1967, Мінск 13.10.24; Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

а) Скачы, не скачы, а грошы тарачы. *Сержп., 127.*

950. Танцуй, не танцуй, а музыцы грошы аддай. *Ляцкий, 44.*

951. Альбо іграй, альбо грошы аддай. *Нос., 2. Вар.: Fed., 114; Pietk., 321; Бяльк., 139, Мсцісл.*

952. Годзі на адзін грош танцаваць. *Fed., 310.*

953. Абдзень, напой, накармі, тады і работы пытай. *Аним., 261.*

954. Як не маеш пабразгачоў, дык няма і паслугачоў, а як маеш пабразгачы, тады будуць і паслугачы. *Мін.-Мал., 1970, 170.*

955. Былі б пабразка́чыя, а паслуга́чыя будуць. *Нос., 11.*

а) Былі б пабразга́чыя, а паслуга́чыя заўсёды зна́йдуцца. *Дуб., 6.*

956. На карчы патрэбны добрыя харчы. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

957. Нам трэба грошы і прадукт харошы. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

958. Рабіцьмеш фільгуючы — заплацяць дзянькуючы. *Мат., 175.*

959. Як зробіш, так і заробіш. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

960. Што зарабіў, тое й атрымаеш. *Дразд.*

961. Не заробіш — не палучыш. *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

962. Якая работа, такая заплата. *Fed., 255. Вар.: Бяльк., 332, Краснап.*

а) Які рабоцька, такая і плата. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

б) Якая праца, такая плаца. *Fed., 242.*

963. Кепская работа — кепская заплата. *Бяльк., 225, Касц.*

964. Паводле працы і заплата. *Дразд.*

а) Па заслузе заплата. *Нос., 130; Дуб., 48; Fed., 350.*

965. Заплата за заплату. *Ляцкий, 12.*

а) Прыляпі лату — будзе табе заплата. *Ляцкий, 36.*

966. Заплата ў ката́, быле душа не была галадна. *Czeczot, 116. Вар.: Нос. 46; Fed., 350.*

а) Заплата ў ката, абы кішка не пуста. *Fed., 350.*

967. Як пан мяне трактуець, так я яму і служу. *Ром., Зап., III, 222.*

968. Якая хада, такая й яда. *Крэмнеў.*

969. За турботы шапку і боты. *Янк., 377.*

970. Служы верна, а плата мерна. *Нос., 151.*

971. Служы верна, крадзі мерна. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

972. Дзела кончана, ды не верхавата вышла. *Дуб., 16.*

973. Лепш у багатага служыць за клямку, як у беднага з ім за сталом седзячы. *Fed., 19.*

974. У парабках вякуючы, не разжывешся. *Янк., 64.*

975. Хлеб ды вада — батрацкая яда. *Янк., 65.*

976. Гадочкі выслужыў, сілу вымучыў, душу вытужыў. *Янк. М., 106.*

977. Прыслужыўся, як дзядзька суччы: тая хвост незнарок прытуліла да калодкі, а ён сякерай—гак! і адрубіў. *А. Ліс, 1964, Міёр.*

978. Як хазяін скажа парабку, то ён і воду павінен таўкці. *Pietk., 360.*

979. Як пан сядзе, то парабак ляжа. *Т. Холад, 1967, Кап. 13.10.20.*

980. Дзякуй богу: дождж пайшоў — батраку на аддыханне, а гаспадару на ўздыханне. *Хрэстам., 217.*

981. Добра батракаваў і сам гаспадаром стаў. *Дуб., 13.*

982. На парабкаванні, як на паляванні: што падстрэліў — тое і тваё. *Янк., Дыял., III, 162, Глуск.*

983. Служка — служцы, а пану — трасца. *Dybow., 18.*

984. І так бывае: хто працуе, той не мае. *Сержп., 76.*

985. Мазалёваю працай не збудуеш палацаў. *Мат., 182, Радашк. Вар.: Добр., Смол., 127.*

986. Хоць як роб, не будзе залаты гроб, а хоць дашчаны ды маляваны. *Сах.*

а) Панскай работы як не рабі, не заробіш залаты гроб. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

987. Ні сто коп заробіш, ні сто коп страціш. *Tyszk., 434; Нос., 103.*

988. Найміся за палушку, а цягаюць, як лягушку. *Нос., 85.*

а) За палушку цягаюць, як лягушку. *Добр., Смол., 118; Сцяшк., 591, Гродз.*

989. Як імалі, то аброкам віталі, а як зымалі, то аброку не далі. *Fed., 123.*

а) Поконд злапа́юць, то аброкам вітаюць, а як зловяць, то не даюць аброку, але кіем па боку. *Fed., 356.*

б) Наймалі — сала давалі, нанялі — хлеба не далі. *Рапан., 49.*

990. I дзякуй не сказаў, і ў руку не плюнуў. *Рапан., 195.*

991. Служыў тры дні, выслужыў злыдні. *Fed., 254, 223.*

а) Хадзіў тры дні і выхадзіў злыдні. *Дуб., 68. Вар.: Ром., Бел., I, 312; Ром., Зап., III, 235.*

б) Сядзеў тры дні, выседзеў злыдні. *Нос., 160; Fed., 275.*

992. Больш кошка наплача, як ён заробіць. *Fed., 350.*

993. Зарабіў у барабан булавешку. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

994. Зарабіў, зарабіў — абы горка паядаў. *Радч., 247.*

995. Як зарабіў, то зарабіў, абы не ўкраў. *Fed., 350.*

996. Па капейцы ў дзень: куды хочаш, туды дзень. *Нос., 131; ДіСБ, 71.*

а) Па тры дзенежкі на дзень: куды хочаш, туды й дзень. *Ром., Бел., I, 307.*

997. Што заробім, то й праробім. *Ром., Бел., I, 314; Ляцкий, 60; Сержп., 25.*

а) Што зарабіў, то й прарабіў. *Fed., 350; Сержп., 24.*

б) Што зарабіў, тое і сцерабіў. *Д. Вайчок, 1966, Вор. 13.10.26.*

в) Што заслужыў, тое пражыў. *Сержп., 24.*

998. Іван зарабіў, Іван прарабіў. *Ляцкий, 14.*

а) Іван зарабіў, Іван з'еў. *Tyszk., 437; Pietk., 322.*

б) Іван зарабіў, Іван сцерабіў. *Dybow., 10; Pietk., 322.*

в) Іван пажаў, Іван і пажраў. *Сержп., 50.*

г) Хама зарабіла, Хама з'ела. *Fed., 49.*

д) Хвацько харчаваў: што зарабіў, то й аддаў. *Сержп., 17.*

999. Ні зарабіў, ні прарабіў. *Ляцкий, 25; Сержп., 49.*

1000. Даюць на кусок хлеба і болей не трэба. *В. Скідан, 1970, Астр. 8.2.32.*

1001. Як з гангуркі руды не вымыеш, так з хазяіна праўды не вызнаеш. *Т. Кучарава, 1967, Ветк. 13.3.29.*

1002. Хлеб-соль кушай, а хазяіна слушай. *Нос., 172.*

1003. Ён нашаю крыўдаю не забагацее, а мы не зубожым. *Fed., 155.*

1004. У хвост за каждым глядзець трэба. *Нос., 169.*

1005. Дзе прыглядлнікаў многа, там поспеху мала. *Нос., 23.*

1006. Хамут не дуга, а табе не слуга. *Dybow., 192.*

а) Няхай табе ў бок дуга, а я табе не слуга. *Сержп., 9.*

1007. Я яму тылак пакажу, а не ўслужу. *Сержп., 8.*

1008. Лагоднасць — дасі, а не — чорта з'ясі. *Нос., 72.*

1009. Не будзеш ты, то будзе тры. *Fed., 45.*

1010. Ні пасланца, ні наймітa. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1011. Рабочы пот лье, а фабрыкант яго кроў п'е. *Р. Цыбульская, 1968, Валож. 13.10.24.*

## ГРАМАДА. КАЛЕКТЫВІЗМ. ІНДЫВІДУАЛІЗМ

1012. Грамада — вялікі чалавек. *Сержп., 39; Fed., 114; Pietk., 371; Сцяшк., 586, Гродз.*

1013. Моцны статак чарадою, а людзі грамадою. *Сержп., 39.*

1014. Што грамада скажа — і пан не паможа. *Янк., 66.*

1015. У грамадзе і рай і мука. *Fed., 114.*

1016. Людзі без людзей быць не могуць. *Fed., 69.*

1017. Без людзей не быць. *Fed., 61.*

1018. Свет вялік, а ў свеце людзі. *Нос., 147.*

1019. Ідзе грамада, і я туда. *Сцяшк., 594, Іў.*

1020. Людзі людзям патрэбныя. *Fed., 63.*

1021. Што блюдзём, то людзём. *Нос., 187; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

1022. Як мір — так і брацця. *Добр., Смол., 119.*

1023. Ідзі з людзьмі, то не згубішся. *Янк., 85.*

1024. Аўдзей усё меж людзей. *Нос., І. Вар.: Сержп., 68.*
а) Аўдзей бардзей паміж людзей. *Сержп., 67.*

1025. Прамеж людзей і ён чалавек. *Дуб., 45.*

1026. Конь да каня, маладзец да малайца. *Ром., Зап., III, 222.*

1027. З галавою не жыць, а з добрымі людзьмі. *Крэмнеў.*

1028. Хоць ззаду, абы ў тую стаду. *Сцяшк., 613, Маст.*

1029. У людзях — радуйся, сэрца, а дома — не ругай мяне, маці. *Ром., Зап., I, 216.*

1030. Трэба з людзьмі жыць, не ўсё людзям шкодзіць. *Ляцкий, 46.*

1031. На людзях і смерць красна. *Ром., Зап., III, 226.*

а) На міру і смерць красна. *Нос., 86; Pietk., 346.*

1032. Як трывога, то і бягуць адзін да аднога. *Янк., Дыял., III, 171, Глуск.*

1033. Праз людзі выходзяць на людзі. *Fed., 63.*

1034. Што ў людзях вядзецца, то і ў нас не мінецца. *Ром., Зап., III, 236.*

1035. У лесе людзі дзічаюць, а ў людзях людняюць. *Fed., 64.*

1036. Наўчаць людзі, як засцегаці грудзі. *Гильт., 291, Пруж. п.*

1037. Знаемся ў дому, знаймася і ў людзях. *Нос., Слов., 215.*

1038. Там добра рада, дзе шчыра парада. *Fed., 256.*

1039. Рада з людзьмі ніколі не шкодзіць. *Ляцкий, 37.*

1040. Адна рада хараша, а дзве лепшы. *Нос., 119; Дуб., 2.*

а) Адна рада хараша, дзве, тры — луччы. *Добр., Смол., 106.*

1041. За добрай парадай добра і ў грыбы ісці. *Суяшк., 591, Воран.*

1042. Што галава — то розум. *Ляцкий, 60; Ром., Зап., I, 314; Pietk., 314.*

1043. Іншая рада — горш, як здрада. *Ігнат.*

1044. Не дармо людзі гавораць. *Fed., 108.*

1045. Няхай так будзе, як добрыя людзі кажуць. *Янк., 383.*

1046. Не тое праўда, што праўда, а тое, аб чым людзі гавораць. *С. Цярохін, 1974, Саліг.*

1047. З пальца не выссуць людзі. *Нос., 158.*

1048. Людская пахвáла, што марская хваля. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

1049. Добрая слава лепш за багацце. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш.*

а) Добрая слава дарожша багацтва. *Fed., 282.*

1050. Ніхто не знае, толька дзед ды баба й цэлая грамáда. *Ляцкий, 29.*

1051. Мікіта на Гаўрылу, Гаўрыла на Панаса, то будзе жыцце кепска наша. *1959, Беш. 8.1.42.*

1052. Дзяльбá без дракі не бывае. *Бяльк., 156, Мсцісл.*

1053. Дай, божа, людзям, то і мы дабудзем. *Fed., 72.*

а) Абы даў бог людзям, то і мы здабудзем. *Fed., 352.*

б) Дай, божа, каб у людзей было, то і ў нас будзе. *Ворожб.*

1054. Абы бог да добры людзі, то ўсё добра будзе. *Fed., 78.*

1055. На каго бог, на таго і людзі. *Mien., 395; Dybow., 13.*

1056. Свет не без добрых людзей. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29; В. Бондар, 1967, Мін. 13.10.24.*

1057. Каб не добрыя людзі, так бы загінуў. *Сержп., 139.*

1058. Дзесяць аднаго спамогуць, а адзін дзесяцёх не спаможа, а сам сябе згубіць. *Fed., 6.*

а) Адзін дзесяцёх не спаможа, барджэй згіне. *Fed., 6.*

1059. Спагадай свет трымаецца. *Сем.*

1060. З міру па нітцы, то голаму рубашка. *Fed., 188.*

а) З міру па нітцы — голаму сарочка. *Pietk., 330, Дразд.*

б) З міру па нітцы, а голаму кашуля. *А. Бізук, 1965, Шчуч. 13.10.1; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

в) З усіх па нітцы, а голаму — кашуля. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.5.*

1061. Кала грамады аднаму пажывіцца можна. *Fed., 114.*

1062. Радасць ёсць — весяліцца трэба, гора ёсць — памагаць трэба. *В. Калюк, 1965, Дзятл. 13.10.6.*

1063. Колькі мог, столькі дапамог. *Fed., 75.*

1064. Сколькі магу, столькі памагу; сколькі не магу, столькі не памагу. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1065. Не можаш памагчы, так лепей памаўчы. *Нос., 100. Вар.: Дуб., 39; Fed., 215; Г. Ляшчынская, 1953, Пол. 13.10.40.*

1066. Жаласнікаў многа, ды памагчы нікóга. *Сержп., 138.*

а) Жалабнікаў шмат, ды памоцнікаў мала. *Дуб., 20.*

б) Бедавальнікаў многа, а ратавальнікаў мала. *Fed., 28.*

1067. Як чужыя жалкуюць, людзі не чуюць. *Сержп., 62.*

1068. Многа паслугачых, да мала памагачых. *Нос., 78.*

1069. На гатовае памагачоў шмат. *Сержп., 137.*

1070. Не так веле помачы, як немачы. *Fed., 240.*

а) Больш немачы, як помачы. *Fed., 230.*

1071. Дурная помач хужы немачы. *Нос., 38.*

1072. Не памагае, толькі чмуціць. *Сержп., 90.*

1073. Ніхто не здзене і лепшага не дасць. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

1074. Услугу ўсе прымаюць, да часта яе забываюць. *Нос., 169.*

1075. Пажыві для людзей — пажывуць і для цябе. *Ахрым., 46.*

1076. Як ты да людзей, так і людзі да цябе. *Бяльк., 508, Мсцісл.*

а) Як мы да людзей, так людзі да нас. *Fed., 62.*

б) Як ты людзям, так людзі табе. *Шейн, II, 483, Слуцк. п.; Fed., 62; У. Іваноў, 1958, Мінск.*

в) Як ён к народу, так і народ да яго. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1077. Як гукнеш, так і адгукнуць. *Dybow., 184.*

1078. Удар аб стол — нажычкі адгукнуцца. *Дуб., Нар., 1.*

1079. Як людзі, так і мы. *Сержп., 39; Fed., 62.*

1080. Што людзям, то і нам. *Добр., Смол., 119; Сержп., 11; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

1081. Што міру, тое й бабінаму сыну. *Tyszk., 427; Нос., 189; Сержп., 39, 58; Добр., Смол., 119; Fed., 108; Pietk., 330; А. Фядосік, 1961, Капатк. 8.1.73.*

а) Што ўсяму міру, то і бабінаму сыну. *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

1082. Калі сядзіць на раду́, то іграць у дуду. *Ром., Зап., III, 221.*

1083. Папаў у вараннё — крычы, як яно. *А. Якіменка, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

а) Папаў у вараны́ — крычы, як яны. *Мін.-Мал., 1970, 164, Пух.; С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.2.29.*

б) Папаў у вараны — кракай, як яны. *Янк. М., 148. Вар.: Суяшк., 605, Вайк.*

в) Улез у вароны, гракай як і оны. *Ром., Мат., 83.*

1084. І з звяррмі звыкаюцца жыць, не толькі з людзьмі. *Дуб., 25.*

1085. Не ўсё, як у людзей. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1086. Ні сабе паглядзець, ні людзям паказаць. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

1087. Што зрабі, саграшы, толькі людзям скажы. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1088. У лясу рубяць, а ў мір шчэпы ляцяць. *Ром., Зап., I, 217.*

1089. У міру, як на бальшом піру: хто скачыць, а хто плачыць. *Нос., 20.*

1090. Гушчу паеў, а юшку на кага́л. *Ром., Зап., III, 224.*

1091. Хлеб еш і другому дай. *Dybow., 192.*

1092. Сам пад'еў і другому спагадай. *Міеп., 396.*

1093. Адзін у полі не воін. *В. Таранка, 1965, Скід. 13.10.1.*

1094. Адзін дасуж, да не дуж. *Tyszk., 416; Шпил., Бел., 73.*

1095. Адзін дуб у полі — то не лес. *Fed., 83; Суяшк., 578, Іў.*

1096. Адным калом плота не падапрэш. *Fed., 147; Я. Касач, 1966, Дзятл. 13.10.26; Сцяшк., 579, Слон.*

1097. Адна пчала мёду не наносіць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

1098. Адным сэрцам свету не запаліш. *Сцяшк., 579, Воран.*

1099. Аднаму не разадрацца на колькі часці. *Fed., 6.*

1100. Адна галавешка не гарыць, а толькі тлее. *Т. Багдзевіч, 1963, Вор. 13.10.6.*

а) Адна махнытка не гарыць, а цьмеець. *Нос., 119.*

б) Адна галаўня не гарыць і не гаснець. *Добр., Смол., 106.*

1101. Адна галавешка і ў печы не гарыць, а дзве і ў полі не гаснуць. *В. Таранка, 1965, Скід. 13.10.6.*

1102. Гэта не абаранак — сам не з'ясі. *Fed., 1.*

1103. Адна ластаўка вясны не дзелаець. *Нос., 119.*

1104. На адзін цвік усяго не павесіш. *Рапан., 224.*

1105. Адно вока бачыць далёка, а два — яшчэ далей. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

1106. Калі робіш укупе, не баліць у пупе. *Шпил., 182. Вар.: Киркор, 235; Нос., 65; Дуб., 32; Fed., 254.*

а) Працуючы ўкупе, не забаліць у пупе. *Сержп., 46.*

б) Хто жыве ўкупе, таго не баліць у пупе. *Булг., 176; Fed., 157; М. Смурага, 1967, Свісл. 13.10.28.*

1107. Семера аднаго не ждуць. *Pietk., 391.*

1108. Калі сабраўся, за намі не баўся. *Нос., Слов., 11.*

1109. Праз аднаго барана ўсё стада пагана. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29*; *І. Цішчанка, 1971, Брасл. 8.2.49.*

а) Адна паршывая авечка ўсё стада запаганіць. *Pietk., 309. Вар.: Ром., Бел., І, 205.*

б) Паршывая аўца ўсё стада порце. *Ляцкий, 34.*

в) Адна паршывая авечка ўсё стада заразіць. *Гильт., 288, Пруж. п.; Нос., 119.*

1110. Адзін чорт падтырквае, а ўсе круцяцца. *Янк. М., 54.*

1111. Бярыся дружна — не будзе грузна. *Я. Нявера, 1965, Воран. 13.10.3; Ахрым., 23.*

1112. Дзе дружна да хаўрусна, там не грузна. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1113. Дзе дружна, там і хлебна. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1114. Што хаўрусна, тое карысна. *Fed., 51; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1115. Дружна і горы раўняюць. *Сержп., 39.*

1116. У гурце нішто не страшна. *Сержп., 39.*

1117. Дружны табун і ваўкоў не баіцца. *Л. Лучанок, 1960, Мінск 13.9.6.*

а) У дружнай стадзе і воўк не страшан. *Сах.*

1118. Гуртом і ў кашы спорна. *Сержп., 39.*

1119. У кампаніі і каша саладзейшая. *Л. Павецьева, 1967, Мсцісл. 8.1.107; А. Гурскі, 1967, Бял. 8.1.112; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1120. І кашу ў кампаніі добра есці. *Fed., 135.*

1121. Гуртом і бацьку добра біць. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

1122. Гуртавы — чартавы. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1123. Арцель атаманам красна. *Нос., 3.*

1124. Важакай быць — трэба з мядзведзем знацца. *Ляцкий, 5.*

1125. За агульным сталом яда смачней. *Сцяшк., 591, Гродз.*

1126. Дзе цесна, там пацешна. *Міеп., 396; Dybow., 9.*

1127. За кампанію цыган павесіўся. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*
а) Для кампаніі цыган даўся павесіць. *Fed., 60.*

1128. Пакоцюцца пярэднія каткі, і заднія не 'дстануцца. *Добр., Смол., 106.*

1129. На талаку ног не павалаку. *Ром., Бел., I, 302; Ляцкий, 24; Добр., Смол., 114; Сержп., 138.*

1130. Просім на талаку, а не то за чупрыну павалаку. *Ром., Бел., I, 307.*

1131. Як не пойдзеш на талаку, то я цябе за лоб павалаку. *Fed., 310.*

1132. На талаку я табе паскачу. *Шпил., 185; Dybow., 184.*

1133. Мы жнейкі, не жаўнеркі, не пап'ем усёй гарэлкі. *Дуб., 34.*

1134. Усім не дагодзіш. *Сержп., 48, 125; Fed., 74.*

1135. Адзін усім не ўгодзіць. *Fed., 6.*

1136. Трудно ўсім дагадзіць. *Fed., 74.*

1137. Не сонца: усім не ўгрэеш. *Добр., Смол., 112.*

1138. Яшчэ той не радзіўся, каб усяму свету дагадзіў. *Fed., 74.*

1139. На ўсякае чханне не наздароўкаешся. *Fed., 14.*

1140. Кожан аб сабе дбае. *Fed., 77, 270.*

1141. Кажды ў свой нос дзмець. *Нос., 59.*

1142. Усякая зязюлька пра сваё кукуе. *Ляцкий, 51.*

1143. Кажан сам сабе прыяцель. *Fed., 249.*

1144. Усякі сабе харошы. *Ром., Зап., І, 216.*

1145. Жаль цябе, да не так, як сябе. *Нос., 41; Fed., 363; Дуб., 40.*

а) Шкода мне цябе, але горш самому сабе. *Fed., 209.*

1146. Люблю цябе, да не так, як сябе. *Нос., 75.*

1147. Кажнаму свая бяда ў галаве. *Fed., 27.*

1148. Кажды мае сваю нуду. *Fed., 206.*

1149. Усякаму сваё шкода. *Fed., 295.*

1150. Свая кашуля бліжэй к целу. *Ляцкий, 40; І. Януля, 1965, Ваўк. 13.10.3.*

а) Свая сарочка бліжэй да цела. *М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29.*

б) Свая рубашка бліжы к целу. *Г. Румоўская, 1965, Пліс. 13.10.40.*

1151. Кажнаму сваё мілейша. *Fed., 295.*

1152. Дай, божа, мне, а нікому не. *Fed., 73.*

1153. Усякі горнець не ад сябе, а к сабе. *Нос., 18; Дуб., 63; Fed., 105.*

1154. Бадай тая рука ўсохне, што да сябе не горне. *Fed., 265.*

а) Адсохні тая рука, што сабе не спрыяе. *Fed., 265.*

б) Адсохні тая рука, што сабе дабра не зычыць. *Дуб., 1.*

1155. Кажны граблі да сябе горнуць. *Fed., 114; Г. Шымко, 1967, Навагр. 13.10.21.*

а) Усякія граблі да сябе грабуць. *Fed., 114.*

1156. Няма тых грабель, што ад сябе грабуць. *Fed., 114.*

1157. Абы сабе добра, а там хоць трава не расці. *В. Валюшка, 1965, Вайк. 13.10.5.*

1158. Тады апамятаецца, як свая вош укусіць. *Fed., 9.*

1159. Мая хата з краю. *Ром., Бел., I, 302.*

а) Мая хата з краю, нічога не знаю. *Ляцкий, 20; Дуб., 36; Сержп., 11; Fed., 358; Pietk., 314; М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29; Г. Румоўская, 1965, Пліс. 13.10.40. Вар.: Нос., 115.*

1160. Маё дзела — старана. *Сержп., 11; Fed., 99, 290.*

а) Наша дзела — старана. *Нос., 91.*

1161. Наша дзела чужое. *Ром., Бел., I, 302.*

1162. Маё дзела — маўчок. *Сержп., 11.*

1163. Не наша дзела — папова, не нашага папа — чужога. *Нос., 100. Вар.: Fed., 94.*

1164. Мой мілы пакою, добра мне з табою. *Czeczot, 111; Шпил., 184; Dybow., 184; Л. Малаш, 1969, Докш.*

а) Святы пакою, добра з табою. *Dybow., 18; Fed., 212, 320.*
б) Святы пакою, лепі з табою. *Дуб., 58; Крэмнеў.*

1165. Пакой усяго дарожа. *Нос., 131.*

1166. Па мае смерці воўк траву еш. *Tyszk., 432.*
а) Па мне хоць воўк траву еш. *Сержп., 121.*

1167. Па мне хоць трава не расці. *Сержп., 11.*

1168. Па маёй смерці няхай тут хоць выюць чэрці. *Fed., 304.*

1169. После маёй смерці хоць плот мною падперці. *Pietk., 395.*

1170. Па нас не будзець нас. *Tyszk., 422.*

1171. Ка́жан на сваю руку цягне. *Fed., 57.*

1172. Кажан на сваю руку гаворыць. *Fed., 108.*

1173. Свая ручка не ліхадзейка. *Tyszk., 416; Dybow., 189.*

1174. На сваё кола цягне воду. *Fed., 325.*
а) Усякі (кажан) чорт на сваё кола ваду цягнець. *Нос., 18; Дуб., 27.*

1175. Няхай кажан сам сабе глядзіць. *Fed., 109.*

1176. Не плача па мне, да сам па сабе. *Fed., 238.*

1177. Кажан пакутуе за сябе. *Fed., 213.*

1178. Маё і ў вагне не згарыць і ў вадзе не ўтопіцца. *Fed., 188.*

1179. Нашто мне чужую вяроўку браць на сваю шыю? *Fed., 329.*

1180. Нігды ён у сваё не стрэліць. *Fed., 295.*

1181. Не мая кабыла ўвязла. *Нос., 100.*

1182. Гэта мне ані баліць, ані свярбіць. *Fed., 21.*

1183. Ад нашых мысляў яму галава не баліць. *Fed., 193.*

1184. Як ты мне, так ■ табе. *Fed., 315.*

1185. Кожны жыве па свайму закону. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1186. Глядзі сябе, будзець з цябе. *Карл., № 10.*

1187. Чыя шапка на ком, то той будзе на том. *Fed.. 297.*

1188. Што тваё, то й маё, а што майго, то табе не да таго. *Fed., 315.*

1189. Дзе жывуць ты́каўцы, там і бог адступіўся, а дзе я́каўцы, там бог жыве. *Ром., Бел., I, 292.*

1190. Лепш не пры мне. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1191. Не да парасят, калі свінню смаляць. *Tyszk., 430; Нос., 97; Сержп., 22; Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

а) Цяпер не да парасят, калі свінню смаляць. *Fed., 308.*

б) Не да парасят свінні, калі яе смаляць. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.8.2; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

в) Свінні не да парасят, калі хвост смаляць. *Мат., 176.*

г) Не да парасят свінні, калі яе колюць. *Сержп., 363.*

д) Не да парасят свінні, калі яе на агонь цягнуць. *Рапан., 258.*

1192. Ён любіць толькі самога сябе і то адзін раз у год. *Рапан., 143.*

## СЯБРОЎСТВА. ВАРОЖАСЦЬ. СУСЕДСТВА. ГАСЦІННАСЦЬ

1193. Праўдзіва прыязнасць ніколі не ўмрэ. *Fed., 249.*

1194. Дружба мацней каменных сцен. *Ахрым., 30.*

1195. Чалавек без друга, што яда без солі. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

1196. Хто мала жадае, той многа мае: калі не багацтва, то прыяцеляў. *Fed., 363.*

1197. Прыяцеля (сябра) за грошы не купіш. *Fed., 249*; *У. Іваноў, 1968, Мінск.*

1198. Хоць маё прападзець, учыню дружбу. *Добр., Смол., 31.*

1199. Нядарам сябар кажа. *Сержп., 123.*

1200. У няшчасці прыяцеля пазнаць. *Fed., 249.*
   а) Прыяцеля пазнаеш у няшчасцю. *Fed., 249.*
   б) У бядзе друга пазнаюць. *Дразд.*

1201. Шукай сабе сябра ў бядзе. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1202. Не тагды, калі салодка, но тагды, калі горка, прыяцель патрэбен. *Міеп., 396.*

1203. Хто ў бядзе і ў вялікім няшчасці не быў, той і праўдзівых прыяцеляў не знае. *Fed., 249.*

1204. Ой, дружба, дружба, цяжкая твая служба. *Ляцкий, 31.*

1205. І службу служы, і сябру дапамажы. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

1206. Не ў службу, а ў дружбу. *Добр., Смол., 32; І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1.*

1207. Малое — цалое, вялікае — папалам. *Сем.*

1208. Іх прыязні сам чорт не разарве. *Fed., 249.*

1209. Жывуць у такой дружбе, што вада не размые і свіння не разрые. *Fed., 366.*

1210. Дзеля дружбы цыган павесіўся. *Нос., 33; «Зорка».*

1211. Калі друг, дак і любачка. *Нос., 63.*

1212. Не той друг, хто мёдам мажа, а той, хто праўду кажа. *Я. Нявера, 1965, Воран, 13.10.3.*

а) Не той сябра, хто мёдам губы мажа, а той, хто праўду ў вочы кажа. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29; В. Зубараў, 1957, Гом. 13.3.29; Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

1213. Больша падухваласць, як знаёмасць. *Fed., 210.*

1214. Стары друг лепшы новых двух. *Dybow., 18. Вар.: Ром., Зап., III, 231; Pietk., 365; Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

а) Дарожшы адзін стары друг, як новых двух. *Fed., 82.*

1215. Бліжні друг луччы дальніх двух. *Добр., Смол., 114.*

1216. Новых сяброў нажывай, але і старых не забывай. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29; А. Мацкала, 1965, Іў, 13.3.18.*

1217. Не мей сто коп, мей сто другаў. *Tyszk., 421; Шпил., 186; Dybow., 14; Fed., 82.*

а) Не мей сто рублёў, а мей сто другоў. *Гильт., 288, Дзісн. п.; Нос., 100; Дуб., 41. Вар.: Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5.*

б) Больш значыць сто другоў, як сто рублёў. *Fed., 82.*

в) Не нада сто рублей, як сто друзей. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

г) Лепш сто сяброў, чым сто рублёў. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; 1961, Кап. 13.9.5.*

д) Не мей сто рублёў, а мей сто другоў: сто рублей патопяць, а сто друзей выручаць. *Добр., Смол., 31.*

1218. Лепш дзесяць прыяцеляў, ніж адзін вораг. *Fed., 338.*

а) Лепш адзін прыяцель, як дзесяць варагоў. *Fed., 249.*

1219. Гара з гарою не сыйдзецца, а чалавек з чалавекам зыйдзецца. *Гильт., 278, Дзісен. п.; Добр., Смол., 31; Fed., 62; Pietk., 362; А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29.*

а) Гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам трапляецца. *Сержп., 78.*

б) Гара з гарою не сходзяцца, а чалавек з чалавекам заўсягды. *Калянд., 1925.*

1220. Жыві добра з людзьмі: з добрымі для дабросці, а з ліхімі для злосці. *Fed., 64.*

1221. З якім пазнаешся, такім сам станешся. *Дуб., 23. Вар.: Нос., 157.*

а) З кім павядзешся, ад таго і набярэшся. *Ахрым., 33; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; А. Куцакова, 1956, Раг.; С. Заянчкоўская, 1956, Чач. 13.3.29; Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5.*

б) К якім пристанеш, такім і сам станеш. *Сержп., 39.*

в) Хто з кім прыстае́цца, такім сам стае́цца. *Fed., 251, 228.*

г) Хто з кім задаўся, такім сам застаўся. *Fed., 347.*

1222. Адзін другога даводзіць да ліхога. *Fed., 165.*

1223. З астрожнікам спазнайся — хутка да астрогу сам збірайся. *Сержп., 14.*

1224. Не люба — не знайся, не хош — не вадзіся. *Ром., Зап., III, 227.*

1225. Ліхая кампанія на ліха выведзе. *Fed., 135.*

1226. Ліхая кампанія і добрага папсуе. *Fed., 135.*

1227. У кампаніі жыць — тужыць. *Сержп., 40.*

1228. Не карай, божа, нічым, як другам ліхім. *Дуб., 42.*

1229. Няхай бог крые ад дурнога друга. *Pietk., 367.*

1230. Разумны вораг лучша дурнога друга. *Pietk., 399.*

1231. Разумных дзесяці ворагаў не так бойся, як аднаго дурнога друга. *Pietk., 390.*

1232. Для друга няма круга. *Нос., 35.*

1233. Той не можа быць другам, хто абыйдзе ў бядзе кругам. *Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

1234. Заві другам: ён абробе цябе кругам. *Ляцкий, 12.*

1235. Другоў з усіх кругоў. *Нос., 37; Дуб., 15.*

1236. У шчасці шмат прыяцеляў, а ў няшчасці нікога няма. *Fed., 298.*

1237. Усе другі да пары. *Дуб., 63.*

1238. Што вобак, то й прыяцель. *Нос., Слов., 62, 250.*

1239. Харашо на друга калач купіць: не палюбіцца, то сам с'ясі. *Ром., Зап., III, 235.*

1240. Мы з табою, як рыбка з вадою; ты ў ваду, а я над табою. *Шпил., 184; Dybow., 184.*

1241. Адным гарэхам падзеліцца. *Сушк., 579, Слон.*

1242. Якаву́ чашу другу наліў, такаву́ самому піць. *Ром., Зап., III, 222.*

1243. Скажы, хто твой таварыш, я скажу, хто ты. *А. Хомка, 1965, Вайк. 13.10.3.*

1244. Абы добра гадзіна, то прыяцеляў шмат будзе. *Fed., 98.*

1245. Каля поўнай міскі шмат сяброў. *Сах.*

1246. Папкаю скарэй найдзеш прыяцеля, чымсі шапкаю. *Нос., 125.*

1247. Лепшы непрыяцель яўны, ніж ціхі прыяцель. *Fed., 203.*

1248. Друг яднаны, а воўк гадаваны. *Mien., 396.*

1249. Воўк гадаваны, а непрыяцель яднаны — то ўсё роўна. *Нос., 14; Fed., 341.*

1250. Дзе чорт не араў, там сеяць не будзе. *Czeczot, 108; Шпил., 178; Киркор. 234.*

а) Чым чорт не араў, тым і сеяць не будзець. *Tyszk., 433; Нос., 23; Dybow., 191; К. Кабашнікаў, 1970, Астр. 8.2.34. Вар.: Ром., Бел., I, 314; Fed., 67; Pietk., 316; Сержп., 186.*

б) Чым чорт не араў. *Ляцкий, 59.*

1251. Лепш памерці каля сябра, чым жыць у ворага. *Сушк., 597, Слон.*

1252. Вада сябра лепш варожага мёду. *Сушк., 583, Дзятл.*

1253. Пагожанага прыяцеля хужы бойся, чым непрыяцеля. *Нос., 129.*

1254. Дружыць дружы, да камень за пазухаю дзяржы. *Нос., 37; Сержп., 59.*

а) Таварыша вадзі — камень за пазухаю насі. *Добр., Смол., 32.*

1255. Вораг горамі качаець. *Ром., Зап., I, 216.*

1256. За свой хлеб сабе ворага нажыў. *Fed., 54.*

1257. Каб чаго добрага, а ворагаў будзе. *Сержп., 29.*

1258. Бог і то непрыяцеляў мае. *Fed., 203.*

1259. У суседстве жыць — адзін другому служыць. *Сержп., 186.*

1260. Не купі двара, а купі суседа. *Ром., Зап., III, 224; Сержп., 186.*

1261. Добры сусед, як сытны абед. *Сержп., 186.*

1262. Добра, як сусед блізка і peрадаз нізка. *Fed., 293.*

1263. Блізкі сусед лепш дальняй радні. *Сержп., 186.*

а) Лепш блізкі сусед, чым далёкі родзіч. *Л. Царанкоў, 1960, Пруж. 13.9.2.*

1264. Без брата пражывеш, а без суседа не ймеш. *Сержп., 186.*

1265. Не мяняй бліжняга суседа на дальняга роднага брата: к брату дальняму не пабягіш, када табе што нужна, а к бліжняму суседу. *Добр., Смол., 114.*

1266. І дружба, і забава — суседская справа. *Сержп., 186.*

1267. Бліжняга суседа пасадзі ўпярод усіх. *Добр., Смол., 114.*

1268. Няхай бы яшчэ гаварылі, каб суседзі былі. *Ляцкий, 28.*

1269. Не даўшы — не сусед, а даўшы — сабе нет. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26.*

а) Не дай — не сусед, дай — сабе нет. *І. Курбека, 1961. Докш. 13.9.2; Мат., 175; Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11; А. Гурскі, 1971, Паст. 8.2.46.*

1270. Суседу ўгадзі — сабе абгаладзі. *Pietk., 394.*

1271. Пусці суседа ў хату, то сам выбірайся з хаты. *Pietk., 394.*

а) Пусці падсуседа ў хату, а сам з хаты. *Сержп., 125.*

б) Падсусед на парог, а сам за парог. *Сержп., 125.*

1272. Не выкурыш з хаты падсуседа. *Сержп., 125.*

а) Падсуседа і дымам не выкурыш. *Сержп., 125.*

б) Падсуседа не выкінеш. *Сержп., 125.*

в) Падсуседа і вадою не выжывеш. *Сержп., 125.*

1273. Бадай, ніхто добры не сядзеў у чужой хаце. *Fed., 50.*

а) Бадай, ніхто добры ў чужом кутку не сядзеў. *Fed., 159.*

1274. Маеш прыняць у хату падсуседку, то лепш барану на том месцы пастаў. *Fed., 209.*

а) Хто мае суседку ў хату пусціць, то няхай лепей бо́рану на том месцы паставіць. *Fed., 294.*

1275. Не карай цябе, божа, нічым, анно суседам і другам ліхім. *Fed., 294.*

1276. Ні ў горадзе парука, ні ў дарозе таварыш, ні ў дзярэўні сусед. *Ром., Зап., III, 227.*

1277. У суседстве жывучы, усяка здараецца. *Дуб., 65. Вар.: Нос., Слов., 624.*

1278. Суседская справа — пасварыцца і памірыцца. *Сержп., 186.*

1279. Дай пакой рэчы такой: то суседская справа. *Fed., 212.*

1280. Дзе забор, так і раздор. *Сах.*

1281. Ведае сусед, як хто ідзе ўпрысед. *Ляцкий, 6.*

1282. Харошы чалавек у хату заходзіць, а ліхі ў вакно заглядае. *М. Грынблат, 1973, Асіп. 8.73.65.*

1283. Не хапайся з суседскай ласкай, калі не трэба. *Ляцкий, 28.*

1284. У суседстве жывучы, не прыдзеш мукі, дык прыдзеш попелу. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26.*

1285. Дастанеш ты ў іх, суседзей, лёду. *Добр., Смол., 114.*

1286. Такі сусед добры, калі кашэль поўны. *Ляцкий, 44.*

1287. Абдуры суседа, пакуль ён цябе не абдурыў. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1288. У суседа розуму не пазычыш. *Ахрым., 56.*

1289. Хата гасцямі багата. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1290. Хата багата, а гасцей малавата. *1961, Калінк. 13.9.5.*

1291. Пашлі, бог, гасцей часцей. *Сержп., 85. Вар.: Добр., Смол., 20.*

1292. Паздароў, божа, гасцей, штоб ездзілі часцей. *Крэмнеў.*

1293. Пашлі, бог, гасцей — і хазяін будзе свяцей. *Л. Стаўровіч, 1957, Рэч. 13.3.29.*

1294. Госць у дом, бог у дом. *Czeczot, 108; Шпил., 178; Дуб., Нар., 1.*

1295. Госці ў хату — свінні рады. *Г. Цітовіч, 1971, Рэч.*

1296. Хоць я не багат, а з гасцей рад. *Fed., 113.*

1297. Прынясі, божа, гасця, то і гаспадар пажывіцца. *Czeczot, 113; Мальч., № 42; Ляцкий, 36.*

а) Дай, божа, гасця́ — і гаспадар пажывіцца. *«Зорка».*

б) Даў бог госці — гаспадар пажывіўся. *Dybow., 8.*

в) Пры [мілым] госцю і гаспадар пажывіцца. *Tyszk., 431; Dybow., 188; Pietk., 371.*

1298. Госці пазваны і пасцелі пасланы. *Ахрым., 26.*

1299. Пакуль пірагі не спякліся, гасцей зваць не суліся. *Ляцкий, 32.*

1300. Хлеба-солі не жалей: добраму для дабросці, а злому — для злосці. *Шейн, II, 483, Ігум. п. Вар.: Fed., 52.*

1301. Прысядзь, госць будзеш. *Нос., 138; Дуб., 57.*

а) Сядзь у нас удома, госць будзеш. *Fed., 274.*

1302. Цесна сядзець, ды добра глядзець. *Сержп., 134.*

1303. Сядзь, дарожай не заплаціш. *Fed., 274.*

1304. Сядзьма на калодзе, пагаворым аб прыгодзе. *Сержп., 133.*

1305. Не пастаяўшы ля парога, не сядзеш за сталом. *Pietk., 334.*

а) Не пастаяўшы ў парозе, не сядзеш на куце. *Добр., Смол. 15.*

1306. Сесці, абы блін з'есці, а не вечна. *Сержп., 28.*

1307. Не бойся госця сядзячага, а бойся стаячага. *С. Цярохін, 1973, Саліг.*

1308. Госцю трэба дараваць, а гаспадару прамаўчаць. *Суяшк., 586, Іў.; Янк. М., 142.*

1309. Ішоў да нас, а пашоў да вас. *Fed., 211.*

1310. Не чуць, дзе ў поле ідуць, але чуць, дзе гарэлку п'юць. *Ляцкий, 29.*

1311. Там яго падмазкаю накармілі, затым туды і цягне. *Сержп., 91.*

1312. К нам прыходзіце — нам прынасіце, мы прыдзем — дайце. *Добр., Смол., 108.*

1313. У госці ідзіце і сваё нясіце. *М. Грынблат, 1974, Лаг.*

1314. Твае госці — ты й частуй. *Ляцкий, 45; Сержп., 3.*

1315. Няма на поду, то дай чорт ходу. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

1316. Лю́бый госць здáлеку харош. *Добр., Смол., 20.*

1317. Чым багат, тым і рад. *Dybow., 7; Fed., 256.*

а) Чым багаты, тым і рады. *А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29.*

1318. Чым хата багата, тым рада. *Tyszk., 431; Czeczot, 108; Нос., 183; Dybow., 7; Pietk., 313; Fed., 56; А. Гурскі, 1967, Бял. 8.1.112.*

1319. Чым маю, тым прымаю. *Fed., 250.*

а) Чым маю, тым і ўгашчаю. *Pietk., 396.*

1320. Чым багата, тым і рада, а што маю, тым прымаю. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

1321. Багаты чы будзем, а галодны не будзем. *Czeczot, 106. Вар.: Шпил., 175; Нос., 7.*

а) Багаты не будзем, але і галодны не будзем. *Fed., 18, 19.*

1322. Кожнаму старцу па пастáўцу. *Дуб., 29.*

а) Каждаму старцу па стáўцу. *Нос., 59.*

1323. Не ўгасці мяне піўцом, а ўгасці слаўцом. *1961, Брасл. 13.9.5.*

а) Трахтуйце не так піўцом, як добрым слаўцом. *Fed., 313.*

1324. Добрае слаўцо лепш за піўцо. *Сцяшк., 589, Дзятл.*

1325. Не піва дзіва, а прывет. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

1326. Дарагі не абед, а прывет. *Сцяшк., 587, Маст.; Я. Касач, 1966, Дзятл. 13.10.26.*

а) Не так дораг абед, як дораг прывет. *Г. Карачун, 1967, Клецк. 13.10.14.*

б) Даражэй не сняданне, а прывітанне. *Сцяшк., 587, Маст.*

1327. Не дорага піва, а дорага дзіва. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

1328. Смехам і піва п'юць. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

1329. Хмель людзей развесяляе. *Fed., 54.*

1330. Не дорага піва п'янае, а дорага пасядзенейка. *Дуб., 42.*

1331. Піццё — смяццё, але дорага пасядзёнка. *Мін.-Мал., 1970, 165, Узда.*

а) Піццё — смяццё, пасяджонка дорага. *А. Ліс, 1969, Мінск.*

1332. Можна і не рукацца, але прывітацца. *Янк. М., 142.*

1333. Госць — нявольнік. *1961, Брасл., 13.9.5.*

а) Госць як (што) нявольнік. *Міеп., 396; Сержп., 35; Дразд.*

б) Госць — нявольнік, што даюць, мусі есць. *Fed., 113.*

в) Госць — нявольнік, няма рэдзькі, то мёд есь. *Pietk., 371.*

г) Госць як нявольнік: лажыць, хоць і ў пярыну паложуць. *Нос., 29.*

1334. Было што піці, есці, да прынукі не было. *Fed., 250.*

а) Усяго было досыць, анно прыгону не было. *Fed., 249.*

1335. Не прынуківаючы, сам госць не дагадаецца. *Дуб., 42. Вар.: Нос., Слов., 506.*

1336. Якое там гасцяванне, калі прымусу не было. *Сержп., 36.*

а) То не пір, калі прынукі няма. *Дуб., 59.*

б) То не банкет, калі прынукі нет. *Нос., 163; Fed., 22.*

1337. Прымуснай яды няма. *Нос., 137.*

1338. У хворага пытаюцца, а здароваму даюць. *Tyszk., 431; Dybow., 190. Вар.: Шпил., 190; Шейн, II, 190; Дуб., 69; Fed., 73.*

а) У хворага пытаюць, а здароваму не пытаўшы даюць. *Нос., 169. Вар.: Fed., 364.*

1339. Гвалтам узяць возьмеш, а даць не дасі. *Нос., 22.*

а) Адабраць гвалтам можна, а даць не можна. *Fed., 3, 97. Вар.: Пар., 129.*

1340. Сілаю адбярэш, а даць не дасі. *Fed., 277.*

а) Сілаю адняць аднімеш, а даць не дасі. *Нос., 149.*

б) Сілаю прымусіш даць, а ўзяць сілаю не прымусіш. *Бяльк., 404, Мсцісл.*

в) Адабраць адбярэш, а даць насілу не дасі. *Сержп., 137.*

1341. Гвалтам і грошай не дасі. *Сержп., 123.*

1342. Часамі просьба — тая ж прымуса. *Сержп., 8.*

1343. І кормюць, і поюць, і цяблом вока поруць. *Дуб., 25.*

1344. Госць абедам прывязан. *Нос., 28.*

1345. Конь прывязан повадам, а госць полуднем. *Нос., 67.*

1346. З адным брухам на два абеды не паспееш. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1347. Прынясі, што маеш, а там як знаеш. *Ляцкий, 36.*

1348. Звонюць, да нас з хаты не гонюць. *Нос., 48. Вар.: Fed., 361.*

1349. Услед гасця́ не ўпа́дчываеш. *Ром., Зап., I, 215.*

1350. Дома то дома, але не забудзь, што госць у доме. *М. Грынблат, 1969, Лун. 8.2.14.*

1351. За чужымі і сваіх не відна. *Нос., 48; Fed., 70.*

1352. Усем будзе па сем, а кацялку восем. *Fed., 133.*

1353. Усем па сем, а карэннаму восем. *Нос., 18.*

1354. Усем па сем, а хазяіну восем, што хораша просіць, а хазяюшке дзевяць, што хораша дзеліць. *Нос., 18.*

1355. Каму па каму, а каму два камы. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

а) Каму па каму, каму два камы, а каму й так сышло. *Мат., 181, Валож.*

1356. Быў на мяду, абліў мёдам бараду. *Крэмнеў.*

1357. Хто позна прыязджае, той косці агрызае. *Fed., 249.*

1358. Нядобрыя госці — аставілі мёртвых ды косці. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1359. Не сабраць касцей пасля гасцей. *Ляцкий, 27; Сержп., 35.*

1360. У чужом піру пахмелле. *Ром., Зап., I, 215.*

1361. У вас пасядзелі, а ў нас пад'елі. *Ляцкий, 47.*

1362. Не таго шкода, што з'еў, а таго, што астаецца. *Fed., 293.*

1363. У гасцях добра, а дома лепш. *Сержп., 134; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч., 13.8.6. Вар.: Fed., 114; Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

а) У гасцях добра, а дома шчэ лучшай. *Pietk., 369.*

б) У гасцях харашо, а ў дварэ лепі. *Нос., 19.*

в) У гасціне добра, а ўдому лепей. *Fed., 106.*

1364. У вас добра і ў нас не худа. *Ляцкий, 47.*

1365. У гасцях каша, а дома кулеш, да за кашу лепш. *Pietk., 369.*

1366. Сэрца кажа — пасядзём, вочы кажуць — ідзем. *Fed., 336.*

1367. Не выганяюць, але проша вон. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

1368. Будзьце, як дома, але не забывайце, што ў гасцях. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106. Вар.: В. Курбацкі, 1960, Карм. 13.3.29.*

1369. Гдзе любяць, бывай рэдка, а гдзе не любяць, ніколі. *Tyszk., 421.*

а) Дзе любяць, не ўчашчай, дзе не любяць, не бывай. *Шпил., 178.*

б) Дзе цябе любяць, там не ўчашчай, а дзе не любяць, там ніколі не бывай. *Dybow., 9; Дуб., 4; Fed., 317.*

в) Дзе любяць, не ўчашчай, а дзе не любяць, і нагою не накладай. *Дуб., 10, 14; Крэмнеў; Добр., Смол., 21.*

г) Дзе радыя, не ўчашчай, а дзе не радыя, зусім не бывай. *Fed., 256.*

д) Дзе рады, туды не ўчашчай, а дзе не рады, туды ніколі не заглядай. *Pietk., 376.*

е) Дзе любяць, бывай рэдка, а дзе не любяць, то і зусім не заходзь. *Fed., 46.*

ж) Дзе просяць, не ўчашчай, а дзе не просяць, зусім не бывай. *Fed., 317.*

з) Дзе любяць, рэдка хадзі, дзе не любяць, кругом абхадзі. *Ляцкий, 7.*

1370. Дзе ядуць, туды ідзі, а дзе дзяруцца, адтуль ухадзі. *Аним., 262.*

а) Дзе раздаюць, туды ідзі, а дзе б'юцца — уцякай. *Fed., 259.*

б) Дзе п'юць, там пагуляй, а дзе б'юць, адтуль уцякай. *Pietk., 385.*

1371. Не ідзі туды, дзе цябе не просяць. *Дуб., 39.*

1372. У адзінца́ не п'юць вінца, а калі п'юць, дык не дзякуючы ідуць. *Янк. М., 86.*

а) У адзінцы не п'юць вінца, а хоць і п'юць, то не дзякуючы йдуць. *1961, Калінк. 13.9.5.*

1373. Не так рады прыходу, як адходу. *Fed., 4.*

1374. Дзе сала кіпіць, там людзей кішыць. *Ляцкий, 7.*

1375. Туды ўсе бягуць, дзе есці з салам даюць. *Сержп., 17.*

1376. Абы скварка й чарка, дык будзе там і Марка. *1961, Кап. 13.9.5.*

1377. Дзе каша і аладкі, там будзе і грамадка. *Дуб., 17; Ляцкий, 7.*

1378. Дзе з малаком каша, там міласць ваша, а й дзе ж пуга з вузлом, туды і нас з гузном. *Дуб., 13.*

1379. Дзе гам, і я там. *Fed., 102.*

1380. Дзе сабака гам, то і я там. *Fed., 268.*

1381. Які дзень, такі і пажытак. *Крэмнеў.*

1382. Тагды госць бывай у мяне, калі поўна ў гумне. *Нос., 162.*

1383. Быў кус, да гасця не было; прышоў госць — куса няма. *Нос., 10.*

1384. Саўка ў кут, калі госці тут. *Ляцкий, 39; Сержп., 36.*

1385. Дзе кісель, там і сеў, дзе піры, там і лёг. *Л. Стаўратовіч, 1957, Рэч. 13.3.29.*

1386. Добры госць, ды ў сераду трапіўся. *Pietk., 321.*

а) Добрыя госці, ды ў сераду завіталі. *Ігнат.*

1387. І любаму гасцю пятніца бывае. *Рапан., 235.*

1388. У вялікім посце не хадзі ў госці, бо нечым частаваць. *Fed., 241.*

1389. Няхай ён будзе пастол, а ты яго цясні за стол. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

1390. Мілага госця частуюць летам мёдам, а зімою малаком. *Fed., 113.*

а) Любага госця вясною частуюць мядком, а восенню малачком. *Нос., 75; Дуб., 32.*

б) Увосень любага госця частуюць малаком, а нялюбага мядком. *Ром., Бел., I, 311; Зах., 251.*

в) Мілага госця зімою ўгашчаюць малаком, а ў Пятроўку мёдам. *Pietk., 371.*

1391. Дарагія госцікі, ды нечым прымаць. *Fed., 113.*

1392. Рад гасцям, ды хлеба ні на гам. *Рапан., 239.*

1393. Трэба гасцей паклікаць, дык трэба ім і пасыпаць. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.2.*

1394. Не мой госць, не мой і гасцінец. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

а) Не міл госць, не міл і гасцінец. *Добр., Смол., 21.*

1395. Госць міл, да хлеба жаль. *Нос., 28.*

а) I госць міл, і хлеба жаль. *Дуб., Нар., 1.*

1396. У мяне, госцікі, хлеб пазычаны.— А нам не аддаваць. *Нос., 168.*

1397. Добра сытага карміць, а лысага галіць. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1398. На прошанага госця многа трэба. *Нос., 87; Fed., 114.*

а) На званага госця багата трэба. *Сержп., 35.*

б) На спадзяванага госця многа трэба. *Нос., Слов., 605.*

1399. Гасцяваць бы гасцяваў, ды хлеба з сабою не браў. *Нос., Слов., 121; Дуб., 16.*

1400. Як у дому пад'ясі, то і ў гасціне дадуць. *Fed., 209.*

а) Як дома пад'ясі, то й у гасцях накормяць. *Pietk., 372.*

1401. Многа табе набакладжылі, а ў палу не наклалі. *Ляцкий, 21.*

1402. Якое там гасцяванне, калі не прагналі і смагу. *Сержп., 36.*

1403. Пачаставаў халоднаю вадою ды ў стол барадою. *Р. Мазгавая, 1960, Лід. 13.8.28.*

1404. Прышоў госць ды на голую косць. *Fed., 114.*

1405. За вачамі пірагі з блінамі, а як мы прышлі, то і куска хлеба не нашлі. *Гильт., 280, Пруж. п.*

1406. Баль не баль, калі не частуюць. *Сержп., 36.*

а) Стол не стол, калі не частуюць. *Ляцкий, 43.*

1407. Калі баль, так баль, на тры місы жур. *Ляцкий, 16.*

1408. Быць на балю, а не быць п'яну. *Нос., Слов., 14.*

1409. Прасіць прасілі, паднасіць не паднасілі. *Добр., Смол., 21.*

1410. Вечарынку задумаў, а вочы за пазуху сунуў. *Ляцкий, 6.*

1411. Паехаў піраваць, а прышлося гараваць. *Ахрым., 46.*

1412. Чужога абеда не лянісь дажыдаць. *Добр., Смол., 21.*

1413. Горла як прорва, праглынець, што ў рот пападзець. *Крэмнеў.*

1414. Патуль госць мáніў, пакуль не пад'еў. *Ляцкий, 34.*

а) Датуль госць ілгаў, пакуль не паядаў. *Нос., 37; Дуб., 15. Вар.: Вас., 15.*

1415. Наеўся, як пук, а ногі, як дудкі. *Крэмнеў.*

1416. Так у госці звалі, аж рукавы адарвалі. *Рапан., 239. Вар.: Добр., Смол., 20.*

1417. Пашлю ганца па мілага гасця: госць чы будзе, чы не будзе, а ганца пэўна не будзе. *Ляцкий, 34.*

1418. Хто сам прыходзіць, таго не нада прасіць. *Бяльк., 348, Краснап.*

1419. Не ўсякі тэй званы, хто вітаны. *Нос., Слов., 58.*

1420. Нязваны госць горш ваўка. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

1421. Прыйшоў не званы і пайшоў не адпраўлены. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Прышоў не званы і ідзі не гнаны. *Нос., 139.*

б) Прышоў не званы і пашоў не сланы. *1961, Брасл. 13.9.5.*

в) Прышоў не званы і ідзі сабе не сланы. *Дуб., 46.*

1422. Няпрошанага госця за парог выводзяць. *Fed., 114.*

1423. Няпрошанаму госцю месца няма. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

1424. Не прошаны, не дзякаваны. *Fed., 247.*

1425. Бясстыднага госця півам не выгнаць. *Ром., Зап., I, 215.*

1426. Бессаромнага госця скваркамі з хаты не выпрасіш. *Рапан., 233.*

1427. Няпрошанага госця пад стол. *Pietk., 371.*

а) Няпрошанаму госцю месца пад сталом. *Я. Касач, 1966, Дзятл. 13.10.26.*

1428. Госцікі за стол, а лішні хоць і пад стол. *Нос., 28.*

1429. Пашануйся хлеба, солі, калі не шануешся добрых людзей. *Нос., 135.*

1430. Няпрошанаму гасцю лыжкі нет. *М. Грынблат, 1970, Эйшышскі р. ЛітССР 8.2.26.*

а) Нялюбаму госцю лыжкі няма. *Fed., 114.*

1431. Пасledняму госцю лыжка ў качаргешніку. *Fed., 114.*

а) Апошняму госцю лыжка ў качарэжніку. *Янк. М., 26.*

1432. Нялюбыя госці — нялюбыя пірагі. *Мін.-Мал., 1970, 163, Узда.*

а) Нямілага госця і пірагі нямілы. *Fed., 114.*

1433. Непрыяцелю трэба даць хлеба і солі. *Fed., 203.*

1434. Госць не ў пору — горш ворага. *Pietk., 371.*

1435. Не ў час, не ў раз госці. *Fed., 114.*

1436. Госць не госць, а на калатні досць. *Дуб., 11.*

1437. Госць як госць, а валакіты досць. *Нос., 29; Суяшк., 586, Слон.*

а) Які госць, а ўсё суяты досць. *Нос., Слов., 732.*

1438. То не госць, калі яшчэ душа ёсць. *Дуб., Нар., 1.*

1439. Чым госць радчэйшы, тым мілейшы. *Fed., 113.*

а) Чым госці радзейшы, тым даражэйшы. *Суяшк., 616, Слон.*

1440. Ліхая сіла гасцей узнасіла. *Сержп., 71.*

1441. Які госць, такі і гасцінец. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

а) Які госць, такая і пачостка. *Сержп., 36.*

б) Які госць, такое й частаванне. *Ляцкий, 62.*

в) Які госць, такая яму чэсць. *Fed., 113; М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

г) Які госць, такое й снеданне. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1442. Госця па адзежы сустракаюць, а па розуму праважаюць. *Добр., Смол., 20.*

1443. Хто спераду — таму мёду чэрап, хто ззаду — жабу. *М. Гвяздзёў, 1965, Пух. 8.1.102.*

1444. Калі да цябе не п'юць, не кажы дзякуй. *Ляцкий, 16.*

а) Калі да цябе не п'юць, то ты не дзякуй. *Гильт., 291, Віл. п.*

б) Да цябе не п'юць, не кажы на здароўе. *«Гродн. губ. вед.», 1856, № 21; Pietk., 335.*

в) Не да цябе здароўкаюць, не кажы на здароўе. *Fed., 352.*

г) Не за цябе п'юць, дык не гавары здароў будзь. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1445. Не кажы дзякуй, калі цябе не частуюць. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

1446. У гасцінах за яду астатні прымайся, а першы пераставай. *Ляцкий, 48.*

1447. Госць першы дзень — злота, другі дзень — срэбра, а на трэці — медзь і дадому едзь. *Dybow., 9.*

а) Першы дзень госць — золата, другі — серабро, трэці — медзь, дамоў едзь. *Л. Салавей, 1971, Мядз. Вар.: Fed., 113.*

б) Госць першы дзень — золатка, другі — серабро, трэці — медзь, а чацверты — дамоў едзь. *Драздз.*

в) Першы дзень госць — золата, на другі дзень — серабро, на трэці дзень — медзь, сабірай шмуткі і дамой едзь. *І. Суяпунін, 1968, Дзярж. 8.2.12.*

г) Госць першы дзень — золата, другі — серабро, а трэці — медзь, хоць і з двару едзь. *Нос., 28.*

1448. Рыба і госць на трэці дзень псуюцца. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

1449. На гасценне ёсць цярпенне. *Сержп., 34.*

1450. Без гасцей нам прасцей. *Янк. 373.*

1451. Прыхадзі ў госці, кума, калі мяне дома няма. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

1452. Госцю гадзі, ды й сябе глядзі. *Сцяшк., 586, Слон.; Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

1453. Госцю гадзі, да й сябе не галадзі. *Нос., 29; Сержп., 36.*

1454. Госць на двор, а бяда на вор. *Нос., 28.*

а) Госць на двор, і бяда на двор. *Нос., 28.*

1455. Госць гасцю не рад, а хазяін абаім. *Аним., 262.*

1456. Госць госця ненавідзіць, а гаспадар абудвых. *Гильт., 293, Віл. п.*

1457. Любіш гасцяваць — любі і прымаць. *Сержп., 35.*

1458. Дзякуй таму, хто хлебам корміць, а больш таму, хто хлеб-соль помніць. *Сержп., 124. Вар.: Добр., Смол., 14.*

1459. Будзем у гасцях, то ў вас, то ў цябе. *Fed., 113.*

1460. Гасцінца назад не бяруць. *Сержп., 123.*

1461. Не кармі хлебам — не будзеш мець ворага. *Булг., 176.*

а) Не паіўшы, не карміўшы, не будзеш ворага імець. *Вас., 15.*

б) Не кармі, не пой, то не будзеш маць ворага. *Pietk., 399.*

1462. Чужымі пірагамі добра гасцей частаваць. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1463. Госць рэдка бываець, да многа відзіць. *Tyszk., 420.*

а) Госць мала гасцюе, а многа бачыць. *Pietk., 371. Вар.: Fed., 113.*

б) Госць не многа гасцюець, да многа відзіць. *Добр., Смол., 20.*

в) Госць не многа бываець, да многа відаець. *Нос., 28.*

г) Госць рэдка бываець, да шмат відаець. *Дуб., 10. Вар.: Шпил., 178.*

1464. Госць не многа есць, але многа бачыць. *А. Гурскі, 1967, Бял. 8.1.112.*

1465. Кошка мыецца — гасцей кажыць. *Нос., 68.*

1466. Кот мурлыча — гасцей кліча. *Ляцкий, 18.*

1467. У гаршку вада калышацца — госці будуць. *Сержп., 71.*

1468. З рук што падае — госць спяшыць. *Fed., 266.*

1469. Нос свярбіць — гасціны чуе. *Fed., 205.*

1470. Будзь здароў, будзь здароў — да і з лаўкі далоў. *Ляцкий, 5; Сержп., 66.*

1471. Госць па абедзе дамоў едзе. *Ляцкий, 8; Сержп., 34.*

1472. Калі госць, так гасці, а двара не касці: пастаўлю на парог, пакажу сем дарог. *Добр., Смол., 21.*

1473. Спасіба гэтаму дому, пойдзем к другому. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1474. Спасіба. — Спасіба богу і мне, а хазяйцы не? *М. Грынблат, 1964, Мсцісл. 8.1.106.*

1475. За сваю сілу, што ў рот насіла. *Крэмнеў.*

1476. Дзякуй за хлеб, за бліны, каб у вас болі людзі не былі. *Ляцкий, 10.*

1477. Спасіба за клёцкі, поліўка ў зубы навязла. *Нос., Слов., 461.*

1478. Начлега [redacted] сабою не носяць. *Нос., 113, 116.*

а) Начлег за сабою ніхто не носіць. *Добр., Смол., 113.*

б) Начлег з сабою ніхто не носіць, а ў людзей просіць. *Сержп., 35.*

1479. Ідзе ноч абнімецъ, там і заначуеш; няўгож людзі — татары. *Добр., Смол., 113.*

1480. Прымі падарожнага — сам будзеш у дарозе. *Сержп., 122.*

1481. Для дарагога госця і вароты насцеж. *Махнач.*

1482. За пастой грошай не бяруць. *Ром., Бел., I, 296.*

1483. За пастой не плацяць, а дорага бяруць. *Нос., 46.*

1484. Заначую — журбы не пачую. *Добр., Смол., 114.*

1485. Дзе чуюць, там начуюць. *Сержп., 42; Fed., 69; Pietk., 316.*

а) Дзе чуе, там і начуе. *Гильт., 289, Брэсц. п.*

1486. Дзе днюю, там і начую. *Л. Ткачова, 1960, Нясв. 8.1.55.*

1487. Начую да й не чую. *Добр., Смол., 15.*

1488. Не чуеш, то галодны заначуеш. *Сержп., 36.*

1489. У людзей ноч начаваць — не век векаваць. *Добр., Смол., 113.*

1490. Дзе начаваць, там не дняваць. *Мяц., 75, Карм.*

1491. Ідзе не сабіраешся ноч начаваць, пераначуеш дзве і тры. *Добр., Смол., 113.*

1492. Госць лавы не праседзіць. *Fed., 113; Цяшк., 586, Маст.*

1493. Сёння тут, а заўтра ў другі кут. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1494. Мы пра людзей вечарок сядзім, а людзі пра нас усю ноч не спяць. *Ром., Зап., III, 223.*

1495. Як пераначуеш, то больш пачуеш. *Czeczot, 109; Мальч., № 45; Аним., 265.*

а) Пераначуем, болей пачуем. *Tyszk., 434; Нос., 126; Dybow., 188. Вар.: Fed., 227; Pietk., 386; М. Грынблат, 1970, Лаг.*

# БЕДНАСЦЬ. ЖАБРАЦТВА. БАГАЦТВА. САЦЫЯЛЬНА-МАЁМАСНАЯ НАРОУНАСЦЬ

1496. Бедната не адбярэ ні чэсці, ні вума. *Сержп., 23.*

1497. Бедны — бледны. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1498. Бедната — дурата. *Сержп., 136.*

1499. Бедны чалавек — брат дурнога. *Мін.-Мал., 1970, 158, Уздэ.*

1500. Калі ты бяднейшы, то ты і дурнейшы. *А. Гурскі, 1971, Паст. 8.2.46.*

1501. Беднаму ўсюдых бедна. *Нос., 12.*

1502. Беднаму ўсюды цесна. *Fed., 26.*

1503. Беднаму і вецер у вочы. *Суяшк., 581, Вор.*

a) Беднаму заўсёды вецер у вочы. *Дуб., Нар., 13.*

1504. У беднага і ў кашы косці. *Суяшк., 610, Свісл.*

1505. Беднасць папрасілася жыць на нядзелю, а жыве цэлы месяц. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1506. У нэндзы век доўгі. *Сержп., 24.*

1507. Трэба бедаваць, калі няма на што панаваць. *Ляцкий, 46.*

1508. Беднасць сораму не знае. *Pietk., 357.*

1509. Прыйшлі і мы да Хамы, а той сам бядны. *Ляцкий, 36.*

1510. Відзіць то бог, ад чаго жывот засох. *Ром., Зап., I, 216.*

1511. Не затое згалелі, што соладка елі, а так бог даў. *Tyszk., 429; Шпил., 185.*

1512. Не затое згалелі, што соладка пілі і смачна елі, а затое, што ліхадзеі тоўстае горла мелі. *Янк. М., 152.*

1513. Ад таго мы пагалелі, што смашна пілі да елі. *Нос., 123; Fed., 210.*

1514. Не праз тое пагалелі, што смашна пілі да елі, да праз тое, што не стараліся. *Fed., 210.*

1515. Не п'ем, не гуляем, а нічога не маем. *Dybow., 15; Fed., 184.*

1516. К нашаму кусту ўсё пуста. *Добр., Смол., 19.*

1517. Ані хлеба, ані ўкусіць чым. *Dybow., 5.*

1518. Рваная світка не загуна. *Бяльк., 175, Касп.*

1519. Чалавек убогі, як конь бязногі. *Сержп.*

1520. Нуда горш за каросту. *Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

1521. Прыйшоў недастатак, забраў астатак. *Сержп., 75; Fed., 201. Вар.: Пар., 129.*

1522. Недастаткі бяруць астаткі. *Fed., 202.*

1523. Быў тут дастатак, да забраў нястатак. *Fed., 77.*

1524. У беднага заўсюды па абедзе. *Fed., 29.*

1525. Хто гарэ на валу, той спіць на палу. *Дуб., 70.*

1526. Там і непаладкі, дзе недастаткі. *Ахрым., 53.*

1527. Галеча ды голад пагоняць на холад. *Зах., 250.*

1528. Недастаткі гоняць з хаткі. *Сержп., 23.*

1529. Разбагацеў у Амерыцы, ухваціў шылам патакі. *В. Зубарай, 1956, Гом. 13.3.29.*

1530. Уцякай голы, бо абдзяруць. *Fed., 112; Pietk., 370.*

1531. Бедны да беднага гарнецца, а багаты ад каго хочаш адвярнецца. *Янк. 51.*

1532. Хто багат — усім брат; хто ж нічога не мае, таго ніхто не знае. *Сержп., 26.*

1533. Голь на выдумкі вострa. *Нос., 26.*

1534. Хоць голы, абы вясёлы. *Булг., 176. Вар.: Шырма, 206; Fed., 111; Г. Шымко, 1967, Навагр. 13.10.21; І. Цішчанка, 1971, Брасл. 8.2.49.*

а) Хоць гола, да вясёла. *Dybow., 192; Fed., 111.*

б) Чым галей, тым весялей. *Fed., 111.*

1535. Як гол, так васцёр. *В. Іваноўская, 1962, Светл. 8.1.74.*

а) Хоць гол, да васцёр. *Нос., 173; Ахрым., 58.*

1536. Хоць гол, як біч, да вумен, як Саламон. *Mien., 395.*

1537. Што лапці зробяць, таго боты не папpавяць. *Мат., 186, Слуцк.*

1538. Голы, як біч, востры, як меч. *Шпил., 178; Нос., Слов., 67; Сержп., 24; Дуб., 10.*

1539. Гол, асцёр і богу працівен. *Tyszk., 426.*

1540. Чым галей, тым смялей. *Tyszk., 422; Нос., Слов., 117.*

1541. Як бяднее, чалавек вумнее. *Сержп., 23.*

1542. Хоць небагаты, але зухаваты. *В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.26.*

1543. Хоць бяздворан, да ўсюдых праворан. *Нос., Слов., 19.*

1544. Нужда скача, нужда пляшыць, нужда песенькі пяець. *Ляцкий, 29.*

1545. Абадранцы пайшлі ў танцы, галабокі пайшлі ў скокі. *Нос., 117; Сержп., 26.*

1546. Не да танцу абадранцу. *Нос., 97; Дуб., 38; Fed., 41; В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

1547. Рэдкі смехі і пацехі ў бедака. *Дуб., 53.*

1548. Ліха ў мужчыны, што ні дроў, ні лучыны. *Сержп., 25.*

1549. Была ў сабакі хата, ды ад дажджу згарэла. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7; Сем.*

1550. Той нічога не страціць, хто нічога не мае. *Fed., 291.*

1551. Пераліўкі — мышыная доля. *Нос., Слов., 405.*

1552. Ні кала, ні двара. *Сержп., 121; Fed., 147; Д. Зальцэвіч, 1965, Радун. 13.10.6.*

1553. Ні вала, ні кала. *Шпил., 186; Нос., 111; Дуб., 42; Fed., 337.*

1554. На ўсё сяло адзін вол і тэй гол. *Нос., 89.*

1555. Сем сёл, адзін вол. *Dybow., 189.*

а) Сем сёл, адзін вол і той гол. *Czeczot, 113; Нос., 14; Л. Малаш, 1969, Докш. 8.2.22.*

1556. Ні гаў, ні каў, ні кукарэку. *Янк., Дыял., III, 163, Глуск.*

1557. Сем паноў, двое штаноў; хто раней устаў, той штаны ўзяў. *М. Грынблат, 1968, Мінск.*

1558. Не да пугаўя, а з пугаўя. *Шпил., 185.*

а) Не на пугаўё, а з пугаўя. *Дуб., 42.*

1559. Не згрозіш шчупаку морам, а галышу — горам. *Сержп., 26.*

1560. Голы разбою не баіцца. *Czeczot, 108; Tyszk., 422; Шпил., 178; Киркор, 235; Нос., 26; Dybow., 9; Дуб., 16; Pietk., 370; Fed., 112; Сержп., 41.*

а) Голаму разбой не страшан. *Нос., 26; Сержп., 23.*

1561. Голаму разбой не шуміць. *Klich, 46.*

1562. З голага нічога не возьмеш. *Сержп., 185.*

а) З голага няма чаго ўзяць. *Сержп., 24.*

б) Трудно што ўзяць з голага. *Fed., 112.*

в) З голага, як са святога, — нечага ўзяць. *Сержп., 23.*

1563. У бяскудлага не пажывішся хахлом. *Нос., 166.*

1564. Хапіў голага за пазуху. *Дуб., Нар., 3.*

а) Будзе й голаму за пазуху. *Мяц., 118, Слуцк.*

1565. У яе за пазухаю вош пішчыць. *Сержп., 23.*

1566. У яго за душою няма зломанага гроша. *Сержп., 25.*

1567. У скупкі возьмеш, а ў неткі ніколі. *Нос., Слов., 343; Дуб., 65. Вар.: Янк. М., 104.*

1568. Багат Цімошка: сабака да кошка. *Нос., 6.*

1569. Няма нічога, анно набітніцы. *Fed., 194.*

1570. Дай таго, чаго няма. *Fed., 73.*

1571. З чужэй ніўкі на душу і ў душу. *Добр., Смол., 4.*

1572. Жэб так было, як няма. *Fed., 46.*

1573. Уздыхаю, бо свайго не маю. *Fed., 323.*

1574. Мяшок парожні, а ў мяшку дзіра. *Fed., 183.*

1575. Пусты мяшок не напхаеш. *Міеп., 396.*

1576. Дзіравага мяшка не напхаеш. *Сцяшк., 588, Шчуч.*

а) Дзіравага вору (меха) нічым не супоўніш (не напоўніш). *Нос., 67; Fed., 183. Вар.: І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1.*

б) Дзіравага мяшка, як не супаўняй, ніколі не супоўніш. *Нос., 34. Вар.: Fed., 183.*

в) Без дна мяшка не напоўніш. *Fed., 182.*

1577. Бяздоннай бочкі не напоўніш. *Fed., 32; В. Бондар, 1967, Мінск 13.10.24.*

1578. Чорт дзірку находзіць. *Нос., 183.*

1579. Вялікая дзірка, да малая накрыўка. *Шпил., 177.*

1580. Адну дзірку лапіш, а другая глядзіць. *Нос., Слов., 265; Дуб., 3.*

1581. Як жыў, то і тужыў. *Сержп., 38.*

1582. Не хваціўшы на душу, нечага палажыць і ў душу. *Нос., 107.*

1583. Нехта ўспамінае, хто свайго не мае. *І. Курбека, 1964, Докш. 13.9.7.*

1584. Голь галіта́ голлю паліта́. *Ляцкий, 8; Дуб., 10; «Зорка».*

1585. Голы ў голага паляжаць просіцца. *Dybow., 9; Fed., 112.*

1586. Стой, пане-браце! А ў пана — лата на лаце. *Сем.*

1587. Сядзіць упацьмах і гаспадзін, калі шкуру дзяруць за керасін. *«Кр.»*

1588. Будзеш бедаваць, калі няма на што панаваць. *Сержп., 135.*

1589. Багат мой брат, от толькі лапці раты разявілі. *Рапан., 38.*

1590. Скарэй будзеш гарбаты, чым багаты. *А. Гурскі, 1969, Кап.*

1591. Па што, воўча, ідзеш? — Па паследняе. *Tyszk., 430; Dybow., 188; Дуб., 50.*

1592. Голы, збірай! — Голы гатоў. *Мат., 174.*

1593. Як няма, то і абыйдзецца. *Fed., 203.*

1594. Чаго няма, таго і хочацца. *Булг., 177.*

1595. Тагды маю, калі ў руках трымаю. *Нос., 162; Fed., 184; Сах; А. Рахунак, 1967, Зельв. 13.10.24.*

1596. І гэта добра, калі лепшага няма. *Сержп., 17.*

1597. І гэта хораша таму, хто лепшага не відаў. *Нос., 54.*

1598. Хто лепшага не мае, таму і гэта добра. *Крапіва, 231.*

1599. Не ўрадзіў мак, перабудзем і так. *Czeczot, 112; Шпил., 186. Вар.: Mien., 397; Нос., 24; Fed., 175; Дуб., 39; Сах.; М. Малочка, 1959, Мядз. 8.1.46.*

а) Не ўрадзіў мак — пражывем так. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1600. Не радзіў сем лет мак, то жылі і так. *Pietk., 377.*

1601. Не бачыў краснага, дык і чорнаму рад. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

1602. І месяц свеціць, калі сонца няма. *Лужанін, 48.*

1603. Айдзе куца, там і рвецца. *Нос., 1.*

1604. Нашто беднаму кветкі, калі іх у гародзе поўна. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

1605. Жыве, абы дзень да вечара. *Fed., 367.*

1606. Абы канцы з канцамі стачыць. *Fed., 135.*

1607. Жыўшы, жыўшы, да і пойдзеш завыўшы. *Нос., 42.*

1608. Куды кінь, усюды клін. *Tyszk., 430. Вар.: Fed., 146; Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

1609. Сыты лічыць зоры ў небе, а галодны мае думку аб хлебе. *Сержп., 37.*

1610. Закурыў бы даўно, ды ў кармане пусто. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1611. Няма за што рук залажыць. *Крапіва, 246.*

1612. Які галытвеннік быў, так і будзе. *Сержп., 25.*

1613. Нічым быў, нічым і астаўся. *Ляцкий, 29.*

1614. Дажыліся кулікі, што ні хлеба, ні мукі. *Мін.-Мал., 1974, 186, Пух.*

1615. Каб наат бацька і маці з таго свету ўсталі, то і так ніц не будзе. *Fed., 45.*

1616. А ў галыша не душа? *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24.*

1617. І ў галыша такая самая душа. *Fed., 102.*

1618. Хто сам бяды зазнаў, той беднаму веры дасць. *Fed., 26.*

1619. Пышна душа ў убогім целе. *Fed., 89.*

a) Панская душа ў убогім целе. *Fed., 218, 219.*

1620. Не для нас ананас. *Fed., 8.*

1621. Хлеба не стала, калатоўшчыкі сталі. *Добр., Смол., 9.*

1622. Як беднаму жаніцца, дык і дзень кароткі. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

a) Як беднаму жаніцца, то й ноч пакарочала. *Pietk., 311. Вар.: Ю. Ботвін, 1967, Ваўк. 13.10.28.*

1623. На бедных свет стаіць. *Fed., 28.*

1624. У галоты найбольш работы. *Fed., 102.*

1625. Мужык многа працуе, ды нічога не мае. *Н. Рында, 1967, Зельв. 13.10.23.*

a) Гаруе, гаруе, і няма нічога. *Fed., 104.*

1626. Бедны ў багатага за сабаку стаў у парозе. *Fed., 28.*

1627. Бедны баіцца, а багаты не хоча. *Ляцкий, 4; Сержп., 18.*

1628. Багаты як хоча, а ўбогі як можа. *Ром., Зап., I, 215.*

1629. Бедны можа быць багатыром, а багатыр бедным. *Fed., 28.*

1630. Багаты дзівіцца, як худы жывіцца. *Czeczot, 106; Шпил., 175.*

a) Багатыр дзівіцца, чым худак жывіцца. *Tyszk., 432; Шейн, II, 413.*

б) Няхай багач дзівіцца, чым худак жывіцца. *Нос., 106; Дуб., 40; Добр., Смол., 5. Вар.: Fed., 18; Pietk, 356.*

в) А багаты дзівіцца, чым худоба жывіцца. *Бяльк. 169, Мсцісл.*

г) Багаты ўбогаму дзівіцца, чым жывіцца. *Ром., Зап., I, 215.*

д) Багаты дзівіцца, чым гарушчы жывіцца. *Fed., 19; М. Грынблат, 1973, Бабр.*

е) Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца, а бедны смяецца, дзе ў багатага дзяецца. *Мін.-Мал., 1970, 158, Уздз. Вар.: Д. Вайчок, 1966, Лід. 13.10.26.*

ж) Багатыр дзівіцца, чым худак жывіцца.— Не дзівіся, багачу, я й за цябе заплачу. *Ляцкий, 3. Вар.: Сержп., 16.*

1631. Бедны песні пяе, а багаты толькі слухае. *Зах., 250.*

1632. Не дзівіся худабе: сёння давялося мне, заўтра — табе. *Сержп., 21.*

а) Не завідуй худабе: дзісь мне, заўтра табе. *Ляцкий, 25.*

б) Не завідуй худабе, давядзець бог і цябе. *Крэмней.*

в) Не завідуй худабе, няхай бог дасць і табе. *Fed., 351.*

1633. Не дзіва, згалець кожны можа, а от ты забагацей, дак то будзе дзіва. *Сержп., 17.*

1634. Далёка воку да боку, а мухі да буха, а бабылю да хазяіна. *Добр., Смол., 4.*

1635. Некалі бабыль хазяінам быў. *Добр., Смол., 4.*

1636. Тагды будзеш багат, калі парсюк будзе рагат. *Ляцкий, 44.*

1637. Хваробы бойся, астрогу сцеражыся, а торбы не цурайся. *Янк., Мат., 185, Глуск.*

1638. Багата жыві, жабраваць не заракайся. *Гильт., 292, Віл. п.*

1639. Сёрбай, сёрбай — пойдзеш з торбай. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

1640. Не ўмеў шанаваць — ідзі жабраваць. *Ляцкий, 31; Сержп., 29.*

1641. Убогага (старца) кій корміць. *Нос., 166; Сержп., 23, 25.*

1642. Астатні кій у старца адоймуць. *Сержп., 62.*

1643. Старац мядзведніку не таварыш. *Нос., 185; Сержп., 59.*

1644. Бацька быў сярэдні гаспадар: торбы па баках, а сам пасярэдзіне. *Янк. М., 49.*

1645. Падупаў — так і прапаў. *Добр., Смол., 10.*

1646. З торбы не разжывешся. *Сержп., 24.*

1647. Працягваючы руку, не разбагацееш. *Сержп., 24.*

1648. Дай, божа, даваць, а не прасіць. *Fed., 73.*

а) Лепш даваць, ніж прасіць. *Fed., 74.*

1649. Пусціўся Мікіта на валакіту. *Нос., 141; Сержп., 26. Вар.: Дуб., 35.*

1650. Даў бог Мікіту на валакіту. *Fed., 186.*

1651. Пусціў бог Мікіту на валакіту, дак трэба валачыцца. *К. Кабашнікаў, 1960, Слуцк. 8.1.57.*

1652. Старцу сяло не наклад. *Нос., 156; Dybow., 189; Шейн, II, 481, Слуцк. п.; Fed., 290; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29.*

а) Старцу ў сяле не наклад — як краюшак, дык рад. *1959, Круп. 8.1.42.*

1653. Жабраку торба не груз, а сяло не пераход, *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

1654. Старцу дзяраўня не круг. *Добр., Смол., 117.*

1655. Старцу міля не наклад. *Сержп., 56.*

1656. Пашоўшы ў мір, і цестам прымай. *Нос., 136; Дуб., 45.*

а) У мір пайці, так і цеста ўзяць. *Ром., Зап., I, 216.*

1657. Тады мы з торбачкамі прыйшлі, калі нічога не найшлі. *Mien., 395.*

1658. Старац зубоў не мае, а сухары носіць. *Сержп., 75.*

а) Запас бяды не чыніць і есці не просіць — старац зубоў не мае, а сухары пра тое носіць. *Pietk., 400.*

б) Старац зубоў не мае, а асушкі збірае. *Сержп., 75.*

1659. Не весел калека, што торба невяліка. *Сержп., 23.*

1660. Вялікі вор, ды малы збор. *Нос., 13; Дуб., 7.*

1661. Торбачка папаўнела — старчык павесялеў. *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24.*

1662. Нашто ў клець іці па муку, калі торба вісіць на круку? У ёй і крупы драныя, і кускі ламаныя. *Нос., 91.*

1663. У дзеда з торбы не пакарыстаеш. *Ляцкий, 48.*

1664. Б'юцца за мяшок, а мяшок парожны. *Dybow., 6; Fed., 29.*

а) Сварацца за мех, а ў мяху няма нічога. *Fed., 294.*

б) Пасварыліся за мех, а ў мяху нічога. *Fed., 183.*

в) Паспрачаліся за мех, а ў мяху смех. *Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

1665. Развязаўся мех не на смех. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; А. Фядосік, 1960; Капатк. 8.1.76.*

1666. Бог весць, што ў катоме есць, а вядома таму, хто кладзець. *Ром., Зап., I, 215.*

1667. Парожні мяшок плечы муляе. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1668. Карман тоўсты, пяньковы. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1669. Паніч — торба ды й біч. *Fed., 217.*

1670. У старцах жыць, да з перцам есць. *Нос., 20.*

а) Хоча старцам жыўшы, ды з перцам еўшы. *Радч., 249.*

б) Хоча ў старцах жыўшы з перцам есць. *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

в) Паны нішчымныя: у старцах жывуць ды з перцам жруць. *К. Кабашнікаў, 1962, Гор. 8.1.77.*

1671. У старэцкім целе да панская душа. *Нос., 20; Дуб., 65.*

1672. І ў старца душа не пень: хоча хлеба і канапель. *А. Ліс, 1971, Шарк. Вар.: Рапан., 46; Добр., Смол., 117.*

1673. З торбаю трасуся, да нікога не баюся. *Сержп., 23.*

1674. Нашы старцы пайшлі ў танцы. *Сержп., 23.*

1675. Старцы пугі на пугі мянялі ды барышы півалі. *А. Ліс, 1963, Міёр. Вар.: Добр., Смол., 117.*

1676. Старац старца ненавідзіць, а павадыр абодвух. *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24.*

а) Старац старца не любіць, а хазяін абыдвух. *Pietk., 393.*

1677. Старац старца не знаходзіць, затое павадыр павадыра знаходзіць. *Г. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1678. Яму толькі старцаў вадзіць. *Pietk., 398.*

1679. Дзядну і старцы памінаюць. *Ром., Бел., I, 295.*

1680. Падаруйце палаценца залáпіць каленца. *Дуб., 48.*

1681. Убогаму падай — табе бог падасць. *Ляцкий, 47.*

1682. Крупы драныя, сальца кроенае, кускі ломаныя. *Добр., Смол., 117.*

1683. Бог жабраваў і нам казаў. *Fed., 35.*

1684. Пад касцёл з доўгімі рукамі. *Сержп., 88; Fed., 266.*

а) З даўгімі рукамі — пад касцёл. *М. Шлык, 1969, Зельв.*

1685. Не хачу жабраваць, буду пры табе гараваць. *Сержп., 8.*

1686. Волей малаціць, чымся з мехам па людзях хадзіць. *А. Ліс, 1963, Міёр.*

1687. У каго шырокі карман, той самы вялікі (большы) пан. *Ляцкий, 49; Сержп., 16.*

1688. У каго кашэль, той і красён. *Ром., Бел., I, 311.*

1689. Пакуль з багатага пух, то з беднага дух. *Fed., 19; Сах.; Pietk., 356; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1690. Пакуль жырны конь схудае, а худой і здохне. *Аним., 264.*

а) Пакуль сыты ссохне, то худы здохне. *Fed., 296; Дравд.; А. Рахунак, 1967, Зельв. 13.10.24.*

б) Пакуль жырны ссохнець, датуль худы здохнець. *Нос., 132.*

в) Пакуль сыты схуднее, то худы прападзе. *Ворожб.*

1691. Пакамест багач зжывецца, худак намрэцца. *Добр., Смол., 5.*

1692. Пакуль бедны зайдзе, то багаты заедзе. *Fed., 29.*

1693. Тагды дурны гардзее, як забагацее. *Сержп., 16.*

1694. Як пабагацелі, то й папыхацелі. *Fed., 206.*

1695. Як забагацеў, дак і завяліся мухі ў носе. *Сержп., 17.*

1696. Багач ідзе, аж дуброва гудзе. *Сержп., 17.*

1697. Багаты рубам ходзіць. *Сержп., 16.*

1698. З раскошы шкура пукаецца. *Сержп., 17.*

1699. Хто маець, той не дбаець. *Нос., 176; Сержп., 17.*

1700. Той мае, што ў руках трымае. *Ляцкий, 45.*

1701. Не баюся прыпадку, маю грошай у дастатку. *Fed., 117.*

1702. Сабака кудлаты — яму цёпла, мужык багаты — яму добра. *Athen. Вар.: Гильт., 292, Віл. п.; Fed., 270; Pietk., 379.*

а) Сабака касмат — яму ж цёпла; мужык багат — яму ж добра. *Нос., 152; Дуб., 55.*

б) Пан багаты — яму добра, сабака кашлаты — яму цёпла. *Kolb., 473, Пін. п. Вар.: Аним., 263; Fed., 192.*

в) Мужык багаты, а сабака кудлаты, то на адно выходзіць. *Fed., 192.*

г) Мядзведзь касмат — яму цяпло, багач багат — яму дабро. *Добр., Смол., 4.*

1703. У каго кварта на стале, у таго праўда на сяле. *Л. Марчанка, 1960, Церах. 13.3.29.*

1704. Чыя чарка паўней, таго і праўда вярней. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1705. Няма чужой лыжкі на стале — няма славы на сяле. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1706. Багаты — рагаты: усё глядзіць, каб каго збіць. *Янк. Н., 12.*

1707. Як ёсць сіла, дык і за мяжой ніва. *А. Ліс, 1966, Докш. 8.1.104.*

а) Калі б меў сілу, і за лужаю нашоў бы ніву. *Нос., 62.*

б) Калі будзеш мець сілу, знайдзеш і за мяжой ніву. *Tyszk., 435.*

в) Чыя сіла — за мяжой ніва, а чыя нясіла — на сваім полі чужая ніва. *Добр., Смол., 106; А. Ліс, 1963, Міёр.*

1708. Якая сіла, такава і ніва. *Добр., Смол., 107.*

1709. Пасілее, хто забагацее. *Ляцкий, 34.*

1710. Не то багацце, што ляжыць, а што бяжыць. *А. Куцакова, 1956, Рaг. 13.3.29.*

1711. У каго табачок, у таго і свяцечка. *Э. Валюшка, 1965, Вайк. 13.10.5.*

1712. Дзіва, што багач разумны. *Сержп., 17.*

1713. Дай божа багацтва, то й розум будзе. *Fed., 18.*

1714. Хто багаты, той разумны. *Fed., 19.*

1715. Хоць і пусты мяшок, ды золатам шыты. *Ляцкий, 54.*

1716. Анно ўмерлы — свабодны, анно разумны — багаты. *Fed., 320.*

1717. У каго чуюць, перад тым і шапкуюць. *Сержп., 16.*

1718. Багатага здалёку спатыкаюць. *Дуб., 7; Нос., Слов., 608.*

а) Багатага за варотамі сустракаюць, а ад беднага дзверы запіраюць. *Дуб., 7.*

1719. У каго ў каліце, той і з панам на куце. *Янк., 70.*

1720. Багатага праводзяць, каб не ўпаў, а злодзея, — каб не ўкраў. *Сержп., 87.*

1721. Багатаму чорт дзеці калышыць. *Tyszk., 429; Гильт., 287; Нос., 6; Dybow., 5; Fed., 19; Pietk., 310; Сержп., 17; І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1; Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

а) Багатаму чорт дзеці калыша, а беднаму з калыбкі выкідае. *Fed., 19; Сцяшк., 580, Свісл.*

1722. Багатаму і чорт у кашу маслам кідае. *Аним., 262.*

1723. Каму месяц свеціць, таму і зоры ўсміхаюцца. *Лужанін, 48.*

1724. Чым багацей, тым скупей. *М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2. Вар.: М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

а) Чым багачшы, тым скупшы. *Fed., 19.*

1725. Грашавіты заўжды бедніцца. *Сержп., 17.*

1726. Хто болей мае, той яшчэ жадае. *Fed., 183.*

1727. Што ступіць, то лупіць. *Fed., 172.*

1728. Лупіць да жывога. *Fed., 172.*

1729. Усё б загроб, ды багацтва пугаю не загоніш. *Pietk., 310.*

1730. Хто каго нагне, той таго наб'е. *Fed., 196; Pietk., 220; 1961, Брасл. 13.9.5.*

1731. Багаты абы-што хапае, бо свайго ліку не мае. *Янк., 49.*

1732. Бойся чалавека сытага, а сабакі галоднага. *Добр., Смол., 15.*

1733. У багача іглы не падточыш. *Добр., Смол., 5.*

1734. Багацтва раздымае, а галота нагінае. *Fed., 18.*

1735. Багацце дае рогі, а бедната — ногі. *Сержп., 23.*
а) Роскаш — рогі, нэндза — ногі. *Fed. 263, 200.*

1736. Багаты беднага душыць. *Fed., 19.*

1737. Тады багатыя рады, калі ў бедных пайшлі звады. *Янк., 63.*

1738. У багатага сума не сходзіць з вума. *Добр., Смол., 4.*

1739. Багатага не распазнаеш ад тараватага. *Нос., 6.*

1740. Нападзі на багатага, капейку дасць. *Нос., 86; Сержп., 7.*

1741. Без бога бог. *Добр., Смол., 5.*

1742. Такая карысць з мужыка багатага, як з сабакі касматага. *Fed., 193.*

1743. Багатаму даваць, а беднаму браць. *Pietk., 356.*

1744. Багаты любіць драць ды браць, але паспрабуй у яго ўзяць. *С. Палікоўская, 1965, Рэч. 13.10.1. Янк. М., 150; Цяшк., 580. Лід.*

1745. У багатага не прасі, а яму яшчэ прынясі. *М. Жылінскі, 1965, Свісл. 13.10.6.*

1746. Не спіцца багатаму ўначы. *Ляцкий, 30.*

1747. Багацтва пырыць, а злыдні трэплюць. *Добр., Смол., 5.*

1748. Стань свінаватым, то будзеш багатым. *Pietk., 356.*

1749. Багатаму красці, а старому маніць. *Ляцкий, 3; Pietk., 356; Fed., 18. Вар.: Нос., 6.*

а) Багатаму анно красці, а старому лгаці. *Fed., 18. 291.*

б) Добра старому хлусіць, а багатаму красці, бо ёсць да чаго прыкласці. *Сержп., 87.*

1750. Багачу красць, а беднаму бажыцца. *Добр., Смол., 5.*

1751. Не аддаўшы душу ў ад, не будзеш багат. *Добр., Смол., 4.*

1752. Багатым стаў, бы чорту душу запрадаў. *Сержп., 17.*

1753. Над багачамі чэрці з калачамі. *Fed., 18.*

1754. Ты — багач, ты — вядзьмак. *Добр., Смол., 5.*

1755. Багаты грошы збірае, а чорт машну гатуе. *Шейн, II, 473, Ігум. п.; Fed., 19.*

а) Багаты грошы збірае, а чорт мяшок шые. *Fed., 19.*

1756. Каб былі ўсе багаты, то бога забылі б. *Fed., 19.*

1757. Багатага не хваляць, а што яму дзелаецца. *Ром., Зап., I, 215.*

1758. Багача і ў пекле шануюць. *Добр., Смол., 5.*

1759. Багатаму і ў пекле добра. *Fed., 19.*

1760. І ў небе лепш яму не будзе. *Fed., 44.*

1761. У гору пашоў, аж вяроўкі трашчаць. *Нос., Слов., 650.*

1762. То б дзіва было, калі б тумар з голаду умар. *Нос., Слов., 644; Дуб,. 61. Вар.: Нос., 34.*

1763. Мельнікава карова і дзеўка папова і аканома кабыла нігды галодна не была. *Fed., 184.*

1764. Ці будзеш багат, пузат будзеш. *Добр., Смол., 5.*

1765. Беднаму ад асату дае бог красату, а багатаму і ад хлеба — сухату. *Мін.-Мал., 1970, 158, Уздз.*

1766. Раскоша бокам не выпірае. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

1767. У багатай хаце і куры часцей нясуцца. *Сцяшк., 610, Свісл.*

1768. У яго і козы ходзяць у золаце. *Дуб., Нар., 1.*

1769. Багатага і бог любіць. *Сцяшк., 580, Воран.*

1770. З вялікага не выпадзе. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

1771. Які б гэта крук, штоб выпусціў з рук. *Czeczot, 109; Нос., 193.*

1772. К раскошы хутка прывыкаць. *Сержп., 77.*

1773. З бяды да роскашы то хутка прывыкаеш, але з роскашы да бяды — то не. *Fed., 28, 113.*

1774. Роскаш і плача і скача. *Fed., 263.*

1775. У багача багата багацця, да шчасця няма. *Сержп., 17.*

1776. У раскошы век кароткі. *Сержп., 17.*

1777. Багатага і хваслівага не разбярэш. *1961, Кап. 13.9.5.*

1778. Тагды прышоў стыд, як стаў сыт. *Нос., 163.*

а) Стаў сыт, дак і ўзяў стыд. *Ром., Зап., III, 231.*

б) Стаў сыт, пазнаў стыд. *Сержп., 37.*

1779. Чалавек багаты, а найбольш ветру слухае. *А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3.*

1780. Хоць гарбаты, ды багаты. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

1781. Толькі ў міліянера дастатак купіць яец дзесятак. *«Кр.»*

1782. І ў багача ў хаце нячыстае трапляецца. *Сержп., 13.*

1783. Хто хоча быць борза багатым, скора страціць на тым. *Нос., Слов., 31; Дуб., 70.*

1784. Хутка забагацееў, хутка згалееў. *Сержп., 24.*

1785. Не заракайся цёнгле багатым быць, бо чы не прыдзецца пад старасць торбу насіць. *Ляцкий, 25.*

1786. Адзін з сошкаю, а сямёра з ложкаю. *Нос., 118; Дуб., 2; Fed., 6; Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

1787. Хто пацеець, а хто сыцеець. *Дравд. Вар.: Янк. Н., 18; М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2.*

1788. Хто будуе, хто жыве. *Fed., 13.*

1789. Багатаму лічыць, а беднаму рабіць. *Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24; Янк. М., 39.*

1790. Багаты беднаму не спагадае. *Н. Лазарэвіч, 1967, Клецк. 13.10.23; І. Вайганіца, 1965, Іў. 13.10.1.*

а) Грашоўны беднаму не спагадае. *Сержп., 17.*

б) Заможны галышу не спагадае. *Сержп., 17.*

в) Сыты галоднаму не спагадаець. *Tyszk., 420; Мальч., № 42; Mien., 396; Нос., Слов., 605; Dybow., 18; Ром., Бел.,*

*I, 309; Крапіва, 342; Pietk., 394; Fed., 29; Дуб., 56; Дразд.; А. Стаўровіч, 1957, Рэч. 13.3.29.*

1791. Сыт голаду не разумеець. *Ром., Зап., III, 231.*

а) Сыты галоднага не знаець. *Карл., № 15.*

б) Сыты галоднаму не верыць. *Л. Лазовік, 1965, Скід. 13.10.4.*

1792. Здаровы хвораму не верыць, а багаты — беднаму. *Янк., М., 121.*

1793. Сыты галоднаму не раўня. *З. Буднік, 1965, Гродз. 13.10.1.*

а) Сыты галоднаму не кампаня. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

1794. Сытаму гора, а галоднаму ўдвое. *Ляцкий, 43.*

1795. Багатыр беднаму не брат. *Fed., 19.*

1796. Хто багат, той мне брат. *Czeczot, 107; Нос., 175; Fed., 19; Dybow., 191.*

1797. Калі багат, то мой брат, калі худы, адыйдзі туды. *Fed., 42.*

1798. Пакуль багат, датуль не брат, а як прыдзе кадук, тады брат і гайдук. *Ляцкий, 32.*

1799. Ніколі багач з худаком не братаецца. *Дуб., 37.*

а) Багаты з бедным не знаецца. *Fed., 19.*

б) Багаты беднаму не сябра. *І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3; Сцяшк., 580, Гродз.*

1800. Бог няроўна дзеліць. *Дуб., 6. Вар.: Fed., 38.*

а) Не ўсім бог роўна дзеліць. *Fed., 38.*

б) Бог няроўна дзеліць: аднаму дае многа, а другому мала. *Fed., 94.*

в) Бог няроўна дзеля: аднаму крова, другому целя. *Г. Барташэвіч, 1970, Астр. 8.2.33.*

г) Не каждаму бог пароўні даў. *Fed., 38.*

1801. Як бог лесу не зраўнаваў, так і людзей. *Ляцкий, 62.*

а) Бог лес не ўраўняў, а людзей тым больш. *В. Іваноўская, 1963, Лен. 8.1.83.*

1802. Бог з людзьмі робіць ігрыска: аднаго ўгару, а другога нізка. *Fed., 34.*

1803. У натуры ўсе роўны, а ў шкатулі не. *Добр., Смол., 26.*

1804. Які крук, такая й рыбіна. *Сап., 262.*

1805. Аднаму годзі, а другому глодзі. *Нос., 119.*

1806. Каму долата, а каму золата. *Мін.-Мал., 1970, 61, Пух.*

1807. Аднаму аж з горла прэ, а другі з голаду мрэ. *Янк. М., 39.*

1808. Адны пануюць, а другія гаруюць. *Рапан., 37; Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24; Янк. М., 39.*

а) Хто пануе, а хто гаруе. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

1809. Багатым жыццё, а бедным выццё. *Янк. М., 39.*

1810. І сонца не роўна свеціць. *Сержп., 11.*

а) І сонейка ўсіх не сагрэе. *Сержп., 48.*

1811. На адно сонца глядзім, ды не адно ядзім. *І. Хайратовіч, 1951, Талач. 13.8.4; Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6.*

1812. Рож корміць сплош, а пшанічка — па выбару. *І. Хайратовіч, 1951, Талач. 13.8.4.*

1813. Не пад адною гвяздаю ўсе родзяцца. *Fed., 262.*

1814. Аршынам усіх не мерай. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1815. Гужы бываюць сырамятныя і вяроўчаныя. *Бяльк., 142. Мсцісл.*

1816. Бывае добра, а не ўсякаму, як Якаву. *Ром., Зап., І, 215.*

1817. Конны пешаму не таварыш. *Ром., Зап., ІІІ, 221; Fed., 147.*

а) Пешы коннаму не таварыш. *Нос., 142; Fed., 233; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

б) Пешы коннага не здагоне. *Бяльк., 326, Краснап.*

1818. Гусь свінні не таварыш. *Ахрым., 26; Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5; Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5.*

а) Гусь свінні не таварыш: гусь паднялася, свіння засталася. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1819. Кошка мышцы не таварыш. *Нос., 68.*

1820. Свіння каню не таварыш. *Fed., 309.*

1821. Гаршчок катлу не таварыш. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29; Ахрым., 255.*

1822. Мядзведзь ваўку не таварыш. *Дуб., Нар., 1.*

1823. Мядзведзь карове не брат. *Булг., 177.*

1824. Прышла свіння да каня, але шэрсць не такая. *Tyszk., 429; Dybow., 17. Вар.: Дуб., 45; Булг., 177.*

а) Прыраўнялась свіння да каня, да шэрсць не такава. *Нос., 138.*

б) Пабраталася свіння з канём, да шэрсць не такая. *Fed., 308.*

в) Прымеркаваў свінню да каня, да шэрсць не такая. *Fed., 250.*

г) Прыраўнавалася, як свіння да каня, да шэрсць не такая. *Fed., 251.*

д) Што то раўнаваць свінню да каня, калі і шэрсць не такая. *Fed., 258.*

е) Падобна да каня, толькі шэрсць не такава. *Fed., 308.*

1825. Пабраталася свіння з пастухом. *Fed., 207.*

1826. Якая масць, такая і снасць. *А. Ліс, 1969. Смарг.*

1827. Якая на свінні шэрсць, такая ёй і чэсць. *1961, Брасл. 13.9.5; Зах., 251.*

1828. З сабачым хвастом у ваўчыны табар. *Добр., Смол., 123.*

1829. Прылучыў казла к баранам. *Нос., Слов., 504.*

1830. Чашыся конь з канём, вол з валом, а свіння аб вугол. *Крэмнеў.*

а) Конь з канём, вол з валом, а свіння з вуглом. *Fed., 149.*

1831. Свой свайго пазнаў і на піва пазваў. *Czeczot, 114; Tyszk., 425; Dybow., 18; Ляцкий, 40. Вар.: Fed., 225; Pietk., 344.*

а) Чорт д'ябла пазнаў, на піва пазваў. *Fed., 67.*

б) Чорт чорта пазнаў і ў госці пазваў. *Сержп., 59.*

в) Свой свайго пазнаў да й на пачастку пазваў. *Нос., 147.*

1832. І чорт не брат, і свіння не сястра. *А. Жадзейка, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

1833. Як багаты ўмрэць, паследні з хаты прэць, а як худачок — толькі поп ды дзячок. *Ром., Бел., I, 315.*

а) Як багаты ўмрэ, то апошні з хаты прэ, а як бядак, то анно поп да дзяк. *Fed., 19.*

б) Памёр багаты — па пяцера з хаты, а памёр бедны худачок — толькі поп ды дзячок. *Ляцкий, 33.*

в) Як памрэ багач, усе з поля бяжаць, а як бядняк, дык поп ды дзяк. *Н. Купцоў, 1967, Ветк. 13.3.29.*

г) Калі памрэ беднячок, дык ідзе поп ды дзячок, а калі памрэ багаты, дык ідуць па тры з хаты. *А. Фядосік, 1960, Нясв. 8.1.54. Вар.: Янк., 67.*

д) Як памрэ багаты, дык па тры з хаты, як памрэ бядняк, дык не йдуць ніяк. *Сцяшк., 618, Кар.*

1834. Як я быў багаты — звалі ў кумы і сваты, а як стаў бедны — кожны морду верне. *І. Сувалаў, 1958, Чач. 13.3.29.*

1835. Багаты і ў будні святкуе, а бедны і ў свята гаруе. *Pietk., 356.*

1836. Аднаму шчасце ракою плыве, а другі ў няшчасці цэлы век жыве. *Fed., 298.*

1837. Аднаму ідзе, як па масле, а другому, як па грудзі. *Fed., 122.*

1838. Які ні скурат, а ўсё ж лапцю не брат. *Дуб., Нар., 17.*

1839. Мае лапці лазовыя пераносяць твае боты казловыя. *Fed., 429; Шпил., 183.*

1840. Адны плачуць, другія скачуць. *Fed., 238.*

а) Адзін скача, другі плача. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

1841. Так на свеце вядзецца: адзін плача, другі смяецца. *Сержп., 77.*

1842. Палавіна свету скача, палавіна плача. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29. Вар.: Янк. М., 48.*

1843. Каму смех, каму гора, каму лужа, каму мора. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

1844. Адзін катаецца, а другі каецца. *Л. Стаўровіч, 1957, Рэч. 13.3.29.*

1845. Ходзіць ад хаты да хаты: хто бедны, а хто багаты. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1846. Аднаму трэска голіць, а другому і брытва не хоча. *Fed., 314. Вар.: Fed., 301.*

1847. Аднаму густа, а другому пуста. *Pietk., 338.*

а) У каго густа, у каго пуста. *Ляцкий, 48.*

1848. Каму ў рыла, каму няма. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

а) Аднаму надта, а другому ніц. *Fed., 195.*

1849. Багатаму і ў полю родзіць, і ў хляве плодзіць, а беднаму дзе кінь, то клін. *Fed., 19.*

1850. Аднаму льецца, а другому нат не капае. *Fed., 167.*

1851. Багатаму і скрыпка сама грае, а мая і смыкам не хоча. *Pietk., 310.*

1852. Адзін у пір, другі ў вір. *Нос., 118.*

1853. Каму смятанку з тваражком, а каму й сываратку з гаршком. *1961, Кап. 13.9.5.*

1854. У кожнага свая асечка: у багатага не варыць жывот, а ў беднага — печка. *Янк., 64.*

1855. Хто тлушчае, а хто бялее. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

1856. Адзін бок наб'е, другі мёдам нальe. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

1857. Хоць трэсні сініца, а не быць жураўлём. *Сах.*

а) Колькі вутка не мудруй, а лебедзем не будзеш. *А. Рахунак, 1967, Маст. 13.10.5.*

б) Як бы сава ні старалася лятаць, а за сакала не будзе. *Сцяшк., 616, Маст.*

1858. Што багаты з'есць у пятніцу, таго бедны не паспытае ў нядзелю, а падчас і на вялікдзень. *Pietk., 385.*

а) Лепш ён з'есць у вяліку пятніцу, як я на вялікдзень. *Fed., 329.*

1859. Памажы, божа, багачу ў рагаччу, а беднаму ў дзетках. *Дуб., 46.*

1860. Багатаму жаль карабля, а беднаму кашаля. *Нос., 6. Вар.: Добр., Смол., 5.*

а) Багатаму не стольки жалка карабля, скольки беднаму жалка хатуля. *Ром., Бел., 1, 291.*

б) Багатаму не шкода і ша́цця, а беднаму жаль і шма́цця. *Сержп., 26.*

1861. Каму за шутку прымуць, а другому за тое шкуру знімуць. *Нос., 67.*

1862. Багатая — рылатая, убогая — хандогая. *Сержп., 64.*

1863. Адзін пень гарэў, а другі спіну грэў. *А. Жадзейка, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

1864. Каму жыць, а каму гніць. *Fed., 367.*

а) Хто ў зямлі гніе, а ён жыве. *Fed., 367.*

1865. Каму за стол, а каму хоць і пад стол. *Нос., 67.*

1866. Калі ў кепскім кажусе, не садзіся на куце. *Ляцкий, 17.*

1867. Ёсць у каліце — сядай на куце, а на плячах хатуль — пытаюць: «Адкуль?» *Сержп., 23.*

1868. Калі худ, то ў кут. *Tyszk., 421; Шпил., 182; Dybow., 12.*

1869. Калі худ, не лезь на кут. *Нос., 66; Fed., 55.*

1870. Куды мяне вядзеш з лапцямі на кут. *Дуб., 27.*

1871. Не вялікі розум сесці на кут. *Сержп., 61.*

1872. Не стаяўшы ў парозе, не будзеш сядзець на куце. *Нос., 103.*

а) Не пастаяўшы ў парозе, на кут не кідайся. *Бяльк., 239, Мсцісл.*

1873. Што будзе, то будзе, а Грышка на куце не будзе. *Tyszk., 427; Нос., Слов., 37; Dybow., 192.*

1874. Яшчэ паглядзім, дзе каго пасадзім. *Янк., 394.*

1875. На нашы ногі высокі парогі. *Fed., 221; Нос., 81., Сержп., 31. Вар.: Дуб., Нар., 6.*

1876. Не нашымі губамі гэта есць. *Нос., 100.*

а) Не нашым носам маліну кляваць. *Fed., 175.*

1877. Не валіцца шышка пад яблыню, а пад елку. *Сцяшк., 600, Воран.*

1878. Не лезь, куды галава не лезе. *В. Іваноўская, 1963, Смарг. 8.1.83.*

1879. Няма рыла, няма мліва. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1880. Не давядзецца свінні на неба глядзець. *Ром., Бел., I, 303.*

1881. Яшчэ не было таго, каб свіння воўка з'ела. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

1882. Выцягвай ножкі падлуг адзёжкі. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26.*

а) Па адзёжкі працягвай ножкі. *Нос., 133., Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

1883. Па Хомку шапка. *Mien., 396; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

а) Па Юрку і шапка. *1961, Брасл. 13.9.5.*

б) Па Саўку шапка. *Mien., 426; Нос., 134; Дуб., 46.*

в) Па Сенькі шапка. *Ryp., 215; І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35.*

г) Па Сеньку шапка, па кучару калпак. *І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35.*

д) Не па шубе рукаў, не па Сеньку шапка. *Ахрым., 43.*

е) Па Івашку і рубашка. *Ром., Зап., III, 229.*

ж) Па каню і хамут. *А. Махнач. 1954. Уздз. 13.10.15.*

1884. Прыгож будзець і гэткі хамут на гэткага каня. *Дуб., 45.*

1885. Не тваім зубам гэта кусаць. *Нос., 104.*

1886. А сабацы добра й муха. *Дуб., Нар., 2.*

1887. На том свеце ўсе роўныя будзем. *Fed., 307.*

1888. Усе людзі роўна родзяцца і роўна паміраюць. *А. Ліс, 1963, Міёр.*

1889. Магіла ўсіх зраўняе. *Fed., 174; Дуб., 37.*

а) Магіла ўсіх зраўніла. *Нос., 78.*

б) Зямля святая ўсіх нас зраўняе. *Fed., 355.*

в) Хто піша, хто гарэ, хто барануе, зямелька ўсіх раўнуе. *Суяшк., 614, Воран.*

г) Магіла ўсіх памірыла. *Нос., 78.*

д) Магіла ўсіх прымае. *Fed., 174.*

1890. Лячы мужыка, як пана, а пана, як мужыка. *М. Грынблаг, 1971, Мінск.*

1891. У шынку і ў бані — роўныя дваране. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

а) У шынку і ў бані — усе дваране. *А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29.*

б) У лазні ўсе роўны. *Нос., 19.*

## БЯДА, ГОРА, ЛІХА, НАПАСЦЬ, ЗЛЫДНІ. БЕЗВЫХОДНАСЦЬ. СПАДЗЯВАННІ

1892. Бяда беднага шукае. *Сержп., 24.*

1893. Бяда і на гладкай дарозе спаткае. *Fed., 25.*

1894. На бяду то й чорт не спіць. *Fed., 27; Pietk., 311.*

1895. На бяду нямнога трэба. *Fed., 27.*

а) На бяду мала трэба. *Fed., 27.*

1896. На бяду і з палкі выстраліш. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1897. За нечывелі і ў агонь кінешся. *Дуб., 23.*

1898. Бяда грошы знайдзе. *Ром., Мат., 85.*

а) Бяда найдзецъ грошы. *Нос., 11.*

1899. Абы бяда — грошы будуць. *Гильт., 293, Віл. п.; Dybow., 4; Ляцкий, 2.*

а) *Як* бяда, то і грошы будуць. *Fed., 24.*

б) Каб напасць, то бог грошы дасць. *Булг., 177.*

в) Абы напасць, а грошы чорт дасць. *Ляцкий 1.*

г) *Як* дасць бог бяду, то й грошай здабуду. *Шырма, 207.*

д) Абы струп, будуць вошы, абы бяда, будуць грошы. *Fed., 292.*

1900. На бяду паспееш і на валу. *Радч., 247.*

1901. Прышла бяда на ліха. *Fed., 28.*

1902. Не гора, а бяда. *І. Суконкін, 1960, Церах, 13.3.29.*

1903. Бяда гоніць, мала шыі не зломіць. *Fed., 25.*

1904. Не шукай бяды, яна сама прыдзе. *Гильт., 297, Віл. п.; Fed., 26.*

а) Не жджы бяды, бяда сама прыдзець. *Ром., Бел., І, 303.*

б) Бяды шукаць не трэба, сама найдзе. *Fed., 26.*

в) Не шукай бяды, бяда сама цябе найдзець. *Нос., 109. Вар.: Гильт., 291, Пруж. п.; Сержп., 22; В. Валетка, 1965, Слуцк. 13.10.19.*

г) Не ішчы гора, гора цябе сышчыць. *Добр., Смол., 19.*

д) Не шукайма ліха, яно нас само знайдзе. *Fed., 165.*

е) Аднае бяды не трэба шукаць, яна сама знойдзе. *Fed., 26.*

ж) Бяда ўсюды знойдзе. *Сержп., 22; Fed., 26.*

1905. Ад бяды не скута́ешся. *Дуб., 2.*

а) Не хавайся ад бяды, бяда ўсюды знойдзець. *Дуб., 41.*

б) Не кута́йся ад бяды, бяда ўсюдых сама найдзець. *Нос., 99.*

1906. Ты ад бяды, а бяда ў вочы. *Нос., 165.*

1907. Бяда за плячыма. *Fed., 26.*

1908. Шчасце за гарамі, а бяда за плячамі. *Pietk., 394.*

1909. Бяда перад ачыма, а смерць за плячыма. *Fed., 26.*

1910. Бяда за бядамі, а смерць за плячамі. *Fed., 26.*

1911. Ад бяды не ў воду. *Дуб., 3.*

а) Ад бяды не кінуцца ў ваду. *Нос., 121.*

1912. Бяда па лесе не ходзіць. *Fed., 25.*

1913. Бяда па людзях ходзіць. *Fed., 25.*

а) Бяда не па лесе, а па людзях ходзіць. *Нос., 12. Вар.: Fed., 25.*

б) Бяда па людзях, не па пушчы ходзіць. *Fed., 25.*

в) Беды не ходзяць па гарадам ды па лясам, а ўсягда па людзям. *Ром., Зап., I, 215.*

1914. Не здарылася б бяды, каб конь не быў худы. *Сержп., 79.*

1915. Чорт панёс на дзіравы мост. *Крэмнеў.*

1916. Абы б бяда, а шыя будзець. *Нос., 1; Сержп., 21.*

1917. Млын меле — мука будзе, сабака брэша — бяда будзе. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1918. Хоць у вір галавою, то бяда за табою. *Fed., 26. Вар.: Я. Касач, 1966, Дзятл. 13.10.26.*

1919. Ці дзе днюю, ці начую, а ўсё бяду сваю чую. *Дуб., Нар., 1.*

1920. У бядзе ніхто не дасць раіння. *Бяльк., 384, Краснап.*

1921. Руда бядзе не помач. *І. Хайратовіч, 1951, Кругл. 13.8.4.*

а) Руда бядзе не поможа. *Нос., 145.*

б) Гразь гору не помач. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1922. Жуда (журба) бядзе не помач. *Нос., 43; Дуб., 20; Сержп., 39.*

1923. Ліха ўстане, калі бяда настане. *Ляцкий, 19.*

1924. Уніз вада знясець, а ўверх бяда вывезець. *Ром., Зап., І, 216.*

1925. Бяда ніколі не згіне. *Fed., 25.*

а) Пакуль свет светам, бяда нігды не згіне. *Fed., 25.*

б) Трэба бедаваць да магілы. *Fed., 28.*

1926. Хто бяду перабудзе, за сабаку будзе. *Fed., 26.*

1927. Ад бяды не ўберажэшся. *Сержп., 22.*

а) Ад бяды кіем не абаронішся. *Fed., 24.*

1928. Бяда не канава — не пераскочыш. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

1929. Бяда ў хату — прападзе й багаты. *Ляцкий, 4.*

1930. Бяда наўчыць. *Fed., 25.*

а) Бяда розуму ўчыць. *Fed., 5.*

б) Прыдзе бяда, купіш вума. *Сержп., 21.*

в) Бяда дакучыць, тады чалавек розуму навучыць. *Fed., 25.*

г) Бяда да мука — тая ж навука. *Сержп., 21.*

д) Бяда вывучыць і вымучыць. *А. Сіплівая, 1967, Пруж. 13.10.24.*

е) Бяда хоць мучыць, да жыць вучыць. *Нос., 12; Сах.; Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

ж) Бяда падбіраецца, [чалавек] вума набіраецца. *Сержп., 21.*

1931. Пасля бяды кожны разумны. *Сах.*

1932. Устань, бяда, не ляжы. *Нос., 18.*

1933. Дзе ні мах, то ўсё бяда [бяду] па зубах. *Fed., 26.*

1934. Не я плачу, бяда плачаць. *Tyszk., 430.*

1935. Сем бед, адзін атвет. *Нос., 148; Ляцкий, 41; Pietk., 308; Fed., 15; 1961, Кап. 13.9.5.*

1936. Улезшы ў раду, трэба цягнуць бяду. *Fed., 256.*

а) Сядзіш у раду, цягні бяду. *Ворожб.; Радч., 248; Сержп., 40.*

1937. Бяды цярпець — каменнае сэрца мець. *Ром., Зап., I, 215.*

1938. Біў не біў, а толькі ў той бядзе быў. *Вас., 22.*

1939. Ад радасці валасы ўюцца, ад бяды сякуцца. *А. Смурага, 1967, Свісл. 13.8.28.*

1940. Бяда з грошамі, а без грошай яшчэ больша. *Fed., 116.*

1941. Та бяда не бяда, каторая па дзеньгі пайшла. *Ром., Зап., III, 233.*

1942. Гэта не бяда: яшчэ тры дні да бяды. *Fed., 26.*

1943. Адхілілася гора, то бяда спаткала. *Fed., 113.*

а) Уцякай гора, бяда сустракаець. *Нос., 170.*

1944. Бяда бядзе не паможа. *Fed., 25.*

1945. Адна бяда не дакучыць. *Fed., 24, 25.*

1946. Адной бяды заўсёды мала. *Fed., 25.*

1947. Адна бяда — не бяда. *Tyszk., 430.*

а) Адна бяда — то то́ яшчэ не бяда. *Fed., 25.*

1948. То не бяда, калі адна, але дзве, або тры. *Fed., 25.*

а) Адна бяда не бяда, а калі дзве, тры разам — то бяда. *Нос., 118.*

б) Адна бяда не бяда, дзве бяды — поўбяды, калі трэцюю надыба́еш, вот тады бяду спазнаеш. *Ляцкий, 2; Сержп., 22.*

в) Аднае бяды замала, трэба дзесяць. *Fed., 25.*

г) То не гора, што адно гора, а то гора, што два горы. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1949. Бяда да хвароба як дзве птушкі-зязюлькі: накукуешся ўдоваль, пакуль яны вытаўкуцца. *Ляцкий, 4.*

1950. Калі адна бяда ідзе, то й другую за ручку вядзе. *Fed., 24.*

а) Адна бяда ідзе, другую за ручку вядзе. *А. Сіплівая, 1967, Пруж. 13.10.24; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.20. Вар.: Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

б) Адна бяда не ходзіць. *Dybow., 5.*

в) Адна бяда не ходзіць, другую за сабою водзіць. *Ляцкий, 1; Сержп., 21.*

г) Бяда не бывае адна: калі яна ходзіць, з сабою ўсю радню сваю водзіць. *І. Цішчанка, 1975, Слаўг.*

1951. Бяда па бядзе, як па нітцы (нітачцы), ідзе. *Tyszk., 430; Шпил., 176; Dybow. 6; Нос., 12; Fed., 251; Мяц., 150, Валож.; Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2; А. Ліс, 1968, Смарг; М. Грынблат, 1969, Лаг.*

а) Бяда на бядзе, як на шчэпачцы, едзе. *Ляцкий, 4.*

б) Бяда за бядою, як рыба за вадою. *Fed., 26; Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24; М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2.*

1952. Ліха адной бядзе прыйсці, то бяда бяду родзіць. *Ром., Зап., III, 222.*

1953. Як прышла бяда, адчыняй варата. *Гильт., 293, Віл. п.*

1954. Не адно ліха, дык другое. *Сержп., 22.*

1955. Бяда ідзе і прычыну вядзе (нясе). *1961, Кап, 13.9.5; Суяшк., 582, Кар.*

1956. Бяда на бяду лезе. *Fed., 25.*

1957. Бяда бяду гоніць. *Fed., 25.*

1958. Бяда заўсёды ў пары ходзіць. *Fed., 26.*

1959. Па бядзе дзве бядзе. *Янк., Дыял., III, 164, Глуск.*

1960. Бяда на бядзе едзе. *Fed., 25.*

1961. Бяда бяду вязе. *Fed., 25.*

а) Бяда бяду вядзе, а трэцяя паганяе. *Нос., 11; Сержп., 23.*

1962. Бяда за бядою ходзіць з калядою. *Fed., 26.*

1963. Чорт адну бяду перабудзець, адна мінець, дзесяць будзець. *Tyszk., 430; Dybow., 191; Fed., 26.*

а) Чалавек адну бяду перабудзець, а дзесяць іх прыбудзець. *Нос., 182.*

б) Хто бяду перабудзе — адна міне, дзесяць будзе. *Dybow., 192; Fed., 26.*

в) Кадук бяду перабудзе — адна згіне, дзесяць будзе. *Fed., 26.*

1964. На ўсякую бяду не наплюешся. *Добр., Смол., 19.*

1965. На дзень лады, а на дзень бяды. *Fed., 169.*

а) На дзень гайды, а на век бяды. *Fed., 98.*

1966. Дзяды не відалі бяды. *Нос., Слов., 133.*

а) Дзяды не бачылі бяды. *Дуб., 15.*

б) Жывуць дзяды, не знаюць бяды. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

1967. Нашы дзяды не зналі бяды, але ж унукі набраліся мукі. *Tyszk., 412; Шпил; 185; Dybow., 184.*

а) Дзяды не зналі бяды; насталі ўнукі, набяруцца мукі. *Нос., 34; Сержп., 49.*

б) Дзяды не зналі бяды, а ўнукі даждаліся мукі. *Pietk., 368. Вар.: Fed., 93, 320.*

1968. Бяда не раве, да спаць не дае. *Сержп., 23.*

1969. Бяда не дуда: пішчыць, а не грае. *Fed., 25.*

1970. Бяда як дуда: зачнеш дуць, аж слёзы набягуць. *Tyszk., 430; Шпил., 176; Дуб., 5; Шейн, II, 473; Сержп., 21.*

а) Бяда як дуда: станеш дуць, слёзы самі йдуць. *Нос., 12: Сах.*

1971. Як бяда бядзілася, то тады ўсё ладзілася. *Fed., 26.*

1972. Як бяда, не смашна яда. *Fed., 27.*

а) Як прыдзе бяда, не палезе ў горла яда. *Fed., 27.*

1973. Больш бяды, як яды. *Fed., 128.*

1974. Больш бяды, як наўды. *Fed., 26.*

1975. Не да каляды, калі поўна хата бяды. *Ахрым., 42.*

1976. Бяда скача, бяда плача. *Fed., 25.*

1977. Не я плачу, бяда плача, мая душа гуляць хоча. *Fed., 27.*

1978. Раней смерці не памірай, раней бяды не бядуй. *М. Дуброўскі, 1957, Лельч. 13.3.29.*

1979. Са смехам любая бяда пад сілу. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1980. Мая бяда — мая нуда. *Шырма, 206; А. Махнач, 1952, Уздз., 13.10.15; У. Іваноў, 1958, Мінск.*

1981. Я сваю бяду голадам не перавяду: піць, есць мушу, бо бярэ за душу. *Fed., 27.*

1982. Я гэтую бяду пальцам развяду. *Dybow., 184; Fed., 27.*

1983. Чужую бяду рукамі развяду. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Чужую бяду й пальцам развяду. *А. Ліс, 1969, Смарг.*

б) Чужую бяду і я развяду, а сваю і вадою не разалью. *1961, Кап. 13.9.5.*

в) Чужую бяду і я развяду, а сваю і возам не развязу. *Г. Барташэвіч, 1960, Кап. 8.1.50.*

г) Чужую бяду па нітачцы развяду, а сваю і рукою не адолею. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

д) Чужую бяду і рукамі развяду, а сваёй і віламі не сапхну. *Ляцкий, 58.*

е) Чужую бяду і па валасу развяду, а сваю і каўшом не выграбу. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

ж) Чужую бяду па валасу развяду, а сваю — ума не забяру. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.76. Вар.: Н. Рында, 1967, Зельв. 13.10.23.*

з) Чужую бяду я па валасу развяду, а к сваёй ума не прыкладу. *Нос., 185.*

і) Чужую бяду і я развяду, а свая прыдзе — розуму не дабяру. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

к) Чужую бяду і рукамі развяду, а на сваю і ўма не сышчу. *А. Лучанок, 1961, Мінск 13.9.6.*

л) Чужую бяду я січас развяду, а на сваю бяду ра́йца не знайду. *Бяльк., 384.*

1984. Сваю бяду на другога ўзвяду. *Нос., 147.*

а) Сваю бяду на суседа ўзвяду. *Ляцкий, 40.*

1985. Чужой бядзе не дапаможаш. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

1986. Як на бяду, то і я падыду. *Fed., 27.*

1987. У бядзе жаласнікаў многа, да памагачоў нікога. *Нос., 19. Вар.: Сах.*

1988. Радзі, божа, лепш ратавальнікі, ніж бедавальнікі. *Fed., 258.*

1989. Як бяда, то: «Братка!» *Fed., 27.*

1990. Чужой бядой сыты не будзеш. *Ахрым., 60; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

1991. Чужая бяда людзям каляда. *Янк. М., 121.*

1992. Як мужыку бяда, дак пану каляда. *Мін.-Мал., 1970, 170. Узда.*

1993. Каму бяда, каму смех. *Fed., 27.*

а) Каму смех, а мне бяда. *Fed., 303; В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

1994. Чужая бяда людзям смех. *Нос., 184; Сержп., 21. Вар.: Fed., 26.*

а) З чужое бяды людзям смех. *Pietk., 357.*

1995. Саваёю бядою нікому не жалься, бо добры збаіцца, а злы насмяецца. *Fed., 28.*

а) Сваёй бяды нікому не кажы, бо добры злякнецца, а злы пасмяецца. *Шейн, II, 481, Барыс. п.; Fed., 28.*

1996. Чужой бядзе не радуйся. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах.*

а) Не радуйся чужой бядзе — свая наперадзе́. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

б) Не смейся, ра́бе, давядзецца і та́бе. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

в) Не смейся чужой бядзе, і твая наградзе́. *Fed., 27; І. Януля, 1965, Ваўк. 13.10.3.*

г) Не цешся з чужой бяды, бо свая наедзе. *Ляцкий, 31.*

д) Не смейся бядзе: дасць бог і табе. *1961, Брасл. 13.9.5.*

е) Не смейся з чужой бяды, табе свая будзе. *Гильт., 297, Вілен. п.*

ж) Хто з чужой бяды смяецца, таму галава завінецца. *Fed., 26.*

1997. Не зыч ліха другому, каб не давялося самому. *Дуб., 43; Сах.*

1998. Чы саву аб пень, чы пень аб саву, усё саве бяда. *Tyszk., 430; Нос., 180.*

а) Ці савою аб пень, ці пнём аб саву, то саве баліць. *Fed., 272.*

б) Хуць саву аб пень — саве больна, хуць пень аб саву — саве больна, а пню ўсё-такі нічога. *Добр., Смол., 125.*

в) Ці саву аб пень, ці пнём аб саву. *Сержп., 11, 134.*

1999. Ад бяды ўцёк, ды ў гора трапіў. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

2000. Не шукай гора: яно само цябе знойдзе. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

2001. Гора ходзіць не па лесу, а па люду. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

а) Прыпадкі па людзях ходзяць, не па лесе. *Fed., 250.*

2002. Гора адно не ідзе, а за сабою сем вядзе. *Янк. М., 67.*

2003. Гора і валамі не аб'едзеш. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

2004. Гора гараваць — не век каратаць. *Ляцкий, 8.*

2005. Гора гараваць — не мёд лізаць. *Ром., Бел., 1, 293. Вар.: Fed., 113.*

2006. Мыслі за вачамі, а гора за плячамі. *Мін.-Мал., 1970, 162, Іў.*

2007. Табе, братку, пацялося, а мне гора павялося. *Дуб., 60.*

2008. Гора лычкам падперазана, а мачулачкай засцягнута. *Бяльк., 206, Мсціс.*

2009. Горкаму ўсюдых горка. *Нос., 27.*

а) Няшчаснаму ўсюды цесна. *Fed., 201.*

2010. Век працавалі, век гаравалі. *Сержп., 38.*

2011. У горы радзіўся, у горы памру. *М. Грынблат, 1973, Бабр.*

2012. Не перамерыць гора, як яго піць. *Добр., Смол., 19.*

а) Мералі гора і нагбом, і каўшом. *А. Ліс, 1964, Міёр.*

2013. Няма гора, няма клопату. *Ляцкий, 26.*

2014. Гора толькі ра́ка красіць. *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24; І. Хаўратовіч, 1951, Талач. 13.8.4.*

2015. Гора ў чалавека адшыбаець памяць. *Добр., Смол., 19.*

2016. І харошы чалавек ад гора дурным здзелаецца: ён і не смел, ён і не ўмел. *Добр., Смол., 19.*

2017. Гора як іме́цца, так і страх міне́цца. *Добр., Смол., 19.*

2018. Плач не па Грыгору, а па свайму гору. *Дразд.*

2019. З гора і сядун дзіця. *М. Грынблат, 1971, Глыб. 8.2.43.*

2020. Слязамі гору не дапаможаш. *Ахрым., 52; В. Бондар, 1967, Мін. 13.10.24.*

2021. Хто ж таго не знае, што гора сэрца прыпякае. *Рапан., 58.*

2022. Гора не пужайся і дабру не радуйся. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

2023. Перажыла баба гора, а дабра перажыць не магла. *А. Гурскі, 1973, Кап.*

2024. Не пабачыўшы гора, дабра не ўбачыш. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2025. Хто не ведаў бяды, той дабру не рад. *Ляцкий, 55.*

а) Не быўшы ў горы, не быць і ў раскошы. *Міеп., 396.*

б) Перацерпіш гора — дабра дажджэш. *Fed., 113.*

2026. Му́ка не разарве бру́ха. *Fed., 190.*

2027. Добра будзе — накрасуешся, кепска будзе — нагаруешся. *Ляцкий, 10.*

2028. Гора научыць гараваць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

2029. Каб навучыцца та́нчыць, а гора гараваць научыць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

2030. Хто гора пазнае, той чалавекам стане. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

2031. Станець гора, научымся глядзець да горы. *Дуб., 54.*

а) Гора научыць глядзець угору. *Дуб., 11; Fed., 113.*

2032. Гора навучыць, як абаранкі есці. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

2033. Гэта не я гавару, гэта гора маё гаворыць. *Ром., Бел., I, 295.*

2034. Мы гора слаўцом, а яно нас дубцом. *А. Ліс, 1968, Шчуч.*

а) Мы слаўцом, а ліха дубцом. *А. Ліс 1967, Смарг.*

2035. Як люба ды весела, дык і гора ніпачым. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Танцуй, калі гора прыйдзе. *Ляцкий, 44.*

б) У горы жыць, дак не тужыць. *Ром., Зап., I, 215.*

2036. Гора мучыць, гора вучыць, гора песеньку пяе. *М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2.*

а) Гора плача, гора скача, гора і песенькі спявае. *Ахрым., 26.*

2037. Чужое гора не такое, як сваё. *Бяльк., 491, Раснян.*

2038. Людскому гору не радуйся. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

2039. Той не спагадае, хто гора не знае. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

2040. Усё ў жыцці трэба, адно ліха не трэба. *Янк., Дыял., I, 223, Глуск.*

2041. Адкуль толькі тое ліха бярэцца, калі кепска жывецца. *Сержп., 22.*

2042. Ліха больш на свеце, як дабра. *Fed., 164.*

а) Больш ліхога, ніж добрага на свеце. *Fed., 165.*

2043. На ліха чакай ліха, на дабро — дабра. *М. Дуброўскі, 1956, Лельч. 13.3.29.*

2044. Засні, ліха, няхай дабро ўстане. *Янк., 377.*

2045. Ад ліха ціха, а дабра не чуваць. *Шпил., 174; Dybow., 4; Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24. Вар.: Нос., 122.*

а) Ад ліха ціха, да й добрага не чуваць. *Нос., 122; Дуб., 4. Вар.: Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

2046. Казала ліха, што не быць дабру. *Нос., 59; Pietk., 376.*

а) Казала ліха, што дабра не будзе. *Fed., 164.*

2047. Ліха шчолачку знойдзе. *Сержп., 22.*

а) Ліху плота не паставіш. *Сержп., 22.*

2048. Ліха не абыйдзеш, не аб'едзеш. *Pietk., 376.*

2049. Ліха й бокам вылазіць. *Fed., 165.*

2050. Ліха да дна, а там дарога адна. *Нос., 73.*

2051. Ліха дзіцяці не ўморыць, анно скрывіць. *Fed., 164.*

2052. Як даробіць ліха, прарэжуцца й зубы. *Нос., 195.*

2053. Няхай пазнае, пачом фунт ліха. *Fed., 165.*

2054. Ліхому ўсюды ліха. *Fed., 164.*

2055. Ліхам свет не перадышаш. *1961, Брасл. 13.9.5.*

2056. Усякае ліха на пачопачцы. *Нос., 169.*

2057. Было ліха, да й пагоршала. *Нос., 11; Дуб., 6; Сержп., 38; Pietk., 376. Вар.: Fed., 164.*

2058. Не так скора ліха вылезець, як улезець. *Нос., 103.*

а) Не так хутка ліха выгнаць, як яно ўлезе. *Fed., 165.*

б) Ліха хутка набярэшся, да не хутка пазбудзеш. *Fed., 164.*

в) Ліха скора нажывеш, ды не скора пражывеш. *Ром., Бел., I, 300.*

2059. Ліхое спора, не ўмрэ скора. *Ром., Зап., III, 222.*

2060. Ад ліха не адхрысцішся, не адпросішся. *Сержп., 21.*

а) Ад ліхога не адкаснешся ні крыжом, ні нажом. *Сержп., 56.*

2061. Ад ліхога канца нідзе не ўцячэш. *Fed., 135.*

2062. Тагды замуж выйдзець ліха, калі свінні з поля будуць іці ціха. *Нос., 162.*

2063. Адно ліха не бывае. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

2064. Як пойдзець ліха зрання, аж да змяркання. *Нос., 195; Fed., 164.*

2065. Абы ліха ціха. *Дуб., 4. Вар.: Fed., 164.*

2066. Казала ліха, што будзе ціха. *Ром., Бел., I, 298.*

а) Скажа ліха, калі не будзе ціха. *Ляцкий, 41; Сержп., 137.*

2067. Ліха не ляжыць (не ўсядзіць) ціха. *Л. Павецьева, 1967, Мсцісл. 8.1.107; А. Гурскі, 1967, Бял. 8.1.112; В. Бондар, 1967, Мінск 13.10.24.*

а) Ліха не ўседзіць ціха — акажацца. *Fed., 165.*

2068. Як прыдзе ліха, то не ўседзіш ціха. *Fed., 164. Вар.: Нос., 193.*

а) Як прыдзе ліханька, не ўседзіш ціхенька. *Fed., 165. Вар.: Нос., 155, 88.*

2069. Было ціха, а цяпер будзець ліха. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

2070. Калі ліха, сядзі ціха. *Нос., 64.*

а) Сядзі ціха, калі не хочаш мець ліха. *Ляцкий, 43.*

2071. Ад ліха ўцякай ціха. *Fed., 164.*

а) Дзе ліха, уцякай ціха. *Fed., 164.*

2072. Паедзеш ціха, тут ліха, паедзеш шпарка, ад ліха варка. *Сержп., 140.*

а) Еду ціха — са мной ліха, еду скора — са мной гора. *Ляцкий, 11; І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

б) Адна скакала — ліха спаткала, а другая ціха — напаткала ліха. *Янк., Дыял., III, 153, Акцябр.*

2073. Ліха не дражні. *Fed., 164.*

2074. Маўчы, няхай будзе ціха ліха. *Fed., 181.*

2075. Не будзі ліха, калі спіць ціха. *Pietk., 376; А. Фядосік,* 1962, Капатк. *8.1.76.*

а) Не будзі ліха, калі ліха спіць. *Дуб., 39.*

б) Не рухай бяду, калі яна спіць. *1961, Брасл. 13.9.5.*

в) Не будзі ліха, няхай спіць. *Нос., 93; Дуб., 43; Fed., 27, 165.*

2076. Сядзеў бы ціха, каб не парола ліха. *Fed., 275.*

2077. З (ад) напасці можна прапасці. *Ром., Мат., 83; Fed., 197.*

2078. Ад напасці не прапасці. *Tyszk., 412; Нос., 122; Dybow., 4; Сержп., 38; Булг., 177; Fed., 197; Pietk., 380.*

2079. Ад напасці і чорт плачыць. *1961, Брасл. 13.9.5.*

2080. Калі б не прыпадкі, чалавек быў бы гладкі. *Сержп., 82.*

2081. Не смейся, бацьку, з майго прыпадку: сягоння мне, а ўзаўтра табе. *Гильт., 289, Пруж. п.*

2082. У нашае Насці заўсёды няшчасце. *Т. Холад, 1967, Кап. 13.10.20.*

2083. На грэшнага Макара і шышкі валяцца. *Нос., Слов., 43; Ром., Зап., III, 224.*

2084. Уеліся злыдні, як вошы ў цела. *Дуб., 63.*

2085. Упрасіліся злыдні на тры дні, ды й год не выжывеш. *Fed., 357.*

а) Упрасіліся злыдні на тры дні, а і ў тры гады не выжывеш. *Выпісы.*

б) Напрасіліся злыдні на тры дні, а цяпер і з хаты не выжанеш. *Янк. М., 134.*

в) Улезуць злыдні на тры тыдні, дык і за год не выганіш. *Бяльк., 196, Мсцісл.*

2086. Усякае ўрэмя пераходчыва і злыдні параметчывы. *Ром., Зап., I, 215.*

2087. Плач, галасі, а рады не дасі. *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2; 1961, Брасл. 13.9.5.*

а) Хоць ты плач, галасі, усё роўна рады не дасі. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

б) Хоць ты плач, хоць скач, не паможаш. *Нос., 175; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

2088. Рад бы не плакаць, да слёзы цякуць. *Ром., Зап., III, 230.*

2089. Дзюрак многа, а вылезць некуды. *Ром., Бел., I, 294.*

2090. Улез у нерат: ні ўзад, ні ўперад. *Аним., 264; Шейн, II, 482. Вар.: Нос., 14; Сержп., 123; Fed., 203; Pietk., 331; Сах.; Г. Румоўская, 1965, Пліс. 3.10.40.*

а) Папаўся ў нерат: ні ўзад, ні ўперад. *Сах.; Юрч., 1974, 190.*

б) Улез у нерат: ні ўход, ні ўперад. *Дуб., 64.*

2091. Не знала я дабра ў мамы, мусіць, не зазнаю да ямы. *Fed., 72, 263.*

а) Не знаў я дабра зроду, не пазнаю да гробу. *Fed., 72, 263.*

2092. І так кепска, і так нядобра. *Fed., 143.*

2093. Было кепска, а цяпер яшчэ горш. *Fed., 143.*

2094. Пячаль пераядаець сэрца. *Добр., Смол., 19.*

2095. Куды нам не іці, то вецер у вочы. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

2096. Не папала на каня, да пад каня. *Fed., 219.*

2097. Куды ні кінь ламаку, то пападзеш у Івана. *Pietk., 372.*

2098. Куды кінь — усюды клін. *Шпил., 183; Dybow., 183.*

а) Як ні кінь — усё клін. *Ляцкий, 62; Ром., Бел., I, 316; 1961, Кап. 13.9.5.*

б) Куды ні кінь — усё клін. *Нос., 70; Fed., 146; Pietk., 326. Вар.: А. Фядосік, 1959, Лен. 8.1.76; Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

2099. Калі нам жаніцца то і ночка кароткая (пакарацела). *Tyszk., 430. Вар.: Шпил., 182; Ром., Зап., III, 221; Нос., 64. Вар.: Dybow., 12; Pietk., 353.*

а) Як нам жаніцца, то й ноч малая. *Dybow., 182; Fed., 363.*

2100. Пакуль тое наступіць, многа вады ўбяжыць. *Mien., 396.*

2101. Пакуль сонца ўзайдзець, раса вочы выесць. *Tyszk., 429; Czeczot, 113; Аним., 264; Нос., 132; Радч., 248; Pietk., 343;*

*Бяльк., 310, Міласл.; А. Гурскі, 1967, Бял. 8.1.112. Вар.: Ляцкий, 32; Fed., 285; Дразд.*

2102. Бываець хужы, да рэдка. *Нос., 9.*

2103. Хоць камень да шыі да й у воду. *Fed., 135.*

2104. Як кепска жыць, дык лучшы згінуць. *Ром., Бел., I, 316.*

а) Лепш умерці, ніж пакутаваць. *Fed., 320.*

б) Каб ён рукі меў, то б даўно павесіўся. *Ром., Зап., III, 230.*

2105. Пакуль чалавек жыве, то ўсяго можна спадзявацца. *Fed., 63.*

2106. Надзей паўтары світкі. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

2107. Загляне сонца і ў наша ваконца. *Нос., 45; А. Бельская, 1967, Раг. 13.10.19; Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

а) Узойдзець калі сонца і ў наша аконца. *Tyszk., 432; Шейн, II, 482.*

б) Некалі і ў нашае аконца зыдзе сонца. *Fed., 255.*

в) Калісь засвеціць сонца і ў наша ваконца. *Pietk., 343.*

г) І наша слонца ўвойдзе ў ваконца. *Fed., 285.*

д) Узойдзе сонца і перад нашы вароты. *Ром., Зап., I, 216.*

2108. Прыдзе тая нядзеля, што будзе і маё вяселле. *Fed., 330; Ю. Ботвін, 1967, Вайк. 13.10.28.*

2109. Будзе і на нашай вуліцы свята. *Бяльк., 169, Мсціcл.*

а) Прыдзе і на нашу вуліцу свята. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

б) Прыдзе, тата, і наша свята. *Янк., Дыял., I, 219, Акцябр.*

в) Будзе калісь празнік і на нашай вуліцы. *Pietk., 337.*

г) Будзець і на нашай вуліцы кірмаш. *Ryp., 213. Вар.: Tyszk., 432; Шпил., II, 176; Нос., 9; Pietk., 347; Fed., 144.*

д) Будзе і на маім рынку кірмаш. *Fed., 144.*

е) Будзе і на нашым рынку торг. *Fed., 313.*

2110. Няхай і на нашым рынку будзе кірмаш. *Fed., 144.*

2111. У бога цэлая надзея. *Tyszk., 412.*

2112. Пажыву — усяго разжыву. *М. Грынблат, 1966, Петр.*

2113. Нечага мне тапіцца, бо ёсць такі чорт, што і мяне баіцца. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

2114. Калі шанцуе, дык і Хвілімон танцуе. *Шпил., 182.*

2115. Не ўвесь свет у акне. *Tyszk., 417.*

а) Не ўвесь свет, што ў вакне. *Нос., 93; Дуб., 40; Pietk., 346.*

б) Не ўсё й свет, што ў вакне, ест і за акном. *Fed., 308.*

в) Хіба толькі сонца, што ў акне? І на дварэ свеціць. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

г) Не ўсё то слонца, што ў ваконца. *Шейн, II, 479, Ігум. п.*

д) Не ўсё тое сонца, што глядзіць у ваконца. *Калянд., 1925.*

е) Не толькі сонца, што ў акне. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

2116. Перамелецца — мука будзець. *Нос., 126; М. Рымша, 1957, Мав. 13.3.29. Вар.: Fed., 190, 227.*

а) Усё перамелецца, а мука будзе. *Fed., 190.*

б) Пературэцца, перамнецца — мука будзе. *Ром., Бел., I, 306; Ляцкий, 24.*

в) Патрэцца, 'бамнецца — мука будзець. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

г) Перамелецца мука — цеста будзе. *Г. Румоўская, 1965, Пліс. 13.10.40.*

2117. Ліха перамелецца — дабро наступіць. *Рапан., 236.*

## ГАНДАЛЬ. ГРОШЫ. ПАЗЫКІ. ДАУГІ. КАРЧМА

2118. Першага торгу не мінай. *Tyszk., 434; Dybow., 188; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Першага торгу ніколі не мінай. *Нос., 125; Сержп., 707; Fed., 313; Pietk., 392.*

2119. Не зявай, Хомка, калі ярмалка. *Дуб., Нар., 111.*

2120. Не хваліся, ідучы на базар, а як з базару. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

2121. Не спяшы на торг, а спяшы з торгу. *Добр., Смол., 123.*

2122. Адным кірмаш, а другім жыцця нямаш. *Янк. М., 18.*

2123. Дзе Андрэй ды Тамаш, там цэлы кірмаш. *Ляцкий, 10.*

2124. Як пана нямаш, дык і кірмаш. *Сержп., 130.*

2125. Як быў кірмаш, то не было над наш. *Fed., 144.*

2126. У іх кірмаш, а ў нас работы нямаш. *Янк., Дыял., I, 222, Глуск.*

2127. Як паехаў так рок на кірмаш, то і сягоння нямаш. *Fed., 212, 144.*

2128. Сённі не на тваём рынку торг. *Fed., 313.*

2129. Сёння, паночкі, не ваш кірмаш. *Янк., 47.*

2130. Усё ён кірмашуе, пакуль грошы за пазухай чуе. *Ляцкий, 51.*

2131. Няма торгу без звадкі. *Нос., 100.*

2132. У торгу гневу няма. *Fed., 313.*

2133. Што то за торг, калі не ў шапцы. *Tyszk., 434; Dybow., 192; Нос., 189.*

2134. Без цыгана і ярмарка не бывае. *А. Махнач, 1952, Узде. 13.10.15.*

2135. На кожным кірмашы свой цыган. *М. Грынблат, 1969, Жытк. 8.2.14.*

2136. Без злодзеяў кірмаш не жыве. *Fed., 144.*

2137. З худога торгу добра і з сваім у двору. *Нос., Слов., 637; Дуб., 57.*

2138. Жывем, не гаруем, хлеба не купуем, а з рынку кормімся. *Нос., 41; Дуб., 20.*

2139. Паспееш з козамі на торг. *Нос., 135; Fed., 141.*

а) З казамі на торг яшчэ паспееш. *Pietk., 325.*

б) Мы са сваімі козамі на торг паспеем. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

2140. Не хапайся з казамі на торг: і коз прадасі і грошы праясі. *Ляцкий, 28; Сержп., 140.*

2141. Каза на торг не ідзе, яе вядуць. *Fed., 141.*

а) Каза не хоча на торг ісці, яе сілаю вядуць. *Fed., 141.*

2142. Прадаў кароўку — прадай і вяроўку. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

2143. Карову прадала і бойку аддала. *Янк., Дыял., III, 160, Глуск.*

2144. Крамар як камар: дзе сядзе, там і п'е. *Янк. М., 90.*

2145. Ранейшае жыццё было такое:ураднік забярэ, суддзя абдзярэ, гандляр абкрадзе. *Янк., 35. Вар.: Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6.*

2146. Бей, не рабей, купцом будзеш. *Нос., 12.*

2147. Ведаць купцу і прадаўцу. *Tyszk., 435; Нос., 22. Вар.: Fed., 331; Дуб., 9.*

а) Знаець то купец да прадавец. *Нос., 50; Fed., 331. Вар.: Pietk., 376.*

б) Знаець то купец да мама, а мне дзела мала. *Дуб., 23. Вар.: Нос., Слов., 126.*

2148. Які купец, такі тавар. *Ляцкий, 62.*

2149. Ніхто не знае, як купец купляе. *Ляцкий, 29.*

2150. Над сваім таварам усякі панам. *Шейн, II, 478; Fed., 312.*

2151. Які купец, такі прадавец. *Fed., 157.*

2152. Завочнага купца пугаю сцябаюць. *Нос., 44; Дуб., 22.*

2153. У пужлівага купца ні грошай, ні тавару. *Tyszk., 434; Нос., 168; Dybow., 190; Дуб., 65.*

а) У баязлівага купца ні грошаў, ні тавару. *Сах.*

б) У неадважнага ні грошы, ні тавара. *Mien., 396.*

2154. Хто паша, той пляша, а хто таргуе, той гаруе. *Pietk., 382.*

2155. Тавар ліцом красен. *Нос., 162.*

2156. Добры тавар сам сябе хваліць (цэніць). *Fed., 312; Pietk., 396.*

а) Харошы тавар сам сябе хваліць. *Сержп., 17; Ахрым., 17.*

2157. Абы тавар, купец будзе. *Fed., 312; Д. Вайтушка, 1965, Лід. 13.10.1.*

а) Абы добры тавар, то купец найдзецца. *Pietk., 395.*

2158. Абы купец, тавар есць. *Fed., 157.*

2159. Тавар у возе — надзея ў бога. *Л. Лазовік, 1965, Скід. 13.10.4.*

2160. З худым таварам нечага патыкацца на торг. *Нос., 159.*

2161. Кажды купец свой тавар хваліць. *Mien., 396. Вар.: Fed., 157; Pietk., 327.*

а) Кожны цыган сваю кабылу хваліць. *Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

б) Кожны цыган сваю джуплу хваліць. *Дуб., Нар., 68.*

в) Цыган свайго каня хваліць; за плот валіць, але хваліць ды яшчэ й кажа: «Памажы падняць, дык будзем мяняць». *1961, Кап. 13.9.5.*

г) Цыган за плот кідае, а ўсё хваліць. *М. Грынблат, 1966, Петр.*

2162. Добрага каня на рынак не выводзяць. *Рапан., 191.*

2163. Старага хвалі, да з двара валі, а маладога гудзі, да ў двары блюдзі. *Нос., 155. Вар.: Нос., Слов., 124; Дуб., 37.*

2164. Мера і вера. *Dybow., 13.*

а) Мера — вера. *Ляцкий, 21.*

б) Дзе мера, там вера. *Fed., 184.*

в) Мера — вера, а вага — праўда. *Дразд.*

2165. На ўсё ест мера. *Fed., 184; Дразд.*

2166. Без меры няма веры. *Ляцкий, 5.*

а) Дзе няма меры, там няма веры. *Fed., 184.*

2167. Дзе вага, там спору няма. *Dybow., 9; Fed., 326.*

2168. Дзе вага, там справядлівасць. *Fed., 326.*

2169. У нашага Казіміра адна міра. *Булг., 177.*

2170. Якой меркай мерыш, такой і табе будзе адмерана. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7. Вар.: А. Капітанчык, 1965, Слон. 13.10.1.*

2171. Дзесяць раз мер і то не вер. *Fed., 185.*

а) Дзесяць раз мерыць і то сам сабе не верыць. *Fed., 195.*

2172. Дзесяць раз мерай, пакуль адрубаеш. *Pietk., 379.*

а) Сем раз адмер, а раз адрэж. *Дразд.*

б) Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4.*

2173. Важыш на рыбку, важ і на юшку. *Нос., 12; Fed., 268.*

а) Калі ж важыў на рыбу, трэба важыць і на юшку. *Шпил., 172; Dybow., 12.*

б) Бярэш на рыбку — бяры і на юшку. *Ахрым., 23.*

в) Важыў на рыбку, важ і на перац. *Fed., 328.*

2174. Бачылі вочы, што купавалі. *Радч., 24; Fed., 334.*

а) Відзелі вочы, што купялі. *Ляцкий, 6.*

б) Бачылі вочы, што купялі, а цяпер плачце, хоць павылазце. *Fed., 334; Янк., 169. Вар.: Pietk., 327.*

в) Бачылі очы, што купялі, ешце, хоч павылазце. *Гильт., 291, Пруж. п. Вар.: Fed., 334.*

г) Плачце, вочы, хоць павылазце: відалі, што купавалі. *Нос., 127.*

2175. Ката ў мяшку не купляюць. *Tyszk., 434; Нос., 68.*

а) Не купляй ката ў мяшку. *Fed., 151.*

б) Не таргуй ката ў мяшку (у ворку). *Fed., 311.*

в) Ката ў мяшку не таргуюць. *Fed., 150; Pietk., 324.*

2176. Што то за Дзяніса, што прадаў сабаку за ліса. *Fed., 94.*

2177. Тавар палюбіўся, дак і ум расступіўся. *Ром., Зап., III, 233.*

2178. На базары і бык цельны. *Янк. М., 22; І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

2179. Ні сын купляў, ні бацька ездзіў. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

2180. Калі купіць — сам ідзі, калі прадаць — бабу пасылай. *Ляцкий, 16.*

2181. Не бачыш, дык намацай. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

а) Калі не верыш нам, то пашчупай сам. *Ром., Зап., III, 221.*

2182. Пажар тушы знізу, на рэчы глядзі зблізу. *Ахрым., 46.*

2183. Калі заплаціў, то трэба з'есці. *Fed., 350.*

а) Міла не міла, а купіўшы, есці нада. *1961, Брасл. 13.9.5.*

б) Ці міла, ці няміла, але за грош купіла — трэба з'есці. *Fed., 193.*

в) Купіў мыла — еш, хоць няміла. *1961, Кап. 13.9.5.*

2184. Не варта за тое, што есць. *Fed., 328.*

2185. Не на тое купляў, каб аддаваў. *Fed., 4.*

2186. Куплёна — не спорна. *Fed., 158.*

2187. Для яго добра толькі абаранак купіць. *Fed., 1.*

а) Добра каму толькі абаранак купіць, бо як не да спадобы, то сам з'ясі. *Fed., 1.*

б) Добра каму толькі абаранак купіць, анно як не спадабаецца, сам з'ясі. *Fed., 1.*

в) Добра каму абаранка купіці: не возьме, то сам з'еш. *Ворожб.*

г) На людзей толькі пірог харашо купіць: не спадабаецца — сам з'ясі. *Нос., 86.*

д) На людзей пакупай толькі калач, — калі няўдача, сам і з'еў. *Добр., Смол., 123.*

2188. Базарынкі нішчуць скрынкі. *Нос., Слов., 12.*

2189. Базаркі — кароткія падаркі. *Fed., 24.*

2190. Прадаць — адны лапці стаптаць, купіць — трэба дзесяць знасіць. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

а) Прадаць то латво, а купіць трудно. *Fed., 243.*

2191. Не там траціш, дзе прадаеш, а там, дзе купляеш. *Tyszk., 434.*

а) Не там траціць, дзе прадаваць, а там, гдзе купляць. *Шпил., 186.*

2192. Часць пла́ціць, часць тра́ціць. *Шпил., 191; Dybow., 191.*

2193. Фіць выйграў, фіць прайграў. *Fed., 97.*

2194. Купі да і лупі. *Нос., 71; Сержп., 7.*

2195. Што купіць, то дорага, а што прадаць, то та́нё. *Fed., 157.*

2196. Чаго не купляць, таго не шкадаваць. *Fed., 157.*

2197. Адзін купіў — усемярых не прадасі. *Н. Купцоў, 1967, Ветк. 13.3.29.*

2198. Купляць не куплялі, толькі час змарнавалі. *Ляцкий, 18.*

2199. Не ганячы, не купіш, не хвалячы, не прадасі. *Fed., 103.*

2200. Ёсць — прадаў бы, няма — купіў бы. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

2201. Купіў — не прапіў. *Н. Купцоў, 1967, Ветк. 13.3.29.*

2202. Мяняе быкі на індыкі. *Ром., Бел., 1, 301; Ляцкий, 20.*

а) Прамяняў быка на індыка. *Нос., 140; Добр., Смол., 123; Л. Лазовік, 1965, Скід. 13.10.1; Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

б) Гандаль быка на індыка. *Fed., 103.*

в) Прагандляваць быка на індыка. *Нос., Слов., 52; Fed., 343.*

г) Мяняе быкі на бараны. *Ром., Бел., 301.*

2203. Змяняў шыла на мыла. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

2204. Памяняў плеш на лысіну. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

2205. Не варта мяняць бутло на прабіто. *Fed., 44.*

2206. Мяняй, мяняй, п'яны будзеш. *Ляцкий, 21.*

2207. Мяняць — як страляць. *Fed., 182.*

2208. Хто часта коні мяняе, у таго хамут гуляе. *Tyszk., 436; Нос.,* 176; *Dybow., 192; Fed., 148; Ляцкий, 56; Pietk., 375.*

а) Стаў коньмі мяняць, стаў хамут гуляць. *Сцяшк., 609, Воран.*

б) Хто мяняе, таго хамут гуляе. *Булг., 177; Ляцкий, 55; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

в) Хто перабірае, у таго хамут гуляе. *Шпил., 180; Dybow., 191.*

2209. Не перабірай, а то скулу схапіш. *Дуб., 42.*

2210. За перабіркі даюць абдзіркі. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

а) З вялікай выбірачкі выбіраюць гарачкі. *Янк. М., 101.*

2211. Баш на баш — прыдачы нямаш. *Добр., Смол., 123.*

2212. Цаны ў дому не зложыш. *Fed., 47.*

а) Сваёй цаны не зложыш. *Fed., 47.*

б) З сваёю цаною на кірмаш не прыедзеш. *Fed., 47.*

2213. Твае грошы — мой тавар. *Ляцкий, 45.*

2214. Якія грошы, такі і тавар. *Ром., Бел., I, 315; Ляцкий, 62; Fed., 117.*

2215. Тан да тавару не ган. *Нос., 161.*

2216. Нядорага прасі, скарэй прадасі. *М. Грынблат, 1972, Мінск.*

2217. Запрасіў плату, як цыган за бацьку. *В. Курбацкі, 1960. Карм. 13.3.29.*

2218. Чым даражэй, тым луччай. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

а) Дарожша рэч лепш смакуе. *Fed., 260.*

б) Затым і смачна, што дорага. *Сержп., 58.*

2219. Дорага — міла, дзёшава — гніла. *Сержп., 58.*

а) Дорага, ды міла, дзёшава, ды гніла. *Нос., 37; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

б) Што дорага, то міла, а што танё, то гніла. *Fed., 80. Вар.: Pietk., 365.*

в) Хоць дзёшава, да гніла, а дорага, да міла. *Аним., 264. Вар.: Ром., Зап., III, 235.*

г) Што танна, то гніла, а што дорага, то міла. *Fed., 310.*

2220. Ці дорага, ці танё, ці мала, ці многа, няхай ужо пры мне застанецца. *Fed., 350.*

2221. Дарагое паносіцца ўдвое. *Сержп., 58.*

2222. Не то каштоўна, што каштоўна, а то каштоўна, што трэба. *Сержп., 58.*

а) Што патрэбна, то й каштоўна. *Сержп., 58.*

б) Хоць няўзрачна, ды прыдачна. *Нос., 174.*

2223. Дзе ёсць прыбытак, там ёсць і ўбытак. *Dybow., 9.*

2224. Не жаль, каб было за што. *Fed., 312.*

2225. Гэта не дорага, калі ест дзе купіць, гэта дорага, як не дастаць. *Fed., 80.*

2226. За што купіў, за тое і прадаў. *Нос., 48; Ляцкий, 12; Fed., 243.*

2227. Купі чорта за руб, тада і за паўтараста не аддасі. *Добр., Смол., 132.*

2228. За морам вол па грошу. *Tyszk., 434.*

а) За морам валы дарам. *Шпил., 180.*

2229. За морам цялушка палушка, ды руб перавозу. *Нос., 46; Fed., 59, 189; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) За морам цялушка грош, ды за перавоз вала трэба аддаць. *Pietk., 314.*

б) За морам палушка цялушка, ды перавоз дорага стоіць. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

2230. Як пазнала фунт, то й падняла бунт. *Fed., 51.*

2231. Будзеш ведаць, пачым фунт солі. *В. Шаўчэнка, 1961, Ельск. 13.3.29.*

2232. На досталі, як на пачыне, аддаў дзешава. *Добр., Смол., 123.*

2233. Пачым пелькі? — Па тры капейкі. *Нос., 135; Дуб., 47.*

2234. Калі бал, то бал — дай за грош вантробы. *Fed., 20.*

а) Калі ўжываць, то ўжываць — дай за грош вантробы. *Fed., 324.*

б) За грош вантробы, за поўгроша піва, то будзе на ўсё сяло дзіва. *Fed., 326.*

2235. Таннае мяса сабакі ядуць. *Tyszk., 434; Нос., 161; Дуб., 59.*

а) Таннае мяса сабакі цягаюць. *А. Жадвейка, 1965, Шчуч. 13.9.6.*

б) Таннае мяса сабакі не ядуць. *Dybow., 189.*

2236. Даўно тыя паўміралі, што задармо давалі. *Fed., 75.*

2237. Не аддам за «пагадзі», гатоўку на стол кладзі. *Бяльк., 134, Краснап.*

2238. Дар за дар, а дáрма ніц. *Fed., 75, Сцяшк., 587; Гродз.; Г. Барташэвіч, 1962, Вайк. 8.1.77.*

2239. Дар за дар, чэсць за чэсць. *Fed., 75.*

2240. Даралванаму каню ў зубы не глядзяць. *Міcп., 397; Нос., 33; Ляцкий, 9; Fed., 148; Сержп., 123; Pietk., 326; Драздл.*

а) У даронага каня зубоў не глядзяць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

2241. За ўсякае дараванне спасіба. *Нос., 44.*

2242. Другое дараванне даражэй купавання. *Сержп., 123.*
а) Другое даровавае абходзіцца дарожай куплі. *Нос., 37.*

2243. Дармовае ўсягды прахам бярэцца. *Нос., 32.*

2244. Не дай, божа, дзякаваным карыставаць. *Fed., 91.*

2245. Ні дар, ні купля. *Нос., 111.*

2246. Мала даць брыдка, а многа — шкода. *Fed., 74.*

2247. Вазьму на павер, як не за што купіць. *Pietk., 398.*

2248. Бяры на веру — пішы на сцену. *Fed., 42.*

2249. Сказана — звязана. *Нос., 149.*

2250. За спрос не б'юць у нос. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*
а) Запрос не б'ець у нос. *Нос., 46; Дуб., 22.*

2251. Купіў не купіў, а патаргаваць можна. *Дуб., 26; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*
а) Купіў, не купіў, а патаргаваць вольна. *Нос., 71.*
б) Купіць, не купіць, а патаргаваць можна. *Czeczot, 110; Dybow., 7; Fed., 311.*
в) Куплю, не куплю, патаргаваць можна. *Mien., 395.*

2252. Запрос у машну не лезець, а пасул, як шыець. *Нос., 46; Дуб., 24.*

2253. Таргуючыся, не сердзяцца. *Pietk., 396.*

2254. Таргаваць таргавалі, а купляць не куплялі. *Ляцкий, 44.*

2255. Не купіш, а зубы палупіш. *Рапан., 237.*

2256. Бот з пасталом таргуюцца за лычка. *Fed., 41.*

2257. Не даражыся, да сярэдзіны дзяржыся. *Сержп., 58.*

2258. Што ж тут таргаваці, калі няма чым аддаці. *Ляцкий, 60.*

2259. За пяць пальцаў не купіш. *Ром., Бел., I, 296; Ляцкий, 12; Сержп., 25; Fed., 157; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

а) Купляй хіба за пяць сваіх пальцаў. *Pietk., 375.*

2260. За кукіш не купіш. *А. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

а) За кукіш пірага не купіш. *Нос., 45; Дуб., 23.*

б) Без грошы, за кукіш нічога не купіш. *Дразд.*

в) За кукіш і кабылку не купіш. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

2261. Купіў бы сяло, да грошы гало. *Tyszk., 429; Ворожб.; Dybow., 183; Fed., 117; Pietk., 321; Сержп., 42; 1961, Кап. 13.9.5; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.20; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29; В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

а) Купіў бы сяло, ды грошы мало, купіў бы другое, ды не заплочана яшчэ і тое. *Ляцкий, 18.*

2262. Купіць бы купіў, ды купіла няма. *Нос., 71; Fed., 157.*

а) Купіць бы купіў, але таго купідла няма. *Ляцкий, 18.*

2263. Прадаць, то і сын прадасць, але купіць, то і бацька не купіць, як няма за што. *Fed., 249.*

2264. Паехаў бы на кірмаш, ды грошай нямаш. *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

2265. Ехаў тавар купляць, трэба было грошы браць. *Fed., 312.*

2266. Мой мілы ця́ру, ні грошы, ні тавару. *Ляцкий, 21.*

а) А што мой мілы ця́ру: ні грошы, ні тавару. *Dybow., 5; Fed., 47.*

2267. Па шэлегу луста, але і шэлега пуста. *Fed., 172.*

2268. Ачыма места не закупіш. *Fed., 334.*

а) Ачыма света не загарнуць. *Fed., 334.*

б) Ачыма піва не выпіць. *Fed., 334.*

2269. Бачыць вока, да далёка. *Сержп., 73.*

а) Бачыць вока, але ляжыць высока. *Дуб., 5; Нос., 5; Fed., 335.*

б) Бачыць вока, ды вісіць высока. *Pietk., 392. Вар.: Нос., Слов., 58.*

в) Вока бачыць, а зуб няйме. *В. Шаўчэнка, 1961, Ельск. 13.3.29.*

2270. Блізка локаць, ды не ўкусіш. *Ахрым., 22; А. Фядосік, 1961, Капатк. 8.1.73.*

2271. Смачны табе гарэх, да зубоў бог не даў. *Дуб., 57.*

2272. Відаць, ды нечага даць. *Fed., 330.*

2273. Хоць жа пан і харошы, але дрэнь без грошы. *Дуб., Нар., 1.*

2274. Чэшацца, свярбіцца, хочацца разжыцца, да недзе ўзяць. *Ром., Зап., III, 236.*

2275. Многага хочацца, да не за ўсё зможацца. *Ром., Зап., III, 223.*

2276. Не хапае дзевяць грывен да рубля. *Дуб., Нар., 20.*

2277. Чаго не даплоціш, таго не даносіш. *Дуб., Нар., 2.*

а) Не даплаціш і не даносіш. *Нос., 96.*

2278. За дзякуй пірага не купіш. *Дуб., 24.*

а) За дзякуй шубу не пашыеш. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

б) За спасіба шубкі не справіш. *Нос., 47.*

в) За дзенькуе ніц не купуе. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

2279. Нічога нічым не адбудзеш. *Pietk., 308.*

а) Нічым чаго не адбудзеш. *Ром., Бел., І, 305.*

2280. Ад прыбылі галава не баліць. *Рур., 213; Нос., 158; 1961, Брасл. 13.9.5.*

а) З прыбытку галава не баліць. *Czeczot, 114; Tyszk., 433; Шпил., 174; Киркор, 236; Dybow., 4; Pietk., 388; Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

б) Ад прыбытку няма бяды. *Pietk., 388.*

2281. Усе ліпкі на прыбыткі. *Нос., 169.*

а) Вельмі ліпкі на прыбыткі. *В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

2282. Можна і з іголкі разбагацець. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.2.*

2283. Жыццё павесіў на нітку, а сам думае аб прыбытку. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

2284. Дзе лёгкая прыбыль, там цяжкая гібель. *Ахрым., 28.*

2285. Дзе прыбыль чуюць, там памагачы снуюць (начуюць). *Ляцкий, 7.*

а) Гдзе прыбыль, там памагачых гібель. *Нос., 23.*

2286. Ка́сла загасла. *Крапіва, 253.*

2287. Без накладу барышу не нажывеш. *Ром., Зап., І, 215.*

2288. За бальшым барышом не ганісь, і маленькі барышок — кладзі яго ў мяшок. *Добр., Смол., 123.*

2289. На барышы што хочаш брашы, а па барышы маўчы. *Ляцкий, 22. Вар.: Fed., 23; Dybow., 13.*

2290. Барышы харошы на чужыя грошы. *Нос., 8. Вар.: Fed., 23.*

а) Мае барышы, да на твае грашы. *Дуб., 34.*

б) Магарычы мае, да на грошы твае. *Нос., 78; Дуб., 35.*

2291. Чые грошы, таго і падкрушчыны. *Нос., Слов., 442.*

2292. На барышы ўсе брашы. *Гильт., 292, Віл. п.*

2293. Чы купіць, чы не купіць, абы магарычу выпіць. *Ляцкий, 59.*

2294. Выпіўшы барыша — будзе міна хараша. *Ляцкий, 6.*

2295. Падліць жыта, каб сушы не баялася. *Fed., 372.*

2296. На кірмашэ выпілі ўсе барышэ. *Fed., 25.*

2297. Баба качаргу мяняла, тры дні гуляла. *Нос., 3; Fed., 120; Сцяшк., 580, Смарг.*

а) Баба качаргу прадала і то барыш папіла. *Fed., 23.*

б) Дзве бабы качэргі мянялі і то магарыч пілі. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

2298. Што нам да барыша, была б слава хараша. *Нос., 189; І. Сyконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

2299. Усё за грошы. *Fed., 118.*

а) Абы грошы, усё будзець. *Нос., Слов., 1.*

2300. Грошы камень б'юць. *Шейн, II, 475, Барыс. п.*

а) Рубель і камень даўбе. *Fed., 264.*

б) Дзенежка камень даўбіць. *Нос.. 33.*

в) Дзеньгі камні разбіваюць. *М. Грынблат, 1971, Капатк. 8.2.43.*

г) Грошы муры ламаюць. *В. Скідан, 1970, Швянчонскі р-н ЛітССР 8.2.32.*

д) Золата і камень даўбе. *Pietk., 352.*

2301. За грошы тольќа бацькі і маткі не купіш. *Tyszk., 435; Шпил., 180.*

2302. Хто з грашыма — той і пан. *Ляцкий, 55.*

а) За грошы то ўсякі пан. *Fed., 118.*

б) Кажан пан за свой грош. *Fed., 217.*

2303. За свае грошы ўсюду харошы. *Tyszk., 434; Шпил., 180.*

а) У каго грошы, той і харошы. *Радч., 249.*

б) За грошы і пан харошы. *М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2.*

в) За грошы і чорт харошы. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26.*

г) За грошы і дурань харошы. *Сцяшк., 591, Ашм.; Я. Касач, 1966, Дзятл. 13.10.26.*

д) Хто мае грошы, то й добры і харошы. *Fed., 116.*

е) За свой грош кожны харош. *Fed., 118.*

ж) За свой грош хоць дзе харош. *Дразд.*

з) За свой грош усюдых харош. *Нос., 47; Добр., Смол., 26; Сержп., 42; Fed., 97; М. Бандарэнка, 1956, Маз. 13.3.29.*

і) Мы за свае грошы ўсюды харошы. *Pietk., 322.*

2304. У каго грошы — у таго розум. *Fed., 118.*

а) Калі з рублём, дак і з вумом. *Дуб., 29.*

б) Калі руб, дак і вум; два рублі — два вумы. *Нос., 65; Добр., Смол., 26.*

2305. Сіла ёсць — розуму не трэба. *А. Хутко, 1966, Зельв. 13.10.26.*

2306. Будзе чэсць, калі грошы есць. *Сержп., 16.*

а) Як грошы есць, то й дурню слава і чэсць. *Fed., 371.*

2307. Розуму грашыма не заменіш. *Сцяшк., 607, Лід.*

2308. Пачот — грошам не ў зачот. *М. Дуброўскі, 1956, Лельч. 13.3.29.*

2309. З грашыма ўсюды добра. *Сержп., 42.*

2310. Хто мае грошы, таму нічога не бракуе. *Fed., 116.*

2311. Без нужды пражывеш, калі грошай нажывеш. *Сержп., 76.*

2312. Грош і зімою грэе. *Сержп., 42.*

2313. Калі маеш грошы, то не будзеш хадзіць босы. *Dybow., 12; Нос., 64.*

2314. За грошы ўсюды шáбас. *Fed., 118.*

2315. Калі ест грошы, то правуйся. *Fed., 247.*

а) Калі маеш аруд жыта — будуйся, а калі маеш мех грошаў — правуйся. *Дуб., Нар., 3.*

б) Калі маеш хлеб, то будуйся, калі маеш грошы, то правуйся. *Fed., 53.*

2316. Усякі грош харош. *Нос., 18.*

2317. Грошы ўсё зробяць. *Fed., 117.*

2318. Грош маленькі, да вялікае дзела робіць. *Сержп., 43.*

2319. І капуста нятлуста, калі ў кішэні пуста. *Дуб., Нар., 1.*

2320. Абы грошы, то й роднага бацька купіш. *Fed., 116.*

2321. За грошы хіба пцічага малака не дастанеш. *Нос., 45.*

2322. За грошы і бога купіш. *Рапан., 44.*

2323. Грашмі і на тым свеце дагодзіш. *Хрэстам., 218.*

2324. Нашы грошы мазольныя. *Сержп., 24.*

2325. Капейка з мазаля ў карысць ідзе. *А. Махнач, 1952, Узды. 13.10.15.*

2326. Набытая мазалём капейка перацягнець лёгкі заработак. *Нос., 82.*

2327. Грошы — нажыўное дзела. *Сержп., 42. Вар.: М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

а) Дзеньгі — нажыўное дзела: кала жывэй касці мяса абрастаець. *Добр., Смол., 26.*

2328. Не грошы нажылі чалавека, а чалавек грошы. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

2329. Будзем мы, будуць і грошы. *Мат., 113.*

2330. Добра асьмакі, калі з рукі. *Сержп., 42.*

2331. І мая капейка не шчарбатая. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25; У. Іваноў, 1958, Мінск.*

а) Ажа і мая капейка не шчарбата. *Ром., Бел., І, 290.*

б) Наце, можа і мой асьмак не шчарбаты. *Fed., 11.*

в) Няхай і мой траяк не будзе шчарбаты. *Fed., 313.*

2332. Мае грошы не трэскі. *Сержп., 42.*

2333. І мой грош круглы. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

2334. Нашто грошы, быле васьмакі былі. *Fed., 117.*

2335. Грош — лакома рэч. *Fed., 117.*

2336. Добра грош на патрэбу. *Сержп., 42.*

а) Добра грош на патрэбу да на бяду. *Сержп., 43.*

б) Добра, як асьмак дзеля прыпадку ёсць. *Fed., 11.*

2337. Як грошай патрэба, то і знайдуцца. *Fed., 117.*

2338. Добра кажух на стужу, а грош на нужу. *Сержп., 75.*

2339. Няхай той бядуе, каму грошай трэба. *Fed., 28.*

2340. За ўсё грош атвячае. *Ляцкий, 12; Сержп., 43.*

2341. Грошы — вада. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

2342. Грош круглы. *Tyszk., 435.*

а) Грошы круглы, ад таго і коткі. *Нос., 29; Дуб., 11.*

б) Грошы круглыя, скора коцяцца. *Pietk., 371.*

в) Грошы круглыя, затым і коцяцца. *Сержп., 42.*

г) Грош круглы — раскоціцца. *Fed., 117.*

д) Грошы кругла рэч — раскоцяцца. *Fed., 117.*

2343. Дабро ляжыць, а золата бяжыць. *Сержп., 43.*

а) Срэбра і злота ідзе ў балота. *Dybow., 18; Fed., 298.*

2344. Няхай прападзе і серабро, калі жыць невесяло. *Радч., 248.*

а) Прападай то серабро, калі жыць недабро. *Нос., 140. Вар.: Добр., Смол., 25.*

б) Ды згінь і серабро, калі жыць недабро. *Дуб., Нар., 1.*

в) Прападай тое срэбра, калі жыць нядобра. *Янк. М., 150.*

г) Што маё серабро, калі жыць недабро. *Вас., 144.*

2345. Былі грашышкі, да прашышкалі. *Нос., 11; Fed., 116.*

2346. Былі рублі, да перавярнуліся ў вераб'і. *Fed., 264.*

2347. Дзе больш прыходу, там больш расходу. *Fed., 248.*

2348. Пашлі грошы на раскошы. *Радч., 248; У. Іваноў, 1958, Мінск. Вар.: Нос., 29; Дуб., 29; Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

2349. Лішняя капейка муляець у кішэні. *Нос., 74.*

а) Лішні грош у кішэні муляецца. *Сержп., 43.*

2350. Апрыч таго, што з кішэні, то ў кішэнь не прыдзе. *Fed., 145.*

2351. За сябе толькі ручай, а не за сваю кішэню. *Шпил., 180.*

а) За душу бярыся, а за кішэнь не бярыся. *Fed., 89.*

б) За самога сябе толька, а то і за сваю кішэню не бярыся. *Нос., 47.*

2352. Што гэта за места, што е што купляць, да не за што. *Fed., 185.*

2353. У месце, як у цесце, не купіўшы — не з'есці. *Fed., 185.*

2354. Горад грошы любіць. *М. Мельнічэнка, 1959, Гом. 13.3.29.*

а) Без дзенег у горад — сам сабе вораг. *Ром., Зап., I, 215.*

б) У горадзе так: адной рукой за клямку, другой — за кашалёк. *Л. Малаш, 1974, Мінск.*

2355. Ніпачом сем карчом, абы грошы — усе абайдзём. *Сержп., 42.*

2356. Без грошы ані за парог. *Fed., 116.*

2357. Няма грошы, і нічога няма: усюды «проша». *Ляцкий, 26.*

2358. Харош, харош, а ў кішані адзін грош. *І. Байко, 1967, Клецк. 13.10.5.*

а) Харош, харош, а ў кармане адзін грош. *Радч., 249.*

2359. Зломанага шэлега няма. *Сержп., 24.*

2360. У вераб'я багатая сям'я; у каждага верабейкі па тры капейкі. *Нос., 166.*

2361. Без грошай чалавек нічога не варт. *Fed., 118.*

2362. Без дзенег худзе́нек. *Ром., Зап., I, 215.*

2363. Калі без грошы, так як без душы. *Fed., 117.*

2364. Няма грошай — няма розуму. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

а) Без грошы чалавек дурак. *Fed., 116.*

2365. Не журыся, што ў мяне грошай няма, дась бог, што і ў цябе не будзе. *Pietk., 403.*

2366. Хто не мае, той не траціць. *Fed., 183.*

2367. Адна капейка і та рабром. *Нос., 119.*

2368. Хто грошай не мае, той спакойна спіць. *Fed., 116.*

2369. З грашамі клопат, але без іх яшчэ горш. *Fed., 118.*

2370. Каб я сто рублёў меў, то б каралю шапкі не знімаў. *Dybow., 9.*

а) Каб я шмат грошай меў, то б каралю шапкі не знімаў. *Fed., 117.*

2371. Не ў сумцы — не свае грошы. *М. Грынблат, 1971, Паст. 8.2.43.*

2372. Грошы блазнаў псуюць. *Сержп., 42.*

2373. Калі гарэлку зажываеш, то й грошы не збіраеш. *Kolb., 472, Пін. п.*

2374. Грош гроша не дагоніць. *Fed., 117.*

2375. Лёгка грош пражыць, а як то яго нажыць. *Сержп.,45.*
а) Не штука растраціць, але штука назбіраць. *Fed., 259.*
б) Лёгка грош аддаць, а чы лёгка яго ўзяць. *Ляцкий, 19.*

2376. З гроша жыць — тужыць. *Сержп., 42.*

2377. Бог ведае, чы будуць у нашага Кузьмы грошы. *Pietk., 321.*

2378. Няпраўда, што ў Кузьмы грошы, хіба хто яму падкінуў. *Нос., 102; Сержп., 68.*

2379. Не зажыўшы нэндзы, не мець пенендзы. *Fed., 200.*

2380. Грошы маўчаць і грошы гаворaць. *Fed., 117.*

2381. Грошы не пахнуць. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

2382. Грошы не цыбуля, што на шастку вісіць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2383. Грош піць-есць не просіць. *Сержп., 42.*

2384. Усіх дзенег на свеце не забярэш. *Добр., Смол., 25.*

2385. Не ганіся за даўгім рублём, а то і кароткі загубіш. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

2386. Сваім грошам нікому не наб'ешся. *Добр., Смол., 26.*

2387. Свой сваім, а дзенюжкі не радня. *Добр., Смол., 26.*

2388. Смяецца з гатовага, трох грошай не прылажыўшы. *Fed.*, *304.*

2389. Схавай свае тры грошы. *Fed.*, *97.*

2390. Хавай на чорную гадзіну. *Fed.*, *98.*

а) Харані палцінку пра злую гадзінку (часінку). *Дуб.*, *70.*

б) Блюдзі палцінку пра злую гадзінку. *Нос.*, *6.*

в) Сцеражы палцінку на чорну гадзінку. *Fed.*, *215.*

г) Хавай грош на чорны дзень. *Сержп.*, *75.*

д) Хавай асьмачок на ліхі дзянёк. *Сержп.*, *75.*

2391. Хлеб дзяржы, а грошы беражы. *Сержп.*, *76.*

а) Хавай хлеб для яды, а грошы для бяды. *Сержп.*, *75.*

2392. Загані грошы загадзя, потым як знойдзеш. *Сержп.*, *75.*

а) Трэба з замаладу загнаць капейку, то на старасць як знойдзеш. *Сержп.*, *75.*

2393. Малады назбірай, а стары пражывай. *Fed.*, *176.*

2394. Цяжка злажыць гатоўку, да добра спажываць. *Сержп.*, *75.*

2395. Загані грош, да будуць рублі. *Сержп.*, *75.*

2396. Усякая капейка алтынным гваздзём прыбіта. *Ром.*, *Зап.*, *I*, *215.*

2397. У час асьмак даражэй рубля. *Сержп.*, *137.*

2398. Рыхтуй грошы ціха, не будзе ліха. *Сержп.*, *76.*

2399. Сцеражы бацькаву капейку, то і свае здабудзеш. *Fed.*, *136.*

2400. Схавай капейку на зязюльку. *Нос.*, *157; Сержп.*, *72.*

а) Схавай тры грошы на зязюльку. *Dybow.*, *189.*

б) Схавай траячок хоць на зязюлю. *Fed., 355.*

в) Схавай траячок, няхай будзе на зязюлю. *Fed., 355.*

г) Хавай зратульку (гратульку) на зязюльку. *Сержп., 75.*

д) Схавай тры грошы ў руку на куку. *Шпил., Нар., 130. Вар.: Сержп., 75.*

2401. Мізэрнаму і капейка дарага. *Нос., 77.*

2402. Дарагая залатовачка: кала рубля ляжала. *Ляцкий, 9.*

2403. Рубель з гроша паходзіць. *Ляцкий, 38.*

а) Рубель без капейкі не бывае. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

2404. Грош грошу таварыш. *Сержп., 42.*

2405. Грош гроша шукае. *Сержп., 42.*

2406. І дзве капейкі грошы. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

2407. Капейка рубель беражэ. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

2408. Жыта любіць шчорк, а грошы — шчот. *Бяльк., 503, Краснап.*

2409. Грошы лік любяць. *Нос., 29; Сержп., 43.*

а) Грошы лічбу любяць. *Бяльк., 251, Мсціслаў.*

б) Грошы лік робяць. *Fed., 117.*

в) Рахуба не згуба. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

2410. Рубель рубля робіць. *Fed., 264.*

а) Грошы грошы робяць. *Fed., 117.*

б) Грош гроша нажывае. *Сержп., 43.*

2411. Грошы ліпучае дзела. *Нос., 29.*

2412. Блізкая капейка дальні руб перацягне. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

2413. Хто мяшка не мае, той грошы не хавае. *Ляцкий, 55.*

2414. У анучцы грошы вядуцца. *Tyszk., 435; Dybow., 190. Вар.: Нос., 54.*

2415. Хоць я сама нячоха, але грошай панчоха. *Fed., 202.*

2416. Яму залатыя козы скачуць. *Dybow., 184.*

2417. Збірай, збірай грошы, а чорт на іх дзірку найдзе. *Pietk., 322.*

а) Няхай дзеньгі копіць: чорт дзірку найдзець. *Добр., Смол., 108.*

2418. Чалавек грошы збірае, а чорт мяшок шые. *Fed., 116.*

2419. Золата за плячыма, а чорт перад вачыма. *І. Лушчыцкая, 1961, Кап. 8.1.52.*

2420. Грошай з сабой на той свет не забярэш. *Сержп., 42.*

2421. Пашкадуеш грошай, пабядуеш горшы. *Нос., 136.*

2422. За грошы ўсяго не купіш. *Fed., 118.*

2423. Грошы здароўя не дадуць. *Сержп., 42.*

2424. За свой грош купіш сабе хваробы. *Fed., 118.*

а) За свой грош — хвароба. *М. Грынблат, 1969, Лаг.*

2425. Грашыма сыт не будзеш. *Сержп., 42.*

а) Грашыма не наясіся. *Сержп., 42.*

б) Грошай у рот не паложыш. *Сержп., 42.*

в) Грошай не ўкусіш. *Сержп., 42.*

г) Грошы — не мякіна, а чалавек — не скаціна. *Сержп., 42.*

2426. Не дае спаць чужы грош, як вош. *Сержп., 126.*

2427. Кажды гад чужому грошу рад. *Нос., 59.*

2428. Івану плаціць, Ціту грошы лічыць. *Бяльк., 332, Мсціcл.*

2429. Знойдзенае заклятае. *Сержп., 90.*

а) Знайшоў заклятыя грошы на сваю пагібель. *Сержп., 90.*

б) Знойдзеныя грошы ў руку не ідуць. *Сержп., 90.*

2430. Абы-як прышло, лёгка і з рук сышло. *Нос., Слов., 2.*

а) Прышло махам і пойдзець прахам. *Бяльк., 275, Мілаcл.*

2431. У каго дзенежкі крадзены, ліш той паесць гавядзіны. *«Кр.»*

2432. Нашы галеры перабудуць тваe талеры. *Fed., 98.*

2433. Каму грыўня, а каму дзіўна. *Янк., Дыял., III, 160, Глуск.*

2434. Мая грыўна ўсім дзіўна. *Нос., 79.*

2435. Пазычаець, хто свайго не маець. *Нос., 130; Сержп., 126.*

а) Пазычаеш, калі свайго не маеш. *Дуб., 52.*

2436. Толькі пчала не пазычае, а з голаду паміраe. *Сержп., 127.*

2437. Хто мае, той пазычае, а хто не мае, той паглядае. *Fed., 183.*

2438. Хоць не багат, ды нікому не вінават. *Сержп., 126.*

а) Не багаты, але нікому не вінаваты. *1961, Брасл. 13.9.5.*

б) Ці бедны, ці багаты, абы нікому не вінаваты. *К. Кузняцова, 1960, Стаўб. 8.1.55.*

2439. Багат, калі нікому не вінават. *Дуб., Нар., 4.*

а) Той багаты, што нікому не вінаваты. *Fed., 19.*

2440. Ні ў кога не пазычаў, хоць гол ад праў. *Сержп., 126.*

2441. Пазычаць — не дабраваць. *Д. Вайтушка, 1965, Лід. 13.8.5.*

2442. Старасць не радасць, доўг не карысць. *Ром., Бел., I, 309; Сержп., 126.*

2443. Пазыкі ходзяць у лыкі. *Нос., 130; Сержп., 126; Дуб., 52.*

а) Пазыкі завялі ў лыкі. *Д. Вайтушка, 1965, Лід. 13.8.11.*

2444. Пазычка басяком ходзіць. *Нос., 131.*

2445. Доўг не вяроўка — не парвецца. *I. Суконкін, 1960, Церах.; В. Курбацкі, 1960, Карм.; А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29.*

а) Доўг не вяроўка — не парвецца, будзе цягнуцца. *Мат., 181, Мінск.*

б) Доўг не вяроўка, не перагніе. *Сцяшк., 589, Слон.*

2446. Пазычай — ліхі абычай. *Сержп., 126.*

а) Пазычай — плахі звычай. *1961, Кап. 13.9.5.*

б) Пажычай — злы абычай, не аддáе, яшчэ лае. *Fed., 225; С. Шыршуновіч, 1966, Свісл. 13.10.28.*

в) Не пазычай — злы абычай. *Ляцкий, 27.*

г) Не пажычай, бо кепскі абычай. *Fed., 226.*

2447. Лепей галоднаму пераспаць, чым з даўгом праснуцца. *Сах.*

2448. Пазыка не плача, не раве, а спаць не дае. *Зах., 252.*

а) Доўг не раве, толькі спаць не дае. *Fed., 81; Сцяшк., 589. Дзятл.*

б) Доўг не равець, а спаць не даець. *Шейн, II, 476, Гор. п.*

2449. Доўг круціць, а голад крадзе. *Fed., 80.*

2450. Не пазычай нічога і не бойся нікога. *Сержп., 126.*

2451. Хто доўга спіць, той доўг наспіць. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

2452. Лепш запрацавана, ніж пажычана. *Fed., 350.*

2453. Хто да́е, той сам мае. *Fed., 72.*

2454. Жменяй сып, жменяй будзеш сабіраць. *Дуб., Нар., 1.*

2455. Не штука даці, калі е адкуль браці. *Fed., 74.*

2456. На што прасілі, тое й пасулілі. *Ляцкий, 24.*

2457. Калі лагоднасць твая, дасі, а не — чорта з'ясі. *Нос., Слов., 273; Дуб., 27.*

2458. Не дай убогаму, але патрэбнаму. *Нос., 96; Fed., 74, 316.*

2459. Лучшы людзям даць, чым самому прасіць. *А. Лучанок, 1960, Мінск 13.9.6.*

2460. Другому дай і за сябе не забывай. *Pietk., 364.*

2461. Другому ўгадзі, а сабе ўгаладзі. *Нос., 37.*

2462. Аддасі лыча́к, а сам астанешся так. *Сержп., 127.*

2463. Адзін цвякнуў, то і другім давай. *Дуб., 4.*

2464. Што хаваем, тое і да́ем. *Сержп., 35.*

2465. Ка́жан лепш узяць, ніж даць. *Fed., 324.*

2466. «Дай» ніхто не любіць, а «на» ўсякі чуець. *Нос., 32.*
а) «Дай» — не чуе, а «на» — руку суе. *Сержп., 36.*

б) «Дай» — і на чуткі не чуе, а «на» — і глухі пачуе. *Fed., 73. Вар.: Fed., 69.*

2467. Ці даў бы, ці саўсем не даваў бы. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2468. Даюць, да з рук не выпускаюць. *Pietk., 364. Вар.: А. Рахунак, 1967, Зельв. 13.10.24.*

а) Давалі, ды занадта моцна трымалі. *Мат., 181, Радашк.*

б) Давай, ды з рук не выпускай. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

в) Даваць давалі, ды з кішані не вымалі. *Ляцкий, 9.*

2469. Адною рукою дае, а дзвюма адбірае. *Fed., 72.*

2470. Абяцана, да не дана. *Нос., Слов., 356.*

2471. І дай — плоха, і не дай — плоха. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

2472. Лай, анно грошы дай. *Fed., 169.*

а) Лай, бай, а што трэба, тое дай. *Ляцкий, 18; Сержп., 3.*

б) Ціківай, ці не ківай, а толькі дай. *Сержп., 8.*

в) Што хочаце, гаварыце, але дайце, што маеце. *Fed., 108.*

2473. Дай да й наддай. *Нос., 32.*

2474. Што дам, а рэшта наківаю. *Fed., 74.*

2475. Ішоў бы да́лей, абы далі. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

2476. Не дай і не лай. *Нос., 96; Сержп., 8; Fed., 74; Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2; М. Грынблат, 1969, Лаг.*

а) Уж лучшы не дай, ды толькі не лай. *Вас., 58.*

2477. І дораць і вочы поруць. *Крэмнеў.*

2478. Дае, што яму з носа спала. *Fed., 73.*

2479. Даць мы не можам, а забраць — зразу. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2480. Дам на лета, але не на гэта. *Fed., 73.*

2481. Ёсць макацёр, ды сам маку не цёр. *Крэмнеў.*

2482. Прыйдзець каза да ваза. *Tyszk., 426; Mien., 396; Ляцкий, 35; Сержп., 51; Pietk., 385; Юрч., 1974, 265.*

а) Прыйдзе коза да воза. *Fed., 141.*

б) Прыйдзе каза і да майго ваза. *І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3.*

2483. Прыдзе каза да ваза, будзе сена прасіць. *Czeczot, 113.*

а) Прыйдзець коза да маго воза прасіць сена. *Нос., 137; Dybow., 17.*

б) Прыйдзе коза да воза, да не будзе сена. *Fed., 141.*

в) Прыйдзе каза да ваза да папросіць сянца, тагды скажуць: няма. *Булг., 177.*

г) Прыйдзе каза да ваза — казе па хвасце. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

д) Прыдзе коза да воза прасіць аброку, дастане кіем па боку. *Fed., 141.*

2484. Яслі к коням не ходзяць. *Ром., Бел., I, 316; Сержп., 51.*

а) Не яслі к коням, а коні к яслям ходзяць. *Нос., 110.*

б) Не ідзе жолаб да каня, але конь да жалаба́. *Fed., 149, 365.*

2485. Дзякуй, як дасі, а калі не дасі, то й сам не прасі. *Ляцкий, 10.*

2486. Ідзі дальшы, дзе хлеб таньшы. *Нос., 54.*

2487. Дружбы не цярай, нічога не пазычай. *Сержп., 126.*

2488. Калі хочаш пасварыцца, дык пазыч грошай. *Сержп., 127.*

а) Хочаш ворага нажыць — пазыч грошай. *Ром., Бел., І, 313. Вар.: Fed., 226.*

б) Хочаш ворага нажыць — пазыч свайму родзічу грошы. *В. Шаўчэнка, 1961, Ельск. 13.3.29.*

в) Хочаш прыяцеля страціць, а ворага набыць — грошы пазыч. *Дуб., 70. Вар.: Крэмнеў; Fed., 225.*

г) Не пазычай, то не будзеш маць ворагаў. *Pietk., 385.*

2489. Іншая пазыка — тая ж страта. *Сержп., 126.*

а) Другая пазыка — тая ж страта: бо бываець без вазврата. *Нос., 37.*

2490. Даў, дак пішы прапала. *Сержп., 50.*

2491. У пятніцу нічога нікому не пазычай. *Pietk., 385.*

2492. Скаціну і пасудзіну нікада ў людзі не 'ддавай без сябе. *Добр., Слов., 114.*

2493. Даў — дзякуй, і не даў — дзякуй. *Fed., 73.*

2494. Не дай, то адзін гнеў, як дасі, то будзе два. *Fed., 74.*

а) Не пазычай — адзін гнеў, а пазычыў, то два гневы. *Fed., 226.*

2495. Што ўзята, то свята. *Нос., 188.*

2496. Доўг не грэе. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

2497. Хто вінен, аддаць павінен. *Дуб., 69; Сержп., 126; Fed., 333.*

а) Хто вінен, заплаціць павінен. *Сержп., 126.*

б) Што вінна, то аддаць павінна. *Fed., 333. Вар.: Pietk., 399.*

2498. Любіш быць узяхам, любі быць і аддахам. *Янк. М., 101.*

а) Будзь аддаха, будзеш і ўзяха. *Мат. ГТ.*

б) Любіш браць, любі й аддаць. *Мін.-Мал., 1970, 162, Пух.*

2499. Хоць парадзі, а даўгі аддай. *Сержп., 127.*

2500. Круці не круці, мусіш аддаць. *Fed., 4.*

2501. Прышоў з мехам, не адбудзеш смехам. *Ляцкий, 36; Сержп., 36.*

2502. Не хачу жартаваць, калі грошы трэ аддаць. *Сержп., 8. Вар.: Ляцкий, 28.*

2503. Ці лай, ці не лай, а мае аддай. *Сержп., 126.*

2504. Хоць лай, але потым грошы аддай. *Ляцкий, 54.*

2505. Хоць ты чорту душу прадай, а мне андай. *Fed., 4.*

2506. Прынясі мне хоць пад языком. *Fed., 250.*

2507. Хоць гразь пеляскаць, было б свае сыскаць. *Нос., 173; Дуб., 68; Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

2508. Хоць трэсні, а яму дай. *Сержп., 24.*

а) Хоць рыгні, а давай. *Fed., 72.*

б) Хоць душою рыгні, а дай. *Fed., 72.*

2509. У аднаго ўзяў, другому даў. *Fed., 324.*

2510. Мой татка нікому не вінен: у аднаго пазычыць, другому аддасць. *Fed., 333.*

а) Мой бацька нікому не вінават: у аднаго бярэ, другому аддае. *Сержп., 127.*

б) Мой бацька нікому не вінен: у аднаго ўзяў, а другому аддаў. *Fed., 17. Вар.: Нос., 78.*

2511. Лёгка бярэцца, ды цяжка аддаецца. *Сержп., 126.*

а) Лягчэй браць, чым аддаваць. *Сержп., 126.*

б) Добра браць, ды ліха аддаваць. *Сержп., 126.*

в) Пазычка хараша, да аддаваць цяжка́. *Дуб., 52.*

г) Пазычка хараша, да аддача трудна́. *Нос., 131.*

д) Пажычка добра, да адданка кепска. *Fed., 226.*

2512. Пажыча́нё на вечна адда́нё. *Fed., 226.*

2513. Недастача нішто: абы аддача. *Ляцкий, 25.*

2514. Аддай, братка, аддай: памрэш — не пусцяць у рай. *Сержп., 66.*

2515. Палучыў квіту — і будзе з Мікіту. *Ляцкий, 33.*

2516. Я не папоў зяць, з мяне не што ўзяць. *Добр., Смол., 30.*

2517. Угадзіў, угадзіў, але й грошы заплаціў. *Ляцкий, 47.*

2518. Тады пашкадаваў, калі аддаў. *Ляцкий, 44.*

2519. Пазычай рукамі, адбірай нагамі. *Fed., 225.*

а) Аддаўшы рукамі, хадзі нагамі. *Mien., 395.*

б) Даў рукамі да й хадзі нагамі. *Нос., 31; Сержп., 126; Pietk., 364. Вар.: Dybow., 4; Fed., 4, 73; Ахрым., 18; А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29; А. Фядосік, 1961, Капатк. 8.1.76; Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

2520. Як просяць — і жнуць і косяць. *Нос., 196; Сержп., 5.*

а) Як просім, так жнём і косім. *Сержп., 127; Добр., Смол., 30.*

б) Як просяць, так жнуць і косяць, а як выпрасяць — то зелена, то пажата. *1961, Брасл. 13.9.5.*

в) Як пазычаў, сякеру абяцаў, а потым і тапарышча адабраў. *Сержп., 127.*

г) Як пазычае, дык сватухна, сват, а пазычыў, дык і чорт не брат. *Сержп., 126.*

д) Як пазычаць, то вочы, як у сакола, а як аддаваць, то як у савы. *Dybow., 184; Fed., 226. Вар.: Добр., Смол., 30.*

е) Калі пазычаць — вочы салаўіныя, аддаваць — савіныя. *Янк. М., 19.*

2521. Свістаў, пакуль дастаў, цяпер пасвішча, пакуль зышча. *Ром., Мат., 85.*

а) Я свістаў, пакуль дастаў, а ты свішчы, пакуль зышчы. *Fed., 309; 1961, Брасл. 13.9.5.*

2522. Калі доўгу з добрым словам не аддасі, на тым свеце не вазьму гарачых уга́ллеў — і не прасі. *Ляцкий, 16.*

2523. Лёгкі да пажычкі, цяжкі да аддачы. *Fed., 226.*

2524. Дай на тры дні, возьмеш злыдні. *Нос., 32; Сержп., 126.*

2525. Аддам на святы Адам. *Ляцкий, 2; Ром., Бел., I, 305; Крапіва, 260; Fed., 3.*

а) Аддам, аддам на святы Адам. *Сержп., 66. Вар.: Добр., Смол., 30.*

б) Я табе аддам на святой Адам. *Юрч., 1974, 185.*

в) Аддам на святыя ніколі. *М. Грынблат, 1930, Мінск.*

г) Аддам на святыя нігды. *Мін.-Мал., 1970, 157, Пух.*

2526. Заўтракамі свінней не накорміш. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

2527. Аддасць тады, як будуць свінне ступою іці з поля. *Fed., 4.*

2528. Як сучку прадам, тады грошы аддам. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

2529. Заплаціць тагды, як цыган згубіць, а ён найдзе. *Pietk., 386.*

2530. Як лгаць, то як ксёнжку чытаць, а як плаціць, то як дурань стаіць. *Dybow., 184; Дуб., 10; Fed., 171.*

2531. Узяў на час да і ў добры час. *Нос., 13.*

2532. Аддаў зарукі — лічы прапала. *Сержп., 126.*

2533. Пазычанне на неадданне. *Нос., 131; Дуб., 52.*

2534. Лепей уміраць, ніж грошы аддаць. *Fed., 117.*

2535. Як бабе цяжка радзіць, так скупому даўгі плаціць. *Крэмнеў.*

2536. Будзе хлеб, аддамо хлеб. *Fed., 52.*

2537. Ліхі хлеб адданы. *Сержп., 139.*

2538. Прошаным канём гаспадаркі не ўправіш. *Fed., 149.*

2539. Маю шмат, ды ўсім вінават. *Сержп., 127.*

2540. Што відно, то й вінно. *Ром., Бел., I, 314.*

2541. Век доўжан, а плацяжа нет. *Ром., Зап., I, 216.*

2542. Угавор лепей грошай. *Нос., 166.*

2543. Слова словам, а распіска вярней. *Ляцкий, 42.*

2544. Павер босы ходзіць. *Нос., Слов., 434; Дуб., 47.*

2545. Вера ў пазыку пашла. *Нос., 22.*

2546. Дасі на павер, возьмуць за каўнер. *Сержп., 47.*

2547. Вер Яўменю, а грошы кладзі ў кішэню. *Рапан., 189.*

2548. Па абяцанае едуць, як па сваё. *Сцяшк., 604, Свісл.*

2549. Пазыкі цягнуць за языкі. *Ром., Бел., I, 306; Сержп., 126.*

2550. Не плюй вясне ў рот, прыдзе другая ў год. *Tyszk., 420; Шпил., 186; Нос., Слов., 77.*

2551. Стары доўг атрымаў — лічы нашоў. *Сержп., 126.*

2552. Хапіў чорт за даўні доўг. *Дуб., Нар., 37.*

2553. Карчмар як камар: дзе сядзе, там і п'е. *Ахрым., 15.*

2554. Дзе поп царкву ставіць, там пан карчму ладзіць. *Бел. народ., 135.*

2555. Шынок мужыка губіць. *Ляцкий, 61.*

2556. Узяць паўвядра, астанецца — не бяда. *Добр., Смол., 43.*

2557. Шынок пры дарозе: цягні, што ў возе. *Ляцкий, 61.*

2558. Што застанецца, то да карчмы валачэцца. *Fed., 350.*

2559. Чалавек як чалавек: усё ў шынок часцей пападзеш, чым у царкву. *Ляцкий, 57.*

2560. Хто карчму мінае, той шчасце зазнае. *С. Цярохін, 1974, Пін.*

2561. Усё з тэй старонкі, дзе пад гарой карчомка. *Ляцкий, 51.*

2562. Сора дае, Іван бярэ. *Fed., 285.*

2563. Карчмарова вока праз лахманы грыўню ўбачыць. *Рапан.*, *25.*

2564. Як прышоў у карчму, чорт за кучму. *Fed.*, *137.*

2565. Туды едзе, сюды едзе — карчмы не мінае. *Янк. М.*, *26.*

2566. Да касцёла дарога крыва, а да карчмы проста. *Fed.*, *140.*

2567. У цэркву склізка, у кабак блізка. *Добр.*, *Смол.*, *44.*

2568. Як да касцёла, то гразка, а як да карчмы, то хоць па загуменню. *Fed.*, *140, 47.*

2569. Чорту царква горш, як богу карчма. *Ляцкий*, *58.*

2570. Званіцу дзярэ, карчму крые. *Fed.*, *361.*
  а) Касцёл дзярэ, карчму крые. *Fed.*, *140.*

2571. Зарадзіў касцер, каб хадзілі ў корчму часцей. *Дуб.*, *23.*

2572. Карчма розуму чалавека ўчыць. *Fed.*, *137.*

2573. Шынок — клюб дзеравенскі. *Ляцкий*, *61.*

2574. Кабак не ля сабак, а ля ўсіх добрых людзей. *Добр.*, *Смол.*, *43.*

2575. Толькі й балю, што ў карчме. *Ляцкий*, *45.*

2576. Сора, Сора, будзем гуляць так, як учора. *Нос.*, *154; Сержп.*, *45.*

2577. Не будзе Гіршы, дак будзе чорт іншы. *Мін.-Мал.*, *1974, 188, Узда.*

2578. На хрысцінах усе кумы, на вяселлі ўсе сваты, а ў карчме ўсе браты. *Fed.*, *55.*

2579. У карчме ўсякі роўны. *Fed., 137.*

а) У касцелі і ў карчме ўсе роўныя. *Fed., 140.*

б) Касцёл і карчма — дзеля ўсіх. *Fed., 140.*

в) У карчме і ў бане ўсе роўныя дваране. *Нос., 19.*

2580. Шынкар п'яніцу любіць, ды дачкі за яго не аддасць. *Янк., 66.*

а) Карчмар п'яніцу любіць, а дачкі замуж не аддасць. *Дразд.*

2581. У шынкаркі (рандаркі) смаляныя лаўкі. *Fed., 302.*

а) У кабаке смалянэя лаўкі. *Добр., Смол., 44.*

2582. І мая хата не карчма. *Мат., 181, Кап.*

2583. Бальшое дзела, што баня згарэла, — кабакі гараць, і то нічога не гаварадь. *К. Кабашнікаў, 1970, Астр. 8.2.34.*

2584. Рандарскае багацтва — крэйда. *Дуб., 53.*

## РЭКРУТЧЫНА, САЛДАТЧЫНА, ВОЙНЫ. ВОДГУКІ НА ГІСТАРЫЧНЫЯ ПАДЗЕІ

2585. Гуляй, хлапец, будзе і на цябе лавец. *Янк., 73.*

2586. Гуляй, дзяцінка, пакуль добра гадзінка. *Fed., 121.*
   а) Гуляй, дзяціна, пакуль твая гадзіна. *Нос., 30.*

2587. Выхаваў дзяціну на ліхую гадзіну. *Янк., 70.*

2588. Некрут харошы будзець. *Нос., 99.*

2589. У лазу пашоў. *Крэмнеў.*

2590. Краснай (чырвонай) шапкі не мінуць. *Нос., 69.*

2591. Што ты мяне тыкаеш? Мяне цар пугавіцамі абтыкаў. *Fed., 315.*

2592. Хто хоча гора зажыць, няхай ідзе ў маскалі служыць. *Fed., 179.*

2593. Лепей дома касою касіць, чым у войску ранец насіць. *Янк., 73.*

2594. Кабы воля, нашоў бы сабе поля. *Нос., 59; Сержп., 28.*

2595. Каб далі волюшку, нашоў бы радную старонушку. *Ляцкий, 15.*

2596. Ні племені, ні роду, як бел камень у воду. *Дуб., 37. Вар.: Fed., 261.*

2597. Зашлі за Дунай — і двару не думай. *Добр., Смол., 112.*

а) Паехаў за Дунай, і ў двару не думай. *Нос., 136.*

б) Калі з'ехаў за Дунай, то да хаты не думай. *Fed., 84.*

2598. У каго грошай кашэль, на таго не апрануць шынель. *Янк., 77.*

2599. Хто ходзіць у фраку, той пойдзе ў салдаты без браку. *Dybow., 192; Fed., 55.*

2600. Каб вас у салдаты бралі, то б з вас былі людзі. *Fed., 271.*

2601. Салдата нада перакасціць, тада ў сям'і жыць. *Добр., Смол., 112.*

2602. Ракрутова жана — не дзяўчына, не ўдава. *Жанч., 228.*

2603. Ваяка ваюе, а жонка дома гаруе. *Сержп., 134.*

2604. Бацька ў салдатах, а ў дзяцей кашуля ў латах. *Жанч., 87.*

2605. Не ўсім так удаецца, як старой салдатцы. *М. Стырнэ, 1949, Люб. 8.1.26.*

2606. Салдату і ў полі няволя. *Янк., 74.*

2607. Не смейся, брат, сам будзеш салдат. *Ляцкий, 30. Вар.: Суяшк., 602, Дзятл.*

2608. Хлеб, соль, вада — салдацкая яда. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

2609. Салдату трошкі трэба: солі драбок ды хлеба шматок. *Янк., 74.*

2610. Салдату тры дзенежкі ў дзень — куды хочыш, туды дзень. *Добр., Смол., 112.*

2611. Салдат тым гладак, як паеў, то і набак. *В. Калюк, 1965, Навагр. 13.10.6.*

2612. Салдат спіць, а служба ідзе. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

2613. Салдацкі сон усюды салодкі. *Янк., 74.*

2614. Салдат не бядак: шапка на макушку, шабелька на брушку, вус закручоны, бот пачарнёны. *Янк., 74.*

2615. Абмоткі салдата не саромяць. *Янк., 34.*

2616. Салдат ваюе, а дзеці дома гаруюць. *Райан., 17.*

2617. Салдат не баіцца і пекла. *Янк., Дыял., І, 220, Глуск.*

2618. Або грудзі ў крастах, або галава ў кустах. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

2619. Салдат — ваўку брат. *Добр., Смол., 112.*

2620. Салдат — чортава карова: адзін дой, а два з колам стой. *Добр., Смол., 112.*

2621. Дзеля таго вуланчыкі, штоб запіраліся чуланчыкі. *Нос., 33.*

2622. Маскаль не вялікі пан, ды ў яго барабан. *Шпил., 184.*

2623. А ў нашага камандзера няма парткоў, ні мундзера. *Дуб., 4.*

2624. Вайна кроў людскую п'е. *Янк., 72.*

2625. Мора без вады, а вайна без крыві не бывае. *Янк., 79.*

2626. Кроў не вада, разліваці шкада. *Міеп., 396; Fed., 153.*

2627. Не было такое вайны, каб камякамі стралялі. *Янк., 73.*

2628. Быў ты сам на вайне, спагадай жа і мне. *Fed., 326.*

а) Быў на вайне, спагадай і па мне. *Крапіва, 237.*

2629. Хараством на вайну не паедзеш. *Fed., 49.*

2630. Хто чым ваюе, ад таго і сам гіне. *Дуб., Нар., 1. Вар.: Pietk., 370.*

а) Хто чым ваюе, тым і сам сябе загубіць. *Pietk., 370.*

2631. Каб бачыць ворага спіну, бі яго ў лоб. *Янк., 73.*

2632. Без праводу войска гіне. *Dybow., 6; Шейн, II, 472, Слуцк. п.; Fed., 77.*

а) Без каманды войска гіне. *В. Калюк, 1965, Дзятл. 13.10.6.*

2633. Язык не сцяг, а дружыну водзіць. *Т. Шумская, 1967, Крыч. 13.10.21.*

2634. Ляжачага не б'юць, бяззброннага не рубаюць. *Нос., Слов., 18.*

2635. Стоячы горад не возьмеш. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

2636. Воін ізняможа, і свіння пераможа. *Ром., Зап., I, 215.*

2637. І аглобля служыць за зброю. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2638. Нашто той меч, калі некага сеч. *Fed., 183.*

2639. Нашто нам гэтыя пісталеты, калі страляць не ўмеем? *Czeczot, 111; Мальч., № 41; Киркор, 236; Нос., 91; Fed., 292.*

2640. Пуля ў мяшок, а трасца ў гаршок. *Добр., Смол., 112.*

2641. З вайны прыжджэш, а з пяску ніколі. *Fed., 326.*

2642. У вайну налгуцца, а ў моры намруцца. *Аним., 262.*

а) У голад намруцца, у вайну налгуцца. *Dybow., 190.*

2643. Лепей дома хлеб аўсяны, як на вайне пытляваны. *Янк., 73.*

2644. Пасля раці многа храбрых. *Ром., Зап., III, 229.*

2645. Адным вайна, а другім войначка. *Янк., 72.*

а) Каму вайна, а каму военка. *Мін.-Мал., 1970, 161, Узд.*

б) Каму вайна — каму войначка, каму пятля — каму воўначка. *І. Саламевіч, 1975, Слон.*

2646. Браніcь, а на мір слова астаўляй. *Ром., Зап., I, 214.*

2647. Вайна каму вяроўка, а каму — дойная кароўка. *Янк., 72.*

2648. Пішчаньці волчя хваста бегают. *ПВЛ, 59.*

2649. Амсціслаў сціснуў. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

а) Мсціслаў не аднаго сціснуў. *Нос., 80; Дуб., 35.*

2650. Няма на свеці горшай вяры, як басурманы-татары. *Ляцкий, 26.*

2651. Страшан, як мангол. *Зел., I, 125, Вілен. п.*

2652. Рана татарам на Русь ісці. *Ром., Зап., III, 230.*

2653. Татарскі сын вялікі, але дурань. *Fed., 311.*

2654. Арду творaць. *Нос., 120.*

2655. Мардва апанавала. *Нос., 79; Дуб., 35.*

2656. Погань апанавала. *Нос., 128.*

2657. Узяла погань моц. *Tyszk., 412; Нос., 13; Шейн, II, 482.*

а) Што зрабіць, калі ўзяла погань моц? *Fed., 239.*

б) Ніц ужэ не парадзіш, калі погань моц узяла. *Fed., 239.*

2658. Не за дзень Вільня станавілася. *Дуб., 37.*

а) Не адразу Вільня будавалася. *Л. Малаш, 1969, Докш. 8.2.22.*

2659. А ў нашай Польшы кажан хоча быць большы. *Ляцкий, 2; Дуб., 4. Вар.: Рапан., 288.*

2660. Хоць да Кракава, усюды аднакава. *Нос., 173; Сержп., 10; Fed., 151.*

2661. Не адразу Кракаў пабудавалі. *Fed., 151.*

а) Не разам Кракаў будаван. *Нос., 102.*

2662. Батура — сабачча натура.*Нос., 4; Дуб., 5.*

2663. Помніць караля Батораго (Батуру). *Fed., 24.*

а) Помніць кроля Баторэга і цвечка ега. *Fed., 24.*

б) Гэта яшчэ было, як ваяваў кроль Батура. *Fed., 24.*

2664. Шэйну-вайну помніць ад цара Батуры. *Нос., 186.*

а) Дзеці паднялі шэйну-вайну. *Дуб., 17.*

2665. За кроля Стапана Баторэга не было і капыта конскéга, а за кроля Саса пад'елі людзі хлеба і мяса [і папушчалі паса]. *Fed., 24.*

2666. На Саса было хлеба і мяса. *Tyszk., 412.*

а) За Саса было досыць хлеба і мяса. *Дуб., 22.*

б) Як быў Сас, было хлеба з нас. *Tyszk., 412.*

в) То яшчэ за крулём Сасам, як елі пірог з мясам. *Fed., 272.*

2667. За Саса было досыць хлеба і мяса, а настаў Панятоўскі, стаў хлеб не такоўскі. *Нос., 47; Дуб., 27. Вар.: Fed., 272.*

а) За круля Саса наеліся людзі хлеба і мяса, а за Панятоўскага не стала нідзе і падла конскага. *Fed., 272.*

б) За караля Саса людзі наеліся хлеба і мяса, а як стаў Панятоўскі, то ўсё пашло па-чартоўскі. *Шейн, III, 98, Гродз. п.*

в) Настаў Панятоўскі, стаў хлеб не такоўскі. *Tyszk., 412;*

2668. Варт Пац палаца і палац Паца. *Нос., Слов., 44.*

2669. Пане Грыгоры, што далей, то горай. *Нос., 142; Дуб., 48.*

а) Пане Грыгоры, што рок, то горы. *Fed., 119.*

б) Кепска, пане Грыгоры, што далей, то горай. *Czeczot, 110; Шпил., 182; Мальч., № 41; Нос., 60; Сержп., 56; Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

2670. Як казалі на мяне Грышку, то меў грошай крышку, а як пачалі казаць пане Грыгорай, то ўжо што далей, то горай. *Fed., 119.*

2671. Не фігуруй, Грышачка! *Czeczot, 111; Шпил., 186. Вар.: Янк., 332.*

2672. Быўшы ў Рыме, і папы не відзець. *Нос., 9.*

а) У Рыме быў, а папежа не бачыў. *І. Суяпунін, 1968, Дзярж. 8.2.12.*

б) Быць у Рыме, папежа не бачыць. *Fed., 268.*

2673. Хто мову і веру мяняў, той не толькі сябе, а і маці прадаваў. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

2674. Сядзеў бы, пане Піліпе, сабе ў ліпе. *Дуб., 27.*

2675. Быў цар Тронка, была зямля тонка: пальцам зямлю прабівалі, ваду даставалі. *В. Скідан, 1969, Пін. 8.2.21.*

2676. Не навіна казаку вайна. *Fed., 142.*

2677. На казаку няма знаку. *1961, Рэч., 13.9.5.*

2678. Хлеб ды вада — то казацкая яда. *Радч., 249.*

2679. Чаму казак гладак? Бо пад'еўшы, набак. *Tyszk., 431. Вар.: Ром., Бел., I, 313.*

а) Зачым казак гладак? Пайдаўшы, да й набак. *Нос., 47. Вар.: Dybow., 4.*

б) Затым казак гладак, што паеў ды й набак. *Дуб., 22.*

в) Ад чым казак гладкі — напіўся, наеўся да й на палаткі. *Fed., 142.*

2680. Тады казак разжывецца, як куст разаўецца. *Fed., 142.*

2681. Дажыліся казакі: ні хлеба, ні табакі. *Fed., 142; Pietk., 325.*

а) Прыжыліся казакі: ні хлеба, ні табакі. *Нос., 137.*

б) Згалелі казакі: ні хлеба, ні табакі. *Сержп., 25.*

2682. Голь моц узяла. *Нос., 26.*

2683. Кепска каля Вітэбска (у Вітэбску). *Fed., 333.*

а) Кепска каля Вітэбска, а ў Воршы яшчэ горшы. *Нос., 60.*

б) Кепска каля Віцебска, а ў Оршы яшчэ горшы, а ў Мінску зусім па-свінску. *Дуб., 27.*

2684. О як раней было: у Слуцку не па-людску, у Мінску пасвінску, кепска каля Вітэбска, а ў Оршы яшчэ горшы. *І. Саламевіч, 1975, Слон.*

2685. У Менску кепска, пан Каранеўскі. *Дуб., 66.*

а) Кепска ў Мінску, пане Каранеўскі! *Шпил., 182; Dybow., 12.*

2686. У месце Слуцку ўсё не па-людску. *Сержп., 4.*

а) У Пінску і ў Слуцку ўсё не па-людску. *Дуб., 62.*

б) У Пінску, у Слуцку ўсё не па-людску, а ў горадзе Мінску ўсё там па-свінску. *Ляцкий, 50.*

в) У Слуцку ўсё па-людску. *Дуб., 64; Сержп., 30.*

2687. Смаргонская палітыка! *Нос., 151.*

2688. Дажыліся (пражыліся) палякі: ані хлеба, ні табакі. *Ляцкий, 9; Ром., Бел., I, 307; Fed., 214.*

2689. Вось тут статут і канступацыя. *Дуб., 9.*

2690. Палякі былі гайдамакі, мала аб край дбалі і для таго прапалі. *Fed., 214.*

2691. Наша Польша была даўней шмат больша. *Dybow., 13.*

2692. За дзедам-шведам! *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

2693. А стуль туркі, а стуль шведы, недзе дзецца з велькай беды. *Fed., 315.*

2694. Як надышлі швяды, то не стала ў Дварчанскім озеры вады. *Fed., 301.*

2695. Як швед пад Палтаваю. *Нос., 196.*

а) Прапаў, як швед пад Палтаваю. *І. Старасценка, 1960, Карм. 13.3.29; З. Пякарская, 1965, Слон. 13.3.2.*

2696. Збіраецца, як цар пад Рыгу. *Дразд.*

а) З'ездзіў, як цар пад Рыгу. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26.*

2697. Не за год Масква пастаўлена. *Рапан., 225.*

а) Масква не зразу будавалася. *І. Старасценка, 1960, Карм. 13.3.29.*

2698. Масква слязам не верыць. *Ром., Бел., I, 301.*

2699. Воля ваша, а Рыга наша. *Нос., 15; Дуб., 6.*

2700. Грэўся француз у Маскве, а замярзаў на Бярозе. *Янк., 72.*

2701. Наша Бяроза чужых і генералаў тапіць можа. *Янк., 73.*

2702. Так турнуў, як Кутуз пранцуза. *І. Байко, 1967, Навагр. 13.10.23.*

2703. Пякуцца французы, бы бульба ў прыску. *Янк., 74 .*

2704. Баіцца холаду, як пранцуз. *Fed., 243.*

2705. Галодны француз і вароне рад. *«Наш край», 1927, № 1.*

2706. Мусю, француз, ці не з'ясі гарбуз? *Янк. 73.*

2707. Хоць ты мяне капут, дык я табе не галём. *Tyszk., 433; Шейн, II, 483.*

2708. Пайшла слава аж да Аршавы. *Дразд.*

2709. Яшчэ жыта на загоне — саквістатар у пагоне. *І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3.*

2710. На вёску прыдзе, хаты абходзіць, свінні забірае, каровак выводзіць. *М. Грынблат, 1940, Стаўб.*

2711. Далей едзеш, цішай будзеш. *1926, Вільня.*

2712. Панам беларускі пірог, а беларусам — астрог. *У кн.: Ц. С. Гарбуноў. Уз'яднанне беларускага народа ў адзінай Савецкай дзяржаве. Выд. 2-е. Мн., 1952.*

2713. Асаднікі — прадажнікі. *Янк., 31.*

2714. Прыйшлі чырвоныя танкі — паўцякалі паны і падпанкі. *Рапан., 281.*

2715. Прыйшлі чырвоныя — сталі мы вясёлыя. *Рапан., 287.*

2716. Войска краснае прыйшло — нам свабоду прынясло. *Рапан., 277.*

2717. Саветы прышлі — вызваленне прынеслі. *Т. Малашэвіч. 1966, Воран. 13.10.28.*

## ПРАЗВАННІ ЖЫХАРОЎ РОЗНЫХ МЯСЦОВАСЦЕЙ

2718. Ятвеж як еж. *Шпіл., Зам., 9.*

2719. Палавец — акунец. *Шпіл., Зам., 9.*

2720. Як у палаўцоў — на сем сёл адзін вол. *Шпіл., Зам., 9.*

2721. Літвін як лін. *Шпіл., 183; Нос., 73; Дуб., 33.*

2722. Літвін божы. — Ты сам божы. — Літвін чортаў. — Хоць чортаў, да не твой. *Ром., Бел., I, 300; Ляцкий, 19.*

2723. На Жмуйдзі і куры людзі. *Fed., 364.*

2724. Палешуку то й серп дзіва. *Fed., 214.*

2725. Мудзер лях па шкодзе. *Дуб., 34.*

2726. Знаць ляха па халявах. *Нос., 50.*

2727. Па чом пазнаць ляха? — Па том, што на чэраве бляха. *Нос., 135. Вар.: Дуб., 51.*

2728. Аглядзеўся лях, як трасца ў нагах. *Fed., 160.*

а) Агледзеўся лях, што трасца ў зубах. *Мін.-Мал., 1970, 157, Узда.*

2729. Мазуру біцца, так як людям хлеб з маслам з'есць. *Fed., 181.*

2730. Гэтыя мазуры ўсе то на кпіны зроблены. *Fed., 181.*

2731. Мазур каб і смерць угледзеў, то не ўтоіцца. *Fed., 181.*

2732. Мазур то анно да гуляння зух. *Fed., 181.*

2733. Варшавяк як галодны, то свішча. *Fed., 327.*

а) Варшавяк як есці хоча, то палкаю круціць і свішча. *Fed., 327.*

2734. Каталік — у неба мык, русь — у пекла шусь. *Гур., 74.*

2735. Татары — добрыя гаспадары. *Ляцкий, 45.*

2736. Цыган цыганам. *Fed., 69.*

2737. Цыган знаў, што робіць: штоб кабыла гладка была, аўса дае. *М. Стырнэ, 1949, Люб. 8.1.26.*

2738. Каму што, а цыгану сала. *1961, Брасл. 13.9.5.*

2739. Цыган дарогу знае і яшчэ пытае. *М. Бандарэнка, 1966, Мав. 13.3.29.*

2740. Цыгане не гардзяцца, дзе стаяць, там і садзяцца. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

2741. Цыган — не паган. *Добр., Смол., 134.*

а) Тым цыган не паган, што з панам па'бедаў. *Дуб., Нар., 1.*

2742. Большы бойся прыцыганкаў, чэмся цыган. *Добр., Слов., 134.*

2743. Увабраны, як пан, а робіць, як цыган. *Ляцкий, 47.*

2744. Маеш, цыгане, сведкі? — А як жа — жонкі і дзеткі. *Fed., 60.*

2745. Цыган дзецьмі сведчыцца. *Нос., Слов., 576.*

2746. Цягні, цыган, лёгкае! — І каўбаскі не цяжкі. *Нос., 181.*

2747. У немцаў утэды пост, як мяса няма, а ўтэды свята, як няма работы. *Fed., 203.*

2748. У немца чы паросіцца, чы просіцца, то ўсё зароўна. *Fed., 203.*

2749. Пажджы рускі месяц. *Fed., 267.*

а) Папамятуеш з рускі месяц. *Fed., 267.*

2750. Магілёўцы — трубалёты. *Добр., Смол., 96.*

2751. Магілёўцы — кулажнікі, кулагу на локаць прадаюць, а на палец прыбаўкі даюць. *Нос., 78.*

2752. Магілёўцы — кулажнікі, а смаленцы — ражкі. *Дуб., 34; Нос., Слов., 258.*

2753. Хамуты, хамуты пабіліся ў лямцы, расскакаліся, расплясаліся рослаўскія старцы. *Добр., Смол., 96.*

2754. Крычэўцы — вашчылы. *Нос., Слов., 68.*

2755. Во крычыць, аж у Крычаве чуваць. *Рапан., 189.*

2756. Угадай, зямец, колькі міль да Віцебску. *Нос., 166.*

2757. Не адзін Гаўрыла ў Полацку. *Czeczot, 111; Tyszk., 426; Fed., 107.*

а) Не адзін Гаўрылька, што ў Полацку. *Нос., 101; Янк., 73.*

б) Гаўрыла з Полацка. *Рур., 213; Fed., 107.*

2758. Аршанцы — ва́пеннікі. *Нос., 120.*

2759. Мсціслаўцы — недасекі. *Нос., 80.*

2760. Мсціслаўцы не ўміраюць на сваёй лаўцы. *Нос., 80.*

2761. Дубровінцы — шышы. *Нос., 38.*

2762. Расна пірагамі красна. *Нос., 146.*

2763. Баброўня нікому не роўня. *Мат., 179, Скід.*

2764. Ваўкалатцы — таўчонікі. *Л. Малаш, 1975, Докш.*

2765. Вітахомцы — селядцы. *Л. Малаш, 1975, Докш.*

2766. У Мінску беражыся, за кішэню дзяржыся. *Сержп., 88.*

2767. Яшчэ сягонні ў Пінску не была. *Fed., 234.*

2768. Анно што з Пінска прыехаў. *Fed., 234.*

2769. Як ехаў да Пінска, кідаў лупінска, а як ехаў з Пінска, то збіраў лупінска. *Fed., 234.*

2770. Слуцакі — мацакі, аднак і нясвіжцы не палахліўцы. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

2771. У Нясвіжы людзі хіжы, салому таўкуць, бліны пякуць, сена смажуць, бліны мажуць. *Нос., 20; Дуб., 62; Сержп., 66.*

2772. Майстра з Міра: што цяў, то дзіра. *Дуб., 35.*

а) Майстра з Міра: што вытне, то дзіра. *Fed., 188.*

б) Майсцер з Міра: дзе цюкне, там дзіра. *Pietk., 330.*

2773. Гомельцы — салаеды. *Ром., Бел., I, 293.*

2774. І без Парыч вас запарылі. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

2775. Гродзенскія зайцэ́. *М. Грынблат, 1953, Воран.*

2776. Плюнуў аж да Берастовіцы. *Fed., 29.*

2777. У Адэльску сабакі не жывуць, але людзі. *Fed., 4.*

2778. Шыркі, Мыркі, Ракшыно́, Чарнаусы, Казіно́. *У. Гуркоў, 1973, Мсцісл.*

2779. Ушáцкія ўсе людзі хвацкія. *Цар., 247, Мінск.*

2780. Баяры слаўныя. *Л. Салавей, 1975, Мядз.*

2781. Рубцы ваўкалацкія. *Л. Салавей, 1975, Мядз.*

2782. Гэта ж не Украіна. *Fed., 318.*

2783. Ці ў Падоллю, ці ў Расеі, то дарам ніхто нікому не робіць. *Fed., 209.*

2784. У том Луцку ўсё не па-людску: наакал вада, а ў сярэдзіне бяда. *Kolb., 473, Пін. п.*

2785. Аж Варшаву відно. *Fed., 327.*

2786. Варшаўская работа. *Fed., 327.*

2787. І ў Парыжу не зробяць аўса з рыжу. *Fed., 222.*

# АСНОЎНАЯ ЛІТАРАТУРА І ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

Абаб. — Сказаў, як звязаў. Зап. М. Абабурка.— «Беларусь», 1963, № 12, стар. 31.

Аним.— Анимелле. Быт белорусских крестьян.— У кн.: Этнографический сборник, вып. II. СПб, 1854.

Антырэліг. казкі — Антырэлігійныя казкі, частушкі, прыказкі, выд. 2-е. Склад. А. І. Залескі, К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік. Мінск, 1961.

Астап.— Беларускія прыказкі і прымаўкі пра Ільіча. Сабраў Н. Астапенка.— «Беларусь», 1970, № 4, стар. 31.

Ахрым.— Ахрыменка П., Буцько М. Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі. Гомель, 1957.

«Бел.» — Прыказкі і прымаўкі.— «Беларусь», 1956, № 1, стар. 29; 1961, № 1, стар. 29.

Бел. народ — Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі. Склад. Э. В. Галубок, А. К. Калечыц. Мінск, 1939.

БелФ ВАв — Беларускі фальклор Вялікай Айчыннай вайны. Склад. І. В. Гутараў, М. Я. Грынблат, К. П. Кабашнікаў, І. Р. Сцяпунін, І. К. Цішчанка. Мінск, 1961.

Берман — Берман И. Календарь по народным преданиям в Воложинском приходе Виленской губернии, Ошмянского уезда.— «Записки РГО», т. V, 1873.

БіСМ — Беларускае і славянскае мовазнаўства. Мінск, 1972.

Богд.— Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1895.

«БРіС» — Часопіс «Беларуская работніца і сялянка», 1930, № 14.

Брыль — Брыль Я. Ніжнія Байдуны. Аповесць.— «Полымя», 1975, № 10 (Запісы па памяці з Карэліцкага р-на).

Булг. — Булгаковский Д. Г. Пинчуки. СПб, 1890.

Бяльк.— Бялькевіч І. К. Краёвы слоўнік Усходняй Магілёўшчыны. Мінск, 1970.

Вас.— Васильев В. Белорусские пословицы.— «Маяк», 1844, т. 15, стар. 29—30; 1845, т. 22, стар. 58; т. 23, стар. 144.

Ворожб.— Ворожбицкий Ф. Народные поговорки и пословицы Пружанского уезда.— «Гродненские губернские ведомости», 1868, № 21.

Выпісы — Выпісы з беларускае літаратуры, ч. І. М.—Л., 1925.

Гильт.— Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае, вып. І. Под ред. П. Гильтебрандта. Вильно, 1866.

Горленка — Горленка В. З гаворак Гомельшчыны.— «Полымя», 1975, № 9.

Гур.— Гурыновіч А. Рукапісы, якія захоўваюцца ў Рукапісным аддзеле Бібліятэкі АН ЛітССР, ф. 21 (са Свянцянскага п. Віленскай губ.).

Гут.— Сучасны беларускі фальклор. Склад. І. Гутараў. Мінск, 1963.
Даль — Даль В. Пословицы русского народа. М., 1957.
Даль, Слов.— Даль В. Словарь живого великорусского языка, т. I—IV. М., 1955.
ДіСБ — Дарэвалюцыйная і Савецкая Беларусь у народнай творчасці. Пад рэд. Я. Коласа і Н. М. Нікольскага. Мінск, 1938.
Дмитр.— Дмитриев М. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края. Вильно, 1869.
Добр., Слов.— Добровольский В. Н. Смоленский областной словарь. Смоленск, 1914.
Добр., Смол.— Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник, ч. III. Пословицы. СПб, 1894.
Дразд.— Драздовіч Я. Народныя прыказкі Дзісеншчыны (рукапіс). Захоўв. у Аддзеле рэдкай кнігі Фундаментальнай бібліятэкі імя Я. Коласа АН БССР.
Дуб.— Беларускія пагаворкі і пасловіцы. Сабраў Dubiejkoŭski Lavon (рукапіс). Захоўв. у Рукапісным аддзеле Бібліятэкі АН ЛітССР, ф. 21.
Дуб., Нар.— Народныя пагаворкі. Сабраў Л. В. Дубяйкоўскі (у Мсціслаўшчыне) (рукапіс). Захоўв. у Аддзеле рэдкай кнігі Фундаментальнай бібліятэкі імя Я. Коласа АН БССР.
Жанч.— Жанчына ў беларускай народнай творчасці. Склад. Э. В. Галубок, А. К. Калечыц, Н. О. Багдановіч. Мінск, 1940.
З нар. сл.— З народнага слоўніка. Мінск, 1975.
Зазека — Лясныя песні. Паэзія беларускіх партызан, выд. 2-е. Склад. Я. Зазека. Мінск, 1974.
«Заранка» — Пасловіцы і прыгаворкі.— Каляндар «Заранка». Мінск, 1919.
Зах.— Беларускі фальклор у сучасных запісах. Брэсцкая вобласць. Традыцыйныя жанры. Склад. В. А. Захарава. Пад рэд. Р. Р. Шырмы. Мінск, 1973.
Зел.— Зеленин Д. К. Описание рукописей ученого архива Русского географического общества, т. I—III. Пг., 1914—1916.
«Зорка» — Часопіс «Зорка». Вільна, 1938, № 3.
Ігнат.— Сказаў, як звязаў. Народныя прыказкі і выслоўі. Сабраў Б. Ігнатовіч.— «Беларусь», 1963, № 11, стар. 31.
Иллюстров — Иллюстров И. Жизнь русского народа в пословицах и поговорках, изд. 3-е. М., 1915.
Калянд., 1921 — Каляндар «Крыніца» на 1921 год. Вільня.
Калянд. «Нашай нівы» — Прыказкі.— Беларускі каляндар «Нашай нівы». Вільня, 1911.
Калянд., 1925 — Беларускі каляндар на 1925 год. Вільня.
Карл.— З рукапіснага фонду Яна Карловіча. Захоўв. у Цэнтр. дзярж. гіст. архіве ЛітССР, ф. 1135, воп. 10, спр. 201, л. 279.
Киркор — Киркор А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию. — У кн.: Этнографический сборник, вып. III. СПб, 1858.
Кмита — Отписки старосты Оршанского Филона Кмиты к Троцкому воеводе от 1-го июня и 5 августа 1574 г.— У кн.: Акты, относящиеся к истории Западной России, т. III. СПб, 1848, стар. 171—172, 174.
«Кр.» — Новые пословицы.— Газета «Крестьянин». Вильна, 1908, № 20.
Крапіва — Крапіва К. Беларускія прыказкі.— Зб. тв. у 4-х т., т. 4. Мінск, 1963.

Крачк.— Крачковский Ю. Быт западно-русского селянина. М., 1874.
Крэмнеў — Прыказкі і пагаворкі, сабраныя ў Чарнігаўскай губ. (Старадубскім, Новазыбкаўскім, Мглінскім і Суражскім пп.) М. Ц. Крэмневым у 1901—1905 гг. (рукапіс). АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, спр. 22.
Леп.— З народнага. Зап. І. Лепешаў.— «ЛіМ», 16 чэрвеня 1972 г., стар. 16 (Месца запісу не ўказана).
«ЛіМ» — Газета «Літаратура і мастацтва».
Луж.— Лужанін М. З кнігі «Людзі, птушкі, прастор».— Полымя», 1975, № 9.
Ляцкий — Ляцкий Е. А. Материалы для изучения творчества и быта белорусов. І. Пословицы, поговорки, загадки. М., 1898 (Запісы з Барысаўскага п.).
Мальч.— Мальчевский К. Белорусские пословицы.— «Могилевские губернские ведомости», 1850, № 40, 41, 42, 45.
Мат.— Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы. Мінск, 1960.
Мат. ГТ — Матэрыялы Геаграфічнага таварыства СССР, копіі якіх захоўваюцца ў АІМЭФ, ф. 8, воп. 3, спр. 25.
Махнач — Беларускія пагаворкі. Зап. А. Махнач.— «Беларусь», 1956, № 3, стар. 24.
Мін.-Мал.— Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. Пад рэд. М. А. Жыдовіч, вып. 1. Мінск, 1970; вып. 2. Мінск, 1974.
Мяц.— Мяцельская Е. С., Камароўскі Я. М. Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі. Мінск, 1972.
«Ніва» — Штотыднёвік «Ніва». Беласток.
Никиф.— Никифоровский Н. Я. Полупословицы и полупоговорки, употребляемые в Витебской Белоруссии.— «Записки Северо-Западного отдела РГО», 1910, кн. 1; 1911, кн. 2; 1912, кн. 3.
Нос.— Сборник белорусских пословиц, составленный И. И. Носовичем. СПб, 1874.
Нос., Слов.— Словарь белорусского наречия, составленный И. И. Носовичем. СПб, 1870.
Орш.— Оршанская Е. Детские приказки.— «Живая старина», 1909, № 1, стар. 120—121.
Паддубны — Прымаўкі. Зап. В. Паддубны.— «Звязда», 28 красавіка 1963 г. (Месца запісу не ўказана).
Пар.— Я. І. Парэцкі, Ю. І. Прэнская. Любчанскі зборнік прыказак і прымавак, сабраны і выдадзены С. Рысінскім у 1618 г.— «Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук», 1964, № 1, стар. 124—133.
ПВЛ — Повесть временных лет, т. І. М.—Л., 1950.
«Полымя рэвалюцыі» — Калгасныя прыказкі.— «Полымя рэвалюцыі», 1937, № 11, стар. 191.
Радч.— Радченко З. Гомельские народные песни.— «Записки РГО», т. XIII, 1888.
«РФГ» — «Раздавім фашысцкую гадзіну». Газета-плакат. Выд. ЦК КП(б)Б, 1941—1945.
Рапан.— Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі, выд. 2-е. Склад. Я. Рапановіч. Мінск, 1974.
Раст.— Расторгуев П. А. Словарь народных говоров Западной Брянщины. Минск, 1973.
Ром., Бел.— Романов Е. Р. Белорусский сборник, т. І, вып. 1—2. Песни, пословицы, загадки. Киев, 1886; вып. VIII. Быт белоруса. Вильна, 1912.

Ром., Зап.— Древние русские пословицы. Сообщение Е. Р. Романова.— «Записки Северо-Западного отдела РГО», 1910, кн. I; 1912, кн. III.
Ром., Мат.— Материалы по этнографии Гродненской губернии, вып. 1. Под ред. Е. Р. Романова. Вильна, 1911.
Сап.— Сапунов А. Река Западная Двина. Историко-географический обзор. Витебск, 1893.
Сах.— З матэрыялаў С. П. Сахарава. Вып. III. Казкі, апавяданні, прыказкі і загадкі. 1944 (рукапіс). АІМЭФ, ф. 9, воп. 3, спр. 13 (усходнія р-ны Латвіі).
Сем.— Сказаў, як звязаў. Беларускія прыказкі, прымаўкі, жарты і выслоўі. Зап. Я. Семяжоч і У. Януковіч.— «Беларусь», 1963, № 6, стар. 31.
Сержп.— Сержпутовский А. К. Сборник белорусских пословиц и поговорок (рукапіс). АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, спр. 21 (зап. у Слуцкім п.).
Сцяшк.— Сцяшковіч Т. Ф. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці. Мінск, 1972.
Фраз. сл.— Гаўрош Н. В., Лепешаў І. Я., Янкоўскі Ф. М. Фразеалагічны слоўнік для сярэдняй школы. Мінск, 1973.
Хрэстам.— Вусна-паэтычная творчасць беларускага народа. Хрэстаматыя. Склад. С. І. Васілёнак, І. В. Гутараў. Мінск, 1959.
Хрэстам., 1970— Беларускі фальклор. Хрэстаматыя. Склад. К. П. Кабашнікаў, А. С. Ліс, А. С. Фядосік, І. К. Цішчанка. Пад рэд. П. Ф. Глебкі. Мінск, 1970.
Цар.— Царанкоў Л. Слова міма не ляціць. Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі.— «Полымя», 1968, № 10.
ЧА — Чырвоная Армія і абарона Радзімы ў беларускай народнай творчасці. Мінск, 1938.
Шейн — Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. II. СПб, 1893; т. III. СПб, 1902.
Шкляр — Шкляр А. Х. Календарь природы Белоруссии. Мінск, 1967.
«ШМ» — Паў[люкоў]скі У. Народны каляндар.— «Шлях моладзі». Вільня, 1934, № 1—13.
Шпил.— Белорусские пословицы. Сборник П. Шпилевского.— «Известия Академии наук по отделению русского языка и словесности», 1853, т. II (Приложение, стар. 172—192).
Шпил., Зам.— Шпилевский П. Заметки Белорусца о белорусском языке (1853, рукапіс). Захоўв. у Рукапісным аддзеле Бібліятэкі АН СССР у Ленінградзе.
Шпил., Нар.— Шпилевский П. М. Народные пословицы с объяснением происхождения и значения их.— «Москвитянин», 1852, ч. 4, № 16, кн. 2.
Шырма — Шырма Р. Беларускія народныя песні, загадкі, прыказкі. Мінск, 1947.
Юрч., 1969— Юрчанка Г. Ф. Народная сінаніміка. Мінск, 1969 (зап. у Мсціслаўскім р-не).
Юрч., 1972— Юрчанка Г. Ф. І коціцца і валіцца. Устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны. Мінск, 1972.
Юрч., 1974— Юрчанка Г. Ф. І сячэ і паліць. Устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны. Мінск, 1974.
Ю-ы — (Ю-ы). З народнай мудрасці (Прыказкі).— «Наша ніва», 1913, № 32.
Янк.— Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы, выд. 2-е. Склад. Ф. Янкоўскі. Мінск, 1962.
Янк., Абр.— Янкоўскі Ф. Абразкі. Мінск, 1975.

Янк., Дыял.— Янкоўскі Ф. Дыялектны слоўнік, вып. I. Мінск, 1959; вып. III. Мінск, 1970.

Янк. М.— Янкоўскі М. А. Паэтыка беларускіх прыказак. Мінск, 1971.

Янк. Н.— Янковский Н. А. Поэтика белорусских пословиц. Автореф. канд. дис. Минск, 1968.

Янук.— Сказаў, як звязаў. Беларускія прыказкі, прымаўкі, жарты і выслоўі. Зап. У. Януковіч.— «Беларусь», 1963, № 4, стар. 30; № 11, стар. 31.

Athen. — Athenaeum, t. 4. Wilno, 1850, стар. 186.

Czeczot — Czeczot J. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny. Wilno, 1846.

Dybow. — Dybowski W. Przysłowia białoruskie z powiatu Nowogródzkiego.— Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, t. V, dz. 3. Kraków, 1881.

Fed. — Federowski M. Lud Białoruski na Rusi Litewskiej, t. IV. Warszawa, 1935.

Klich — Klich Edw. Teksty białoruskie z powiatu Nowogródzkiego. — Materyały i prace Komisyi językowej, t. II. Kraków, 1903.

Kolb. — Kolberg O. Dzieła wszystkie, t. 52. Białoruś—Polesie. Wrocław—Poznań, 1968.

Mien. — Mienicki W. M. Przysłowia białoruskie (рукапіс захоўв. у Цэнтр. дзярж. гіст. архіве ЛітССР, ф. 599, воп. 1, спр. 3, л. 395—397).

Pietk. — Pietkiewicz Cz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego. Warszawa, 1938.

Ryp. — Rypiński A. Białorus. Paris, 1840.

Tyszk. — Tyszkiewicz E. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1847.

## Скарачэнні назваў раёнаў БССР

Акцябр.— Акцябрскі
* Антоп.— Антопальскі
Арш.— Аршанскі
* Арэх.— Арэхаўскі
* Асв. — Асвейскі
Асіп.— Асіповіцкі
Астр.— Астравецкі
Ашм.— Ашмянскі
Бабр.— Бабруйскі
* Баг.— Багушэўскі
Баран.— Баранавіцкі
Барыс.— Барысаўскі
Бераст.— Бераставіцкі
Беш.— Бешанковіцкі
Б.-Каш.— Буда-Кашалёўскі
Браг.— Брагінскі
Брасл.— Браслаўскі
Брэсц.— Брэсцкі
Бых.— Быхаўскі
* Быц.— Быценскі
* Бяг.— Бягомльскі
Бял.— Бялыніцкі
Бяроз.— Бярозаўскі
Бярэз.— Бярэзінскі
Валож.— Валожынскі
* Вас.— Васілевіцкі
* Васілішк.— Васілішкаўскі
Ваўк.— Ваўкавыскі
Верхнядзв.— Верхнядзвінскі
Ветк.— Веткаўскі
* Ветр.— Ветрынскі
* Відз.— Відзскі
Віл.— Вілейскі
Віц.— Віцебскі
Воран.— Воранаўскі
* Выс.— Высокаўскі
Ганц.— Ганцавіцкі
Гарад.— Гарадоцкі
* Гарадз.— Гарадзішчанскі
Глуск.— Глускі
Глыб.— Глыбоцкі
Гом.— Гомельскі

* Раёны, адзначаныя зорачкай, расфарміраваны або перайменаваны.

Гор.— Горацкі
Гродз. — Гродзенскі
* Грэск.— Грэскі
* Д.-Гар.— Давыд-Гарадоцкі
* Даман.— Даманавіцкі
* Дамач.— Дамачоўскі
* Дзівін.— Дзівінскі
* Дзісен.— Дзісенскі
Дзярж. — Дзяржынскі
Дзятл.— Дзятлаўскі
Добр.— Добрушскі
Докш.— Докшыцкі
Драг.— Драгічынскі
* Дрыб.— Дрыбінскі
* Дрысен.— Дрысенскі (гл. Верхнядзвінскі)
Дубр.— Дубровенскі
* Дуніл.— Дунілавіцкі
Ельск.— Ельскі
Жабінк.— Жабінкаўскі
* Жабч.— Жабчыцкі
* Жалуд.— Жалудоцкі
Жлоб.— Жлобінскі
* Журав.— Журавіцкі
Жытк.— Жыткавіцкі
* Засл.— Заслаўскі
Зельв.— Зельвенскі
Іван.— Іванаўскі
Івац.— Івацэвіцкі
* Івян.— Івянецкі
* Ільян.— Ільянскі
Іў.— Іўеўскі
* Казл.— Казлоўшчынскі
Калінк.— Калінкавіцкі
Кам.— Камянецкі
* Камар.— Камарынскі
Кап.— Капыльскі
* Капатк.— Капаткевіцкі
Кар.— Карэліцкі
Карм.— Кармянскі
Касц.— Касцюковіцкі
Кір.— Кіраўскі
Клецк.— Клецкі
Клім.— Клімавіцкі
Кліч.— Клічаўскі
Кобр.— Кобрынскі
* Кос.— Косаўскі
* Кох.— Коханаўскі
Краснап.— Краснапольскі
* Краснаслаб.— Краснаслабодскі
Кругл.— Круглянскі
Круп.— Крупскі
* Крыв.— Крывіцкі
Крыч.— Крычаўскі
Лаг.— Лагойскі
* Лагіш.— Лагішынскі
Лельч.— Лельчыцкі
* Лен.— Ленінскі
Леп.— Лепельскі
Лёзен.— Лёзенскі
Лід.— Лідскі
Лоеў.— Лоеўскі
Лун.— Лунінецкі
Люб.— Любанскі
* Любч.— Любчанскі
Лях.— Ляхавіцкі
Маг.— Магілёўскі
Маз.— Мазырскі
Маладз.— Маладзечанскі
Малар.— Маларыцкі
Маст.— Мастоўскі
* Мех.— Мехаўскі
Міёр.— Міёрскі
* Міласл.— Мілаславіцкі
Мін.— Мінскі
* Мір.— Мірскі
Мсцісл.— Мсціслаўскі
Мядз.— Мядзельскі
Навагр.— Навагрудскі
* Навам.— Навамышскі
Нар.— Нараўлянскі
Нясв.— Нясвіжскі
* Пар.— Парыцкі
Паст.— Пастаўскі
Петр.— Петрыкаўскі
Пін.— Пінскі
* Плешч.— Плешчаніцкі
* Пліс.— Плiскі
Пол.— Полацкі
* Пораз.— Поразаўскі
* Прап.— Прапойскі (гл. Слаўгарадскі)
Пруж.— Пружанскі
Пух.— Пухавіцкі
Раг.— Рагачоўскі
* Радашк.— Радашковіцкі
* Радун.— Радунскі
Рас.— Расонскі
* Расн.— Раснянскі
* Рудзен.— Рудзенскі
Рэч.— Рэчыцкі
Саліг.— Салігорскі
* Сап.— Сапоцкінскі
Светл.— Светлагорскі

* Свір.— Свірскі
Свісл.— Свіслацкі
* Свяц.— Свяцілавіцкі
Сен.— Сенненскі
* Сір.— Сіроцінскі (гл. Шумілінскі)
* Скід.— Скідальскі
Слаўг.— Слаўгарадскі
Слон.— Слонімскі
Слуцк.— Слуцкі
Смал.— Смалявіцкі
Смарг.— Смаргонскі
Старадар.— Старадарожскі
* Староб.— Старобінскі (гл. Салігорскі)
Стаўб.— Стаўбцоўскі
Стол.— Столінскі
* Стрэш.— Стрэшынскі
* Сур.— Суражскі
Талач.— Талачынскі
* Тур.— Тураўскі
* Увар.— Уваравіцкі
Уздз.— Уздзенскі
* Ул.— Ульскі
Уш.— Ушацкі
* Хал.— Халопеніцкі
Хойн.— Хойніцкі
Хоц.— Хоцімскі
* Целях.— Целяханскі
* Цер.— Церахоўскі
Чав.— Чавускі
Чач.— Чачэрскі
Чаш.— Чашніцкі
Чэр.— Чэрыкаўскі
Чэрв.— Чэрвеньскі
Шарк.— Шаркоўшчынскі
Шкл.— Шклоўскі
Шуміл.— Шумілінскі
Шчуч.— Шчучынскі
* Юрац.— Юрацішкаўскі

## Скарачэнні назваў былых паветаў

Барыс. п.— Барысаўскі п. Мінскай губ.
Бельск. п.— Бельскі п. Гродзенскай губ.
Брэсц. п.— Брэсцкі п. Гродзенскай губ.
Ваўк. п.— Ваўкавыскі п. Гродзенскай губ.
Віл. п.— Вілейскі п. Віленскай губ.
Вілен. п.—Віленскі п. Віленскай губ.
Гом. п.— Гомельскі п. Магілёўскай губ.
Гор. п.— Горацкі п. Магілёўскай губ.
Гродз. п.— Гродзенскі п. Гродзенскай губ.
Дзвін. п.— Дзвінскі п. Віцебскай губ.
Дзісен. п. —Дзісенскі п. Віленскай губ.
Дрысен. п.— Дрысенскі п. Віцебскай губ.
Ігум. п.— Ігуменскі п. Мінскай губ.
Кобр. п.— Кобрынскі п. Гродзенскай губ.
Леп. п.— Лепельскі п. Віцебскай губ.
Лід. п.— Лідскі п. Віленскай губ.
Маг. п.— Магілёўскі п. Магілёўскай губ.
Маз. п.— Мазырскі п. Мінскай губ.
Мсціcл. п.— Мсціслаўскі п. Магілёўскай губ.
Навагр. п.— Навагрудскі п. Мінскай губ.
Нев. п.— Невельскі п. Віцебскай губ.
Пін. п.— Пінскі п. Мінскай губ.
Раг. п.— Рагачоўскі п. Магілёўскай губ.
Рэч. п.— Рэчыцкі п. Мінскай губ.
Сакольскі п. — Сакольскі п. Гродзенскай губ.
Свянц. п.— Свянцянскі п. Віленскай губ.
Себ. п.— Себежскі п. Віцебскай губ.
Сен. п.— Сенненскі п. Магілёўскай губ.
Слон. п.— Слонімскі п. Гродзенскай губ.
Слуцк. п.— Слуцкі п. Мінскай губ.

### Іншыя скарачэнні

АІМЭФ — Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР
б.— былы
бел.— беларускі
вар.— варыянт
вобл.— вобласць
вол.— воласць
воп.— вопіс
гл.— глядзіце
губ.— губерня
зап.— запісаў (запісала)
заўв.— заўвага
л.— ліст
п.— павет
пар.— параўнайце
спр.— справа
студ.— студэнт
сш.— сшытак
ф.— фонд

## ПРЫРОДА, ГАСПАДАРЧАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ, ПРАЦА

### Прырода, яе стыхіі і з'явы. Жывёльны і раслінны свет

1—3. У гэтых прыказках дадзена народная ацэнка зямлі як асновы існавання і дабрабыту селяніна. «Зямля — маці», «маці-зямля», «маці сыра зямля» — звычайныя і пастаянныя эпітэты ў фальклоры ўсходніх славян. Часта гучаць як павучанне для моладзі.

6—10. Зямля сялянскіх надзелаў у сваёй большасці, як у часы прыгону, так і пасля скасавання яго, была благой, малаўрадлівай. Уся лепшая зямля, аб якой селянін мог толькі марыць, засталася ў руках паноў. Аб якасці глебы сялянскіх палеткаў і мары аб добрай зямлі і складзены гэтыя прыказкі і прымаўкі.

10. Касця́ць — паскудзяць. Касціць — брудзіць, пэцкаць, выпаражняцца (Нос., Слов., 331). Другое тлумач.: псаваць без патрэбы (З нар. сл., 125, Мсціск.).

11, 12. Народныя прыкметы-назіранні над з'явамі прыроды. У дадзеным выпадку гаворка ідзе пра час канчатковага ачышчэння зямлі ад снегу і яе прагравання пасля першай навальніцы.

15. З народнай касмаганічнай легенды пра паходжанне балот. Па даўніх перакананнях-павер'ях усё ліхое на зямлі народжана чортам. Гл.: Богдан., 131—132.

Кархаве́нне — харкавінне, выхарканая макрота.

16. Балацю́к — ідаць, «гаспадар» балота, чорт (з нар. дэманалогіі).

17. З усходам сонца звычайна пачынаўся працоўны дзень селяніна. Большасць прыказак і прымавак пра сонца таму ў той або іншай ступені звязана з сялянскай працай і яе плёнам.

22. Шпара — шчыліна.

27. Тут табу паказваць на сонца пальцам. Відаць, адзін з перажыткаў даўняга культу сонца. Пазней пачала ўжывацца і ў пераносным сэнсе: не пярэч вялікім валадарам, высокаму начальству, бо гэта можа наклікаць бяду. Ідэалогія класавага грамадства.

29. З народнай метэаралогіі прыказка-прыкмета пра надвор'е (гл. таксама 31, 39, 40, 42—44 і інш.).

30. Тлумачэнне Насовіча: «Гавораць жартам пра таго, хто, захапіўшыся шчаслівымі абставінамі, не прыслухоўваецца да карысных парад і прапаноў» (Нос., 64).

35, 36. Нагляданні за з'явамі прыроды. У той жа час маюць пераносны сэнс: страшная гразьба часта праходзіць безвынікова. Змяшчаюць і іншы пераносны сэнс.

41. Звязана з даўнімі вераваннямі: перуном, як стралой, бог забівае «нячыстую сілу». Каменныя прылады старажытнага чалавека, якія знаходзілі ў зямлі, называлі «перуновымі стрэламі».

42. Н а г о л а — на голую зямлю, яшчэ не пакрытую травой.

59—61. Прыказкі-прыкметы гаспадарчага характару.

75. Часта на каляды (канец снежня) і Новы год прыпадаюць моцныя маразы. Пар. рус. «рождественские» або «крещенские морозы».

84. З надыходам маразоў і ўсталяваннем саннай дарогі аблягчаецца вываз вялікіх цяжараў — бярвення, дроў з лесу, сена з балот і інш.

86. Звязана з павер'ем, якое было пашырана таксама сярод рыбакоў і нават маракоў: дастаткова пералічыць сорак знаёмых лысых людзей, і бура сціхне. У некаторых беларускіх вёсках (на Мядзельшчыне, у Докшыцкім р. і інш.) у мароз (на каляды) збіраліся дзяўчаты і па імю называлі сорак лысых, каб «мароз ляснуў» (паведаміла Л. А. Малаш).

97. Прыказка пра таго, хто «бескарысна працуе над немагчымым» (тлумач. збіральніка).

98. П р а л у б к а — проламка.

Л у б к а — каробка з лубу.

99. Ускосны сэнс: да добрага, чыстага цягнуцца многія.

101. Адказ на чые-небудзь кпіны, насмешкі.

103. Апрача прамога сэнсу, гэтыя прыказкі маюць на ўвазе існаванне неадольнай сілы, якую чалавеку цяжка перамагчы. Насовіч укладае тут класавы змест: «Настаўленне не супраціўляцца сіле ўлады» (Нос., 141).

113—133. Прыказкі, якія падкрэсліваюць небяспеку агню. Значная колькасць такіх прыказак у беларускім матэрыяле тлумачыцца жыццёвымі прычынамі. Частыя пажары ў беларускай вёсцы з яе драўлянымі будынкамі і скучанасцю былі сапраўдным бічом для селяніна, яны прыносілі незлічоныя страты яго гаспадарцы і маёмасці. Гэта знайшло адлюстраванне нават у айканіміі — назвах населеных пунктаў (Гарэлае, Пагарэльцы, Пагарэлка, Негарэлае і г. д.). Аднак многія прыказкі мелі і пераносны сэнс і служылі павучаннямі ў розных жыццёвых сітуацыях.

122. Вынікае з даўняга культу агню, з павер'я, што агонь нельга зневажаць (пляваць на агонь і г. д.).

У к в е л і ш, ад у к в я л і ц ь — угнявіць, раздражніць. Слова гэта і зараз яшчэ вядома на Мядзельшчыне, Вілейшчыне, Слонімшчыне і ў некаторых іншых заходніх раёнах Беларусі.

124. Заклікае да асцярожнасці ў небяспечных справах. Пар. рус.: От искры сыр-бор загорается (Даль, 667).

134—252. Прыказкі і прымаўкі шматлікай групы пра жывёл часта змяшчаюць у сабе пераносны сэнс: пад уласцівасцямі жывёлы найчасцей разумеюць пэўныя паводзіны і рысы характару чалавека. Такі прыём (алегорыя) мае даўнія традыцыі ў розных жанрах фальклору, асабліва ў казках пра жывёл. Уласцівы ён у значнай ступені і беларускім прыказкам.

137, 138. Часам гавораць пра тое, што ад віннага добра хоць частку доўгу звярнуць.

145. У пераносным сэнсе — не здзівіш чалавека звыклымі для яго абставінамі.

146. Мае той самы сэнс, што і 148-я прыказка. Федароўскі тлумачыць крыху інакш: «Не выводзь мяне з цярпення, не цягні за язык».

1546. С п р ы т н а́ — падрад, не выбіраючы. У Федароўскага памылкова запрытна́ (выявіў І. Саламевіч).

159. Відаць, звязана з нейкай прыкметай-назіраннем або павер'ем. Але тут у пераносным сэнсе.

171. Тут праявілася даўняе табуістычнае павер'е ў тое, што варта вымавіць імя небяспечнага звера, як ён можа адразу з'явіцца.

174, 175. Абедзве прыказкі пра чалавека, якому пашчасціла (прыкметы).

176. Гавораць пра старога, спрактыкаванага чалавека.

179—181. У параўнанні з вялікай колькасцю прыказак і прымавак пра воўка, шкодныя і небяспечныя паводзіны якога перанесены на адмоўныя якасці ліхога чалавека, прыказак пра мядзведзя зусім мала. Тлумачыцца гэта непамерна большай шкодай, якую воўк прыносіў гаспадарцы селяніна. Што датычыць мядзведзя, дык прыказкі, таксама як і казкі пра мядзведзя, падкрэсліваюць у першую чаргу яго сілу і нязграбнасць. Гэтыя яго ўласцівасці прыказка таксама алегарычна пераносіць на людзей.

181. А р х і м а н д р ы ц — архімандрыт, вышэйшы духоўны чын у манахаў.

182. Пра хціўнага чалавека.

184. К у ц ы — бясхвосты, тут: сабака-дварняк.

185—192. Усе прыказкі пра гадаў у пераносным сэнсе маюць на ўвазе пераважна благога, шкадлівага чалавека.

196. У час веснавога нерасту жывёлу выпускаюць на траву.

203. Не ўсе людзі аднолькава здольныя да той або іншай справы.

206. Прылёт гракоў — адзнака надыходу вясны і веснавых работ.

207. Прыказка з катэгорыі прыкмет; у ёй зафіксавана паслядоўнасць прылёту птушак у адпаведнасці з праявамі веснавога абуджэння прыроды.

208. Адлёт жураўлёў азначае канец лета, цяпла.

211. Бусел, паводле даўніх народных вераванняў беларусаў, лічыўся птушкай свяшчэннай. Згодна з легендай, ён некалі быў чалавекам, але за непаслушэнства бог ператварыў яго ў бусла (Шейн, II, 350—352). Той хаце, на якой або паблізу якой бусел ладзіць сваё гняздо, ён нібы прыносіць шчасце.

212. Вынікае з характару і спосабу харчавання бусла. У пераносным сэнсе гаворыцца пра чалавека, які ў сваёй дзейнасці глядзіць далёка ўперад, шукаючы для сябе карысці.

214. Варона садзіцца на балота, калі з'явіліся купіны. Гэта значыць, што падсохла зямля і можна пачынаць веснавыя работы.

215—219. У пераносным сэнсе гаворыцца пра чалавека хціваго, прагнага.

224—225. Паводле даўняга павер'я, сарока прадракае гасцей. Пар. рус. дзіцячую забаўлянку: Сорока-белобока на пороге скакала, гостей поджидала... (Даль, 948).

226. Н а г о л а е д з е р а в а—ранняй вясной, калі дрэвы яшчэ без лісця.

227. Адзначана збіральнікам як прыгаворка пры пачутым кукаванні (відаць, першым). Зязюля належыць да птушак-аракулаў, вешчуноў, што прадракаюць будучыню, часцей смутак. Прыведзены тэкст мог служыць пэўнай формулай-замовай, якую вымаўляла дзяўчына пры першым, раннім кукаванні, каб засцерагчы сябе ад згубнай сілы прадракання зязюлі.

229. Назіранне над жыццём птушак. Маецца на ўвазе пачатак і канец вясны: ластаўка прылятае адной з першых у канцы сакавіка, сала-

вей — у маі. Ластаўка спявае на світанні, а салавей — увечары. Магчыма, мае і пераносны сэнс.

230. З гэтай пары салавей перастае спяваць.

231. Кажуць пра чалавека, які многа гаворыць, а мала робіць.

234. Пра двудушнага і хціварга чалавека.

236. Пра напышлівага чалавека.

241. Дрозд — птушка, якая вельмі грунтоўна і дасканала будуе сваё гняздо. У пераносным сэнсе — пра чалавека, які дбае пра сябе і мала спагадае іншым.

244, 245. П л і́ с і ц а — пліска (Motacilla, рус. трясогузка), птушка з атраду вераб'іных, але ў параўнанні са звычайным вераб'ём прыгажэйшая, апярэнне яе больш яркае (белае, шэрае і чорнае).

Сэнс прыказкі ў тым, што ў багатага ўсяго болей, чым у беднага.

246. На першы погляд лёгкая справа, але выканаць яе вельмі цяжка.

247. Гаворыцца чалавеку, які любіць завельмі хваліцца, перабольшваць, часам і прыманіць.

248, 249. Апрача трапнага прыкметнага назірання над жыццём пчол у прыказках ёсць і пераносны сэнс: так гавораць пра пераборлівага чалавека.

253. Пра вечнасць жыцця, прыроды.

254—269. Прыказкі характарызуюць значэнне лесу ў гаспадарцы беларускага селяніна. Лес даваў яму будаўнічы матэрыял, дровы, лыка, зверыну, ягады, грыбы, арэхі, дзічкі, мёд і інш.

262. І лес, і вада аднолькава патрэбны чалавеку, яго гаспадарцы. У той жа час яны аднолькава і небяспечны.

263. Тут, магчыма, табу як водгук вельмі даўніх уяўленняў аб лесе, які месціць у сабе шмат таямнічага, нязведанага і небяспечнага. Гл. таксама 264.

267. Пра чалавека ў стане адчаю, роспачы і бездапаможнасці.

270. Часцей сустракаецца ў выглядзе загадкі на хвою. Тут пра чалавека, які не змяняе свайго характару або выгляду, заўсёды аднолькавы.

271. Прыкмета на надвор'е: калі ў час набухання пупышак на дрэвах холадна, ды пры цвіценні будзе яшчэ халадней.

Д р ы ж а ц ь м е — старадаўняя форма будучага часу: будзе дрыжаць.

272. Калі на дрэвах ёсць лісце, позна сеяць.

Т р а я к — манета ў тры капейкі.

277—278. Прымаўкі могуць быць адрасаваны фанабэрліваму чалавеку.

287. Пераважна пра бацькоў і патомства.

## Поры году. Час. Народны каляндар

290. «Пакуль ліст на дрэвах — зіма не стане. На ранні снег падае лісце і прабівае ў ім дзіркі» (тлумач. інфарматара).

296. Маецца на ўвазе, што лагодную зіму было лягчэй перажыць бедным, занядбалым людзям, сіротам, якія не мелі цёплага адзення і добрай хаты.

298. Гл. заўв. 84.

303. Пра змены ў харчаванні селяніна ўзімку. Куры перасталі несціся, затое забіты перад калядамі кабанчык узбагаціў сялянскі стол салам і каўбасамі. Зразумела, гэта залежала ад ступені забяспечанасці сям'і.

305—306. За зіму спажывалася ўсё тое, што было нарыхтавана сялянінам за лета. Большасць сялянства адчувала зімой вялікую нястачу ў харчаванні і кармах для жывёлы.

308—310, 317—323. Прыкметы-прагнозы на надвор'е і ўраджай. Па зіме, асабліва па студзеню, меркавалі аб надвор'і летам. «Ёсць многа прыкмет, якія звязваюць надвор'е ў студзені з летнім надвор'ем, заўважаюць адзнакі, якія абумоўлены снежным покрывам, маразамі» (Шкляр, 57).

319. Заўважана, што калі занадта цёплы студзень і адбываецца таянне снегу, а пасля таго надыйдуць халады, дык можа пацярпець азіміна (Шкляр, 57).

325—327. Здараецца нярэдка ў лютым адліга, непагадзь. Адсюль і прыказкі.

325. П л ю́ т а — ад плюшчаць, плюхаць пад нагамі.

337—338. Тое ж, можа, яшчэ часцей, гавораць пра летні дзень. Веснавыя і летнія палявыя работы не церпяць ніякага замаруджвання. Народныя прыказкі падкрэсліваюць, што прапушчаны дзень часта можа вельмі шкодна адбіцца на ўраджаі.

342. Вясной большае дзень, меншае ноч — даводзіцца менеј спаць: гэтага вымагае работа на полі.

344. Тут у пераносным сэнсе: пра плён, вынікі можна гаварыць толькі пасля заканчэння працы, а не ў самым пачатку яе.

348. Вясной пасля галоднай зімы сялянская скаціна была худой, а ўвосень каровы пачыналі даваць мала малака. А яшчэ пра тое, што за зіму з'елі мяса, саланіну.

349. С у х а я — тут нішчымная, посная (пар. сухі хлеб, сухама).

365. Гл. заўв. 325.

366—370. Надвор'е ў сакавіку яшчэ не трывалае, нямала выпадае халодных і нават марозных дзён.

370. Д а г а ю — на могілкі.

372. Маецца на ўвазе азіміна, якая рана, у сакавіку, вызвалілася ад снежнага покрыва, і таму ёй пагражаюць яшчэ маразы, што можа пашкодзіць будучаму ўраджаю.

373. Пераважна пра надвор'е, якое ў сакавіку бывае вельмі няўстойлівым, «перамешаным», «як у гарцу».

374—380. Прыкметы-прагнозы як вынік нагляданняў. А. Шкляр адзначае: «Сухі сакавік не шкодзіць сельскай гаспадарцы; важна, каб ападкі выпадалі ў наступныя вясеннія месяцы» (Шкляр, 81).

378. С а к а в е́ ц — адна з старадаўніх народных назваў месяца сакавіка.

381—387. Прыказкі пра красавік вылучаюць найбольш істотныя ўласцівасці гэтага месяца (падсыханне і праграванне глебы), яго значэнне для сельскай гаспадаркі і будучага ўраджаю. Некаторыя з іх — прыкметы-прагнозы.

387. А ў б а р ы б е л ы — яшчэ снег ляжыць.

388. Май — найбольш адказны перыяд веснавых работ, якія патрабуюць асаблівага напружання і руплівасці.

Т р а в е н ь — старажытнаруская назва месяца мая.

389. У маі здараюцца яшчэ халады.

392—398. Дажджы ў маі спрыяюць ураджаю жыта, ранніх яравых і льну (Шкляр, 135).

402—403. Вясна была самай галоднай парой для селяніна. Але ў маі з'яўляліся першыя ядомыя травы — шчытка, шчаўе і інш.

408—413. З народнай аграноміі, якая вызначала тэрміны сяўбы па прыкметах.

408. Калі ў саду бела — як сад цвіце.

413. Ка́сцер — мошка.

418. Рок — год. Слова захавалася ва ўкраінскай і польскай мовах.

420, 421. Да чаго ўлетку, калі ўсяго многа, зняважліва адносішся, тое ўзімку з карысцю спажываецца (тлумач. збіральнікаў Л. Салавей і Л. Малаш). Я. Ляцкі свой запіс прыводзіць у кантэксце: «І малады і стары прэ за ягадай і грыбамі, бо што ўлетку...» і г. д. Можа быць ужыта і ў пераносным сэнсе пры адпаведнай сітуацыі.

434—437. Пчалярскія прыказкі-прыкметы, практычныя парады, якія заснаваны на вытворчым вопыце і назіраннях за жыццём пчол. У «сухі год» цёплае лета багата меданоснымі кветкамі, а таму спрыяе медазбору, мокры ж год з сакавітай травой дае добры корм скаціне.

441—442. Ва ўмовах Беларусі сухое, гарачае лета лепш спрыяе ўраджаю, асабліва збожжавых, чым лета «мокрае», якое часта прыводзіць да вымакання і палягання пасеваў.

447. У цёплае лета многа камароў, яно ж спрыяе добраму ўраджаю.

448. Яр — ярына, яравыя культуры.

450—452. Боб цвіце звычайна ў першай палове ліпеня, перад жнівом, у самую, па старых умовах, «бясхлебіцу».

457. Найбольш забяспечаны час пасля ўборкі ўраджаю. Пар. рус.: В осень и у воробья пиво (Даль, 913).

461. Усё дрэннае забываецца, як толькі надыходзяць лепшыя часы.

464—465. Рабіна паспявае, чырванее ўвосень, калі ідуць ужо дажджы. Вядома і іншая прыкмета: калі многа рабіны,— сухая восень (Докш. р.).

465. Верабіна — рабіна.

466. Нурцы — від качак (Fuligulinae, або Glangalinae), што здабываюць сабе ежу ныраючы. Прылятаюць увосень, у час, калі надвор'е ўжо заўсёды дрэннае.

468—472. Пра зменлівае восеньскае надвор'е.

Змяна — змена (польск. zmiana).

473. У канцы жніўня, калі брусніцы паспяваюць, ноч ужо значна падаўжэла.

475. Як дрэнна будзе ўзарана і пасеяна азіміна, прыйдзецца перасяваць, ізноў выдаткоўваць зерне, якое было назапашана на «кашу» (крупы).

476. Пра збіранне грыбоў.

478. Пра ўраджай можна меркаваць не толькі па асенняй руні, ён залежыць і ад надвор'я ўвесну. Гаварылі таму, хто хваліў свае пасевы азімых.

480—486. Восень, калі ўраджай ужо зняты, была самай забяспечанай парой у селяніна. Частае супрацьпастаўленне зіме і асабліва вясне, калі нехапала харчоў і кармоў.

490—492. Надвор'е, якое спрыяе росту грыбоў, добра ўплывае і на будучы ўраджай жыта. У той жа час зафіксавана прыказка-прыкмета з супрацьлеглым значэннем.

497. Сэнс: усё ў свой час.

498. Год — значны прамежак часу; за гэты час многа што можа адбыцца.

503—505. У гэтых прыказках адзначаецца, што год — невялікі адрэзак ў жыцці чалавека.

506. Удзень напрацуешся, нагаруешся, уночы адпачнеш.

509. З падаўжэннем дня і павелічэннем работ па гаспадарцы ўсё меней часу ў сялянкі заставалася для хатняга прадзення і ткання.

512. Гаворыцца пра гарапашніцу, якой для ўсёй работы па гаспадарцы і па дому не хапае дня.

515. Гаворыцца пра таго, хто часта мяняе свае рашэнні.

516. Павучанне берагчы час.

520, 521. Вырашэнне якой-небудзь складанай, важнай справы трэба адкласці да раніцы, «на свежую галаву». Выражае таксама надзею на нешта лепшае. Падобныя прыказкі сустракаюцца часта ў чарадзейных казках.

524. Гл. заўв. 506.

527. Лік часу ў быту старой вёскі. Пар. рус.: «Первые петухи (полночь), вторые (до зари), третьи (заря)» (Даль, 923).

529. Яшчэ рана, няма паўночы, пасля якой «чэрці» разбягаюцца.

530. Доўгую зімнюю ноч сялянка праводзіла за прадзеннем і тканнём.

534. Кароткая ноч.

536. Гаворыцца таму, хто адкладвае заканчэнне якой-небудзь справы, работы на пазнейшы час.

П я т а к — пятніца.

537. Таму, хто ў будныя дні мала працаваў, не скончыў пільную работу, давядзецца дарабляць яе ў свята, нядзелю. Магчыма і іншае тлумачэнне: пятніца — пост, а спяваць у пост забаранялася, лічылася грахом, які ў нядзелю трэба было адмольваць.

552. Пра піліпаўскія маразы. П і л і п а ў к а — перадкалядны шасцітыднёвы пост, які пачынаўся назаўтра пасля Піліпавага дня (14 лістапада) *.

553. Пра працяглы, абрыдлівы піліпаўскі пост і чаканне каляд, пасля якіх надыходзіў мясаед.

К у ц е й к а — куцця.

554. На піліпаўку прыпадаюць самыя кароткія дні (зімняе сонцастаянне, 21—22 снежня).

555—560. На Сцяпана (17 снежня), за «тыдзень да каляд», паводле звычаю, фармальна заканчваўся тэрмін службы наёмных парабкаў. Каляды пачыналі і заканчвалі гаспадарчы год, таму ў гэты час і наймалі парабкаў.

563. З народных метэаралагічных прыкмет.

Польскія каляды — каляды, якія спраўляюць католікі па н. ст., з вечара 24 снежня. Свята каляд у праваслаўных адзначаецца пазней, па ст. ст.

573—575. Бытуюць у пераносным сэнсе: адказ на пусты абяцанак.

К а л я д а́ — тут тыя прадукты, якія нарыхтаваны да свята каляд (каўбасы, сала і інш.); імі адорвалі таксама парабкаў пры разліку з імі, свяшчэнніка, віншавальнікаў-калядоўшчыкаў.

575. Мае ўскосны сэнс: так кажуць, калі цяжка спагнаць доўг з працэнтамі (Fed., 134).

576, 577. З каляд пачынаюцца клопаты па гаспадарцы на надыходзячы год.

578. Адлік часу ад заканчэння каляд (6 студзеня) да першага абрадавага выгану скаціны (23 красавіка). Гэта якраз і складае «тры разы пяць», г. зн. пятнаццаць тыдняў. Прыказка нагадвае загадку-задачу.

Л я ц я ц ь — бягуць.

581. В а с і л л е — Васілеў дзень (1 студзеня).

---

* Тут і далей дні праваслаўных рэлігійных свят даюцца па старому стылю.

583. Лічыцца, што пасля **вадохрышча** (6 студзеня) вялікіх маразоў ужо не будзе; павярнулася к **Пятру** (29 чэрвеня), г. зн. да лета.

Вадахрэшчы — вадохрышча.

584. Павер'е язычніцка-хрысціянскага паходжання. Паводле народных вераванняў, чэрці і іншыя «нячысцікі» баяцца крыжа. Вадохрышчанскі царкоўны абрад «вадасвяцця» праз крыжападобную палонку павінен быў «выгнаць чарцей», якія, па тых жа павер'ях, зімуюць у вадзе (Ром., VIII, 128).

585. Ігнат (царк. Ігнацій-баганосец) — 29 студзеня.

586. Грамніцы, грамніца — рэлігійнае свята (2 лютага). Другая народная назва (пераважна ў праваслаўных) — стрэчанне (царк. срэценне). Назва перайшла ад каталікаў праз уніятаў. У гэты дзень асвячалі ў царкве свячу, якую запальвалі ў навальніцу «ад грому» («грамнічныя свечы»); яна ж фігуравала ў шэрагу абрадаў.

587—589. У адрозненне ад двух папярэдніх гэтыя прыказкі ў большай меры гаспадарчага характару, чым метэаралагічнага: да новага ўраджаю застаецца столькі ж часу, колькі прайшло ад папярэдняга ўраджаю, корму ж для скаціны павінна застацца «трэцяя часць», «трэціна», бо новая трава з'яўляецца значна хутчэй (прыблізна праз тры месяцы пасля грамніц).

589. Пошар — корм для скаціны (ад літ. pašaras).

590—594. У пачатку лютага часта здараюцца адлігі. Па надвор'ю на грамніцы мяркуюць аб надвор'і ўвесну.

595—597. Гл. тэксты і заўв. 586.

598—603. Масленіца (царк. сырная сядміца, г. зн. сырны тыдзень) — веснавое аграрна-магічнае святкаванне дахрысціянскага паходжання. Пасля пашырэння хрысціянства пачала адзначацца напярэдадні т. зв. вялікага посту, прыблізна ў другой палавіне лютага. Багатая ежа на масленіцу прызначалася магічна забяспечыць дастатак у будучым.

601. Масленіца-пакатуха — на гэта свята быў звычай катацца вакол вёскі на санках, катацца з снежных горак.

Да духа — да свята сёмухі (тройцы), праз сем тыдняў пасля вялікадня.

603. Месяц-лізун — месяц, на які прыпадае масленіца-палізуха.

606, 607. Уласаў дзень (царк. Уласія) — 11 лютага.

Святы Улас лічыўся патронам свойскай жывёлы, ён «пераняў» свае функцыі ад язычніцкага божышча Вялеса.

608. Казімір (Казімер) — па каталіцкаму царк. календару 19 лютага (н. ст.).

609. З народнай метэаралогіі: пра адлігі.

Мацей — па каталіцкаму царк. календару 24 лютага (н. ст.).

Пар. рус.: На св. Матвея зима потеет (Даль, 847; але тут Мацвей, што адзначаўся 16 лістапада).

612. Касьян — адзначаўся ў высакосны год 29 лютага. Лічыўся нешчаслівым днём. Пар. рус.: Касьян на что ни взглянет — все вянет (Даль, 874).

613. Яўдока (Аўдакея) — 1 сакавіка. У гэты час звычайна бываюць адлігі, галалёд, пачынае сыходзіць снег. Лічылася пачаткам вясны.

615. На Рыгора — 4 сакавіка.

616—619. Саракі — рэліг. свята сарака мучанікаў (9 сакавіка).

620. На святога Прыска — тое ж, што на саракі. Прыск — адзін з 40 мучанікаў, адзначаных царкоўным календаром.

622, 623. Ляксей (дзень Аляксея—божага чалавека)—17 сакавіка.

Ледзь — лёд.

Пра больш ранні час бел. рыбакі казалі: Рыбіна хвастом лёду не прабіла (Сап., 262).

625—630. Благавешчанне (благавешчына, добравешчына, звеставанне) — рэліг. свята (25 сакавіка). Благавешчанне лічылася адным з важнейшых царкоўных свят. У гэты дзень звычай забараняў амаль усе работы, нават пячы хлеб, гатаваць абед, заплятаць косу, сушыць на сонцы ніткі і г. д. У гэты ж дзень пачыналі «гукаць вясну» (Ром., VIII, 142—143).

627. Дух вон — траціць ужо свае сокі, сваю спажыўнасць.

630. Позняе цялё, якое нарадзілася вясной, звычайна не пакідалі на гадоўлю.

631. З народнай метэаралогіі: няўстойлівае надвор'е.

Мікіта — па царк. календару 3 красавіка.

632. Час сяўбы канапель па народнаму календару (Палессе).

Андрэй — 15 красавіка.

633. Два Юр'евы дні; 23 красавіка («галодны») і 26 лістапада («халодны»).

634. Юрый — тут: веснавы; Пятрок — 29 чэрвеня, да зняцця ўраджаю; Ілья—20 ліпеня, калі ўжо ёсць новы хлеб, прынамсі, у паўднёвай палавіне Беларусі.

636. Юр'я ўшаноўваўся як заступнік свойскай скаціны, асабліва кароў. 23 красавіка на досвітку адбываўся абрадавы выган скаціны «на Юр'еву расу», якой надавалі асаблівую магічную цудадзейную сілу. Паводле даўніх народных вераванняў, Юр'я меў дачыненне да земляробства наогул, ён «адмыкаў» вясну. Не выключана, што хрысціянскі святы Юр'я замяніў язычніцкае славянскае бажышча ўрадлівасці Ярылу. Пар. юраўскую песню (Зах., 73):

Падай, Юрыла, ключы і замкі
Адамкнуць красну вясну...

639. Насовіч лічыць, што тут гаворка пра восеньскага Юр'ю (26 лістапада) і зімовага Міколу (6 снежня), калі наладжвалася багатае частаванне, тады як на Івана (Іаана Багаслова, 8 мая) такіх магчымасцей не было.

645. З народных нагляданняў. Ураджай жыта залежыць не толькі ад таго, як яно перазімавала і выглядае ў пачатку вясны, але і ад пазнейшых метэаралагічных умоў.

646. Марка — па каталіцкаму календару 25 красавіка (н. ст.).

647. Вербніца — вербная нядзеля, за тыдзень да вялікадня. Па народнаму гаспадарчаму календару — час падрыхтоўкі селяніна да веснавога ворыва.

648. Чысты чацвер — чацвер апошняга тыдня перад вялікаднем.

Ушэсце (ваанясенне) — царк. свята, чацвер на шостым тыдні пасля вялікадня.

652. Алісей — па каталіцк. календару 29 красавіка (н. ст.).

653. Правады — наступны тыдзень пасля вялікадня (рус. проводная неделя). Паводле нар. прыкмет, трэба было пачынаць сяўбу.

654. Раданіца, або радуніца — дзень памінання памёршых, які адзначаўся на могілках у аўторак першага паслявелікоднага тыдня. Перажытак старажытнага культу продкаў.

655. Барыс і Глеб — свята, якое адзначалася 2 мая.

656. Перапалаўная серада — царк. свята прапалавення паміж вялікаднем і сёмухай (ад ст.-рус. прапалавіць — падзяліць напалам) 5 мая.
657. Станіслава — па каталіцк. календару 8 мая н. ст.
658. Мікола — 9 мая. Прыблізна к гэтаму часу з'яўляецца расліннасць — добрая падмога ў кармавым і харчовым рацыёне. У старым сялянскім быце Міколу адзначалі як вялікае свята. Яго лічылі патронам земляробства, які «жыта родзіць».
659. Калі сена хапіла б да Міколы, г. зн. да новай травы, што раней рэдка здаралася ў большасці сялянскіх гаспадарак, дык у скаціны была б добрая зімоўка.
667—670. Тут гаворка пра абодвух Міколаў — зімовага 6 снежня і веснавога, калі яшчэ не ўсталяваліся ні зіма, ні лета з адпаведнай дарогай — саннай або падсохлай для калёсаў; адзін «прыносіць» холад і снег, другі — цяплыі траву, корм.
671. «Бацькам Міколы» беларускія сяляне называлі Іаана Багаслова, дзень якога святкавалі напярэдадні веснавога Міколы, 8 мая, а таксама Саву, напярэдадні зімовага Міколы, 5 снежня. У гэтыя дні наладжвалі мікольшчыны — грамадскія абеды і не працавалі.
672. Сідары — 14 мая, калі царк. каляндар адзначаў двух святых Ісідараў.
673. Пахом — па царк. календару дзень Пахомія Вялікага (15 мая).
674. Васіліска — 22 мая.
675, 676. Пчалярскія гаспадарчыя прыкметы.
Перад Янам — тут: не перад купаллем, а перад днём Іаана Красціцеля (25 мая); зямёц — пчаляр.
679. На Галёну — на Алену (21 мая).
680—682. Духа — субота перад тройцай, праз 7 тыдняў пасля вялікадня, прыблізна ў канцы мая — пачатку чэрвеня. У гэты час здараецца халоднае надвор'е.
683. Зелянец — тройца, сёмуха (гл. папярэднюю заўв.), польск. zielone świątki. У народным календары траецкімі абрадамі і карагодамі заканчваўся веснавы цыкл гадавога круга.
684. Юстын (царк. Іўсцін) і Харытон — 1 чэрвеня.
685. На Тодара — па царк. календару дзень Феадора Страцілата (8 чэрвеня).
686. На Нупрэя — па царк. календару дзень Ануфрыя Вялікага (12 чэрвеня).
687. Амос — 15 чэрвеня.
688. Дзевятнік — чацвер на дзевятым тыдні пасля вялікадня (у католікаў у гэты дзень свята «божа цяла»).
689. Дзесятнік — дзесятая пятніца пасля вялікадня.
690. Іван Купала — 24 чэрвеня, дзень, блізкі да летняга сонцастаяння (21—22 чэрвеня). На гэты час прыпадаюць самыя кароткія ночы.
691. Яны замест Ян — 24 чэрвеня, пашырана ў Гродзенскім, Ашмянскім, Слонімскім і некаторых іншых заходніх раёнах Беларусі.
692—694. Да свята Купалы на поўдні і захадзе Беларусі паспявала ўжо жыта, а на Пятра (29 чэрвеня) ці неўзабаве пасля яго, аббіўшы першыя снапы і змалоўшы зерне, часам пяклі ўжо новы хлеб.
695. Тут гаворка ідзе пра грэчку, якая, пасеяная да Яна, выспявала да замаразкаў, а пасеяная пазней магла змерзнуць і гадзілася толькі вепру (тлумач. збіральніка).

696. Пра сваволле, якое, згодна з даўнімі звычаямі, дазвалялася моладзі ў купальскую ноч (эдымаць і хаваць вароты, завальваць дзверы ў хату, закрываць комін на страсе і інш.).

697. З даўніх купальскіх павер'яў.

698, 699. Пятроўка — двухтыднёвы пост перад Пятром; спасаўка — двухтыднёвы пост перад «першай прачыстай», або «спажой» (15 жніўня). Да заканчэння спасаўкі ўжо ёсць і новы хлеб, і ўсякая гародніна, і садавіна, таму яна «ласаўка».

700, 701. Да Пятрова дня (29 чэрвеня) заканчвалася пятроўка — пост. Прыказка ужываецца і ў пераносным сэнсе: парада быць цярплівым.

702, 703. Да Пятра рэдка ў каго мелася яшчэ леташняе жыта; новы хлеб пяклі ўжо на Іллю, 20 ліпеня, а найбольш, калі паспявала ярына,— па даўняму народнаму лічэнню часу, «як прышоў спас» (1 жніўня) і «як прышла «гаспажа» (15 жніўня).

705, 706. Пятроўка — другая палавіна чэрвеня, разгар сенакосу. Пасля Пятра на поўдні і захадзе Беларусі пачыналі і жаць.

Пётра і Паўла — 29 чэрвеня.

707. Прыказка-прыкмета на добры ўраджай. Параўнанне з хвашчом (Equisetum arvense), пустазеллем,— па яго знешняму пышнаму выгляду.

708. Машок — мошак.

710. Гаварылі, калі Пятро (гл. заўв. 705) прыпадала на посны дзень у які забаранялася есці малочнае.

711—717. Нагляданні над набліжэннем восені, паступовым ападаннем лісця з дрэў, першыя адзнакі якога заўважаюцца ўжо з канца чэрвеня (Пятрок), затым на Іллю (20 ліпеня), і якое ўзмацняецца і амаль завяршаецца к прачыстым або святка́м (15 жніўня, 8 верасня і 1 кастрычніка).

716. Усе святыя — 7 лістапада.

720—722. Кузьма і Дзямян — тут 1 ліпеня. Гл. заўв. 808.

723. Пракоп — 8 ліпеня, наступаюць спякотныя дні.

724—727. Па народных нагляданнях, у гэты час, пасля Іллі, пачынаюцца дажджы.

728, 729. У гэты час з'яўляюцца першыя, ледзь прыкметныя прадвеснікі восені. Гл. папяр. заўв.

731—733. Гл. заўв. 41.

734—737. Другая палавіна ліпеня — разгар жніва.

736. Прыказка паходзіць з валачобнай песні. Гл.: Богдан., 107.

739, 740. Парада прыступіць да баранавання папару «да Ільі».

Успленне, або першая прачыстая (царк. успенне),—15 жніўня, час сяўбы азімага жыта.

741—743. Ілля і Барыс (Барыса і Глеба, тут дзень 24 ліпеня) — час, калі ўжо ядуць новы хлеб.

743. Гальяш — той жа Ілля.

744. Ляшкі — барозны, грады.

745. Аспажа — першая прачыстая.

Аспожка, або другая прачыстая,—8 верасня.

746. Магдалена — дзень Марыі Магдаліны (22 ліпеня).

748, 751, 752. З прыкмет народнай аграноміі: у гэты час (канец ліпеня) ідзе апрацоўка глебы пад азіміну. Баранісь — ад баранаваць.

Ганны, Ганна — 25 ліпеня.

754—756. На Якуба — па каталіцкаму календару дзень 25 ліпеня (н. ст.).

757. На Сілу — 30 ліпеня.

758. Базыль — па каталіцкаму календару 6 жніўня (н. ст.).

759. Тут Мацей, відаць,— Мацвей, які прыпадае на 8 жніўня.

760—763. Тут пра т. зв. другі, або вялікі спас (царк. праабражэнне), 6 жніўня. Да гэтага часу звычайна паспяваюць ужо яблыкі, і «на спаса», па старому звычаю, іх асвяшчалі, а да таго есці яблыкі лічылася грахом.

764. З народных нагляданняў: адлёт жураўлёў у вырай.

767—769. Сэнс гэтых прыказак раскрывае тая з іх, у якой гаворыцца, што на «прачыстую» поле ўжо «чыстае», убранае, і хлеб есць.

770, 771. Гл. заўв. 699. У гэты час быў ужо новы хлеб, «поўная дзяжа».

«Спажа» (рус. госпожа), назва свята «прачыстай» (багародзіцы) была пашырана больш у беларусаў-католікаў заходніх раёнаў Беларусі. Пар.: італ. madona — мая пані, франц. nôtre dame — наша пані, а таксама бел. пані-матка.

772, 773. Трэці, або малы спас — 16 жніўня. Набліжаецца халоднае надвор'е.

774—776. Баўтрамей (царк. Варфаламей) — 25 жніўня.

777. Тут Іван (царк. «усекновение главы» хрысціцеля Іаана) — 29 жніўня. Другая народная назва свята — галавасек або галаварэз.

778—784. Багач, або другая малая прачыстая,— 8 верасня. Адно з трох галоўных багародніцкіх свят — «прачыстых», замяніўшых, відаць, даўнія земляробчыя святкаванні. З гэтым, магчыма, звязана і назва свята, «бо ў гэты час у сялян усяго багата» (Шейн, III, 173). Неўзабаве заканчваюцца сяўба азіміны і ворыва зябліва.

Рагач — тут: саха.

785—787. Іван Багуслаў (царк. Іаан Багаслоў) — 26 верасня; Пакроў, або трэцяя прачыстая,— 1 кастрычніка. Пачынаўся восеньскі сезон шлюбаў.

788—796. Усталявалася восень, амаль усе работы на полі скончыліся, скаціна перайшла на стойлавае ўтрыманне ў хлеў.

Усюська пахова — усё пахавае, пакрые снегам.

797, 798. К гэтаму часу ўжо відаць вынікі гадавой працы селяніна.

Латры — гультаі (польск. łotr — нягоднік, машэннік).

799. Гл. заўв. 785.

800. На Пранцішка — па каталіцкаму календару дзень 4 кастрычніка (н. ст.).

801. З метэаралагічных назіранняў.

Сяргей — 10 кастрычніка.

802. Марцін — 21 кастрычніка.

Гагата́ — гусі. Да гэтага часу гусі ўжо былі дастаткова тлустыя, і іх везлі на базар прадаваць. Тлумач. збіральніка: к святу Марціна смажаць гусей.

803. На казанскую — царк. святкаванне іконы казанскай божай маці, 22 кастрычніка. Прыпадае на сезон шлюбаў.

804, 805. Змітра (царк. Дзмітрыя Салунскага) — 26 кастрычніка. Прыказкі таксама маюць дачыненне да асенняга сезону шлюбаў. Некаторы час дзяўчына яшчэ «хітруе», «перабірае» жаніхоў, якія засылаюць да яе сватоў.

808. Кузьма-Дзям'ян (царк. Космы і Даміана) — 1 лістапада; час, калі ў харчаванні селяніна пераважала гародніна, тым больш, што хутка надыходзіў пост — піліпаўка. Кузьма і Дзям'ян у беларускіх народных

вераваннях часта ўяўляліся ў адной асобе. Кузьма-Дзям'ян: ён меў непасрэднае дачыненне да вяселляў, «каваў навечна свадзебку», і, як лічыць М. М. Нікольскі, у хрысціянскую эпоху замяніў старажытнага бога шлюбу (Н. М. Никольский. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности. Минск, 1956, стар. 149). Характэрна, што прыказка называе іх беларусамі — «ліцвінамі».

809. Усе святыя — свята, якое адзначалася 7 лістапада.

810. Пракоп — 22 лістапада.

811, 812. Тут — Юр'я-«халодны». Відаць, пра нястачы селяніна сведчылі гэтыя прыказкі, калі восеньскага Юр'ю (26 лістапада ) лічылі пэўным рубяжом, да якога хаця б павінна было ставаць сена і хлеба.

813. Мікола — зімні, 6 снежня.

У гэты час прамярзае зямля і пакрываюцца ільдом рэкі.

815. Андрэй — дзень 30 лістапада. «На Андрэя» дзяўчаты варажылі аб суджаных.

816. Навум — 1 снежня. Тут асэнсавана само імя.

817—819. Варвара — 4 снежня. Маецца на ўвазе, што неўзабаве, пасля зімняга сонцастаяння (21—22 снежня), пачне павялічвацца дзень.

820—822. Гл. заўв. 813.

823—825. Ні да веснавога Міколы, ні да зімняга Міколы яшчэ няма добрай дарогі.

826. На Ганкі, або Ганны — 9 снежня.

827. Марка, Марк — 29 снежня, Варка — Варвара, 4 снежня. Перыяд, калі паступова пачынае большаць дзень, памяншацца ноч.

Магчыма, што Марка тут па катал. календары 25 красавіка н. ст., пасля веснавога раўнадзенства. Тады гэту «парку» можна разумець так, што неўзабаве пасля Варвары ноч толькі пачынае меншаць, а пасля Маркі ноч ужо карацей за дзень і ўсё працягвае карацець, аж да Купалля.

## Сельская гаспадарка

831—835. Пра ляда — адну з найбольш ранніх сістэм земляробства, якая была заснавана на цяжкай працы карчавання ўчасткаў лесу і хмызняку з далейшай іх апрацоўкай і засяваннем.

Першыя дзве прымаўкі маюць і пераносны сэнс. Гавораць пра чалавека, што нагараваўся, сербануў гора.

843—859. З народнай аграноміі. Найбольш шкодным пустазеллем на засеяным полі лічыліся званец (Rhinanthus L.), сівец (Nordus L.) і асот (Sonehus L.), якія часта дашчэнту глушылі сялянскія палеткі. Такія ж травы-пустазелле, як мятліца (Argostis L.), лебяда (Chenopodium L). у неўраджайныя галодныя гады нават не выполваліся, дамешваліся да хлеба. Каткі ж (Trifolium arvense L.) звычайна растуць на папарах, на добрай глебе, дзе густое жыта, і збожжу не шкодзяць. Драсён — пустазелле ў ільне, гарэц льняны (P. linicola).

858. У пераносным сэнсе азначала: ад ліхога, непажаданага, шкадлівага чалавека грамада, калектыў павінны пазбавіцца.

865. Адносна якасці глебы, якая добра родзіць бульбу.

866. Прыказка, узнікшая ў больш позні час.

875—881. Пра адвечнае імкненне селяніна да валодання зямлёй, сваім полем. У класавым грамадстве зямлёй валодае той, у каго сіла. Пар. рус.:

В поле две воли (т. е. чья сильнее); Чья сила, того и воля (Даль, 834—835).

885—888. Праца на зямлі адплоціць. Рагач — ручкі ў сасе.

892, 893. З сялянскай аграноміі, якая раіць сеяць грэчку ў сухі, пагодлівы дзень.

894—922. Вялікая група прыказак, якія вучаць дбайнасці і працавітасці на сялянскай гаспадарцы.

912. Гартай, або артай,— араты; старажытнарус. і бел. слова, якое набыло іншую форму пад уплывам літ. artojas (гл. таксама: З нар. сл., 282).

916. Ніва — поле, добра апрацаванае і падрыхтаванае да сяўбы. «Ніва — не вяліка, ну здаброная; поля многа пасееш, а таво не зародзіць, што ніва» (Добр., Смол., 40).

923—950. З народнай аграноміі. Патрэбнасць угнаення сялянскіх палеткаў асабліва хвалявала беларускага хлебароба. Адсюль і значная колькасць прыказак-павучанняў на гэту тэму.

942. У Федароўскага памылкова «ў гаю».

947. Там жа (в. Тонеж Тураўскага р.) адначасова была запісана казка пра тое, як два селяніны пасеялі жыта. Адзін усё богу маліўся, каб урадзіла поле, а другі гною навазіў на сваё поле. Урэшце, у таго, што маліўся богу, нічога не вырасла, а той, хто добра ўгнаіў сваё поле, сабраў багата хлеба. Адсюль і прыказка.

956—968. Народныя агранамічныя павучанні аб тым, як лепш і калі араць і скародзіць. У першай прыказцы гэтай групы перасцярога: не пераварочваць наверх пясок з-пад ворнага пласта глебы.

Гары — ад гараць, араць поле.

Троіць — ад траіць, араць поле два-тры разы.

969. Крытычнае стаўленне да наваўвядзенняў у сельскай гаспадарцы, якія пачалі з'яўляцца ў канцы XIX — пачатку XX ст.

972—1029. Народныя агранамічныя парады-павучанні пра сяўбу розных культур, як тэрміны і спосабы.

974. Прочкі, проч — намер жонкі або мужа пакінуць сям'ю і вярнуцца да сваіх бацькоў. З галіны сямейнага звычаёвага права.

985. Семачок — авёс, пасеяны на сёмы дзень пасля вялікадня, асьмак — на восьмы дзень.

986, 987. Старыя прыкметы. Сход — сход месяца, пасля поўні.

997. У Дабравольскага памылкова «шэсць». Павінна быць сем дзеў (18 мая).

1008. У свіны голас — позна, са спазненнем («Хацела пайсці ў грыбэ, але заспала, устала ў свіныя галасэ». Мяц., 279, Стаўб.).

1035—1092. Прыказкі і прымаўкі пра касьбу ў час, пра касароў і значэнне сена ў гаспадарцы.

1053. З казкі пра дасціпнага парабка (цыгана) і хціваг гаспадара (папа). Вар. казкі: Бел. народ, 26—27.

1061. Лапатняў набіў — касу лапаціў.

1066. Касі сена дугою — едзь пазычаць сена.

1068. Завонька — лагчына; выпрачаш — апаражнеш (бо ў лагчынах сена благое).

1079. На пацяробах — на выцярэбленым участку зямлі, на навіне.

1081. Сахар — добрае сена (Добр., Смол., 121).

1087. Палотняе сена — сена з выпалатай травы.

Некаторыя з гэтых прыказак (1059, 1060, 1063 і інш.) маюць пераносны сэнс.

1090. У бедных сялян сена было вельмі мала, адсюль такія прыказкі.

1116. Мера, мерня — даўняя адзінка вымярэння сыпучых рэчываў і вадкасцей.

1118. Копка — капа, 60 снапоў.

1122. Па руні яшчэ не падлічыш ураджай.

1124. Пад рок — як да года, не ва ўсе гады роўна.

1133, 1134. Урод — ураджай; уродна — урадліва.

1136. Завозна — тут: ёсць што везці ў млын.

1142. Повалач — дробныя адыходы пасля апрацоўкі льну; малыя рэшткі сена пасля стагавання.

1162—1164. Вол, асабліва на Палессі, доўгі час быў амаль адзінай цяглавай сілай і транспартнай жывёлай.

1163. Саламяны вол — вол, кормлены саломай, слабы.

Сянны, сеняны конь — конь, кормлены сенам (а не аўсом), таксама худы, слабы.

1167—1224. Вялікая колькасць прыказак і прымавак пра каня вынікае з таго выключна важнага значэння, якое меў конь у сялянскай гаспадарцы беларуса. У значнай іх частцы выяўлена заклапочанасць селяніна аб тым, як пракарміць свайго каня.

1176. Лапаюць — ловяць.

1179. Аўсяныя коні — сытыя, кормленыя аўсом.

1187. Аброк — тут: корм каню.

1197. Сэнс: на корм каню даводзіцца аддаць апошняе.

1206. Па змазé — па сіле, па магчымасці.

1207. Скапрыжаны — капрызны, тут: наравісты.

1208. Зацінліваму — упартаму, наравістаму.

1220. Пераносны сэнс Федароўскі тлумачыць як скаргу на бяду, нядолю, асабліва на людскую няўдзячнасць. Аднак у большай ступені гэта датычыць дзяцей у іх адносінах да старых бацькоў.

1223. Прыказка адлюстроўвае пэўныя адносіны паміж людзьмі ў старой вёсцы.

1224. Прыкмета: будуць рады гасцям.

1226—1232. Прыказкі пра пастухоў і пастухоўства.

1233—1243. Гаспадарчыя прыказкі пра пчалярства на Беларусі. Трэба адзначыць, што не захаваліся прыказкі пра старажытнае бортніцтва.

## Промыслы і рамёствы

1244. Народ высока ставіцца да кожнага рамяства і ўмельства, падкрэсліваючы іх важнае значэнне ў жыцці.

1252. Тайстра — кайстра, торбачка.

1256. Дзельнік — майстар, умелец.

1282. Тараваты — тут: кемлівы, умелы.

1283. Заўчэсне — загадзя.

1288—1304. Пра важнасць інструмента, прыладдзя, прыстасавання ў кожнай рабоце, асабліва ў рамёствах.

1304. Тыльца — тыльны бок прылады (напр., абух сякеры); більца — востры бок прылады.

1305—1345. Рыбацкія прыказкі. Відавочна, большасць іх узнікла сярод земляробаў, якія лічылі рыбацтва, таксама як і паляванне, заняткам, што не можа забяспечыць сям'ю хлебам.

1323. Мыслівы — паляўнічы (польск. myśliwiec).
1341. Бабуры — жабіна ікра.
1357. Кпіны з няўдачлівага паляўнічага: пакуль зайца застрэліць, «вала з'есць», «каня паложыць».
1379—1393. Пра кавальства. Гэта рамяство ў беларускай вёсцы, як падкрэсліваюць прыказкі, было асабліва паважным, бо было вельмі патрэбным селяніну і апрача таго прыносіла кавалю добры прыбытак.
1381. Узімку кавалю даводзіцца асабліва многа падкоўваць коней.
1394—1401. Пра цяслярства і іншыя рамёствы, звязаныя з апрацоўкай дрэва.
1394. Клін і мох дапамагаюць прыганяць бярвенні ў зрубе.
1398. Сітнік — той, хто вырабляе сіты; бёрнік — берднік, той, хто вырабляе бёрды для кроснаў.
1401. У луцце — у лес драць лыка.
1406—1420. Пра даўняе хатняе прадзенне і ткацтва.
1408. Ранняй вясной яшчэ ноч дастаткова доўгая, каб прасці.
1411. Калі не ўправілася напрасці ў зімовыя вечары, даводзіцца гэтым займацца пазней, разам з іншымі пільнымі работамі ў гаспадарцы.
1412. Прыкмета-табу. Не забуляйся — не забаўляйся.
1413. Сарасенка — збіральнік не тлумачыць слова. Магчыма, забытая адзінка вымярэння колькасці лёну.
1414. З-за кроснаў не прайсці па хаце.
1418. Федароўскі бачыць пераносны сэнс прыказкі ў тым, што «благая жонка або няздатны слуга пад умелай рукой гаспадара хутка пачынаюць варушыцца».
1420. Міколіць — святкаваць Міколу; марколіць — маркоціцца; партоліць — шыць.
1422—1438. Пра кравецкае рамяство, якое забяспечвала сям'і бязбеднае існаванне.
1426. Штых — шывок, асобная, найдрабнейшая частка шва.
1431. Кеп — дурань (польск. kiep).
1447—1452. Пра млынарства. Большасць іх з пераносным сэнсам.
1456—1466. Народныя прыказкі ставяць музыку ў адзін рад з паляўнічым і рыбаком — усе яны «не гаспадары».

## Праца

1477. За долю — за частку ўраджая, адпрацоўваючы і засяваючы чужое поле (пар.: здольніцтва).
1490а. Гарус — арэ.
1493. Гуптаць — таптаць, завіхацца, тут: працаваць; хруптаць — хрумстаць, есці.
1497в, г. Каляцы, акуляцы — тут, відаць, вячэра (польск. kolacja).
1571. Букі — другая літара старажытнарускага алфавіта, тут: кніга, грамата, адукацыя.
1572. Нябожа — тут: бядняк.
1573. Занехіваць — пакідаць без нагляду.
1622. Плаца — плата, вынікі.
1628. Г. эн. рана кладзецца спаць, а позна ўстае.

1629. У свіныя галасы — позна. Як кормяць свінні, то яны тады толькі пачынаюць вішчаць, пазней у параўнанні з іншай свойскай жывёлай. Гл. таксама заўв. 1008.

1648. Зацінь — удар тапаром па дрэву, бервяну. Маецца на ўвазе першы «зацінь», пачатак.

1670. Шабас — субота (яўр.), тут: адпачынак.

1687. Пашыраны традыцыйны выраз многіх чарадзейных казак, які зрабіўся прыказкай.

1692. Федароўскі чамусьці лічыць, што гэта пра зладзейства.

1702. Бордза — хутка.

## МАТЭРЫЯЛЬНЫ БЫТ

### Гаспадарлівасць. Сялянская сядзіба

11а. Не хацáе — не хоча, не стараецца.

12. Гаспадарка патрабуе безупынных клопатаў, дбайнасці.

Амбарас (польск. ambaras) — клопаты, турботы ў гаспадарцы, лішняя работа (Бяльк., 52).

17—24. Недагляд у гаспадарцы прыводзіць да страт, недабору.

Ворак (польск. worek) — мех, мяшок.

33. Крыха — крошка; горба — гурба, многа.

51. Кара — тут: скарынка.

53—63. Пра гаспадарлівую беражлівасць. Да назапашвання «на чорны дзень» селяніна вымушала неабходнасць — частыя недарод, нястача, няўпэўненасць у будучыні.

64—66. Пра гаспадарлівую руплівасць. Маюць і класавы сэнс.

76. Падвор'е — гаспадарка, двор, сядзіба.

83—87. Гавораць да таго, хто спяшаецца дадому.

93—105. Незласлівая насмешка са сваёй жа беднасці.

93. Вашэць — форма звароту: ваша мосць (ваша міласць), ягомасць. Была характэрна больш для шляхецкага асяроддзя, таму ў сялян такі зварот набываў іранічнае адценне.

98, 99, 105, 106. Клетка — тут: клець.

108. Пра чалавека бяздзейнага.

113. Гудзяць — абгаворваюць.

117—130. Пра значэнне скаціны ў сялянскай гаспадарцы. Адначасова падкрэсліваюцца і тыя вялікія клопаты, якія звязаны з утрыманнем жывёлы, і той непазбежны «ўпадак», г. зн. страты, выдаткі, якія яна часта прыносіць селяніну (кармы, падзеж і г. д.). Упады — клопаты (Бяльк., 460).

120. Прыпадак — тое ж, што ўпадак.

125. Паўціна — манета ў паўрубля (рус. полтинник).

131—147. Пра хатнюю птушку і яе месца ў сялянскай гаспадарцы. Аднак без іншай жывёлы птушка — адзнака беднасці. Большасць прыказак пра хатнюю птушку стасуецца да многіх жыццёвых сітуацый, аналагічных тым, што адзначаны ў прыказках. Напр., 137: гаварылі пра таго, хто жабраваў.

146. Прыкмета-павер'е.

148—155. У параўнанні з іншай свойскай жывёлай каза ў беларускай вёсцы была не вельмі пашырана. Яна лічылася «бядняцкай каровай», была

адзнакай крайняй беднасці. Таму ў прыказках і прымаўках пра казу яўна праглядвае іронія.

157—169. Сялянскі двор без цяглавай сілы — вала ці каня — і без каровы належаў да самых незаможных, бядняцкіх. І тут, як і ў іншых народных творах пра беднасць, праглядвае іронія, жарт, нібы смех скрозь слёзы.

170—208. Карова побач з канём ці валом займала асноўнае месца сярод свойскай жывёлы беларускага селяніна. Яна была карміцелькай сям'і, асабліва дзяцей, яна ж давала ўгнаенне, так патрэбнае сялянскім палеткам. Таму пра карову складзена многа прыказак і прымавак. У іх падкрэсліваецца значэнне каровы для селяніна, яны раяць, як выбіраць і купляць карову, даглядаць яе, расказваюць пра турботы і беды з кормам, адлюстроўваюць народныя веды пра гэту жывёлу, яе паводзіны і патрэбы.

172. Па ведаму — тут: ведаючы ў каго.

174. Пазорная — прыгожая на выгляд.

194. Жывіна́ — жывёла; мэнчыцца — мучыцца (ад польск. męka — мука), тут: клапоціцца; рэнчыцца — даецца ў руку (ад польск. ręka — рука), тут: дае карысць.

1976. Ужываецца і ў пераносным сэнсе: не глядзі на грошы, але на рэч (Fed., 318).

200. Уняласся — зменшылася.

204. Хібіць — нестае.

207. Значыцца — пра стан каровы на апошняй стадыі цельнасці.

209—210. Першае цяля ў каровы звычайна не пакідаюць на гадоўлю.

224. Мышастая — масць каня (шэрая), тут: конь, кабыла.

225—249. Не менш, чым пра карову, прыказак і прымавак пра свінню. Тлумачыцца гэта тым месцам, якое займала свініна ў ежы селяніна. Свіння давала найбольш спажыўныя прадукты харчавання — мяса і сала, традыцыйныя для нацыянальнай кухні беларуса. Прыказкі адзначаюць заганныя прывычкі свінні, неабходнасць сачыць, каб яна не ішла ў шкоду на агарод, на поле. Прыказкі і прымаўкі пра свінню асабліва часта маюць пераносны сэнс, у якім лёгка ўлавіць намёк на адпаведныя непрыстойныя паводзіны чалавека.

241. У Дабравольскага пад рубрыкай «Уважлівасць. Умеласць».

246. Палудня не знаець — не ведае ні часу, ні меры ў ядзе; не знае пятніцы — не пераборлівы ў ядзе (пятніца раней — посны дзень).

248. Пятроўка — гл. заўв. І. 698.

250. Пра карысць ад авечкі ў сялянскай гаспадарцы. Яна давала ўсё патрэбнае чалавеку: мяса для ежы, шэрсць і аўчыну для адзення.

251—293. Пра дамовага сабаку. Сабака чуйна вартуе двор і хату селяніна, яго маёмасць, папярэджвае сваіх гаспадароў аб прыходзе чужога чалавека, чуе ваўка і г. д. Значэнне сабакі ў сялянскай гаспадарцы, такім чынам, не малое. Таму і прыказак пра яго складзена таксама многа. У іх выражан вопыт утрымання сабакі, парады на гэты конт, адзначаны яго прывычкі, адметныя якасці. Як і ў іншых тэматычных групах, і тут у прыказках пераносны сэнс датычыць чалавека і жыццёвых выпадкаў.

253. Чэп — тут: ланцуг. «Чэп — зашчапка, завала на вароты, на клець» (Бяльк., 494).

269. Брох — брэх. У Дабравольскага ў рубрыцы «Сям'я — адзін».

279. Тлумач. Насовіча: «Пра таго, хто абяцанняў не выконвае, пачатай справы не канчае, лянуецца і г. д.» (Нос., 99).

295—314. Зусім іншага зместу прыказкі і прымаўкі пра ката. У параўнанні з сабакам, у ката, які жыве ў хаце, у цяпле, «жытка не аднака». Прыказкі знаходзяць і тут аналогіі ў паводзінах і характары чалавека.

304. Нагадвае загадку.

308, 309. Збройная, збродлівая — шкадлівая.

## Хата. Хатняе абсталяванне і начынне

315—323. Замілаванне сваім уласным жыллём, адной з першых неабходных умоў існавання чалавека, якое выражана ў прыказках, амаль пазбаўлена ўскоснага сэнсу.

325—337. Няма горай бяды, як не мець сваёй хаты. А такіх бяздомных, што туляліся па чужых кутках, у старой беларускай вёсцы было нямала. Вось пра гэта і складзена многа прыказак і прымавак.

327. Прыток — прытулак. Даль, Слов., 519: Прытон (ад прыткнуцца або прытнуцца), прыстанішча, прыбежышча, прытулак, сховішча, прыстань.

329. Лом — тут: ламачча, г. зн. няма дома.

337. Шчурка — мышка.

346. Трохсценка — трысцен, сенцы, прыбудаваныя да хаты.

347—360. Пра халодную і наогул благую хату — цесную, цёмную, з дзіравай страхой і г. д.

356. Падруб — ніжні вянок зрубу, наруб — насечка, але тут, відаць, верхні вянок.

358. Пахно — смурод.

360. Пра начлег пад адкрытым небам (Добр., Смол., 114).

363—388. Пра печ і цяпло ў хаце. Печ — важнейшы элемент інтэр'ера старой сялянскай хаты. Функцыі яе былі вельмі важнымі: печ служыла для абагравання жылля, выпякання хлеба, гатавання ежы для сям'і і корму для жывёлы; чарэнь з'яўляўся яшчэ спальным месцам; на ім таксама сушылі збожжа, ягады і г. д. Апрача ўсяго печ па даўніх пераканаканнях была святым месцам у хаце («Сказаў бы, ды печ у хаце»), месцам жыхарства дамавіка, пры ёй выконваліся розныя абрады. Таму ў прыказках печы аддадзена значная ўвага.

385. Куравая хатка — курная, чорная хата, без коміна.

389—390. У няхітрым абсталяванні старой сялянскай хаты важную ролю адыгрывалі і лавы. Але тут пераносны сэнс: там ён знаходзіцца ўвесь час, «днюе і начуе».

394. Завала — тут: хлам, старызна, тое, што ўжо не патрэбна.

401—418. Прыказкі пра хатнія прылады, начынне і посуд часта змяшчаюць асацыятыўны змест.

410. Кармачык — кішэнны ножык.

411. Прыкмета-павер'е.

419—429. Прыказкі і прымаўкі пра санітарна-гігіенічны стан старой сялянскай хаты. Многія з пераносным сэнсам.

419. Руда — гразь. (У суседа ў хаце столькі руды, што ўвайсці страшна. Бяльк., 391).

421. Пераввяршыла — перасіліла, адолела.

423—425, 429. Гавораць пра гаспадыню, што не мяце хату.

426. Прыкмета-забабоны.

## Харчаванне

430—533. Сістэматычнае недаяданне, голад з-за частых неўрадлівых гадоў былі пастаяннымі спадарожнікамі большасці сялянства дарэвалюцыйнай Беларусі. Аб гэтым красамоўна і расказваюць шматлікія прыказкі і прымаўкі.

433. Д з я д з і н а — жонка дзядзькі, цётка.

457. З а в е р т а — вяроўка або раменьчык для прывязі аглабель да капыла ў санках. Гл.: Бяльк., 73 (заверт). Пар. рус.: Голодный волк и завертки рвет (Даль, 804).

488. А н і п ы к — няма табакі, няма чаго закурыць, чым зацягнуцца.

497. Прымаўка з'яўляецца радкамі з вяснянкі, у якой спяваецца пра веснавую бясхлебіцу і бяскорміцу (гл.: Богдан., 103).

499. А ц і — есці (з дзіцячай лексікі).

507. У м е с ц е — у горадзе.

508. У р о с с ы ц ь — дасыта.

509. Н і с п і ц ь — тут: не выпіць.

533. М ы ч ы ц ц а — мільгаць, мільгацець.

534—555. Крупы спрадвеку належалі да важнейшых прадуктаў харчавання беларускага селяніна. З круп гатавалі крупнікі, крупені і розныя кашы, традыцыйныя нацыянальныя стравы, без якіх не абыходзіўся сялянскі стол. Недахоп круп пазбаўляў сям'ю важнай крыніцы харчавання. Гэта адзначаюць і прыказкі.

536. П у с т а к а ш а — посная, без заправы.

544—547. Кашай звычайна заканчваўся сялянскі абед. Каша была таксама апошняй стравай за абрадавым сталом — «бабіна каша» на хрэсьбінах (пасля яе госці пачыналі разыходзіцца), куцця на каляды, на памінках, на дзяды.

552—554. Гавораць, калі рэдкі крупнік, мала ў ім крупы.

569. У галодны, неўрадлівы год выдаткоўваюць усё раней назапашанае ў гаспадарцы.

573—580. Усё пра тую ж нястачу ў ежы. Часамі даводзілася адбыць адной вадой.

583—586. Яйкі, важны спажыўны прадукт, у харчаванні селяніна займалі зусім нязначнае месца. Пераважна іх везлі на базар прадаваць для пакрыцця бягучых грашовых выдаткаў сям'і. Самі сяляне спажывалі яйкі галоўным чынам у свята, частавалі яечняй гасцей, сватоў. Таму ў прыказкавых творах пра яйкі выразна адчуваецца іронія і амаль усе яны з пераносным сэнсам.

586. К о к а — яйцо. З дзіцячай лексікі.

590. Ужываецца і як традыцыйная канцоўка чарадзейных казак.

593. Прымаўка-забарона, вынікае са старажытнага пераканання ў магічную сувязь прычыны і выніку (гладкі таўкач — лысіна).

594. Аналагічна прыказцы «У сямі нянек дзіця без носу».

601. К р у к — тут: крумкач, воран.

604. Гл. таксама тэкст VI. 872.

605. П у т р а — тут: каша (з латышск.).

619—762. Сярод прыказак і прымавак, якія датычаць ежы, пра хлеб больш за ўсё. І гэта зразумела: хлеб — аснова асноў харчавання.

626. П а с к о н н а я с а р о ч к а, п а с к а н і н к а — зрэбная, грубая, даматканая сарочка з канаплі.

627—629. Пухната, пушынка, пушнінка — пушны хлеб, г. зн. спечаны не з чыстай і прасеянай жытняй мукі, а з мякінай і рознымі дамешкамі.

631. Асцюлькі — асцюкі (вусікі на абалонцы зерня), якіх таксама было нямала ў хлебе з непрасеенай мукі.

635. Прыгаворка да таго, хто ўздыхнуў ад стомленасці (заўв. збіральніка). Пух — гл. заўв. 627. Мякіна — мякінны хлеб. Гэты «жаласны хлеб складаўся з большай палавіны то аўсянай, то ячнай, то пшанічнай мякіны, якая перамолвалася разам з жытнім зернем, у больш жа бядотных выпадках тут бывала так мала жыта, што яно служыла лібы клеем для змацавання мякінных часцінак» (Н. Я. Никифоровский. Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии. Витебск, 1895, стар. 6).

638. Папа — хлеб (з дзіцячай лексікі).

673а. Ва́дзіць — шкодзіць.

689. З свіннёй — тут: з салам, саланінай.

694. Адварот — зусім малая колькасць, жменька мукі, якой хапае толькі на заправу, «закалот» якой-небудзь вадкай стравы.

705. Запараха — запараная мякіна на корм карове.

707. Ашчандзаўся — эканоміў, быў ашчадны, бярог (ад ашчаднасць).

720. Заўв. збіральніка: «Настаўлечне жыць умеркавана, а таксама не высоўвацца з лішнімі выдаткамі» (Нос., 127).

727. Перапечы — тоўстыя бліны або булачкі з хлебнага цеста.

728. Старанамі — засекамі ў гумне, дзе складвалася збожжа.

729. Укрой — нарэзванне хлеба (ад кроіць хлеб).

730—738. Насмешкі з гаспадыні, якая спякла няўдалы хлеб, з закальцам, і яе трапныя адказы на гэта.

732. У пераносным сэнсе: вонкавы выгляд абманлівы.

738. Цяслявы — з заганай, з закальцам.

756. Жвеш — жуеш.

764—770. Блін — традыцыйная ежа беларусаў, даўні памочнік хлеба. Не дзіўна, што ў вобразнай асацыятыўнасці беларускіх прыказак фігуруе і блін.

770. Пераносны сэнс: пра няўдалую спробу, пачатак чаго-небудзь.

771—776. З павелічэннем плошчаў пасадкі бульбы, асабліва з другой палавіны XIX ст., яна становіцца «другім хлебам» у харчовым рацыёне беларускага селяніна. Гэту ролю бульбы і адзначаюць прыказкі.

777—808. Галодны чалавек не пераборлівы ў ежы. Такіх прыказак і прымавак многа, яны дапаўняюць агульную карціну нястачы ў харчаванні дарэвалюцыйнай вёскі.

778. Рыдз — грыб рыжык (польск. rydz).

781. Ні з чым — посны, без закрасы.

786. Пра нясмачную, кіслую, перасоленую страву.

792. Мацко — адна з форм асабовага мужч. імя Мацвей.

795—797. Ужываюцца шырока ў пераносным сэнсе.

799. Пячэня — тушанае або смажанае мяса.

809—823. Капуста і буракі — таксама традыцыйная ежа селяніна, неад'емная частка яго харчавання. Увесь асенне-зімні сезон сялянскі абед не абыходзіўся без вадкіх (першых) страў з гэтай гародніны, якая і дала ім назвы капуста (рус. щи) і буракі (рус. борщ). З іншай гародніны на сялянскім стале заўсёды агуркі. Іх салілі і назапашвалі на зіму. Таму з'яўленне ў прыказках і гэтай гародніны невыпадковае.

825—836. Адзначаецца, што малако і наогул малочная яда — «да парогу хада», г. зн. недастатковая для селяніна, занятага цяжкай фізічнай працай. Большая павага да масла, якое аднак, не часта бывала на сялянскім стале.

837—870. Спажыўнасць і смак варанай ежы, як адзначаюць прыказкі, дае толькі добрая п р ы п р а в а, п а п р а ў к а, з а т р а в а, з а п р а в а, п р ы к р а с а. Найлепшай прыправай былі свініна («сланіна») і сала. Толькі яны, лічыў народ, надаюць чалавеку сілу для цяжкай працы (асабліва касьбы). Аднак сланіна, наогул мяса і сала ў большасці дарэвалюцыйнага сялянства не маглі быць штодзённай ежай. Гэтыя прадукты, калі яны былі, выдаткоўвалі вельмі ашчадна, іх спажывалі пераважна ў святочныя дні, прыхоўвалі на час летніх палявых работ. У цяперашні час з ростам матэрыяльнага дабрабыту калгаснага сялянства карэнным чынам палепшылася яго харчаванне. З запісаў са Стаўбцоўскага р. апошніх год: «Цяпер не жадны салу. Бачыш, у вас на бяседзі ўсё стаіць: і сало, і мясо, і катлеты, а два талежыкі (сподачкі) капусты пашлі як за сябе. Ціпер вітаміны падавай, людзі разбірацца сталі» (Мяц., 310). На прыправы ішлі таксама здор — унутраное свіное сала, каўбасы, часам баранні або ялавіны лой, зрэдку гусіны шмалец.

837, 838. П а т р а в а, п а т р а ў к а — страва.

847в. Н а к р о й — нарэж.

848. Л і н і н к а — мяса рыбы ліня.

857. Пар. 729.

860. Насмешка з самахвала (заўв. збіральніка).

871—887. Пра людзей багатых, заможных, якія жылі ў поўным дастатку, і ежы не бракавала ў іх.

883. Ц я ч э, с ц я ч э, с ц ё к — аб харчовых прадуктах: дастатак.

887. Насовіч бачыць тут такі пераносны сэнс: пры добрым старанні або сродках поспех верны (Нос., 63).

888—932. Мара хоць раз наесціся дасыта. Таксама пра абжорства.

908. З в я р ц я д л а — люстэрка (польск. zwierciadło).

923. Н а ў д а — навіна, дзіва.

940—941. Не трэба меркаваць па вонкаваму выгляду.

У з р а ч н а — прыгожа (Бяльк., 456).

942. Л а з а н к і — ласункі.

946—954. З напіткаў найбольш пашыраным быў квас (хлебны, бярозавы), менш — піва (дамашняе). Чай (гарбату) да рэвалюцыі на беларускай вёсцы мала ўжывалі. Тут амаль усе прыказкі маюць асацыятыўны пераносны сэнс.

957. Г о д ы — тут: поўна, перанасычана; г л о д ы — голад.

974—990. Гэтыя жарты за сталом у час яды адрасаваны як гаспадыні, так і застольнікам. І тут у многіх пераносны сэнс.

986. П е р а м і р а е ц ь — абмірае, траціць прытомнасць.

991—1028. Абед, вячэра, парадак за сталом.

1008. З э г а р — гадзіннік (польск. zegar): н е з г а ж а е ц ц а — не згаджаецца, не мірыцца.

1010, 1011. Дзеля эканоміі за абедам існавала няпісанае правіла: на кожныя тры (і нават больш) лыжкі вадкай ежы — адзін укус хлеба, бліна.

1020. Парадак абеду за сталом — з адной міскі. Ёсць і падобныя загадкі. (Гл.: Загадкі. Мінск, 1972, стар. 245—246, № 2064—1073).

К у ц а б а — качарга (укр. коцюба).

1021. Прыкмета-павер'е.

1030. Вэдлуг — па, паводле (польск. według).

1037—1085. Пра недахоп адзення. Змяшчаюць незласлівую насмешку са сваёй уласнай галечы, латанай адзежы, падранага абутку. Частка прыказак ужываецца ў пераносным сэнсе.

1043. Кубел — кадушка з клёпак і з векам, у якой захоўвалі адзенне, сала.

1044. Сапуха — сажа (Сцяшк., 438).

1060. Заўв. збіральніка: «Па лыкаваму абутку (лапцях) не мяркуй пра чалавека і яго розум» (Нос., 74).

1063. Пас — раменны пояс.

1066. Заўв. Федароўскага: «Касцёл руйнуе, а званіцу будуе». Але гэта можна лічыць толькі адным з выпадкаў выкарыстання прыказкі ва ўскосным сэнсе.

1067б. Гавеча — з аўчыны.

1076. Пуцнёю — путам, вяроўкай.

1080—1082. Можна тлумачыць і як асуджэнне неахайнасці.

1083. Свёнткі — святы (польск. świątki); пёнткі — пятніцы (польск. piątki).

1087. Годнае — тут: ніводнай.

1093—1101. Пра традыцыйную цёплую зімовую адзежу беларускага селяніна — кажух з аўчыны і сярмягу саматканага грубага сукна.

1102—1105. Усе яны маюць пераносны сэнс: свае інтарэсы, свая радня — у першую чаргу.

1106—1109. Праз разважанні пра адзежу тут праяўляецца высокая чалавечая годнасць.

1109. Шаты — багатае, пышнае адзенне з дарагіх заморскіх тканін і аздоб.

1112. Насоў — верхняе адзенне з саматканага палатна. Быў пашыраны найбольш на поўначы Мінскай і ў Віцебскай губ.

1113. Бурнос — від верхняга адзення, накшталт плашча. Адзявалі на кажух, каб зберагчы яго. «Даўней бурнос накладалі на кажух» (Сцяшк., 63, Лід.).

1116. Стан — у кроі кашулі або іншага верхняга адзення асноўная яе частка без рукавоў.

1119—1131. Адзенне, хоць і саматканае, дорага абыходзілася селяніну. Адзення неставала. Гэта і нарадзіла прыказкі, якія вучылі беражлівасці ў адзенні.

1122. Пасканінка — гл. заўв. 626; алянінка — адзенне з ільнянога палатна.

1126. Сак — кароткая жаночая куртка-пальто (фр. sac); шыўся часцей з плюшу ці аксаміту.

1133. Жарт з таго, хто загневаўся. Красная шапка — адзнака салдата. Пар.: Даль, 250: отдали под красную шапку (забралі ў рэкруты).

1143. Аздобы часам даражэй за самую рэч. Апуха — абшыванне футрам.

1144—1157. Прыказкі выяўляюць маёмасныя адрозненні ў адзенні, насмяхаюцца з шляхты, якая любіла вызначыць сябе асобай вопраткай і галаўным уборам.

1153. Чухлявацы — чысціць, наводзіць бляск.

1154. В а т а — тут: цёплае зімовае адзенне на ваце, якое супрацьпастаўляецца кажуху.
1164. Ш а т к і — тут: слаба грэюць.

## Транспартныя сродкі і шляхі зносін. У дарозе

1171. Спраўны гаспадар павінен усё прадугледзець.
1179, 1180. Звычайна гаворыцца ў адказ на пануканне.
1184. Тлумач. збіральніка: насмешлівае адмаўленне няслушных прычын ці доказаў (Нос., 95).
1185. Пра няўдачы.
1187—1227. Пра значэнне і стан дарог, пра даўнейшы дарожны быт.
1209—1212. Прыкметы-павер'і. Другая прыказка звязана з даўнім павер'ем пра шчаслівыя і нешчаслівыя дні. Сярод апошніх асноўнае месца займаў панядзелак.
1222. Ужываецца і ў іншым сэнсе (напр., пра сватоў).
1228—1241. Лепш больш дальняя дарога, ды верная, чым карацейшая, але няторная, а то і небяспечная, дзе можна заблудзіцца або загрузнуць у балоце.
1229—1231. Н а ц я н ь к і, а б'е з д к а м і — напрасцяк.
1235. Х т о п р а с ц і к у е, п р а с т у е, п р а м у е, н а п р а с ц е н ь — гл. папяр. заўв.
1236. Заўв. Федароўскага: Таму адпачывае на ўласнай падушцы, што не шукаў новай простай дарогі.
1243. З і р а ц ь — відаць.
1244—1248. Пытаючыся, хутчэй даведаешся і ў дарозе не будзеш блудзіць.
1250—1261. Пра вазака, пераважна асуджальныя або насмешлівыя.
1259. Л ы ч а н а я, л ы ч н а я, л ы ш н я я — з лыка.
1260. У к а г о п у г і н я м а — «значыць няма скаціны, няма гаспадаркі. няма чаго выганяць, значыць шчасце не смяецца чалавеку» (Янк. М., 22).
1261—1271. Ужываецца шырока і ў пераносным сэнсе.
1277. Аднаму, без спадарожнікаў, дарога здаецца даўжэйшай.
1305. В і ц і н а — вялікая лодка для перавозкі грузаў.

## ГРАМАДСКАЕ ЖЫЦЦЕ

### Радзіма. Чужына

10. Паводле даўніх народных вераванняў, пупавіна закопвалася блізка каля дому, у якім нарадзіўся чалавек.
17. С п р а т к а — прытулак.
21. Д а м о ў к а — родны дом, свая хата.
31. Ш м а р а в а ц ь — тут: брудзіць.
47. В о ч ы п а к у л а к у — распухлі ад плачу.
49. Ч у ж б і н а — можа азначаць таксама: чужое, чужая маёмасць.
67. Х у д а б і н а — худоба, скаціна.

## Кароль, цар. Паны, падпанкі, шляхта. Прыгон, мужыкі

102. Такую прыказку выкарыстаў У. І. Ленін у артыкуле «Унутранні агляд» (1901). Там ён пісаў «пра бясчынствы ніжэйшай паліцыі, якая занадта цвёрда помніць, што да бога высока, да цара далёка» (В. И. Ленин. Полн. собр. соч., т. 5, стар. 337).

Трэба меркаваць, што прыказкі пра караля ўзніклі раней, яшчэ ў часы Рэчы Паспалітай, а пра цара — пазней, пасля ўз'яднання Беларусі з Расіяй (1772—1795 гг.).

Кроль, круль — паланізаванае кароль.

105. На скапец — на пахаванне.

110. Любуе — любіць.

111. На прожку — на парожку.

121. Ад брэгу да брэгу — ад берага да берага, тут: «ад можа да можа» (ад мора да мора) — пра імкненне польскіх магнатаў адрадзіць Рэч Паспалітую ў даўніх захопніцкіх межах 1772 г.: ад Балтыйскага да Чорнага мораў.

128, 132. Гл. таксама 503, 575 (пра папа).

139. Пані Стоцкая — памешчыца на Беларусі першай палавіны XIX ст., якая пакінула па сабе ліхую памяць сваімі дзікімі катаваннямі прыгонных сялянак. Імя гэтай беларускай Салтычыхі зрабілася назоўным для любой лютай, бязлітаснай пані. Гл.: Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі, т. II. Мінск, 1940, стар. 191—198.

144. Нігдачкі — ніколі (памянш. ад польск. nigdy).

151. Гл. таксама 102.

167. Відаць, водгук на паўстанне 1863 года.

177. Крам — куплёная, не саматканая тканіна.

178. Разбярэцца — тут: распранецца.

180. Гл. 604 (пра папа).

185. Маецца на ўвазе карыстанне насоўкай, насавой хустачкай. Могуць быць і падобныя загадкі.

188. Будан — тут: панскі дом, палац.

189. Хатомка — торба.

204. Прымаўка паходзіць ад вядомай казкі. Гл.: Шейн, стар. 213—217.

209а. Тучыць — сыціць.

229. Асміна — даўняя мера сыпкіх рэчываў, роўная 3 пудам 10 фунтам.

245. Шымша — асабовае мужч. імя (яўр.). Маецца на ўвазе, відаць, карчмар.

265. Стопасечны — тут, відаць, багаты, што мае сто пасек.

267. Насмешка, параўнанне з сабакам.

269. Асовы — асінавы.

292. Ахмістрыня — аканомка ў панскім доме, якая загадвала кухняй і выдаткаваннем прадуктаў.

297. Садомію рабіць — тут: грашыць.

303. Цівун — асоба з панскай адміністрацыі на вёсцы, распарадчык гаспадаркі панскага маёнтка.

305—320. Пераважная большасць прыказак і прымавак пра шляхту насмешлівага характару. Асабліва яны кпяць са знешняй напышлівасці і фанабэрыстасці шляхты, з яе імкнення адметнай адзежай і манерамі вызначыць сябе ад «мужыкоў».

309а. Свінух — свінушнік, свіны хлеў.

310. Вяроўкай рэжа — дакладна адмервае, г. зн. скупы.

316. Крупеннік — той, хто харчуецца крупеняй, скнара. Так сяляне звалі шляхту (Нос., Слов., 254). Не відаўся — відаць, памылкова; трэба — навідаўся.

350. Згодзім — тут: аддадзім.

351. Альбрэстава, Альбярстоў — трэба меркаваць, Альбрэхтава ў Расонскім р. Віцебскай вобл., дзе некалі быў езуіцкі манастыр, у якім асабліва жорстка абыходзіліся з прыгоннымі сялянамі.

353. Кашок — кош, сплецены з лагы кузаў, скрыня па возе для перавозкі гародніны, бульбы.

354—356. Пра сваволле паноў у адносінах да жанчын, сваіх падданых.

357. Ванчосы — дубовыя брусы, якія вывозіліся ў Рыгу для будавання караблёў.

365. Казна — тут: грошы.

397. Грыцкі, Грыневічы, Грыцэвічы — відаць, назвы панскіх вёсак.

406, 407. Бабровыя ўгоддзі і гоны былі ўласнасцю пана-прыгонніка. За забойства бабра селяніна сурова каралі.

411. Прыгана — прычына, шкода, загана.

412. Уцечкі — уцёкі.

419. На асенняга Юр'я (26 лістапада) дазвалялася прыгоннаму селяніну пераходзіць ад аднаго пана да другога. Калі гэты парадак быў скасаваны, і з'явілася прымаўка.

420—446. Прыказкі, якія ўзніклі пасля скасавання прыгону. У іх сяляне па-свойму ацэньвалі значэнне і вынікі рэформы 1861 г.

420. Падданьства — прыгон.

427. Рокі — тут: часы.

430. Бяспаншчына — становішча пасля скасавання паншчыны.

441. Непрымушана — без прымусу.

447—479. Прыказкі і прымаўкі пра селяніна, пра ўсведамленне «мужыком» сваёй чалавечай годнасці, сілы, праўды, розуму, супрацьстаўленне сябе пану.

456—458. Панскі розум, панская мудрасць — тут: адукаванасць.

468. Аплаткі — просвіры (ад. грэч. prosphora — прынашэнне), спецыяльнае круглае пячэнне, якое ўжываецца ў царкоўным богаслужэнні.

480—490. Прыказкі і прымаўкі, частка якіх магла ўзнікнуць у чужым, не сялянскім асяроддзі (сярод шляхты, панства, местачковага люду). Насуперак прыведзеным вышэй прыказкам гэтыя з пэўнай пагардай ставяцца да простага селяніна.

484а. Шэсьдзённік — шэсцьдзённік, г. зн. прыгонны селянін, які рабіў на пана шэсць дзён на тыдзень, а толькі ў нядзелю на сябе.

486. Капа — грашовая адзінка ў Вялікім княстве Літоўскім, роўная 60 грошам. У народным быце капа наогул лік па 60 адзінак.

## Поп. Ксёндз. Царкоўныя служкі

515. Боб — тут: плата.

519. Палатна свой — сувой, скрутак.

532. Гадуе — тут: корміць.

534. Трэбнік — царкоўная кніга, па якой святар творыць абрады.

537. Клябаня — плябанія, сядзіба ксяндза.
543. Гудзіць — лаяць, абгаворваць.
554а. Парахвія — парафія, прыход, акруга, якую абслугоўвае адзін свяшчэннік; ніжэйшае звяно царкоўнай арганізацыі.
557. Пацеры — тут: малітвы.
602. Бароніць — тут: забараняе.
605, 606. Уладыка — архірэй, вышэйшы царкоўны чын.
624. Намёк на непрыстойныя паводзіны пападдзі.
626. Альвар — пачатковы падручнік лацінскай мовы, складзены езуітам Альварасам (Нос., Слов., 5).
631. Плеш — маецца на ўвазе танзура ў ксяндза (лац. tonsura — стрыжка), выгалены кружок на макаўцы, знак прыналежнасці да каталіцкага духавенства.
643. Паланамар — панамар (грэч. paramonarios — паслугач), царкоўны дзячок.
645. Алтарысты — касцельны служка.
652. Гл. таксама 560.

## Чыноўніцтва. Начальства. Казна. Падаткі. Хабарніцтва

653. Ваявода — правіцель, дзяржаўца пэўнай адміністрацыйнай адзінкі (воласці, павета) Вялікага княства Літоўскага. У Стараж. Русі — галава горада.
654. Камісар — з часоў Вялікага княства Літоўскага ўрадавая асоба, якая выконвала тое або іншае дзяржаўнае даручэнне.
655. Стан — тут: паліцэйскі павятовы ўчастак; пры стаў — паліцэйскі чын, вышэй за яго па чыну быў спраўнік.
657. Станавы — начальнік стану, паліцэйскі чын; міравы — суддзя па дробных справах.
658. Цітул, тытул — ганаровае званне, называнне па чыну, годнасці.
659. Столак — лаўка, услончык.
663. Пры пераважаючай непісьменнасці дарэвалюцыйнага сялянства пісар (у валасным праўленні) быў вялікай, важнай фігурай на вёсцы. Сваім становішчам пісар часта злоўжываў, жывучы за кошт сваіх «кліентаў».
664. Ісар — асабовае мужч. імя (яўр.).
665. Каламар — чарніліца.
667. Дзяк — тут: тое, што і пісар; чыноўнік, сакратар установы, прыказа ў Стараж. Русі. Пар.: Быть тому так, коли пометил дьяк. (Даль, Слов., І, 439).
697. Піўнічы — пасада сярод панскай чэлядзі, півавар.
704. Новы начальнік больш патрабавальны.
706. На месца, якое вызвалілася, заўсёды знойдзецца чалавек. Месца — тут: пасада.
709—712. Гл. папярэднюю заўв.
724. Пра таго, хто працівіцца волі начальства.
740. Кука — тут: хабар.
755. Акцыдэнцыя — хабар.
761. Выгачка — выгада.
764. Тлумач. Шэйна — «ніякая справа без выдаткаў не абыдзецца» — уяўляецца нам недакладным. Прыказка гэта больш намякае на хабар.

## Суд. Законы. Турма

780. Злачынства выправіць нельга (тлумач. збіральніка).
785. Пабудавана на ігры слоў: у першым выпадку дулі — грушкі, у другім — сцябалі, каралі.
798. Свінават — тут: бедны.
803. Сінюга — сініца.
814. Ручыцца, рэнчыць — ручаецца (польск. ręnczyć); дрэнчыць — мучыць (польск. dręczyć).
816. Падсцівая — годная.
819. Паўштох — паўштоф, бутля, якая змяшчае палову штофа гарэлкі (1/20 вядра).
830. Заход — страты, выдаткі.
831. Аднесена збіральнікам да рубрыкі «Суд». Сэнс яе, відаць, такі: рашэнне міра, грамады або міравога дорага абыходзіцца двару.
834. Пружэй — больш пругкі.
848. Брахунец — ілжэсведка.
856. Гаворыцца пра нараканні або калі падазраюць у дрэнным учынку, злачынстве таго, пра каго ідзе ліхая пагалоска, а часам вінаваты зусім іншы. Пар. рус.: Слава на волка, а шалят пастухи.
3-пад налуску — цішком.
861. Злачынства не схаваеш.
886б. Капцелка — вяндлярня, невялікае збудаванне, дзе вэндзяць мяса.

## Служба. Наймы

920. Дворная пахлёбка — служба ў панскім двары.
954, 955. Пабразгачы, пабразкачыя — грошы.
958. Фільгуючы — старанна.
966. Мізэрная заплата за работу (пар.: Як кот наплакаў); быле — абы, абы-толькі (польск. byle).
985. Пар. рус.: От трудов праведных не наживешь палат каменных (Даль, Слов., IV, 436).
988. Палушка — даўняя руская медная манета вартасцю ў паўграша.
989. Аброк — тут: заплата; імалі — тут: наймалі; зымалі — адпушчалі пасля заканчэння тэрміну найма; поконд — пакуль (польск. pokąd).
996. Дзенежка — тое ж, што палушка (гл. заўв. 988).
1001. Гангурка — бруднюха, мурза.
1003. Зубожыць — збяднець, зрабіць убогім.

## Грамада. Калектывізм. Індывідуалізм

1012. Пар. рус.: Мир — велик человек (Даль, 404).
1058. Спамогуць, спаможа — перамогуць, пераможа.
1066. Жаласнікі, жалабнікі, бедавальнікі — спачувальнікі ў бядзе.
1070. Веле — многа (польск. wiele).
1100. Махнытка — галавешка.
1102. Пра работу, якую адзін не зробіш.

## Сяброўства. Варожасць. Суседства. Гасціннасць

1213. Падухваласць — тут: нахабства.
1246. Г. зн. хлебам, пачастункам (папка — хлеб, з дзіцячай лексікі), а не просьбаю (шапкаю).
1248. Ядначы — сапраўдны, верны.
1250. Шпілеўскі тлумачыць скрыты сэнс прыказкі як бяссілле ворагаў (Шпил., 178).
1253. Пагожаны — зміраны, улагоджаны, упрошаны (ад згода).
1271, 1272. Падсусед — кватарант, той, каго пусцілі на часовае пражыванне да сябе ў хату.
1279. Сэнс: не ўмешвайся ў чужыя справы. «Не сунь носа ў чужое проса» (тлум. збіральніка).
1294. «Гэта прыказка цалкам характарызуе беларускую гасціннасць» (Шпил., 178).
1311. Падмазка — кавалачак сала, якім падмазваюць скавараду.
1322. Паставец, ставец — стол, а таксама кожная асобная страва, што змяняецца на стале.
1323а. Трахтаваць — частаваць.
1349. Упадчываць — частаваць.
1352. Найменшаму дастанецца хутчэй (Fed., 133).
1386—1388. Серада лічылася посным днём. Тут: выбачэнне за беднае частаванне. Пятніца была другім посным днём на тыдні. А вялікі пост цягнуўся сем тыдняў, аж да вялікадня.
1401. Набаклажыць — наліць у баклагу, невялікую двухдонную бочачку са шпунтам.
1407. Жур — густы аўсяны кісель; гушча.
1443. Чэрап — чарапок, асколак глінянай пасудзіны.
1454. Вор — тут: двор, хлеў.
1465—1469. Прыкметы-прадраканні на гасцей.
1472. Касціць — ганьбіць.

## Беднасць. Жабрацтва. Багацтва. Сацыяльна-маёмасная няроўнасць

1498—1500. Дурата — тут: цемра, непісьменнасць.
1518. Загуна — загана.
1520. Нуда — тут: беднасць.
1525. Пол — шырокі памост, нары, спальнае месца ў даўняй сялянскай хаце.
1529. Пра долю сялян-эмігрантаў з дарэвалюцыйнай Беларусі.
1556. Зусім бедны: ні сабакі, ні кошкі, ні пеўня.
1558. Так гавораць пра збяднелага чалавека (Шпил., 185).
1567. У скупкі — у скупога; у неткі — у таго, што нічога не мае.
1569. Набітніца — вадзяны пухір або мазоль на нагах. Гаварылася таму, хто вяртаўся з няўдалага торгу, кірмаша, палявання і г. д. (Fed., 194).
1576а. Вор — торба, мех.
1599—1602. Суцяшэнне ў беднасці.

1621. Калатоўшчык — тут: беднякі, што ядзяць калатоўку, зацірку.
1634. Бух — шум. грукат. Маецца на ўвазе, што муха не можа ўтварыць грукату. Але магчыма дапусціць тут і памылку друку: буха замест бруга.
1649, 1650. На валакіту — тут: на жабраванне.
1659. Раней, відаць, было каліка.
1679. Дзядну — дзядоў.
1680. Заўв. збіральніка: «Сярод старцаў» (Дуб., 48).
1707а. У Насовіча памылкова «за лужаю», відаць, трэба «за мяжою».
1741. Заўв. збіральніка: «Богазневажальнае выхваленне багатыра, які вазнаўся» (Добр., Смол., 5).
1747. Пырыць — турбуе, не дае спакою. «Багацце пыра цябе, што ты й заснуць не можаш» (Бяльк., 372, Краснап.).
1762. Тумар — багатыр.
1798. Кадук — тут: няшчасце, напасць, смерць.
1802. Ігрыска — забава, ігрышча (польск. igrysko).
1830. Пар. рус.: Чешися конь с конем, вол с волом, а свинья с углом (Даль, 773).
1858. У вяліку пятніцу — строгі пост; на вялікдзень — святочная яда.
1862. Хандогая — худая.
1868. У кут — тут: каля парогу.
1869. На кут — у покуці, пачэсным месцы ў хаце.
1890. Наказ урачу.

**Бяда, гора, ліха, напасць, злыдні. Безвыходнасць. Спадзяванні**

1897. Нечывелі — Дубяйкоўскі ў дужках тлумачыць: «не чыя воля, нечаканая бяда».
1905. Не скутаешся — не замкнешся, не схаваешся.
1917. Сабачы брэх, выццё, скавытанне, паводле даўніх народных вераванняў-прыкмет, заўсёды прадракае бяду і нават смерць.
1920. Раінне — парада.
1921. Руда — тут: гразь.
1963. Гл. заўв. 1798.
1983л. Райца — litерадца, дарадчык.
1996. Наградзе — нечакана з'явіцца; завінецца — завернецца.
2007. Пацялося — пашанцавала, прыбыло.
2019. Сядун — дзіця, што не ходзіць, толькі сядзіць.
2072. Варка — горача. Пар.: вар — кіпецень.
2084. Злыдні — увасабленне напасці, бяды, нягоды, якія, паводле даўніх народных павер'яў, «нападаюць» на чалавека, яго сям'ю, гаспадарку.
2086. Пераметчывы — пераменлівы.

**Гандаль. Грошы. Пазыкі, даўгі. Карчма**

2119. Ярмалка — кірмаш (рус. ярмарка).
2125. Не было над наш — не было лепшага за наш.

2127. Т а к р о к — ужо год.

2137. Заўв. збіральніка: Калі благі базар, дык лепш гандляваць сваім таварам дома (Дуб., 57).

2161. Д ж у п л а — пуга. «Вазьмі джуплу і паганяй каня» (Бяльк., 150, Мсціел., Расн.).

2163. Пры продажы каня.

2169. М і р а — тут: мера (асабліваець некаторых палескіх гаворак).

2186. Н е с п о р н а — тут: не спрэчна, не аспрэчваецца.

2188, 2118. Б а з а р ы н к і, б а з а р к і — пакупкі, падарункі з базара.

2193. Ф і ц ь — хутка, умомант.

2202—2205. Мена на базары рэчы на рэч, без даплаты.

2205. Б у т л о — бутля; п р а б і т о — тут: бой, бітае шкло.

2211. Б а ш н а б а ш — прымаўка пры мене (ад цюрк. баш — галава). З гандлёвай фразеалогіі.

22226. П р ы д а ч н а — прыдатна, патрэбна.

2230. Тлумач. збіральніка: навучылася таго-сяго дый пачала фанабэрыцца.

2233. Гандлёвы жарт. П е л ь к а — палонка, продамка.

2252. Адказ пакутніку, які папракае за запрос (Дуб., 24).

Ш ы е ц ь — увіваецца.

2259—2279. Гавораць, як няма грошы за што купіць.

2267. Ш э л е г — дробная манета часоў Вялікага княства Літоўскага; роўная 1/3 гроша.

2268. М е с т а — горад.

2278в. З а д з е н ь к у е — за дзякуй (паланізм).

2286. К а с л а — крыніца даходу.

2291. П а д к р у ш ч ы н ы — магарыч.

2295. Гаворыць той, хто хоча выліць барыш за прададзенае жыта (тлумач. збіральніка)

2304. Г. зн. свята, гульба.

2315. З грашыма можна смела судзіцца, заводзіць справу.

2330. А с ь м а к — манета, восем грошаў.

2331. А ж а — вот жа.

2379. Н э н д з а — беднасць (польск. nędza); п е н е н д з ы — грошы (польск. pieniędzy).

2390. П а л ц і н к а — манета палцівнік, паўрубля.

2392. З а г н а ц ь — тут: зберагчы, захаваць.

2396. А л т ы н — даўняя руская манета, тры капейкі.

2400. Гаворыцца таму, у каго зусім мала грошай. Звязана з даўнім павер'ем-прыкметай: калі пры першым кукаванні зязюлі ў кішэні акажуцца дробныя звонкія манеты, дык той чалавек увесь год будзе з грашамі. «Эта ўвесну першы раз як пачуеш, што заўзуля закукуе, трэба кішэняю трэсці, каб грошы звінелі, дак будуць цэлы год грошы весьціся» (Мяц., 156, Слуцк.).

Т р а я ч о к — тут: дробная манета ў тры рускія капейкі, тое ж, што алтын. У Вялікім княстве Літоўскім трояк — манета ў тры грошы; зратулька, гратулька — дробязныя манеты.

2401. М і з э р н ы — тут: бедны.

2402. З а л а т о в а ч к а — залатоўка, сярэбраная манета ў 15 капеек.

2408. Ш ч о р к — адборнае, чыстае насенне.

2415. Н я ч о х а — нячэсаная, неахайная жанчына.

2432. Галер — слова, сэнс якога не высветлены; талер — сярэбраная манета, якая была пашырана на Беларусі да ўз'яднання яе з Расіяй. Быў роўны тром злотым, або 90 польскім грошам.

2433, 2434. Грыўня, грыўна — тут: дробная сярэбраная манета ў 10 капеек.

2440. Ад праў — тут, відаць: спрадвеку.

2443. Ад даўгоў чалавек збяднеў, ходзіць у лапцях або басанож.

2463. Цвякнуў — гаўкнуў. Тут у параўнальным сэнсе.

2491, 2492. Забароны-прыкметы.

2498. Пра вобразны змест наватвораў уэяхам і аддахам гл.: Янк. М., 101—103.

2525. На святы Адам — тут: ніколі.

2532. Зарукі — залог, заклад пад доўг.

2544. Што дадзена на павер, за тым трэба хадзіць, каб вярнуць.

2550. Гаворыць таму, хто не вяртае доўг.

2558. Тлумач. збіральніка: «Калі ад штукі тканіны застаецца кавалак».

2571. Касцер — мятліца, пустазелле, што расце ў жыце.

2581. Смаляныя — тут: прыліпчывыя.

2584. Г. зн. не трывалае, можа расплысціся, як крэйда ў вадзе.

## Рэкрутчына, салдатчына, войны. Водгукі на гістарычныя падзеі

2585. Лавец — тут: той, хто лавіў хлопцаў, якія хаваліся ад рэкруцкага набору (пасада была ўведзена Пятром I у 1705 г. і існавала да 1874 г.).

2589. Уцёкі ў лес, хаванне ад рэкруцкага набору.

2590. Чырвоная шапка — адзнака салдацкай службы.

2592. Маскалі — салдаты царскай арміі.

2596. Гаварылі пра рэкрута, які рэдка вяртаўся дадому. Калі ж, праслужыўшы 25 год, вяртаўся дадому, ужо не знаходзіў сваёй радні. Радкі з рэкруцкай песні.

2599. Фрак — тут іронія, маецца на ўвазе сялянская світка.

2621. Вуланчык — паменш. ад улан, салдат-кавалерыст (татар. улан — хлопец).

2632. Правод — правадыр, камандзір.

2641. Гл. таксама тэкст VII, 145.

2642. У вайну разносіцца многа чутак.

2648. З падання пра паход Уладзіміра на радзімічаў: «Быў у яго ваявода Воўчы Хвост, і паслаў яго Уладзімір перад сабою, Воўчага Хваста; сустрэў радзімічы на рацэ Пішчане, і перамог радзімічаў Воўчы Хвост. Так Русь і дражніць радзімічаў...» (ПВЛ, I, 59).

2649. Тут, як меркаваў Карскі, магчыма ўказанне на князя Мсціслава Харабрага (Мсціслаў Уладзіміравіч, памёр у 1036 г.). Але, магчыма, гэта князь Мсціслаў Удалы (памёр у 1228 г.). Ад іх паходзіць і назва горада Мсціслава (зараз Магілёўскай вобл.). Гл.: Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, ч. 1, стар. 395.

2650—2655. Памяць пра набегі татар на Беларусь.

2650. Басурманы — першапачаткова проста іншаверцы, нехрысціяне, асабліва мусульмане; пазней — іншаземцы-захопнікі, ворагі.

2655. Мардва — тут: татары, іншаземныя захопнікі. Магчыма, не без уплыву дзеяслова мардаваць — мучыць.

2656, 2657. Погань, паганы — у сэнсе нехрысціянін або язычнік. Тут таксама, відаць, пра татар, а магчыма, маецца на ўвазе язычніцкая Літва (да XIII ст.).

2658. Вільня (зараз Вільнюс, Vilnius) была сталіцай Вялікага княства Літоўскага і мясцоваму селяніну ўяўлялася найвялікшым горадам, які будаваўся на працягу многіх стагоддзяў. У пераносным сэнсе прыказка азначае, што нічога адразу не робіцца, на ўсё патрэбен час. Пар. таксама рус.: Москва не сразу строилась; Москва создана веками (Даль, 330).

2659. З часоў, калі Беларусь уваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай (XVI — канец XVIII ст.).

2661. Кракаў XIV да канца XVI ст.— сталіца Польшчы. Гл. таксама заўв. 2658.

2662—2665. Батура — польскі кароль Стэфан Баторы (1533—1586), вядомы сваёй захватніцкай палітыкай у адносінах да Маскоўскай дзяржавы, войнамі.

2663. Гавораць пра вельмі старога чалавека. Цвечка — тут, відаць, лупцоўка (польск. ćwiczyć — лупцаваць); ега — яго (польск. jego).

2664. Шэйну-вайну — відаць, памяць пра мужную абарону Смаленска 1609—1611 гг., якой кіраваў рускі ваявода М. Б. Шэін.

2665. Сас — маецца на ўвазе адзін з польскіх каралёў з саксонцаў, Аўгуст II (1697—1706, 1709—1733) ці Аўгуст III (1736—1763).

2667. Панятоўскі Станіслаў Аўгуст — апошні польскі кароль (1764—1795) перад раздзелам Рэчы Паспалітай.

2668. Пра багацце буйных феадалаў Беларусі з дынастыі магнатаў Пацаў (XVI — XVIII стст.).

2669—2671. Грыгоры, Грышачка — мяркуюць, што тут маецца на ўвазе Рыгор Загорскі, прызначаны полацкім уніяцкім архіепіскапам пад імем Германа II (гл.: Нос., 105; Карский Е. Ф. Белорусы, т. III, ч. 1, стар. 395—396).

2671. Наўрад ці мае дачыненне да папярэдніх дзвюх прымавак. Пра паходжанне прыказкі Чачот піша: «Адзін шляхціч з Навагрудчыны меў вазака, які любіў пад'язджаць шумна пад ганак... Можа гэта служыць перасцярогай розным Грышачкам, якія любяць фігураваць» (Czeczot, стар. 111—112). Паводле Шпілеўскага, гэта таксама насмешка з хвалька (Шпил., 186).

2672. З часоў гвалтоўнага насаджэння каталіцтва на Беларусі (XVII—XVIII стст.). Папеж — папа рымскі (польск. papież).

2673. Водгук на рэлігійную барацьбу часоў Рэчы Паспалітай.

2675. Цар Тронка — асоба, відаць, нерэальная, выдуманая.

2676—2681. Памяць пра казацтва на Беларусі (канец XVI—XVII ст.).

2683—2686. Падобныя прымаўкі Карскі (Белорусы, т. III, ч. 1, стар. 395) услед за Шпілеўскім аднёс да гістарычных, аднак, магчыма, што гэта звычайныя насмешкі-кпіны з іншых мясцовасцей, так вядомыя ў мінулым у народнай сатырычнай творчасці (гл., напр., 2754—2784).

2687. Смаргонская палітыка — трэба меркаваць, нязграбная, «мядзведжая» палітыка (у Смаргоні некалі існавала школа дрэсіроўкі мядзведзяў — «Смаргонская акадэмія»).

2688—2691. Народныя водгукі на падзелы Рэчы Паспалітай (1772—1795 гг.).

2689. Канступацыя — скажона: канстытуцыя.

2692—2695. Водгукі на руска-шведскую вайну і Палтаўскую перамогу рускіх войск у 1709 г.

2696. Параўнанні гэтыя маглі ўзнікнуць толькі пасля таго, як у 1710 г., у час Паўночнай вайны 1700—1721 гг., Рыга была вызвалена рускімі войскамі ад шведаў, а пазней (1721 г.) далучана да Расіі, і ў сувязі з наведваннем Рыгі Пятром І.

2697. Гл. заўв. 2658. Пашырылася пасля ўз'яднання Беларусі з Расіяй (канец XVIII ст.).

2698. Здзўна гаварылася тады, калі чыя-небудзь скарга не сустракала спачування. Пар.: Даль, Слов., IV, 219.

2699. Насовіч тлумачыць гэту прымаўку як наследаванне сувораўскім данясенням (Нос., 15).

2700—2707. Прыказкі і прымаўкі, што засталіся пасля Айчыннай вайны 1812 г.

2700, 2701. Б я р о з а — маецца на ўвазе пераправа ўцякаўшай з Расіі французскай арміі Напалеона цераз раку Бярэзіну, правы прыток Дняпра.

2702. К у т у з — М. І. Кутузаў, галоўнакамандуючы рускай арміяй у Айчынную вайну 1812 г.

2706. Мусю — жартоўнае скажэнне французскага звароту месье (monsier — пан).

2707. Адказ беларускага селяніна французам-захопнікам: «Хоць вы нас забіце, то мы не пойдзем» або «не павязем» (з тлумачэнняў збіральнікаў). Г а л ё м — скажонае франц. allons — ідзем.

2709—2717. Прыказкі і прымаўкі, якія ўзніклі ў Заходняй Беларусі ў 1920—1939 гг. і пасля яе вызвалення і ўз'яднання з БССР.

2709. С а к в і с т а т а р — секвістратар, урадавы чыноўнік у буржуазнай Польшчы, што спаганяў падаткі.

2710. Пра секвістратара. Была вядома і як загадка.

2711. Пра палітзняволеных, якія высылаліся ў глыбінную Польшчу (паведамленне А. С. Ліса).

2713. А с а д н і к і — ваенныя каланісты, якіх урад буржуазнай Польшчы пасяляў у Заходняй Беларусі, каб стварыць там сабе класавую апору (польск. osadnik — пасяленец).

### Празванні жыхароў розных мясцовасцей

2718. Я т в е ж, я т в я г і — старажытнае літоўскае племя.

2719, 2720. П а л а в е ц, п а л а ў ц ы — відаць, палачане, жыхары Полаччыны.

2721—2722. Л і т в і н — так рускія і палякі некалі называлі не толькі ўласна літоўцаў, але таксама і беларусаў, пераважаючае насельніцтва Вялікага княства Літоўскага. У Рускай дзяржаве літвінамі называлі выхадцаў з Беларусі.

2723. Ж м у й д з ь — Жмудзь, Жэмайція, этнаграфічная вобласць Літвы.

2725—2728. Пра польскую шляхту. Л я х — гістарычная ўстарэлая назва паляка.

2729—2732. М а з у р ы — тут: мазаўшане, этнаграфічнае падраздзяленне палякаў, бліжэйшыя заходнія суседзі беларусаў.

2734. Сляды рэлігійнага антаганізму. Русь — тут: праваслаўны.

2747. Утэды — тады (польск. wtedy).

2749. Гаворaць, калі даводзіцца доўга чакаць абяцанага. Пар. рус.: Русский час — с днем тридцать; деревенский месяц — с неделей десять (Даль, 329).

2750. Трубалёт — камінар, а таксама збяднелы, той, хто разарыўся, «вылецеў у трубу».

2752. Ражкі — ад ражок, музычны інструмент.

2753. Пра рослаўцаў, жыхароў Рослаўскага п. Смаленскай губ.

2754. У Насовіча вашчыла — зборшчык вашчыны.

2756. Зямец — пчаляр.

2757. Сэнс: такіх многа. «Відаць, там вельмі пашыранае імя» (Czeczot, 111). Аб папулярнасці гэтага выслоўя можна меркаваць па таму, што «Гаўрыла з Полацка» было адным з псеўдонімаў паэтэсы Цёткі.

2759. Як мяркуе Насовіч, тут водгук на частыя войны, пабоішчы ў раёне Мсціслаўля (Нос., 80). Але гэта малапераканаўча. Больш верагодна — недасечаныя, недалупцаваныя (панамі-прыгоннікамі); звычайнае ў гэтым жанры пасмейванне.

2760. Відаць, водгук на значную міграцыю.

2761. Дубровінцы — жыхары Дуброўны, мястэчка б. Аршанскага п. Магілёўскай губ. (зараз райцэнтр Віцебскай вобл.); шышы — свавольнікі. У Даля (Слов., IV, 636) шыш — нячысты, сатана, бес.

2762. Расна — мястэчка Магілёўскай губ. (зараз — вёска ў Горацкім р-не).

2763. Выхваленне сваёй вёскай (в. Баброўня Скідальскага р-на).

2764. Сяляне в. Ваўкалата Докшыцкага р-на таўклі бульбу і пяклі каржы з мукой, а хлеб не пяклі.

2765. Пра жыхароў в. Вітахмо Докшыцкага р-на.

2771. Відаць, падсмейванне з былой беднасці нясвіжчан. Хіжы — тут: шустры, паваротлівы. «Во паглядзі, які Іван хіжы: у яго ўжэ сена на зіму хваціць» (З нар. сл., 51, І. Лепешаў, Шчуч.).

2772. Мір — мястэчка ў Мінскай губ. (цяпер г. п. Карэліцкага р-на). Было вядома сваім аўчынным і гарбарным рамяством, якім займаліся пераважна мясцовыя татары. Насмешка з мірскіх рамеснікаў.

2775. Мянушка гродзенцаў па асаблівасці іх гаворкі — канчатках назоўнікаў множнага ліку на -э, -е (валэ, гадэ, лясэ, пояске). Прыкметныя асаблівасці гаворкі суседзяў заўсёды параджалі жартоўныя празванні, прымаўкі, нават прыпеўкі:

Не хадзіце, дзеўкі, замуж
У панізоўскае сяло:
Не па-нашаму гаворaць —
Цэпела, цыгун, цало.

Зап. А. Емяльянаў у Віцебскім р-не. Тут пра такую фанетычную з'яву, як цоканне, якое яшчэ дзе-нідзе захавалася на Віцебшчыне і Смаленшчыне.

2777. Адэльск — мястэчка ў б. Гродзенскай губ. (цяпер г. п. у Гродзенскім р-не).

2778. Назвы вёсак у Мсціслаўскім р-не.

2779. Пра жыхароў б. Ушацкай вол. Лепельскага п. Віцебскай губ. (цяпер Ушацкі р-н Віцебскай вобл.). Але магчыма, што прымаўка новая і звя-

зана з партызанскім рухам, які быў шырока разгорнут у гэтай мясцовасці ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

2780. Гавораць жартам пра жыхароў в. Баяры Мядзельскага р-на.

2781. Другое празванне ваўкалатцаў (гл. заўв. 2764), звязанае, відаць, з нейкай мясцовай адметнай стравай.

2786. Варшаўская работа — г. зн. добрая работа.

2787. Рыж — рыс.

# ЗМЕСТ

На белорусском языке

БЕЛОРУССКОЕ НАРОДНОЕ ТВОРЧЕСТВО

Пословицы и поговорки

в двух книгах

кн. 1

Рэдактар Л. М. Зайцава
Мастацкі рэдактар В. В. Саўчанка
Тэхнічны рэдактар І. В. Валахановіч
Карэктар М. А. Вячорка

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. АТ 21649. Здадзена ў набор 22.III 1976 г. Падпісана да друку 29.VII 1976 г. Папера друк. № 1. Фармат 60×84¹/₁₆. Друк. арк. 35,0. Ум. друк. арк. 32,55. Уч.-выд. арк. 18,0. Выд. зак. 23. Друк. зак. 363. Тыраж 10 000 экз. Цана 1 р. 28 к. Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навукаі і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамітэта СМ БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Ленінскі праспект, 68.

